ДЭПАРТАМЕНТ ПА АРХІВАХ І СПРАВАВОДСТВУ
МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

БЕЛАРУСКІ НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ
ДАКУМЕНТАЗНАЎСТВА І АРХІЎНАЙ СПРАВЫ

# Лацінска-беларускі слоўнік актавай мовы Вялікага Княства Літоўскага XIII—XVIII стст.

*Складальнік А. А. Жлутка*

Мінск
БелНДІДАС
2011

ДЭПАРТАМЕНТ ПА АРХІВАХ І СПРАВАВОДСТВУ
МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

БЕЛАРУСКІ НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ
ДАКУМЕНТАЗНАЎСТВА І АРХІЎНАЙ СПРАВЫ

# Лацінска-беларускі слоўнік актавай мовы Вялікага Княства Літоўскага XIII—XVIII стст.

*Складальнік А. А. Жлутка*

Мінск
БелНДІДАС
2011

УДК 811.124’374=161.3:811-112(476)“12/17”
ББК 81.2Беи-4
Л30

*Рэкамендавана да друку*
*Вучоным саветам БелНДІДАС*

Праца выканана па тэмах НДР «Лацінска-беларускі слоўнік актавай дакументацыі Вялікага Княства Літоўскага XIII—XVI стст.» і «Лацінска-беларускі слоўнік актавай дакументацыі Вялікага Княства Літоўскага XVII—XVIII стст.», прафінансаваных Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь (№ дзяржрэгістрацыі 20051228, 20081129)

Рэцэнзенты:
загадчык аддзела НГАБ В. У. Бабкова,
доктар гістарычных навук, прафесар Ю. М. Бохан,
кандыдат гістарычных навук А. Б. Доўнар,
кандыдат філалагічных навук, дацэнт Ж. В. Некрашэвіч-Кароткая,
кандыдат гістарычных навук, дацэнт М. Ф. Шумейка

Л30 Лацінска-беларускі слоўнік актавай мовы Вялікага Княства Літоўскага XIII—XVIII стст. / склад. А. А. Жлутка. — Мінск : БелНДІДАС, 2011. — 389 с.

ISBN 978-985-6733-55-3.

У слоўніку прадстаўлена найбольш ужываная лацінская актавая лексіка Вялікага Княства Літоўскага XIII—XVIII стст. з перакладам на сучасную беларускую мову. Уключаны таксама старабеларускія адпаведнікі са Статутаў ВКЛ і некаторыя старапольскія. У дадатку змешчаны індэксы гэтых адпаведнікаў. Лексічны корпус уключае каля 8 000 слоўнікавых артыкулаў.

Выданне прызначана для архівістаў, археографаў, правазнаўцаў, гісторыкаў розных спецыялізацый і філолагаў.

**УДК 811.124’374=161.3:811-112(476)“12/17”**
**ББК 81.2Беи-4**

**ISBN 978-985-6733-55-3**

## ЗМЕСТ

Прадмова ........ 4
Спіс выкарыстанай літаратуры ........ 7
I. Выданні крыніц ........ 7
II. Слоўнікі ........ 8
Скарачэнні ........ 10
Лацінскія ........ 10
У датах ........ 10
Беларускія ........ 11
Заканадаўчыя акты ........ 11
Лацінска-беларускі слоўнік ........ 12
A ........ 12
B ........ 56
C ........ 67
D ........ 101
E ........ 125
F ........ 140
G ........ 155
H ........ 161
I ........ 168
K ........ 195
L ........ 196
M ........ 207
N ........ 231
O ........ 237
P ........ 248
Q ........ 288
R ........ 292
S ........ 308
T ........ 330
U ........ 341
V ........ 343
W ........ 353
X ........ 353
Z ........ 353
Індэксы ........ 354
1. Старабеларускі ........ 354
2. Польскі ........ 379

# ПРАДМОВА

Лацінскія дакументы XIII—XVIII стст. з'яўляюцца надзвычай важнай гістарычнай крыніцай для Беларусі, дзе з даўняга часу суіснавалі і ўзаемадзейнічалі цывілізацыйныя комплексы Усходу і Захаду. Лацінская мова, веданне якой было неабходна для эканамічных, палітычных і культурных зносін з краінамі Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, пачала пранікаць на нашы тэрыторыі разам з прыняццем хрысціянства, а з канца XII ст. стала ўжывацца ў дакументальных крыніцах беларускага паходжання альбо датычных зямель Беларусі. Лацінскія дакументальныя крыніцы складаюць істотную і маладаследаваную частку айчыннай пісьмовай спадчыны, якая павінна быць уведзена ў навуковы ўжытак дзеля стварэння аб'ектыўнай і паўнавартай карціны нашага мінулага. Значэнне актавых матэрыялаў на лацінскай мове яшчэ больш узрастае ў наш час, калі даследчыкамі ўжо амаль вычарпаны рэсурсы кірылічных дакументаў і пісьмовых помнікаў.

Аднак пры вывучэнні і перакладзе лацінскіх дакументаў паўстаюць сур'ёзныя цяжкасці, якія вынікаюць з той прычыны, што сярэднявечная лацінская мова актаў, асабліва ў лексічным плане, даволі істотна адрозніваецца ад класічнай лаціны Старажытнага Рыма. Таму ў асяроддзі айчынных архівістаў, археографаў і спецыялістаў у галіне медыявістыкі ўжо даўно адчувалася патрэба ў лексічным дапаможніку па актавай лацінскай мове Вялікага Княства Літоўскага, тэрытарыяльным, палітычным і культурным ядром якога былі беларускія землі. Гэтай патрэбе і мае на мэце паслужыць дадзены слоўнік, падрыхтаваны намі на аснове лексікаграфічных прац, у якіх прадстаўлена лацінская лексіка, што ўжывалася ў дакументальных крыніцах нашага рэгіёна і датычных да яго.

Праца грунтавалася на агульнапрынятых метадах двухмоўнай лексікаграфіі з улікам частотнасці, прадстаўленасці ў актавых матэрыялах, спалучальнасці і інш., а таксама з выкарыстаннем сучасных камп'ютарных тэхналогій. У аснову слоўніка пакладзены такія лексікаграфічныя выданні, як «Словарь древнего актового языка Северо-Западного края» (1874) М. І. Гарбачэўскага, «Słownik łacińsko-polski dla prawników i historyków» (1997) Я. Сондэля, «Vademecum. Wykaz skrótów i słowniczek łacińsko-polski» (1984) Т. Вежбоўскага і інш., а таксама лексіка лацінскіх перакладаў Статутаў ВКЛ і лацінскіх актаў як публікаваных, так і рукапісных. Пры гэтым тлумачэнні тэрмінаў, пададзеныя ў слоўніку М. І. Гарбачэўскага, з увагі на іх гістарычную і пазнавальную вартасць, вырашана было захаваць і ў нашым выданні.

У слоўнік уключаны таксама старабеларускія адпаведнікі, узятыя са Статутаў ВКЛ 1529, 1566 і 1588 гг., якія сустракаюцца таксама як уключэнні ў лацінскія акты. Дзеясловы ў слоўніку падаюцца ў тым трыванні, а іншыя часціны мовы ў тых варыянтах, у якіх яны фіксуюцца ў Статутах. Графіка старабе-

ларускай лексікі адаптуецца паводле прынцыпаў, прынятых у апошніх навуковых выданнях Статутаў ВКЛ і некаторых іншых публікацыях[1].

Пры складанні слоўніка была ўлічана, на жаль, слаба альбо зусім не адлюстраваная ў афіцыйных слоўніках тэндэнцыя да актуалізацыі беларускай лексікі часоў ВКЛ, якая з 90-х гадоў мінулага стагоддзя выявілася ў мове сучасных літаратурных выданняў, а таксама ў галіне правазнаўства, у гістарычнай і рэлігійнай літаратуры. Гэтая тэндэнцыя прывяла да вяртання ва ўжытак, напрыклад, такіх слоў, як *вязень, вязніца, уладца, добраць, двубой* і інш.[2] Новай генерацыяй правазнаўцаў вядзецца праца па фармаванні юрыдычнай тэрміналогіі, якая таксама грунтуецца на багатым арсенале старабеларускай юрыдычнай лексікі; уводзяцца старажытныя тэрміны накшталт *дзяржаўца, дзяржанне, пазоў, пазоўнік, пазываць, ліцо, вырак* і шэраг іншых[3]. Шмат зроблена для аднаўлення традыцыі і ў галіне літургічнай і рэлігійнай тэрміналогіі, асабліва ў асяроддзі дзвюх найбуйнейшых канфесій — праваслаўнай і каталіцкай. Паколькі лацінская актавая мова Вялікага Княства Літоўскага пераважна адносіцца да сферы Каталіцкага касцёла, то ў слоўніку беларускія адпаведнікі пры перакладзе лацінскіх рэлігійных лексем падаюцца ў адпаведнасці з традыцыяй і нормамі, прынятымі ў каталіцкіх выданнях, у прыватнасці, запазычанні і ўласныя назвы перадаюцца па магчымасці бліжэй да арыгінальнага гучання (напр. мяккае *l*, лацінскае *е*, цвёрдыя *d, t* перад *i, e* і да т. п.)[4].

У пазнейшых лацінскіх актах (канца XVI—XVIII стст.) нярэдка сустракаліся польскія юрыдычныя і гаспадарчыя тэрміны, найбольш ужываныя з якіх таксама ўключаны ў слоўнік. Апрача таго, былі далучаны таксама даты з каталіцкага літургічнага календара, паколькі лацінскія дакументы звычайна датаваліся паводле дня ўспаміну, свята ці ўрачыстасці пэўнага святога. Гэтыя даты падаюцца асобнымі артыкуламі, якія звычайна пачынаюцца з вялікай літары, а заканчваюцца ўказаннем дня месяца. У такіх артыкулах ужываюцца адмысловыя скарачэнні для азначэння статуса святых і іхняй тапаграфічнай лакалізацыі (гл. ніжэй спіс скарачэнняў). Скарачэнні тапаграфічных азначэнняў у каляндарных артыкулах, а таксама меры і грашовыя адзінкі ў іншых артыкулах слоўніка звычайна не раскрываюцца і не ўдакладняюцца, паколькі

---

[1] Гл.: Первый Литовский Статут. Тексты на старобелорусском, латинском и старопольском языках. Т. II. Ч. 1. Вильнюс, 1991; Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камент. Мінск, 1989; Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI — першая палова XVIII стагоддзя. Мінск, 2003.

[2] Напр. у часопісах «Дзеяслоў», «Архэ», газеце «Наша ніва» і інш.

[3] Гл., напр., артыкулы ў часопісе «Праўнік» за 2005—2006 гг., на сайце praunik.org, а таксама ранейшыя тэрміналагічныя напрацоўкі М. Гуткоўскага і Я. Станкевіча (гл. ніжэй у спісе выкарыстанай літаратуры).

[4] Гл.: Рымскі Імшал для дыяцэзій на Беларусі. Мінск, 2004; Лекцыянарый. Мінск, 2002 і іншыя каталіцкія выданні, дзе прыняты, напр., такія тэрміны, як *катэдра, пасвячаны, асвячаны, сужэнства, сужэнец* і да т. п.

для гэтага існуюць адпаведныя дапаможнікі па храналогіі, мерах і нумізматыцы.

Лемы (загалоўныя словы) вылучаны паўтлустым шрыфтам: **actio**. Старабеларускія і польскія адпаведнікі таксама набраны паўтлустым шрыфтам, узяты ў квадратныя дужкі і забяспечаны пазнакамі *стб.*, *пл.*: **[дело; потреба** *стб.***]**, **[akcya** *пл.*]. Пры гэтым варыянты дзеясловаў рознага трывання, графічныя і прэфіксальныя варыянты аддзяляюцца вертыкальнай рысай |: **[допускати | допустити | допущати** *стб.*]. Варыянты напісання лемаў і этымалагічныя адсылкі падаюцца ў круглых дужках: (ago). Род назоўнікаў, граматычныя пазнакі і адсылкі набраны курсівам: *f, praep., гл.* Дзеясловы 1-га і 4-га спражэнняў, якія маюць рэгулярныя асноўныя формы, пазначаюцца скарочана: **abiuro** 1.; **audio** 4. Варыянты беларускіх адпаведнікаў падаюцца праз касую рысу. Пры гэтым варыянты, прапанаваныя ўкладальнікам слоўніка, знаходзяцца ў левай частцы, а ў правай — пераважна варыянты афіцыйныя: пазоўнік / істец; двубой / дуэль і да т. п. Адсылка *гл.,* калі не агаворана іншага, адносіцца да ўсяго слоўнікавага артыкула.

Слоўнік можа быць выкарыстаны архівістамі, археографамі і гісторыкамі-медыявістамі, студэнтамі гістарычных спецыяльнасцей, філолагамі. Ён можа ўжывацца пры апрацоўцы айчынных лацінамоўных і макаранічных актаў, перакладзе і падрыхтоўцы да друку іншых сярэднявечных лацінскіх пісьмовых крыніц, у дапаможніках і акадэмічных курсах па археаграфіі і спецыяльных гістарычных навуках.

Аўтар выказвае шчырую падзяку ўсім установам і асобам, якія паспрыялі ў падрыхтоўцы і выданні слоўніка, перш за ўсё Беларускаму навукова-даследчаму інстытуту дакументазнаўства і архіўнай справы і Інстытуту гісторыі НАН Беларусі, кіраўнікам Касы імя Ю. Мяноўскага і Фонду імя Льва Сапегі, маім калегам па працы і маёй сям'і.

Асаблівай удзячнасці заслугоўваюць шаноўныя рэцэнзенты, якія ўважліва азнаёміліся з працай, далі шмат слушных прапаноў і парад, што дазволіла палепшыць якасць слоўніка.

Буду таксама вельмі ўдзячны карыстальнікам за карысныя парады, заўвагі і дапаўненні.

## СПІС ВЫКАРЫСТАНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

### І. Выданні крыніц


1. Первый Литовский Статут. Тексты на старобелорусском, латинском и старопольском языках. Т. II. Ч. 1. Вильнюс, 1991.
2. Статут Вялікага Княства Літоўскага 1566 года. Мінск, 2003.
3. Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камент. Мінск, 1989.
4. Acta Borussica ecclesiastica, civilia, literaria oder sorgfältige Sammlung allerhand zur Geschichte des Landes Preussen gehöriger Nachrichten, Uhrkunden, Schrifften und Documenten. 3 Bd. Königsberg und Leipzig, 1730—1732.
5. Celichowski Z. Lites ac res gestae inter Polonos ordinemque cruciferorum. Wyd. 2. T. 1—2. Posnanie, 1890—1892.
6. Codex diplomaticus Prussicus. Urkunden-Sammlung zur ältern Geschichte Preussens aus dem Königlichen Geheimen Archiv zu Königsberg nebst Regesten. Hrsg. von Johannes Voigt. 6 Bd. Königsberg, 1836—1861.
7. Codex diplomaticus Regni Poloniae et Magni Ducatus Lithuaniae in quo pacta, foedera, tractatus pacis... nunc primum ex archivis publicis eruta ac in lucem protracta exhibuntur. [Ed.] M. Dogiel. T. 1, 4, 5. Vilnae, 1758—1759.
8. Działyński T. Lites ac res gestae inter Polonos ordinemque cruciferorum. 3 t. et Suppl. Posnanie, 1855—1880.
9. Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezyi Wileńskiej. Kraków, 1948.
10. Kodex dyplomatyczny Litwy. Wyd. z rękopismów w Archiwum Tajnem w Królewcu zachowanych przez E. Raczyńskiego. Wrocław, 1845.
11. Liv-, Esth- und Curländisches Urkundenbuch nebst Regesten. Hrsg. von F. G. von Bunge. [Abt. 1] Bd. 1—11. [Abt. 2]. Bd. 1—3. Reval, Riga, Moskau, 1853—1914.
12. Preussisches Urkundenbuch. Politische (Allgemeine) Abteilung. Bd. 2. Hrsg. von M. Hein und E. Maschke. Gräfe und Unzer, 1939.
13. Preussisches Urkundenbuch. Politische (Allgemeine) Abteilung. Bd. I. Die Bildung des Ordensstaats. Hälfte 2. Bearb. von August Seraphim. Königsberg, 1909.
14. Turgenev A. Historica Russiae monumenta. Vol. 1 (1075—1584). Petropoli, 1841; Vol. 2 (1584—1719). Petropoli, 1842.
15. Vetera monumenta Poloniae et Lituaniae gentiumque finitimarum historiam illustrantia maximam partem nondum edita ex tabulariis Vaticanis deprompta, collecta ac serie chronologica disposita ab Augustino Theiner. T. 1—4. Romae, 1860—1864.
16. Zbiór praw litewskich od roku 1389 do roku 1529, tudzież rozprawy sejmowe o tychże prawach od roku 1544 do roku 1563. Poznań, 1841.

## II. Слоўнікі

1. Баршчэўскі Л. П. Еўраслоўнік. 28 моў. Каля 100 000 адзінак перакладу. Мінск, 2008.
2. Беларуская навуковая тэрмінолёгія. Вып. 10. Тэрмінолёгія права. Мінск, 1926.
3. Будзько І.У. Рэлігійны слоўнік старабеларускай мовы. Баранавічы, 2003.
4. Булыка А. М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст. Мінск, 1980.
5. Булыка А. М. Слоўнік іншамоўных слоў. Т. 1—2. Мінск, 1999.
6. Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Вып. 1. Мінск, 1982.
7. Горбачевский Н. И. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства Польского. СПб., 1874.
8. Гуткоўскі М. Беларуская праўная тэрміналогія // Працы Беларускага дзяржаўнага унівэрсітэта. 1927. № 14—15. С. 81—91.
9. Даўнене З. Назвы адзінак вымярэння ў старабеларускай мове. Мінск, 1978.
10. Дворецкий И. Х. Латинско-русский словарь. 3-е изд., испр. М.: Рус. яз., 1986.
11. Дыдынский Ф. М. Латинско-русский словарь к источникам римского права. Изд. 2-е, доп.. Варшава: Типография К. Ковалевского, 1896.
12. Ластоўскі В. Расійска-Крыўскі (Беларускі) слоўнік. Коўна, 1924.
13. Лексіконъ латинский Є. Славинецького. Лексікон словено-латинскій Є. Славинецького та А. Корецького-Сатановського / Підг. В. В. Німчук. Київ, 1973.
14. Насовіч І. І. Слоўнік беларускай мовы. Мінск, 1983.
15. Некрашэвіч С., Байкоў М. Расійска-беларускі слоўнік. Мінск, 1928.
16. Новицкий И. П. Справочный словарь юридических терминов древнего актового языка Юго-Западной России // Университетские известия. 1871. № 8; 1872. № 3.
17. Санько З. Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем. Мінск, 1991.
18. Скурат К. У. Даўнія беларускія меры. Мінск, 1974.
19. Станкевіч Я. Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-беларускі) слоўнік. Нью-Ёрк, 1989.
20. Станкевіч Я. Некаторыя праўніцкія тэрміны беларускія // Станкевіч Я. Збор твораў у 2 т. Мінск, 2002. Т. 1. С. 444—510.
21. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. 1—5. Мінск, 1977—1984.
22. Юрыдычны энцыклапедычны слоўнік. Мінск, 1992.
23. Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Старажытныя беларускія меры. Мінск, 1972.
24. Яковенко Н. М. Соціальна термінологія латинського документа українського походження XIV—XVI ст. (на матеріалі назв різних груп населен-

ня) // Іноземна філологія. Вып. 80. Питання класичної філології. 1985. № 21. С. 82—90.
25. Georges K. E. Ausführliches lateinisch-deutsches Handwörterbuch. Unveränderter Nachdruck der achten verbesserten und vermehrten Auflage, von Heinrich Georges. 2 Bd., Darmstadt, 1998.
26. Glossarium Latino-Germanicum mediae et infimae aetatis e codicibus manuscriptis et libris impressis concinnavit Laurentius Diffenbach. Francofurti ad Moenum, 1857.
27. Glossarium mediae et infimae Latinitatis cond. a Carolo du Fresne domino du Gange auctum a monachis Ordinis S. Benedicti... Editio nova. T. 1—10. Niort, 1883—1887.
28. Habel E., Gröbel Fr. Mittellateinisches Glossar. Padeborn, München, Wien, Zürich, 1989.
29. Lateinisch-Deutsches Taschenwörterbuch zu den klassischen und ausgewählten spät- und mittellateinischen Autoren auf Grund des Schulwörterbuches F. A. Heinichen. Leipzig, 1974.
30. Mediae Latinitatis lexicon minus. Composuit J. F. Niermayer. Leiden, 1976.
31. Oxford Latin Dictionary. Oxford, 1968.
32. Słownik łaciny średniowiecznej w Polsce. T. 1. Warszawa, 1953.
33. Sondel J. Słownik łacińsko-polski dla prawników i historyków. Kraków, 1997.
34. Wierzbowski T. Vademecum. Wykaz skrótów i słowniczek łacińsko-polski. Warszawa; Łódź, 1984.

# СКАРАЧЭННІ

## Лацінскія

| | | |
|---|---|---|
| *abl.* | ablativus | адкладны (склон) |
| *acc.* | accusativus | вінавальны (склон) |
| *adi.* | adiectivum | прыметнік |
| *adv.* | adverbium | прыслоўе |
| *card.* | cardinale | колькасны (лічэбнік) |
| *compar.* | comparativus | вышэйшая (ступень) |
| *coni.* | coniunctio | злучнік |
| *demin.* | deminutivum | памяншальнае (імя) |
| *frequ.* | frequentativum | пачашчальны дзеяслоў |
| *gen.* | genus | род |
| *impers.* | impersonale | безасабовы (дзеяслоў) |
| *indecl.* | indeclinabile | нескланяльнае слова |
| *indef.* | indefinitum | неазначальны (займеннік) |
| *intens.* | intensivum | узмацняльны (дзеяслоў) |
| *interr.* | interrogativum | пытальны (займеннік) |
| *intr.* | intransitivum | непераходны (дзеяслоў) |
| *num.* | numerale | лічэбнік |
| *ord.* | ordinale | парадкавы (лічэбнік) |
| *padi.* | participium / adiectivum | дзеепрыметнік / прыметнік |
| *pass.* | passivum | залежны стан |
| *pers.* | personale | асабовы (займеннік) |
| *plur.* | pluralis | множны (лік) |
| *posit.* | positivus | звычайная (ступень) |
| *poss.* | possessivum | прыналежны (займеннік) |
| *praep.* | praepositio | прыназоўнік |
| *pron.* | pronomen | займеннік |
| *s.* | seu | альбо |
| *sc.* | scilicet | гэта значыць |
| *superl.* | superlativus | найвышэйшая (ступень) |
| *tr.* | transitivum | пераходны (дзеяслоў) |
| *v.* | vide | глядзі |
| *verb.* | verbum | дзеяслоў |

## У датах

| | | |
|---|---|---|
| **Abb.** | Abbas | Абат |
| **Apost.** | Apostolus | Апостал |
| **Archiep.** | Archiepiscopus | Арцыбіскуп |
| **Conf.** | Confratres | Субраты, з братамі |
| **Diac.** | Diaconus | Дыякан |
| **Disc.** | Discipulus | Вучань |

| | | |
|---|---|---|
| **Ep.** | Episcopus | Біскуп |
| **Erem.** | Eremita | Пустэльнік, эрэміт |
| **Evang.** | Evangelista | Евангеліст |
| **M.** | Martyr | Мучанік |
| **MM.** | Martyres | Мучанікі |
| **Ord.** | Ordo | Закон / Ордэн (манаскі) |
| **P.** | Papa | Папа |
| **Philos.** | Philosophus | Філосаф |
| **PP.** | Papae | Папы |
| **Presb.** | Presbyter | Святар |
| **Proph.** | Propheta | Прарок |
| **V., Virg.** | Virgo | Дзева / Панна |
| **Vid.** | Vidua | Удава |

## Беларускія

| | |
|---|---|
| *асаб.* | асабліва |
| *бат.* | батанічны |
| *вайск.* | вайсковы |
| *гіст.* | гістарычны |
| *грам.* | граматычны |
| *гл.* | глядзі |
| *зняваж.* | зняважліва |
| *наз.* | называны |
| *пар.* | параўнай |
| *перан.* | пераносна |
| *пл.* | польскі |
| *стб.* | старабеларускі |
| *тс.* | таксама |
| *шахм.* | шахматны |

## Заканадаўчыя акты

| | |
|---|---|
| Vol. Leg. | Volumina Legum |
| Стат. Літ. | Статут ВКЛ |

**a**, **ab**, **abs** *praep.*, **ab** [**от | ото** *стб.*] ад, з, у: **a conto** на рахунак, у рахунак, у лік; **a conto novo** на новы рахунак; **a dato** ад пэўнага дня, месяца і года; **a sacris suspendere** адхіляць ад богаслужэння; **ab hoc et ab hac** не дарэчы; ні да печы, ні да рэчы; **ab instantia** звальненне каго-небудзь ад суда пры недахопе вiдавочных доказаў, але з намерам прыцягнення яго зноў да суда, калі такія доказы з'явяцца; **ab intestat** памерлы без тастамента / завяшчання.

**abalienator**, oris *m* той, хто падступна пазбаўляецца ўласнасці.

**abalieno** 1. 1) пераліваць уласнасць; збываць; 2) здаваць у арэнду; 3) аддаляць, выдаляць; пакідаць; 4) пазбаўляць чагосьці, забіраць штосьці ў кагосьці; 5) адпужваць; адбіваць ахвоту; 6) *pass.*: аддаляцца.

**abandono** 1. указваць як даручальніка / паручальніка.

**abandonum**, i *n* [**abandon** *пл.*] 1) рэч, пакінутая на чыюсьці волю; 2) заклад: **dare**, **ponere aliquid in abandonum** закладаць што-небудзь.

**abandum**, i *n* заклад.

**abannatio**, onis *f* [**abannacya** *пл.*] пакаранне выгнаннем з краю на адзін год за ўчыненае забойства.

**abarno** 1. 1) даносіць; 2) выяўляць акалічнасці злачынства.

**abastardo** 1. даказваць пазашлюбнае паходжанне кагосьці.

**abatis**, is *m* стайневы (хлопчык); слуга, які корміць коней.

**abatto**, ere 3. 1) сыходзіць; 2) паніжаць вартасць манеты.

**abbannatio** *гл.* **abannatio**.

**abbas**, atis *m* абат: ~ **commendatarius** свецкі абат; ~ **de regimine** кіруючы абат без прызначанай тэрыторыі; ~ **exemptus** абат, падлеглы непасрэдна папе; ~ **nullius** абат з уласнай тэрыторыяй, не падлеглы ніводнаму біскупу; ~ **primarius** першы абат у ордэнскай правінцыі; ~ **regularis** абат ордэна.

**abbreviatio**, onis *f* (abbrevio) 1) скарачэнне; змяншэнне; 2) пераказ зместу; 3) расчляненне; 4) пашкоджанне, знішчэнне; 5) частковая аплата доўгу.

**abdicatio**, onis *f* (abdico) 1) адрачэнне ад чагосьці, сыход з пасады; 2) выдаленне сына з бацькоўскага дому з пазбаўленнем спадчыны; 3) ~ **liberorum** пакіданне дзяцей ці адрачэнне ад іх; 4) ~ **tutelae** адмова апекуна, вызначанага ў тастаменце / завяшчанні, ад апекі; 5) нежаданне; 6) напамін, заўвага; 7) заява падданага селяніна, які хоча сысці ад аднаго пана да другога, а таксама згода будучага пана прыняць яго.

**abdico** 1. [**отречи ся** *стб.*] адракацца, зракацца.

**abdictatus**, us *m* забарона.

**abdictio**, onis *f* адрачэнне; адмова.

**abdorminarium**, ii *n* збор анафем, якія ўскладалі папы альбо біскупы на рабаўнікоў касцёльнай уласнасці.

**abduco**, duxi, ductum, ere 1) адводзіць; 2) выдаляць; 3) зводзіць: **in servitutem** ~ зводзіць у няволю; 4) забіраць з сабою; абрабоўваць, абкрадаць; 5) адбіраць:

**abducendi potestas** права прадаўца нявольніцы на яе вяртанне, калі пакупнік не выканаў умоў продажу; 6) палохаць: **terrore abductus** перапалоханы; 7) схіляць да адыходу; адводзіць ад чагосьці; павяртаць у іншым кірунку; 8) схіляць кагосьці да ўцехаў; 9) зводзіць, спакушаць жанчыну; 10) намаўляць да кепскага; угаворваць пакінуць пана; 11) закладаць; 12) **se** ~ даводзіць справядлівасць сваёй справы; 13) выплачваць грошы.

**abductio**, onis *f* (abduco) 1) адвядзенне, вывядзенне; 2) [**заведенье (светков)** *стб.*] прывядзенне; прадстаўленне; паказанне; 3) адбіранне.

**abelagia**, ae *f* права, якое датычыць пчалярства, а менавіта раёў, якія нікому не належаць.

**abemo**, emi, emptum, ere 1) адкупляць, выкупляць; 2) выключаць.

**abeo**, ii, itum, ire 1) [**пойти,** *стб.*] сыходзіць, адыходзіць; 2) [**поехати, выехати** *стб.*] выязджаць, з'язджаць.

**abetto** 1. схіляць да злачынства.

**abettum**, i *n* схіленне да злачынства.

**abfestuco** 1. адракацца, адмаўляцца; адступаць.

**abicio**, ieci, iectum, ere 1) адкідаць, выкідаць; 2) адхіляць; пазбывацца: ~ **se** саступаць валоданне якою-небудзь рэччу; 3) выдаляць, выключаць.

**abiectio**, onis *f* (abicio) 1) адкіданне, адштурхоўванне; 2) выдаленне; 3) адбіранне адвагі: ~ **animi** недахоп адвагі; 4) скіданне з пасады, дэтранізацыя; 5) пазбаўленне пасады; 6) ~ **sui** замыканне ў сабе; 7) прыніжэнне годнасці; угодлівасць, рабалепства; 8) пагарда; прадмет пагарды; 9) адкіды / падонкі (грамадства); 10) пакора; 11) маладушнасць.

**abindico** 1. абвяшчаць пра намер пакінуць вёску (як селянін).

**abiudico** 1. 1) забіраць нешта ў кагосьці і прысуджаць іншаму; 2) адмаўляць; пазбаўляць кагосьці чагосьці; 3) адмяняць вырак: ~ **culpa** вызваляць ад віны; 4) асуджаць на смерць альбо выгнанне.

**abiungo**, iunxi, iunctum, ere 1) выпрагаць; 2) аддзяляць; аддаляць; 3) разлучаць; адлучаць; 4) [**pozbywac** *пл.*] пазбаўляцца ўласнасці.

**abiuratio**, onis *f* (abiuro) 1) састулка якой-небудзь рэчы пад прысягай; адрачэнне ад памылак, ерасі; 2) [**abiurata (dymów)** *пл.*] сведчанне колькасці сялянскіх хат, пацверджанае прысягай.

**abiuratum**, i *n* сведчанне, дадзенае пад прысягай.

**abiuro** 1. [**abjurowac** *пл.*] 1) адракацца пад прысягай, адмаўляць; запярэчваць пад прысягай; 2) пярэчыць наконт даручэння рэчаў; 3) адкідаць нешта; пагарджаць чымсьці; 4) прысягай сцвярджаць няслушнасць довадаў пазоўніка / істца: ~ **poenam pro aliquo** праз прысягу вызваляць кагосьці ад пакарання; 5) ~ **se ab aliqua re** праз прысягу ўхіляцца ад чагосьці; 6) ~ **testem** не дапускаць сведку да яго прысягі; 7) адракацца ад чагосьці; 8) даваць ілжывую прысягу; 9) прысягаць, што не ступіць на дадзеную тэрыторыю: ~ **patriam** у англійскім праве абавязак абвінавачанага пакінуць краіну нават у выпадку станоўчага выніку ардаліяў, калі ён меў кепскую славу, а пазней, калі абвіна-

вачванне тычылася забойства альбо іншага ганебнага злачынства; 10) змаўляцца супраць кагосьці.

**ablado** 1. засяваць зямлю збожжам.

**ablata**, ae *f* род феадальнага падатку.

**ablatio**, onis *f* (aufero) [**ablacya** *пл.*] 1) адыманне (часткі цела, ежы, сенажаці і г. д.); 2) выкраданне, крадзеж; рабаванне; 3) адабранне ~ **bonorum** канфіскацыя маёмасці; 4) род феадальнага падатку.

**ablativus**, a, um 1) які можа быць адняты: **ablativo** [**ablatywo** *пл.*] оптам; гуртом; 2) *грам.* адкладны.

**ablegatio**, onis *f* (ablego) [**ablegacya** *пл.*] 1) адкліканне; адсылка; 2) выгнанне, ссылка; 3) аддаленне; 4) ганебнае выдаленне з горада (*гіст.* ганебнае выводзенне за браму горада пры запаленых паходнях), выгнанне з горада; 5) выдаленне з айчыны высокапастаўленых асоб.

**ablegatus**, i *m* [**ablegat** *пл.*] намеснік папскага легата.

**ablutio**, onis *f* (abluo) [**ablucya** *пл.*] абмыванне рук.

**abnegatus**, i *m* [**abnegat** *пл.*] неахайны чалавек, які не дбае пра свой выгляд.

**abnutivum**, i *n s.* **negativum** [**negatywa** *пл.*] чорны шар пры галасаванні, адмоўны голас.

**abolitio**, onis *f* (aboleo) [**abolicya** *пл.*] 1) адмена; 2) прабачэнне, літасць.

**abolla**, ae *f* верхняя вопратка ў старажытных, апанча (?) без рукавоў.

**aborno** 1. судовым парадкам абвяшчаць утоеную справу.

**abrenunciatio** *гл.* **abrenuntiatio**.

**abrenuntiatio**, onis *f* (abrenuntio) [**abrenunciacya** *пл.*] 1) адкліканне, адмаўленне, адрачэнне: **aqua abrenuntiationis** г. зв. вада адрачэння, якая выпівалася пры адрачэнні ад нерухомасці на нечую карысць); 2) адрачэнне дачкі, якая атрымала пасаг, ад спадчыны; 3) адступленне ад свайго судовага месца і падпарадкаванне іншаму суду; 4) запіс угоды / здзелкі адрачэння дачкі, якая атрымала пасаг, ад бацькоўскай спадчыны.

**abrenuntio** 1. 1) аддаляць ад сябе, адпрэчваць; пагарджаць; 2) адракацца, адмаўляцца: **abrenuntiata uxor** жонка, якая адмовілася ад маёмасці мужа; 3) пазбаўляцца; 4) запярэчваць.

**abrocamentum**, i *n* пасрэдніцтва.

**abrocator**, oris *m* пасрэднік.

**abrogatio**, onis *f* (abrogo) [**abrogacya** *пл.*] законны акт, згодна з якім ранейшы закон губляе сваю сілу; адмена, адхіленне якой-небудзь пастановы ці закона.

**absarius**, ii *m* абрабляльнік неапрацаваных палёў.

**abscedo**, cessi, cessum, ere саступаць каму-небудзь сваю рэч ці права.

**abscindo**, scidi, scissum, ere [**обрезати** *стб.*] 1) абразаць; адразаць, адцінаць; 2) перарываць; разлучаць; 3) акрэсліваць, абмяжоўваць, вызначаць; 4) выключаць: **abscissis omnibus dilationibus** ухіліўшы ўсе адтэрміноўкі.

**abscondo**, condi (condidi), conditum (consum), ere [**скрыти; скрыти ся** *стб.*] хаваць; хавацца.

**absconse** *adv.* (absconsus) 1) патаемна; 2) прыватна.

**abscriptus**, a, um выняты з-пад юрысдыкцыі свецкіх судоў.

**absentatio**, onis *f* 1) непрысутнасць; 2) разлучэнне (сужэнцаў); 3) выгнанне, баніцыя.

**absentia**, ae *f* (absens) [**небытность; неприеханье** *стб.*] адсутнасць; непрыезд, непрыбыццё: **in** ~ [**без бытности** *стб.*] у адсутнасці.

**absitas**, atis *f* ралля, якая не абрабляецца.

**abso** 1. 1) ляжаць аблогам, быць неабробленым; 2) адмаўляць у дзяржанні / арэндзе.

**absolutio**, onis *f* (absolvo) 1) аддзяленне, адлучэнне; раз'яднанне; 2) [**вызволенье** *стб.*] вызваленне; 3) апраўданне; вызваленне абвінавачанага ад крымінальнай адказнасці альбо пазванага / выклiканага ў суд ад грамадзянскай адказнасці: ~ **ab actione** вызваленне ад пазову / іску як неабгрунтаванага, беспадстаўнага; 4) адхіленне прэтэнзіі пазоўніка / істца; 5) апраўдальны вырак; 6) вызваленне; 7) адпушчэнне грахоў: ~ **animarum** збаўленне; ~ **generalis** поўны адпуст; 8) вызваленне ад касцёльных пакаранняў; 9) вызваленне ад нейкага абавязку; 10) звальненне з пасады; 11) заканчэнне, завяршэнне; 12) удасканаленне; 13) дасканаласць; 14) цэласць, паўната; 15) роспуск сходу; 16) вызваленне нявольніка; 17) вызваленне з-пад бацькоўскай улады; 18) малітва за памерлых.

**Absolutionis (dies)** дзень даравання, Таемная Вячэра.

**absolutor**, oris *m* (absolvo) 1) той, хто прабачае; 2) выратавальнік, збавіцель; 3) уласнік, які вызваляе нявольніка.

**absolutus**, a, um, padj. [**absolutny** *пл.*] 1) вольны: **homo** ~ вольны чалавек; **legibus** ~ вольны ад абавязку захавання законаў; які стаіць над законам; 2) безадносны, неабмежаваны; 3) незалежны; 4) **vis absoluta** фізічны прымус, які выключае існаванне волі; 5) нежанаты; незамужняя; 6) пэўны, несумнеўны: **absolutum ius** несумнеўнае права; 7) неабходны; 8) суворы; 9) цэлы, суцэльны; поўны, абсалютны: **absolutum dominium** абсалютная ўлада; 10) скончаны: **absolutum est** справа закончаная; ~ **creditor** задаволены крэдытор; 11) безумоўны; 12) ясны, зразумелы; 13) лёгкі для выканання; 14) адарваны ад матэрыяльнага свету.

**absolvito** 1. *intens.* 1) вызваляць; 2) тэрмін у працэсуальнай формуле, якім прэтар наказваў суддзі вызваліць пазванага / выклiканага ў суд, калі пазоўнік / істец не здолеў даказаць сваёй прэтэнзіі.

**absolvo**, solvi, solutum, ere 1) адвязваць; адлучаць; 2) [**вызволити** *стб.*] вызваляць ад чагосьці, напр. ад абавязацельства; 3) вызваляць нявольніка; вяртаць волю палоннаму; 4) [**выпускати | выпустити, отпускати | отпустити** *стб.*] выпускаць, адпускаць; 5) дазваляць; уводзіць у валоданне; 6) плаціць; 7) выкупляць заклад; 8) адпускаць грахі; 9) развязваць (сужэнства / шлюб); 10) прызнаваць кагосьці невінаватым; вызваляць на падставе выраку; 11) адмаўляцца ад прэтэнзіі на штосьці; 12) вымаць з-пад юрысдыкцыі; 13) выкон-

ваць (абавязацельства): **pensum** ~ выконваць заданне; 14) заканчваць; дапаўняць: ~ **opus** заканчваць справу; 15) ~ **aliquid silentio** абыходзіць маўчаннем; 16) ~ **aliquem ad aliquem** дэлегаваць кагосьці; 17) сведчыць; 18) маліцца за памерлых.

**absona**, ae *f* саступка рухомасці.

**absque** *praep.* [**без | безо** *стб.*] без.

**abstatio**, onis *f* падвода (абавязак насельніцтва прадстаўляць транспартны сродак у распараджэнне органа ўлады, для манарха ці яго ўраднікаў альбо для войска, а таксама сам гэты сродак разам з абслугай).

**abstemia**, ae *f* 1) устрыманне; 2) аскетызм.

**abstentio**, onis *f* (abstineo) [**abstencya** *пл.*] 1) добраахвотная адмова ад вядзення суда па якой-небудзь справе; 2) адрачэнне ад часткі спадчыны.

**abstineo**, tinui, tentum, ere 1) устрымліваць, стрымліваць, утрымліваць: ~ **aliquem** экскамунікаваць; адлучаць кагосьці; 2) утрымлівацца ад чагосьці: ~ **causa pecuniaria** утрымлівацца ад вырашэння грашовай справы; ~ **locis interdictis** пазбягаць забароненых месцаў; **aedificiis abstineri** устрымлівацца ад выкарыстання пабудовы; ~ **xenis** не прымаць дарункаў; ~ **se ab hereditate** адмаўляцца ад ужо атрыманай спадчыны альбо адракацца ад спадчыны перад яе атрыманнем; **ius abstinendi** *s.* **beneficium abstinendi** права ўстрымання ад спадкаемства, якое даецца прэтарам абавязковым спадкаемцам у выпадку празмернай запазычанасці па спадчыне; 3) ашчаджаць, эканоміць; 4) пасціцца; выконваць пакуту.

**absto** 1. [**шкодити** *стб.*] шкодзіць; перашкаджаць.

**absus**, a, um 1) (*sc.* ager) неапрацаваны, які ляжыць аблогам (пра поле); 2) **homo** ~ дзяржаўца / арандатар, які не плаціць чыншу.

**aburgor** 1. уключаць якую-небудзь зямлю ў межы горада.

**abyssus**, i *f* [**abyss** *пл.*] глыбіня, прорва, бяздоннае месца.

**academia**, ae *f* 1) гай Акадэма, дзе навучаў Плятон; 2) акадэмія, вышэйшая школа, універсітэт, **studium generale**: ~ **bonarum artium** школа добрых мастацтваў / навук, школа, заснаваная сацыніянамі ў Ракаве; 3) навуковае таварыства; 4) школа, секта.

**accaptagium**, ii *n* род леннай аплаты.

**accaptamentum**, i *n* права дамагання леннай аплаты *наз.* **accaptagium**.

**accaptis**, is 1) ленная аплата; 2) права сеньёра на патрабаванне леннай аплаты; 3) эмфітэўза — доўгатэрміновае (спадчыннае) дзяржанне / арэнда; 4) прадмет эмфітэўзы; 5) набыццё рэчаў; 6) набыты прадмет.

**accapto** 1. 1) атрымліваць ад феадальнага пана дазвол на заняцце лена; 2) купляць.

**accensa**, ae *f* 1) паданне да перапісу, да ацэнкі; 2) чынш, выплачваны сеньёру; 3) прыбытак з чыншу.

**accensio** 4. 1) замяняць абавязак гаспадарчых прац на выплату вызначанай грашовай рэнты; 2) плаціць як чынш; 3) аддаваць у дзяржанне / арэнду.

**accensitio**, onis *f* 1) замена абавязку гаспадарчых прац на выплату вызначанай грашовай рэнты; 2) выплата чыншу.

**accenso** 1. падаваць да перапісу, да ацэнкі.

**acceptabilis**, e (accepto) 1) прымальны; 2) мілы, прыемны; 3) верагодны, вераемны.

**acceptatio**, onis *f* (accepto) [**akceptacya**, **akcept** *пл.*] 1) прыняцце да актаў, пацвярджэнне, засведчанне дакумента; 2) ласкавы прыём; павага; 3) меркаванне.

**acceptio**, onis *f* (accipio) 1) прыняцце, атрыманне: ~ **testis** выказ згоды, каб сведкам была асоба, якую ўказаў працїўнік; 2) прызнанне ~ **personarum** зважанне на асобу, пратэкцыя; 3) павага: ~ **tua** тытул вышэйшых урадоўцаў; 4) разуменне; 5) адбіранне чагосьці; 6) значэнне, разуменне, сэнс; 7) прыняцце мніха ў кляштар.

**accepto** 1. *frequ.*[**akceptować** *пл.*] 1) [**брати** *стб.*] браць; забіраць, адбіраць; 2) прымаць, атрымліваць; 3) прымаць, прызнаваць; зацвярджаць; 4) ласкава прымаць каго-небудзь; 5) браць у дзяржанне / арэнду; 6) ~ **agros** асядаць; набываць зямельнае ўладанне; 7) упадабаць: ~ **sacrificium** прыхільна прымаць; 8) дазваляць, пагаджацца; 9) быць прадметам паклёпу альбо грашовай скаргі; 10) пагаджацца на нешта; 11) ~ **iudicium** браць удзел у працэсе, удзельнічаць у судовым разборы; 12) ~ **quaestionem** уносіць справу ў суд; 13) ~ **terminum** прымаць тэрмін судовага разгляду; 14) ~ **vestigium** браць след, г. зн. браць абавязак праследу злачынца; 15) ~ **personam** зважаць на асобу, аказваць пратэкцыю.

**accessio**, onis *f* (accedo) 1) [**akcessya**, **przybyt** *пл.*] дадатак, прырост, дадаванне, далучэнне: **accessione temporis uti** дадаць час валодання папярэдніка; 2) рост, памнажэнне, пашырэнне; 3) набыццё якой-небудзь маёмасці сумленным чынам; 4) злучэнне двух асобных рэчаў, у выніку чаго адна з іх становіцца складовай часткай другой як галоўнай; 5) прыдатак; прыбудова; прыналежнасць; 6) дадатковая рэч у супрацьпастаўленні да галоўнай; 7) у дачыненні да абавязацельскіх адносін: a) далучэнне новага абавязацельства да ранейшага, b) дадатковая дамова, якая падмацоўвае абавязацельства, c) уваходжанне ў абавязацельскія адносіны асобы, якая прыняла дадатковае абавязацельства; 8) прыступанне, збліжэнне; уступленне, уваходжанне; 9) спадчына; 10) прызначэнне; 11) азнаямленне; даследаванне; расследаванне.

**accessoria**, orum *n pl.* 1) эксцэпцыі / выняткі разам з дыляцыямі / адтэрміноўкамі; 2) фармальнасці судовай працэдуры.

**accessorium**, ii *n* 1) далучэнне менш важнай справы да галоўнай; 2) ступені судовай працэдуры ці парадак вядзення справы ў судзе, якога трымаецца бок, што бярэ ўдзел у судзе; 3) няпоўныя ці неканчатковыя вызначэнні суда, якія вырашаюць спрэчкі і пакідаюць галоўны прадмет нявырашаным. Старажытныя юрысты Рэчы Паспалітай для належнага вядзення працэсу патраба-

валі пэўных фармальнасцей, перш чым прыступалі да рашэння справы; фармальнасці гэтыя называліся акцэсорыямі і выражаліся наступнымі 5 юрыдычнымі тэрмінамі: a) **accessorium experimenti** ці **comparitio** яўка ў суд, b) **accessorium prosecutionis**, **terminus**, **citatio** тэрмін і пазоў / выклік у суд, c) **accesorium procedendi** ці **forum** судовае месца, d) **accesorium respondendi** ці **actor** пазоўнік / ісцец, e) **directe respondendi** ці **actio** справа. Ці карацей: a) **experiantur**, b) **prosequantur**, c) **procede**, d) **responde**, e) **directe responde** даведайся, прасачы, пастулай далей, адказвай, адказвай прама. І таму калі яўка — **comparitio** была недастатковая ці няпоўная, тэрмін — **terminus** занадта ранні ці позні, судовае месца не адпаведнае — **forum incompetens**, пазоўнік / ісцец — **actor** не ўласцівы, калі самая справа нацягнутая і заблытаная, у такім разе суд ці патрабаваў дадаткаў да справы ці адсылаў яе ў адпаведнае судовае месца альбо сваім рашэннем пакідаў яе без наступстваў. Як выніка гэтых акцэсорыяў старажытнымі юрыстамі былі прыняты наступныя палажэнні, якія прытрымліваліся ў судах: a) **causa, quae non subest regestro praesenti, ad regestrum competens remittitur** справа, якая не падлягае наяўнаму рэестру (г. зн. таму, які ў дзеянні), адсылаецца да адпаведнага рэестра, b) **super non producente plenipotentiam permittitur condemnatio** той, хто не прадставіў паўнамоцтваў, губляе справу — **condemnatur** ці тэрмін — **terminum**, c) **quoniam non adest delator, proinde citatus liber est a termino** паколькі няма пазоўніка / істца, пазваны / выкліканы ў суд вольны ад тэрміну, d) **quoniam unus ex delatoribus se sistit, proinde sufficienti comparitione adinventa, partibus experiri mandatur** паколькі адзін з пазоўнікаў / істцоў з'явіўся, то, прызнаўшы яўку дастатковай, бакам прадпісваецца пачынаць працэс.

**accessorius**, a, um 1) дадатковы, другарадны, пабочны: **accessorium lucrum** пабочны прыбытак; 2) залежны; 3) прыналежны; 4) датычны пазову / выкліку ў суд.

**accessus**, us *m* (accedo) 1) прыступанне, падыход ~ **ad causam** прыступанне да справы; 2) прыбыццё; наведванне; 3) дадатак; дадаванне; рост; памнажэнне; 4) прыдатак; прыбудова; прыналежнасць; 5) наплыў; 6) схільнасць да чагосьці; 7) месца стаянкі альбо высадкі; 8) даданне на выбарах галасоў таму, хто мае іх найбольш; 9) *вайск.* наступ, атака; 10) магчымасць дасягнення чагосьці шляхам працэсу / працэсуальна; 11) права папы менавання / намінацыі на касцёльныя годнасці.

**accidentia**, ae *f* (accido) 1) выпадак; 2) няшчасны выпадак; 3) судовы прыбытак з аплатаў; 4) прыналежнасці.

**accipio**, cepi, ceptum, ere 1) [**брати, взяти | озяти | узяти, побрати** *стб.*] браць; забіраць: **accipiendum** [**бранье** *стб.*] узяцце; забіранне; спаганянне; 2) прымаць штосьці; атрымліваць: ~ **mutuam pecuniam** браць пазыку, пазычаць; **pecuniam** ~ **ab aliquo** даваць камусьці падкупіць сябе, **aliquid acceptum referre** упісваць у кнігу прыбыткаў; 3) браць на сябе выкананне нейкай чын-

насці (асабліва судовай); 4) прысвойваць, прыўлашчваць; захопліваць; 5) прымаць кагосьці (у якую-небудзь супольнасць; як васала і да т. п.); 6) схопліваць; увязняць / знявольваць, браць у няволю; 7) *аб страху*: браць, ахопліваць; 8) прызнаваць кім, чым: **aliquem in regnum** ~ прызнаваць саўладаром у каралеўстве; 9) пагаджацца на штосьці, дазваляць; 10) прызнаваць як выканаўцу тастамента / завяшчання; 11) прымаць на працу; 12) браць замуж; жаніць; 13) разумець, спасцігаць; браць пад увагу; 14) ~ **personom alicuius** зважаць на асобу, аказваць пратэкцыю; 15) займаць месца; 16) вучыцца; 17) дасягаць; 18) зазнаваць: ~ **damnum** зазнаваць шкоду; 19) зносіць (цярпенні); 20) ~ **animam** ~ пазбаўляць жыцця; 21) ~ **vestimenta** надзяваць на сябе; 22) ~ **fugam** уцякаць; 23) ~ **incolatum** пасяляцца; 24) ~ **informationem super aliqua re** атрымліваць інфармацыю пра штосьці; 25) ~ **intelligentiam de aliqua re** дамовіцца, паразумецца ў нейкай справе; 26) ~ **iter** выпраўляцца, падавацца ў дарогу; 27) ~ **furtum** здзяйсняць крадзеж; 28) ~ **examen in aliquo** праводзіць расследаванне наконт кагосьці; 29) ~ **poenam de aliquo** караць кагосьці; 30) ~ **ultionem in aliquo** помсціць камусьці; 31) ~ **statum** трапляць у нейкі стан; 32) ~ **laesionem** атрымліваць пашкоджанне; станавіцца параненым; 33) ~ **refugium ad aliquem** шукаць прыстанішча, схову ў кагосьці; 34) даведвацца; прымаць да ведама; 35) браць пад кіраванне; 36) ~ **ad ius** падпарадкоўвацца кампетэнцыі суда; 37) ~ **iudicium** уступаць у судовую спрэчку ў якасці пазванага / выкліканага ў суд: **post iudicium acceptum** пасля канстатавання спрэчкі; 38) ~ **aliquem in cautionem fideiussoriam** прымаць паручальніцтва; 39) ~ **causas** прымаць судовыя справы да разгляду; 40) ~ **iuramentum ab aliquo** прымаць прысягу ад кагосьці; 41) ~ **super animam suam** браць на сваё сумленне; 42) ~ **terminum** ухваляць / прымаць тэрмін судовага разгляду; 43) ~ **se ad iudices** звяртацца да сведчання суддзяў наконт спраў, якія некалі імі вяліся; 44) ~ **se ad acta** звяртацца да сведчання судовых кніг.

**accipiter**, tris *m* [**ястреб** *стб.*] ястраб, коршак.

**accipitrarius**, ii *m* сакольнік (лавец, які палюе з сокалам; той, хто займаецца сакольніцтвам).

**accisa**, ae *f* г. зв. чопавае — падатак ад адкаркаванай ёмістасці пры продажы піва.

**acclamatio**, onis *f* (acclamo) 1) пахвальны вокліч; 2) гучны папрок, дакор; 3) абвяшчэнне; 4) заклік; 5) пазоў камусьці стаць перад судом; 6) агульная ўхвала: **per acclamationem** праз агульны і яўны выраз згоды воклічам; 7) патрабаванне вярнуць штосьці.

**acclamator**, oris *m* 1) пазоўнік / ісцец; 2) патрабавальнік.

**acclamo** (ad-clamo) 1. 1) падаваць вокліч; абвяшчаць; 2) пацвярджаць воклічам; 3) абвяшчаць кагосьці чымсьці; 4) ~ **aliquem de aliqua re** крыкам у нечым звінавачваць; 5) пазываць / выклікаць у суд; 6) клікаць; 7) **acclamari alicui** ісці за прыкладам кагосьці, пераймаць; 8) праводзіць межавую лінію так,

каб яна адыходзіла ад папярэдняй; 9) ~ **sub aliquem** пераходзіць у чыюсьці ўласнасць (аб феадальных сялянах); 10) апеляваць; 11) дамагацца чагосьці.

**accola**, ae *m* (accolo) асаднік, каланіст; прышлы чалавек.

**accolligo** legi, lectum, ere прымаць як саўладальніка.

**accolonus**, i *m гл.* **accola**.

**accommodatio**, onis *f* (accommodo) 1) уладкаванне; улагоджванне, заспакаенне; 2) дастасаванне, прыстасаванне; падбор; 3) звычка; 4) згода; падпарадкаванне; 5) *перан.* прыхільнасць, добразычлівасць; 6) наданне; пазыка.

**accommodo** (ad-commodo) 1. 1) ужываць, прымяняць; прыстасоўваць: **se** ~ прыстасоўвацца; 2) ставіцца; 3) даваць; надаваць камусьці права: ~ **fidem** даручаць; ~ **voluntatem** служыць камусьці; ~ **patientiam** дазваляць; ~ **ministerium** аказваць паслугу; ~ **operam suam** ахвяроўваць камусьці свае паслугі; ~ **cognitionem suam** пакідаць для ўласнай ацэнкі; 4) дазваляць; 5) даваць скарыстаць сябе для чагосьці; 6) удзяляць; 7) пазычаць камусьці альбо ў кагосьці; 8) быць прыдатным; 9) быць у распараджэнні кагосьці; 10) заступацца; апекавацца кімсьці; 11) прыладкоўваць, прыкладаць; прывязваць; прышпіляць; 12) ~ **in aliquid** клікаць на дапамогу; 13) дастаўляць у суд.

**accomodator**, oris *m* 1) той, хто прыстасоўваецца да чагосьці, прыстасаванец; 2) які атрымлівае наданне.

**accomodatum**, i *n* 1) нададзеная рэч; 2) наданне; 3) пазыка.

**accondicio**, onis *f* умова.

**accordamentum**, i *n* згода, паразуменне; дамова.

**accordium**, ii *n* згода, паразуменне.

**accredito** 1. [**akredytować** *пл.*] 1) паручацца за каго-небудзь; даваць каму-небудзь крэдыт; 2) надаваць адмысловае значэнне амбасадару / паслу пры замежным двары.

**accreditum**, i *n* пазыка.

**accreditus**, a, um дaвераны.

**accredo** (ad-credo), didi, ditum, ere 1) давяраць, даваць веры; 2) згаджацца; дамаўляцца; 3) пазычаць.

**accresco** (ad-cresco), crevi, cretum, ere 1) прырастаць, павялічвацца, прыбываць: **ius accrescendi** права павелічэння спадчынных доляў на адпаведную частку не ўзятай долі); 2) узмацняцца; 3) быць дададзеным; 4) павялічваць нешта; 5) паляпшаць.

**accubitus**, us *m* 1) ляжанне за банкетным сталом; 2) падушка сядзець; 3) крэсла; 4) пакой для спажывання ежы; 5) полаг, роды; 6) ушаноўванне, шанаванне Бога.

**acculpo** 1. абвінавачваць.

**accurro**, (cu)curri, cursum, ere 1) [**прибегнути** *стб.*] прыбягаць, спяшацца з дапамогай: ~ **ad clamorem** прыбегчы на крык аб здзяйсненні злачынства; 2) *перан.*: (рас)пачынаць, прадпрымаць нешта; 3) ~ **ad condicionem pacis** прымаць умовы міру.

**accusa**, ae *f* скарга.

**accusatio**, onis *f* (accuso) [**осоченье** *стб.*] данос; абгавор.

**accuso** (accusso) 1. 1) пазываць у суд, звінавачваць, абвінавачваць: **accusatus** [**обвиненый** | **обвинный** *стб.*] абвінавачаны, звінавачаны; ~ **adversarium in contumaciam** патрабаваць ад суда афіцыйнага канстатавання адсутнасці праціўніка на судовым разборы; 2) скардзіцца на кагосьці, закідваць нешта камусьці, звінавачваць, крытыкаваць; 3) стаць прычынай.

**acephalus**, a, um 1) безгаловы; 2) які не мае загалоўка; ананімны; 3) які не мае кіраўніцтва; 4) чалавек без феадальнага пана.

**acervus**, i *m* [**стирта, стог** *стб.*] сціртa, стог.

**acetabulum**, i *n* 1) кубак; 2) посуд на воцат; 3) мера аб'ёму, роўная 1,5 **cyathus** (0,068 літра); 4) дно чашкі ў кветцы; 5) цымбалы.

**Achatius cum sociis** 22 чэрвеня.

**Achilleus M.** 12 траўня.

**achtuale**, is *n* 1) 1/8 частка бочкі; 2) г. зв. чопавае — падатак ад адкаркаванай ёмістасці пры продажы піва.

**acies**, ei *f* 1) вастрыё; меч; 2) вастрыня зроку альбо розуму; 3) *перан.*: зрок; зрэнка; вока; 4) бітва, сутычка: **acie decernere** даць вырашальную бітву; *перан.*: слоўная бітва, барацьба, спрэчка; 5) (баявы) шыхт / парадак: ~ **triplex** баявы шыхт / парадак рымскага легіёна, які складаўся з трох шэрагаў жаўнераў; **conturbare acies** змяшаць шыхты / баявыя парадкі; 6) галава / ар'ергард войска; 7) аддзел; 8) каманда, дружына: ~ **curialis** дружына князя; ~ **palatina** дружына ваяводы.

**acinaces**, is *f* кароткая персідская шабля.

**acquestus**, us *m* набытыя добры / уладанні (у супрацьпастаўленні да спадчынных).

**acquiesco**, quievi, quietum, ere 1) адпачываць; 2) спачываць, памерці; 3) супакойвацца; 4) задавольвацца чымсьці: ~ **decreto** пагаджацца на вырак ці заставацца задаволеным рашэннем суда.

**acquieto** 1. 1) супакойваць; 2) забяспечваць; 3) вырашаць.

**acquiramentum**, i *n* набыццё.

**acquiro** (ad-quiro), sivi, situm, ere 1) набываць, атрымліваць ва ўласнасць: **acquisitus** [**набытый** *стб.*] набыты; **coemptione acquisitus** [**купленый** *стб.*] куплены; 2) [**доходити; добыти** *стб.*] дамагацца; спаганяць, патрабаваць (праз суд); даставаць, здабываць; 3) ~ **in pignus** [**закупати** | **закупити** *стб.*] закупляць / браць у заклад; 4) ~ **maculam** выпэцквацца; рабіць памылку; 5) ~ **prolem** мець нашчадкаў; 6) атрымліваць нешта праз суд / судовым парадкам: ~ **possessionem** атрымліваць уладанне судовым парадкам; 7) ~ **caput** дабівацца галаўшчыны за забойства крэўнага; 8) ~ **causam** выйграваць справу; 9) ~ **debita** спаганяць даўгі; 10) ~ **fines** атрымліваць вызначэнне спрэчнай мяжы; 11) ~ **honorem** ачышчацца / апраўдвацца ад абвінавачвання; 12) ~ **pro-**

**pinquitatem** атрымліваць судовае пацвярджэнне правоў, якія вынікаюць з роднасці; 13) *pass.*: прайграваць справу.

**acquisitio**, onis *f* (acquiro) 1) набыццё: ~ **originaria** першапачатковае набыццё (уласнасці); ~ **per universitatem** агульнае набыццё правоў; **acquisitiones civiles** спосабы набыцця ўласнасці, прызнаныя праз **ius civile**; **acquisitiones naturales** спосабы набыцця ўласнасці паводле **ius gentium**; 2) прырост; 3) заробак; 4) прыток вады; 5) выйгрыш справы пазоўнікам / повадам / істцом; 6) **vulnerum** ~ атрыманне навязкі / кампенсацыі за раны; 7) ~ **termini** апраўданне адсутнасці ў судзе.

**acquisito** 1. атрымаць нешта шляхам працэсу / працэсуальным парадкам.

**acquitatio**, onis *f* 1) абяцанне не патрабаваць нечага; 2) выкананне абавязацельства.

**acquito** 1. 1) вызваляць ад абавязацельства; 2) пакрываць / кампенсаваць шкоду; 3) засцерагаць ад будучых прэтэнзій; 4) выплачваць доўг; 5) адступаць, адмаўляцца.

**acquitum**, i *n* 1) валоданне, вольнае ад вызначаных падаткаў; 2) род мыта.

**acra**, ae *f* 1) вяршыня; 2) акр — англійская мера плошчы.

**acrimonia**, ae *f* (acer) уціск, залішняе патрабаванне.

**acta**, orum *n pl.* (ago) [**akta** *пл.*] 1) запісы ўрадавай дзейнасці; 2) дакументы; 3) рознага кшталту ўгоды / здзелкі паміж прыватнымі асобамі і пастановы судовых месцаў, запісаныя ў адмысловыя кнігі, якія і называюцца актавымі кнігамі: ~ **advocatialia-scabinalia** [**burmistrzowskie-radzieckie** *пл.*] акты войтаўска-лаўнікавыя ці магдэбургскія; ~ **castrensia** [**akta grodskie** *пл.*] акты гродскія, старастаўскія, *гл.* **iudicium castrense;** ~ **comitialia** акты соймавыя; ~ **confoederatialia** [**akta konfederacyjne** *пл.*] канфедэрацкія акты; ~ **postcurialia** акты задворнага суда; ~ **succamerialia** акты падкаморскія, у якія ўносіліся разборы спрэчак пра межы зямельнай уласнасці і размежаванні ўладанняў; ~ **terrestria** [**akta ziemskie** *пл.*] земскія акты, *гл.* **judicium terrestre;** ~ **tribunalia** [**akta trybunalskie** *пл.*] акты галоўнага апеляцыйнага суда ці трыбунала.

**acticata**, orum *n pl.* пратакол судовых спраў.

**acticatio**, onis *f* [**aktykacya** *пл.*] 1) упісанне чыннасці / дзеяння ў кнігі; унясенне дакумента ў актавую кнігу, у пратакол; 2) занатоўка; 3) ~ **causae** пратакол.

**acticator**, oris *m* пазоўнік / повад / ісцец (працэсуальны бок).

**actificata**, orum *n pl.* запісы, унесеныя ў судовыя кнігі.

**actio**, onis *f* (ago) [**akcya** *пл.*] 1) [**дело** *стб.*] справа: **coneo actionem** пачынаць судовы працэс з кімсьці; 2) пазоў / выклік у суд; 3) пасада, дзеянне, справа; 4) [**потреба** *стб.*] патрэба.

**actionarius**, i *m* (actio) [**akcyonarz** *пл.*] той, хто мае сваю частку ў гандлёвым прадпрыемстве; акцыянер.

**activa**, orum *n pl.* сукупнасць усіх сум, аддадзеных у доўг; слову **activa** супрацьпастаўляецца **passiva** — сукупнасць сум, якія павінен хто-небудзь.

**actor**, oris *m* (ago); 1) [**повод, жалобник, зыскуючий, шкодный** *стб.*] повад / пачынальнік справы, пазоўнік / ісцец, жалабнік / скаржнік; спагнальнік (доўгу на закладзенай маёмасці); той, хто панёс шкоду: **actoris** [**жалобниковый** *стб.*] пазоўнікавы / істцовы, які належыць пазоўніку / істцу: ~ **interceptor** пазоўнік / ісцец, які прыцягвае да суда асобу, раней ужо пазваную / выкліканую ў суд; 2) ~ **villicus** распарадчык маёнтка; 3) абаронца, адвакат.

**actoratus**, us *m* 1) пазоў / выклік у суд; 2) права на падаванне пазову / выкліку ў суд.

**actoreitas**, atis *f* пазоў / выклік у суд у памежных справах.

**actoreus**, a, um пазоўны / істцовы: **actorea pars** пазоўны / істцовы бок.

**actoria**, ae *f* 1) права на вызначэнне межаў у памежных спрэчках; 2) пазоў / выклік у суд.

**actuale**, is *n* 1) аплата за ўпісанне ў акты; 2) гарнец — адзінка аб'ёму.

**actualis**, e (actus) 1) сапраўдны, які існуе насамрэч; 2) складальнік актаў.

**actuarius**, i *m* (ago) [**aktuarynsz** *пл.*] судовы пісар, які парадкуе паперы і судовыя акты.

**actuo** 1. здзяйсняць; заканчваць.

**actus**, us *m* (ago) [**вчинок** *стб.*] учынак, дзеянне; здзяйсненне: ~ **criminis** [**злочинство** *стб.*] злачынства, ліхадзейства; **in actu** [**при** *стб.*] у, пры; падчас, у прысутнасці, пры наяўнасці.

**acutia**, ae *f* 1) хітрасць; 2) лютасць; 3) кавальскае прадпрыемства ў саляной жупе для вастрэння горных прылад.

**Ad angelum (feria)** серада Каляднага посту — **Adventus**.

**Ad te levavi** да цябе ўзнёс, першы тыдзень Каляднага посту, *гл.* **Adventus**.

**ad** да: ~ **coram** да яўкі; да суда; да тлумачэння; ~ **patres** да бацькоў; калі кажуць пра каго-небудзь, што ён адышоў да бацькоў, г. зн., што ён памёр; ~ **rem** ці ~ **causam** да справы, г. зн., выказаўшы агульныя заўвагі, прыступіць да самой справы.

**adactionatus**, a, um прыведзены ў дзеянне, ужыты: **adactionata media** сродкі, прыведзеныя ў дзеянне, ужытыя ў справе.

**adaero** 1. 1) вызначаць цану; 2) узнагароджваць грашыма; прызначаць заробак.

**Adalbertus archiep. Magdeburgensis** 20 чэрвеня.

**adalingus**, i *m* 1) шляхціц; 2) малады князь.

**adapendia**, orum *n pl.* 1) прыналежнасці; 2) прылегласці (зямельнага валодання).

**adapertio**, onis *f* (adaperio) 1) адкрыццё, адчыненне; 2) тлумачэнне.

**adbellico** 1. выступаць супраць.

**adbeneficio** 1. аддаваць у лен.

**adcauso** 1. 1) афіцыйна паведамляць; 2) пазываць / выклікаць у суд.

**adcerto** 1. 1) вызначаць, акрэсліваць; 2) сцвярджаць, канстатаваць.

**adchramiator**, oris *m* паручальнік.

**adchramio** 4. абавязвацца, даючы абяцанне (у вызначаным месцы і часе): a) з'яўлення ў судзе альбо пастаўлення / перад судом пэўнай асобы, напр. абвінавачанага альбо сведкі, b) складання прысягі альбо падання іншага доказу, c) прадстаўлення дакумента, d) унясення грашовага закладу, e) удзелу ў судовым двубоі / дуэлі, f) паддання Божаму суду.

**adchramita**, ae *f* абяцанне скласці апраўдальную прысягу.

**adchramitio**, onis *f* абяцанне складання прысягі.

**adcitatio**, onis *f* [**przypozew** *пл.*] прыпазоў — другі / дадатковы пазоў / выклік у суд, напр. удзельніка ці спадчынніка асобы, якая пазывае; ці пазоў у суд той жа асобы ў іншую інстанцыю суда; таксама паўторны пазоў, калі тэрмін першага пазову мінуў. Vol. Leg., a. 1523, I, f. 426.

**adcognitatio**, onis *f* абвяшчэнне; абнародаванне, прамульгацыя.

**adcognito** 1. рабіць вядомым, падаваць да ведама, паведамляць; абвяшчаць.

**addecimatio**, onis *f* збор дзесяціны.

**addecimo** 1. збіраць дзесяціну.

**addextro** 1. 1) урачыста абяцаць / клясціся правай рукой; 2) паказвацца праваруч; 3) прыносіць шчасце; 4) бегчы побач з вершнікам, трымаючы каня за цуглі.

**addictio**, onis *f* (addico) 1) прысуджэнне; прызнанне; 2) прысуд; 3) [**заповедь** *стб.*] запаведзь / забарона; пастанова, загад; заява.

**addictus**, a, um [**приповежон** *стб.*] аддадзены; заяўлены.

**additamentum**, i *n* (addo) [**additament** *пл.*] дадатак.

**addito** 1. 1) аддаваць; 2) дарыць.

**addo**, didi, ditum, ere [**причинити ся** *стб.*] прычыняцца, садзейнічаць.

**addos**, otis *f* дадатковае вена.

**addretio** 1. рамантаваць, рэстаўрыраваць.

**Adelaida** 16 снежня.

**Adelgundis** 30 студзеня.

**ademprum**, i *n* 1) род феадальнай аплаты; 2) права карыстання.

**ademptio**, onis *f* (adimo) [**adempcya** *пл.*] 1) адыманне; 2) знішчэнне дароўнага запісу.

**adentatio**, onis *f* згода.

**adentia**, ae *f* ад прысутнасць.

**adeptus**, i *m* (adipiscor) [**adept** *пл.*] 1) алхімік; 2) асоба, якая належыць да якой-небудзь навуковай ці таемнай суполкі.

**adhabeo**, bui, bitum, ere валодаць; мець.

**adhaerentia**, ae *f* 1) прылегласць; прыналежнасць; 2) дадатак; 3) усё, злучанае з чым-небудзь галоўным.

**adheredatio**, onis *f* атрыманне ў спадчыну, успадкаванне.

**adheredito** 1. надаваць; уводзіць у валоданне.

**adheredo** 1. уводзіць у валоданне.

**adhibeo**, bui, bitum, ere 1) [**призвати** *стб.*] клікаць, заклікаць: **adhibitus, adhibiti** [**сторонний, сторона** *стб.*] староннi, пабочны; паняты; староннія, пабочныя; панятыя; 2) [**принести** *стб.*] прыносіць; прадстаўляць, паказваць.

**adhuc** *adv.* [**еще** *стб.*] яшчэ; дасюль, дагэтуль.

**adhumatio**, onis *f* пахаванне.

**adiacentia**, ae *f* (adiaceo) сумежнае, прылеглае месца.

**adiactio** 4. чакаць з'яўлення на судзе другога боку.

**adicio**, ieci, iectum, ere [**прибавляти** *стб.*] дадаваць; дапаўняць.

**adimo**, emi, emptum, ere [**отнимати | отняти** *стб.*] адымаць, пазбаўляць, адбіраць.

**adimpleo**, evi, etum, ere [**наполнити** *стб.*] 1) спаўняць, выконваць; 2) пакрываць (шкоду); 3) саступаць; дазваляць.

**adipiscor**, adeptus sum, adipisci [**дойти, достати** *стб.*] дасягаць (паўналецця); даставаць; атрымліваць: ~ **perfectam aetatem** [**лета дойти, дорости** *стб.*] станавіцца паўналетнім, дасягаць паўналецця.

**adiubeo**, iussi, iussum, ere 1) дадаткова пастанаўляць; 2) выносіць вырак / прысуд; вырашаць.

**adiudicatum**, i *n* 1) [**przysądne, przysędy** *пл.*] прысуднае — плата за судаводства суддзі і падсудку. Vol. Leg. II, f. 630; 2) г. зв. памятнае [**pamiętne** *пл.*], *гл. тс.* **salarium**.

**adiudicatus**, us *m* вырак / прысуд.

**adiudico** 1. 1) [**осудити, присудити** *стб.*] асуджаць; прысуджаць: **adiudicatus** [**осужоный** *стб.*] асуджаны; 2) [**всказати | усказати; сказати | сказывати** *стб.*] наказваць, загадваць; указваць; устанаўліваць.

**adiungo**, iunxi, iunctum, ere 1) [**привернути** *стб.*] дадаваць, далучаць; прывяртаць; 2) [**побрати** *стб.*] браць, забіраць.

**adiurator**, oris *m* (adiuro) 1) заклінальнік; 2) экзарцыст; 3) супрысяжнік.

**adiurnamentum**, i *n* пазоў / выклік у суд.

**adiurno** 1. 1) заклікаць прыйсці ў вызначаны дзень; 2) пазываць / выклікаць у суд.

**adiusticio** 1. законным шляхам уводзіць кагосьці ў валоданне.

**adiuvo**, iuvi, iutum, are дапамагаць: **adiuvantes sermones** вынятки ў судзе, сапраўдныя ці выдуманыя.

**adlegio** 1. 1) дапускаць як пазоўніка / повада / істца ў працэсе; 2) **se** ~ здымаць з сябе віну праз Божы суд альбо прысягай.

**adliberto** 1. вызваляць.

**adlito** 1. 1) сыходзіць на сушу; 2) *перан.*: сядаць на мель; не ўдавацца; 3) прычальваць.

**admallo** 1. 1) пазываць / выклікаць у суд; 2) уносіць скаргу аб нечым.

**admanio** 4. 1) пазываць / выклікаць у суд; 2) патрабаваць.

**admanso** 1. 1) (*sc.* **terram**) дзяліць на ланы / валокі; 2) удзяляць камусьці лан / валоку; 3) збіраць ураджай (пра збожжа).

**admercimentum**, i *n* грашовае пакаранне згодна з выракам.

**admercio** 1. накласці грашовае пакаранне згодна з выракам.

**adminiculator**, oris *m* (adminiculo) 1) памочнік; 2) папскі ялмужнік / збіральнік ці раздавальнік міласціны.

**administratio**, onis *f* (administro) [**вделанье** *стб.*] выкананне, здзяйсненне.

**administrator**, oris *m* (administro) распарадчык, кіраўнік: ~ **capitaneatus** староста; ~ **salinarum** жупнік.

**administro** 1. *intr.* [**справовати ся** *стб.*] распараджацца, кіраваць: **administrans** [**впекаючи ся** *стб.*] апякуючыся, маючы ў апецы.

**adminuo**, ere 3. 1) прымяншаць; 2) прыносіць шкоду, шкодзіць.

**admiratus**, i *m* адмірал.

**admissio**, onis *f* (admitto) [**допущенье** *стб.*] дазвол, допуск.

**admissio**, onis *f* (admitto) допуск за пэўную плату да карыстання вызначанай часткай нерухомай маёмасці, якой валодаюць паводле закладной угоды (запісу).

**admitto**, misi, missum, ere [**допускати | допустити | допущати, припустити, пустити** *стб.*] дапускаць, атрымліваць доступ; дазваляць, саступаць; пускаць, адпускаць.

**admodiatio**, onis *f* адданне ці ўзяцце ў дзяржанне / арэнду.

**admoneo**, ui, itum, ere [**обослати** *стб.*] апавяшчаць, абвяшчаць.

**admonitio**, onis *f* (admoneo) [**admonicya** *пл.*] напамін, перасцярога.

**admonitoriae**, arum *f* афіцыйны пазоў / выклік у суд.

**admonitorius**, a, um 1) напамінальны; 2) датычны пазову / выкліку ў суд.

**adnotatio**, onis *f* [**adnotacya** *пл.*] нататка; прыпіска.

**Adolphus** 29 жніўня.

**adoptatio**, onis *f* (adopto) 1) усынаўленне, адопцыя; 2) прыняцце ў герб.

**adoptio**, onis *f* (adopto) [**adopcya** *пл.*] 1) усынаўленне. У актавых кнігах Літвы-Беларусі і Польшчы актаў гэтага кшталту амаль зусім няма ці, прынамсі, вельмі мала; яны пераважна носяць назвы дароўных запісаў — **donationes**, калі ўласнік дорыць свайму родзічу ці староннім асобе ўсю сваю маёмасць і прымае яго нібы за сына; 2) ~ **per arma** прыняцце да свайго герба. Рыцары ВКЛ не мелі сваіх гербаў; з 1413 года палякі пачалі даваць ліцвінам-беларусам свае гербы, якія затым тыя, не задаволеныя такой залежнасцю, вярталі ім назад. Звычай гэты доўжыўся да 1601 года, у якім ён быў забаронены соймавай пастановай.

**adopto** 1. [**adoptować** *пл.*] усынаўляць: **adoptati** усыноўленыя дзеці.

**Adorate Dominum (dominica)** ушаноўвайце Бога, 3-я нядзеля па Аб'яўленні Пана.

**Adorate secundum, tertium, quartum** тыдні, наступныя пасля 3-га тыдня па Аб'яўленні Пана.

**Adoratus (dies)** Вялікая Пятніца.

**adpraesento** 1. 1) прадстаўляць дакумент; 2) ставіць кагосьці перад суддзёй; 3) **se** ~ з'яўляцца ў судзе.
**Adrianus Ep.** 31 жніўня, 4 сакавіка.
**adrumo** 1. паведамляць.
**adsalio** 4. атакаваць, нападаць.
**adsalitura**, ae *f* напад, агрэсія; гвалт.
**adsaltus**, us *m* 1) акт гвалту; 2) крымінальныя суды ў справах актаў гвалту.
**adscio** 4. удзяляць штосьці камусьці.
**adscriptio**, onis *f* прыпіска ці дадатковы запіс да закладной угоды / здзелкі, так што асоба, якая карыстаецца паводле гэтай угоды нерухомай маёмасцю, уносіць пэўную суму грошай і атрымлівае дадатак зямлі ці маёмасці.
**adsedeo**, sedi, sessum, ere пасяляцца, асядаць.
**adteneo**, tenui, tentum, ere захоўваць: **fidelitatem** ~ захоўваць вернасць.
**adtermino** 1. прызначаць дзесяціну з дадзенай тэрыторыі парафіяльнаму касцёлу.
**adtraho**, traxi, tractum, ere 1) прыцягваць; 2) набываць.
**adtubernalis**, is *m* блізкі сусед.
**adulteratio**, onis *f* (adultero) [**adulteracya** *пл.*] падробка, сапсуцце, прымешка (да лекаў); фальсіфікацыя манеты.
**adultus**, a, um [**дорослый** *стб.*] дарослы; паўналетні.
**adumbro** 1. [**adumbrować** *пл.*] адцяняць.
**aduncus**, a, um загнуты; гачкаваты / кручкаваты.
**aduno** 1. збіраць у адно месца.
**advena**, ae *m* (advenio) [**приеждчий** *стб.*] прыхадзень; прыезджы; (гандлёвы) госць.
**advenanto** 1. удзяляць леннiку ленны мінімум.
**advenantum**, i *n* 1) мінімальная велічыня лена, якая была асновай для феадальных павіннасцей; 2) задатак.
**Adventus Spiritus Sancti (festum)** Прышэсце Святога Духа, 15 траўня (нерухомае свята).
**Adventus**, us *m* [**adwent** *пл.*] Прыйсце Хрыста, Адвэнт, чатыры тыдні перад Божым Нараджэннем, у якія католікі павінны былі пасціцца ў сераду, пятніцу і суботу на ўспамін прыйсця ў свет Збаўцы.
**advero** 1. 1) спраўджваць, правяраць; 2) надаваць дакументу вартасць аўтэнтычнага.
**advitalitas**, atis *f* [**dożywocie** *пл.*] 1) дажывоцце / пажыццёвасць / пажыццёвае валоданне: **emundare advitalitatem** вызваляць / апраўдваць пажыццёвасць, г. зн. аплачваць ранейшыя даўгі; **mutua** ~ узаемная пажыццёвасць сужэнцаў; 2) наданне маёмасці ў пажыццёвае валоданне. Vol. Leg. I, f. 531; 3) [**zapis dożywotny** *пл.*] пажыццёвы запіс, на моцы якога жонка па смерці мужа валодала яго маёмасцю да канца свайго жыцця і наадварот муж валодаў маёмасцю жонкі пасля яе смерці. Пажыццёвы запіс давалі таксама сыны бацькам,

атрымаўшы ад іх спадчыну пры іхнім жыцці, і таму яны абавязваліся ўтрымліваць бацькоў да канца іхняга жыцця.

**advitalitium**, ii *n* [**dożywocie** *пл.*] 1) дажывоцце / пажыццёвае валоданне; 2) маёмасць, аддадзеная каралём у пажыццёвае валоданне.

**advocaria**, ae *f* 1) пасада касцёльнага войта, г. зн. урадніка касцёла, які чыніў суд з боку касцёла і выступаў у яго інтарэсе; 2) даручэнне.

**advocarius**, ii *m* адвакат.

**advocatia**, ae *f* 1) войтаўства, пасада войта; 2) пасада касцёльнага войта, г. зн. урадніка касцёла, які чыніў суд з боку касцёла і выступаў у яго інтарэсе; 3) патранат караля над каралеўскім касцёлам; 4) прыбытак касцёльнага войта; 5) апека над непаўналетнім; 6) апора; заступніцтва, пратэкцыя; 7) паручальніцтва.

**advocatialatus**, us *m* войтаўства.

**advocator**, oris *m* 1) адвакат; 2) намеснік у судовым двубоі / дуэлі; 3) касцёльны войт, г. зн. ураднік касцёла, які чыніў суд з боку касцёла і выступаў у яго інтарэсе.

**advocatoria**, ae *f* пасада касцёльнага войта.

**advocatura**, ae *f* 1) замяшчэнне, субстытуцыя; 2) пасада касцёльнага войта; 3) аплата касцёльнага войта.

**advocatus**, i *m* [**adwocat** *пл.*] адвакат; 1) асоба, якая абараняе чыю-небудзь справу ў судзе. У ардынацыі Трыбунала 1726 года ён называўся патронам. Яго называлі таксама мецэнатам; 2) войт у паселішчах на магдэбургскім праве. Адтуль **iudicium advocatiale-scabinale** войтаўска-лаўнічы суд ці магдэбургскі суд. Апрача таго, былі так званыя сельскія войты. Іх абавязкам было: выпраўляць сялян на працу, прысутнічаць пры выплаце імі падаткаў, ставіць сялян на суд для расправы замест дзецкага, пры ўсіх працах наглядаць за імі, ездзіць з людзьмі свайго войтаўства ў Вільню і іншыя месцы для здачы аўса і сена, папраўляць кожны год межы і капцы паміж сялянскімі землямі. У кожным войтаўстве павінна было быць каля 100 валок, нават калі б для гэтага трэба было злучыць два, тры ці больш сёл. Войт абавязаны быў мець шнур, якім павінен быў выпраўляць межы сялянскіх палёў. Ён абавязаны быў прысутнічаць у судзе і дапамагаць селяніну абараняцца. За сваю працу сельскія войты карысталіся адной вольнай валокай, а іншую маглі мець з выплатай чыншу (Устава на волоки короля его милости. Арт. 7).

**advocifero** 1. выклікаць для з'яўлення ў судзе воклічам.

**advoveo,** vovi, votum, ere абяцаць (перад судом).

**advoco** 1. 1) быць адвакатам; 2) прызнаваць, што якая-небудзь справа здзейснена; браць на сябе якую-небудзь справу.

**aedificatio**, onis *f* (aedifico) [**будованье** *стб.*] будаванне, будаўніцтва, пабудова.

**aedifico** 1. (aedes) [**будовати, збудовати** *стб.*] будаваць.

**aedilis**, is *m* (aedes) служка; баярын-слуга; дворны; гараднічы.

**Aegidii abbatis** 1 верасня.

**Aemilianus** 12 лістапада.

**aenigmaticus**, a, um 1) загадкавы; 2) алегарычны.

**aequalis**, e [**ровный** *стб.*] роўны, аднолькавы.

**aequaliter** *adv.* [**ровно** *стб.*] роўна, пароўну, аднолькава.

**aequiparantia**, ae *f* адпаведнасць.

**aequivalentia**, **ae** *f* 1) роўнасць; 2) роўны падзел; 3) роўны кошт.

aetas, atis *f* век, узрост: **perfectae aetatis** [**дорослый** *стб.*] дарослы, паўналетні; **anni perfectae aetatis** [**лета дорослые, зуполные, свои** *стб.*] паўналецце; **aetatem perfectam attingere** [**узрости** *стб.*] вырасці, узрасці, дасягнуць паўналецця; **perfectam aetatem habens** [**лета маючий** *стб.*] паўналетні; **adipisci perfectam aetatem, consequi aetatem perfectam, annos perfectae aetatis consequi** [**лета дойти, дорости, мети** *стб.*] стаць паўналетнім, дасягнуць паўналецця, дарасці; **annos perfectae aetatis non habere, perfectam aetatem non habere** [**лет не дорости, не мети** *стб.*] не дасягнуць паўналецця.

**aeviternus**, a, um (aevum) 1) вечны, вячысты; 2) аддадзены ў вечнае валоданне.

**afeudatus**, a, um 1) звязаны леннай залежнасцю; 2) аддадзены ў лен.

**affatimio** 4. 1) усынаўляць як спадкаемца; 2) перадаваць у спадчыну.

**affatimus**, i *m* 1) дамова, датычная спадчыны; 2) дарэнне альбо перадача ў спадчыну.

**affectamentum**, i *n* валоданне.

**affectio**, onis *f* (afficio) жаданне; патрабаванне.

**affecto** (ad-fecto) 1. (afficio) [**affektować** *пл.*] 1) [**жадати** *стб.*] жадаць; дамагацца, патрабаваць; 2) ~ **verbis ignominiosis** лаяць каго-небудзь брыдкімі словамі; 3) прыкідвацца, удаваць.

**affernalia**, ium *n pl.* пасаг для дачкі.

**affero** (ad-fero), attuli (adtuli), allatum (adlatum), afferre (adferre) [**принести** *стб.*] прыносіць; прадстаўляць, паказваць.

**affeudamentum**, i *n* 1) адданне ў эмфітэўтычнае валоданне; 2) адданне ў ліхву / пад працэнты.

**affeudatus**, a, um 1) звязаны леннай залежнасцю; 2) аддадзены ў лен.

**affeudo** 1. аддаваць у лен.

**affictarius**, ii *m* дзяржаўца / арандатар.

**afficto** 1. аддаваць альбо браць у дзяржанне / арэнду.

**affidamentum**, i *n* урачыстае абяцанне апекі і бяспекі.

**affidatura**, ae *f* плата за забеспячэнне апекі і бяспекі.

**affidatus**, a, um які застаецца пад апекай і абаронай.

**affido** 1. 1) абяцаць напэўна; абяцаць вернасць; 2) абяцаць узяць кагосьці пад пратэкцыю і абарону; 3) прыняць пад патранат; 4) заручацца (з дзяўчынай); 5) даводзіць, даказваць; 6) даказваць штосьці шляхам складання прысягі.

**affiliatio**, onis *f* [**affiliacya** *пл.*] 1) далучэнне, прыняцце; 2) прыём у брацтва; 3) прыняцце аднаго грамадства іншым да сябе для сумеснай дзейнасці;

4) усынаўленне; 5) дакумент усынаўлення; 6) дарэнне, учыненае з нагоды ўсынаўлення; 7) набыццё шляхам усынаўлення альбо ўспадкавання.

**affiliatus**, i *m* прыёмны сын.

**affilio** 1. усынаўляць.

**affinis**, is *m* родзіч, крэўны як з боку мужа, так і з боку жонкі (па мячы і па кудзелі).

**affinitas**, atis *f* (affinis) блізкая роднасць, крэўнасць ці сваяцтва.

**affirmativus**, a, um (affirmo) сцвярджальны, станоўчы: **affirmativa (vota)** [**affirmatywa** *пл.*] станоўчыя, сцвярджальныя галасы (пры галасаванні); ім супрацьстаўляюцца **negativa** — адмоўныя.

**affittator**, oris *m гл.* **affictarius**.

**afforo** 1. 1) ацэньваць; 2) вызначаць каштоўнасць тавару; 3) устанаўліваць памер грашовага пакарання.

**afforresto** 1. надаваць нейкаму абшару характар **forestum**, г. зн. каралеўскага альбо княжацкага лесу.

**affortio** 1. 1) павялічваць вартасць манеты; 2) пацвярджаць заяву супрысяжнікамі альбо сведкамі.

**affrecto** 1. наймаць карабель, фрахтаваць.

**affrontatio**, onis *f* мяжа, граніца.

**affronto** 1. заканчваць на нечым.

**affundo** (ad-fundo), fudi, fusum, ere затапляць.

**affurcillo** (ad-furcillo) 1. устрасаць, патрасаць; узрушваць.

**affusor**, oris *m* гарадскі ўраднік у Кракаве, які наглядаў за продажам піва і караў за яго падробку.

**aforaneus**, a, um чужы чалавек, чужынец; замежнік.

**aforanus**, i *m гл.* **aforensis**.

**aforensis**, is *m* чужая / замежная асоба, замежнік; іншаземец, чужаземец.

**aforesto** 1. лес ператвараць у гай.

**Afra Augustana M.** 7 жніўня.

**agalma**, atis *n* 1) малюнак; 2) падабенства; 3) гроб мучаніка; 4) вечная радасць у небе.

**agapa**, ae *f* хаўтуры, жалобны стол.

**Agapitus Ep. Conf.** 16 сакавіка.

**agaso**, onis *m* (ago) 1) [**koniuszy** *пл.*], [**машталер** *стб.*] машталер / канюшы, старэйшы конюх, стайнік, шталмайстар; 2) служка; баярын-слуга.

**agasonatus**, us *m* пасада канюшага ці стайніка.

**agasonia**, ae *f гл.* **agasonatus**.

**Agatha** 5 лютага.

**Agatho M.** 7 снежня.

**agazo** *гл.* **agaso**.

**agenda**, orum *n pl.* [**ajenda** *пл.*] 1) чын / парадак Службы Божай; 2) службоўнік — збор малітваў.

**agens**, tis [**agent** *пл.*] агент, даераная асоба, якая займаецца чыімісьці справамі. У канцлерскіх і задворных асэсарскіх судах яны былі двух відаў: адвакаты-патроны і агенты. Патроны былі ва ўласным сэнсе адвакаты, але агенты былі асобы, падпарадкаваныя ім. Абавязак апошніх палягаў на перапісцы начыста папер і пераглядзе судовых рэестраў.

**agentia**, ae *f* [**agencya** *пл.*] 1) абавязак агента; 2) земляробства.

**ager**, agri *m* [**поле, нива** *стб.*] поле; ніва, палетак: **ager in triplo** трохзменнае поле; **ager novalis** поле, якое нанава пачынаюць апрацоўваць.

**agesticum**, i *n* чынш за карыстанне грунтамі.

**agger**, eris *m* [**гребля** *стб.*] грэбля, насып.

**aggravamen**, inis *n* 1) грамадскі цяжар, павіннасць; 2) цяжар; 3) шкода, крыўда, несправядлівасць.

**aggravo** (ad-gravo) 1. абцяжарваць: **aggravat ille labor, quem nulla proemia sequuntur** абцяжарвае праца без узнагароды.

**aggregatio** (adgregatio), onis *f* (aggrego) [**aggregacya** *пл.*] напаўненне.

**aggressor** (adgressor), oris *m* (aggredior) нападнік; зламыснік; злачынец.

**agio**, ? [**ażio** *пл.*] дадатак пры абмене адных грошай на іншыя.

**agistamentum**, i *n* 1) права выпасу; 2) аплата за выпас.

**agisto** 1. ужываць неапрацаваны чужы грунт як пашу; пасвіць быдла на чужых непрыдатных землях / няўдобіцах.

**agitatio**, onis *f* (agito) [**agitacya** *пл.*] 1) рух, фізічнае ці душэўнае хваляванне; 2) забурэнне ці палітычнае хваляванне; 3) ~ **causae** вядзенне справы.

**agitator**, oris *m* (agito) 1) падбухторшчык; 2) правадыр якой-небудзь палітычнай групы.

**agito** 1. *intens.* [**agitować** *пл.*] 1) [**погонити** *стб.*] паганяць; гнаць; 2) правіць / весці справу ў судзе.

**agla**, ae *m* 1) колан, асаднік; 2) дзяржаўчы / арандаваны грунт.

**agnatio** (adgnatio), onis *f* (agnascor) дзесяціна, аддаваная ягнятамі.

**agnatus** (adgnatus), a, um *part.* родны па бацьку (па мячы), якому супастаўляецца **cognatus** родны па маці (па кудзелі).

**agnellus**, i *m demin.* [**ягня** *стб.*] ягня, ягнятка.

**Agnetis Virg. et Martyr (dies)** 21 студзеня, 16 лістапада.

**agnus**, i *m* 1) ягнец; 2) [**баран** *стб.*] баран.

**ago**, egi, actum, ere [**правовати ся, говорити, спирати, доходити правом** *стб.*] прававацца / весці (судовую справу, судзіцца; даказваць; дамагацца, патрабаваць (праз суд); спаганяць: **agor** [**идти | ити** *стб.*] ісці; датычыцца; паступаць.

**ago**, onis *m* ага, вышэйшы турэцкі ўраднік.

**agonior** 1. баяцца.

**agonizo** 1. 1) працаваць; 2) аспрэчваць; 3) выпускаць апошняе дыханне, паміраць; 4) нападаць.

**agracio** 1. [**agracjować** *пл.*] дараваць жыццё; літавацца, мілаваць; прабачаць вінаватаму.

**agrafa**, ae *f* 1) металічная вялікая і прыгожая спражка, якой у старажытнасці зашпілялі адзенне пад шыяй; 2) жалеза, якім зведзены сцены.

**agraria**, orum *n* [**agraryine** *пл.*] 1) земляробчыя прылады; 2) плата за ворную зямлю.

**agrarium**, ii *n* 1) падатак за карыстанне полем; 2) чынш, плачаны за карыстанне нядаўна ўзятай у апрацоўку зямлі; 3) дзяржанне / арэнда з абавязкам аддавання часткі прыбытку.

**agrestes**, ium *m pl.* сяляне, вяскоўцы.

**Agricola et Vitalis** 4 лістапада, 1 сакавіка.

**agricolatus**, us *m* апрацоўка панскай зямлі селянінам.

**agricultura**, ae *f* [**пашня** *стб.*] ралля.

**agripennus**, i *m* грунт, які дадаткова належыць да нейкай зямельнай уласнасці.

**Agrippina Virg. M.** 23 чэрвеня.

**aiacis**, is *m* акруга.

**aidus**, i *m* супрысяжнік.

**aisamentum**, i *n* 1) права карыстання, *асаб.* лясамі і непрыдатнымі землямі; 2) дадатковы прыбытак; 3) карыснасць.

**aisantia**, ae *f* 1) права карыстання; 2) карыстанне на чужой зямлі прадметамі, якія не належаць гэтай асобе.

**aisentia**, ae *f* 1) прыналежнасць; 2) права ўжывання.

**aisia**, ae *f* права карыстання.

**aisiamentum** *гл.* **aisantia**.

**aisina**, ae *f* 1) начынне, посуд; 2) хатні рыштунак.

**alaia**, ae *f* сплаў двух металаў.

**alatorium**, ii *n* ганак для варты на абарончых мурах.

**alaudum** *гл.* **allodium**.

**albanagium**, ii *n* права пануючага на спадчынныя рухомыя ўладанні чужаземца пасля яго смерці без спадкаемцаў.

**albania**, ae *f гл.* **albanagium**.

**Albannus M.** 21 чэрвеня.

**albanus**, i *m* чужаземец, замежнік.

**albeolus**, i *m* малады князь.

**alberga** *гл.* **albergium**.

**albergagium**, ii *n* 1) памяшканне; кватэра; 2) права на начлег і ўтрыманне.

**albergamentum**, i *n* 1) права на начлег і ўтрыманне; 2) працэнт, гадавая плата, якая ўносілася за вызваленне ад абавязку **albergium**.

**albergaria**, ae *f* 1) вайсковы абоз / лагер, бівак; 2) права на начлег і ўтрыманне.

**albergatio** 1. сельскагаспадарчая апрацоўка выкарчаванага надзелу.

**albergator**, oris *m* наймальнік, дзяржаўца / арандатар.

**albergium**, ii *n* 1) права на начлег і ўтрыманне; 2) права гасцяваць у доме васала; 3) плата асобы за выкуп яе ад павіннасці начлегу і ўтрымання; 4) двор князя альбо феадальнага пана.

**albergo** 1. 1) карыстацца правам на начлег і ўтрыманне; 2) стаяць абозам / лагерам; 3) гасцяваць.

**albergum** *гл.* **albergium**.

**Albertus Magnus** 15 лістапада.

**albigenses**, ium *m pl.* альбігойцы — ерэтычная секта ў Францыі.

**Albina** 16 снежня.

**Albinus Ep.** 1 сакавіка.

**albus**, a, um [**бельий** *стб.*] белы.

**aldiana**, ae *f* вызваленая нявольніца са статусам паўсвабоднай асобы, *наз.* **aldio**.

**aldianus**, i *m* паўсвабодны колан.

**aldiaricius**, ii *m* чалавек у статусе напаўсвабоднага колана, *наз.* **aldio**.

**aldietas**, atis *f* статус **aldio**, г. зн. вызваленага нявольніка, які рабіўся паўсвабоднай асобай.

**aldio** 1. надаць статус **aldio**.

**aldio**, onis *m* вызвалены нявольнік у статусе паўсвабоднага асадніка: **aldiones** — ганаровыя сяляне, якія, аднак, не вызваляюцца ад падпарадкавання сваім панам і ўносяць пэўны падатак.

**aldionaria**, ae *f* чынш, які плаціць **aldio**.

**aldionaricius**, a, um 1) пасаджаны на грунце як **aldio**; 2) эксплуатаваны з боку **aldio**.

**aldionaricius**, ii *m* чалавек са статусам г. зв. **aldio**, г. зн. паўсвабоднага колана.

**aldionus**, i *m* г. зн. паўсвабодны колан / асаднік.

**aldius** *гл.* **aldio**.

**Alexander Ep. Hieros.** 18 сакавіка.

**Alexius Conf.** 17 ліпеня.

**alficus**, i *m шахм.* слон, афіцэр.

**alfinus** *гл.* **alficus**.

**algorista**, ae *f* рахункавод.

**alibi** *adv.* (alius) [**инде** *стб.*] у іншым (другім) месцы; дзе-небудзь: **non** ~ [**нигде** *стб.*] нідзе; нікуды.

**alienatio**, onis *f* (alieno) [**alienacya**; **alienata** *пл.*] 1) [**отнятье** *стб.*] адыманне, аднятце; 2) адчужэнне; 3) усялякі спосаб перадачы, як напр. продаж, дарэнне, саступка, тастамент / завяшчанне і да т. п.; 4) ~ **mentis** страта прытомнасці; страта розуму, памяшальніцтва, шаленства, вар'яцтва.

**alienigena**, ae *m* (alienus) [**обчьıи, чужоземец** *стб.*] чужаземец, чужынец, замежнік.

**alieno** 1. (alienus) [**alienować** *пл.*] 1) [**отдалити** *стб.*] адчужаць: **alienatum** [**розобрано** *стб.*] адабранае; адчужанае; 2) [**отдавати | отдати** *стб.*] аддаваць ці

саступаць (сваю ўласнасць): ~ **bona hereditaria [alienować dobra dziedziczne** *пл.*] даваць; дараваць, прадаваць ці завяшчаць спадчынную маёмасць. Правам гэтым карысталіся толькі асобы, якія не мелі нашчадкаў. «**Steriles bona sua hereditaria iuxta voluntatem suam alienare possunt**» асобы, якія не маюць нашчадкаў, могуць перадаваць свае спадчынныя маёнткі па сваёй волі (Vol. Leg. I, f. 377). Але ў кожным іншым выпадку «спадчынныя ўладанні не павінны перадавацца на вечныя часы (тым, хто не мае права на спадчыну)». Vol. Leg. III, f. 855; 3) [**продавати | продати** *стб.*] прадаваць.

**alienus**, a, um (alius) *adi.* [**чужии | чужой** *стб.*] чужы; іншы.

**alimentatio**, onis *f* [**alimentacya** *пл.*] харчаванне.

**alimentator**, oris *m* распарадчык.

**alimentum**, i *n* (alo) [**alimenta** *пл.*] 1) ежа; 2) усё, што служыць для падтрымання жыцця: ежа, жытло і інш.

**alimma**, ae *f* мазь.

**aliqualis**, e усялякі, кожны.

**aliqualiter** *adv.* (aliquis) нейкім чынам.

**aliquanter** *adv.* збольшага, часткова.

**aliquantus**, a, um (alius) *pron.* 1) даволі значны, ладны; 2) *pl.* некалькі, некаторыя.

**aliquis**, aliqua, aliquid *pron.* [**некоторый, неякий, якии** *стб.*] які-небудзь, нейкі, некаторы; хто-небудзь, нехта; які.

**aliquot** *num. indef. indecl.* [**несколько** *стб.*] некалькі.

**alius**, a, ud [**инший | ынший, инакший, иньй** *стб.*] іншы, інакшы.

**allaudo** 1. (ad-laudo) 1) хваліць; выхваляць; 2) ухваляць.

**allegatio** (adlegatio), onis *f* (allegare) [**allegacya** *пл.*] даданне; прывядзенне доказаў з якога-небудзь юрыдычнага твора.

**allegatum**, i *n* [**allegat** *пл.*] дадатак; месца, прыведзенае з якой-небудзь кнігі, цытата; доказ. Напр. пазоўнік / істец прадставіў усе алегаты пазову, г. зн. усе дакументы, усе пацвярджэнні.

**allego** 1. (ad-lego) 1) высылаць, пасылаць; 2) цытаваць; 3) дадаваць, спасылацца на штосьці; 4) [**менити | меновати; поведати | поведети** *стб.*] менаваць / называць; казаць, распавядаць; паведамляць; паказваць, заяўляць, сведчыць.

**alleia**, ae *f* 1) сцежка; 2) алея; 3) калідор.

**allevale**, is *n* заспакаяльны сродак.

**alleviatio**, onis *f* [**allewiacya** *пл.*] аблягчэнне, непатрабаванне чыншавых падаткаў на пэўны час з выпадку пажараў, градабою, паводкі і непрыяцельскіх нашэсцяў.

**allevigo** 1. 1) аблягчаць; злагоджваць; 2) змяншаць; 3) вызваляць; 4) дапамагаць; 5) рабіць больш светлым, асвятляць.

**alliber**, era, erum нявольны.

**allibro** 1. 1) упісваць у гарадскія кнігі: **allibrati** (*sc.* **cives**) грамадзяне, упісаныя ў гарадскія кнігі; 2) ацэньваць.

**alligata**, ae *f* абавязацельства.

**allocatio**, onis *f* [**allokacya** *пл.*] 1) змяшчэнне; замяшчэнне: ~ **dotis** [**allocacya summy posagowey** *пл.*] змяшчэнне грашовага пасагу; 2) найм.

**alloco** 1. 1) дапускаць як рэч сапраўдную і даказаную; 2) змяшчаць; 3) асаджваць / пасяляць (на нямецкім / магдэбургскім праве); 4) запісваць на рахунак; 5) ~ **viam civitati** прызнаваць свабоду прывозу тавару ў горад; 6) прызнаваць сапраўднасць дакумента; 7) аддаваць у найм; 8) браць у найм.

**allocutio** (adlocutio), onis *f* (alloquor) [**allokucya** *пл.*] зварот, кароткая прамова.

**allodialis**, e [**allodialny** *пл.*] 1) вольны ад усіх ленных абавязкаў; 2) фальваркавы.

**allodiaris**, e прыналежны да фальварку, фальваркавы.

**allodium**, ii *n* 1) зямля, вольная ад усіх ленных правоў; 2) (спадчыннае) уладанне. Слова **allodium** запазычана са старажытнай нямецкай мовы, у якім **odh** азначала ўласнасць, **all-odh** завершаная ці поўная ўласнасць; **foe-odh** умоўная ўласнасць — **feudum**; і таму аладыялізм ёсць сістэма зямельнай уласнасці, уладар якой не залежыць ні ад каго, хто б мог распараджацца гэтай уласнасцю. Але пры феадальным ладзе адзін толькі манарх з'яўляецца ўладальнікам зямельнай уласнасці, а ўсе падданыя не больш як спадчынныя ўладальнікі — **possessores**.

**allogiamentum**, i *n* вайсковы абоз / лагер, бівак.

**allogio** 1. стаяць абозам / лагерам.

**allophylus**, i *m* чужаземец, замежнік.

**allucratio**, onis *f* прыбытак; выгада.

**alludo** (ad-ludo), lusi, ere [**alludować** *пл.*] намякаць; узгадваць; параўноўваць.

**allusio** (adlusio), onis *f* (alludo) [**alluzya** *пл.*] 1) намёк; указанне; 2) папрок.

**alluvies** (adluvies), ei *f* (alluo) 1) нанос, які застаецца пасля адтоку вады; 2) прырашчэнне зямлі пасля аддалення вады.

**alluvio** (adluvio), onis *f* (alluo) [**przysep** *пл.*] дадатак добрай зямлі ў выніку сцёку ці адліву вады, якая яе пакрывала.

**almanicalis**, e нямецкі.

**almeinda**, ae *f* 1) супольны грунт; 2) агульнае карыстанне.

**almifluus**, a, um (almus) 1) святы; 2) уроджаны, г. зн. высакародны, шляхетны, шляхціц.

**almigenus**, a, um уроджаны, г. зн. высакародны, шляхетны, шляхціц.

**almus**, a, um жыццядайны; які жывіць, корміць, гадуе: **alma urbs** жыццядайнае места / горад — у пастановах Позняй Імперыі азначэнне Канстанцінопаля; **Alma Mater** маці-карміцелька, (родны) універсітэт.

**alnaldus**, i *m* паўсвабодны селянін.

**alnetum**, i *n* алешнік; месца, парослае альхой.

**aloarius**, ii *m* той, хто пацвярджае сапраўднасць учыненага ім дзеяння.

**alodas** *гл.* **allodium**.

**alodiarius**, ii *m* 1) уладальнік; 2) васал, які мае лен.

**alodio** 1. перадаць ва ўласнасць.

**alodio**, onis *m* саўладальнік; суспадчыннік.

**alodis** *гл.* **allodium**.

**alosa**, ae *f* заклад.

**aloxinium**, ii *n* пітны мёд.

**alpego** 1. 1) гнаць быдла ў горы альбо там яго выпасаць; 2) пасвіць на горных пашах.

**alpestre**, is *n* горны рэгіён.

**alta**, ae *f* дачка.

**altagium** *гл.* **altaragium**.

**altaragium**, ii *n* прыбыткі з алтара, у старажытных католікаў касцёльны прыбытак з палёў, вінаграднікаў, сенажацяў і звычайныя прынашэнні.

**altaria**, ae *f* [**altaria** *пл.*] 1) фундуш на алтар, запіс на ўтрыманне алтара; 2) бэнэфіцый, звязаны з нейкім алтаром.

**altarista**, ae *m* [**altarzysta** *пл.*] 1) алтарыст — асоба, якая прыслугоўвае пры алтары, пры набажэнстве; 2) іншы ксёндз пры плебане, дадзены яму на дапамогу.

**alter**, era, erum 1) другі: **alterum tantum** [**drugie tyle, dwa razy tyle** *пл.*] яшчэ гэтулькі ж; 2) [**иншии | ьншии, инакшии, иньіи** *стб.*] іншы, інакшы; 3) [**чужии | чужой** *стб.*] чужы.

**alteratio**, onis *f* [**alteracya** *пл.*] 1) змена, перамена; 2) розніца; 3) змена духоўнага стану: турбота, засмучэнне, раздражненне, моцны смутак ці моцны гнеў; 4) тое, што і **alienatio (mentis)**.

**altercans**, ntis *m* спрачальнік / удзельнік судовай спрэчкі.

**altercatio**, onis *f* (altercor) [**alterkacya** *пл.*] спрэчка; сварка.

**alternatio**, onis *f* (alterno) [**alternacya, alternata, alternatywa** *пл.*] 1) змена, перамена, чаргаванне; 2) складаныя акалічнасці.

**alterno** 1. (alternus), *tr.* [**alternować** *пл.*] рабіць што-небудзь па чарзе, напераменку, чаргаваць, перамяняць.

**altista**, ae *f* паўсвабодны колан.

**alumnatus**, us *m* [**alumnat** *пл.*] установа, у якой выхаванцы бясплатна атрымліваюць выхаванне і ўтрыманне.

**alumnus**, i *m* [**alumnus** *пл.*] бясплатны выхаванец.

**alvearium**, i *n* (alveus) [**улей** *стб.*] вулей.

**alveus**, i *m* 1) [**корыто** *стб.*] карыта; 2) [**речище** *стб.*] рэчышча; 3) старыца (старое рэчышча ракі).

**amaioro** 1. павялічваць.

**Amalia** 8 кастрычніка.

**amallus**, i *m* 1) саўдзельнік злачынства; 2) адвакат пазванага ў суд.

**Amandus Ep.** 26 кастрычніка.

**amaro** 1. (amarus) [**amarykować** *пл.*] 1) рабіць што-небудзь горкім; 2) горка наракаць, жаліцца; гараваць.

**amasio** 1. наняць.
**ambactus**, i *m* 1) слуга; 2) збраяносец, пахолак.
**ambages**, um *f pl.* [**ambaje** *пл.*] звіліны; двухсэнсоўнасць; балбатня; трызненне.
**ambagium**, ii *n* частка рыцарскага ўзбраення.
**ambarium**, ii *n* 1) бар'ер; 2) палісад.
**ambascia**, ae *f* 1) ускладзены на каго-небудзь абавязак, даручэнне; 2) пасольства; 3) паездка; 4) транспартныя паслугі.
**ambasciaria**, ae *f* 1) дыпламатычная місія; 2) амбасада.
**ambasciata**, ae *f* 1) дыпламатычная місія; 2) амбасада; 3) пасада пасла.
**ambasciator**, oris *m* 1) амбасадар; 2) пасол, пасланнік.
**ambasciatus**, us *m* 1) дыпламатычная місія; 2) даручэнне.
**ambascio** 1. 1) перадаваць даручэнне; 2) займаць пасаду амбасадара; 3) даносіць што-небудзь ад імя іншага.
**ambassiata**, ae *f* 1) пасольства, місія; дэлегацыя; 2) прадмет, мэта місіі.
**ambaxacia**, ae *f* пасольства, місія.
**ambaxaria**, ae *f* 1) пасольства; 2) місія пасла.
**ambegatio**, onis *f* занятце быдла ў шкодзе.
**amblacium**, ii *n* вяроўка для прывязвання жывёлы да ярма.
**ambrosia**, ae *f* [**ambrozja** *пл.*] амброзія — ежа паганскіх багоў.
**Ambrosius Ep.** 4 красавіка.
**ambulans**, ntis 1) перасоўны шпіталь; 2) аб'езд чыноўнікаў для збірання падаткаў.
**ambulatorium**, ii *n* г. зв. уход — права ўваходу на пэўныя тэрыторыі, *асаб.* у лес.
**amburbalia**, ium *n pl.* [**amburbalya** *пл.*] набажэнства ў рымлян для прадухілення якога-небудзь няшчасця, што пагражала месту.
**amercio** 1. прызначаць штраф за злачынства.
**amiculum**, i *n* (amicio) вопратка, верхняе адзенне.
**amicus**, i *m* [**приятель** *стб.*] прыяцель, сябар; крэўны, крэўнік.
**aminatio**, onis *f* абвінавачванне.
**amirada**, ae *f* эскадрон.
**amiragia**, ae *f гл.* **amirallia**.
**amiragius**, ii *m гл.* **amirarius**.
**amiraldus**, i *m* 1) камандзір; 2) адмірал; 3) вайсковы намеснік; 4) эмір; 5) каліф.
**amirallia**, ae *f* пасада адмірала.
**amiralus**, i *m* 1) адмірал; 2) эмір.
**amirarius**, ii *m* адмірал.
**amiratia**, ae *f* адміральскі карабель.
**amissio**, onis *f* (amitto) [**страченье** *стб.*] страта; пазбаўленне: **sub amissione** [**под страченьем** *стб.*] пад пагрозай пазбаўлення, страты, пройгрышу; ~ **pretensionis** страта права ці прэтэнзіі на нешта.

**amissum**, i *n* 1) пройгрыш справы ў судзе; 2) сума, выплачваная працўніку паводле выраку бокам, які прайграў суд.

**amitana**, ae *f* сястра бацькі, цётка.

**amitanus**, i *m* сын сястры бацькі, стрыечны брат, кузін.

**amitto**, misi, missum, ere [**впустити | упустити; потерати, втратити (реч), потратити, стратити** *стб.*] упускаць, страчваць, губляць; прайграваць (справу); растрачваць.

**amma**, ae *f* чараўніца, вядзьмарка.

**ammannus**, i *m* 1) ураднік / службовец; 2) адміністратар; 3) кіраўнік акругі.

**ammoneo**, monui, monitum, ere звяртаць увагу; рабіць заўвагу, дакараць.

**ammonium**, ii *n* род глыбаў солі.

**amortizatio**, onis *f* [**amortyzacya** *пл.*] знішчэнне доўгу шляхам выплаты капіталу.

**amortizo** 1. [**amortyzować** *пл.*] 1) заморваць, умярцвяць, знішчаць; 2) прызнаваць які-небудзь запіс несапраўдным, неправамоцным.

**amparamentum**, i *n* 1) пратэкцыя, заступніцтва; 2) прыўлашчанне / прысваенне.

**amparantia**, ae *f* 1) пратэкцыя, апека; 2) абавязковая аплата за пратэкцыю; 3) заклад.

**amparo** 1. 1) спрыяць; аказваць пратэкцыю, апекавацца; заступацца, абараняць; 2) рабіць нашэсце; авалодваць; 3) прысвойваць сабе нешта пад выглядам апекі; 4) браць у заклад.

**amphibolia**, ae *f* [**amfibolja** *пл.*] двухсэнсоўнасць.

**amphictyonis**, is *m* [**amfiktyon** *пл.*] дэпутат, амфіктыён. Амфіктыёны абіраліся з розных гарадоў для ўсеагульнай нарады.

**amphitrio**, onis *f* 1) мора; 2) Балтыйскае мора, Балтыка.

**amphora**, ae *f* [**amfora** *пл.*] 1) амфара — у старажытных вялікая пасудзіна на віно; 2) вядро.

**amputatio**, onis *f* (amputo) [**втятье** *стб.*] уцяцце / адсячэнне, адцяцце.

**amputo** 1. [**втяти** *стб.*] уцінаць / адсякаць, адразаць.

**amusoterus**, i *m* неадукаваны чалавек.

**Anacletus P. et. M.** 13 ліпеня.

**anagnosta**, ae *m* чытальнік.

**anagrafus**, i *m* [**anagraf** *пл.*] разец.

**analogia**, ae *f* падабенства, аналогія; у правазнаўстве — выснова ад аднаго выпадку, вызначанага законам, ужытая да іншых падобных.

**Ananias, Azaria et Misael** 16 снежня.

**anas**, atis *f* [**утка** *стб.*] качка: ~ **masculus** [**селезень** *стб.*] селязень; **anas aucupiarum circulo insidens** [**круговая утка** *стб.*] круговая / падсадная качка.

**Anastasia M.** 24 снежня, 27 лютага.

**Anastasius P.** 27 красавіка, 20 снежня.

**Anatolius et Heliodorus Ep.** 3 ліпеня.

**anax**, acis *m* уладца, пануючы.
**anchorarium**, ii *n* плата, якая ўносілася за права стаць на котве / якары караблям у порце.
**ancianus**, i *m* гарадскія старэйшыны, патрыцыят.
**ancillatus**, us *m* (ancillor) служэнне; падданасць.
**andecinga**, ae *f* частка панскага грунту, аддадзеная колану для апрацоўкі.
**andelangus**, i *m* прадмет, які ўручаўся на знак перадачы феадальнай уласнасці, верагодна, пальчатка.
**andigo** 1. складаць тастамент / завяшчанне ў здаровым стане. Гэтаму слову супрацьстаўляецца **arigo** рабіць тастамент / завяшчанне падчас хваробы.
**andilagus**, i *m* асабістае ўручэнне.
**andilangus**, i *m* *гл.* **andilagus**.
**ando** 1. ісці.
**Andreas Apostolus** 30 лістапада.
**andrium**, ii *n* 1) публічная бяседа; 2) прыватны дом.
**angaria**, ae *f* [**angaria** *пл.*] 1) пад гэтым словам спачатку разумелі абавязак перавозіць каралеўскую ці княжацкую зброю, вайсковы рыштунак і іншыя неабходныя рэчы з аднаго месца на іншае. Пасля ангарыяй называлі абавязак развозіць лісты і ўніверсалы, які ляжаў на баярах (Vol. Leg. II, f. 1233). А затым пад назваю ангарыі разумелі падатак на падводы; 2) аброк, цяжар, накладзены на сялян; 3) уціск, крыўда; 4) сціслы пост, які ў католікаў быў чатыры разы ў год, *гл.* **quatuor tempora**.
**angariatio**, onis *f* 1) абцяжаранне павіннасцямі на карысць уладцы альбо феадальнага пана; 2) прымус.
**angaricus**, a, um датычны феадальных павіннасцей.
**angario** 1. прымушаць, несправядліва патрабаваць.
**angarium**, ii *n* 1) павіннасці на карысць уладцы альбо феадальнага пана; 2) аплата; падатак; 3) канюшня; стайня; 4) агароджа ля кузні, у якой падкоўвалі палахлівых коней.
**angarius**, i *m* абавязаны аказваць паслугі, *наз.* **angariae**.
**angarus**, i *m* 1) падвода; 2) абавязак прадстаўлення падвод.
**Angela fulginans Vid.** 20 сакавіка.
**Angelus de Gluvasio Conf.** 12 красавіка.
**animadversitas**, atis *f* пакаранне.
**animadverto** (animadvorto), verti (vorti), versum (vorsum), ere [**карати | скарати** *стб.*] караць, паддаваць пакаранню.
**animator**, oris *m* (animo) [**dusznik, człowiek zaduszny** *пл.*] прыгонны чалавек, запісаны ў дар касцёлу з тым, каб прыбытак з гэтага чалавека ішоў на касцёл, а сам ён павінен быў служыць свайму пану.
**animeitas**, atis *f* сутнасць і добрыя якасці душы, душэўнасць.
**animella**, ae *f* дадатак да ліста з канфідэнцыйнымі звесткамі.
**Anna** 26 ліпеня.

**annale**, is *m* 1) угодкі якога-небудзь свята; 2) гадавы прыбытак.

**annata**, ae *f* гадавы прыбытак арцыбіскупа, біскупа і абата, які яны выплачвалі пры атрыманні свайго сану, першапачаткова Рымскай катэдры, а пасля ў Польшчы ў каронны скарб, а ў Літве-Беларусі ў скарб Вялікага Княства Літоўскага (Vol. Leg., a. 1543, VI, f. 571). Закон гэты пацверджаны соймавымі пастановамі 1567, 1569 і 1576 гадоў.

**annexus**, us *m* [**annexy** *пл.*] 1) злучэнне; сувязь; 2) дадатак.

**annihilatio**, onis *f* 1) знішчэнне, скасаванне; 2) пазбаўленне юрыдычнай моцы.

**annihilo** (adnihilo) 1. знішчаць; адымаць усялякае значэнне, моц (пра запісы).

**anniversarium**, ii *n* угодкі, гадавіна ці памінанне нябожчыка па заканчэнні года, у самы дзень ягонай смерці.

**annona**, ae *f* 1) гадавы ўраджай, харчовыя прыпасы; 2) пшаніца; жыта; 3) гадавы падатак, які выплачваецца збожжам.

**annotatio** (adnotatio), onis *f* *гл.* **adnotatio**.

**annuale** *гл.* **annale**.

**annualis**, is *m* 1) прыбытак з прэбэнды (касцёльных добраў / уладанняў) у першы год; 2) угодкі нараджэння альбо смерці; 3) св. Імша на ўспамін (памерлага).

**annuata**, ae *f* гадавы прыбытак, атрыманы за капітал, які ўжо не падлягае вяртанню.

**annuatim** *adv.* (annus) штогод.

**annuitas**, atis *f* гадавы прыбытак; гадавое ўтрыманне.

**annulus**, i *m*: пярсцёнак: ~ **arrhae** зарука веры.

**Annunciatio B. V. Mariae** Звеставанне Найсвяцейшай Багародзіцы, 25 сакавіка.

**annunciatio**, onis *f* [**annuncyacya, annons** *пл.*] 1) аб'ява; 2) позва; 3) наказ; пасольства.

**annus**, i *m* [**год** *стб.*] год: **anni** [**лета** *стб.*] леты / гады; **anni, anni perfectae aetatis** [**лета дорослые, зуполные, свои** *стб.*] паўналецце; **annos perfectae aetatis** [**до лет** *стб.*] да паўналецця; **Annus Circumcisionis** год Нараджэння Хрыстова; ~ **discretionis** год паўналецця, якім паводле законаў ВКЛ і Польшчы лічыўся дваццаты год жыцця ці, дакладней, дваццаць гадоў. Нягледзячы на гэта, дваццацігадовы ўзрост не даваў яшчэ права рабіць дароўных запісаў, закладных угодаў і да т. п. Поўным паўналеццем лічыліся 24 гады. Vol. Leg. VII, f. 707; ~ **et dies** поўны год ці год і шэсць тыдняў; **annus gratiae** год ад смерці якога-небудзь каноніка, прыбыткі якога абярталіся на карысць іншых каронікаў ці на карысць касцёла, на шкоду ягонаму пераемніку; ~ **lunaris embolismaeus** месяцовы эмбалістычны год (ад гр. слова **emballo** укідваю). 19 юліянскіх гадоў, якія складаюць месяцовы круг, утрымліваюць у сабе 228 сонечных месяцаў. Пастаянная розніца 11 дзён паміж сонечным і месяцовым годам за 19 гадоў складае 209 дзён, якія роўныя 7 месяцовым месяцам, з якіх 6 поўных, па 30 дзён кожны, і адзін няпоўны — 29 дзён; так

што на працягу 228 сонечных месяцаў месяцовых месяцаў праходзіць 228 і 7 ці 235. І таму на 19 сонечных гадоў прыпадае 12 месяцовых гадоў, па 12 месяцаў кожны, і 7 гадоў па 13 месяцаў. Гады па 13 месяцаў называюцца эмбалістычнымі, устаўнымі ці ўкінутымі. Гады гэтыя адпавядаюць гадам месяцовага круга 3-му, 6-, 9-, 11-, 14-, 17- і 19-му; ~ **lunaris synodicus** месяцовы сінадычны год, у Пасхаліі звычайна лічыцца роўным 354 дням. Але ўласна месяцовы сінадычны год роўны 354 дням, 8 гадзінам, 48 хвілінам, 34,3 секунды; ~ **solaris** сонечны ці трапічны год. Паводле найноўшых вылічэнняў ён роўны 365 дням, 8 гадзінам, 48 хвілінам і 46,1 секунды. Апрача трапічнага года, у Пасхаліі адрозніваюць сонечны год юліянскі і грыгарыянскі, *гл.* **Stylus novus**. Першы складаецца з 365 дзён і 6 гадзін, а другі з 365 дзён, 5 гадзін, 4 хвілін і 12 секунд паводле вылічэнняў астраномаў 1582 года; **Annus Trabeationis** год мукі Збаўцы.

**ansa**, ae *f* [**ansa** *пл.*] 1) ручка; 2) нагода; выпадак; 3) нядобразычлівасць; мсцівасць.

**Anselmus Ep. Luc.** 18 сакавіка, 21 красавіка.

**anser**, eris *m* [**гусь** *стб.*] гусь; гусак.

**Ante candelas (dominica)** нядзеля перад святам Ахвяравання Пана — Грамніцамі.

**Ante carnisprivium (dominica)** нядзеля мясапусная.

**Ante festum Purificationis (dominica)** нядзеля перад святам Ахвяравання Пана — Грамніцамі.

**Ante litanias (dominica)** 6-я нядзеля па Вялікадні.

**antecessor**, oris *m* (antecedo) папярэднік; продак.

**antecessus**, us *m* (antecedo) задатак на дзяржаўчы / арэндны чынш.

**antecomitialis**, e [**antekomicyalny** *пл.*] папярэдні сойму, перадсоймавы.

**antecustodia**, ae *f* авангард.

**antedato** 1. [**antedatować** *пл.*] ставіць у лісце год і дзень раней за бягучы год і дзень, пазначаць папярэдняй датай.

**antedecessor**, oris *m* 1) папярэднік; 2) продак.

**antegardia**, ae *f* 1) авангард; 2) першы шэраг у баявым шыхце / парадку.

**antegravius**, ii *m* маркграф.

**anteiuramentum**, i *n* прысяга, якая папярэднічала скарзе повада / пазоўніка / істца ў франконскім працэсе і якая павінна была гарантаваць, што повад не дзейнічае лёгкадумна, а таксама з нянавісці, сутяжніцтва альбо дзеля карысці.

**antelectum**, i *n* ранішні падарунак мужа жонцы.

**antelegatus**, a, um раней перададзены.

**antenatus**, a, um першародны.

**antenatus**, i *m* [**antenat** *пл.*] 1) старэйшы; сеньёр; 2) папярэднік; продак; 3) пасынак.

**anteosto** 1. бараніць; адбіваць.

**antepectorale**, is *n* нагруднік.
**antequisitus**, a, um раней набыты.
**anterior**, oris (ante) 1) даўнейшы; старэйшы; 2) папярэдні: **anteriora** ранейшае, папярэдняе. У актавай мове азначае ранейшыя рашэнні і пагадненні, якія адносяцца да пэўнай справы.
**Anthimus Ep. Nicomed. M.** 27 красавіка.
**Anthonianus M.** 3 верасня.
**Anthonina M.** 12 чэрвеня.
**Anthonius de Padua** 13 ліпеня, 15 студзеня.
**Anthonius Erem.** 17 студзеня.
**antica**, ae *f* галоўная брама; фронт партала.
**anticapativa (solutio) [płata z góry** *пл.*] папярэдняя выплата, калі найманне ці арэнда выплачваюцца перад пачаткам карыстання рэччу.
**anticipando [z góry** *пл.*] наперад, загадзя, да тэрміну, напр., аплачваючы за цэлы год наперад.
**anticipo** 1. (ante [**antycypować** *пл.*] папярэднічаць, заўчасна што-небудзь дапускаць ці атрымліваць.
**antinomi, orum** *m pl.* ерэтыкі, якія не прызнаюць абавязку падпарадкавання маральным прынцыпам.
**antinomia**, ae *f* [**antynomia** *пл.*] супярэчнасць двух законаў.
**Antipascha** 2-і тыдзень пасля Велікоднага тыдня.
**antiquior**, ius [**старший** *стб.*] старэйшы.
**antiquitus** *adv.* [**давно, здавна** *стб.*] даўно, здаўна.
**antiquus**, a, um [**давный, старый, стародавный** *стб.*] даўні, былы; стары, старадаўні.
**antrustio**, onis *f* 1) ахоўнік, абавязаны збройна абараняць свайго пана; 2) жаўнер каралеўскай гвардыі; 3) абаронца; 4) памочнік, памагаты.
**anxietas**, atis *f* (anxius) [**втиски** (толькі мн. л.) *стб.*] уціск, прыгнёт: **anxietatem inferre [вчинити втиски** *стб.*] уціскаць, прыгнятаць.
**apaltus**, i *m* (-us) дзяржанне / арэнда.
**apanagium**, ii *n* 1) частка спадчыны, прызначаная на ўтрыманне малодшага брата згодна з прынцыпам леннай непадзельнасці; 2) пэўны гадавы прыбытак, які прызначаўся з уладання, што не падпала пад падзел другарадным родзічам.
**apanamentum** *гл.* **apanagium**.
**apano** 1. 1) карміць, утрымліваць; 2) даваць хлеб і ваду; 3) даваць малодшаму брату сродкі са спадчыны згодна з прынцыпам леннай непадзельнасці.
**aper**, apri *m* [**вепр | вепрь** *стб.*] вепр, дзік; парсюк.
**aperio** 4. [**отворити** *стб.*] адкрываць, адчыняць.
**apex**, picis *m* (apio) пасланне, ліст.
**apiarius** (apis), ii *m* бортнік.
**apiaster**, tri *m* *гл.* **apiarius**.

**apiculus**, i *m* 1) літара; 2) слова; 3) *pl.*: лісцік, лісток.

**apirocalia**, ae *f* бязмежная дабрыня.

**apis**, is *f* [**бчола | пчола** *стб.*] пчала: **apum** [**бчолный** *стб.*] пчольны / пчаліны: **tactae apes** [**лажоньие бчолы | пчолы** *стб.*] лажаныя пчолы / пчолы з выбраным з вулляў мёдам.

**apisserium** ii *гл.* **apisterium**.

**apisterium**, ii *n* пасека, пчальнік.

**apocopo** 1. адсякаць, адцінаць; нявечыць, калечыць.

**apocrisiarius**, i *m* 1) адказны ўраднік; 2) прадстаўнік папы; 3) легат альбо нунцый у Канстанцінопалі; 4) княжацкі альбо касцёльны ўраднік; 5) тытул, які даваўся некаторым дастойнікам / саноўнікам; 6) канцлер, які захоўвае дзяржаўную пячатку; 7) скарбнік, у якога захоўваюцца касцёльныя грошы; 8) [**myncarz** *пл.*] прабірмайстар, ацэншчык добрай якасці звонкай манеты.

**apocryphus**, i *m* [**apokryf** *пл.*] рукапіс ці кніга, якая не мае кананічнага значэння, якая прыпісваецца аўтару, што яе не пісаў.

**apodemus**, a, um чужы.

**apodicticus**, a, um [**apodyktyczny** *пл.*] ападыктычны, зусім дакладны, доказаны, не падлеглы ніякаму сумневу.

**apolis**, idis *m* баніт / выгнаннік, пазбаўлены грамадзянскіх правоў.

**Apollinaris Ep. Rauen. M.** 23 ліпеня.

**apollinaris**, is 1) мандрагора; 2) род стрыхніну.

**Apollonia V. M.** 9 лютага.

**Apollonius A. Leontius Ep.** 19 сакавіка.

**apologesis**, is 1) абарона; 2) абарончы / ахоўны ліст.

**apologia**, ae *f* [**apologya** *пл.*] пісьмовае апраўданне ці абарона; адказ на несправядлівыя пярэчанні.

**apologium**, ii *n* 1) абарона; 2) апраўданне (ад абвінавачванняў).

**apophoreta**, ae *f* 1) міска; 2) рэліквіяр.

**apostolatus**, us *m* (apostolus) 1) біскупскі сан; 2) папскі сан.

**apostolico** 1. атрымаць папскую годнасць, папскі сан.

**apostolicum**, i *n* папскае пасланне, дэкрэт, була.

**apostolicus**, a, um 1) апостальскі, папскі: **Apostolica sedes** Апостальскі пасад, Папская курыя, Рымская катэдра; 2) біскупскі.

**apostolicus**, i *m* 1) усялякі біскуп; 2) папа.

**apostolo** 1. атрымаць папскую годнасць, папскі сан.

**Apostolorum divisio seu dimissio** Падзел Апосталаў, 15 ліпеня.

**apostolus**, i *m* 1) апостал; 2) пасланец, пасланнік; 3) звальняльнае сведчанне — лісты, якія каталіцкія біскупы і афіцыялы давалі клерыкам і нават асобам свецкім, адпраўляючы іх у іншую дыяцэзію.

**apothecarius**, i *m* (apotheca) аптэкар.

**appactuo** 1. укладаць дамову.

**appalto** 1. здаваць / браць у дзяржанне / арэнду.

**appaltor**, oris *m* дзяржаўца / арандатар.

**appaltum**, i *n* дзяржанне / арэнда.

**appar**, is *m* 1) абежны ліст / цыркуляр, ідэнтычныя асобнікі якога накіроўваюцца да розных адрасатаў; 2) копія.

**apparatura**, ae *f* каштоўнасці; ювелірныя вырабы, біжутэрыя.

**apparatus**, us *m* (apparo) [**aparat** *пл.*] 1) [**статок** *стб.*] маёмасць; абсталяванне, рыштунак, прылады; 2) падрыхтоўка; 3) запас; 4) касцёльныя прадметы і касцёльнае аздабленне.

**Apparitio Domini** Аб'яўленне Пана, 6 студзеня.

**Apparitio s. Michaelis** аб'яўленне св. Міхала, 8 траўня.

**appartiamentum**, i *n* падзел уладанняў паміж вольнымі людзьмі.

**appellatio**, onis *f* (appello) [**apellacya** *пл.*] 1) [**отзыванье** *стб.*] адзоў / апеляцыя, зварот; 2) перанясенне судовай справы з ніжэйшай у вышэйшую інстанцыю суда. Старажытныя юрысты ВКЛ і Польшчы паказалі выпадкі, у якіх апеляцыя не можа быць дапушчана, у наступных чатырох вершах:

**Sublimis iudex, scelus, executio, pactum,**
**Contemptus et res minima, dilatio nulla,**
**Clausula, quae removet, res, quae notorie constat,**
**Et textus iuris clarus, possessio, fatum.**

**Sublimis iudex** на суд вышэйшай інстанцыі апеляцыя не дапускаецца;

**Scelus** таксама ў выпадку відавочнага, адкрытага злачынства;

**Executio** не падавалі апеляцыі, калі ўжо адбыўся выканаўчы вырак;

**Pactum** калі бакі папярэдне дамовіліся не апеляваць;

**Contemptus** калі хто не з'явіўся ў суд і тым прайграў справу **in contumaciam** — з прычыны нез'яўлення;

**Res minima** г. зн. з прычыны малаважнасці справы, напр., калі яна не перавышала 100 злотых;

**Dilatio nulla** намі не было адтэрміноўкі;

**Clausula, quae removet** г. зн. калі быў закон, што такая справа павінна завяршыцца ў пэўным судзе;

**Res, quae notorie constat** г. зн. калі той, хто хацеў апеляваць сам, не знаходзіў дастатковай прычыны для апеляцыі;

**Et textus iuris clarus** пад гэтым разумелі: справы пра дзесяціны, выкуп закладу, звады, учыненыя кімсьці на сойміках;

**Possessio** калі выгнаны з маёнтка ўладальнік меў пастанову суда ўступіць у яго;

**Fatum** азначала тое самае, што і даўнасць; **praecisa appellatione** без дапушчэння апеляцыі.

**appellatus**, i *m* 1) у англійскім праве абвінавачаны ў злачынстве прыватнай асобай у супрацьлегласць да абвінавачанага лаўнікамі; 2) **appellati** ліст, які ўведамляе вышэйшую інстанцыю аб унясенні апеляцыі.

**appello** (ad-pello) 1. [**назвати; отзывати, отзывати ся | отозвати ся** *стб.*] 1) назваць; 2) адзывацца / апеляваць, звяртацца да вышэйшага суда, не задавольваючыся выракам суда ніжэйшай інстанцыі.

**appendaria**, ae *f* 1) прыналежнасці; 2) гаспадарчыя будынкі, звязаныя з апрацоўкай раллі.

**appendix**, icis *f* (appendo) дадатак, далучэнне; прыпіска. Гэтыя дадаткі ці прыпіскі паводле закону не мелі ніякага значэння ва ўніверсалах караля, якія адносіліся да падаткаў, і ў соймікавых пастановах, калі гэтыя прыпіскі былі б накіраваны на змяншэнне прыбыткаў. Vol. Leg. IV, f. 103; IV, f. 850.

**appennis**, is ? дакумент, узноўлены пасля страты аўтэнтычнага.

**appensus**, us *m* 1) прывешванне пячаці да дакумента; 2) прыналежнасць.

**applegio** 1. 1) даць забеспячэнне; 2) аддаць нешта ў заклад.

**applicantes**, ium *m pl.* апліканты — ніжэйшыя канцылярскія службоўцы ў сярэднявечнай Польшчы (*наз. тс.* **officiales cancellariae**, **scribentes**, **terminatores**, **palaestrantes**, **cancellaristae**).

**applicatio**, onis *f* (applico) [**aplikacya** *пл.*] 1) стараннасць; 2) вучэнне; 3) ужыванне.

**appono** (ad-pono), posui, positum, ere [**приложити** *стб.*] прыкладаць.

**apporto** (ad-porto) 1. [**принести** *стб.*] прыносіць; прадстаўляць, паказваць: **apportatus** [**принесеный** *стб.*] прынесены.

**appositum**, i *n* (appositus) 1) выдатак; 2) заклад; парука; 3) суседства; 4) азначэнне, акрэсленне; 5) прыдомак / мянушка; 6) *грам.* прыметнік.

**appositura**, ae *f* выдаткі на нешта, затраты.

**appotio** 1. труціць нейкай вадкасцю.

**apprebendo** 1. удзяляць / надаваць касцёл як прэбэнду.

**apprehendo** (ad-prehendo), prehendi, prehensum, ere [**забирати | забрати; заставати | застати** *стб.*] забіраць, адбіраць; заставаць, засцяваць; знаходзіць, выяўляць.

**apprehensor**, oris *m* слуга.

**apprenticius**, ii *m* вучань; чаляднік.

**appressio**, onis *f* уражанне.

**appretiativus**, a, um які ацэньвае, які вызначае кошт.

**appretiator**, oris *m* таксатар, ацэншчык.

**appretiatum**, ii *n* ацэньванне, ацэнка.

**appretiatus**, a, um 1) наёмны; 2) ацэнены.

**apprisia**, ae *f* судовае расследаванне.

**approbatio**, onis *f* (approbo) [**approbacya** *пл.*] 1) ухвала, пацвярджэнне; 2) пацвярджэнне каралём ранейшых законаў, ранейшых правоў і прывілеяў, дадзеных папярэднікамі.

**approbo** (ad-probo) 1. [**потвердити | потвержати** *стб.*] пацвярджаць; зацвярджаць; сцвярджаць: **approbatus** [**привильеваный** *стб.*] прывілеяваны (які

атрымаў прывілей); **approbatus [потвердити ся в законе** *стб.*] прыняты ў манаства.

**appropinquitas**, atis *f* права спадкаемства на падставе роднасці.

**appropriatio**, onis *f* (approprio) 1) прыўлашчанне / прысваенне; 2) адданне ва ўласнасць; 3) прыход, прыбытак.

**approprietas**, atis *f* перадача / перанясенне ўласнасці.

**approprio** (ad-proprio) 1. 1) набліжацца; 2) быць блізка; 3) звяртацца; 4) аддаваць ва ўласнасць; 5) уключаць, інкарпараваць; 6) прысвойваць; 7) патрабаваць вяртання; 8) прызначаць.

**appruo** 1. карыстацца; абярнуць што-небудзь на сваю карысць.

**appublico** 1. абвяшчаць.

**appulo**, ere 3. 1) высаджвацца; 2) павярнуць да чагосьці.

**appunctamentum**, i *n* кампраміс, палюбоўная дамова паміж бакамі.

**appuncto** 1. пералічваць спрэчныя пытанні дзеля правядзення арбітражу.

**appunctuamentum**, i *n* дамова, складзеная па пунктах.

**appunctuo** 1. згаджацца, пагаджацца; укладаць дамову па пунктах.

**aprindo**, ere 3. займаць зямлю, яшчэ не апрацаваную альбо пакінутую.

**aprisio**, onis *f* 1) атрыманне зямлі для апрацоўкі ў выніку карчавання (першапачатковы спосаб набыцця ўласнасці); 2) незаконнае прысваенне.

**aptificatio**, onis *f* 1) задаволенне, сатысфакцыя; 2) згода.

**aptifico** 1. 1) прымаць, згаджацца: ~ **mihi** мне падабаецца; 2) пацвярджаць.

**aptus**, a, um прыдатны, варты, годны, адпаведны: ~ **aptus [негодный** *стб.*] непрыдатны, непрыгодны.

**Aqua sapientiae** Вада мудрасці, аўторак па Вялікадні.

**aqua**, ae *f* [**вода** *стб.*] вада: **aqua vitae [akwawita** *пл.*] акавітка / перагнаная гарэлка, часам лікёр.

**aquaeductus**, us *m* [**akwedukt** *пл.*] вадаправод, труба ці канал, праз які вада праведзена ў горад ці ў дом.

**aquaemola**, ae *f* водны млын.

**aquatia**, ae *f* вынік лоўлі ў час аднаго выхаду чоўна.

**aquaticum**, i *n* 1) навігацыйная аплата; 2) права карыстацца вадой; 3) дазвол паіць быдла; 4) аплата за паенне жывёлы.

**aquito** 1. 1) здаваць справаздачу з атрыманага і выдаткаванага; 2) супакойваць; забяспечваць.

**arata**, ae *f* 1) працы, зробленыя плугам; 2) пераворванне чужой мяжы; захоп.

**aratralia**, ium *n pl. s.* **aratralis annona** г. зв. плужнае — падатак у збожжы, плачаны сялянамі ад плуга, г. зн. ад адзінкі зямельнай плошчы.

**aratrum**, i *n* (aro) [**соха** *стб.*] саха, плуг.

**Araulphus** 15 жніўня.

**arbiter**, tri *m* 1) пагадняльнік, прымірыцель; пасрэднік; 2) сведка пры вядзенні суда; 3) [**баришник | барышник | борышник** *стб.*] барышнік / пасрэднік, сведка (пры розных угодах / здзелках).

**arbitramentum**, i *n* 1) меркаванне пасрэднікаў; вырак палюбоўнага суда; 2) палюбоўны суд.
**arbitrarius**, a, um (arbiter) [**arbitralny** *пл.*] адвольны.
**arbitrator**, oris *m* (arbitror) прымірыцель, пагадняльнік; трацейскі суддзя.
**arbitratum** *гл.* **arbitramentum**.
**arbitrium**, i *n гл.* **arbitramentum**.
**arbitror** 1. (arbiter) даваць меркаванне ад імя пасрэдніка.
**arbor**, oris *f* [**дерево** *стб.*] дрэва: ~ **mellificiaria** [**бортное дерево** *стб.*] бортнае дрэва.
**arboraticum**, i *n* аплата, залежная ад колькасці мачтаў на караблі.
**arcadia**, ae *f* каталіцкая працэсія ці крыжовы ход з мошчамі.
**Arcadius M.** 12 студзеня.
**arcator**, oris *m* лучнік.
**archadius**, ii *m* 1) суддзя; 2) турэцкі духоўны саноўнік вышэйшага рангу.
**archantus**, i *m* службовец вайсковай адміністрацыі.
**archatus**, us *m* 1) панаванне; 2) моц, магутнасць.
**archia**, ae *f* 1) панаванне, улада, кіраванне; 2) кіраўніцтва; 3) уладар; 4) кіраўнік.
**archiadvocatus**, i *m* касцёльны войт, які мае пад сваім кіраваннем некалькі падвойтаў.
**archicamerarius**, ii *m* [**podkomorzy koronny** *пл.*] падкаморы, *гл.* **camerarius**.
**archicantor**, oris *m* 1) першы / старэйшы / галоўны кантар пры катэдры; 2) зверхнік / кіраўнік школы кантараў.
**archicapellanus**, i *m* 1) каралеўскі альбо княжацкі капелян; 2) галоўны капэлян; 3) касцёльны дастойнік / саноўнік, якому, з увагі на яго дасведчанасць у мастацтве пісання і чытання, даручалі ў дзяржаве франкаў пасаду канцлера.
**archimagirus**, i *m* [**kuchmistrz** *пл.*] кіраўнік каралеўскага стала / сталовай, кухмайстар, зверхнік над кухарамі (годнасць пры двары караля).
**archimagister**, tri *m* кіраўнік / старшыня цэха, цэхмайстар.
**archiminister**, tri *m* 1) архідыякан; 2) першы каралеўскі міністр.
**archimonetarius**, ii *m* галоўны манетчык.
**archischolus**, i *m* 1) кіраўнік катэдральнай школы; 2) найвышэйшы схалястык.
**archiscrinius**, ii *m* касцёльны скарбнік.
**archisolium**, ii *n* сядзіба каралеўства.
**archista**, ae *f* 1) распарадчык; 2) скарбнік.
**architectus**, i *m* [**дойлида** *стб.*] дойлід; цясляр.
**Architriclinii (dies)** дзень заснавальніка гасціны, 2-і дзень па Аб'яўленні Пана.
**architriclinium**, i *n* галоўны стол у рэфэктарыі / трапезнай.
**archivector**, oris *m* прыдворны службовец, які ажыццяўляе нагляд над вазамі ўладара.
**archivillanus**, i *m* пан / гаспадар вёскі.

**arcismunitio**, onis *f* павіннасць феадальнага насельніцтва ўтрымліваць у належным стане каралеўскія ўмацаванні.

**arduus**, a, um *adi.* [**великий** *стб.*] вялікі.

**area**, ae *f* (areo) 1) пляц (незабудаваны): **area rasa** парожні пляц; **arearum agri** абгароджаныя палі; 2) дзядзінец.

**arealis**, e (area) [**arealny** *пл.*] 1) прыналежны да ворнай зямлі; гуменны; 2) ~ **homo** кмет / селянін, які мае ўласны двор.

**arealis**, is *f* (*m*) (area) чынш, які плаціўся за пляц.

**arena** (harena), ae *f* [**arena** *пл.*] 1) пясок; пляц, пасыпаны пяском; 2) месца бітвы; поле бітвы.

**arenda**, ae *f* [**arenda** *пл.*] 1) водкуп; дамова, паводле якой уладальнік аддае што-небудзь на водкуп; 2) арэндны запіс ці арэндны кантракт; дзяржанне / арэнда.

**arendarius**, ii *m* [**arendarz** *пл.*] дзяржаўца / арандатар, наймальнік.

**arendator**, oris *m* 1) дзяржаўца / арандатар; 2) адкупшчык.

**arendo** 1. даваць што-небудзь у найм ці на працэнты; арандаваць.

**arenga**, ae *f* 1) уступная частка фармуляра дакумента, у якой змяшчалася выказванне філасофскага ці маральна-этычнага характару з мэтай абгрунтаваць выданне дакумента; 2) цяжар / павіннасць феадальнага права; 3) сход, збор; 4) прамова.

**arengaria**, ae *f* пляц для публічных / грамадскіх сходаў.

**arengum**, i *n* агульны сход грамадзян у гарадскіх камунах Італіі.

**aresco**, arui, cere *inhoat.* [**всохнути** | **усохнути** *стб.*] усыхаць, засыхаць.

**aretro** *indecl. mc.* **a retro** астатняе, астатак, рэшта.

**argentum**, i *n* [**серебро** | **сребро** *стб.*] срэбра.

**aries**, etis *m* 1) баран; 2) род падатку, які першапачаткова плаціўся ў выглядзе барана; 3) таран; 4) катапульта; 5) бэлька; 6) знак задыяка.

**arigo** 1. рабіць тастамент / завяшчанне падчас хваробы. Слову гэтаму супрацьстаўляецца слова **andigare** рабіць тастамент / завяшчанне ў здаровым стане.

**arma**, orum *n* 1) зброя; 2) герб, напр.: **in quorum fidem actum hunc propriis manibus suscriptum, sigillis armorum nostrorum communivimus** на пасведчанне чаго, падпісаўшы гэты акт уласнаручна, змацавалі яго пячаткамі нашага герба.

**armarius**, ii *m* 1) бібліятэкар; 2) архівіст.

**armator**, oris *m* (armo) збройнік.

**armatura**, ae *f* (armo) 1) [**зброя** *стб.*] зброя, узбраенне, ваенны рыштунак, даспехі; 2) упрыгожванні герба.

**armatus**, a, um *part.* 1) [**збройный** *стб.*] узброены, збройны: **armata manu** узброенай рукой, збройнай сілай, напр. напад на дом **armata manu** г. зн. напад са зброяй у руках; 2) абаронны.

**armentum**, i *n* [**стадо** *стб.*] статак; табун: ~ **equarum** [**стадо свирепье** *стб.*] статак, табун свірэпаў / кабыл.

**Armorum Christi (feria)** пятніца 2-га тыдня па Вялікадні.
**armurarius**, ii *m* збройнік.
**aro** 1. [**доорати, поорати** *стб.*] араць; даворваць; узорваць.
**aromatarius**, i *m* (aroma) аптэкар.
**aromo** 1. бальзамаваць.
**arques**, itis *m* лучнік.
**arrabo**, onis *m* 1) задатак; 2) заклад; 3) сімвал; 4) *pl.*: нерухомыя ўладанні.
**arranco** 1. украсці, выкрасці.
**arrarium**, ii *n* род падатку ў турэцкай дзяржаве, плачанага немагаметанскім / неісламскім насельніцтвам.
**arrecto** 1. 1) пазываць / выклікаць у суд; 2) абвінавачваць.
**arrendator**, oris *m* дзяржаўца / арандатар, наймальнік.
**arrento** 1. даваць што-небудзь у найманне ці на працэнты; арандаваць.
**arreragium**, ii *n гл.* **arrestadium**.
**arrestadium**, ii *n* плацежныя запазычанасці.
**arresto** 1. [**заповедати** *стб.*] заказваць / забараняць; абвяшчаць.
**arrha**, ae *f s.* **arra** задатак (пры заручынах).
**arrho** 1. спраўляць заручыны.
**arripaticum**, i *n* разгрузная прыстань.
**arrogo** (ad-rogo) 1. усынаўляць; прымаць у род: **arrogati** усыноўленыя дзеці.
**ars**, artis *f* мастацтва; майстэрства; навука: ~ **malefica** [**чары** *стб.*] чары, вядзьмарства.
**Arsenius Diac. Conf.** 19 ліпеня.
**arsinum**, i *n* род віна.
**arsippio**, onis *m* лук; дуга.
**articulus**, i *m* 1) член; 2) [**артыкул** *стб.*] артыкул (статута).
**artifex**, ficis *m* [**ремесник** *стб.*] рамеснік: ~ **indoctus** партач.
**artigraphia**, ae *f* трактат аб адной з навук / мастацтваў; падручнік.
**artigraphus**, i *m* аўтар трактата аб рыторыцы (ці аб іншай з вызваленых навук).
**artillaria**, ae *f* артылерыя.
**artista**, ae *f* 1) студэнт альбо магістр на факультэце вызваленых навук; 2) майстар; 3) рамеснік.
**artractatio** *гл.* **altercatio** спрэчка; сварка.
**arvina**, ae *f* здор, свіное сала (нутраное).
**arvipirium**, ii *n* падпал палёў ці лясоў, выпальванне лесу дзеля атрымання грунту пад апрацоўку.
**arx**, arcis *f* [**замок** *стб.*] замак; крэпасць.
**as**, assis *m* ас, мера вагі пры ўзважванні золата.
**ascendo**, scendi, scensum, ere узыходзіць: **ascendens** [**ascendent** *пл.*] родзіч ва ўзыходнай лініі, напр. бацька, дзед, прадзед і г. д.

**asecreta**, ae *m* 1) таемны дарадца; 2) даверaны сакратар; 3) памагаты; супольнік.
**asium**, ii *n* карысць.
**Aspiciens** які глядзіць здалёку — 1-ы тыдзень Адвэнту, *гл.* **Adventus**.
**aspiciens**, entis *гл.* **aspicientia**.
**aspicientia**, ae *f* прыналежнасць.
**asponsio**, onis *f* абяцанне.
**assaiatium**, ii *n* разважанне, абдумванне; даследаванне.
**assarto** 1. *гл.* **exarto**.
**assartum** *гл.* **exartum**.
**assassinatus**, us *m* забойства з засады.
**assassino** 1. забіваць падступным чынам, з засады.
**assassinus**, i *m* платны забойца, душагуб.
**assecuramentum**, i *n* 1) прысяга, на моцы якой феадал адмаўляўся ад права на прыватную вайну і абавязваўся не рабіць ніякіх варожых дзеянняў; 2) прысяга васала, што ён не дапусціць пераходу маёмасці ў рукі праціўнікаў сеньёра.
**assecuratio**, onis *f* [**assekuracya**, **zapis assekuracyjny** *пл.*] 1) запэўніванне, забеспячэнне; гарантыя; 2) асведчанне ці забеспячэнне пэўных палёгак і пераваг ці ўзнагарод, якое давалі некаторым асобам на соймах; 3) пісьмовае пагадненне, паводле якога хто-небудзь забяспечвае свой доўг ці прызначаную каму-небудзь грашовую суму на сваёй нерухомай маёмасці ці на іншых сумах.
**assecuro** 1. 1) запэўніваць, упэўніваць, забяспечваць; засцерагаць; 2) забяспечваць што-небудзь, напр. грашовы доўг, на рухомай ці на нерухомай маёмасці; 3) ~ **pecuniam** страхаваць маёмасць у грашах; 4) [**спущати ся** *стб.*] спадзявацца; 5) абяцаць устрыманне ад любых варожых крокаў у адносінах да праціўніка ў прыватнай / міжусобнай вайне; 6) абяцаць свайму сеньёру не рабіць таго, што магло б прынесці шкоду яго целу, маёмасці альбо гонару; 7) абяцаць захаванне правоў; 8) складаць прысягу вернасці; 9) абяцаць кампенсаваць шкоду.
**assedium**, ii *n* 1) сядзіба; 2) аблога.
**assentaneus**, i *m* паслядоўнік, прыхільнік.
**assentatus**, us *m* 1) ліслівасць; 2) прызнанне, ухвала; воплескі; 3) згода, паразуменне.
**assententio** 1. 1) прызнаваць / прысуджаць нешта камусьці судовым выракам; 2) дадаткова вырашаць нейкую справу.
**assentimentum**, i *n* дазвол, згода.
**assento** 1. пагаджацца, саступаць.
**assequor** (ad-sequor), secutus sum, sequi атрымліваць, здабываць: **assecutus** [**дойденье** *стб.*] дасягненне (паўналецця); **assequendus** [**набытье** *стб.*] які павінен быць набыты; набыццё.

**assero** (ad-sero), serui, sertum, ere 1) [**менити | меновати** *стб.*] менаваць / называць, казаць; паказваць; 2) [**поведати ся** *стб.*] называцца; выяўляцца; з'яўляцца.

**assertio** (adsertio), onis *f* (assero) 1) судовае даказванне; 2) дамаганне вызваліць чалавека; 3) сцвярджэнне: ~ **nuda** галаслоўнае сцвярджэнне; галаслоўнае паказанне.

**assertum** (adsertum), i *n* (assero) 1) сцвярджэнне; 2) сведчанне.

**assessor** (adsessor), oris *m* (assideo), oris (assessores circumsedentes) судовы засядацель, асэсар.

**asseto** 1. 1) устанаўліваць рэнту на нерухомых уладаннях альбо іншых крыніцах прыбыткаў; 2) вызначаць велічыню падаткаў.

**assettatio**, onis *f* перадаванне.

**assetto** 1. перадаваць.

**assettum**, i *n* гл. **assettatio**.

**asseverator**, oris *m* заступнік, абаронца; прадстаўнік.

**assiduatio**, onis *f* сталае / пастаяннае ўжыванне.

**assidue** (adsidue) *adv.* [**уставичне** *стб.*] стала / пастаянна.

**assieta**, ae *f* 1) памер падатку; 2) вызначэнне граніц / межаў нерухомасці шляхам дамовы.

**assigillo** 1. апячатваць.

**assignamentum**, i *n* 1) перадаванне; 2) устанаўленне рэнты, *асаб.* пажыццёвай на вызначаных крыніцах прыбыткаў.

**assignatio** (adsignatio), onis *f* (assigno) [**assygnacya** *пл.*] 1) прызначэнне; 2) квіт на што-небудзь; паўнамоцтва на атрыманне грошай; даручэнне для атрымання ці выдачы чаго-небудзь; 3) прадпісанне; 4) падатак.

**assignio** 4. 1) вызначаць граніцу / мяжу; 2) апячатваць.

**assigno** (ad-signo) 1. [**положити** *стб.*] прызначаць, устанаўліваць: **assignatus** [**наменованый; положоный, заложоный | зложоный** *стб.*] прызначаны, устаноўлены, усталяваны.

**assimiliatio**, onis *f* [**assymiliacya** *пл.*] 1) прыпадабненне; 2) ператварэнне рэчываў неарганічных у арганічныя, напр. паветра, вады і зямлі ў сок раслін.

**assisa**, ae *f* 1) публічны сход, сойм; судовы сход, капа (суд); 2) падатак; штраф; 3) час, прызначаны для судаводства.

**assisia**, ae *f* 1) публічны сход, сойм; судовы сход, капа (суд); 2) заканадаўчая калегія, скліканая ўладцам; 3) пасяджэнне адмысловага трыбунала, скліканага каралём альбо князем; 4) падатак, штраф; 5) час, прызначаны для судаводства.

**assisius**, ii *m* уладальнік касцёльнага бэнэфіцыя.

**assistens**, ntis 1 [**assystent** *пл.*] 1) асоба, другарадная пры іншай галоўнай; 2) памочнік; 3) ксёндз, які ўдзельнічае ў набажэнстве пры галоўнай асобе, якая яго адпраўляе.

**assistentia**, ae *f* [**assistencya** *пл.*] 1) сумеснае знаходжанне; суправаджэнне; 2) дружына; двор.

**assisto** (ad-sisto), astiti (adstiti), ere 1) [**стати** *стб.*] ставаць (перад), з'яўляцца; 2) ~ **favore** быць зычлівым.

**assoldo** 1. атрымліваць як заробак / плату (жаўнера).

**assolido** (ad-solido) 1. 1) узмацняць, умацоўваць; 2) вербаваць наёмнікаў.

**assumptio** (adsumptio), onis *f* (assumo) [**assumpt** *пл.*] 1) прыняцце; 2) падстава; 3) падахвочванне.

**Assumptio Beatissimae Virginis Mariae** Унебаўзяцце Найсвяцейшай Багародзіцы, 15 жніўня.

**astator**, oris *m* (asto) вартаўнік; абаронца; апякун.

**astitio**, onis *f* s. **astititio, onis** 1) з'яўленне на судовы разбор (*асаб.* пры адсутнасці працўніка); 2) ~ **concitatoria** г. зв. рок прыпавешчаны — дадатковы тэрмін судовага разгляду, вызначаны ў выніку таго, што пазваны / выкліканы ў суд не з'явіўся на рок завіты / канчатковы тэрмін, у сувязі з чым павінен быць прыпазваны / выкліканы яшчэ раз для выканання выраку альбо зарукі / закладу.

**astrictus** (adstrictus), a, um [**повинный** *стб.*] павінны, абавязаны; абавязковы.

**astructor** (adstructor), oris *m* (astruo) апалагет; абаронца.

**ataxicus**, a, um (ад гр. **tasso** прыводжу ў парадак) [**ataksyczny** *пл.*] бязладны; нерэгулярны; блукаючы.

**athanasia**, ae *f* эліксір даўгавечнасці.

**athanasius Ep.** 2 траўня.

**atriola**, ae *f* маленькі прыкасцёльны пляц.

**attachiamentum**, i *n* асабісты прымус.

**attachio** 1. 1) выкрываць вінаватага; 2) схопліваць, арыштоўваць; звязваць.

**Attalas Abb.** 10 сакавіка.

**attamen** coni. [**ведже** | **веджо; вшакже** | **вшакжо** | **вшенже** *стб.*] бо, усё ж, толькі; але, аднак; таксама.

**attemptator**, oris *m* 1) вінаваты; 2) намеснік боку, абавязанага да прысягі.

**attemptatura**, ae *f* з'яўленне ў судзе дзеля вядзення працэсу.

**attemptio**, onis *f* 1) ~ **termini** з'яўленне ў судзе дзеля вядзення працэсу; 2) патрабаванне, дамаганне.

**attendo** (ad-tendo), tendi, tentum, ere [**смотрети** | **вбачити** *стб.*] глядзець, разглядаць; зважаць; бачыць; пераконвацца: **resarciendum attendere** спаганяць.

**attentatio** (ademptatio), onis *f* (attento) [**attentat** *пл.*] 1) замах; напад; 2) выкрыўленне закону; парушэнне чужога права.

**attento** 1. [**attentować** *пл.*] 1) рабіць замах; спрабаваць; выпрабоўваць; 2) браць у аблогу, аблягаць; нападаць: ~ **iura alterius** замахвацца на чые-небудзь правы; 3) дамагацца, патрабаваць.

**atterminata**, orum *n pl.* прыналежнасці.

**attermino** (ad-termino) 1. 1) адносіць якую-небудзь мясцовасць да тэрыторыі пэўнай краіны; 2) прызначаць тэрмін для выплаты доўгу.

**attestor** (ad-testor) 1. [**осветчити | посветчити | светчити** *стб.*] сведчыць, засведчваць.

**attincta**, ae *f* 1) у даўнейшым англійскім працэсе звінавачанне ў здзяйсненні клятвапарушэння лавою прысяжных, якая выдала вырак, з аднчасовым адкліканнем / апеляваннем да пашыранай лавы прысяжных; 2) пераканание ў вінаватасці.

**attinctus**, a, um упэўнены ў вінаватасці.

**attinentia**, ae *f* [**attynencya** *пл.*] прылегласць; прыналежнасць.

**attineo** (ad-tineo), tinui, tentum, ere 1) абавязвацца; 2) трымаць, прытрымліваць; захоўваць; 3) датычыць, адносіцца: **attinentes** уласныя людзі; людзі паняволеныя.

**attingentiae**, arum *f pl.* прылегласці (зямельнага ўладання).

**attitulo** (ad-titulo) 1. 1) прыпісваць; 2) прысвячаць; 3) прадстаўляць змест выкладанага прадмета; 4) упісваць у матрыкул ці каталог клерыкаў (духоўных асоб).

**attornatus**, i *m* упаўнаважаны; паўнамоцны.

**attorno** 1. 1) пераносіць / пераводзіць добры / уладанні на іншую асобу; 2) пераносіць / пераводзіць запазычанасць; 3) перадаваць васала новаму сеньёру.

**attractum**, i *n* набыццё.

**attractus** (adtractus), i *m* абвінавачаны.

**attractus** (adtractus), us *m* 1) набыццё; 2) прысваенне; 3) права затрымання на пастаянна.

**attributio** (adtributio), onis *f* (attribuo) [**attrybucya** *пл.*] 1) вылучэнне; вызначэнне; 2) наданне; 3) прадмет улады; кампетэнцыя; абавязкі.

**attributivus**, a, um [**attrybutywny** *пл.*] які мае прыналежнасці; прыдатны; прыродны; уласны.

**attus**, i *m* дзед, дзядуля.

**auca**, ae *f* мера для сыпкіх і вадкіх рэчываў.

**auceps**, cupis *m* [**ptasznik** *пл.*] птушкалоў, наглядчык за паляваннем на птушак — службовая асоба пры двары караля.

**auctio**, onis *f* (augeo) [**aukcya** *пл.*] 1) прымнажэнне, павелічэнне: ~ **subsidiorum** павелічэнне дапамогі — падатак, устаноўлены ў Літве-Беларусі ў 1629 годзе, які спаганялі з купцоў і шляхты (на які яны добраахвотна пагадзіліся) ад усіх тавараў, якія вывозіліся за мяжу вадой і сухім шляхам (Vol. Leg. III, f. 618). Яго спаганялі таксама ў 1661 годзе. Нягледзячы на тое што быў устаноўлены на два гады, ён, аднак, часта ўзнаўляўся. Vol. Leg. IV, f. 817; 2) аўкцыён, публічны гандаль.

**auctorabilis**, e (auctoro) годны веры.

**auctoralis**, e упаўнаважаны.

**auctoramentum**, i *n* (auctoro) [**auktorament, autorament** *пл.*] 1) плата; утрыманне; абавязацельства; 2) аўтарамент — набор войска. Да аўтараменту Рэчы Паспалітай належалі панцырныя гусары, пяцігорцы і лёгкія харугвы; да замежнага — пяхота з артылерыстамі, драгуны, вугорскія і янычарскія харугвы; 3) вайсковы статут, рэгламент.

**auctoricium**, ii *n* засведчанне / пацвярджэнне папярэднікам законнасці і правамоцнасці набыцця ўладання.

**auctoriso** 1. 1) пацвярджаць; 2) даказваць, пераконваць; 3) забяспечваць; 4) упаўнаважваць.

**auctoritas**, atis *f* (auctor) 1) улада; 2) воля: **au(c)toritate sua [своволнье** *стб.*] самавольна, па сваёй волі, свавольна, неабгрунтавана; 3) дыплом / ліст караля ці папы.

**auctus**, us *m* (augeo) [**множенье** *стб.*] памнажэнне, павелічэнне.

**aucupium**, i *n* (auceps) лоўля птушак: **aucupia [принада** *стб.*]: a) прынада, b) прыстасаванне (для лоўлі птушак): **aucupia dicta perewyess [перевес** *стб.*] перавес (сіло для лоўлі птушак).

**audeo**, ausus sum, ere [**смети** *стб.*] смець, асмельвацца.

**audientia**, ae *f* (audio) 1) суд; 2) супярэчнасць; спрэчка; 3) сход, збор; 4) падпарадкаванне; 5) род падатку.

**audio** 4. 1) чуць; слухаць; 2) разумець; 3) судзіць; 4) хацець.

**auditor**, oris *m* (audio) 1) суддзя; 2) прысутны пры складанні ці чытанні якога-небудзь акта; 3) **auditor rotae** суддзя пры Рымскай курыі; 4) следчы.

**auditorium**, ii *n* 1) месца, куды збіраюцца слухаць прафесара, аўдыторыя; 2) судовая палата, гродскі ці земскі суд.

**Audivit Dominus (feria)** пачуў Пан Бог — пятніца і субота пасля Папяльца, *гл.* **dies cineris**.

**aufero**, abstuli, ablatum, auferre [**отнимати | отняти** *стб.*] адымаць, адбіраць; пазбаўляць.

**aufugio**, fugi, ere [**втечи** *стб.*] уцякаць, збягаць; хавацца.

**augia**, ae *f* паша, прылеглая да ракі ці аточаная ракой.

**augustiaticus**, i *m* паншчынная праца ў жніво альбо пэўная плата замест яе.

**Augustinus Ep.** 28 жніўня, 26 траўня.

**aula**, ae *f* 1) [**палац; двор** *стб.*] (каралеўскі) палац; (каралеўскі) двор; 2) двор; маёнтак; 3) аўла — зала для публічных мерапрыемстваў.

**aulaces**, ium *m pl.* прыдворныя, дворскія.

**aulaeus**, i *m* прыдворны, дворскі.

**aulandus**, i *m* кандыдат на доктара, які чакае ўрачыстай прамоцыі ў аўле — зале для публічных мерапрыемстваў.

**aulicus**, i *m* [**дворанин** *стб.*] дваранін: ~ **regius** прыдворны; ~ **curiensis** службовы дваранін.

**auliga**, ae *f* прыдворны.

**aura**, ae *f* 1) паветра; 2) павеў ветру; 3) подых; веянне; дух: ~ **pestifera** пошасць, зараза.

**aurearius**, ii *m* шукальнік золата, які плаціць падаткі ў золаце.

**Aurelia** 10 і 15 кастрычніка.

**aureola**, ae *f* 1) арэол, залатая абводка каля галавы выявы святога, німб; 2) хвала; слава; павага.

**aurifex**, ficis *m* (aurum) [**złotnik** *пл.*] злотнік, залатых спраў майстар.

**auriflamma**, ae *f* чырвоная з залатымі языкамі полымя харугва каралёў Францыі.

**auriga**, ae *m* [**возница** *стб.*] вазніца, вознік.

**auris**, is *f* [**ухо** *стб.*] вуха.

**aurum**, i *n* [**золото, злото** *стб.*] золата.

**auscultatio**, onis *f* (ausculto) [**auskultacya** *пл.*] 1) слуханне; падслухоўванне; 2) падрыхтоўка сябе да юрыдычнай практыкі.

**ausculto** 1. (auris) 1) слухаць, выслухоўваць; 2) заўважаць, прыкмячаць; 3) выпрабоўваць.

**ausio** 4. *s.* **auso** 1. адважвацца.

**austaldus**, i *m* васал, які не атрымаў лена, але выконвае розныя паслугі ў доме сеньёра.

**austerga**, ae *f* суд, у якіх вышэйшыя станы / саслоўі са згоды караля самі вырашалі свае нязгоды і спрэчкі.

**ausus**, us *m* (audeo) 1) адвага; 2) зухваласць: **ausus temerarius** безразважная дзёрзкасць, зухваласць, нахабства.

**aut** *coni. disiunct.* [**альбо | албо** *стб.*] альбо; ці.

**Authentica** (**hebdomada**) сапраўдны тыдзень — тыдзень Мукі Пана.

**authentico** 1. зацвярджаць; умацоўваць; ахоўваць.

**authenticus**, a, um 1) сапраўдны; 2) годны веры; 3) упаўнаважаны.

**autoriso** 1. [**autorizować** *пл.*] упаўнаважваць; даваць уладу.

**autoritas** *гл.* **auctoritas**.

**Auxentius Ep.** 18 снежня.

**avalitas**, atis *f* маёмасць, атрыманая ў спадчыну па бабцы.

**avantagium**, ii *n* 1) дадатковая карысць; 2) грашовая ўзнагарода, прэмія; 3) дадатковая плата; 4) ваенная здабыча.

**avenagium**, ii *n* падатак аўсом для коней сеньёра.

**averagium**, ii *n* павіннасць прадстаўлення транспартных паслуг на карысць пана.

**avere** *indecl.* 1) маёмасць; 2) грошы; 3) каштоўнасці, ювелірныя вырабы, біжутэрыя; 4) быдла; 5) тавары.

**averium**, ii *n* рухомая маёмасць і ўсё, чым можна карыстацца з нерухомай маёмасці.

**avero** 1. выконваць павіннасць прадстаўлення транспартных паслуг на карысць пана.

**aversator**, oris *m* вораг.
**averum** *гл.* **averium**.
**averus**, i *m* цяглавая жывёла.
**aviaticum**, i *n* спадчына па продках.
**avio**, onis *m* продак.
**avis**, is *f* [**птаха** *стб.*] птаха / птушка: **avium** [**пташий** *стб.*] птушыны, пташыны.
**avisatio**, onis *f* [**обосланье | обсыланье** *стб.*] паведамленне; абвестка.
**avisatoriae**, arum *f pl.* (**litterae**) віцi — каралеўскі ліст з паклiканнем на вайну.
**aviso** 1. [**обослати** *стб.*] апавяшчаць, абвяшчаць.
**avolutio**, onis *f* спадчына.
**avulsum**, i *n* [**awuls** *пл.*] незаконна адарваная ад уладання частка зямлі. І таму ў продажнай дамове даецца права пакупніку — **avulsa recuperare**, г. зн. часткі ўладання, адарваныя ці захопленыя, законным парадкам вяртаць ці ўз'ядноўваць.
**avuncus**, i *m* унук.
**awaria**, ae *f* (фр.) страхаванне караблёў і выдаткі мараходства.
**azelum**, i *n* дынар.

## B

**Babiana V. M.** 2 снежня.
**baccalaria**, ae *f* 1) залежная жанчына, якая жыве ў доме сваіх бацькоў; 2) зямля, непасрэдна эксплуатаваная феадалам; 3) *pl.* дробная шляхта.
**baccalariandus**, i *m* той, хто павінен здаваць іспыт на бакалаўра.
**baccalariatus**, us *m гл.* **baccalaureatus**.
**baccalarior** 1. атрымаць ступень бакалаўра.
**baccalarius**, ii *m* 1) бакалаўр — найніжэйшая навуковая ступень у сярэднявечных універсітэтах; 2) васал без лена, які жыве ў доме феадала; 3) рыцар, які выступаў на вайну без узброенай дружыны; 4) дарослы падданы без грунту, які жыве на гаспадарцы сваіх бацькоў; 5) малады клерык / семінарыст.
**baccalaureandus**, i *m* той, хто павінен здаваць іспыт на бакалаўра.
**baccalaureatus**, us *m* бакалаўрэят — найніжэйшая навуковая ступень у сярэднявечных універсітэтах.
**baccalaureus**, ei *m* 1) настаўнік; 2) бакалаўр.
**bacchanalis**, e (bacchus) 1) шалёны; нястрыманы; 2) запусны / загавінны, масленічны.
**bacularis**, is *m* 1) слуга; 2) возны; 3) васал.
**baculum**, i *n* 1) кій; жазло: **iudicium** *s.* **duellum baculi** двубой / дуэль на кіях як род Божага суда паміж сялянамі; 2) жазло як знак улады альбо інвестытуры: ~ **pastoralis** пастарал, біскупскае жазло; 3) зварот / апеляцыя да судзейскага жазла, г. зн. патрабаванне, каб суддзя пасведчыў аб справе, якую ён судзіць.
**baculus**, i *m* [**кий** *стб.*] кій: ~ **pensilis** цэп, *гл. тс.* **baculum**.

**bagatinus**, i *m* манета.
**bagerna**, ae *f* саляварня.
**bagio**, onis *m* кмет, селянін.
**bailia**, ae *f* 1) улада; права; 2) судовая ўлада.
**bailius**, ii *m* упаўнаважаны пануючага ў выкананні юрысдыкцыі.
**bailivus**, i *m* манаршы службовец, надзелены судовай уладай.
**bailliagia**, ae *f* кампетэнцыя каралеўскага распарадчыка.
**baillio** 1. 1) кіраваць; 2) аддаваць у дзяржанне / арэнду.
**baillivus**, i *m* 1) прадстаўнік караля альбо князя; 2) годнасць / пасада ў абацтве.
**baiulatio** (baiolatio), onis *f* (baiulo) 1) апека над малалетнім; 2) функцыя выхавальніка маладога князя.
**baiulatus**, us *m* кіраванне; адміністрацыя.
**baiulia**, ium *n pl.* 1) замяшчэнне; упаўнаважанне; 2) апека і пратэкцыя ўладцы; 3) адзінка тэрытарыяльнага падзелу ў Ордэне тэмпліерыяў і шпітальнікаў; 4) апека над малалетнімі дзяўчатамі; 5) рэгенцыя; 6) забеспячэнне, гарантыя; 7) дзяржанне / арэнда.
**baiulus** (baiolus), i *m* 1) насільшчык; 2) пасланец; 3) далакоп, які адносіць памерлага; 4) каралеўскі ўраднік, надзелены судовай уладай; 5) выхавальнік маладога князя.
**balatro**, onis *m* бадзяжнік, бадзяга, валацуга.
**Balbina V.** 31 сакавіка.
**baldaciter** *adv.* 1) дзёрзка, зухвала; 2) энергічна.
**balearis**, e балістычны, які датычыць балістычных машын.
**balestrum**, i *n* куша, самастрэл.
**balfardus**, us *m* 1) абавязак працы на даручэнне ўлады пры будоўлі альбо рамонце фартыфікацыі; 2) плата за такую працу.
**baliatus**, us *m* апека.
**balingarius**, ii *m* вайсковы карабель.
**balista** (ад гр. **ballo** кідаць), ae *f* баліста. Першапачатковa азначала ваеннае прыстасаванне для разбівання муроў; затым у 1475 годзе баліста належала ўжо да лёгкай зброі і называлася **bombarda**. У Vol. Leg. I, f. 228 гаворыцца: **et quod quilibet peditum habeat balistam vel bombardam ac gladium** каб кожны з пешых воінаў меў балісту ці бамбарду і меч. Відавочна, што пад гэтым словам варта разумець стрэльбу, якую таксама называлі рушніцай. Пры Жыгімонту Аўгусту, каля 1546—1564 гадоў, выраблялiся, паводле сведчання Людвіка Дэцыя, бамбарды загнутыя — **uncatae** і бамбарды простыя — **simplices**; першыя прадаваліся па тры злотыя, а другія па 1 злотаму і 20 грошаў.
**balitor**, oris *m* ураднік.
**balium**, ii *n* 1) апека; 2) рэгенцыя.
**balius**, ii *m* апякун.
**balivus**, i *m* 1) апякун; 2) рэгент; 3) комтур.

**ballatorium**, ii *n* тэраса; балкон.

**ballistarius** (balistarius) (ballista), ii *m* купнік; лучнік.

**balliva**, ae *f* 1) філіяльны кляштар; 2) акруга судовай адміністрацыі.

**balma**, ae *f* прытон.

**balneale**, is *n s.* **balnealium**, ii *n* 1) плата за выкарыстанне лазні; 2) чынш, які плаціць лазнік.

**balneum**, i *n* 1) ванна; купель; 2) ванна з грэтай вадой; 3) княжацкае права ўтрымліваць лазні ў гарадах.

**balteatus**, a, um апяразаны / пасвячаны на рыцара.

**balteo** 1. 1) апяразваць; абцягваць; 2) апяразваць / пасвячаць у рыцары.

**balteus**, i *m s.* **balteum**, i *n* 1) пояс, апаяска; 2) рыцарскі пас / пояс; 3) папруга на каня; 4) удар пасам; 5) бераг, бок; 6) палісад паміж ровам і мурам замка.

**balvanus**, i *m* камлыга солі ўстаноўленай вагі.

**banca**, ae *f* 1) купецкая крама; 2) ~ **salis** камлыга солі ўстаноўленай вагі; 3) услон, лава.

**bancus**, i *m* 1) лава; 2) ~ **scabinatus** судзейская лава; 3) купецкая крама; 4) абменнік; 5) банк; 6) ~ **salis** камлыга солі вызначанай вагі.

**banda**, ae *f* аддзел войска.

**bandaria**, ae *f* ваенная харугва.

**bandela**, ae *f* стужка і наогул усё тое, чым дамы апяразваліся ці перавязвалі сабе валасы.

**banderiatus**, a, um абавязаны асабіста браць удзел у ваеннай выправе.

**bandum**, i *n* 1) леннікі, якія ваююць на вайне пад харугвай сюзерэна; 2) харугва.

**bania**, ae *f* адтуліна, праз якую выцягвалі расол на паверхню зямлі.

**bannagium**, ii *n* права прымушаць сялян малоць у млыне свайго пана.

**bannalis**, e 1) размешчаны ў межах якой-небудзь юрысдыкцыі; 2) загаданы, пастаноўлены.

**bannarius**, ii *m* возны.

**bannarus**, i *m* возны; пэдэль.

**bannicum**, i *n* грыўня — грашовае пакаранне, штраф.

**bannimentum**, i *n* баніцыя / выгнанне.

**bannio** 4. [**banitować**, **bandyzować**, **banizować**, **banjować** *пл.*] 1) [**выгоняти** *стб.*] выганяць; выракаць / прысуджаць да выгнання, выганяць публічнай пастановай, асуджаць на выгнанне з краю; 2) выклінаць, праклінаць; 3) урадава пастанаўляць што-небудзь: ~ **sylvam** забараняць уваход у лес; 4) урачыста склікаць: ~ **iudicium** склікаць, распачынаць суд (нямецкага права): **bannitum iudicium** [**sąd gaiony** *пл.*] суд гайны ці гаёны / скліканы суд; 5) пазываць / выклікаць у суд ці выклікаць ад імя ўрада; 6) накладаць пакаранне на карысць імператарскага скарбу; 7) накладаць штраф; 8) часова адхіляць ад службовых абавязкаў.

**bannio** 1. 1) распараджацца; 2) забараняць.

**bannisco**, ere 3. пазываць / выклікаць у суд.

**banniso** 1. 1) ~ **iudicium** распачынаць суд (нямецкага права); 2) ~ **aliquem** абвяшчаць пра нечыя заручыны.

**bannita**, ae *m* баніт / выгнаннік.

**bannitio**, onis *f* [**bannicya, wywołanie** *пл.*] выгнанне з краю абывацеля і разам з тым пазбаўленне яго ўсіх грамадзянскіх правоў. Баніцыя была рознага роду: a) часовая і вечная, b) галоўная і меншая. Галоўнай баніцыяй называлася выгнанне з тэрыторыі ўсёй дзяржавы ці краю, а меншай — выгнанне з якой-небудзь часткі дзяржавы ці краю.

**bannito** 1. (*sc.* **iudicium**) здзяйсняць суд нямецкага права.

**bannitor**, oris *m* судовы возны (які абвяшчае позву).

**bannitus**, a, um 1) **bannitum iudicium** гайны ці гаёны / склікаць суд нямецкага права; 2) **bannitum convivium** абрад урачыстых заручын.

**bannitus**, i *m* 1) лаўнік; 2) [**выволаный** *стб.*] баніт — абвешчаны выгнаным, выгнаннік, выгнанец.

**bannum**, i *n s.* **bannus**, i *m* 1) указ, пастанова: **bannum ponere** абвяшчаць; 2) улада, юрысдыкцыя: ~ **capitis** вышэйшая юрысдыкцыя, улада караць смерцю за цяжкія злачынствы; ~ **leugae** род поля, межамі якога заканчваецца юрысдыкцыя якога-небудзь горада, мястэчка ці кляштара; ~ **regale** каралеўская юрысдыкцыя; 3) юрысдыкцыя, устаноўленая ад імя ўладцы; 4) абшар, падлеглы юрысдыкцыі каралеўскага суддзі; 5) судовая ўлада; 6) касцёльная ўлада; 7) кляштарная акруга; 8) дыяцэзія; 9) права караля на выдаванне загадаў; 10) павет ці рэгіён: **bannus sacer** вобласць касцёльнай незалежнасці — **immunitatis**; 11) абвяшчэнне; эдыкт; 12) публічная афіша; 13) абвяшчэнне пра сужэнскі шлюб з амбону; 14) загад альбо забарона; 15) пакаранне, вынесенае каралеўскім судом; 16) грашовае пакаранне, прызначаны судом штраф: **bannum componere** плаціць штраф за невыкананне распараджэння ўрада; **bannum mittere** накладаць штраф; 17) ~ **altum** род падатку, які ў Сярэднія вякі плацілі для вызвалення сябе ад прац; 18) баніцыя, выгнанне, *асаб.* у гарадскім праве кара, ужываная да злачынцы, які ўцёк з горада; 19) касцёльны праклён, касцёльны інтэрдыкт: **bannus episcopi** адлучэнне ад Касцёла; 20) пазоў / выклік у суд; 21) пазоў у войска; 22) працэс.

**banus**, i *m* бан — намеснік правінцыі ў Венгрыі і ў паўднёвых славян.

**baptio** 4. біць / чаканіць: ~ **monetam** чаканіць / біць манету.

**baptisterium**, i *n* 1) хрысцільня; 2) хрэсьбіны; 3) павіннасць княжацкага права, якая палягае на падатку з нагоды хрэсьбінаў у сям'і князя.

**bara**, ae *f* 1) насілкі; 2) мары; катафалк.

**barataria**, ae *f* ашуканства.

**baratarius**, ii *m* ашуканец, хлус.

**barbacana**, ae *f* барбакан — знешні бастыён.

**Barbara** 4 снежня.

**bareito** 1. падлічваць.

**barganaticum**, i *n* падатак ад гандлю.
**barganio** 4. гандляваць.
**bargina**, ae *f* чужы чалавек.
**bargus**, i *m* 1) шыбеніца; 2) мары; катафалк.
**bariclus**, i *m* барылка (як мера аб'ёму).
**Barnabas** 11 чэрвеня.
**baro**, onis *m* 1) драб; прастак; 2) мужчына; 3) слуга нявольны; 4) наёмны жаўнер; 5) вольны чалавек; 6) васал; 7) рыцар, залежны непасрэдна ад пануючага; 8) [**пан | панове** *стб.*] пан; гаспадар: **baronis** [**панский** *стб.*] панскі; гаспадарскі; **barones** [**панята** *стб.*] паны, паняты; 9) вышэйшы ўраднік; 10) чалец гарадскога патрыцыяту; 11) вядомы, знакаміты чалавек; 12) барон; дастойнік / саноўнік; магнат; можнаўладца; *pl.*: **barones** магнаты; радавітыя баяры; ~ **liber** [**baron** *пл.*] барон — вышэйшы саноўнік у Рэчы Паспалітай, хоць уласна баронаў у дзяржаве не было, але так называліся ваяводы і каштэляны, сенатары (Vol. Leg. I, f. 408), а таму амаль усе старажытныя пастановы пачынаюцца словамі: **nos rex cum baronibus** і г. д.; **barones Regni** бароны каралеўства.
**baronagium**, ii *n* збор баронаў; стан / саслоўе баронаў.
**baronatus**, us *m* 1) годнасць барона; 2) збор васалаў.
**baronicus**, a, um 1) [**панский** *стб.*] панскі; гаспадарскі; 2) рыцарскі.
**baronissa**, ae *f* [**пани** *стб.*] пані.
**barrium**, ii *n* 1) абарончы вал; 2) прадмесце.
**barsalcus**, i *m* слуга.
**Bartholomeus Apost**. 24 жніўня.
**basalardus**, i *m* кінжал.
**basileum**, i *n* 1) імперыя; 2) валадаранне.
**basileus**, i *m* 1) імператар; 2) кароль.
**Basilides, Cirinus Nabor, Nazarius MM.** 12 чэрвеня.
**Basilius Ep.** 1 студзеня.
**Basilla V.** 20 траўня.
**bassa**, ae *m* баша / пашá — намеснік турэцкага султана.
**bastarda**, ae *f* 1) фармат паперы; 2) род аркуша.
**bastardus**, i *m* [**бенкарт, злого | нечистого ложа сын** *стб.*] нячыстага ложа сын / пазашлюбны сын, байструк, бенкарт, бастард.
**bastia**, ae *f* [**baszta** *пл.*] 1) бастыён; 2) рухомая драўляная вежа, якую ўжывалі пры аблогах; шанец (умацаванне).
**bastida**, ae *f* 1) вежа; шанец (умацаванне); 2) крэпасць; 3) замак.
**bastile**, is *n* крэпасць.
**bastonicum**, i *n* вязніца.
**batalia**, ae *f* 1) барацьба; 2) судовая дуэль.
**batifollum**, i *n* аблогавая вежа.
**battalia**, ae *f* 1) барацьба; 2) шанец (умацаванне).

**battitura**, ae *f* 1) практыкаванне, трэніроўка; 2) лупцоўка; 3) удар; 4) пульс.
**batula**, ae *f* шлюпка; човен.
**baucus**, i *m* кубак.
**bauga**, ae *f* кайданы.
**bausiator**, oris *m* ашуканец.
**bausio** 1. ашукваць.
**beanus**, i *m* 1) навіцый / паслушнік; новы шкаляр; 2) невук.
**Beatrix V.** 11 траўня.
**bedellus**, i *m* возны; пэдэль, напр. судовы, універсітэцкі: **iuratus** ~ возны гарадскога суда.
**beghina**, ae *f* [**beginka** *пл.*] каталіцкая манашка, якая належыць да Ордэна, званага **conventus fratrum praedicatorum**.
**bella**, ae *f* цюк; стос.
**bellicus**, a, um (bellum) [**военный** *стб.*] ваенны.
**bellum**, i *n* ( [**битва, валка, война** *стб.*] бітва; вайна; служба на вайне, вайсковая служба.
**bene** *adv.* [**добре, гаразд | гараздо** *стб.*] добра; належным чынам, як след; досыць: ~ **valens** [**здоровый** *стб.*] здаровы; ~ **memoratus** добрай памяці, святой памяці.
**benedictus**, a, um шчасны, бла(га)славёны, добраславёны.
**Benedictus** 21 сакавіка.
**beneficatus**, i *m* васал.
**beneficialis**, e (beneficium) 1) дабрачынны; 2) ветлівы; 3) датычны лена; 4) аддадзены ў лен; 5) які знаходзіцца ў ленным дачыненні.
**beneficiatum**, i *n* зямля, аддадзеная ў лен.
**beneficiatus**, i *m* 1) бэнэфіцыянт — асоба, якая мае феадальны альбо касцёльны бэнэфіцый; 2) васал.
**beneficiatus**, a, um (beneficium) 1) аддадзены ў лен; 2) упаўнаважаны.
**beneficio** 1. даваць касцёльныя прыходы.
**beneficium** (benificium), i *n* (bene) 1) дабрадзейства; ласка; спрыянне: ~ **iuris** спрыянне, паблажка права: калі сенатар ці пасланец, які быў заняты выкананнем абавязкаў, павінен быў з'явіцца асабіста ў суд, то ён мог патрабаваць сабе адтэрміноўкі да іншага тэрміну ці тэрміну судаводства. Адтэрміноўка гэта называлася ~ **iuris** дабрадзейства ці лепш паблажка закону; 2) прывілей; 3) феадальны ці касцёльны бэнэфіцый: ~ **apertum** вакантны, нікім не заняты прыход; вакантны маёнтак; ~ **curatum** святарскі прыход.
**benefico** 1. 1) даваць у лен; 2) высвячаць, асвячаць; ахвяраваць.
**beneplacitus**, a, um [**добровольный** *стб.*] добраахвотны; вольны.
**Benevenutus Ep., Gof.** 22 сакавіка.
**Beniamin M.** 31 сакавіка.
**Benigna et Benignus** 13 лютага.
**Benignus presb. M.** 1 лістапада.

**benitus**, a, um *гл.* **benedictus**.
**bennagium** *гл.* **bannagium**.
**berfredus**, i *m s.* **berfresum**, i *n* 1) абарончая вежа; 2) гарадскія вароты; 3) аблогавая машына ў форме вежы; 4) званіца.
**berna**, ae *f* 1) род падатку; 2) [**pomocne poboru** *пл.*] другарадны падатак, *гл.* **precaria petitio**; 3) вяндліна.
**Bernadinus Senens**. 20 траўня.
**Bernardus Abb**. 20 жніўня.
**beroarius**, ii *m* узброены слуга.
**bersator**, oris *m* браканьер.
**bersso** 1. паляваць.
**bibleus**, a, um напісаны на папірусе.
**Biblia**, ae *f* Святое Пісьмо, Біблія.
**biblia**, ae *f* ваенная машына.
**bichetus**, i *m* мера колькасці збожжа.
**bicubitalis**, e *гл.* **bicubitus**, a, um.
**bicubitum**, i *n* мера даўжыні на два локці.
**bicubitus**, a, um які мае два локці даўжыні.
**bidella**, ae *f* 1) права на маёмасць пасля чыёйсьці смерці, якое належыць касцёлу; 2) падатак, які ўносіўся панам па смерці яго васала.
**bielina**, ae *f* беліна — вавёрчын ці наогул белы мех з белых заячых скурак, якія адрозніваюцца ад скурак-папеліц тым, што ён белага колеру, а папеліцы папялісга-шэрага. Футры, якія робяцца з брушных вавёрчыных скурак, таксама называліся беліны.
**bifolium**, ii *n* ліст пергаміну.
**bigamia**, ae *f* 1) двaяжэнства; 2) другі шлюб жанчыны, якая ўжо раней была замужняю.
**bigamus**, i *m* 1) двaяжэнец; 2) які мае дзве жонкі.
**bilinguis**, e двухмоўны; хлуслівы.
**bipennis**, is *f* 1) абасечная / двухбаковая сякера; 2) сякера з двума лёзамі — прылада для высякання солі ў капальнях.
**bisextilis**, e (bisextus) высакосны: ~ **annus** высакосны год; ~ **anni iustitia** падатак, які ў старажытнасці выплачвалі каталіцкія касцёлы біскупам па заканчэнні трох гадоў, на чацвёрты год.
**bladarius**, ii *m* прадавец збожжа.
**bladum**, i *n* 1) усялякае збожжа; 2) пшаніца.
**blancus**, i *m* срэбныя грошы малой вартасці.
**Blasius Ep. M.** 3 лютага.
**blasmus**, i *m* пазбаўленне гонару.
**blecha**, ae *f* майстэрня бялення палатна.
**blida**, ae *f* катапульта, *гл. тс.* **balista**.
**boiarinus**, i *m гл.* **boiarus**.

**boiaro**, onis *m гл.* **boiarus**.

**boiarus**, i *m* [**боярин** *стб.*] баярын (прадстаўнік ніжэйшай шляхты ВКЛ), *гл. тс.* **servitor**.

**bolla**, ae *f* 1) кубак; 2) мера аб'ёму.

**bombarda**, ae *f* 1) род ваеннай машыны; 2) вялікая гармата для разбівання муроў; 3) кароткая стрэльба, *гл. тс.* **balista**.

**bombardarius**, i *m* 1) [**пушкар** *стб.*] пушкар / гарматнік, гармаш; 2) мушкецёр; 3) збройнік.

**bona**, orum *n pl.* добры — сукупнасць усіх рэчаў, якія мае пэўная асоба, маёмасць, уласнасць: ~ **devolutiva, devolvenda** [**спадок** *стб.*] спадак / спадчына, спадчынныя добры / уладанні, якія пераходзяць ад бацькі да сына і г. д.; ~ **emptione acquisita** [**купленина** | **купля** *стб.*] купля (набытыя ўладанні); ~ **exemptibilia** добры / маёнткі выкупныя, добры / уладанні шляхецкія (**terrestria**), якія знаходзяцца ў валоданні духавенства, заўсёды маглі быць выкуплены вотчыннікам; і таму іх называлі выкупнымі — **exemptibilia**. Vol. Leg. III, f. 856; ~ **iacentia, immobilia** [**именье лежачее** *стб.*] добры нерухомыя / ляжачая / нерухомая маёмасць; ~ **liquidi iuris regii** вольныя каралеўскія добры / уладанні, нікому не аддадзеныя ў валоданне якім-небудзь правам — уладанні чыстага каралеўскага права. Vol. Leg. II, f. 1453; ~ **magnae procurationis**; ~ **magnae procuratoriae** [**wielkorządy** *пл.*] дзяржаўныя добры / уладанні, якія не маглі быць ні закладзеныя, ні аддадзеныя ў пажыццёвае валоданне. Кіраваў імі галоўны распарадчык, які называўся вялікарадцам і яго памочнікамі, двума ротмістрамі і трыма цывільнымі саноўнікамі. Vol. Leg. I, f. 142; II, f. 612, 681; III, f. 420; ~ **materna** [**материзна** | **именье материстое** *стб.*] матчыны добры / мацярыстыя добры / мацярызна / матчына ўладанне, успадкаванае па лініі маці; ~ **mobilia** [**именье рухомое** *стб.*] рухомыя добры / рухомая маёмасць; ~ **paterna** [**именье отчизное** | **дедизное** *стб.*] вотчынныя добры / дзедзічная вотчына / вотчынная маёмасць; ~ **reclinatoria** добры / уладанні, якія падлягалі вяртанню. Так называліся ўладанні асоб, што знаходзіліся ў палоне ў непрыяцеля, ці ўладанні выгнанцаў ці сасланых непрыяцелем. Гэтыя ўладанні былі вызвалены ад усіх ваенных павіннасцей. Vol. Leg. V, f. 636; ~ **regia** [**dobra królewskie** *пл.*] каралеўскія добры / уладанні. Яны былі: a) ленныя (Vol. Leg. II, f. 1230), b) эмфітэўтычныя (там жа, f. 1669), c) эканамічныя ці сталовыя — **oeconomiae, bona mensae regiae**, d) добры / уладанні, якія аддаюцца камусьці ў пажыццёвае валоданне — **iuris advitalitii**, e) добры / уладанні, якія былі ўласнасцю караля паводле закону **liquidi iuris regii** (там жа, f. 1453), f) на моцы соймавай пастановы 1641 года, скарбовае ўладанне па смерці пасэсара павінна было быць перададзена спадчыннікамі ў скарб, а скарб перадаваў яго іншаму атрымальніку — данатарыю. Прыбытак з гэтага ўладання ў прамежку ад смерці ўладальніка да новай перадачы належаў каралю і паступаў у так званую кварту. Ён вядомы быў пад назвай: **post**

**decessum possesorum** (Vol. Leg. IV, f. 12) па смерці ўладальнікаў ці пасэсараў; ~ **terrestria** [**именье** | **ыменье** *стб.*] зямельная маёмасць, маёнтак;
**Bonaventura** 22 сакавіка.
**bonda**, ae *f* [**otarica** *пл.*] 1) выцеркі з ужо вымалачаных каласоў; 2) сялянская ўласнасць; 3) свіное сала.
**bondus** *гл.* **bonda**.
**Bonifacius Ep. Mogunt. Ap. Germe** 5 чэрвеня.
**bonificatio**, onis *f* [**bonifikacya** *пл.*] кампенсацыя ўрадам страт прыватнай асобы, якая дзейнічала ў інтарэсах урада.
**bonitas**, atis *f* (bonus) 1) дабрыня; 2) добраахвотны ўнёсак ад падданых пану.
**bonitatio**, onis *f* [**bonitacya** *пл.*] ацэнка ворнай зямлі.
**bonnerus**, i *m* судовы слуга.
**bonneta** *гл.* **bonuarium**.
**bonuarium**, ii *n* 1) род поля, абмежаванага пэўнымі межамі; 2) мера зямельнай плошчы.
**bonum**, i *n* v. bonus ці bona [**добро** *стб.*] 1) дабро; 2) багацце, валоданне, уласнасць, маёмасць, *гл. тс.* **bona**; 3) добрасць / добрая якасць, добры ўчынак, дабрыня.
**bonus**, a, um [**добрый** *стб.*] добры; годны; дастатковы, поўны: **bona gratia** па ўзаемнай згодзе; **non** ~ [**лихой** *стб.*] ліхі, дрэнны.
**bordellum**, i *n* бардэль, публічны дом.
**borra**, ae *f* ці **borrum**, i *n* [**bor** *пл.*] бор — лес, які складаецца з іглістых дрэў (хвоі, елкі і інш).
**bos**, bovis *m* [**вол** *стб.*] вол.
**boscagium**, ii *n* 1) лес; 2) права карыстання лесам; 3) аплата за карыстанне лесам.
**boyarus** *гл.* **boiarus**.
**brabantio**, onis *m* 1) наёмны працаўнік; 2) марадзёр.
**brac(c)ator**, oris *m* бракар: a) ураднік, які кантралюе ўтрыманне руды ў манеце, b) ураднік, які выбівае таўро ці штэмпель на манеце.
**bracatus**, a, um забяспечаны пячаткай бракара, *гл.* **brac(c)ator**: **bracata minuta pecunia** дробная штэмпеляваная манета, дэнарыі, якіх у 1451 годзе ў палове шырокага гроша лічылі дзевяць, так што дробная манета складалася ўласна з дэнарыяў ці пенязяў. Vol. Leg. I, f. 154, 155, *гл. тс.* **denarius**.
**bracchium**, i *n* [**рамя** *стб.*] 1) рамя / рука (перадплечча), плячо: **de bracchio, ex bracchio** [**з рамени** *стб.*] ад імя, на даручэнне; ~ **militare** ваенная дапамога для прымушэння ў выкананне судовага прысуду; 2) мера даўжыні; локаць; 3) сіла, моц; магутнасць.
**braccio** 1. варыць піва.
**brachiata**, ae *f* мера даўжыні.
**brachium**, ii *n* *гл.* **bracchium**.
**braciarium**, ii *n* *гл.* **braciatorium**.

**braciator**, oris *m* піўавар.
**braciatorium**, ii *n* бровар.
**braciatrix**, icis *f* жонка піўавара.
**bracina**, ae *f гл.* **braciatorium**.
**bracio** 1. варыць піва.
**bracionarius**, ii *m гл.* **braciator**.
**braconarius**, ii *m* вартаўнік сабак.
**bractearius**, ii *m* [**blacharz** *пл.*] бляхар.
**bragida**, ae *f* прыгарадная мясцовасць.
**brana**, ae *f* цёлка.
**Brandonum, burarum, Focorum (dominica)** нядзеля галавешак, агменяў. Першая нядзеля Вялікага Посту.
**braseator**, oris *m* 1) піўавар; 2) прадавец напояў.
**brasso** 1. варыць піва.
**braxatio**, onis *f* варэнне піва, піваварэнне: ~ **potus et pistatio panis** піваварства і выпяканне хлеба — старажытныя павіннасці падданых ці сялян.
**braxator**, oris [**piwowar** *пл.*] піўавар.
**braxatorium**, ii *n* бровар, піваварня.
**braxo** 1. [**варити** *стб.*] варыць (піва і інш. напоі).
**brenta**, ae *f* мера віна.
**breve**, is брэвэ — папская пастанова без нарады з кардыналамі, чым яна і адрозніваецца ад булы.
**breviarium**, ii *n* [**brewiarz** *пл.*] брэвіяр — збор малітваў, паводле якога абавязаны асабіста штодзень маліцца каталіцкія святары і законнікі / мніхі.
**breviarius**, ii *m* ураднік у адміністрацыі феадальнага сеньёра.
**breviatura**, ae *f* скарачэнне, ужыванае натарыем.
**breviloquus**, i *m* гласар.
**brevis**, e кароткі: **brevi manu [od ręki** *пл.*] выкананне якога-небудзь дакумента без захавання папярэдніх фармальнасцей.
**Brictius Ep. Conf.** 13 лістапада.
**briga**, ae *f* сварка; бойка; бітва.
**brigans**, ntis *m* 1) пешаход; 2) разбойнік.
**Brigida V.** 1 лютага.
**brocagium**, ii *n* пасрэдніцтва.
**brocardium**, ii *n* агульны прынцып учынку, правіла.
**brocarius**, ii *m* пасрэднік.
**brocator**, oris *m гл.* **brocarius**.
**brunia**, ae *f* [**broń** *пл.*] узбраенне, адзенне і зброя, неабходныя для паспалітага рушэння. Хто меў 12 валок зямлі, той павінен быў сам вырабіць узбраенне (*гл.* Długosz II, 407).
**Bruno ord. Carthus. Institutor** 6 кастрычніка.
**Bruno Ep.** 17 траўня.

**bruta**, ae *f* ятроўка.
**bubalus**, i *m* [**зубр** *стб.*] зубр.
**bublicus**, i *m* пастух валоў.
**buccelarius**, i *m* [**chlebojedcza** *пл.*] хлебаедца — чалавек, прыняты пад чыёсьці заступніцтва, кліент, слуга, але не нявольнік.
**bugtator** *гл.* **burgator**.
**bulleator**, oris *m* збіральнік мыта.
**bulletarium**, ii *n* мытная аплата, мыта.
**bullio** 4. (bulla) 1) пасылаць булу; 2) хвалявацца; пеніць; кіпець; 3) *перан.*: палаць гневам; гарэць жаданнем.
**Burchardus Ep. Herbip**. 11 і 14 кастрычніка.
**burchgravius** *гл.* **burg(g)rabius**.
**Burci Marci (festum)** 2 ліпеня.
**burdura**, ae *f* мера вагі солі.
**burg(g)rabius**, ii *m* [**burgrabia** *пл.*] бургграф, бурграбій — стараста ці наглядчык замка; распарадчык дома. У старажытнасці гэта была асоба ўрадавая і разам з тым судовая. Існавалі так званыя вышэйшыя бурграбскія суды. Кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт I, заснаўваючы ў 1526 годзе магістрат у Гданьску, вызначыў: «пастанаўляем на будучы час, каб бурграбій наш, які ў гэтым горадзе ў многіх справах заступае наша месца, меў першае месца сярод старэйшых райцаў, калі ён будзе з імі» (Vol. Leg. I, f. 159). Але ўласна спачатку бурграбіі былі кіраўнікамі гродскіх судоў — **burgrabii seu rectores castrorum** (Vol. Leg. I, f. 57). Пасля пасада бурграбіяў усё больш і больш падала ў сваім значэнні. Бурграбіі земскія і гродскія і збіральнікі падаткаў павінны былі плаціць падатак са сваіх уладанняў нароўні з іншымі (Vol. Leg. II, f. 601). Нарэшце, многія вяльможы мелі таксама сваіх бурграбіяў ці наглядчыкаў палацаў, *гл.* **maiordomus**.
**burgaria**, ae *f* узлом.
**burgator**, oris *m* 1) узломшчык; 2) начны злодзей.
**burgensatus**, us *m* *гл.* **burgensitas**.
**burgensis**, is *m* 1) мешчанін; 2) ~ **regis** каралеўскі мешчанін, жыхар каралеўскага горада, падведамны выключна юрысдыкцыі каралеўскіх урраднікаў.
**burgensitas**, atis *f* гарадское права.
**burgicomes**, itis *m* бургграф.
**burgravius** *гл.* **burg(g)rabius**.
**burina**, ae *f* 1) сварка; 2) бойка; 3) юрысдыкцыя ў справах боек.
**bursa, ae** *f* 1) торба; 2) кішэня; 3) *перан.*: грошы, маёмасць; 4) агульны фонд студэнцкай бурсы; 5) заробак; стыпендыя; 6) кошт тыднёвага ўтрымання; 7) грашовая павіннасць ленніка; 8) жывёльная шкура, *асаб.* валовая.
**bursarium**, ii *n* кашалёк.
**bursarius**, ii *m* манастырскі скарбнік.
**burso** 1. жыць у студэнцкай бурсе.

**busa**, ae *f* гандлёвае судна.
**bustellus**, i *m* мера аб'ёму сыпкіх рэчываў.
**buteo**, onis *m* [**кречет** | **кречот** *стб.*] крэчат.
**buticularia**, ae *f* урад і абавязкі падчашага.
**buticularius**, ii *m* 1) чашнік; 2) падчашы.
**byrsa** (bursa), ae *f гл.* **bursa**.

## C

**caballaria**, ae *f* 1) рыцарскі лен; 2) рыцарскі статут.
**caballaticum**, i *n* ваенная конная служба.
**caballatio**, onis *f* (caballus) 1) спосаб утрымання грамадскіх коней; 2) грошы, якія адпускаюцца на ўтрыманне грамадскіх коней.
**caballicata**, ae *f* 1) ваенная служба ў конніцы; 2) прабег конніцы.
**caballico** 1. 1) ехаць конна; 2) падарожнічаць; 3) выконваць конную кур'ерскую службу.
**cabannaria**, ae *f* малая вясковая гаспадарка; ферма; фальварак.
**cacepolus**, i *m* збіральнік падаткаў і данінаў.
**cacia**, ae *f* 1) скрыня; 2) торба; 3) паляванне.
**cacio** 1. паляваць.
**cadentia**, ae *f* [**kadencya** *пл.*] тэрмін, у які адбывалася пасяджэнне якога-небудзь суда. Тэрміны пасяджэнняў земскіх судоў называліся рокамі, тэрміны пасяджэнняў гродскіх судоў — рочкамі, а тэрміны пасяджэнняў судоў вышэйшых інстанцый называліся кадэнцыямі, так напр. Галоўны Літоўскі трыбунал меў спачатку тры кадэнцыі: Віленскую, Менскую і Наваградскую. Віленская кадэнцыя штогод пачыналася ад першага тыдня пасля Вялікадня і працягвалася 20 тыдняў. Праз чатыры тыдні пасля Віленскай кадэнцыі, паводле чаргі, наставала кадэнцыя Наваградская ці Менская, на якіх трыбунал судзіў таксама па 20 тыдняў на кожнай. Кадэнцыі Менская і Наваградская зваліся таксама рускай кадэнцыяй (Vol. Leg. VI, f. 490). Парадак гэты зменены ў 1775 годзе, і для Галоўнага Літоўскага трыбунала прызначаліся толькі дзве кадэнцыі — Віленская і Гарадзенская.
**cado**, cecidi, casum, ere 1) падаць; 2) пасці ў бітве, загінуць; 3) ~ **a causa** прайграваць працэс, справу; 4) [**обалити** *стб.*] звальваць.
**caducitas**, atis *f* пашкоджанне; знішчэнне: ~ **feudi** ленная маёмасць, якая пераходзіць у ранейшае валоданне свайго ўладальніка з прычыны вераломства васала.
**caducum**, i *n* 1) кадук — бяздзедзічная спадчына, напр. калі спадкаемец памёр яшчэ пры жыцці спадкадаўцы: ~ **in morte** маёмасць, якая пераходзіць ва ўласнасць уладальніка пасля смерці васала; 2) права кадука.
**Caeci nati** дзень слепароджанага, серада па 4-м тыдні посту.
**caedo**, cecidi, caesum, ere [**бити, побити** *стб.*] біць, збіваць, перабіваць.

**caeduus**, a, um (caedo) прыдатны для высечкі: **caedua sylva** лес, у якім можна секчы дровы.
**Caelestinus P.** 6 красавіка.
**caementarius**, i *m* (caementum) [**mularz** *пл.*] муляр.
**caementum**, i *n* (caedo) [**вапно** *стб.*] вапна.
**caeptus**, us *m* 1) аб'ём; 2) круг.
**caesera**, ae *f* імператрыца.
**cafagium**, ii *n* двор; абгароджаная прастора.
**cafisa**, ae *f* мера вадкасцей.
**caganus**, i *m* хам.
**Caius P. M.** 22 красавіка.
**calamo** 1. пісаць.
**calasneus**, i *m* чалец супольнасці.
**calceata**, ae *f* 1) гасцінец; дарога; 2) аплата за карыстанне гасцінцам.
**calceaticum**, i *n* аплата за карыстанне гасцінцам.
**calco** 1. (calx) [**топтати** *стб.*] таптаць, вытоптваць.
**caldrum**, i *n* мера аб'ёму.
**Calendarum (feria)** дзень календаў, 1 студзеня.
**calengia**, ae *f* 1) спрэчка; 2) рэкламацыя.
**Caliatus P. M.** 14 кастрычніка.
**caliciarius**, ii *m* 1) слуга; 2) чашнік.
**caligale**, is [**czesne** *пл.*] падатак на боты, які плаціўся каралю як дадатковы да галоўнага падатку.
**callega**, ae *f* публічны аўкцыён.
**Callistus** *s*. **Caliatus P. M.** 14 кастрычніка.
**calo**, onis *m* onis драб.
**cambellanus**, i *m* шамбелян — саноўнік на двары караля і французскіх князёў.
**cambellarius**, ii *m гл.* **cambellanus**.
**cambio** 1. змяняць адну рэч на іншую.
**cambio**, onis *m* вэксаль.
**cambium**, ii *n* замена; змена; вымена (грошай).
**camera** (camara), ae *f* 1) род поля; 2) пакой; дом; спальня; сталовая; 3) [**клеть** *стб.*] клець; 4) пакой, у якім захоўваюцца скарбы; 5) каралеўскі скарб; 6) каралеўскі замак.
**camerarius**, i *m* (camera) камерарый 1) пакаёвы хлопец, пакаёвец; 2) слуга, які нясе службу пры асобе панучага; 3) дваранін; 4) шамбелян; 5) слуга, які загадвае шатняю пана, шатнік; 6) загадчык княжацкага скарбу; 7) кляштарны скарбнік; 8) ~ **Apostolicus** захавальнік скарбу і касцёльных каштоўнасцей пры Рымскай курыі; 9) намеснік падкаморыя ў памежных судах; 10) судовы возны: у судовых актах **camerarius** азначае службовую асобу са шляхты, якая прысутнічала на пасяджэннях земскага суда — **de authoritate notarii et camerariorum absente iudice**. Vol. Leg. I, f. 259; 11) каморнік: ~ **iudicii** судо-

вы каморнік; ~ **granicialis** межавы каморнік; ~ **regius** шамбелян; 12) каморнік у войску; ён меў значэнне ваеннага паліцыянта.

**cameratus**, us *m* камтурыя, комтурства — тэрытарыяльна-адміністрацыйная акруга на землях Нямецкага ордэна.

**camerista**, ae *f* беззямельны селянін, які жыве ў чужой хаце.

**camfio**, onis *f* судовы двубой / судовая дуэль.

**caminata**, ae *f* пакой ці сталовая, у якой знаходзіўся камін.

**caminatum** *гл.* **caminata**.

**caminerius**, ii *m* вандроўны прадавец.

**caminum**, i *n* комін: **caminorum detersor** [**kominarz** *пл.*] камінар.

**caminus**, i *m* 1) дарога; 2) плата.

**camium** *гл.* **cambium**.

**campalis**, is 1) бой; 2) судовы двубой / судовая дуэль.

**campanator**, is званар — касцёльны служыцель, які ў пэўныя часы на працягу дня (**ad horas canonicas**) павінен быў звaніць адну гадзіну.

**campanensis**, is *m* жыхар сумежнай прасторы ў горадзе.

**campania**, ae *f* поле; раўніна.

**campestralis**, e 1) польны / палявы; 2) вайсковы / абозны / лагерны; 3) ~ **decima** дзесяціна ў сельскагаспадарчых прадуктах.

**campestris**, e польны / палявы: ~ **dux** польны гетман.

**campiductor**, oris гетман: [**гетман** *стб.*] 1) гетман: **campiductoris** [**гетманский** *стб.*] гетманскі; ~ **generalis** вялікі гетман; **regni exercituum** ~ гетман каронны, *гл.* **capitaneus generalis**; 2) вялікі гетман; 3) польны гетман.

**campiductoratus**, us *m* пасада гетмана.

**campimarchia**, ae *f* прыналежная да горада зямельная ўласнасць.

**campipars**, partis *f* частка прыбытку з зямлі, апрацоўванай пасяленцам, якая належыць уладальніку.

**campiparto** 1. мець права на ўдзел ва ўраджаях.

**campsio**, onis *f* замена.

**campus**, i *m* [**поле** *стб.*] поле: ~ **differentiarum** спрэчнае поле.

**canagium**, ii *n* грашовая плата, якая вызваляе ад абавязку гадаваць і даглядаць паляўнічых сабак.

**Cananaea** (**dominica**) 2-я нядзеля посту.

**canaparius**, ii *m* дарыльнік.

**canaria**, ae *f* тое ж, што і **canagium**.

**canavarius**, ii *m* *гл.* **canaparius**.

**cancellaria**, ae *f* 1) [**канцлерея** *стб.*] канцылярыя: **officiales cancellariae** найніжэйшыя канцылярскія службоўцы; 2) пасада канцлера, канцлерства; 3) ~ **apostolica** папская канцылярыя; 4) ~ **castrensis** гарадская канцылярыя.

**cancellariatus**, us *m* [**канцлерство** *стб.*] канцлерства.

**cancellarista**, ae *m* [**kancelarzysta** *пл.*] канцылярыст — найніжэйшы канцылярскі службовец.

**cancellarius**, i *m* (cancell 1) канцылярскі ўраднік / службовец, сакратар; 2) канцлер: ~ **supremus regni [Kanclerz Wielki koronny** *пл.*] вялікі каронны канцлер. У XVII стагоддзі яго пачалі называць вялікім пячатарам. Саноўнік гэты быў захавальнікам так званай маестатычнай (дзяржаўнай) пячаткі, якая будучы прыкладзенай да якога-небудзь ліста, надавала яму ўрадавае значэнне. І таму канцлер, уступаючы на сваю пасаду, прысягаў, што ён не прыкладзе пячаткі да дакумента, які не згодны з урадавымі пастановамі. Першым абавязкам яго было назіраць за цэласцю і недатыкальнасцю правоў караля і каралеўства, тлумачыць законы бакам, якія спрачаюцца і якія звярталіся з апеляцыяй да караля, старшынстваваць у задворным судзе і назіраць за правадаўствам і судаводствам у краі. У Польшчы былі два канцлеры: адзін духоўны, а другі свецкі; памочнікам у кожнага быў віцэ-канцлер, які ў выпадку патрэбы заступаў яго месца. Vol. Leg. I, f. 296, 349, 361; 3) ~ **cardinalis** кардынал-канцлер, кіраўнік папскай канцылярыі; 4) канцлер універсітэта; 5) натарый у каралеўскай альбо княжацкай канцылярыі; 6) брамнік, адзвернік.

**Candelatio, candelaria (festum)** Ахвяраванне Пана, Грамніцы, 2 лютага.

**Candida et Paulina** 6 чэрвеня.

**Candida** 2 снежня.

**candidatus**, i *m* (candidus) 1) кандыдат на пасаду альбо годнасць: ~ **caesaris** *s.* **principis**: a) кандыдат, рэкамендаваны на пасаду імператарам, b) службовец, які чытае ў сенаце прамовы і імператарскія звароты; 2) *pl:* прывілеяваныя чальцы імператарскай гвардыі Позняй імперыі; 3) жаўнер папскай гвардыі; 4) акадэмічная ступень (кандыдат).

**canicularius**, ii *m* [**псарец** *стб.*] псар, даглядчык сабак.

**caniductor**, oris *m* псар / сабакар — пасада пры каралеўскім двары.

**canis**, is *m* [**собака, пес** *стб.*] пёс / сабака; ~ **uzlaynyk [узлайник** *стб.*] узлайнік (набрэшнік) — гончы (сабака); ~ **venaticus odorisecus [набрешник, следник** *стб.*] набрэшнік, следнік (від сабак — хартоў).

**canna**, ae *f* мера поля.

**canon**, onis 1) канон; правіла; 2) пастанова; закон.

**canonicum**, i *n* гадавое ўтрыманне.

**Cantate (dominica)** спявайце, 5-я нядзеля па Вялікадні.

**Canutus M.** 25 чэрвеня, 19 студзеня.

**capellanus**, i *m* 1) даглядальнік двара ці прыдворнага касцёла, а пасля тое ж, што і канцлер; 2) ксёндз пры палацавым касцёле ў караля і ў вяльможаў.

**capena**, ae *f* капа — мера зжатага збожжа.

**capeta**, ae *f* 1) канфедэрацыя; 2) посуд ёмістасцю ў адзін карэц.

**caphisum**, i *n* мера вадкасцей.

**capillatoria**, ae *f* першая стрыжка барады — свята сталення.

**capillatus**, a, um *adi.* пакрыты валасамі, валасісты, касматы: **capillati** высакародныя людзі, якія адрозніваліся ў старажытнасці тым, што насілі доўгія валасы.

**capio**, cepi, captum, ere 1) [**забирати** | **забрати** *стб.*] забіраць, адбіраць; 2) [**поимати** *стб.*] лавіць; затрымліваць.

**capischolia**, ae *f* функцыя схалястыка.

**capischolus**, i *m* схалястык.

**capitagium**, ii *n* пагалоўнае — пагалоўны падатак.

**capitale**, is *n* (caput) 1) падушка; 2) раздзел; артыкул; 3) злачынства, за якое належыць смяротнае пакаранне; 4) грашовае пакаранне за забойства; 5) кампенсацыя ў грашах ці натурай, эквівалентная вартасці шкоды; 6) рахунак грашовага доўгу; 7) пагалоўнае — пагалоўны падатак; 8) ацэнка скрадзенай рэчы.

**capitalia**, ium *n pl.* [**poglowne** *пл.*] падатак на карысць караля.

**capitalis**, e *adi.* 1) датычны галавы ці жыцця; 2) які пагражае смерцю; 3) смяротны: ~ **iustitia** тое ж, што і **mortuarium**: a) падатак, які ў старажытнасці ў каталікаў плаціўся касцёлу ці плябану па чыёйсьці смерці, b) падатак, што плаціцца панам па смерці васала; 4) датычны пагалоўнага падатку; 5) галоўны, асноўны; 6) найважнейшы; 7) які стаіць на чале, старшы.

**capitalis**, is *m* 1) васал; 2) правадыр.

**capitalitium** *гл.* **capitagium**.

**capitaneatus**, us *m* [**starostwo** *пл.*] староства. Польскія каралі, на падставе закона, званага **iustitia distributiva** — размеркавальнае правасуддзе, раздавалі на ленным праве прыналежныя ім землі (ці нерухомыя маёмасці). Падараваныя такім чынам землі, у якіх былі каралеўскія замкі ці гроды, называліся староствамі, а іншыя насілі назвы дзяржаў, асадаў і да т. п.

**capitaneides**, idis *m* старосціч.

**capitaneus** (caput), i *m* 1) [**староста** *стб.*], [**starosta** *пл.*] стараста — першы саноўнік у адміністрацыі павета ці акругі, намеснік караля: **capitanei** [**старостиный** *стб.*] старасцінскі: ~ **generalis** *s.* **summus** генеральны стараста. Старасты былі судовыя і не судовыя, хоць апошнія таксама назіралі за судамі; 2) дастойнік / саноўнік; 3) дзяржаўца / арандатар каралеўскіх альбо царкоўных добраў; 4) намеснік правінцыі ў Венгрыі; 5) намеснік замка, прызначаны маркграфам; 6) распарадчык; кіраўнік: **capitanei plebis** прадстаўнікі простага люду, абраныя ў 1407 годзе ў Кракаве; ~ **civitatis** членец гарадскога патрыцыяту; ~ **classis** адмірал; ~ **navis** капітан карабля; ~ **praetorii** кіраўнік ратушы, г. зв. **hutman**; 7) вайсковы правадыр, вайсковы камандзір, галоўнакамандуючы, атаман, гетман: ~ (**campester**) **exercituum** вайсковы камандзір выправы, які замяняе караля; польны гетман; **Capitaneus Generalis** [**Hetman Wielki** *пл.*] вялікі гетман; 8) уладальнік; 9) васал; 10) барон.

**capitaneus**, a, um (caput) першы; галоўны; асаблівы.

**capitanissa**, ae *f* старастава (жонка).

**capitanus**, i *m* стараста.

**capitularius**, ii *m* збіральнік падаткаў.

**capitulatio**, onis *f* [**kapitulacya** *пл.*] 1) дамова; 2) пункты дамовы; 3) умова пры здачы крэпасці, капітуляцыя; 4) запіс, які змяшчаў у сабе паўнамоцтва і забеспячэнне; 5) капітуляр; 6) спіс раздзелаў.

**capitulo** 1. 1) складаць дамову; 2) абяцаць выкананне дамовы; 3) пералічваць.

**capitulum**, i *n demin.* 1) [**артыкул** *стб.*] артыкул (пастановы, статута і да т. п.): **capitula missorum** інструкцыі для каралеўскіх пасланцаў; 2) раздзел (твора).

**caplinum**, i *n* феадальная павіннасць высечкі дрэў.

**capo**, onis *m* [**каплун** *стб.*] каплун (спакладаны певень).

**capra**, ae *f* (caper) [**коза** *стб.*] каза: ~ **silvestris** [**серна** *стб.*] сарна.

**Caprasius M.** 20 кастрычніка.

**capsa**, ae *f* 1) скрыня; куфар; 2) схоў для мошчаў.

**capsor**, oris *m* распарадчык грашовай касы ці куфра.

**captiuncula**, ae *f demin.* 1) хітрасць; круцельства, выкрут; 2) падман.

**captivitas**, atis *f* (captivus) [**полон; нятство** *стб.*] палон; арышт, зняволенне.

**captivo** 1. (captivus) 1) панявольваць, браць у няволю, увязняць / знявольваць: **neminem captivabimus** «нікога не будзем трымаць у зняволенні» — прывілей асабістай недатыкальнасці аселай шляхты; 2) ~ **per collum** закоўваць у калодкі; 3) спусташаць; разбураць; 4) авалодваць неапрацаванай зямлёй; 5) адводзіць ад чагосьці.

**capulaticum**, i *n* права высечкі.

**capulum**, i *n* 1) дрэва на высечку; 2) абавязак платы за высечку.

**caput** (kaput), pitis *n* 1) [**голова** *стб.*] галава; 2) галаўшчына; 3) жыццё; свабода: **invindicabilis capite** пазбаўлены грамадзянскіх правоў, якога кожны можа забіць бяскарна — безабаронная галава; **perditio capitis** [**страченье шии, головы** *стб.*] страта шыі / галавы, адсячэнне галавы, пакаранне смерцю; 4) сталіца.

**Caput ieiunii** серада апошняй нядзелі перад Вялікім Постам, Папялец, тое ж, што і **dies cinerum**.

**Caput quadragesimae** галава саракадзённага посту, серада 1-га тыдня Вялікага Посту, Папялец.

**caputium**, ii *n* 1) каўнер кашулі альбо паліто; 2) каптур; 3) шапка з аздабленнем; 4) берэт; 5) сімвал перадачы камусьці права ўласнасці.

**Caramentranum, caremprenium, carnicapium, carniplarium, carnivora (feria)** аўторак перад пачаткам Вялікага Посту, напярэдадні Папяльца — **dies cinerum**.

**carbarius, i** *m* жупнік.

**carbinus**, i *m* вознік солі, які возіць соль з саляных жупаў.

**carcagium**, ii *n* феадальны абавязак транспартавання.

**carcer**, eris *m* [**везенье, казнь** *стб.*] вязніца, турма: **carceri deputare, ponere in carceres** [**посадити | осадити | осаживати** *стб.*] садзіць (у вязніцу / турму).

**carceragium**, ii *n* плата за ўтрыманне ў зняволенні.

**carentia**, ae *f* (careo) [**carencya** *пл.*] пакаранне, якое палягае на адыманні ці памяншэнні прыбытку.

**carestia** *гл.* **caristia**.

**carioro** 1. узнімаць кошт.

**caristia**, ae *f* 1) дарагоўля харчовых прыпасаў; 2) пазбаўленне; недахоп; нястача.

**Caristica, cara cognatio (feria)** умілаваная роднасць, 22 лютага.

**caritas**, atis *f* (carus) 1) ахвяраванні на кляштары; 2) мера віна, якую адпускалі манахам; 3) усё, што давалася дарма, не з абавязку і не за звычаем; 4) бла(га)славенне, добраславенне.

**carmula**, ae *f* 1) мяцеж; 2) паўстанне.

**carnale**, is *n* час, у які дазваляецца спажываць мяса, мясаед.

**carnalis**, e (caro) 1) цялесны, фізічны; 2) злучаны повязямі крыві ці абавязку: ~ **frater** родны брат; 3) сапраўдны, непадробны.

**carnalitas**, atis *f* (carnalis) юрлівасць; неўстрыманне.

**carnifex**, icis *m* [**кат** *стб.*] кат.

**Carnisprivium novum (dominica)** устрыманне ад спажывання мяса, нядзеля посная новая.

**Carnisprivium vetus (dominica)** 1-я нядзеля посту ці 1-я нядзеля Вялікага Посту.

**Carolus Magnus** 28 студзеня.

**carpentarius**, ii *m* 1) [**stalmach, stelmach** *пл.*] стэльмах — калёсны майстар, калёснік, які пераважна рабіў драўляныя часткі калёсаў; 2) цесля; 3) працаўнік, які возіць у жупах тачкай і калёсамі, вознік.

**carptio**, onis *f* папрок.

**carrada** *гл.* **carruca vini**.

**carragium**, ii *n* 1) таварны воз; 2) феадальны абавязак транспартавання.

**carrago**, inis *f* (carrus) ваенны абоз: **magister carraginis** абозны. Даўней войска на пастоі атачалі абозам ці калёсамі, якія служылі ім пэўнай абаронай супраць непрыяцеля.

**carraria**, ae *f* 1) феадальны абавязак транспарта; 2) паклажа воза, груз; 3) дарога для вазоў.

**carrata**, ae *f* паклажа воза, груз.

**carretata**, ae *f* *гл.* **carrata**.

**carricamentum**, i *n* феадальны абавязак транспарта.

**carricatura**, ae *f* 1) феадальны абавязак транспартавання; 2) паклажа воза, груз.

**carricatus**, us *m* *гл.* **carricamentum**.

**carropera**, ae *f* *гл.* **carricamentum**.

**carroperarius**, a, um які абавязаны транспартаваць.

**carruca**, ae *f* 1) лёгкі воз для перавозу цяжараў; 2) падарожны чатырохкалёсны воз; 3) ~ **vini** старажытная французская мера, якая змяшчала ў сабе 12 амфар.

**carrucagium**, ii *n* падатак ад плуга.
**carrucata**, ae *f* 1) абшар зямлі, які можна было ўзараць адным плугам за сезон; 2) ворыва.
**carta** *гл.* **charta**.
**casa**, ae *f* сельская хаціна.
**casatura**, ae *f* 1) вясковая гаспадарка; 2) лен.
**casatus**, i *m* 1) падданы, які атрымаў ад паноў гаспадарку; 2) леннік.
**Casimirus conf.** 4 сакавіка.
**cassatio**, onis *f* [**kassacya** *пл.*] касаванне, знішчэнне якога-небудзь акта ці судовага вызначэння, *пар.* **sublevatio**, **annihilatio**.
**cassatorie** *adv.* шляхам знішчэння, касаваннем.
**Cassianus Ep.** 5 жніўня.
**casso** 1. (cassus) касаваць, адымаць усялякае значэнне, знішчаць.
**castaldio** *гл.* **gastald(i)us**.
**castaldus** *гл.* **gastald(i)us**.
**castellanatura**, ae *f* замкавая акруга, каштэлянія.
**castellanatus**, us *m* 1) замкавая акруга, каштэлянія; 2) пасада і годнасць каштэляна.
**castellania**, ae *f* 1) замкавая акруга, каштэлянія; 2) пасада і годнасць каштэляна; 3) жыхары каштэляніі; 4) каштэлянскі суд; 5) павіннасці і службы на карысць замка.
**castellanides**, idis *f* каштэлянія.
**castellanissa**, ae *f* каштэлянава — жонка каштэляна.
**castellantia**, ae *f* 1) абавязак будаўніцтва і рамонту замка; 2) абавязковае знаходжанне ў замку.
**castellanus**, i *m* [**kasztelan** *пл.*] 1) [**каштелян** *стб.*] каштэлян — начальнік крэпасці, другая асоба пасля ваяводы, якая засядала ў сенаце; 2) ваявода; 3) кіраўнік замка, бургграф; 4) *pl.* жыхары замка.
**castellaria**, ae *f* 1) пасада і годнасць каштэляна; 2) кампетэнцыі каштэляна; 3) тэрыторыя, падуладная каштэляну.
**castellaris**, e датычны замка.
**castellarium**, ii *n* замак.
**castello** 1. 1) будаваць фартыфікацыі; 2) знаходзіцца ва ўмацаваным месцы; 3) прапаноўваць камусьці ахову замка.
**castellum**, i *n demin.* 1) узвышанае ўмацаванае месца; 2) замак.
**casticia**, ae *f* 1) феадальны абавязак будаўніцтва дома; 2) род будынка.
**castor**, oris *m* [**бобр** *стб.*] 1) бабёр: **castorum** [**бобровый** *стб.*] бабровы; **castorum investigationes** [**гоны бобровые** (толькі мн. л.) *стб.*] бабровыя гоны; 2) г. зв. бабровае (плата); 3) **dominus castorum** [**bobrownik** *пл.*] баброўнік, саноўнік пры каралеўскім двары, які меў нагляд за вартаўнікамі каралеўскіх баброў і за самімі бабрамі.
**Castorius** 8 лістапада.

**castrametator**, oris *m* абозны.

**castrametor** 1. [**стоити | стояти** *стб.*] стаць (перад), стаяць абозам / лагерам.

**castrensis**, is *m* жыхар замка.

**castrifex**, icis *m* гарадскі ўраднік у Вільні, які апекаваўся ўмацаваннямі замка.

**castrum**, i *n* [**zamek** *пл.*] 1) умацаванне, крэпасць; 2) умацаваны пляц; 3) [**город** *стб.*] замак — сядзіба князя ці караля; каралеўскі двор; адміністрацыйны цэнтр: ~ **ducale** княжацкі замак; ~**regium** каралеўскі замак. Длугаш адрознівае два роды замкаў: a) шырокі двор, b) від схову для скаціны (Długosz I, 177); 4) **castra:** a) вайсковы абоз / лагер, b) войска, c) ваенная служба, d) марш войска, e) партыя, f) каралеўскі ці імператарскі двор; 5) ~ **doloris:** a) труна; мары, катафалк, b) супольнасць і спеў каталіцкіх святароў пры катафалку.

**Castulus M.** 26 сакавіка.

**Castus et Aemilius MM.** 22 траўня.

**casus**, us *m* (cado) 1) [**пригода** *стб.*] выпадак; прыгода; акалічнасць; 2) [**членок** *стб.*] пункт, артыкул; выпадак (у законе); 3) [**справа | дело** *стб.*] справа; рашэнне; парадак; абавязак, служба.

**catabolus**, i *m* 1) порт; 2) стайня.

**catafractus**, i *m* панцырнік.

**catastrum**, i *n* 1) падатковая кніга, рэестр — кніга, у якой запісваліся маёнткі, уладанні, імёны ўладальнікаў, падаткі; 2) ацэнка мыта і падаткаў.

**catastum** *гл.* **catastrum**.

**catena**, ae *f* [**ланцуг** *стб.*] ланцуг.

**Catharina V. M.** 25 лістапада, 30 красавіка.

**Cathedra S. Petri (festum)** 22 лютага.

**catholicus**, a, um 1) [**крестьянский** *стб.*] хрысціянскі; 2) каталіцкі.

**catholicus**, i *m* 1) [**хрестьянинн** *стб.*] хрысціянін; 2) каталік.

**cattus** (catus), i *m* 1) кот; 2) аблогавая машына.

**cauclearius**, ii *m* *гл.* **caucleator**.

**caucleator**, oris *m* чарнакніжнік.

**caupo** (copo), onis *m* 1) купец; 2) карчмар.

**caupona** (copona), ae *f* (caupo) 1) карчма; заезны двор; гатэль; 2) гаспадыня карчмы.

**cauponarius**, i *m* (caupona) карчмар.

**causa**, ae *f* 1) [**причина** *стб.*] прычына; 2) [**реч** *стб.*] справа: **causam amittere** [**реч тратити** *стб.*] прайграваць справу; **cum toto causae effectu** з усімі наступствамі справы; ~ **iuris et** ~ **facti**, *гл.* **iudicium civile et criminale**; **causae maleficii** справы аб чараўніцтве ці вядзьмарстве. Катаванні па гэтых справах забаронены назаўжды ў 1776 годзе. Vol. Leg. VIII, f. 882; 3) віна; абвінавачванне; 4) паказанне; 5) пакаранне за незахаванне свята; 6) суд.

**causalis**, e (causa) спрачальны, які вядзе спрэчку; які заводзіць сварку.

**causaticus**, i *m* спрачальнік, працўнік у спрэчцы.

**causatio**, onis *f* (causor) 1) спрэчка; супярэчнасць; 2) вызначэнне.
**causator**, oris *m*. спрачальнік; адвакат.
**causo** 1. 1) спрачацца; сварыцца; 2) паклёпнічаць.
**cautio**, onis *f* (ці **fideiussoria** ~ ) [**рукоемство** *стб.*], [**kaucya, kawencya, rękojemstwo** *пл.*] рукаемства — парука, зарука, ручальніцтва; забеспячэнне.
**cautor**, oris *m* (caveo) [**kautor** *пл.*] паручальнік, парука.
**cavagium** *гл.* **capitagium**.
**Cavantium capita (dominica)** нядзеля тых, хто прабівае галаву, Пальмовая Нядзеля, Вербніца.
**cavenaria** *гл.* **cabannaria**.
**caveo**, cavi, cautum, ere 1) сцерагчыся; 2) асцерагаць, перасцерагаць; 3) забяспечваць, ахоўваць; паручацца: ~ **aliquid lege** ахаваць, забяспечыць што-небудзь законам; ~ **de rato et grato** упэўніваць кагосьці ў поўнай сваёй згодзе.
**cavo** 1. (cavus) [**робити | робливати** *стб.*] дзіравіць, прабіваць, прарабляць.
**cavunarius**, ii *m* наглядчык сховішча і віннага склепа.
**Cbrysogonus M.** 24 лістапада.
**cechmagister**, tri *m* цэхмайстар.
**cedens**, ntis [**cedent** *пл.*] які саступае свае правы іншаму.
**cedo**, cessi, cessum, ere 1) [**поступати | поступити, спускати | спустити** *стб.*] саступаць, аддаваць, перадаваць; 2) [**зостати, зостати ся** *стб.*] заставацца; даставацца; 3) [**спадати | спадывати | спасти** *стб.*] адыходзіць, пераходзіць (у валоданне).
**cedula**, ae *f* папера, пісьмовае паведамленне, ліст, *гл. тс.* **apex**.
**cella**, ae *f* 1) невялікае памяшканне; схоў; 2) склеп: ~ **vinaria** [**podruna** *пл.*] вінны склеп.
**cellarium**, i *n* (cellarius) 1) камора; камера; схоў; 2) вінны склеп; 3) запасы, якія захоўваюцца ў каморы; 4) ~ **fisci** склад тавараў, прызначаных дзяржаўным скарбам на марскі гандаль.
**cellarius** (cella), ii *m* піўнічы.
**celo** 1. [**таити** *стб.*] хаваць, таіць, утойваць.
**celsitudo**, inis *f* (celsus) высокасць; вялікасць, *тс.* як тытул імператараў і каралёў: **Celsitudo Regia** Каралеўская Вялікасць, Каралеўскі Маэстат (сталыя эпітэты на азначэнне каранаванай асобы).
**cenobium**, ii *n* цэнобій — кляштар.
**cenotafium**, ii *n* надмагільны помнік.
**censeo**, sui, sum, ere [**познати** *стб.*] пазнаваць; прызнаваць.
**censile**, is *n* арэнда.
**censilis**, e абавязаны плаціць падатак.
**censinus**, i *m* плацельшчык падатку.
**censionarius**, ii *m* атрымальнік падатку.
**censitus**, i *m* абавязацельства платы падатку альбо чыншу.
**censiva**, ae *f* 1) права сюзерэна на падатак; 2) падатак.

**censivus**, a, um той, які ўстанаўлівае арэнду.

**censorarius**, a, um які атрымлівае чынш альбо падатак.

**censuale**, is *n* 1) паншчына; 2) права на паншчыну.

**censualis**, e які атрымлівае чынш.

**censualis**, is *m* 1) імператарскі ўраднік, абавязкам якога было ўкладанне падатковых кніг, вядзенне пратаколаў пасяджэнняў сената, падрыхтоўка рашэнняў сената і г. д.; 2) прыгонны.

**censualitas**, atis *f* 1) абавязак платы чыншу; 2) права атрымання чыншу; 3) паншчына.

**census**, us *m* (censeo) 1) перапіс людзей, уладання; ацэнка ўладання; 2) [**плат** | **платеж** | **поплата** *стб.*] плата, плацеж; прыбытак; працэнт; 3) [**цынш** *стб.*] чынш, аброк, падатак.

**centa**, ae *f* 1) акруга; павет; 2) **iudicium centae** суд цывільны / грамадзянскі ці крымінальны; 3) выпадак, падлеглы крымінальнаму суду.

**centena** *гл.* **centa**.

**centenarius**, i *m* (centenus) [**setnik** *пл.*] сотнік, акруговы суддзя.

**centua**, ae *f* мера зямельнай плошчы.

**centum** *indecl. num. card.* 1) [**сто** *стб.*] сто; 2) вельмі шмат; 3) мера аб'ёму.

**centurio** (centuria), onis *m* сотнік.

**cera**, ae *f* 1) воск; 2) васкоўка — пакрытая воскам таблічка, на якой рымляне пісалі вострым пісалам — штылем; 3) васковая маска; 4) васковая пячаць.

**cerarius**, a, um (cera) 1) васковы; 2) датычны падатку (воскам) на карысць касцёла.

**cerdo**, onis *m* (ад ням. **Gerber**) [**garbarz** *пл.*] гарбар. У Польшчы гарбарам было забаронена законам вывозіць выробленыя скуры за мяжу. Vol. Leg. I, f. 532. De cerdonibus.

**cerevisia**, ae *f* 1) [**пиво** *стб.*] піва; 2) колькасць піва, выробленая піваварам.

**cerevisiaria**, ae *f* надзвычайны падатак ад піва, мёду і віна.

**cerna**, ae *f* група жаўнераў.

**cerocensus**, i *m* падатак воскам.

**cerografus**, i *m* уласнаручная распіска; вэксаль.

**certificatum**, i *n* [**certifikat** *пл.*] 1) сведчанне, засведчанне; 2) вынятка з кніг сумы дзяржаўнага доўгу.

**certifico** 1. (certus) 1) абвяшчаць, апавяшчаць; засведчваць пісьмова; 2) забяспечваць якую-небудзь грашовую суму.

**certiono** 1. забяспечваць.

**certioro** 1. (certior) = **certiorem facio** рабіць вядомым, паведамляць.

**certitudo**, inis *f* 1) упэўненасць; 2) забеспячэнне, парука.

**cerva**, ae *f* (cervus) [**лань** *стб.*] лань.

**cervellarium**, ii *n* род шалому.

**cervisialis**, e піўны, датычны піва: ~ **pecunia** г. зв. шпунтавое — падатак ад продажу піва на разліў.

**cervus**, i *m* [**олень** *стб.*] алень.

**cessio**, onis *f* (cedo) [**zapis** *пл.*] 1) саступка, саступачны запіс, калі адна асоба саступае / дарує сваю нерухомую маёмасць іншай асобе ці назаўжды, ці да яе выкупу; 2) [**данина** *стб.*] дарэнне, падараванне; падараваная маёмасць.

**cessionarius**, ii *m* асоба, якая прымае саступку / дарэнне ад іншага «**Dans et concedens idem recognoscens eidem genoroso cessionario suo illiusque successoribus plenariam potestatem etc.**» Хто прызнае гэты запіс, дае і саступае прымаючаму гэтую саступку, (**cesionario**) поўную ўладу і інш., *гл.* **evictio**.

**cesso** 1. *frequ.* 1) не выкарыстоўвацца, не ўжывацца; 2) ляжаць аблогам; 3) пераставаць; знікаць; не існаваць: **cessat** перастае. Слова гэта пішацца праз усю старонку якога-небудзь акта, які ў выніку судовага вызначэння падлягае выключэнню і азначае, што акт перастае мець сваю законную сілу, што называецца элімінацыяй запісу, *гл.* **eliminatio**.

**ceterus**, a, um [**инший | ынший, инакший, иный** *стб.*] іншы, інакшы.

**chalcografus**, i *m* (ад гр. **grafo** пішу і **chalkos** медзь) [**sztycharz** *пл.*] разьбяр па медзі.

**character** (caracter), eris *m* 1) прыкмета; уласцівасць; 2) знак: ~ **nominis** манаграма (*гл.* **monogramma**); 3) [**знамя; клейно** *стб.*] пазнака, метка; кляйно, таўро.

**charta**, ae *f* 1) папірус; 2) папера; 3) аркуш; карта: ~ **lusoria** карта для гульні; ~ **nummaria** банкнот; **vincula chartae demere** развязаць вяроўкі аркуша; 4) пергамін: ~ **italica** італійскі пергамін — пергамін, зроблены са скуры ненароджаных ягнят; ~ **teutonica** пергамін з цялячых скураў; 5) пісьмо, ліст, дакумент: **ad chartas optare** дамагацца пасады, г. зв. **chartularius**; ~ **dentata** — рукапіс ці рукапісны зубчасты дакумент. У старажытнасці, асабліва ў Сярэднія вякі, адзін і той жа дакумент пісалі ў двух асобніках на адным аркушы і ў сярэдзіне паміж абодвума дакументамі крэслілі вялікія лацінскія літары, крыжы і іншыя малюнкі, якія пасля вырэзвалі ці просталінейна, ці зубцамі, *гл. тс.* **indentatus, indentura**; 6) кніга; 7) кантракт, пісьмовае забеспячэнне ўласнасці.

**chartula** *гл.* **charta**.

**chartularius**, i *m* (chartula) 1) імператарскі ўраднік, галоўным абавязкам якога было захоўваць і праглядаць падатковыя кнігі; 2) архівіст; 3) натарый; 4) нявольнік, вызвалены дакументам; 5) рамеснік, які вырабляе паперу; 6) рамеснік, які вырабляе карты для гульні.

**Charybdis**, is *f* Харыбда — бездань паміж Італіяй і Сіцыліяй, насупраць падводнай скалы Сцылы, *гл. тс.* **Scylla**.

**chevio** 1. пазычаць у кагосьці.

**chimia**, ae *f* 1) алхімія; 2) хімія.

**chirurgus**, i *m* 1) лекар; фельчар; 2) хірург.

**chorda**, ae *f* 1) кішка; 2) струна; 3) струнны інструмент; 4) шнур; ільняная вяроўка; 5) мера даўжыні.

**chorus**, i *m* 1) мера зямельнай плошчы; 2) посуд ёмістасцю ў адзін карэц.
**Chrisostomus** 27 студзеня.
**christianus**, i *m* [**хрестьянин** *стб.*] хрысціянін.
**Christina V.** 24 ліпеня.
**Christophorus M.** 24 ліпеня.
**Chunegundis V.** 3 сакавіка.
**chyrographus manualis** уласнаручна напісанае абавязацельства.
**ciborium**, i *n* [**ciboryum** *пл.*] цыборый — каталіцкая даразахавальніца, у якой ставіцца келіх з асвячанымі дарамі.
**cignus**, i *m* [**лебедь** *стб.*] лебедзь: **cigni** [**лебединый** *стб.*] лебядзіны.
**cimbellum**, i *n* выклік на бой.
**cimiterium** *гл.* **coemeterium**.
**cintracus**, i *m* гарадскі слуга, які абвяшчае распараджэнні ўлад.
**cippus**, i *m* 1) піраміда; 2) памежны слуп; 3) надгробны помнік; 4) палісад; 5) прылада для катаванняў; калодкі.
**circa** 1) вакол, навокал; 2) каля, пры; 3) [**водле | водлуг, подле | подлуг; при** *стб.*] паводле, згодна з, адпаведна, у адпаведнасці, у залежнасці ад, па; пры, у прысутнасці, пры наяўнасці.
**circatio**, onis *f* аб'езд біскупам дыяцэзіі пасля кожных трох гадоў.
**circuitio** *гл.* **circatio**.
**circuitus** (circumitus), us *m* 1) абыход вакол; абег; абарачэнне; акружэнне: **per circuitum** *s.* **in circuitu** вакол; 2) засада; 3) акружнасць; прастора; вольная прастора каля дому; абсяг, мяжа; 4) абход; аб'езд; наведванне; 5) аб'езд дыяцэзіі біскупам; 6) г. зв. абыход мясцовасці (для ўсталявання межаў); 7) наваколле; 8) перыяд; 9) вяртанне хваробы; 10) апісанне, абмеркаванне; 11) дачаснае / смяротнае жыццё.
**circulator**, oris *m* (circulor) 1) (вандроўны) штукар; 2) падарожнік; 3) бадзяжнік, валацуга; 4) гарадскі ахоўнік, які наглядае за парадкам.
**circulus**, i *m demin.* 1) кола, круг; 2) [**круг** *стб.*] круг (па якім плавае круговая / падсадная качка).
**circumburo**, ussi, ustum, ere [**опалити** *стб.*] абпальваць.
**Circumdederunt (dominica)** атачылі — нядзеля пра блуднага сына.
**circumdo**, dedi, datum, are 1) атачаць, абгароджваць: ~ **saepem** [**огородити; очерети** *стб.*] абгароджваць плотам; 2) абдзіраць; 3) шкодзіць.
**circumequito** 1. 1) аб'язджаць конна; 2) аб'язджаць афіцыйна нейкую мясцовасць для ўсталявання межаў.
**circumferentia**, ae *f* (circumfero) [**cirkumferencya** *пл.*] акружнасць, абвод, абсяг, мяжа вакол чаго-небудзь.
**circumloquor**, locutus sum, loqui 1) абгаворваць, апісваць; вызначаць; 2) выступаць з судовым дамаганнем.
**circumvicinus**, a, um [**околичный** *стб.*] навакольны.

**cisa**, ae *f* падатак ад гандлёвых абарачэнняў, *асаб.* г. зв. шпунтовае ад продажу піва на разліў.

**cistersiensis**, is *m* [**cysters** *пл.*] цыстэрс, законнік / манах з каталіцкага закону / ордэна, устаноўленага святым Бэрнардам. Назва цыстэрсаў запазычана ад кляштара **Cisterium** у Бургундыі.

**citatio**, onis *f* (cito) [**позов | позыванье** *стб.*] пазоў / пазыванне / выклік у суд. Найстаражытнейшы спосаб пазову ў суд быў наступны: возны — **ministerialis generalis** ці інакш **officialis** браў асвячаную палку, якая была знакам яго ўрадавай пасады і ішоў да абывацеля, якога трэба было пазваць да суддзі; стукаў гэтай палкай у вароты ці ў дзверы, выклікаў гаспадара і абвяшчаў яму, каб ён з'явіўся да пэўнага суддзі (Vol. Leg. I, f. 9). Пазней пазовы давaліся пісьмова ад імя суда, але часцей ад імя караля. Пазоў / выклік у суд без пазоўніка / повада / істца падлягаў штрафу, званаму пятнаццаткай (Vol. Leg. I, f. 12); **citatio verbalis** [**nadworny rok** *пл.*] вусны пазоў / выклік у каралеўскі суд, які забаронены быў законам па справах пра межы і пра спадчыну. Vol. Leg. I, f. 328.

**citator**, oris *m* пазоўнік / повад /ісцец; абвінаваўца.

**citatorium**, i *n гл.* **citatio**.

**cito** 1. *frequ.* 1) [**позвати | позывати** *стб.*] пазываць / выклікаць (у суд), прыцягнуць (да суда); 2) [**припозвати | припозывати** *стб.*] прыпазываць / выклікаць дадаткова (у суд); 3) ~ **se** [**позвати ся** *стб.*] звярнуцца (у суд).

**citra** *adv.* [**меншей** *стб.*] менш.

**civadagium**, ii *n* падатак аўсом.

**civica**, ae *f* мяшчанка / гараджанка.

**civicus**, i *m* месціч / мешчанін / гараджанін.

**civilis**, e (civis) *adi.* [**местский** *стб.*] месцкі / гарадскі.

**civilitas**, atis *f* (civilis) 1) уменне кіраваць; 2) права грамадзянства; 3) грамадзянская дабрачыннасць (справядлівасць, мяккасць, ветласць, добразычлівасць); 4) права гарадскога грамадзянства.

**civis**, is *m* [**мещанин** *стб.*] месціч / мешчанін / гараджанін.

**civitas**, atis *f* (civis) [**место | местце | местцо** *стб.*] места / горад.

**ciza**, ae *f* акцыз; г. зв. шпунтовае.

**clamator**, oris *m* (clamo) 1) крыкун; 2) выклікальнік; 3) возны; 4) пазоўнік / ісцец (як працэсуальны бок).

**clamosus**, a, um (clamo) 1) крыклівы; шумны; 2) яўны, публічны; 3) аганьбаваны; 4) абвінавачаны.

**Clara** 12 жніўня.

**clarigatio**, onis *f* (clarigo) [**clarigacya** *пл.*] абвяшчэнне вайны.

**claudicator**, oris *m* злачынец.

**Claudius et alii MM.** 23 жніўня.

**claustrifex**, icis *m* [**slosarz** *пл.*] слесар.

**claustrum**, i *n* (claudo) 1) загарода; перагародка; перашкода; 2) замок; засаўка; 3) [**klasztor** *пл.*] кляштар (у т. л. зачынены — суворай рэгулы); 4) унутраная галерэя; 5) умацаванне, крэпасць; 6) зняволенне; 7) грэбля, гаць; 8) межы; 9) гарадскія валы; 10) цясніна.

**Clausum pascha (dominica)** завяршэнне Вялікадня, 2-я нядзеля па Вялікадні.

**clausura**, ae *f* 1) агароджа; 2) кляўзура — устанаўленне, паводле якога некаторыя каталіцкія манахі і манашкі не могуць выходзіць за агароджу кляштара.

**clavicularius**, i *m* (clavicula) ключнік.

**claviger**, geri *m* (clavis) [**ключник** *стб.*], [**klucznik** *пл.*] ключнік (службовая асоба «пры ключы») — пасада пры двары караля.

**Clemens P.** 23 лістапада.

**clementia**, ae *f* (clemens) 1) лагоднасць; 2) ласкавасць; ласка: ~ **distributiva** права караля, паводле якога ён раздаваў пасады па сваёй волі, гэтак жа, як і ўладанні, што належаць памерламу.

**Clementinus, Theodotus et Thilomenus MM.** 14 лістапада.

**clenodium**, i *n* [**godło, hasło** *пл.*] кляйнот — першапачаткова назва, якім адно племя ці грамадства адрознівала сябе ад іншага. Людзі заможныя, якія мелі сваіх хлебаедцаў ці чэлядзь, называліся кляйнотнікамі: **clenodia** [**клейноты** *стб.*] кляйноты; каштоўнасці.

**Cleopas Christi Disc.** 25 верасня.

**clericus**, i *m* (clerus) 1) [**духовный** *стб.*] духоўны / духоўная асоба, клерык: **clerici regulares scholarum piarum** каталіцкі манаскі ордэн, вядомы наогул пад імем піяраў [**piarowie** *пл.*]; 2) шкаляр, жак.

**cleronomus**, i *m* 1) спадчыннік; 2) семінарыст.

**Cletus et Marcelinus P. M.** 26 красавіка.

**cliens**, entis *m* 1) збраяносец; 2) васал; 3) кліент.

**clientulus**, i *m demin.* 1) падданы; слуга; 2) васал, леннік; 3) кліент адваката.

**clipeatura**, ae *f* ваенная арганізацыя Германскай імперыі.

**clito**, onis *m* малады князь.

**clusarius**, ii *m* памежны вартаўнік.

**clusaticum**, ii *n* плата за пераход горнай дарогай.

**cmetho**, onis 1) [**мужик** *стб.*], [**kmieć** *пл.*] кмет / мужык, селянін; падданы, *гл. тс.* **subditus**: ~ **adscriptus** прыпісны; ~ **arealis** ланавы; ~ **curialis** | **curista** дворышчны; ~ **censualis** | **censitus** чыншавік; ~ **conditionalis** пахожы; ~ **collocatus** | **locatus** | **obssessus** | **possessionatus** аселы; ~ **hortulanus** | **colonus** загароднік; ~ **impossessionatus** неаселы, гульцяй; ~ **inquilinus** | **inquilinus** | **subses** каморнік; халупнік; падсуседак; ~ **libertinus** слабаджанін; ~ **acclinatus** | **reclinatus** выкацец; ~ **profugus** | **fugitivus** | **fugax** уцякач; **kmethonis** [**мужицкий** *стб.*] мужыцкі, сялянскі; **ex genere kmethonum** [**тяглый** *стб.*] цяглы (селянін); **kmethones** [**люди посполитые, простые** *стб.*] людзі паспалітыя / простыя, падлеглыя падаткам, залежныя сяляне, кметы. Мацыёўскі ў сваёй «Гісторыі славянскіх заканадаўстваў» выводзіць слова **kmieć** ад лац. **comes**

спадарожнік, таварыш і адрознівае таварышаў княжацкіх, рыцарскіх і шляхецкіх (Том II, § 25, 51, 65, 91, 115, 260): **cmethones adscriptitii**, *гл.* **subditus; cmethones censiti** сяляне, якія плацілі толькі адзін чынш, чыншавыя, чыншавікі; **cmethones conditionales** сяляне пахожыя — вольныя, часова аселыя на зямлі вотчынніка, *гл.* **subditus**; 2) назва княжацкага саноўніка ў XIII—XIV стст.

**cmethona**, ae *f* сялянка.

**cmethonicus**, a, um кмецкі / мужыцкі, сялянскі.

**coadiutor**, oris *m* 1) супрацоўнік; памагаты: **episcopus** ~ дапаможны біскуп; 2) **coadiutores** дапаможныя апекуны; 3) чаляднік; 4) хаўруснік, той, хто разам з іншымі дапамагае галоўнаму вінаватаму ў злачынстве.

**coaequalis**, e 1) аднагодак; 2) чалавек у гэткім жа юрыдычным статусе.

**coaequo** 1. [**зровнати** *стб.*] зраўноўваць; дзяліць пароўну.

**coagnatus**, a, um адзінакроўны.

**coangulatus**, i *m* памежнік, сумежнік.

**coctura**, ae *f* (coquo) 1) гатаванне; 2) варэнне, варка: ~ **salis** [**koktura soli** *пл.*] саляварня, жупа.

**codrianus**, i *m* 1) бядняк; 2) мянушка жыхара інтэрната для бедных.

**Coelestinus P.** 7 чэрвеня.

**coemeterium**, i *n* 1) могілкі; 2) права на пахаванне, на магілу.

**coexecutor**, oris *m* сувыканаўца тастамента / завяшчання.

**cofferarius**, ii *m* вытворца куфраў.

**cognata**, ae *f* сваячка.

**cognatus**, a, um (gnatus = natus) [**прирожоный** *стб.*] крэўны, родны па бацьку ці таксама па маці. У Рэчы Паспалітай гэтае паняцце адпаведна перадавалася гэткімі юрыдычнымі тэрмінамі: [**krewni po mieczu** *пл.*] крэўныя / родныя па мячы і [**krewni po kądzieli** *пл.*] крэўныя / родныя па кудзелі.

**cognitamentum**, i *n* *гл.* **cognitatio**.

**cognitatio**, onis *f* публічная заява.

**cognitio**, onis *f* (cognosco) сведчанне на судзе ў якой-небудзь справе.

**cognosco**, gnovi, gnitum, ere 1) [**познати** *стб.*] пазнаваць; прызнаваць; 2) ухваляць; 3) мець сукупленне, здзяйсняць палавы акт.

**cohibeo**, hibui, itum, ere 1) трымаць; абмяжоўваць; 2) ахопліваць; змяшчаць (у сабе); 3) пагаджаць; лагодзіць; утаймоўваць.

**cohors**, rtis *f* вайсковы аддзел, рота: **in cohortem locare** [**шиховати ся** *стб.*] шыхавацца / ставаць у шыхт; праходзіць агляд, быць аглянданым.

**cointelligentia**, ae *f* [**kointelligencya, porozumienie się** *пл.*] паразуменне; таемныя зносіны.

**colenda**, ae *f* падатак натурай.

**collaboratio**, onis *f* набытак, зроблены сужэнцамі пасля шлюбу.

**collata**, ae *f* грашовы падатак, які плаціцца пану.

**collateralis**, is *m* 1) сумежнік, памежнік; 2) блізкі сусед; 3) пабочны родзіч, роднасць якога лічыцца не ў прамой лініі; 4) у сярэднявечнай лацінскай мове — сужэнец ці сужонка; 5) таемны член магістрата.

**collateralis**, e [**kollateralny** *пл.*] які ляжыць абапал; сумежны, памежны (пра зямлю).

**collatio**, onis *f* (confero) 1) збор; 2) сход; 3) грашовы падатак, які плаціцца пану; 4) [**collacya** *пл.*] позні сход; вячэра каталіцкіх манахаў; наогул вячэра; 5) права вотчыннікў у Літве-Беларусі абіраць і прадстаўляць на вакантны прыход у сваім уладанні святароў ці ксяндзоў. Права гэтае называлася таксама калятарствам, *гл.* **ius patronatus**.

**collationo** 1. супастаўляць; параўноўваць копію з арыгіналам.

**collator**, oris *m* (confero) [**kollator** *пл.*] 1) памежнік, сумежнік; 2) прадстаўляльнік — вотчыннік, які меў права прадстаўляць пэўную асобу на святара ў вакантны прыход у сваім уладанні, *гл.* **collatio**.

**collecta**, ae *f* (collectus) 1) падатак; 2) збіранне міласціны; 3) сход; 4) бунт, абурэнне; 5) збіранне пладоў.

**collegiata (ecclesia)**, ae *f* катэдральны касцёл, пры якім звычайна знаходзіўся капітул.

**collegio**, onis *m* назва княжацкага ўрадніка.

**colligatus**, i *m* [**koligat** *пл.*] родзіч па шлюбе, сваяк.

**colligo**, legi, lectum, ere [**собрати** *стб.*] збіраць.

**collisio**, onis *f* (collido) [**kollizya** *пл.*] 1) сутыкненне, збег супрацьлегласцей; спрэчка; звада. У юрыдычнай мове — выпадак, у якім адзін закон супярэчыць другому ці сутыкненне правоў дзвюх асоб.

**collocutor**, oris *m* (colloquor) 1) суразмоўца; 2) арбітр, пасрэднік.

**collum**, i *n* [**шия, горло, страченье головы, шии** *стб.*] шыя / горла / галава / жыццё; горла, пакаранне смерцю; адсячэнне галавы, страта шыі / галавы, пакаранне смерцю: **vergere ad**; ~ **agi de collo** [**идти | ити о шии | о горло** *стб.*] ісці пра горла / жыццё, датычыцца жыцця; **collo suscipere** [**за шию приняти** *стб.*] браць адказніка на сваю літасць, прымаць з галавой; **collo tradere** [**за шию выдати** *стб.*] выдаваць з галавой, аддаваць адказніка (на літасць пазоўніку / істцу); ~ **amittere** [**горло | шию тратити** *стб.*] траціць горла / траціць жыццё, пазбаўляцца галавы, жыцця, быць асуджаным да пакарання смерцю, быць аддадзеным на смяротнае пакаранне, падвяргацца смяротнай кары; ~ **redimere** [**шию окупити** *стб.*] выкупляць жыццё.

**collusio**, onis *f* (colludo) таемная дамова; зговар, калі пазваныя / выкліканыя ў суд за нанесеныя імі збіццё ці раны, каб пазбегнуць пакарання, наадварот пазываюць у суд пазоўнікаў / істцоў у розных судах таксама за збіццё і раны. Vol. Leg. I, f. 535.

**colo**, colui, cultum, ere 1) [**орати** *стб.*] араць; 2) [**подорати | подоривати | подорывати** *стб.*] падворваць; 3) ушаноўваць, пакланяцца.

**Colomannus** 13 кастрычніка.

**colonatus**, us *m* (colonus) сельскае жытло з зямлёй, неабходнай для пражытку пасяленца ці вясковай сям'і.

**colonellus**, i *m* палкоўнік.

**colonia**, ae *f* (colonus) 1) калонія — першапачаткова падбітае Рымам і занятае рымскімі асаднікамі месца; пасяленне, асада: **partionaria** ~ асада / калонія, зямля якой апрацоўваецца пасяленцам, але ў прыбытках ад яе бярэ ўдзел і сам уладальнік; 2) група асаднікаў, пасяленцаў; 3) сельскае жытло з зямлёй, неабходнай для пражытку пасяленца ці вясковай сям'і.

**colonica**, ae *f* сельскае жытло з зямлёй, неабходнай для пражытку пасяленца ці вясковай сям'і.

**colonus**, i *m* (colo) 1) жыхар калоніі; 2) дзяржаўца грунту; 3) асаднік, колан, прыпісаны да зямлі: **coloni fiscales** коланы, пасяленцы, якія апрацоўваюць палі, што належаць скарбу; 4) селянін; 5) араты, ратай.

**color**, oris *m* [**шерсть** *стб.*] масць (каня).

**Columba V. M.** 31 снежня.

**columba**, ae *f* [**голуб** *стб.*] голуб.

**Columbanus Abb.** 21 лістапада, 24 кастрычніка.

**columbatio**, onis *f* [**kolęda** *пл.*] каляда, добраахвотны падатак ці прынашэнне, дапушчанае ў старажытнасці законам, якое атрымлівалі ў пэўны час духоўныя і свецкія асобы. Верагодна, што яно першапачаткова складалася з галубоў, таму і названа **columbatio** ад **columba** голуб. Vol. Leg. II, f. 101.

**comarchus**, i *m* войт; бурмістр; солтыс.

**comburo**, ussi, ustum, ere [**зжечи** *стб.*] паліць, спальваць.

**comes**, itis *m* (ад **comitor** спадарожнічаць) 1) таварыш; спадарожнік, так называліся: а) вяльможы Рымскага двара, таму што яны ўсюды спадарожнічалі гаспадару, b) суддзі горада і навакольных сёл, с) прыдворныя, якія складалі раду караля ці князя. Яны былі ваенныя, грамадзянскія і правінцыйныя. У Рыме яны тытулаваліся: **sacri palatii comites** зверхнікі папскага двара ці **palatinae excellentiae comites** таксама **principes militiae** зверхнікі войска. Kadłub. II, 63, 72, 119, 266; 2) намеснік правінцыі, граф; 3) вяльможа, магнат, прыдворны: ~ **hereditarius** дзедзічны войт; ~ **palatii** дворскі.

**comestibilis**, e (comedo) ядомы: ~ **denarius** род падатку, даванага князю.

**comicilium**, ii *n* акруговы суд па-за горадам.

**comitale**, is *n* юрысдыкцыя бургграфа.

**comitalia**, ium *n pl.* рэгаліі ўлады феадальнага саноўніка, графа.

**comitatura**, ae *f* судовы апарат вышэйшай інстанцыі.

**comitatus**, us *m* (comitor) 1) [**почот** *стб.*] почат — атрад (ваяроў, якія суправаджалі феадала на вайну альбо агляд); 2) [**kmiećctwa** *пл.*] кмецтва — невялікая акруга, на якія ў старажытнасці падзяляліся каралеўствы; акругі гэтыя называліся таксама жупамі.

**comitia**, ae *f* 1) годнасць феадальнага саноўніка; 2) граф; 3) ~ **palatina** пасада прыдворнага саноўніка.

**comitiolum**, i *n* сеймік.

**comitissa**, ae *f* 1) графіня; 2) жонка графа.

**comitium**, i *n* (comeo = coëo) народны сход, сойм: **comitium extraordinarium** [**Seym extraordinaryjny, zapowiedzialny** *пл.*] сойм экстраардынарны. Для соймаў былі пэўныя тэрміны, але соймы надзвычайныя, экстраардынарныя прызначаліся па-за гэтымі тэрмінамі.

**comitiva**, ae *f* [**почот** *стб.*] почат — атрад (ваяроў, якія суправаджалі феадала на вайну альбо агляд).

**comitivus**, a, um (comes) 1) які датычыць саноўніка з тытулам графа, графскі; 2) кіраўнічы; 3) суправаджальны.

**comitor**, oris *m* васал.

**commarca**, ae *f* неапрацаваная зямля, якая з'яўляецца часткай дамена феадала.

**commarchus**, i *m* маркіз.

**commeatus**, us *m* (commeo) [**стацей** *стб.*] стацыя / кармленне, правіянт, харч.

**Commemoratio passionis Domini** успамін Мукі Пана, 25 сакавіка.

**commemoro** 1. [**припоминати, припоминати ся** *стб.*] заяўляць; аспрэчваць.

**commenda**, ae *f* 1) дэпазіт — усё, што аддаецца на захаванне; 2) землі і касцёльныя прыходы, аддаваныя ў пажыццёвае валоданне; 3) прыход храмавага рыцара — тампліера.

**commercatio**, onis *f* супольны гандаль.

**commilito**, onis *m* калега ў войску, вайсковы таварыш.

**commissariatus**, us *m* 1) пасада кіраўніка ўладання; 2) акруга.

**commissarius**, ii *m* [**комисар** *стб.*], [**commisarz** *пл.*] 1) камісар; упаўнаважаны; 2) суддзя, прызначаны каралём для вызначэння межаў каралеўскіх уладанняў, а таксама для падзелу ўладанняў паміж братамі і роднымі. Камісараў звычайна было некалькі. Камісарскія вызначэнні не падлягалі апеляцыям (Vol. Leg. II, f. 1042): ~ **granitialis** межавы суддзя.

**commissorium**, ii *n* [**kommissorium** *пл.*] даручэнне, дадзенае для выканання; камандзіроўка.

**commissum**, i *n* (committo) 1) давераная рэч; 2) даручэнне: **in commisso dare** даручаць; загадваць; **in commisso habere** прымаць даручэнне; 3) сакрэт, таямніца; 4) правіна; праступак; 5) учынак, прадпрыемства; 6) адыманне на карысць скарбу, асабліва ў выпадку выплаты мыта альбо падаткаў; 7) атрыманне лена; 8) дыяцэзія.

**commissus**, us *m* правапарушэнне; злачынства.

**committo**, misi, missum, ere 1) [**полецати | полецыти** *стб.*] даручаць, даваць; 2) [**взычити | узычати** *стб.*] узычаць / даваць; падаваць; рачыць / прызваляць / рабіць ласку; 3) [**вчинити | учинити | чинити** *стб.*] чыніць, рабіць; здзяйсняць, выконваць, прычыняць, наносіць; паступаць: ~ **rapinam** [**пограбити** *стб.*] грабіць / рабаваць; захопліваць (быдла на патраве).

**commoneo**, ui, itum, ere 1) нагадваць; 2) абвяшчаць; 3) асцерагаць; звяртаць увагу; 4) заахвочваць; раіць; 5) прызываць у войска.

**commoror** 1. [**лежати** *стб.*] знаходзіцца; прабываць, жыць.

**commune**, is 1) супольнае дабро; 2) супольная маёмасць; 3) гарадское ці мястэчковае грамадства; 4) агульная паша; 5) маёмасць, прыбыткамі з якой карыстаюцца разам катэдральныя канонікі.

**communefacio**, facio, feci, factum, ere інфармаваць; абвяшчаць.

**communia** *гл.* **commune**.

**communico** 1. (communis) *tr.*: 1) падзяляць штосьці з кімсьці; удзяляць, даваць; 2) прымаць св. Камунію, прычашчацца: **non communicant** [**Божьего тела не приймують** *стб.*] не прымаюць Божага Цела (Прычасця).

**communio** *гл.* **commune**.

**Communis septimana (hebdomada)** агульны тыдзень, тыдзень пасля свята св. Міхала.

**communis**, e 1) [**суместный | уместный, себреныи** *стб.*] сумесны, супольны, агульны; 2) [**посполитый** *стб.*] паспаліты / просты, звычайны; 3) [**неделеный** *стб.*] непадзелены, недзелены; 4) [**обчыи** *стб.*] чужаземны; чужы.

**communitas**, atis *f* (communis) [**посполъство** *стб.*] паспольства / грамадства, *тс. гл.* **commune**.

**commutatio**, onis *f* (commuto) 1) [**обмен** *стб.*] абмен; змена; 2) [**отмена** *стб.*] замена; 3) заменны запіс, калі дзве асобы па ўзаемнай згодзе замяняюць паміж сабой уладанне на ўладанне, зямлю на зямлю.

**commutator**, oris *m* бок у дамове замены.

**commuto** 1. [**променити** *стб.*] абменьваць.

**compactata**, orum *n pl.* пункты ці артыкулы дамовы.

**compactum**, i *n* [**kompakt** *пл.*] узаемная згода, дамоўленасць, умова.

**companator** *гл.* **campanator**.

**companium**, ii *n* 1) група жаўнераў; 2) купецкая кампанія; 3) звяз, саюз.

**compara**, ae *f* 1) купля; 2) прадмет куплі; 3) аплата ад продажу.

**comparatum**, i *n* нажытая маёмасць.

**comparatus**, us *m* (comparo) купля.

**compareo**, parui, ere 1) [**приехати** *стб.*] прыязджаць; з'яўляцца; 2) [**поставити** *стб.*] ставіць, выстаўляць; прадстаўляць; дастаўляць; 3) [**стати, поставити ся** *стб.*] ставіцца / ставаць перад (судом), з'яўляцца: **personaliter ~ et sisti** [**очивисте | очивисто поставити ся** *стб.*] ачавіста / асабіста / самому ставаць / з'яўляцца.

**comparitas**, atis *f* роўнасць звання і годнасці.

**comparitio**, onis *f* [**komparycya** *пл.*] яўка суцяжных бакоў у судзе і запіс справы.

**comparticeps**, cipis *m* саўдзельнік.

**Compassio Beatisimae Virginis Mariae (feria)** спачуванне Найсвяцейшай Панны Марыі — пятніца перад Пальмовай Нядзеляй.

**compellans**, ntis *m* пазоўнік / ісцец (як працэсуальны бок).

**compellatio**, onis *f* (compellare) 1) прамова; 2) зварот; 3) пакаранне; 4) ганьбаванне кагосьці; 5) выклік у суд; 6) абмен; згадванне.

**compensa**, ae *f гл.* **compensatio**.

**compensatio**, onis *f* (compenso) 1) кампенсацыя; 2) [**безчестье** *стб.*] ганьба, штраф (за нанясенне абразы); 3) ~ **quae vocatur nawyazka** [**везка** | **навезка** | **навязка** *стб.*] навязка / пакрыццё, кампенсаванне (за знявагу, збіццё, катаванні, раны, шкоду).

**compenso** 1. [**навезати** | **навязати** | **навязывати** *стб.*] плаціць / даваць кампенсацыю (за раны, шкоду і інш.), даваць адплату.

**comperio**, peri, pertum, ire [**взнати** | **узнати** *стб.*] 1) даведвацца; 2) [**знайти** | **найдти** | **найти** *стб.*] знаходзіць, прызнаваць, устанаўліваць.

**compermutans**, antis які чымсьці мяняецца з іншым.

**compermutatio**, onis *f* замена.

**compertinentia**, ae *f* прыналежнасць.

**compes**, pedis (compedio) падданы чыёйсьці ўладзе і юрысдыкцыі.

**compes**, pedis *f* (compedio) [**dyby** *пл.*] 1) аковы, калодкі, путы, кайданы на ногі альбо рукі, якія ў Польшчы і Літве-Беларусі клалі на ногі, а часам на рукі перш за ўсё злачынцам і збеглым сялянам; 2) вязніца; 3) дэкаратыўныя ланцужкі; 4) цяжкасць, перашкода.

**competens**, entis *m* [**competent** *пл.*] чалавек, цалкам прыдатны да якой-небудзь справы, які дасведчаны ў сваёй справе.

**competens**, entis [**слушный** *стб.*] слушны; належны, адпаведны; абгрунтаваны; законны.

**competentia**, ae *f* (competo) [**kompetencya** *пл.*] 1) уласцівасць, адпаведнасць; 2) правамоцнасць: ~ **annorum** адпаведнасць гадоў ці паўналецце. Поўнае паўналецце паводле закону было 24 гады. Па заканчэнні 24 гадоў можна было атрымліваць спадчыну, укладаць кантракты і здзяйсняць рознага кшталту ўгоды / здзелкі; 20 гадоў лічылася таксама паўналеццем, але толькі для ўзяцця шлюбу. Vol. Leg. VII, f. 707; 3) адпаведнасць юрысдыкцыі, роду судовай справы.

**competitor**, oris *m* спаборнік, прэтэндэнт.

**competo**, petivi [**прислухати** | **прислушати** *стб.*] адносіцца, належаць.

**compilator**, oris *m* (compilo) 1) рабаўнік; 2) плагіятар; 3) кампілятар.

**complanatio**, onis *f* (complano) акт, які змяшчаў у сабе поўную дамову ці ўмовы паміж суцяжнымі бакамі.

**complanctus**, us *m* 1) скарга; 2) патрабаванне феадальнага пана даваць яму дапамогу ў выпадку неабходнасці.

**complegium**, ii *n* заклад, забеспячэнне запазычанасці.

**completorium**, i *n* (compleo) час ад заходу сонца да поўначы.

**complex**, plicis *m* [**помочник** *стб.*] памочнік, памагаты.

**compono**, posui, positum, ere 1) складаць, састаўляць; 2) уладкоўваць; упарадкоўваць: ~ **aliquid mediis amicabilibus** уладжваць справу па-сяброўску.

**comportantia**, ae *f* [**komportancya** *пл.*] збор падаткаў, унёсак.

**comportatio**, onis *f* (comporto) [**komportacya** *пл.*] прад'яўленне ці прадстаўленне ў суд дакументаў.

**composita**, ae *f* сістэма.

**compositio**, onis *f* (compono) тое ж, што і **complanatio** род дамовы ці ўмовы паміж суцяжнымі бакамі, пагадждальная / міравая ўгода.

**compositor**, oris *m* (compono) 1) аўтар, выканаўца, творца, пісьменнік; 2) ~ **amicabilis** г. зв. паядначальнік, пагадняльнік, прымірыцель, арбітр, трацейскі суддзя, пасрэднік дамовы.

**comprehensio**, onis *f* набыццё.

**comprendinatio**, onis *f* блытаніна, замяшанне.

**compretio** 1. ацэньваць.

**comprobatio**, onis *f* (comprobo) 1) прызнанне, пахвала; 2) доказ; 3) пацвярджэнне: ~ **iuratoria** юрыдычнае ці законнае, а таксама прысяжнае пацвярджэнне.

**compromissio**, onis *f* дамова, хаўрус, укладзены з кімсьці: **compromissiones opificum** грамадствы працоўных людзей, інакш **confraternitates**.

**compromissum**, i *n* (compromitto) трацейскі суд.

**compunctatum**, i *n* дамова, узаемная згода.

**computarius**, ii *m* 1) чалавек, дасведчаны ў храналогіі і падліку часу; 2) каляндар.

**computatorium**, ii *n* табліца для падлікаў у форме шахматнай дошкі.

**computo** 1. [**ошацовати** *стб.*] ацэньваць.

**conarius**, i *m* падданы нявольнік, які апекаваўся коньмі князя.

**concambiatio**, onis *f* дамова замены.

**concambiator**, oris *m* бок у дамове замены.

**concambium**, ii *n* замена, абмен, *асаб.* зямельных дабраў.

**concameralis**, is *m* сужыцель.

**concampiductor**, oris *m* камандзір наёмнай роты.

**concausans**, ntis *m* працэсуальны бок.

**concedo**, cessi, cessum, ere 1) [**подати** *стб.*] аддаваць, перадаваць; вяртаць; 2) [**давати ся | дат ся | дати ся** *стб.*] паддавацца, даваць згоду, саступаць.

**Conceptio Beatissimae Virginis Mariae (festum)** Зачацце Найсвяцейшай Багародзіцы, 8 снежня.

**concernens**, entis *n* прыналежнасць; уласнасць.

**concerno**, —, —, ere [**прислухати | прислушати** *стб.*] адносіцца, належаць.

**concessio**, onis *f* (concedo) [**дата, данина** *стб.*] дарэнне, падараванне; падараваная маёмасць.

**concha**, ae *f* 1) ракавіна, рэчы, вырабленыя з ракавіны; пярліна; шкарлупіна; 2) жаночы орган; 3) апсіда касцёла; 4) міска; 5) мера аб'ёму.

**conchata**, ae *f* мера плошчы.

**conciatura**, ae *f* 1) узбраенне; 2) рыштунак.

**concio** 1. 1) канструяваць; 2) будаваць; 3) рамантаваць; 4) займацца.

**concio**, onis *f s.* **contio** 1) нефармальны збор грамадзян Рыма; 2) агульны збор грамадзян у горадзе; 3) група манахаў; 4) прамова, лекцыя; 5) загад.

**concitatio**, onis *f* (concito) [**przypowiast** *пл.*] прыпазоў, другі пазоў / выклік у суд ад пазоўніка / істца для выплаты абвінавачаным у судзе таго, што прысуджана яму судом па першым пазове.

**concito** 1. *frequ.* [**przypozywać** *пл.*], [**припозвати | припозывати** *стб.*] прыпазываць / выклікаць (зноў у суд), аднаўляць пазоў у выпадку смерці пазоўніка / істца ці пазываць / выклікаць у суд да адказу на ўжо зроблены пазоў, тэрмін якому яшчэ не скончыўся.

**concivilitas**, atis *f* 1) права гарадскога грамадзянства; 2) супольнасць; сувязь.

**concivis**, is *m* 1) суграмадзянін; 2) сугараджанін; 3) *pl.* збор мяшчан.

**concivium**, ii *n* 1) права гарадскога грамадзянства; 2) гарадская гміна; 3) сукупнасць грамадзян дадзенага горада.

**conclusus**, i *m* 1) абгароджаны грунт; 2) плот.

**concordia**, ae *f* (concors) згода, запіс міравой ці палюбоўнай угоды.

**concubilis, is** *m, f* муж; жонка.

**concubinatus**, a, um які знаходзіцца ў пазашлюбным сужыцці, чужаложны.

**concumbo**, cubui, cubitum, ere 1) класціся з кімсьці; 2) чужаложыць; 3) аб'ядноўвацца.

**concursus**, us *m* (concurro) 1) збег; сход; 2) сутыкненне; 3) дапамога; удзел.

**condamina**, ae *f* 1) ворная зямля, ралля; 2) зямля, якая застаецца ў непасрэдным карыстанні феадала; 3) сельская гаспадарка.

**condego**, degi, —, ere жыць разам.

**condemnata**, ae *f* абвінавачанне ці асуджэнне асобы выракам суда. Вырак гэты адносіцца толькі да асобы, але не да яе маёмасці; ён пазбаўляе асобу ўсялякай дзейнасці — **omni activitate privat** і можа быць аблегчаны і адменены глейтамі ці грашовай платай.

**condemnatio**, onis *f* (condemno) [**поконанье** *стб.*] пакананне / перамога, доказ (віны), абвінавачанне.

**condemnatus**, a, um 1) [**осужоный** *стб.*] асуджаны; 2) [**винен** *стб.*] вінны, вінаваты, павінны.

**condescendentia**, ae *f* спуск.

**condescendo**, ere 1) пагаджацца; падпарадкоўвацца чыймусьці меркаванню; 2) адчужаць; 3) сыходзіцца разам; 4) адступаць ад закладной угоды з прычыны выплаты вызначанай у ёй сумы.

**condescensio**, onis *f* (condescendo) [**condescensya** *пл.*] з'езд суда наконт спрэчнай зямлі якога-небудзь уладання.

**condicionalis**, e (condicio) вызвалены, якому давалася воля з умовай выканання пэўнай паслугі.

**condicionarius**, ii *m* вызвалены, якому давалася воля з умовай выканання пэўнай паслугі: **conditionarii liberales** [**udwornici** *пл.*] умоўныя шляхцічы, якіх

кароль за заслугі рабіў сапраўднымі. Яны адрозніваліся ад вольнаадпушчанікаў, якія вызваліліся ад падданства ці нават няволі.

**condictamen**, inis [**kondyktamen** *пл.*] 1) умова; дамова, паразуменне; 2) вырак палюбоўнага суддзі; 3) змова дзвюх ці больш асоб на шкоду трэцяй у судовай справе, зговар; 4) **condictamina** [**wypłaty za asignacyami** *пл.*] плата па асігноўках, якую павінен быў здзяйсняць вялікі падскарбнік. Vol. Leg. I, f. 297.

**condictator**, oris *m* трацейскі суддзя.

**condicto** 1. 1) паразумецца, дамовіцца; 2) ~ **aliquem in seruitutem** дамаўляцца з кімсьці наконт выканання абавязкаў; 3) ~ **aliquem matrimonialiter** сватаць, высватваць; 4) выносіць прысуд; рашаць; 5) заяўляць; даваць сведчанне.

**condirectum**, i *n* ворная зямля.

**conditio**, onis *f* (condo) 1) заснаванне, стварэнне; 2) ~ **testamenti** складанне тастамента / завяшчання; 3) плата складам, г. зн. у натуры; 4) падатак; 5) [**деланье** *стб.*] наданне, выданне (прывілеяў); 6) [**положенье** *стб.*] устанаўленне, палажэнне; 7) [**стан | стадло** *стб.*] стан, саслоўе: ~ **servilis** стан нявольны.

**conditus**, us *m* (condio) [**вчиненье | чиненье** *стб.*] учыненне / складанне (тастамента); здзяйсненне.

**condo**, didi, ditum, ere [**делати** *стб.*] рабіць, чыніць; прычыняць.

**conduco**, duxi, ductum, ere 1) дастаўляць каго-небудзь цэлым і здаровым; 2) частаваць каго-небудзь.

**conductio**, onis *f* (conduco) [**naiem** *пл.*] наёмны запіс.

**conductum**, i *n* 1) нанятае жытло; наняты дом; 2) прадмет найму; 3) чынш; 4) агульнае перакананне; 5) дамова; 6) род дарожнай платы.

**Conductus Paschae [przewodna** *пл.*] праводзіны Вялікадня, 2-і тыдзень па Вялікадні.

**conexpurgator**, oris *m* той, хто разам з іншымі апраўдвае кагосьці перад судом.

**confectionarius**, ii *m* аптэкар.

**confector**, oris *m* (conficio) 1) стваральнік; выканаўца; вінаваты; 2) рамеснік; 3) гарбар; 4) знішчальнік; 5) дабівальнік, *асаб.* параненых звяроў на арэне; 6) памерлы.

**conferentia**, ae *f* 1) збор, сход; канферэнцыя; 2) аб'яднанне; злучэнне; 3) наданне бэнэфіцыя; 4) дарунак; 5) гутарка.

**confero**, contuli, collatum (conlatum), conferre 1) [**давати | даивати | дати, подати** *стб.*], [**conferować** *пл.*] даваць, падаваць; выдаваць, перадаваць, прадстаўляць; дараваць; 2) [**втечи** *стб.*] уцякаць, збягаць.

**confessata**, ae *f* спосаб даводзіць крымінальнага злачынца да прызнання; катаванне.

**confessio**, onis *f* (confiteor) [**споведь** *стб.*] споведзь.

**confibulo** 1. 1) прышпільваць; злучаць, змацоўваць; 2) абавязвацца ў чымсьці; 3) згаджацца з кімсьці, з чымсьці.

**configo**, fixi, fixum, ere 1) збіваць, прыбіваць; сашпільваць, спінаць; сшываць; 2) [**справити | справляти | справовати** *стб.*] рабіць, чыніць; складаць.
**confinitas**, atis *f* мяжа.
**confirmamentum**, i *n гл.* **confirmatio**.
**confirmatio**, onis *f* (confirmo) [**потверженье** *стб.*] пацвярджэнне.
**confirmo** 1. [**вмоцнити** *стб.*] умацняць / надаваць моц; узаконьваць.
**conflagratio**, onis *f* (conflagro) [**konflagrata** *пл.*] 1) пажар; 2) дапамога пагарэльцам; 3) каса для пагарэльцаў; 4) маёмасці, якія падвергліся пажару.
**confoederatio**, onis *f* (confoedero) канфедэрацыя, хаўрус усіх ці якой-небудзь часткі паноў у ранейшай Польшчы і Літве-Беларусі з палітычнай мэтай.
**confortatio**, onis *f* 1) узмацненне; падмацаванне; 2) суцяшэнне; 3) мужнасць.
**confractus**, us *m* 1) парушэнне; 2) шурпатасць; 3) спрэчка; 4) правіна.
**confraternitas**, atis *f* братэрства; цэх.
**confratria**, ae *f* братэрства.
**confrontatio**, onis *f* [**konfrontowanie** *пл.*] вочная стаўка.
**confronto** 1. [**konfrontować** *пл.*] прыводзіць на вочныя стаўкі.
**confugio**, fugi, —, ere 1) [**втечи ся** *стб.*] уцякаць / звяртацца (да каго-небудзь з просьбай і г. д.); 2) хавацца.
**confusio**, onis *f* (confundo) [**соромота** *стб.*] сарамата / сорам, ганьба: **confusionem inferre** [**зсоромотити | соромотити** *стб.*] сарамаціць; ганьбіць, абражаць.
**confutatio**, onis *f* (confuto) [**konfutacya** *пл.*] абвяржэнне пярэчанняў.
**congener**, eris *m* 1) чалавек з таго самага роду; 2) швагер.
**congrego** 1. [**собрати** *стб.*] збіраць: **congregor** [**зьеждчати ся | зьехати ся** *стб.*] з'язджацца, з'ехацца.
**congruentia**, ae *f* (congruo) 1) суладнасць; адпаведнасць; 2) дарэчнасць; 3) прыдатнасць; 4) згода, мір; 5) блізкасць; 6) карысць.
**congruitas**, atis *f* (congruus) 1) адпаведнасць, дарэчнасць; 2) гармонія; 3) блізкасць.
**congruum**, i *n* уладанні, запісаныя якому-небудзь касцёлу ці прыходу.
**conhibentia**, ae *f* згода.
**coniectura**, ae *f* (conicio) 1) здагадка: ~ **consequi** здагадвацца; 2) падглядванне; 3) прапанова; суд; 4) прадказанне; 5) ~ **somni** тлумачэнне сноў; 6) назіранне, нагляданне; 7) куча; 8) вялікі лік.
**coniectus**, us *m* (conicio) падатак; складка; грашовы збор для каралеўскіх паслоў, якія знаходзіліся ў дарозе.
**coniunctura**, ae *f* збег акалічнасцей (пераважна неспрыяльны).
**coniunx** (coniux), iugis *f* (coniungo) [**жона** *стб.*] жонка, сужонка; жанчына: ~ **ducis** [**княгиня** *стб.*] княгіня.
**coniurisdictio**, onis *f* права юрысдыкцыі.
**conniventia**, ae *f* залішняя паблажлівасць, патуранне; паблажка; недахоп належнага нагляду.

**conquerementum** *гл.* **conquirementum.**
**conquerens**, ntis *m* пазоўнік / ісцец (працэсуальны бок).
**conqueror**, questus sum, queri [**жаловати** *стб.*] абскарджваць; прад'яўляць пазоў / выклік у суд.
**conquerulo** 1. 1) уносіць скаргу; вінаваціць; 2) скардзіцца.
**conquestus**, a, um абскарджаны.
**conquirementum**, i *n* набытая маёмасць.
**Conradus Ep. Constant.** 26 лістапада.
**conredio** 1. падрыхтоўваць.
**consanguineus**, a, um [**кревный | кровный** *стб.*], [**pokrewny** *пл.*] крэўны, крэўнік, родзіч у прамой лініі: па ўзыходнай, напр. бацька, дзед, прадзед і інш. і па сыходнай, напр. сын, унук, праўнук і г. д.
**conscius**, a, um [**ведом | ведомо** *стб.*] які ведае, усведамляе; свядомы; наўмысны.
**conscribo**, scripsi, scriptum, ere 1) [**списати** *стб.*] апісаць; перапісаць, спісаць; 2) [**пописати ся** *стб.*] запісацца; зарэгістравацца.
**conscriptio**, onis *f* (conscribo) 1) апісанне; перапісванне чагосьці: **conscriptiones quaestionum** пратаколы следства; 2) [**попис** *стб.*] попіс / перапіс; 3) ліст, дакумент; 4) адчужэнне пры дапамозе дакумента; 5) дамова: ~ **coniugii** шлюбная дамова.
**consecratarius**, ii *m* таемны член магістрата.
**consensus**, us *m* (consentio) 1) [**зволенье, призволенье** *стб.*] прызваленне / згода, ухвала; 2) [**дозволенье** *стб.*] дазвол; 3) [**воля** *стб.*] воля, жаданне.
**consentio**, sensi, sensum, ire [**дозволяти, зволити | призволяти** *стб.*] дазваляць, прызваляць / пагаджацца, ухваляць, патураць.
**consequor**, secutus sum, sequi 1) ісці за кім; даганяць; 2) праследаваць; 3) [**допускати | допустити | допущати, припустити** *стб.*] дапускаць, дазваляць; саступаць.
**conservantia**, ae *f* [**conserwancya** *пл.*] захаванне; трывалае існаванне.
**conservo** 1. [**заховати | заховывати** *стб.*] захоўваць; пакідаць.
**consideratio**, onis *f* (considero) 1) разважанне; 2) разважлівасць; 3) асцярожнасць; зважанне; 4) увага; 5) меркаванне пра нешта; 6) арбітраж.
**consiliarius**, i *m* (consilium) 1) дарадца; раднік, райца, радны; 2) **consiliarii** [**рада** *стб.*] рада, дарадцы, райцы, чальцы рады; [**панове-рада | паны-рада** *стб.*] паны-рада, панове-рада.
**Consilium Iudaeorum (festum)** нарада жыдоў, Вялікая Пятніца.
**consilium**, i *n* (consulo) 1) намер, план; пастанова; 2) разважанне, абдумванне; 3) нарада; 4) [**рада** *стб.*] рада; камісія: ~ **bellicum M. Ducatus Litbuaniae** [**Kommissya Woyskowa W. X. L.** *пл.*] Вайсковая камісія Вялікага Княства Літоўскага. Яна складалася з двух камісараў, прызначаных з сената, і сямі з ваенных чыноў пад старшынствам Вялікага гетмана. Мэтай стварэння яе было падтрыманне парадку і ваеннай дысцыпліны. І таму да яе кампетэнцыі

належалі: a) разгляд спраў пра нядоімкі пры выплаце ўтрымання войску, b) разгляд крыўдаў, прычыненых войскамі падчас іх перамяшчэння, c) справы паміж самімі вайскоўцамі ці паўсталыя з прычыны невыканання распараджэнняў камісіі. Тэрміны пасяджэнняў гэтай камісіі прызначаліся непасрэдна пасля тэрмінаў пасяджэння Скарбовай камісіі. Vol. Leg. VII, f. 387; ~ **Oeconomicum Thesauri Regni et Magni Ducatus Lithuaniae [Kommissye Skarbowe oboyga narodów** *пл.*] Скарбовыя камісіі Каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага. Склад гэтых камісій: вялікі падскарбнік, а ў яго адсутнасці падскарбнік надворны і камісары, прызначаныя на сойме, усяго 5 асоб, да ліку іх належалі камісійны пісар і каронны інстыгатар. Справы, якія падлягалі іх кампетэнцыі, былі наступныя: a) залішнія вымагальніцтвы купцоў, b) усялякага кшталту падаткі, c) кантракты паміж купцамі і шляхтай, d) вэксалі, e) купецкія даўгі, f) меры і вагі, g) страты скарбу, h) залішнія вымагальніцтвы на мастах і пераправах, i) жыдоўскія справы з нагоды самавольнага пераходу з адной парафіі ў іншую. Тэрміны пасяджэнняў гэтых камісій былі прызначаны: першы — ад 1 верасня, другі — ад 1 лістапада, трэці — ад 1 лютага, чацвёрты — ад 1 траўня, па чатыры тыдні на кожны. Vol. Leg. VII, f. 666, 667, 668; ~ **senatus postcomitiale** рада сената пасля сойма; 5) [**порада** *стб.*] парада.

**consistentia**, ae *f* [**konsystencya** *пл.*] кватараванне ці пастой войска.

**consocer**, ceri *m* [**pocieść** *пл.*] два бацькі, з якіх сын аднаго, а дачка другога ў сужэнскім / шлюбным звязе. Той і другі — **consocer**.

**consocialis**, e 1) спагадны; ветлівы; 2) прыналежны да той самай супольнасці, падданай феадальнаму пану.

**consolatio**, onis *f* (consolor) 1) суцяшэнне; 2) палёгка; 3) позняя вячэра ці дэсерт пасля вячэры.

**consolidatio**, onis *f* (consolido) [**konsolidacya** *пл.*] 1) моцны звяз; 2) забеспячэнне дзяржаўнага доўгу на сталых прыбытках ад яго.

**consolor** 1. [**радити** *стб.*] радзіць / кіраваць.

**consors**, sortis *m* [**сябр** *стб.*] сябар; саўладальнік.

**consortio**, onis *f* (consors) *s.* **consortium**, ii *n* 1) непадзельная, г. зн. наяўная без рэальнага дзялення маёмасная супольнасць спадчыннікаў пасля смерці бацькі; 2) грамадства, таварыства; сувязь; 3) палавая сувязь; 4) ~ **omnium vitae** *s.* **maritale** шлюб, сужэнскі звяз; 5) удзел; прычаснасць; 6) аддзел войска; 7) калегія курфюрстаў; 8) супольнасць хрысціян.

**conspiratio**, onis *f* (conspiro) 1) згода, аднадушнасць; 2) [**konspiracya** *пл.*] змова; прысяга.

**conspiro** 1. [**konspirować** *пл.*] чыніць змову; задумваць злачынства.

**constagium**, ii *n* кошт, выдатак.

**constamen**, inis *n гл.* **constagium**.

**constans**, antis *adi.* [**зведом** *стб.*] свядомы; пастаўлены ў вядомасць.

**Constantinus** 12 красавіка.

**constipulatio**, onis *f* пацвярджэнне.

**constituo**, stitui, stitutum, ere 1) [**поставити** *стб.*] ставіць, выстаўляць; прадстаўляць; дастаўляць; 2) [**вставити** | **вставляти** | **уставити** | **уставляти** | **установити, вхвалити** | **уфалити** *стб.*] устанаўляць, пастанаўляць, вырашаць; зацвярджаць, ухваляць; 3) [**поставити** *стб.*] ставіць, узводзіць, будаваць.

**constitutio**, onis *f* (constituo) 1) [**вфала** | **уфала, устава** *стб.*] пастанова, устанаўленне, распараджэнне, ухвала; указ; закон; 2) [**приказанье** *стб.*] загад.

**constitutor**, oris *m* (constituo) 1) творца; 2) заканадавец; 3) паручальнік.

**constrictio**, onis *f* (constringo) 1) сцягванне; 2) абвастрэнне; 3) утаймаванне; 4) прымус; 5) прымус, які выконваецца судовай уладай; 6) строгасць.

**constrictus**, us *m* юрысдыкцыя.

**consubditus**, i *m* супадданы / падданы таго ж самага пана.

**consuetudo**, inis *f* (consuesco) [**звычай, обычай** *стб.*] звычай; абычай.

**consul**, sulis *m* [**rayca, radzca** *пл.*] райца, радны, ратман, член магістрата.

**consultor**, oris *m* (consulo) 1) дарадца; 2) той, хто шукае (юрыдычнай) парады; 3) гарадскі райца.

**contamen**, minis *n* 1) бруд; 2) абвінавачанне; 3) дакрананне, дотык.

**contamino** 1. 1) пэцкаць, пляміць, брудзіць; 2) знеслаўляць; 3) гвалціць; 4) [**подмазати** *стб.*] падмазваць.

**contectalis**, e 1) які жыве пад адным дахам: муж, жонка; 2) **contectales** высакародныя людзі, роўныя паміж сабой; чаляднікі; сябры сям'і.

**contegulator**, oris [**dachownik** *пл.*] страхар, дахоўнік.

**contemptor**, oris *m* (contemno) 1) той, хто пагарджае; 2) бунтар, бунтаўнік; 3) ~ **pacis** парушальнік міру.

**contemptuo** 1. прыніжаць, зневажаць, ганьбіць.

**contemptus**, us *m* (contemno) 1) пагарда, пагардлівасць; 2) абраза; 3) сіла; 4) мяцеж, бунт; 5) нез'яўленне ў суд.

**contendo**, tendi, tentum, ere 1) нацягваць; 2) намагацца, імкнуцца; 3) [**искати** *стб.*] шукаць, расшукваць; дамагацца, прад'яўляць іск; спаганяць.

**contenementum**, i *n* 1) грамадскі статус; 2) ранг.

**contento** 1. *intens.* [**перееднати** *стб.*] упрошваць; перапрошваць.

**conterralis**, is *m* зямляк, суайчыннік.

**conthoralis**, is *m, f* (ад **thorus** ложа) той, хто спіць разам на адным ложку: муж ці жонка.

**contiguus**, a, um (contingo) сумежны.

**contingo**, tigi, tactum, ere 1) дакранацца; 2) датычыць; 3) [**трафити ся** *стб.*] адбывацца; [**пригодити ся** | **пригожати ся, придати ся, здати ся** *стб.*] бываць, здарацца; 4) [**справити** | **справляти** | **справовати** *стб.*] дзейнічаць, вырашаць; судзіць; спраўляць, справаваць / весці, здзяйсняць.

**contra** супраць; насупраць: ~ **fas et aequum** насупраць прыстойнасці і закону.

**contrabannum**, i *n* кантрабанда.

**contracausarius**, ii *m* праціўнік; процілеглы бок.

**contractio**, onis *f* (contraho) 1) сцягванне, сціскание; скарачэнне; 2) турбота; 3) ~ **animi:** a) нясмеласць, b) смутак; нуда; 4) звужэнне; 5) змешванне; 6) кантракт.

**contractus**, us *m* (contraho) [**вмова** *стб.*] умова / дамова, кантракт: **contractum facere** [**вмовляти** | **умовити** *стб.*] умаўляцца, дамаўляцца; ~ **hypothecarius** закладны кантракт; ~ **locatorius** дзяржаўчы / арэндны кантракт.

**contradico**, dixi, dictum, ere [**припоминати, припоминати ся** *стб.*] заяўляць; аспрэчваць.

**contrado**, didi, ditum, ere 1) перадаваць, падаваць; даручаць нешта камусьці; 2) асуджаць на нешта.

**contradonatio**, onis *f гл.* **contrados**.

**contrados**, tis *f* вена — маёмасць, дадзеная жонцы як узаемнасць за пасаг.

**contraria**, ae *f* судовая спрэчка.

**contravenio**, veni, ventum, ire супрацiўляцца; супярэчыць, пярэчыць; забараняць.

**contraversus**, a, um (verto) спрэчны.

**contributio**, onis *f* (contribuo) 1) [**податок** *стб.*] унёсак, складка; падатак; даніна: **generalis subsidii** ~ усеагульны падатак, ад якога ніхто не мог быць выключаны, устаноўлены адначасова ў Вялікім Княстве Літоўскім у 1662 годзе. Vol. Leg. IV, f. 881, § 3; **fumalis** ~ г. зв. падымнае, падатак, даваны на карысць пануючага ад дыму, г. зн. двара; 2) збор падаткаў; 3) злічэнне; 4) раздача; 5) аплата селянінам на карысць пана; 6) кантрыбуцыя.

**controversia**, ae *f* (controversus) [**спор** *стб.*] спрэчка.

**contubernium**, ii *n* абшчына, брацтва; цэх.

**contubernius**, a, um хатні.

**contumacia**, ae *f* (contumax) 1) [**непослушенство** *стб.*] непаслухмянасць; нядбайнасць; 2) [**непоставленье** *стб.*] нястанне / нез'яўленне (у суд); 3) [**впор** | **впорство** *стб.*] зацятасць, упартасць, апор / супраціў; 4) [**kontymacya, dekret contymacyjny** *пл.*] абвінаваўчае судовае вызначэнне, якое адносіцца ўласна да маёмасці абвінавачанага.

**convalesco**, valui, —, ere [**выздоровети** *стб.*] выздараўліваць, акрыяць.

**convello**, velli, vulsum, ere трэсці, руйнаваць; парушаць.

**convenientio** 1. абяцаць у дамове.

**convenio**, veni, ventum, ire 1) [**збирати ся** | **собрати ся** *стб.*] збірацца; 2) [**зъеждчати ся** | **зъехати ся** *стб.*] з'язджацца; 3) [**припозвати** | **припозывати** *стб.*] прыпазываць / выклікаць дадаткова (у суд).

**conventio**, onis *f* (convenio) 1) [**зъеханье** *стб.*] з'езд, збор, сход; 2) [**сойм** | **сьем** *стб.*] агульны з'езд, сойм: ~ **generalis** [**вальный сойм** *стб.*] сойм ці *тс.* вальны / усеагульны сойм; ~ **particularius** соймік; 3) дамова, паразуменне; 4) [**konwencya** *пл.*] дамова паміж прыватнымі асобамі ці паміж урадамі.

**conventium**, ii *n* умоўленая ўзнагарода ці плата; найм, найманне.

**conventus**, us *m* (convenio) [**konwent** *пл.*] 1) кляштар; 2) народны сход ці сойм для адмены якой-небудзь пастановы: ~ **particularis** [**seymik** *пл.*] соймік — збор шляхты якога-небудзь павета ці ваяводства.
**Conversio Magdalenae (festum)** навяртанне Магдалены, чацвер 5-га тыдня Вялікага Посту.
**Conversio, S. A. Pauli (festum)** навяртанне св. Апостала Паўла, 25 студзеня.
**conversus**, i *m* той, хто паступае ў манаства, навіцый / паслушнік.
**converto** (vorto), verti (vorti), versum (vorsum), ere 1) [**обернути | оборочати** *стб.*] звяртаць; 2) [**повернути** *стб.*] павяртаць; 3) карыстацца; распараджацца.
**convicinus**, i *m* жыхар той самай вёскі альбо той самай акругі.
**convictor**, oris *m* (convivo) кухмайстар.
**convictus**, us *m* (convivo) [**konwikt** *пл.*] 1) сужыццё; 2) выхаваўчая ўстанова; 3) інтэрнат.
**convillanus**, i *m* жыхар той самай вёскі, аднавясковец.
**convinco**, vici, victum, ere 1) [**довести | доводити** *стб.*] весці следства; даводзіць, даказваць, прадстаўляць доказы; 2) [**пересветчити | пересветчити** *стб.*] даводзіць, засведчваць (пры дапамозе сведак): **iuramentaliter** ~ [**поприсягнути** *стб.*] прысягаць; 3) [**поконати** *стб.*] паканаць / перамагаць, даводзіць (віну); выкрываць; асуджаць.
**convivium**, ii *n* [**пир** *стб.*] баль, бяседа, пір.
**convoco** 1. [**зозвати** *стб.*] склікаць, клікаць.
**convulsor**, oris *m* парушальнік (закону).
**cooperarius**, ii *m* 1) супрацоўнік; памагаты; 2) гарняк.
**coopertura**, ae *f* прэтэкст, выгляд; нагода, падстава.
**coopto** (copto) 1. 1) дапаўняць; прымаць; 2) прымаць у склад: ~ **se alicui** дзякаваць каму-небудзь; падпарадкоўвацца камусьці.
**copellum**, i *n* мера колькасці збожжа.
**copertum**, i *n* вокладка кнігі.
**copetus**, i *m* 1) манета; 2) мера колькасці збожжа.
**copialis**, is *m* капіярый — кніга, якая змяшчае копіі дакументаў.
**copulo** 1. (copula) 1) злучаць, з'ядноўваць; наладжваць сувязь; 2) *pass.* жаніцца, выходзіць замуж: **non copulatus** [**невенчаный** *стб.*] нявенчаны; нежанаты.
**coquinarius**, i *m* [**kuchmistrz** *пл.*] кухмайстар — наглядчык за каралеўскай кухняй, прыдворная службовая асоба.
**coquus** (cocus), i *m* (coquo) [**кухар** *стб.*] кухар.
**cora**, ae *f* 1) гарадское права; 2) тэрыторыя, на якой дзейнічае гарадское права.
**coram** *adv.* [**перед** *стб.*] у прысутнасці, перад, пры.
**corator**, oris *m* гарадскі службовец.
**Corbinianus Epis**. 8 верасня.
**coriarius**, i *m* [**garbarz** *пл.*] гарбар, кажамяка; шавец.
**corium**, ii *n* [**szkura** *пл.*] шкура, скура.

**corius**, ii *m* [**korzec** *пл.*] карэц — мера для сыпкіх рэчываў, 1/4 літоўскай бочкі.
**Cornelius, A. Cyprianus P. M.** 14 верасня.
**cornutus**, i *m* манета.
**coronatio**, onis *f* (corono) 1) каранаванне; 2) вянчанне; 3) падатак, які збіраецца з нагоды каранавання караля альбо каралевы.
**coron(n)is**, idis *f* (ад гр. **koronis** канец) канец, заканчэнне якой-небудзь справы.
**Corporis Christi (festum)** каталіцкае свята цела Хрыстова, 60-ы дзень пасля Вялікадня ці чацвер 1-га тыдня пасля свята Спаслання Духа Святога.
**corpus**, oris *n* 1) цела; асоба чалавека; 2) парэшткі, труп; 3) цела рэчы; сутнасць; 4) збор прадметаў, агульнасць, склад: **corpus delicti** [**istota czynu** *пл.*] склад злачынства, апісанне акалічнасцей, пры якіх здзейснена якое-небудзь злачынства. Гэтак жа называюцца прылады, ужытыя злачынцам для здзяйснення злачынства, і рэчы, пакінутыя ім на месцы злачынства.
**Correctio** братэрскае выпраўленне, аўторак 3-га тыдня Вялікага Посту.
**corrumpo**, rupi, ruptum, ere 1) [**погнити** *стб.*] гніць, згніваць; 2) псаваць: **ferro** ~ [**очерети** *стб.*] абдзіраць; шкодзіць; 3) [**korumpować** *пл.*] падкупляць суддзяў, сведак.
**cortisanus**, i *m* [**biegun** *пл.*] асоба, якая прасіла сабе касцёльны прыход і месца пры катэдры ў папы; таксама духоўная асоба, што мела свой прыход у Рэчы Паспалітай, але жыла ў Рыме. Супраць такіх асоб былі выдадзены строгія законы. Vol. Leg. I, f. 527.
**corvata**, ae *f* (верагодна ад фр. **corvée**) працы, якія абавязаны былі выконваць сяляне паводле закону.
**corveta** *гл.* **corvata**.
**corylus** (corulus), i *f* [**laska** *пл.*] арэхавая палка ці палка наогул. У старажытнасці існаваў звычай, які існуе ў народзе і дагэтуль, — вырашаць некаторыя спрэчкі кіданнем лёсаў: адзін са спрачальнікаў браў палку і падкідаў яе вертыкальна; другі падхопліваў яе рукой; потым першы браў гэтую ж палку над рукой другога і такім чынам іх рукі мяняліся да канца палкі. Чыя рука заставалася зверху, той выйграваў справу. І таму існаваў закон: калі хто выкліча каго на палку — **pro corylo**, то выкліканы павінен быў прызначыць кошт выйгрышу ці пройгрышу. Vol. Leg. I, f. 331.
**Cosma et Damianus** 2 кастрычніка.
**costumarius**, ii *m* 1) чалавек, абавязаны да выплаты падаткаў; 2) збіральнік падаткаў.
**coterellus**, i *m* наёмны жаўнер.
**craiera**, ae *f* від карабля.
**crastina**, ae *f* 1) заўтрашні дзень, заўтра; 2) універсітэцкія вакацыі.
**cravatio**, onis *f* абвінавачанне.
**cravo** 1. вінаваціць.
**crebrositas**, atis *f* шматлікасць; шматлюднасць.
**credens**, ntis *adj.* *гл.* **credibilis**.

**credibilis**, e *adi.* годны веры, верагодны; варты даверу; сумленны.
**creditarius**, ii *m* (credo) 1) даверань; 2) дзяржаўца / арандатар; 3) кіраўнік.
**creditio**, onis *f* крэдыт.
**creditum**, i *n* [**долг** *стб.*] доўг.
**creditus**, a, um 1) даўгавы; 2) годны даверу; 3) даверань.
**credo** *indecl.* вера.
**Crescens** 28 лістапада.
**crescentia**, ae *f* (cresco) [**krescencya** *пл.*] ураджай; прыбытак з уладання.
**cretina**, ae *f* паводка.
**crida**, ae *f* аб'ява праз вестуна.
**crido** 1. 1) крычаць; 2) абвяшчаць; публікаваць.
**crimen**, inis *n* [**злочинство** *стб.*] 1) злачынства, ліхадзейства; праступак: ~ **recens** [**gorące prawo** *пл.*] свежае, нядаўняе злачынства, г. зн. злачынства, ад здзяйснення якога не прайшло яшчэ года і шасці тыдняў. Vol. Leg. I, f. 577; 2) віна.
**crinile**, is *n* [**венец** *стб.*], [**wieniec panieński** *пл.*] вянок / вянец паненства / дзявоцтва, цнатлівы стан дзяўчыны. **Crinile** называецца таксама плата дзяўчыне, якая выйшла замуж і муж якой, не запісаўшы ёй нічога, памёр. Плата гэтая ўстаноўлена была законам, а менавіта, трыццаць марак ці грыўняў. Vol. Leg. I, f. 326.
**Crispinus et Crispinianus MM.** 25 кастрычніка.
**Crispis et Caius disc. C. Pauli** 4 кастрычніка.
**crita**, ae *f* суддзя.
**crocardus**, i *m* манета малой вартасці.
**crofta**, ae *f* двор.
**crucesignatus**, i *m* *гл.* **crucifer**.
**cruciata**, ae *f* 1) крыжовы паход; 2) падатак, які збіраўся ў хрысціянскіх краях на вайну з няверньмі.
**cruciatus**, a, um аздоблены крыжом.
**cruciatus**, i *m* *гл.* **crucifer**.
**crucifer**, feri *m* (crux) крыжаносец, крыжак.
**cruciferatus**, us *m* Нямецкі ордэн.
**crucifericus**, a, um нямецкі, тэўтонскі.
**Crucifixio Domini** дзень укрыжавання Пана, 25 сакавіка.
**Crucis hebdomada** 6-ы тыдзень па Вялікадні.
**crusina**, ae *f* футравая накідка.
**cubicularius**, a, um (cubiculum) пакаёвы.
**cubicularius**, i *m* [**postelniczi** *пл.*] пасцельнічы — саноўнік, які ўвесь час знаходзіўся пры каралю і наглядаў за яго пасцеллю.
**cuculla**, ae *f s.* **cucullus**, i *m* каптур, капюшон; манаскі каптур.
**culla** *гл.* **cuculla**.
**cullatus**, a, um які носіць каптур.

**culpa**, ae *f* [**вина** | **винность** *стб.*] віна, доўг; правіна, правіннасць, праступак; злачынства.
**culta**, orum *n pl.* апрацаванае поле.
**culter**, tri *m* 1) нож; 2) штылет; 3) [**корд** *стб.*] корд / меч, палаш.
**culto** 1. апрацоўваць поле.
**cultor**, oris *m* (colo) 1) селянін; 2) садоўнік; 3) кіраўнік маёмасці; 4) прыхільнік; 5) сябар; 6) веравызнавец.
**cultrarius**, ii *m* (culter) [**nożownik** *пл.*] нажоўнік.
**cultura**, ae *f* 1) апрацоўка; 2) апрацоўка зямлі; 3) шанаванне Бога, пакланенне; 4) апрацаванае поле.
**culturo** 1. апрацоўваць поле.
**Cum clamarem ad Dominum (dominica)** калі я гукаў да Бога, 10-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.
**cumba**, ae *f* 1) даліна; 2) мера аб'ёму.
**cumulus**, i *m* 1) мноства, маса; куча; 2) лішак; 3) збор: ~ **aquarum** збор водаў; 4) сума грошай; 5) вышыня; вяршыня; 6) увянчанне.
**cuna**, ae *f s.* **cunae**, arum *f pl.* [**vacca, podworowa** *пл.*] падатак, які ў старажытнасці плацілі двару куніцамі і рагатай скацінай.
**cunae**, arum *f* шкуркі куніцы.
**cuniculus**, i *m* [**зеремя** *стб.*] зерамя / бабровае гнездзішча / бабровае логава.
**Cunigunda** 3 сакавіка.
**cuntor**, oris *m* комтур — пасада ў Нямецкім ордэне.
**cupa**, ae *f* (вінная) бочка.
**cupinium** *гл.* **cupa**.
**cura**, ae *f* 1) пасада герольда; 2) дом герольда.
**curaria**, ae *f* дарожная аплата.
**curator**, oris *m* 1) куратар; распарадчык, кіраўнік;ураднік: ~ **monumentorum** гараднічы.
**curatoria**, ae *f* (curator) [**kuratorya** *пл.*] 1) апякунства; 2) кіраванне; 3) апека, нагляд; 4) ліст, які выдаецца з каралеўскай канцылярыі на права лячэння якоганебудзь грамадзяніна ад вар'яцтва. Vol. Leg. III, f. 952.
**curatura**, ae *f* (curo) дарожная аплата.
**curia**, ae *f* 1) [**двор** *стб.*] двор, маёнтак: ~ **dominicalis** панскі двор ці замак для разгляду арэндных спраў; 2) вясковае лецішча; 3) судовае свецкае месца; 4) каралеўскі двор, дружына караля: ~ **regia** [**zamek królewski** *пл.*] каралеўскі грод / замак; 5) кангрэс каралёў; 6) магістрат, які складаецца з дэкурыёнаў ці сенатараў калоній; 7) пасада прыходскага святара.
**curialis**, e (curia) 1) [**дворный** *стб.*] дворны / дваровы, прысядзібны; 2) [**дворанский** *стб.*] дваранскі, рыцарскі: ~ **acies**, *гл.* **milites curiae**.
**curialis**, is *m* (curia) [**дворанин** *стб.*] дваранін.
**curiatio**, onis *f* збор прыдворных, прыдворная світа.

**curiator**, oris *m* 1) прыдворны слуга, прыдворны; 2) кіраўнік; 3) селянін, які мае гаспадарку.
**curiensis**, e 1) [**дворный** *стб.*] дворны / дваровы, прысядзібны; 2) прыдворны; 3) ~ **terminus** г. зв. прыдворны год, тэрмін судовага разгляду ў каралеўскім судзе.
**curiensis**, is *m* службовы дваранін.
**curo** 1. [**дбати** *стб.*] дбаць, зважаць, лічыцца (з чым-небудзь).
**currata**, ae *f* воз як мера аб'ёму.
**currentia**, ae *f* 1) дзеянне, прывядзенне ў дзеянне; 2) курс манеты.
**currerius**, ii *m* 1) пасланец; 2) прадстаўнік караля.
**curritorium**, ii *n* 1) калідор; 2) арка; 3) тунэль; 4) штрэк у шахце.
**currus**, us *m* (curro) 1) [**воз** *стб.*] воз: ~ **arcuatus** [**rydwan** *пл.*] вялікія, доўгія калёсы з будай; 2) воз (адзінка вымярэння).
**cursarius**, ii *m* пірат.
**cursor**, oris *m* (curro) 1) бягун, скараход; 2) [**гонец** *стб.*] ганец / кур'ер; 3) вандроўны гандляр; 4) *гл.* **cortisanus**.
**cursorius** (cursurius), a, um (curro) 1) паштовы; 2) вандроўны: **mercator** ~ вандроўны гандляр; 3) надзвычайны: **lectio cursoria** лекцыя надзвычайная.
**cursus**, us *m* (curro) зямля; маёнтак, ферма; лецішча.
**curta**, ae *f* імператарскі двор.
**curticula**, ae *f* 1) двор; 2) сад; 3) гарадскі надзел; 4) маленькая гаспадарка.
**curtiferum**, i *n* двор з домам і садам.
**curtilagium**, i *n* 1) абавязак падатку ад гаспадаркі; 2) надзел, дзялянка.
**curtilanus**, i *m* дзяржаўца / арандатар маленькай гаспадаркі.
**curtina**, ae *f* 1) двор; 2) сад; 3) гаспадарка; 4) бастыён.
**curtis**, is *f* 1) двор; замак; палац: ~ **regia** каралеўскі палац, атачэнне палаца; ~ **publica** каралеўскі і разам грамадскі палац; 2) сядзіба феадальнага пана, двор феадала; 3) рэзідэнцыя караля; 4) каралеўскі палац; 5) каралеўская світа; 6) каралеўская скарбніца; 7) зямельная маёмасць; 8) даменіяльны суд; 9) вёска; 10) асада / калонія, фальварак — вясковае жытло, якое мае пасяленцаў, слуг, палі і інш.; 11) абыход; агароджа; 12) сад альбо гаспадарка, якая знаходзіцца ля дома; 13) агароджа гаспадаркі альбо саду; 14) чынш; 15) гарадскі надзел; 16) атачэнне касцёла (дзядзінец; могілкі).
**curvata** *гл.* **corvata**.
**cussor monetae** манетнік.
**custodia**, ae *f* (custos) 1) варта; ахова; 2) [**kustodya** *пл.*] кустодыя. Кустодыяй пры пячаці называлася выразаная каля яе частка паперы, якой прыкрывалася сама пячаць.
**custodio** 4. (custos) [**стеречи** *стб.*] ахоўваць; агароджваць.
**custoditio**, onis *f* (custodio) 1) ахова; 2) перасцераганне; 3) захаванне; 4) культ; 5) ушанаванне, пакланенне; 6) павага.

**custos**, odis *m* [**kustosz** *пл.*] кусташ. У Рэчы Паспалітай каронны кусташ ~ **regni** быў службовай асобай, якая мела пад сваім наглядам дзяржаўныя каштоўнасці. Апрача таго, ён быў чальцом рэферэндарскага суда і меў голас суддзі — **votum decisivum**.

**custria**, ae *f* абавязкі сакрыстыяна.

**cuva** *гл.* **cupa**.

**cyathus**, i *m* 1) кубак; 2) мера аб'ёму (0,0456 літра).

**cyclus**, i *m* кола, круг: ~ **lunae** круг месяца, дзевятнаццацігадовы перыяд часу, пасля якога маладзікі і поўні бываюць у тыя ж дні сонечных месяцаў, у якія яны былі 19 гадоў таму назад. Гады месяцовага круга 1-ы, 2-і, 3-і і г. д. у пасхаліі Праваслаўнай царквы называюцца таксама кругамі месяца, а ў пасхаліі Рыма-каталіцкага касцёла — залатымі лікамі — **numeri aurei**. Каб даведацца, які год у месяцовым крузе, напр. 1520, ці, што тое самае, каб знайсці круг месяца 1520 года, трэба дадаць да яго гады ад стварэння Свету да Нараджэння Хрыстова, г. зн. 5508 гадоў, і суму 7028 падзяліць на 19, рэшта ад дзялення 17 паказвае, што 1520 год 17-ы ў месяцовым крузе. Каб атрымаць рымскі залаты лік ці круг месяца па рымска-каталіцкай пасхаліі, трэба да круга месяца па праваслаўнай пасхаліі дадаць лік 3, і калі сума будзе перавышаць лік 19, то апошні трэба адняць ад гэтай сумы. Круг месяца 1520 года — 17; 17+3=20, але 20–19=1; значыць, 1520 год паводле каталіцкай пасхаліі 1-ы ў месяцовым крузе ці залаты лік 1520 года — 1; ~ **solaris** круг сонца, дваццацівасьмігадовы перыяд часу, пасля заканчэння якога дні месяца будуць у тыя ж дні тыдня, у якія яны былі 28 гадоў таму. Каб знайсці круг сонца дадзенага года, напр. 1875, то да яго трэба дадаць гады ад стварэння Свету 5508 і суму 7383 падзяліць на 28, рэшта ад дзялення — 19 будзе круг сонца 1875 года. Каб знайсці круг сонца паводле рымска-каталіцкай пасхаліі, трэба толькі да круга сонца пасхаліі Праваслаўнай царквы дадаць лік 17; калі гэты круг сонца не перавышае лік 11, калі ж ён больш 11, то трэба адняць ад яго лік 11. Так круг сонца 1875 года 19; пасля адымання ад яго 11 рэшта 8 будзе кругам сонца паводле каталіцкай пасхаліі. Круг сонца 1806 года па праваслаўнай пасхаліі 6, дадаўшы да яго лік 17, атрымаем 23 — круг сонца па каталіцкай пасхаліі.

**cyganus**, i *m* цыган.

**cyngarius** *гл.* **cyganus**.

**Cyprianus Ep.** 14 верасня.

**Cyriacus et Apollinarius MM.** 21 чэрвеня.

**Cyrillus et Methodus Ep.** 9 ліпеня.

## D

**dacra**, ae *f* 1) адзінка меры — 10 скур; 2) дзясятка.

**dagarium**, ii *n* штылет, кінжал.

**dagescalcus**, i *m* нявольнік ці падзёншчык.

**dagewardus**, i *m* працоўны, слуга ніжэйшага класу.

**Damasus P.** 11 снежня.

**damnabilis**, e *adi.* 1) годны асуджэння; 2) шкодны: **damnabili ausu** з кепскім намерам.

**damnificator**, oris *m* [**шкодник** *стб.*] шкоднік, крыўдзіцель, які прычыніў шкоду.

**damnifico** 1. 1) [**зашкодити | ушкодити | пошкодити** *стб.*] шкодзіць, прычыняць шкоду: **damnificatus** [**зашкожоный | шкодный** *стб.*] зашкоджаны / пацярпелы, які панёс шкоду; 2) ~ **terram** спусташаць зямлю; 3) *pass.*: зазнаваць шкоду; 4) даводзіць да прысуджэння аплаты.

**damnitas**, atis *f* 1) карнасць; 2) шкода; 3) страта.

**damnum**, i *n* 1) [**шкода, згуба** *стб.*] шкода; крыўда; згуба, страта: ~ **igne** [**пожога** *стб.*] пажога / пажар; 2) [**спостошенье** *стб.*] спусташэнне; 3) грашовае пакаранне, штраф: ~ **terrestre** штраф, вызначаны законам і прысуджаны судом. Забеспячэнне (**evictio**) звычайна давалі ці пад заруку выплаты сумы, роўнай кошту прадмета — **sub vadio alterius tanti**, ці пад выплату зямельнага штрафу — **sub damnis terrestribus**, *гл.* Статут ВКЛ (аб навезках). Судовыя штрафы лічыліся пераважна на грыўні. З іх, апрача прысуджаных судом да выплаты, палова даставалася часам суду; суд прысуджаў іншым разам суцяжнаму боку падвойную суму 14 грыўняў — **et iudicio per medium**, а сабе палову, г. зн., што бок атрымліваў 28 грыўняў, а суд 14.

**Daniel Proph.** 21 ліпеня.

**dapifer**, feri *m* (daps) 1) слуга, які падае на стол; 2) [**stolnik, trukczaszy** *пл.*] стольнік — саноўнік, абавязкам якога было прыслугоўваць каралю пры стале.

**dapiferatus**, us *m* 1) пасада стольніка; 2) добры / уладанні, якія надаваліся стольніку.

**dapsilis**, e багаты; шчодры.

**dapsilitas**, atis *f* шчодрасць.

**dardeio** 1. ваяваць / біцца дзідаю.

**dardus**, i *m* дзіда.

**data**, ae *f* 1) дарунак; 2) плата; падатак; мыта; 3) паншчына; 4) формула, якая ўключае пазначэнне месца і часу выдання дакумента; 5) дата.

**datia**, ae *f* 1) [**дань** *стб.*] даніна; падатак; 2) мытны падатак, мыта. Vol. Leg., a. 1424, I, f. 88; 3) наданне.

**datio**, onis *f* [**danina** *пл.*] 1) наданне, падараванне, дарэнне; 2) рэчыўны збор, менавіта прынашэнні, якія робяцца сялянамі пану: грыбамі, ягадамі, арэхамі, ільном, палатном і да т. п.; 3) дар.

**datium** *гл.* **datio**.

**dativus**, a, um хадавы, гаворыцца пра манету, якая абарачаецца ў гандлі альбо захоўваецца.

**datum**, i *n* 1) дарунак; падачка; 2) формула, якая змяшчае дакладнае пазначэнне часу і месца; 3) дата, указанне ці пазначэнне года, месяца і дня якой-небудзь паперы, ліста, якой-небудзь падзеі. Адгэтуль датаваць — пазначаць год, месяц і дзень: ~ **ut supra** таго ж самага дня, як вышэй; **a dato** *s.* **de dato** ад часу выдання дакумента; ~ **quaestionis** дата пытання; ~ **ut retro** дата, як на адгорце; 4) пастанова; вызначэнне; 5) спадчына; 6) інвестытура; 7) сімвалы інвестытуры; 8) дакумент, які пацвярджае адчужэнне.

**David Rex et Proph**. 30 снежня.

**De fontanis (dominica)** ад бруістых крыніц, 4-я нядзеля Вялікага Посту.

**De lignis orditis (dominica)** 1-я нядзеля посту, 1-я нядзеля Вялікага Посту.

**de** *praep.* [**от | ото** *стб.*] ад, з, у: ~ **latus** пры баку, побач; поплеч; ~ **profundis** з глыбіні — малітва за памерлых.

**deaforesto** 1. лес ці гай абарачаць у пашу ці пускаць у распрацоўку.

**dealbatio**, onis *f* (dealbo) [**dealbacya** *пл.*] пабел, калі гаворка ідзе аб манеце.

**deambulator**, oris *m* 1) дарожны; 2) пілігрым.

**dearesto** 1. вызваляць з вязніцы.

**dearguo**, ui, utum, ere ганіць вырак суддзі.

**deassecuro** 1. парушаць чыйсьці спакой альбо бяспеку прычыненнем шкоды ці здрадай.

**debannio** 4. 1) касаваць забарону; 2) вызваляць ад баніцыі / выгнання.

**debeo**, bui, bitum, ere 1) быць абавязаным, быць павінным: **esse debet** [**маеть быти** *стб.*] мае / павінна быць; 2) [**мети** *стб.*] мець; валодаць, трымаць; атрымліваць; захоўваць.

**debitans**, antis *m* [**debitant** *пл.*] 1) прадавец тавараў оптам ці ўраздроб / у розніцу; 2) фабрыкант.

**debitator**, oris *m* даўжнік.

**debito** 1. запісаць у тастаменце / завяшчанні.

**debitor**, oris *m* (debeo) [**злочинца** *стб.*] злачынец, ліхадзей.

**debitoreus**, a, um (па)вінны.

**debitum**, i *n* 1) *n* [**долг** *стб.*] доўг: ~ **liquidum** чысты доўг; 2) павіннасць; 3) абавязак.

**debladatio**, onis *f* жніво.

**deblado** 1. жаць, зжынаць.

**debodinatio**, onis *f* мяжа.

**debodino** 1. вызначаць межы валодання.

**decanus**, i *m* (decem) 1) дзясятнік; 2) дэкан.

**decedo**, cessi, cessum, ere [**отмерети** *стб.*] памерці.

**decem** [**десеть | десять** *стб.*] дзесяць: ~ **septem** [**семнадцать** *стб.*] сямнаццаць; ~ **octo** [**осминадцать | осмнадцать** *стб.*] васямнаццаць.

**Decem millia MM. crucifixorum** 22 чэрвеня.

**decempeda**, ae *f* (decem) 1) мера даўжыні, якая складае 10 ступняў; 2) г. зв. шнур, мера, якая складае 10 г. зв. прутоў.

**decendium**, ii *n* перыяд дзесяці дзён.

**decenso** 1. 1) дазваляць дзяржанне / арэнду; 2) браць чынш за дзяржанне / арэнду.

**decerno**, crevi, cretum, ere 1) [**всказати | сказати | сказывати | усказати** *стб.*] загадваць, указваць; устанаўліваць; 2) [**зыскати** *стб.*] спаганяць (праз суд).

**decessio**, onis *f* (decedo) 1) памяншэнне, змяншэнне; 2) саступка; сыход; 3) знікненне; 4) смерць; 5) наступства; 6) спадчына.

**decima** (decuma), ae *f* (decimus) [**dziesięcina** *пл.*] дзесяціна — падатак, які з найстаражытнейшых часоў плаціўся каталіцкаму духавенству. Ён пераважна браўся натурай: мяшчане і сяляне звычайна аддавалі дзясяты сноп ці дзясятую частку вымалачанага збожжа, таксама дзясятую частку мёду ці звярыных скур. Дзесяціны былі двух відаў: адна **more nobilium** — шляхецкая, а другая **more rusticorum** — сялянская. Першая давалася з плугоў, неабходных для ўзорвання чатырох валок, таму касцёлу ці кляштару, у якім знаходзілася фамільная грабніца, а астатняя колькасць плугоў ускладалася на просты народ; ~ **de novalibus** дзесяціна ад новаўтвораных надзелаў, з якіх яна не бралася ў ранейшы час. Vol. Leg. I, f. 100; ~ **in gonitwa** дзесяціна ў ганітве (ад слова гнаць). Арандатар паводле закону павінен плаціць дзесяціну ад узятай ім у арэнду зямлі такую ж, якую плаціў за яе вотчыннік. Але калі арандатар выдаліў сялян і заняў іх зямлю, апрацоўваючы яе, то ён павінен быў плаціць дзесяціну і за палі сялян, якая называлася дзесяцінай у ганітве. Vol. Leg. I, f. 101; ~ **per progressum** дзесяціна ад нерухомай уласнасці, ужо апрацаванай, напр., калі хто-небудзь, маючы лясы, гаі, хмызнякі, паступова вынішчыў іх, то ад апрацаванай зямлі ён павінен быў плаціць дзесяціну ў такім жа памеры, у якім плаціў перш ад неапрацаванай. Vol. Leg. I, f. 101.

**decimarius**, i *m* (decima) 1) дзясятнік; 2) ~ **rusticus** чалавек, прыналежны да нявольнай групы насельніцтва, арганізаванай у дзясятні; 3) збіральнік дзесяціны.

**decimus** (decumus), a, um [**десятый** *стб.*] дзясяты.

**decisor**, oris *m* той, хто выдае рашэнне ў спрэчцы, арбітр, суддзя.

**decisorie iurare** скласці прысягу, вырашальную ў спрэчцы.

**declino** 1. 1) схіляць; 2) звяртаць, павяртаць: **diversandi gratia** ~ [**становити ся** *стб.*] спыняцца (на начлег), станавіцца (на пастой).

**decostamentum**, i *n* выдатак; наклад.

**decosto** 1. каштаваць.

**decredo**, didi, ditum, ere не верыць.

**decretale**, is *n* дэкрэтале — папская пастанова, папскі дэкрэт альбо папскае вызначэнне, саборная пастанова: **decretalia** збор прадпісанняў кананічнага права.

**decretio**, onis *f* (decerno) 1) рашэнне; 2) вырак; 3) каралеўскі прысуд; 4) дарунак.

**decretum**, i *n* (decerno) 1) [**зысканье** *стб.*] пастанова, рашэнне, вырак; 2) дэкрэт: **decreta in condicto** [**dekreta kondiktowe** *пл.*] кандыктавыя дэкрэты. У Рэчы Паспалітай з даўніх часоў быў звычай, які ў 1768 годзе атрымаў сілу закона, паводле якога спрачальныя бакі самі складалі вырак па ўсіх спрэчных пунктах ці толькі па некаторых і прадстаўлялі гэты вырак на канчатковае зацвярджэнне суда; **decreta satisfactionis** дэкрэты задаволення, судовыя вызначэнні пра задаволенне патрабаванняў скарбу ці пра ўнясенне падатку. Яны не падлягалі апеляцыі. Vol. Leg. II, f. 633; ~ **revisionis litterarum** дэкрэт прагляду лістоў — судовае вызначэнне, якім прызначаецца прагляд дакументаў.

**decumbitio**, onis *f* аладыяльная ўласнасць.

**decurio**, onis *m* (decuria) дзясятнік; начальнік якога-небудзь аддзела.

**decursoria**, ae *f* месца для пешаходаў на мосце.

**decursus**, us *m* (decurro) 1) збяганне; сцяканне; 2) пакатасць; 3) ход, бег ~ **temporis** бег часу; 4) бег вады, сцёк, адліў; ручай; 5) *перан.*: ход; развіццё; 6) [**проштье** *стб.*] заканчэнне (тэрміну); канчатак, канец: **in decursu commutationis** пад канец семестра; 7) маральнае падзенне; 8) наступ, атака; 9) вайсковы парад; 10) ~ **consuetudinis terrae** звычаёвае права якой-небудзь зямлі / краю.

**dedico**, dixi, dictum, ere 1) кідаць кагосьці альбо штосьці; 2) адмаўляць камусьці ў чымсці; 3) абвяшчаць вайну.

**deduco**, duxi, ductum, ere 1) зводзіць; адводзіць; 2) [**звезти | звозити** *стб.*] звозіць; 3) [**везти** *стб.*] везці; 4) [**перевести** *стб.*] даводзіць; вырашаць; 5) [**вывести ся | выводити ся** *стб.*] даводзіць на судзе (сваю невінаватасць), апраўдвацца.

**defalcata**, ae *f* [**defalka** *пл.*] 1) вылік, адыманне; змяншэнне, памяншэнне (кошту); 2) палёгка, якая даецца ўрадам падрадчыку ў выпадку няўстойкі з яго боку з прычын, зусім ад яго не залежных, якія не маглі быць прадугледжаны.

**defalco** 1. адымаць.

**defalcor** 1. [**оттручати** *стб.*] адкідаць; адлічваць.

**defatigo** 1. [**волочити** *стб.*] займацца цяганінай / валакітай, чыніць валакіту, цяганіну.

**defectatio**, onis *f* спадчына.

**defectus**, us *m* (deficio) [**недостаток** *стб.*] нястача, недахоп; адсутнасць.

**defendo**, fendi, fensum, ere [**боронити** *стб.*] бараніць, абараняць; ~ **se** [**боронити ся** *стб.*] бараніцца, абараняцца.

**defensa**, ae *f* (defendo) [**оборона** *стб.*] абарона.

**defensaria**, ae *f* тэрыторыя, якая ахоўваецца дадзеным горадам.

**deferecentia**, ae *f* [**deferencya** *пл.*] павага, пашана.

**defero**, detuli, delatum, deferre 1) зносіць зверху ўніз; зводзіць; 2) адводзіць; 3) [**пустити** *стб.*] пускаць, адпускаць; дапускаць.

**defestuco** 1. кідаць.
**deficio**, feci, fectum, ere [**змерети** *стб.*] паміраць.
**defideiubeo,** iussi, iussum, ere вызваляцца ад чагосьці праз паруку.
**definimentum**, i *n* дамова, паразуменне.
**definitor**, oris *m* (definio) 1) той, хто пастанаўляе; 2) той, хто вызначае; 3) кіраўнік законнай / манаскай правінцыі, правінцыял; 4) візітатар, які робіць агляд кляштараў.
**defluitatio**, onis *f* [**defluitacya** *пл.*] правоз якіх-небудзь тавараў вадой, сплаў.
**defluxio**, onis *f* (defluo) [**defluxya** *пл.*] сцёк ці збег да аднаго месца.
**defraudatio**, onis *f* (defraudo) [**defraudacya** *пл.*] 1) прычыненне ўпотай шкоды ці страты; падман; растрата; 2) пазбаўленне чагосьці; 3) кантрабанда; 4) шкода; 5) крадзеж.
**defraudo** 1. [**defraudować** *пл.*] 1) падманваць, ашукваць кагосьці на ягоную шкоду; растрачваць; 2) прычыняць употай каму-небудзь шкоду: ~ **scripturas** перарабляць ці псаваць які-небудзь пісьмовы дакумент; 3) *pass.*: пазбаўляць сябе чагосьці; 4) змяншаць; 5) абкрадаць; абрабоўваць.
**defructo** 1. пазбаўляць карыстання.
**degrado** 1. [**degradować** *пл.*] паніжаць; пазбаўляць займанай пасады ці сану.
**degranatura**, ae *f* права першынства ў карыстанні млынам.
**dehabeo**, ui, itum, ere 1) быць пазбаўленым чагосьці; адчуваць недахоп; 2) не мець.
**deheres**, edis *m* спадчыннік іншага спадчынніка.
**dehomino** 1. пазбаўляць чалавечага права.
**dehonorantia**, ae *f* 1) недахоп павагі; 2) бунт, мяцеж.
**deicola**, ae *f* манах.
**deicus**, a, um боскі.
**deificus**, a, um (deus) 1) абагоўлены, боскі; 2) шанаваны; 3) пабожны.
**deintus** *adv.* усярэдзіне.
**deinvestio** 4. пазбаўляць, адымаць: ~ **se** пазбавіцца якога-небудзь уладання.
**delata**, ae *f* 1) злічэнне ці ўказанне падаткаў і скарбовых даўгоў, не ўнесеных у скарб у тэрмін, прадпісаны законам, якое прадстаўлялася звычайна касамі кіраўніцтву для спагнання; 2) данясенне, пададзенае ў суд.
**delatio**, onis *f* (defero) 1) [**поведанье** *стб.*] паведамленне; данос; 2) [**выданье** *стб.*] абгавор, абмова.
**delator**, oris *m* (defero) 1) даносчык; 2) даследнік; 3) пазоўнік / ісцец.
**delatura**, ae *f* (defero) абвінавачанне; паклёп.
**delectitia charta** (ад **delere** знішчаць) дакумент, які не можа быць прачытаны ці разабраны з прычыны сцёртых ці цалкам паблеклых літар.
**delectus**, i *m* [**wybraniec** *пл.*] выбранец ці рэкрут. Выбранцамі называліся людзі, узятыя з гарадоў, мястэчкаў і каралеўскіх паселішчаў для ваеннай службы. Спачатку іх выбіралі паводле колькасці ланаў ці валок (Vol. Leg. II, f. 979), а потым іх выбіралі з 19 чалавек аднаго. Выбранцаў вызвалялі ад усіх

павіннасцей. Пасля была адноўлена ранейшая пастанова — па ліку ланаў ці валок, якія называліся выбранецкімі валокамі. Потым замест выбранцаў было пастаноўлена ўносіць у скарб вызначаную грашовую суму, а менавіта ў 1649 годзе замест выбранцаў вызначана было ўносіць у скарб за кожнага выбранца 60 злотых. Vol. Leg. IV, f. 280.

**delegatio**, onis *f* (delego) [**delegacya** *пл.*] 1) пераняесенне; перадача; 2) высланне; 3) дэлегацыя; пасольства; 4) паўнамоцтвы асоб, якім дадзена пэўная частка вышэйшай улады з абавязкам справаздачы аб яе ўжыванні; 5) пасада дэпутата.

**delegator**, oris *m* (delego) 1) той, хто дэлегуе; 2) даравальнік; фундатар.

**delegatoria** (sc. epistola), ae *f* 1) расклад падаткаў; 2) кіраванне начальніка чыімісьці справамі.

**delegatus**, i *m* [**delegat** *пл.*] чалец дэлегацыі; дэпутат.

**delego** 1. даваць; саступаць.

**deletura**, ae *f* выкрэсленае альбо выцертае месца запісу ў судовай кнізе.

**deliberantia**, ae *f* плата.

**deliberatio**, onis *f* (delibero) [**deliberacya** *пл.*] 1) [**розмышленье** *стб.*] абдумванне, разважанне, роздум; 2) рашэнне; 3) тэрмін, які давалі на разважанне ці на абмеркаванне якой-небудзь справы. Тэрмін гэты для суддзяў земскіх, гродскіх і падкаморскіх, гэтак жа, як і для ваявод, канчаткова быў вызначаны законам — два тыдні. Vol. Leg. I, f. 576.

**delicior** 1. (deliciae) 1) радавацца, радаваць; 2) жыць у раскошы.

**deliciosus**, i *m* даверaны слуга.

**delictum**, i *n* (delinquo) [**выступ** *стб.*] правіна, праступак, шкода; злачыннае дзеянне, злачынства.

**delictus**, a, um [**винен** *стб.*] вінны, вінаваты, павінны.

**deligo** 1. даваць; саступаць.

**deliminatus**, a, um вызначаны, пазначаны межамі (пра мясцовасць).

**delimino** 1. тое ж, што і **elimino** [**eliminować** *пл.*] 1) выкідаць за парог; 2) выключаць з ліку актаў які-небудзь запіс пасля заканчэння якой-небудзь справы. Выключэнне гэта робіцца паводле вызначэння таго ж суда, у якім вялася гэтая справа.

**delimito** 1. занадта звужаць межы, занадта абмяжоўваць.

**delinquens**, entis [**выступный** *стб.*] які правініўся, які ўчыніў праступак.

**delitesco** (de-litisco), tui, —, ere [**зостати** | **зостати ся** *стб.*] заставацца; даставацца; пакідаць.

**delosa**, ae *f* крыўда.

**delphinus**, i *m* 1) дэльфін; 2) тытул пераемніка французскага трона.

**demagogus**, i *m* 1) ліслівец; 2) даносчык.

**demanco** 1. нявечыць.

**demanda**, ae *f* 1) скарга; 2) дапамога.

**demandamen**, inis *n* 1) нагадванне; 2) апавяшчэнне.

**demandamentum**, i *n* скарга.

**demando** 1. 1) даручаць, даваць распараджэнне; 2) аддаваць, перадаваць; 3) ~ **fini** заканчваць; 4) вяртаць страчаную ўласнасць; патрабаваць судова / праз суд; 5) выдаваць вырак / выносіць прысуд: ~ **aliquem** асуджаць; 6) забараняць.

**demarchus**, us *m* марка.

**demembratio**, onis *f* падзел, раздзяленне, расчляненне; адлучэнне.

**demembro** 1. 1) адымаць часткі цела; расчляняць; 2) адрываць; адлучаць.

**demencus**, i *m* мера аб'ёму.

**demens**, entis *m* [**шаленый** *стб.*] шалёны, шаленец, вар'ят.

**dementicius**, a, um хворы.

**demessa**, ae *f* пазначэнне межаў.

**Demetrius M.** 26 кастрычніка, 5 ліпеня.

**demissio**, onis *f* (demitto) 1) прыніжанасць; нясмеласць; 2) пакора; 3) пагадненне, паводле якога адна асоба, якая валодае нерухомай маёмасцю на ленным праве ці па закладной угодзе ці арэнднаму кантракту, на тых жа правах і ўмовах саступае гэтую маёмасць ці частку яе іншай асобе.

**demitto**, misi, missum, ere [**спускати** | **спустити** *стб.*] спускаць.

**demobilisatio**, onis *f* [**demobilizacya** *пл.*] спыненне руху войска, прывядзенне яго да мірнага стану, дэмабілізацыя.

**demortuarium**, ii *n* спадчына.

**demulceo**, mulsi, mulsum, ere 1) лашчыць; 2) заспакойваць, лагодзіць: ~ **animos** супакойваць розумы, сэрцы.

**demulctatio**, onis *f* пакаранне.

**dena**, ae *f* мера зямельнай плошчы.

**denarius**, i *m* (decem)1) дэнарый — старажытная рымская манета. У сярэднія вякі дэнарый складаўся з дзесяці асаў, потым з 16, нарэшце, з 12: **simiales denarii** [**opice?** *пл.*] падатак ад павадыроў малпаў і ад блазнаў за права паказваць люду сваё мастацтва. Падатак гэты плаціўся князям (Słownik Jungmana o skomorochach); 2) ці **obolus** [**denar** *пл.*] пенязь, дэнарый, адзіная дробная манета ў Польшчы ў XI—XIII стст. Пры Казіміру Вялікім (1333—1370) дэнарый складаў 18-ю частку гроша. Але самае дакладнае паняцце пра дэнарый і яго адносіны да іншых старажытных польскіх манет мы знаходзім у Ардынацыі Жыгімонта I у 1526 годзе, дзе гаворыцца: **ut abolita in Prussia moneta veteri triplex nova sub nostris et terrarum Prussiae insigniis cudatur, videlicet grossi, solidi et oboli sive denarii, ita ut viginti grossi unam marcam quadraginta autem grossi, sive quae marcae, florenum Hungaricalem constituant. Tres vero solidi grossum, et sex oboli solidum**, г. зн. у перакладзе — замест ранейшай, састарэлай прускай манеты неабходна біць / чаканіць траякую новую манету з нашым і з прускім гербам, г. зн. грошы, шэлягі і обалы ці дэнарыі, так, каб дваццаць грошаў складалі адну марку, а сорак грошаў ці дзве маркі — вугорскі чырвонец, тры шэлягі — адзін грош, а шэсць дэнары-

яў (пенязяў) — адзін шэляг (Vol. Leg. I, f. 469). Кромер у 1564 годзе згадвае пра дэнарыі, называючы іх обаламі, і кажа, што обал ёсць 18-я частка гроша і што обалы былі медныя пабеленыя — **obolus decima octava pars grossi atque hi quidem aerei sunt dealbati**.

**denarrator**, oris *m* сведка.

**denarro** 1. 1) распавядаць; 2) сведчыць.

**dendina**, ae *f* жупа, салярня, *гл. тс.* **taberna**.

**denominatio**, onis *f* (denomino) 1) прысваенне імя, называнне; 2) назва, найменне; азначэнне; 3) прозвішча; 4) менаванне / намінацыя, прызначэнне; 5) каштоўнасць, кошт; 6) абяцанне; 7) інвентар феадальнага валодання, які прадстаўляецца ўладальніку ці пану.

**denotatio**, onis *f* (denoto) 1) адбітак; 2) шкода; крыўда, абраза; 3) благая слава; 4) абвінавачанне, асуджэнне; 5) асуджэнне на смерць; 6) крытыка; 7) паведамленне.

**denunciatio**, onis *f* [**denuncyacya** *пл.*] 1) абвяшчэнне; 2) данос.

**denundino** 1. 1) абнародаваць, публікаваць; 2) выстаўляць таксу тавараў на кірмашы.

**denuntia**, ae *f* вестка.

**denuo** *adv.* [**знову** *стб.*] зноў, знову.

**deoccupatio**, onis *f* [**deokkupacya** *пл.*] адданне ўладання ранейшаму яго ўладальніку.

**deodicatus**, a, um які паступіў у манаства.

**depacisco**, ere 3. заручацца.

**depactatio**, onis *f* [**depaktacya** *пл.*] вымагальніцтва лішняй платы ці ўнёску звыш устаноўленай таксы, спагнанне чаго-небудзь там, дзе ніякай платы не прадугледжана, абдзіранне.

**depactio** 4. дамаўляцца.

**depacto** 1. [**depaktować** *пл.*] руйнаваць; даводзіць да галечы; эксплуатаваць.

**depascatio**, onis *f* [**испаш** *стб.*] іспаш / патрава; пакрыццё (патравы).

**depasco**, pavi, pastum, ere [**травити** *стб.*] травіць / рабіць патраву.

**depecuatio**, onis *f* адыманне ці рабаванне скаціны.

**depecuniatio**, onis *f* (па)рабаванне грошай.

**depecunio** 1. рабаваць грошы.

**depello**, puli, pulsum, ere [**зженити** *стб.*] адганяць.

**deperditio**, onis *f* (deperdo) [**утрата** *стб.*] страта.

**deperditum**, i *n* страта, шкода, *гл. тс.* **damnum**.

**depertitum** *гл.* **deperditum**.

**depingo**, pinxi, pictum, ere [**намалевати** *стб.*] маляваць.

**deponens**, entis *n* (depono) [**deponent** *пл.*] 1) дэпанент, які кладзе нешта, напр. нейкую суму ў банк; 2) сведка ў судзе.

**depono**, posui, positum, ere 1) адкладаць; 2) [**выставити** *стб.*] прызначаць; звальняць.

**deportatio**, onis *f* (deporto) 1) [**deportacya** *пл.*] выгнанне, выдаленне з краю за якія-небудзь злачынствы; 2) адхіленне; скасаванне: ~ **citationis** [**zniesienie pozwu** *пл.*] скасаванне пазову, вызваленне ці ачышчэнне ўладання ад пазову / выкліку ў суд. Паводле закону ўладальнік нерухомай маёмасці, на якую калі б хто-небудзь іншы заяўляў свае правы і паклаў на ім пазоў / выклік у суд, павінен быў пачаць справу пра скасаванне гэтага пазову да заканчэння года і шасці тыдняў, а калі б ён прапусціў гэты тэрмін, у такім разе павінен прысягнуць, што ён не меў пра гэты пазоў ніякага ведама. Vol. Leg. II, f. 1219.

**deportatorium onus** мыта ад увезеных тавараў.

**deporto** 1. [**deportować** *пл.*] высылаць у выгнанне (як пакаранне).

**deportus**, us *m* гадавы прыбытак за першы год ад вакантнага прыходу.

**depositarius**, ii *m* (depono) асоба, якая ўзяла грошы ці якую-небудзь рэч на захаванне.

**depositio**, onis *f* (depono) 1) складанне (з сябе), пазбыццё; страта; 2) захаванне; адкладанне, адданне на захаванне (грошай, каштоўнасцей); 3) [**depozycya, depozyt** *пл.*] паказанні сведак па якой-небудзь справе; кампенсацыя страт, панесеных у ваенны час, на падставе паказанняў сведак; 4) [**справа** *стб.*] справа; рашэнне; 5) касцёльнае пакаранне, паводле якога вінаватыя клерыкі пазбаўляліся свайго сану; 6) дзень пахавання; 7) угодкі.

**depositionale**, is *n* судовая кніга, у якую перапісвалі паказанні сведак.

**deposito** 1. скідаць; звяргаць, зрынаць.

**depositorium**, ii *n* (depono) 1) месца захоўвання, схоў; склад; 2) рэч, аддадзеная на захоўванне; 3) **ius depositorii** права складу.

**depositum**, i *n* [**deposyt** *пл.*] рэч, аддадзеная на захаванне, дэпазіт. У Польшчы і Літве-Беларусі публічныя дэпазіты існавалі з самых даўніх часоў. У Статуце Яна Альбрэхта 1496 года гаворыцца: «калі справа ідзе пра выкуп маёмасці ў адсутнасці суддзі ці падсудка, ацэначная сума павінна быць аддадзена на рукі пісара і судовых саноўнікаў — **camerarii** і схавана ў канцылярыі пры актах, якія, як вядома, захоўваліся ў моцных куфрах». Тое ж самае і ў Статуце ВКЛ 1588 года: вялікія сумы аддаваліся на дэпазіт самому каралю. Жыгімонт I у 1524 годзе загадаў Віленскаму біскупу захоўваць 10 тысяч чырвонцаў у катэдральным касцёле да паўналецця Юзэфовічаў.

**depossideo**, sedi, sessum, ere пазбаўляць каго-небудзь спадчыны; выганяць.

**depost** *adv.* ззаду; пасля.

**depraedatio**, onis *f* (depraedor) [**злупленье** *стб.*] злупленне / (па)рабаванне.

**depraedatorius**, a, um [**розбойный** *стб.*] абвінавачаны ў разбоі; разбойны.

**depraedor** 1. [**розбивати | розбити, лупити** *стб.*] разбойнічаць, здзяйсняць разбойны напад, чыніць разбой; лупіць / рабаваць.

**depravo** 1. 1) перакручваць; нявечыць; 2) прыносіць шкоду; псаваць; 3) дэмаралізаваць; 4) ачарняць, няславіць; 5) *pass.*: быць падкупленым; 6) ганіць нечае шляхецтва.

**deprecarius**, a, um які мае ў пажыццёвым дзяржанні / арэндзе нерухомую касцёльную маёмасць.

**deprecatura**, ae *f* дапамога.

**deprecor** 1. 1) настойліва прасіць нечага: ~ **veniam** прасіць літасці; выпрошваць нешта; 2) выпрошваць права на пажыццёвае валоданне касцёльнай нерухомай маёмасцю са штогадовай выплатай чыншу; 3) прасіць аб прабачэнні; 4) даваць сябе ўпрасіць; 5) умольваць; маліцца; 6) атрымліваць у прэкарый — **precarium**; 7) лагодзіць; 8) заступацца; 9) праклінаць; лаяць.

**deprehendo** (deprendo), prehendi (prendi), prehensum (prensum), ere [**поимати** *стб.*] затрымліваць; лавіць.

**depressio**, onis *f* (deprimo) [**пониженье** *стб.*] прыніжэнне; прымяншэнне.

**deprimo**, pressi, pressum, ere [**понижати** *стб.*] прыніжаць; прымяншаць.

**depublico** 1. 1) заяўляць; 2) абвяшчаць.

**deputatus**, i *m* земскі пасол.

**deputo** 1. 1) [**выставити** | **поставити** *стб.*] прызначаць, устанаўліваць; пасылаць: **deputatus** [**высланый** *стб.*] пасланы, высланы; 2) [**давати** | **даивати** | **дати** *стб.*] даваць, выдаваць; падаваць, прадстаўляць; дараваць; 3) саджаць у турму.

**derasio**, onis *f* (derado) драпіна, рана, прычыненая вострай зброяй.

**deratiocinatio**, onis *f* працэдура.

**deraubatio**, onis *f* рабаванне, грабеж.

**deraubator**, oris *m* рабаўнік, грабежнік.

**deraubo** 1. рабаваць, грабіць.

**derelicta**, ae *f* удава.

**derivo** 1. 1) адводзіць ці праводзіць ваду; павяртаць бег вады, накіроўваць ваду ў іншы бок; 2) адводзіць; весці; 3) выводзіць; выцягваць; 4) аддзяляць што-небудзь ад сваёй маёмасці для перадачы іншай асобе; 5) абяртаць, ужываць для іншай мэты; 6) паходзіць аднекуль: **verba derivata** вытворныя словы; 7) пачынаць, даваць пачатак; 8) *pass.*: выводзіцца, браць пачатак; 9) *pass.*: пераходзіць на кагосьці; дасягаць; 10) выцякаць; 11) скарачаць.

**derogamen**, inis *n гл.* **derogatio**.

**derogatio**, onis *f* (derogo) [**derogacya** *пл.*] 1) крыўда, шкода; парушэнне; запаволенне; 2) змена якога-небудзь пункта ў законе; абмежаванне.

**derogo** 1. прычыняць шкоду ці страту.

**descendo**, scendi, scensum, ere сыходзіць; спускацца: **descendens** спадкаемец, спадчыннік; нашчадак; родзіч у сыходнай лініі.

**describo**, scripsi, scriptum, ere 1) [**росписати** *стб.*] распісаць; аформіць пісьмова; 2) [**описати** *стб.*] упісаць, запісаць; апісаць; напісаць: **descriptus** [**описаный** *стб.*] запісаны, напісаны; апісаны; 3) [**выписати** *стб.*] упісаць, напісаць; выкласці.

**descriptor**, oris *m* (describo) 1) той, хто нешта апісвае; 2) пісьменнік; 3) апавядальнік; 4) гісторык.

**desero**, serui, sertum, ere [**опустити** *стб.*] пакідаць; упускаць, выпускаць.
**desertum**, i *n* [**пуща** *стб.*] пушча.
**deservio** 4. рупліва служыць, прысвячаць сябе чамусьці; клапаціцца: ~ **feudo** выконваць звычайныя абавязкі ў адносінах да феадальнага ўладальніка.
**Desiderius Ep.** 23 траўня.
**desinentia**, ae *f* канец.
**desistentia**, ae *f* адрачэнне, адмова.
**desolatio**, onis *f* (desolo) [**dezolacya** *пл.*] спусташэнне; [**desolacya fortuny** *пл.*] спусташэнне, парабаванне маёмасці.
**desolatus**, a, um [**пустый | пустовский** *стб.*] пусты / пустаўскі / пусткавы (пра зямлю).
**despectus**, us *m* (despicio) 1) пазіранне зверху; 2) выгляд; 3) пагарда, пагардлівасць; 4) знявага; 5) абраза велічы; 6) нез'яўленне насуперак загаду публічнай улады.
**desperantia**, ae *f* 1) роспач, паняверка; 2) пагарда.
**despico** 1. 1) абскубаць; 2) пагарджаць.
**despito** 1. пагарджаць.
**Desponsatio B. V. Mariae (festum)** Заручыны Найсвяцейшай Панны Марыі, 23 студзеня.
**destrictum**, i *n гл.* **districtus**.
**destruo**, struxi, structum, ere 1) бурыць, разбураць: **destructus [скаженый** *стб.*] сапсаваны; 2) [**порубати | порубити | рубати** *стб.*] сячы, ссякаць, высякаць.
**desudo** 1. *intr.* 1) моцна пацець; 2) заўзята працаваць; цяжка працаваць.
**detentatio**, onis *f* 1) утрыманне; затрыманне; 2) узяцце рэчы, незаконна забранай; 3) намер, задума; спроба; замах; 4) прыгнечанасць.
**detentio**, onis *f* (detineo) [**detencya** *пл.*] затрыманне, арышт; турэмнае зняволенне.
**detento** 1. *intens.* утрымліваць, затрымліваць; арыштоўваць.
**determinatio**, onis *f* (determino) [**determinacya** *пл.*] 1) абмежаванне; акрэсленне; 2) адвага, рашучасць; гатоўнасць да чагосьці; 3) вызначэнне; дамова; 4) спосаб; форма; змест.
**determino** 1. 1) [**доконати** *стб.*] даводзіць да канца; заканчваць; 2) [**преточити ся** *стб.*] сканчацца; вырашацца.
**detestor** 1. 1) лаяць, праклінаць, кідаць праклён; 2) абражаць; 3) пагарджаць; грэбаваць; 4) ненавідзець; 5) аддаляць; адсоўваць; адкідваць; 6) выклікаць у якасці сведкі; 7) паведамляць некаму штосьці ў прысутнасці сведак; 8) сведчыць.
**detineo**, tinui, tentum, ere [**задержати** *стб.*] затрымліваць.
**detractatio**, onis *f* [**detraktacya** *пл.*] 1) пярэчанне; непрызнаванне; 2) абраза.
**detrimonia**, ae *f гл.* **detrimonium**.
**detrimonium**, ii *n* шкода.

**detrunco** 1. 1) адсякаць, адцінаць; аддзяляць ад тулава; 2) адсякаць члены; 3) сцінаць галаў; 4) калечыць: **corpora detruncata** знявечаныя целы; 5) разбураць; 6) *перан.*: выдаляць, знішчаць; 7) нявечыць, дэфармаваць; 8) скарочваць; 9) адкідаць, адымаць; адлічаць.

**Deus in adiutorium (dominica)** Бог на дапамогу, 12-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.

**Deus in loco (dominica)** Бог на месцы, 11-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.

**Deus**, i *m* [**Бог** *стб.*] Бог: **Dei** [**Божий** | **Божьи** *стб.*] Божы; **Civitas Dei** Валадарства Божае; **treuga Dei** Божае перамір'е, г. зн. забарона вядзення прыватных войнаў у святочныя дні; **pax Dei** Божы мір, г. зн. абарона ад прыватнай вайны людзей, якія не вядуць вайны; **coram Deo audere** асмеліцца ў адносінах да Бога; **per misericordiam Dei** з Божай міласэрнасці; **Dei gratia** з Божай ласкі; **Deus vult** — Бог так жадае; **Deo gratias** дзякуй Богу; **Deo iuvante** з Божай дапамогай.

**deus**, i *m* 1) бажок, ідал; 2) боства: **dii superi** ~ нябесныя багі ў адрозненне ад падземных; **ultores dii** боствы помсты; **impulsum deorum** ~ наканаванне багоў; **secundis diis** з дапамогай багоў; **deorum ira** гнеў багоў; 3) *перан.*: выбітны чалавек; абаронца, апякун; 4) абагоўлены ўладца; 5) ганаровы тытул саноўнікаў.

**devantagium**, ii *n* адмысловая частка; асаблівасць; перавага.

**devendo**, didi, ditum, ere прадаваць.

**devetum**, i *n* забарона.

**devictio**, onis *f* (devinco) 1) перамога; 2) *перан.*: пакаранне.

**devoluta**, orum *n pl.* спадчына.

**devolutiarius**, a, um *гл.* **devolutorius**.

**devolutio**, onis *f* [**спадок** *стб.*] спадак / спадчына.

**devolutionaris**, e датычны спадчыны, спадчынны.

**devolutorius**, a, um спадчынны.

**devolvo**, volvi, volutum, ere 1) скочваць; звальваць; 2) скідаць; 3) [**приточити ся** *стб.*] даходзіць, прыходзіць; дасягаць; 4) [**прийти** | **приходити** *стб.*] пераходзіць; 5) [**спадати** | **спадывати** | **спасти** *стб.*] адыходзіць, пераходзіць (у валоданне).

**devota**, ae *f* [**dewotka** *пл.*] 1) дэвотка — дзяўчына ці наогул жанчына, якая дала зарок весці цнатлівае жыццё; 2) пабожная жанчына.

**devotaria**, ae *f* пабожная жанчына.

**devotus**, a, um, i пабожны (сталы эпітэт на азначэнне ніжэйшага чарнецкага духавенства).

**dexter**, tera, terum правы.

**dexteriale servitium** абавязак коннай службы ў час ваеннай выправы, звязаны з валоданнем зямлёй.

**dextra**, ae *f* 1) правая рука, правіца: **dextrae** хаўрусы, узаемныя дамовы, якія ўкладалі, падаючы адзін аднаму правую руку; **a dextris** праваруч, справа; **dextrarum iunctio** сімвалічнае злучэнне далоняў маладых вясельнай свахай; **dextram dare** быць дапушчаным да цалавання каралеўскай рукі; **dextras dare** увайсці ў хаўрус; **dextras miscere** падаць адзін аднаму руку (правіцу); 2) *перан.*: саюз, дамова; 3) улада, валадарства; моц; 4) мужнасць, адвага; 5) дабрабыт; шчасце.

**dextrale**, is *n* (dexter) 1) наплечнік; пагон; 2) бранзалет; 3) сякера.

**diaeta**, ae *f* 1) лад жыцця; 2) дзённы рацыён, дыета; 3) памяшканне, пакой; каюта; 4) дзень, у які паншчынныя сяляне былі абавязаны працаваць на пана; 5) адлегласць, якую можна было адолець за адзін дзень; 6) абшар зямлі, які можна ўзараць адным плугам на працягу аднаго дня; 7) тэрмін аднаго дня; дзённая праца; 8) дзённая плата; 9) выпас; кармленне; харчаванне; 10) сустрэча; збор; 11) з'езд шляхты, сойм, соймік; 12) зала для абеду і вячэры ў кляштары — сталоўка; 13) судовы разгляд.

**diaetarius**, a, um 1) які жыве з дня ў дзень; 2) ~ **labor** дзень, у які паншчынныя сяляне былі абавязаны працаваць на пана.

**diarialis**, is *m* дзень, у які паншчынныя сяляне былі абавязаны працаваць на полі пана.

**diarium**, ii *n* (dies) 1) дзень; 2) штодзённае ўтрыманне, грашовае забеспячэнне; 3) газета; 4) дзённік; 5) кнігі соймавых пратаколаў; 6) г. зв. паваба — абавязак працы паншчынных сялян на пана ў перыяд пільных прац; 7) корм для коней, які выдаваўся на дзень, альбо сума, якая выплачвалася на гэта.

**diarius**, ii *m* 1) асоба, якая атрымлівала ў якасці падатку харчаванне; 2) вознік солі, які вазіў соль з саляварняў ці жупаў.

**diaspratum**, i *n* белы шоўк.

**dica**, ae *f* 1) скарга; 2) працэс; 3) карб / засечка як падліковы знак; 4) даніна; падатак; 5) г. зв. камень воску; 6) кавалак солі.

**dicarius**, ii *m* купец, які купляў у жупе соль у г. зв. крушах.

**dicasterium**, ii *n* месца суда; суд, трыбунал.

**dicator**, oris *m* 1) г. зв. карбар — кіраўнік саляварні; 2) збіральнік падаткаў.

**dicatus**, a, um *padi.* 1) адданы; паслухмяны; 2) ахвяраваны; прызначаны; 3) пабожны; 4) пазначаны карбамі / засечкамі (як разліковымі знакамі).

**dico**, dixi, dictum, ere 1) [**речи, мовити** *стб.*] казаць, мовіць, выказвацца; заяўляць; 2) [**звати | назвати, менити | меновати** *стб.*] менаваць / называць: **dictus** [**званый** *стб.*] званы.

**dictor**, oris *m* (dicere) 1) пасрэднік, абраны суцяжнымі бакамі, арбітр; 2) пазоўнік / ісцец.

**dictum**, i *n* (dictus, a, um) 1) слова; выраз: **super dicto** на слова; 2) выказванне; 3) асведчанне; заява: **dicta** нефармальнае запэўніванне прадаўца аб вартасцях і адсутнасці заган прадаванай рэчы, *асаб.* нявольніка; 4) ~ **acerbum** горкая праўда, вострыя словы; 5) ~ **acutum** досціп; жарт; 6) правіла; закон; ра-

шэнне; 7) просьба; маленне; 8) абяцанне; прысяганне; 9) прызнанне; 10) лаянне; абраза; 11) прадказанне, прароцтва; 12) прыказка, сентэнцыя: **dicta memorabilia** памятныя выказванні; **dicta aurea** залатыя думкі, залатыя словы; 13) суд, меркаванне / рашэнне арбітра.

**dierectus**, us *m* паўнамоцтва, права на нешта.

**dierium**, ii *n* 1) суткі; 2) г. зв. аброк — род падатку, даванага падданымі на ўтрыманне пэўнага ўраду.

**Dies ater** чорны дзень, серада пачатку Вялікага Посту, тое ж, што і **dies cinerum** дзень попелу, Папялец.

**Dies cinerum [popielec** *пл.*] Папялец, дзень попелу, серада, ад якой пачынаецца Вялікі Пост.

**dies**, ei *m* 1) [**день** *стб.*] дзень: **intercalati dies** устаўленыя дні, *гл.* **epacta**; 2) [**рок** *стб.*] рок / тэрмін: ~ **praescriptus [рок зложоный** *стб.*] рок зложаны — устаноўлены тэрмін (тэрмінаваны суд); **diem negligere [омешкати року** *стб.*] пратэрмінаваць.

**dietarium**, ii *n* 1) працоўны дзень за пэўны заробак; 2) мера зямельнай плошчы.

**dietim** *adv.* падзённа.

**dieto** 1. 1) днець; 2) падарожнічаць.

**diffamatio**, onis *f* (diffamo) [**наганенье** *стб.*], [**dyffamacya** *пл.*] паганьбенне, абраза, знеслаўленне, пазбаўленне добрай славы; няслава.

**diffamo** 1. [**ганити | заганити | зганити | приганити** *стб.*], [**dyffamować** *пл.*] няславіць, ганьбіць, ганіць; упікаць; адводзіць (сведак) / даваць адвод: **diffamatus [заганеный | зганеный | наганеный | приганеный** *стб.*] зганены, зганьбаваны.

**differentia**, ae *f* (differo) [**differencya** *пл.*] 1) розніца, адрозненне; 2) [**спор** *стб.*] спрэчка; нязгода.

**differo**, distuli, dilatum, differre 1) разносіць; 2) [**розложити** *стб.*] раздзяляць, размяркоўваць; 3) [**откладывати | отложити** *стб.*] чакаць; адкладаць, пераносіць.

**diffidatio**, onis *f* [**отповедь** *стб.*] 1) разрыў прыязных адносін, абвяшчэнне вайны; 2) варожасць; 3) пагроза: **diffidationem facere [отповедати** *стб.*] пагражаць; 4) абвяшчэнне помсты: ~ **hostilitatis** абавязак абвяшчэння помсты да вінаватага ў забойстве.

**diffidator**, oris *m* [**отповедник** *стб.*] той, хто пагражае; праціўнік, непрыяцель.

**diffidentia**, ae *f* (diffido) 1) недавер; 2) сумненне; ваганне; 3) пагрозы; абвяшчэнне помсты; 4) абяцанне васала падпарадкоўвацца сеньёру.

**diffido**, fisus sum, ere 1) здраджваць; 2) [**отповедати** *стб.*] пагражаць: ~ **in vitam** рабіць замах на жыццё.

**diffiducio** 1. 1) здраджваць сюзерэну; 2) разрываць сяброўства; 3) абвяшчаць прыватную / міжусобную вайну.

**diffinitor**, oris *m* візітатар — асоба, якая робіць агляд кляштараў ці касцёлаў.

**diffugio**, fugi, fugitum, ere [**вникати** *стб.*] унікаць, пазбягаць; ухіляцца.

**diffugium**, ii *n* (diffugio) 1) уцёкі; 2) схоў, прытулак; 3) ~ **iuris** юрыдычны выкрут, уяўнае абгрунтаванне несправядлівай справы; 4) [**волокита** *стб.*] валакіта, цяганіна; 5) **diffugia** законныя абвінавачванні.

**digitabularius**, m *i* [**rękawicznik** *пл.*] рукавічнік; пальчатнік.

**dignitarius**, ii *m* [**dignitarz** *пл.*] дыгнітарый — дастойнік / саноўнік. Да такіх дастойнікаў далучалі яшчэ тытулы: вялікі, надворны, польны / палявы. Першапачаткова яны належалі да двара, пасля ж зрабіліся саноўнікамі краю, адны сапраўднымі, іншыя тытулярнымі, якія не мелі права засядаць у сенаце. Паводле іх значэння ў апошні час Рэчы Паспалітай парадак іх быў наступны: сакратар духоўны вялікі Каронны, такі ж Літоўскі; сакратар свецкі вялікі Каронны, такі ж Літоўскі; рэферэндарый духоўны вялікі Каронны і такі ж Літоўскі; падкаморый вялікі Каронны і такі ж Літоўскі; чатыры вялікія Каронныя пісары і гэтулькі ж Літоўскіх; адзін вялікі харужы ў Польшчы, іншы ў Літве-Беларусі; мечнік, канюшы (стайнік), кухмайстар, стольнік, падчашы, крайчы, падстолій, чэсьнік, лоўчы, пісар, стражнік вялікі, абозны вялікі, генерал артылерыі, генерал інспектар кавалерыі, генерал інспектар інфантэрыі, інстыгатар, харужы надворны, падканюшы, стражнік польны, абозны польны, кусташ, рэгент канцылярыі вялікай, рэгент канцылярыі меншай, войскі вялікі і пўнічы ці падчашы надворны. Апошнія два былі толькі ў Літве-Беларусі.

**dignitas**, atis *f* (dignus) [**достойность** | **честь** *стб.*] дастойнасць / годнасць, (высокая) пасада, чын, тытул, сан: ~ **consularis** [**dostojenstwo Panow Rad** *пл.*] годнасць / сан Паноў Рады — каралеўскіх дарадцаў ці чальцоў дзяржаўнай рады.

**dignus**, a, um *adi.* [**годный** *стб.*] годны; прыдатны.

**diiudico** 1. [**розсудити** *стб.*] рассуджваць.

**dilapidator**, oris *m* (dilapido) [**распрошитель** *стб.*] марнатравец.

**dilatatio**, onis *f* (dilato) 1) пашырэнне; распаўсюджанне; 2) адтэрміноўка, *гл.* **dilatio**.

**dilatator**, oris *m* (dilato) 1) той, хто падтрымлівае; 2) пашыральнік; 3) заступнік у працэсе, які адкладае нейкі тэрмін.

**dilatio**, onis *f* (differo) [**dylacya**, **dylata** *пл.*], [**отволока** | **отволоченье** | **проволока** *стб.*] правалока / адвалока / адкладванне, адтэрміноўка; адтэрміноўка вядзення справы ў судзе. Такіх законных адтэрміновак налічвалася 12: a) ~ **ob minorennitatem** адтэрміноўка з прычыны непаўналецця, b) **ob infirmi tatem** з прычыны хваробы, c) **ad statuendum ministerialem** для прадстаўлення возната, d) **pro maiori** з прычыны больш важнай справы, заведзенай у іншым судзе, e) **propter absentiam reipublicae causa** з прычыны адсутнасці па дзяржаўнай справе, f) **ad munimenta** для адшукання дакументаў, g) **ad evictorem** для адшукання паручальніка, h) **ad visionem** для агляду, i) **ad scrutinium** для расследавання, k) **ad deliberandum** для разважання і нарады з адвакатамі;

l) **ob rem militarem** з прычыны ваенных абавязкаў у выпадку вайны, m) **ad quietationem** для задаволення пазоўніка / істца.

**dilatura**, ae *f* 1) страта; шкода; 2) пакрыццё шкоды.

**diligiatus**, a, um пастаўлены па-за законам.

**dimembratio** *гл.* **dismembratio**.

**dimensor**, oris *m* карчмар; шынкар.

**dimidietas**, atis *f* (dimidius) палова.

**dimidium**, ii *n* (dimidius) палова: ~ **hominis** [**пол человека** *стб.*] паўчалавека, паўгалаўшчыны.

**dimidius**, a, um палавінны: ~ **grossus** [**полугрошок** *стб.*] паўгрош, паўгрошак.

**diminuo**, (nui), nutum, ere [**вменшати** | **вменшити** *стб.*] умяншаць, памяншаць; прыніжаць.

**Dimissio Apostolorum** *s.* **divisio Apostolorum** падзел Апосталаў, 15 ліпеня.

**dimissio**, onis *f* (dimitto) [**dymissya** *пл.*] адстаўка, звальненне ад службы, перважна ваеннай.

**dimissorius**, a, um (dimitto) 1) адасланы; звольнены; 2) **litterae dimissoriae** *s.* **dimissorii libelli** касацыйны ліст да вышэйшай судовай інстанцыі; 3) **dimissoria cautio** парука, даваная за вызваленне затрыманай асобы.

**dimitto**, misi, missum, ere 1) [**отпускати** | **отпустити** *стб.*] адпускаць; 2) [**роспускати** | **роспустити** *стб.*] распускаць; 3) [**выпускати** | **выпустити** *стб.*] выпускаць, упускаць; вымаць; 4) [**отсылати** *стб.*] адсылаць; 5) [**зступовати** *стб.*] сыходзіць; перапыняць.

**dionysialia**, ium *n pl.* запусты.

**Dionyssii Areopag. (dies)** 9 кастрычніка.

**diploma**, matis *n* дакумент, ліст; прывілей, патэнт; урадавае распараджэнне. Слова **diploma** паходзіць ад грэцкага **diplóos** — падвойны, так што **diploma** уласна значыць дублет. У старажытнасці лісты і іншыя ўрадавыя паперы пісаліся ў двух асобніках на адным аркушы. Аркуш разразаўся; адна яго палова ці адзін асобнік ліста заставаўся пры актах, а другі выдаваўся каму належала, *гл.* **charta dentata**.

**diribitor**, oris *m* (diribeo) 1) той, хто лічыць таблічкі з галасамі; 2) стольнік.

**diripio**, ripui, reptum, ere [**розбирати** *стб.*] разбіраць; разбураць, руйнаваць.

**disadvoco** 1. не прызнаваць адваката.

**disbannio** 4. вызваляць ад выгнання / баніцыі.

**disbrigatio**, onis *f* 1) юрыдычнае забеспячэнне пры пазбаўленні ўласнасці: **instrumentum disbrigationis** гарантыйны дакумент; 2) палюбоўнае залагоджанне спрэчкі, прымірэнне.

**discambio** 1. адмяняць замену.

**discedo**, cessi, cessum, ere 1) [**зъеждчати** | **зъехати, отъеждчати** | **отъехати** *стб.*] з'язджаць, ад'язджаць; 2) [**розъеждчати ся** *стб.*] раз'язджацца.

**disceptatio**, onis *f* (discepto) 1) судовы разгляд; судовая спрэчка; 2) судовае расследаванне; рашэнне справы; 3) спрэчнае пытанне; 4) сварка; 5) ~ **dominica**

сяброўскі дыспут у хатнім коле; 6) разважанне; даследаванне; 7) адтэрміноўка, перанос.

**discepto** 1. [**розправити** *стб.*] весці справу; судзіцца.

**discerno**, crevi, cretum, ere [**взнати | узнати** *стб.*] прызнаваць.

**disciplinaliter** 1) прадбачліва; мудра; 2) умела; 3) акуратна, метадычна; дысцыплінавана; 4) аскетычна.

**discipulus**, i *m* вучань: ~ **artis** цэхавы вучань.

**discolus**, a, um 1) прыкры; незадаволены; 2) распусны.

**discordantia**, ae *f* 1) спрэчка; 2) усобіца.

**discrete**, *adv.* (discerno) 1) асобна; 2) дакладна; 3) далікатна.

**discretio**, onis *f* (discerno) 1) вылучэнне; адрозненне; 2) вырашэнне; 3) пакора — тытул, прысвоены біскупам і мітрапалітам. Папа Баніфацый у 1296 годзе ў сваёй буле піша: **ideoque discretioni tuae per apostolica scripta mandamus** і таму мы наказваем тваёй пакоры апостальскім лістом; 4) [**розъезд** *стб.*] раз'езд — выязны суд (які разглядаў зямельныя спрэчкі на месцы).

**discretor**, oris *m* (discerno) 1) той, хто разрозніваe; 2) арбітр; 3) ~ **monetae**ураднік, абавязкам якога было выкрыванне фальшывых манет; 4) той, хто нешта дзеліць.

**discretorium**, ii *n* (discerno) сход на раду супэрыёраў, г. зн. старэйшых якоганебудзь каталіцкага манаскага ордэна.

**discretus**, a, um 1) падзелены, аддзелены; 2) розны, адметны; 3) вызначаны; дакладны; 4) асцярожны, прадбачлівы; 5) далікатны, тактоўны; 6) які захоўвае маўчанне; 7) таямнічы; 8) **cautio discreta** дакумент, які складаецца пры стыпуляцыі — урачысным абяцанні выканання нейкай павіннасці і які падае прычыну яе ўкладання; 9) прадуманы, абдуманы; наўмысны; 10) **discreta aetas** правамоцны ўзрост.

**discrimen**, inis *n* (discerno) [**межа** *стб.*] мяжа.

**discriminator**, oris *m* (discrimino) 1) той, хто раздзяляе, падзяляе; 2) ~ **viarum** разбойнік, які лютуе на дарогах.

**discursor**, oris *m* 1) пасланец; 2) той, хто бегае туды і назад; 3) вандроўны прадавец.

**disfactio**, onis *f* нявечанне, калечанне.

**dismembratio**, onis *f* расчляненне; падзел, раздзяленне, аддзяленне; адлучэнне.

**dismembro** 1. 1) расчляняць; адымаць часткі цела; 2) адрываць; адлучаць.

**disparagamentum**, i *n* мезальянс — сужэнства / шлюб з асобай ніжэйшага сацыяльнага стану.

**disparagatus**, i *m* высакародны чалавек, які паводзіць сябе невысакародна.

**disparatus**, i *m гл.* **disparagatus**.

**dispeco** 1. пагарджаць.

**dispello**, puli, pulsum, ere [**разогнати | розогнати** *стб.*] разганяць.

**dispensator**, oris *m* (dispenso) 1) загадчык прыхода-расходнай часткі; 2) эканом у каралеўскім палацы.

**dispensio**, onis *f* 1) падзел, дзяленне; 2) аплата; падатак.

**dispositio**, onis *f* (dispono) [**ших | шихованье** *стб.*] шых / шыхаванне / пастраенне, агляд.

**dissentiones**, um *f pl.* барацьба родаў, варажнеча.

**dissidens**, ntis *m* [**dyssydent** *пл.*] іншаверац, разнаверац, дысідэнт.

**dissolutio**, onis *f* (dissolvo) 1) развязанне; разрыў; 2) ануляванне абавязацельства; 3) адмена; адхіленне: ~ **legum omnium** адхіленне ўсіх законаў; 4) скасаванне сужэнскага шлюбу; 5) знішчэнне: ~ **naturae** смерць; 6) аслабленне; упадак: ~ **cordis** прыгнечанасць; 7) паслабленне; 8) аслабленасць; бяздзейнасць; 9) абвяржэнне абвінавачвання; 10) распуснасць; свавольнасць; 11) [**роспущенье** *стб.*] роспуск; 12) роспуск войска па дамах; 13) тлумачэнне.

**dissolvo**, solvi, solutum, ere 1) развязваць; 2) [**роспускати | роспустити** *стб.*] распускаць.

**dissonus**, a, um несуладны.

**distantia**, ae *f* (disto) 1) адлегласць; прамежак; 2) розніца; адрозненне: **in distantiam ire** разыходзіцца; 3) дыспут; 4) *перан.*: абсяг.

**distributiva**, ae *f* [**dystributywa** *пл.*] раздача каралём вакансій і пасад.

**distributor**, oris *m* (distribuo) 1) раздавальнік; распарадчык; 2) раздавальнік міласціны; 3) выканаўца тастамента / завяшчання.

**districta**, ae *f* юрысдыкцыя.

**districtio**, onis *f* (distringo) 1) строгасць; 2) суд; 3) пакаранне, прысуджанае суддзёй; 4) права судзіць; 5) зарука; заклад.

**districtualis**, e 1) [**поветовый** *стб.*] павятовы; 2) [**хоруговный** *стб.*] харугоўны.

**districtuarius**, a, um [**поветовый** *стб.*] павятовы.

**districtuarius**, i *m* [**поветник** *стб.*] паветнік — жыхар павета.

**districtum** *гл.* **districtus**, us *m*.

**districtus**, a, um *padi.* 1) вельмі заняты; 2) суворы, жорсткі; 3) адарваны; асобны; 4) вечавы: **districtum iudicium** вечавы суд.

**districtus**, us *m* 1) тэрыторыя; абшар, акруга якога-небудзь уладання; 2) [**повет** *стб.*] павет; 3) акруга земскага суда; 4) воласць — адміністрацыйная адзінка ва ўсходняй Польшчы і Літве-Беларусі; 5) улада; начальства; 6) юрысдыкцыя, *гл. тс.* **districtio**.

**distringo**, strinxi, strictum, ere утаймоўваць; строга караць.

**distructus** *гл.* **districtus**, us *m*.

**distulo** 1. адтэрміноўваць, адкладаць: ~ **terminum** адкладаць тэрмін судовага разгляду.

**disturbatio**, onis *f* (disturbo) перашкода.

**disunitus**, i *m* [**dysunita** *пл.*] дызуніт — асоба, якая належыць да Праваслаўнай царквы, не ўніят.

**disvestitura**, ae *f* узурпацыя.

**diutinus**, a, um (diu) 1) [**долгий** *стб.*] доўгі; 2) [**достаточный** *стб.*] дастатковы: **diutina et studiosa soliciti cura** [**маючи собе достаточное розмышленье** *стб.*] добра абдумаўшы.

**diutio**, onis *f* даўнасць; задаўненасць.

**diuturnia**, ae *f гл.* **diutio**.

**diuturnitas**, atis *f* 1) працягласць, доўгі час; 2) трываласць, устойлівасць; 3) даўнасць; задаўненасць.

**diversus** (divorsus), a, um [**розный** *стб.*] розны; асобны.

**diverto** (di-vorto), verti (vorti), ere *intr.* [**становити ся** *стб.*] спыняцца (на начлег); станавіцца (на пастой).

**dives**, itis *compar.* **divitior**, ius [**богатый** *стб.*] багаты.

**divido**, visi, visum, ere [**делити** | **поделити** | **розделити, делити ся** *стб.*] дзяліць, падзяляць, раздзяляць; дзяліцца, падзяляцца: **divisus** [**дельный** *стб.*] дзельны / падзелены; аддзелены; ~ **dimidiatem** [**поделити на пол** | **на полы** *стб.*] дзяліць напалам, распалавіньваць; [**отделити ся** *стб.*] аддзяляцца; вылучацца.

**divinitas**, atis *f* (divinus) 1) боскасць, боства, божая істота; 2) імператарская веліч; 3) тэалогія.

**divinus**, a, um *adi.* боскі.

**divinus**, i *m* 1) прадказальнік, прарок; вялікі паэт; 2) тэолаг.

**divisa**, orum *n pl.* 1) падзел уладання паміж спадчыннікамі паводле тастамента / завяшчання; 2) тастамент / завяшчанне; 3) адзінка адміністрацыйнага падзелу; 4) частка зямлі; 5) памежны камень; 6) мяжа ўладання; 7) вясковы суд для памежных спрэчак; 8) самаўпраўнасць, сваволя.

**divisio**, onis *f* (divido) 1) [**дел** *стб.*] падзел (маёмасці); 2) [**часть** *стб.*] доля, дзель; частка; 3) падзельны запіс, калі дзеці па смерці бацькі дзеляць паміж сабой спадчыну і сваю пісьмовую падзельную ўгоду прадстаўляюць у судзе. Дзяльба звычайна рабілася ці толькі па ўзаемнай згодзе, калі не было тастамента / завяшчання, ці пры дапамозе падкаморыя, які размяжоўваў спадчыннае ўладанне на надзелы.

**divisionale**, is *n* тастамент / завяшчанне.

**do**, dedi, datum, dare 1) даваць; 2) [**обдаровати** *стб.*] абдорваць, адорваць, дарыць; 3) [**зоставити** *стб.*] пакідаць; захоўваць.

**doctoratus**, us *m* 1) дактарат, годнасць / ступень доктара; 2) годнасць рабіна (у іудаізме).

**doctrinamen**, inis *n* навука, тлумачэнне.

**documentum**, i *n* (doceo) [**довод** *стб.*] довад, доказ.

**doleo**, dolui, doliturus, ere 1) пакутаваць, адчуваць боль, хварэць; 2) перажываць; 3) адчуваць жаль; 4) гневацца, адчуваць непрыязнасць; 5) спачуваць; 6) прычыняць боль; 7) **pars dolens** пазоўнік / ісцец; абвінаваўца.

**dolium**, ii *n* (dolo) бочка, кадзь, чоп.

**doma**, atis *n* 1) дом, хата; 2) верхняя частка дома; дах; 3) поле; 4) уладанне; маёнтак.

**domanium** *гл.* **dominium**.

**domestico** 1. 1) жыць з сям'ёй; 2) рабіць ручным, хатнім.

**domesticus**, a, um (domus) 1) [**домовой | домовый** *стб.*] дамовы, хатні: **domestici fidei** аднаверцы; 2) прыязны, добразычлівы.

**domesticus**, i *m* 1) дамачадзец; сямейнік; 2) зямляк; 3) распарадчык каралеўскіх уладанняў.

**domi** [**дома** *стб.*] дома: ~ **natus** [**доморосленый** *стб.*] дамарослы.

**domigerium**, ii *n* 1) небяспека, рызыка; 2) права сеньёра на канфіскацыю лена ў выпадку непаслушэнства васала.

**domina**, ae *f* (dominus) 1) уладальніца, спадчынніца; 2) пані; 3) гаспадыня: ~ **cauponae** *s.* **tabernae** жонка шынкара; 4) уладарка; 5) тытул імператрыцы; 6) багіня; 7) жонка: ~ **advitalis** удава, якая мае пажыццёвае забеспячэнне; 8) манашка.

**dominatio**, onis *f* (dominor) 1) уласнасць; 2) падатак; 3) ганаровы тытул.

**dominatura**, ae *f* сеньёральная ўлада.

**dominatus**, us *m* (dominor) 1) валадарства, улада; урад; 2) адзінаўладдзе, тыранія; 3) кіраванне ўладальніка; 4) сеньёральнае валоданне; 5) права верхавенства сеньёра над васалам; 6) судовая акруга; 7) дзяржава.

**Domine in tua (dominica)** Пане, у тваёй — 1-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.

**Domine ne longe (dominica)** Пане, нядоўга, Пальмовая Нядзеля.

**dominella**, ae *f* маладая шляхцянка.

**dominellus**, i *m* малады шляхціц.

**dominialis**, e 1) княжацкі; 2) даменіяльны.

**dominicale** *гл.* **dominium**.

**dominicanus**, i *m* [**dominikan** *пл.*] законнік / манах каталіцкага ордэна прапаведнікаў ці дамініканцаў, які быў заснаваны св. Дамінікам. Ордэн падзяляўся на дамініканцаў звычайных і дамініканцаў **strictioris observantiae**, г. зн. стражэйшай рэгулы.

**dominicata**, ae *f* маёмасць феадала, не аддадзеная ў лен.

**dominicatum** *гл.* **dominium**.

**dominicatura**, ae *f* 1) сеньёральная маёмасць; 2) залежнасць ад феадальнага пана; 3) *гл.* **dominium**.

**dominicatus** *гл.* **dominium**.

**dominicatus**, a, um 1) які датычыць сеньёральнай маёмасці; 2) аладыяльны; 3) які належыць феадальнаму пану; 4) катэдральны.

**dominicellus**, i *m* 1) сын шляхціца, паніч; 2) пан, шляхціц; 3) магнат; саноўнік; 4) адзін з паноў-рады, які засядаў у земскім судзе.

**dominico** 1. 1) адымаць ад каго-небудзь часовае валоданне маёмасцю і вяртаць яе вотчынніку; 2) аддаваць штосьці ў скарб.

**dominicum**, i *n* уласнасць.
**dominicus**, a, um (domus) уласны.
**Dominicus, fundator ord. praed.** 4 жніўня.
**dominium**, ii *n* (dominus) 1) уласнасць пана, якая прызначана для пражытку яго сям'і; 2) улада, панаванне; 3) [**панство** *стб.*] дзяржава, гаспадарства.
**Dominus fortitudo (dominica)** Бог — цвярдыня, 6-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.
**Dominus illuminatio mea (dominica)** Бог — прасвятленне маё, 4-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.
**dominus**, i *m* 1) [**пан | панове** *стб.*] пан, валадар; гаспадар: ~ **hereditarius** дзедзіч, дзедзічны ўласнік; 2) як зварот: пан.
**domistadium**, ii *n* будаўнічая дзялянка.
**Domninus M.** 9 кастрычніка.
**domus**, us *f* 1) [**дом** *стб.*] дом; жытло; памяшканне; сядзіба: **animarum** ~ прытулак для старых і калек, багадзельня; ~ **correctionis [cuchthaus** *пл.*] выпраўленчы дом, заснаваны ў Польшчы ў 1736 годзе. Vol. Leg. VI, f. 672; ~ **probationis [nowicjat** *пл.*] навіцыят — установа для асоб каталіцкай веры, ахвотных паступіць у манаства і вытрымаць дзеля гэтага адпаведнае выпрабаванне; 2) сям'я; жыхары дома.
**Donantianus et Rogatianus MM.** 24 траўня.
**donata**, ae *f* пазашлюбная дачка.
**donatarius**, ii *m* [**donataryusz** *пл.*] адораны — асоба, якая атрымала ад караля ці ад іншага ўладальніка скарбовую маёмасць, з якой, зрэшты, яна плаціла чынш.
**donatio**, onis *f* (dono) [**danina, darowizna** *пл.*] 1) [**данина** *стб.*] наданне, дарэнне, падараванне; падараванае ўладанне, *тс.* падараванне камусьці з волі караля нерухомай маёмасці на спадчынным ці ленным праве. У пастанове 1576 года сказана, што на наданні, якія здзейснены на спадчынным праве, не павінны ўплываць ніякія тлумачэнні і высновы з староннега права, паводле якіх наданні гэтыя можна было б лічыць леннымі, за выключэннем тых, пра якія ясна было б сказана, што яны дадзены на феадальным праве. Vol. Leg. II, f. 900; 2) дарэнне, дароўны запіс на рухомую ці нерухомую маёмасць.
**donativum**, i *n* (dono) [**donatywa** *пл.*] дарэнне, наданне каму-небудзь за заслугі скарбовага ўладання.
**Donatus M.** 1 сакавіка.
**donatus**, i *m* 1) байструк, бенкарт, бастард; 2) брат канвэрс — асоба, якая стала жыве ў кляштары і выконвае розныя паслугі, але не складае ўрачыстых шлюбаў / абетаў.
**donec** *conj.* [**поки | поколь | покуль, потоле | потуль** *стб.*] датуль, пакуль.
**donitum**, i *n* дарунак.
**dono** 1. (donum) [**даровати** *стб.*] дараваць; [**обдаровати** *стб.*] адорваць.

**donum**, i *n* [**дар** *стб.*] дар, дарунак: **donis provideo** [**обдаровати** *стб.*] абдорваць, адорваць, дарыць.
**dorca**, ae *f* [**серна** *стб.*] сарна.
**doretus**, i *m* мера аб'ёму.
**dormentarius**, i *m* наглядчык за спальнямі ў старажытных каталіцкіх кляштарах.
**dormio** 4. [**спати** *стб.*] спаць.
**Dormitio B. V. Mariae** Унебаўзяцце Найсвяцейшай Багародзіцы, 15 жніўня.
**Dorothea V. M.** 6 лютага.
**dorsiloquium**, ii *n* абгавор.
**dos**, dotis *f* 1) пасаг: **satisfactio dotis** кампенсацыя за належны пасаг, з прычыны гэтай кампенсацыі нерухомая маёмасць лічылася вольнай; 2) дар; упасажанне; 3) [**вено** *стб.*] вена: ~ **reformata, reformatio dotis** [**оправа** *стб.*] аправа — запіс вена; **dotem reformare** [**вчинити оправу** *стб.*] чыніць / запісваць вена.
**dotalicialis**, e датычны вена.
**dotaliciatio**, onis *f* надзяленне венам.
**dotalicio** 1. 1) [**вчинити выправу** *стб.*] даваць, чыніць / рыхтаваць выправу / пасаг: **dotalitiata** [**выпосажоная** *стб.*] выпасажаная / выдадзеная замуж з пасагам; 2) надзяляць венам жанчыну.
**dotalicio**, onis *f* вена.
**dotalicionalis**, e з багатым пасагам.
**dotaliciono** 1. надзяляць венам жанчыну.
**dotalitium**, i *n* 1) [**выправа | выправенье, посаг** *стб.*] выправа / выданне замуж; пасаг (нерухомай маёмасцю); 2) [**przywianek** *пл.*] прывенак. У Польшчы і Літве-Беларусі спрадвеку існаваў звычай, які атрымаў пасля моц закону: калі жонка ўносіла мужу пасаг наяўнымі грашыма і каштоўнасцямі — золатам, срэбрам, каштоўнымі камянямі і інш. на пэўную суму, тады муж паводле ацэнкі ўсяго ўнесенага пасагу запісваў ёй роўную суму грошай, якая называлася прывенак — **dotalitium**. І тая і другая сумы аднолькава забяспечваліся на ягонай нерухомай маёмасці, што і называлася **reformatio dotis** — пераўтварэнне пасагу, *гл.* **reformatio**. Жонка па смерці мужа, якая выйшла замуж за іншага, паводле закону абавязана была вярнуць гэтую маёмасць бліжэйшым родным ці спадчыннікам першага свайго мужа і атрымлівала ад іх унесеную ёю ў пасаг суму. Vol. Leg. I, f. 409; Стат. Літ., разд. V, арт. 2, 6; 3) запіс вена, вяноўны запіс.
**dotarium**, ii *n* 1) забеспячэнне жонкі ў выпадку ўдаўства; 2) забеспячэнне касцёла.
**dotatio**, onis *f* [**dotacya** *пл.*] надзяленне пасагам; надзяленне прыбыткамі: ~ **ecclesiae, fundus** [**poświątne** *пл.*] наданне касцёлу нерухомай маёмасці.
**dotatus**, a, um *part.* упасажаны / надзелены: **dotata ecclesia** касцёл, надзелены фундушам — якой-небудзь нерухомай маёмасцю.

**doto** 1. (dos) [**веновати** *стб.*] венаваць / запісваць вена: **dotata** [**венованая вдова** | **венованая жона** *стб.*] венаваная — жонка ці ўдава, якая атрымала вена.
**drachma**, ae *f* драхма — мера вагі каля 3, 411 г, 1/8 частка ўнцыі, 1/128 частка фунта.
**drudis**, is *m* давераны дарадца.
**drungus**, i *m* грамада жаўнераў.
**duana**, ae *f* род даніны; падатак.
**ducalis**, e (dux) прыналежны да правадыра альбо князя, княжацкі: **ius ducale** княжацкае права.
**ducamen**, inis *n* 1) годнасць князя; 2) княства.
**ducator**, oris *m* (ducare) 1) правадыр; 2) праваднік; 3) уладца; пан; 4) кіраўнік; 5) ~ **navis** капітан карабля; 6) праваднік.
**ducatrix**, tricis *f* княгіня.
**ducatus**, us *m* (ducare) [**князьство** *стб.*] княства.
**ducellus**, i *m* княжыч.
**ducillaria pecunia** г. зв. шпунтовае — падатак ад продажу піва на разліў.
**ducillia**, ium *n pl.* падатак ад вырабу і продажу напояў на разліў.
**duco**, duxi, ductum, ere 1) [**вести** | **повести** *стб.*] весці; адводзіць; прыводзіць: ~ **captivos** [**завести полоном** *стб.*] прыводзіць палоннымі; 2) [**уводити** *стб.*] вадзіць; адводзіць; 3) [**поняти (жонку)** *стб.*] браць (жонку), жаніцца; 4) [**умыслити** *стб.*] умысліць / задумваць, намервацца; вырашаць.
**ductile**, is *n* 1) грэбля; 2) млынавы латок.
**ductor**, oris *m* (duco) 1) правадыр; кіраўнік; 2) праваднік; 3) вознік; 4) ~ **ferreus** каваль; 5) ~ **navis** стырнавы; 6) той, хто выклікае сведак на судовы рок / тэрмін.
**ductorius**, a, um княжацкі.
**ductrix**, icis *f* княгіня.
**duellaris**, e датычны судовай дуэлі.
**duellum**, i *n* 1) вайна; 2) двубой / дуэль: **iudicium duelli** судовая дуэль; ~ **gladiorum** дуэль на мячах як форма Божага суда паміж шляхціцамі; ~ **baculi** дуэль на кіях як форма Божага суда паміж сялянамі; **oferre** ~ выклікаць на дуэль; 3) судовая спрэчка; 4) барацьба, змаганне.
**Dum clamarem ad Dominum (dominica)** калі я гукаў да Бога, 10-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.
**Dum medium silentium (dominica)** калі сярод маўчання, 1-я нядзеля па Божым Нараджэнні.
**dumetum**, i *n* (dumus) абшар зямлі ці поле, парослае цёрнам, цярноўнік.
**duo**, ae, o [**два** *стб.*] два.
**duodecim** [**дванадцать** *стб.*] дванаццаць.
**duodecimus**, a, um (duodecim) [**вторыйнадцать** *стб.*] дванаццаты.

**dupla**, ae *f* 1) надзвычайны падатак, які плацілі ў выпадку ваеннай патрэбы: ~ **quarta** падвойная чацвёртая частка прыбытку з каралеўскіх уладанняў, якую спаганялі на абарону Рэчы Паспалітай. Кварта была падаткам, а **dupla quarta** устанаўлівалася часова; як першая, так і другая спаганяліся з пажыццёвых уладальнікаў каралеўскіх маёнткаў. Vol. Leg. II, f. 1332; 2) падвойная аплата.

**duplarium**, ii *n* 1) свечка; паходня; 2) бочка вызначанага аб'ёму; 3) копія; дублікат; 4) падшыўка.

**duplata**, ae *f* г. зв. 1) склад; 2) шырокі загон; 3) мера плошчы.

**Duplex (dominica)** падвойная нядзеля, 1-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.

**Duplex (hebdomada)** падвойны тыдзень, 2-і тыдзень пасля свята Спаслання Духа Святога.

**duplex**, plicis *m* залатая манета.

**duplica**, ae *f* адказ пазоўніка / істца на пярэчанне пазванага / выкліканага ў суд.

**duplonus**, i *m* італьянская манета.

**duplum**, i *n* падвойны памер, падвойны кошт, падвойная сума: **in duplo [совито** *стб.*] удвая, у падвойным памеры.

**dux**, ducis *m* (duco) 1) правадыр; 2) [**князь** *стб.*] князь: **magnus** ~ вялікі князь; **duces [княжата** *стб.*] княжаты; 3) гетман: ~ **campester** (польны) гетман; **Magnus exercituum** ~ [**Hetman Wielki** *пл.*] вялікі гетман. У Польшчы ён называўся: **Magnus exercituum ~ Poloniae [Hetman Wielki Koronny** *пл.*] вялікі каронны гетман, у Літве-Беларусі **Magnus exercituum ~ Magni Ducatus Lithuaniae** вялікі гетман Вялікага Княства Літоўскага. Гетманскія распараджэнні і артыкулы мелі моц соймавых пастаноў (Vol. Leg. II, f. 1326). Апрача вялікіх гетманаў, былі яшчэ т. зв. гетманы польныя, ці палявыя: гетман польны каронны, гетман польны літоўскі, якія камандавалі войскамі на межах, знаходзячыся з імі ў полі, і ахоўвалі межы каралеўства пераважна ад татараў. У адсутнасці вялікіх гетманаў яны заступалі іх месца. У гетманскі сан узводзіў сам кароль са згоды ўсяго народу і сената на сойме; ~ **supremus** (вялікі) гетман; 4) здзяйсняльнік: ~ **verborum** прамоўца; пракуратар; сіндык.

**dux**, ducis *m* (duco) корак; заткала, шпунт.

**dynasta**, ae *f* 1) уладар; пан; 2) магнат; 3) васал.

**dzeczke [децкий** *стб.*] дзецкі.

**dzijakla [дякло** *стб.*] дзякла.

## E

**ebriatus**, i *m* п'янства.

**Ecce advenit (festum)** вось прыйшоў — Аб'яўленне Пана.

**Ecce, deus adiuva (dominica)** вось, дапамажы, Божа, 9-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.

**ecclesia**, ae *f* 1) [**костел** *стб.*] касцёл; 2) [**церковь** *стб.*] царква.

**ecclesiasticus**, a, um 1) [**костельный** *стб.*] касцёльны; 2) царкоўны.

**ectaea**, ae *f* уладанне, якое паступае ў скарб пана пасля смерці васала без спадчыннікаў; маёмасць, якая належыць памерламу.
**edictum**, i *n* (edico) [**вфала | уфала, устава** *стб.*] ухвала, пастанова, распараджэнне, указ, закон.
**Edmundus Ep.** 16 лістапада.
**Eduardus Rex Angl.** 13 кастрычніка.
**educo**, duxi, ductum, ere 1) выводзіць; 2) [**вывести (ездоков, судей)** *стб.*] выстаўляць (межавых суддзяў).
**eductio**, onis *f* (educo) 1) [**edukt** *пл.*] выснова; даказванне судовым парадкам шляхецкага паходжання; 2) вынятка дакумента з законаў ці судовых актаў.
**eductus**, us *m* прадстаўленне кандыдата на касцёльную пасаду.
**effectuo** 1. уводзіць што-небудзь у дзеянне; надаваць чаму-небудзь моц і значэнне.
**effectus**, us *m* (efficio) 1) выкананне, спаўненне; дзеянне: **effectum suum sortiri** пачынаць дзейнічаць, уступаць у дзеянне; 2) вынік: **deducere ad effectum** [**чинити досыт** *стб.*] спаўняць, здзяйсняць (правасуддзе).
**effestuco** 1. адмаўляцца ад уласнасці.
**efficio** (ec-ficio), feci, fectum, ere [**вчинити | учинити | чинити** *стб.*] чыніць, рабіць; здзяйсняць, выконваць; прычыняць, наносіць; паступаць; складаць.
**effluo** (ec-fluo), fluxi, ere 1) выцякаць; 2) праміналь, праходзіць (пра час); 3) [**прийти | приходити** *стб.*] наступаць, надыходзіць.
**effusio**, onis *f* (effundo) 1) выцяканне; выліванне: ~ **sanguinis** праліванне крыві; выкіданне; 2) выдатак; 3) марнатраўства; 4) шчодрасць; 5) сваволя; 6) нараджэнне дзіцяці.
**eforesto** 1. выпускаць жывёлу з кароўніка.
**egredior**, gressus sum, gredi [**выйти | выходити, поехати | выехати** *стб.*] выходзіць; выязджаць, з'язджаць; пазбягаць.
**egressio**, onis *f* (egredior) 1) выхад: **turris** ~ вызваленне з вежы; 2) усход (сонца); 3) дыгрэсія, адыход ад тэмы.
**elaboratum**, i *n* 1) справа ці твор, зроблены з вялікім высілкам і стараннасцю; 2) набыццё.
**elaboratus**, us *m* 1) уменне працаваць; 2) намаганне, высілак; 3) аплачваная праца; 4) набыццё.
**elaboro** 1. *intr.* [**выробити ся** *стб.*] адпрацоўваць (доўг).
**eleemosinarius**, ii *m* 1) наглядчык касцёльнага ці кляштарнага дома, на які збіралі міласціну; 2) той, хто адпісаў міласціну тастаментам / завяшчаннем.
**eleemosyna**, ae *f* 1) міласэрнасць; узнагарода; міласціна; 2) касцёльныя ўладанні; 3) уладанні, а таксама грошы, якія атрымлівалі духоўныя за адпраўленне Імшы; 4) касцёльны ці кляштарны дом, наглядчыкам якога збіралася міласціна на бедных.
**Elegius Ep.** 1 снежня.
**elegus**, i *m* няшчасны чалавек, нешчаслівец.

**Eleutherius Ep. M.** 17 красавіка, 2 кастрычніка.

**elevatio**, onis *f* (elevo) 1) падняцце; узвышэнне, павышэнне; 2) узвядзенне на пасад, інтранізацыя; 3) прад'яўленне; 4) ~ **manuum** маленне; 5) узвышэнне, выступ; 6) вылучэнне; 7) экзальтацыя; 8) нахабства.

**Elias (Helias) Proph.** 20 ліпеня.

**elibero** 1. [**выпускати | выпустити** *стб.*] выпускаць, упускаць; вымаць.

**elicio**, elicui, elicitum, ere [**домучити ся** *стб.*] дамагацца прызнання (катаваннямі); дапытваць.

**eligo**, legi, lectum, ere [**обобрати** *стб.*] аббіраць; адбіраць.

**elimino** 1. *гл.* **delimino**.

**elimito** 1. высылаць у выгнанне, выганяць з тэрыторыі дзяржавы.

**Elisabeth Vid. Andreae Regis Hungariae** 19 лістапада.

**elitigo** 1. рабіць што-небудзь бясспрэчным.

**elocatio**, onis *f* 1) права размяшчэння; права асадніцтва для сялян; 2) выданне замуж.

**elongatio**, onis *f* 1) падаўжэнне; 2) аддаленне; 3) адлегласць; 4) перамір'е.

**elongo** 1. 1) аддаляць; 2) выдаляць; 3) выносіць; 4) устанаўліваць перамір'е.

**emanatorium**, ii *n* крыніца.

**emancipatio**, onis *f* (emancipo) 1) вызваленне дзяцей ад бацькавай улады; 2) падвышэнне манаха ў сане; з гэтае прычыны ён вызваляўся ад падпарадкавання свайму супэрыёру / зверхніку; 3) пазбаўленне права; перадача права.

**emancipatus**, a, um 1) вызвалены з-пад бацькавай улады; 2) вылучаны, зроблены маёмасна самастойным.

**emancipo** 1. 1) вызваляць з-пад улады; 2) вызваляць ад няволі; 3) вызваляць ад аблогі.

**emano** 1. [**выйти | выходити** *стб.*] выходзіць (аб прывілеі).

**embolis**, is *m* эпілог.

**embolium**, ii *n* 1) устаўка; дадатак; 2) эпілог.

**emelioratus**, us *m* меліярацыя грунтоў.

**emelioro** 1. 1) паляпшаць; 2) павялічваць каштоўнасць.

**emenda**, ae *f* 1) паляпшэнне; рамонт; 2) абнаўленне; 3) пакрыццё шкоды, задаволенне; 4) грашовая сума, выплачаная ў якасці кампенсацыі; грашовы штраф; 5) грашовае пакрыццё; 6) пакута, епітымія, якая накладалася на манахаў.

**emendabilis**, e (emendo) 1) які можна выправіць: **emendabiles** злачынствы, якія маглі быць адкуплены грашыма; 2) каштоўны.

**emendamentum**, i *n* 1) прырост; прыбытак; 2) дар, прынесены касцёлу для адпушчэння грахоў.

**emendo** 1. задавольваць.

**Emeranus Ep. Ratisb. M.** 22 верасня.

**Emerentia V. M.** 22 студзеня.

**emergentia**, ae *f* непрадбачаная акалічнасць, выпадак; сустрэтая перашкода.

**emeritum**, i *n* [**выслуга** *стб.*] выслуга.

**emeritus**, i *m* 1) ветэран; жаўнер, які адслужыў; 2) гаспадар, які пакінуў службу і аддаў зямлю дзецям.

**eminentia**, ae *f* (emineo) 1) высокасць, вялікасць, веліч; знакамітасць; 2) высокая вартасць; аўтарытэт, павага; 3) эмінэнцыя — тытул кардыналаў ад 1614 года; 4) верхавенства права зямельнай уласнасці ў феадальным ладзе; 5) **per eminentiam** перад усім.

**emissio**, onis *f* (emitto) 1) вызваленне, звальненне; 2) звальняльны запіс — рабіўся тады, калі асоба, якой згодна з судовым выракам павінен быў штосьці кампенсаваць адказнік (напр. выплаціць судовыя выдаткі, галаўшчыну, штраф і да т. п.), заяўляе перад судом, што адказнік ужо цалкам задаволіў яе і таму яна адмаўляецца ад усялякіх далейшых да яго прэтэнзій.

**emo**, emi, emptum, ere [**купити | покупити** *стб.*] купляць: **emptus [купленый** *стб.*] куплены.

**emolimentum**, i *n s.* **emolumentum** 1) будынак; 2) [**плат | платеж | поплата** *стб.*] плата, плацёж; прыбытак; 3) род аплаты збожжам, мукой альбо соладам, атрыманым ад памолу ў млыне.

**emologator**, oris *m* душапрыказчык.

**emologo** 1. пацвярджаць, ухваляць.

**emphyteusis**, is *f* [**emphyteuzys** *пл.*] грэцкае слова, якое азначае прывіццё ці права карыстання чужой уласнасцю з абавязкам яе паляпшэння альбо ўнясення тэрміновай гадавой платы, часам за траціну года і нават месячнай, паводле ўмовы — **in recognitionem domini directi**. Той, каму гэта права належала, называўся **emphyteuta**, а сам прадмет, на які дадзена такое права — **emphyteusis** ці **praedium emphyteuseos**. Прадметам гэтага права можа быць толькі нерухомая маёмасць. **Emphyteusis** не ёсць толькі асабістае права, але яно распаўсюджваецца і на спадчыннікаў. І таму **emphyteusis** не што іншае, як водкуп ці арэнда нерухомай маёмасці на некалькі дзясяткаў гадоў ці назаўжды. Але паколькі права валодання нікім не занятымі землямі ў Польшчы і Літве-Беларусі належала каралю, то карыстанне імі з дазволу караля і з абавязкам плаціць штогод чынш ці так званую кварту называлася таксама **emphyteusis** ці валоданне паводле эмфітэўтычнага права.

**emporium**, ii *n* 1) кірмаш; 2) склад тавараў. Трымаць такія склады было дазволена прывілеямі некаторым гарадам, якіх нельга было абмінуць, але на працягу некалькіх дзён прадаўцы павінны былі выстаўляць у іх свае тавары. Такія склады былі ў Польшчы і Літве-Беларусі (напр. у Коўні). Vol. Leg. V, f. 683; 3) **ius emporii** права склада; 4) гандлёвы альбо партовы горад.

**empticinium**, ii *n* маёмасць, набытая шляхам куплі.

**emptorium**, ii *n* гарадскі склад тавараў і звязаны з ім прывілей на склад.

**emundo** 1. 1) ачышчаць; абмываць; 2) вызваляць; 3) аплачваць; 4) выкупляць; 5) *pass.*: заставацца чыстым; 6) апраўдваць, вызваляць ад віны; 7) апраўдваць ад наганы шляхецтва / ад абвінавачвання ў нешляхецкім паходжанні.

**emunio** 4. рабіць вольным ад падаткаў.

**emunitas**, atis *f* 1) вызваленне: **emunitatis litterae** жалезны ліст; 2) прывілей; 3) вольнасць, дадзеная касцёлам і духавенству; 4) рэгіён ці акруга кляштара, які карыстаецца правам вызвалення ад падаткаў.

**emunito** 1. рабіць вольным ад падаткаў.

**emutuator**, oris *m* той, хто дае пазыку, пазычальнік.

**emutuo** 1. даваць пазыку.

**enganum**, i *n* 1) подступ; 2) падман.

**enodo** 1. 1) развязваць; разблытваць; 2) адвязваць; вызваляць; 3) высвятляць; 4) заяўляць: ~ **iuramento** заяўляць пад прысягай; 5) абвяшчаць прысуд; 6) выяўляць; выдаваць, здраджваць.

**enormalis**, e несумяшчальны з маральнымі нормамі, ганебны.

**enormis**, e 1) вялізны; 2) няправільны; ненармальны; 3) амаральны; 4) крыўдны, абразлівы: **enorme verbum** крыўднае слова; 5) празмерны: **laesio** ~ невераготная крыўда; продаж ніжэй паловы вартасці тавару; 6) жудасны.

**ensifer**, eris *m* [**miecznik** *пл.*] мечнік — саноўнік, які насіў каралеўскі меч.

**enuptio**, onis *f* (enubo) 1) шлюб з чалавекам іншага стану; 2) права заключэння шлюбаў па-за сваім родавым кругам, пераход у выніку шлюбу ў іншы род, іншую сям'ю.

**eo**, ii (ivi), itum, ire 1) ісці; 2) [**пойти** *стб.*] адыходзіць; сыходзіць; 3) [**ехати** *стб.*] ехаць, выязджаць; прыязджаць; з'яўляцца.

**epacta**, ae *f* (ад гр. **epago** дадаю) эпакта — азначае лік дзён, які трэба дадаць да месяцовага года, каб ён зраўняўся з сонечным. Месяцовы сінадычны год змяшчае ў сабе 354 дні, а сонечны — 365. Таму пастаянная розніца паміж сонечным і месяцовым годам складае 11 дзён. Але, калі лічыць месяцовыя гады адносна да сонечных ад пэўнага перыяду, розніца гэтая ўвесь час будзе павялічвацца на 11. І калі гэтая розніца будзе ўжо больш за 30 дзён, то ад гэтага ліку адымаюць 30 і рэшту прымаюць за эпакту. У Праваслаўнай царкве эпакты гэтыя называюцца падставамі. Кожнаму месяцоваму кругу адпавядае эпакта ці падстава. Рымскія эпакты старога стылю цалкам адпавядаюць падставам Праваслаўнай царквы. Але эпакты новага стылю падпарадкоўваюцца зусім іншаму закону. Эпакта ў пасхаліі Праваслаўнай царквы таксама азначае дадатак ці дапаўненне падставы да 21 (г. зн. 21 сакавіка), калі падстава меншая за гэты лік (21) ці дадатак да 51, калі падстава большая за 21.

**ephippium**, ii *n* 1) сядло; 2) гунька.

**Epimachus et Gordianus MM.** 10 траўня.

**Epiphania** Аб'яўленне Пана.

**episcopus**, i *m* [**бискуп** *стб.*] біскуп; епіскап.

**equa**, ae *f* (equus) [**свирепа, кобыла** *стб.*] свірэпа / кабыла, кабыліца.

**eques**, itis *m* (equus) 1) вершнік, коннік, кавалерыст; 2) у старажытным Рыме прадстаўнік арыстакратычнага стану вершнікаў; 3) конь; 4) шляхціц; 5) [**пахолок** *стб.*] пахолак; ваяр (служка); 6) ~ **aureatus** рыцар апяразаны / пасвячаны; 7) чалавек, абавязаны да коннай кур'ерскай службы на карысць пана.

**equester**, stris *m* 1) вершнік; 2) рыцар; 3) шляхціц; 4) збраяносец.

**equester**, stris, stre [**конно** *стб.*] конны; конна, на кані.

**equirea**, ae *f* табун коней. Табуны тутэйшых коней забаронена было гнаць за мяжу. Vol. Leg., a. 1583, I.

**equitarius**, ii *m* слуга, абавязаны да коннай кур'ерскай службы.

**equitatio**, onis *f* (equito) 1) верхавая язда; 2) коннае падарожжа; 3) аб'езд конна нейкай тэрыторыі дзеля вызначэння межаў; 4) уезд з мэтай узяцця маёмасці ў валоданне; 5) абавязак васала збройна суправаджаць сеньёра.

**equitator**, oris *m* 1) асоба, якая афіцыйна аб'язджае нейкую тэрыторыю з мэтай вызначэння межаў; 2) вершнік, кавалерыст.

**equitatura**, ae *f* 1) верхавая язда; 2) каралеўскія стайні; 3) [**podwoda** *пл.*] падвода — адзін ці некалькі коней з праваднікам, калёсамі ці санямі; 4) павіннасць феадальнага права, якая палягае на абавязку дастаўлення падвод; 5) абавязковая служба ў конніцы.

**equito** 1. (eques) [**ехати** *стб.*] ехаць; выязджаць; прыязджаць; з'яўляцца.

**equus** (ecus), i *m* [**конь** *стб.*] конь: ~ **educibilis** [**koń podwodny** *пл.*] падвода, конь з калёсамі.

**Erasmus** 3 ліпеня.

**eremitagium**, ii *n* келля пустэльніка.

**Ernestina** 22 лістапада.

**erodius**, ii *m* від сокала. У адным са старажытных каралеўскіх лістоў 1145 года гаворыцца: **liberamus a custodia et solutione erodiorum**, г. зн. вызваляем ад варты і сакалінай платы.

**erogatorius**, ii *m* выканаўца тастамента / завяшчання.

**erogo** 1. [**erogować** *пл.*] выдаткоўваць; выпрошваць, спаганяць.

**erraticus**, a, um (erro) [**блудный** *стб.*] (пры)блудны (пра хатнюю жывёлу).

**erroneus**, a, um (erro) 1) блукаючы; 2) хібны; 3) вандроўны; 4) ерэтычны.

**eruditorium**, ii *n* (erudio) навучанне; вывучэнне.

**escapium**, ii *n* (*пар.* фр. **echapper**) уцёкі.

**esgardium**, ii *n* меркаванне ці вызначэнне суддзі пасля дазнання справы.

**essarto** 1. *гл.* **exarto**.

**estivale**, is *n* чаравік; бот.

**Esto mihi (dominica)** няхай будзе мне — апошняя нядзеля перад пачаткам Вялікага Посту.

**estra**, ae *f* 1) порцік; 2) пярэдні пакой.

**et** *conj.* [**и; а** *стб.*] і; а.

**ethimagium**, ii *n* 1) пячаць; 2) пячатка, штамп; 3) узор.

**etiam** coni. (= et iam) 1) [**теж | тэж, такеж | также | такжо** *стб.*] таксама, гэтак жа; 2) [**однак | однако, однакож | однакже** *стб.*] аднак, але; усё ж, усё роўна; 3) [**хотя, хотя бы** *стб.*] хоць, хоць бы: ~ **si, si** ~ [**добре** *стб.*] хай, хоць бы.

**Euartistus P. M.** 26 кастрычніка.

**eubagiones**, um *m pl.* саноўнікі, паны.

**Eucharius** 20 лютага.

**Eugenia V. M.** 23 снежня.

**Eugenius Ep. M.** 15 лістапада.

**Eulagius Presb. M.** 11 сакавіка.

**Eulalia** 12 лютага.

**Euphemia, Lucia, Seminianus MM.** 20 верасня.

**Euslasius Abb.** 29 сакавіка.

**evacuatio**, onis *f* (evacuo) [**ewakuacya** *пл.*] вывядзенне, ачышчэнне, напр. **evacuatio woysk Saskich** вывядзенне Саксонскіх войскаў.

**evacuo** 1. [**ewakuować** *пл.*] 1) апаражняць; ачышчаць; 2) выводзіць войска.

**evado**, vasi, vasum, ere [**odbić** *пл.*] абвяргаць абвінавачванне, ачышчаць сябе ад абвінавачвання. **Si pars citata dicet: volo id evadere, tunc pars citata erit propinquior evadere**, г. зн. калі пазваны / пакліканы ў суд бок скажа: я хачу гэта абвергнуць, то яму даецца першае права для абвяржэння. Vol. Leg. I, f. 328.

**evagino** 1. [**добыти** *стб.*] здабываць; даставаць.

**evangelium**, i *n* [**евангелие** *стб.*] Евангелле.

**evasarius**, a, um звольнены ад прысягі ў судзе.

**evasio**, onis *f* (evado) [**ewasya** *пл.*] 1) вызваленне ад пазову / выкліку ў суд пазванага боку, калі пазоўнік / ісцец не з'явіўся ў тэрмін у суд і таму губляў сваю справу; 2) абвяржэнне довадаў пазоўніка ці апраўданне. У Статуце ВКЛ такое абвяржэнне называецца адводам.

**evecta**, orum *n pl.* [**ewekta** *пл.*] вываз тавараў, якія падлягаюць мытнаму падатку.

**eversor**, oris *m* (everto) 1) разбуральнік; 2) бандыт; 3) здраднік; 4) марнатравец.

**evictio**, onis *f* (evinco) [**ewikcya** *пл.*] эвікцыя —зарука, забеспячэнне чаго-небудзь на сумах ці на нерухомай маёмасці: ~ **iuridica** забеспячэнне, вызначанае законам; ~ **extraiuridica** забеспячэнне, не вызначанае законам. Эвікцыяй называецца таксама забяспечвальны запіс.

**evictionalis**, e [**ewikcionalny, ewikcyiny** *пл.*] які адносіцца (ці належыць) да забеспячэння: **summae evictionales**: a) сумы, атрыманыя ў пасаг, b) сумы відэркафавыя / адкупныя, *гл.* **reemptio**, c) сумы былога адукацыйнага фундуша.

**evictor**, oris *m* 1) [**заводца** *стб.*] заводца / перакупнік; 2) забяспечвальнік / паручальнік — прадавец, які адказвае за прададзеную маёмасць.

**evinco**, vici, victum, ere [**вызволити; выбавити** *стб.*] вызваляць; выбаўляць.

**evinculo** 1. [**ewinkulować** *пл.*] 1) вызваляць ад путаў; 2) звальняць ад якога-небудзь абавязацельства.

**evindicatus**, us *m* той, хто выносіць прысуд.
**evindico** 1. патрабаваць якую-небудзь рэч праз суд.
**evocatio**, onis *f* (evoco) пазоў / выклік, уласна выклік у суд якой-небудзь асобы з аднаго ваяводства ў іншае. Ён быў забаронены законам у 1638 годзе, за выключэннем спраў, якія тычацца скарбу. Vol. Leg. III, f. 952.
**ewrius**, ii *m* [**pacholek** *пл.*] пахолак — вартаўнік з сялян. Падобныя вартаўнікі дзясяткамі і сотнямі хадзілі па дарогах, назіраючы за іх бяспекай.
**ex** *praep.* [**из** *стб.*] з: ~ **antiquo** [**з стародавна** *стб.*] з старадаўна / здаўна, са старажытных часоў.
**exactio**, onis *f* [**exakcya** *пл.*] 1) патрабаванне; 2) збор падаткаў; 3) вымагальніцтва.
**exactionarius**, ii *m* збіральнік падаткаў.
**exactiono** 1. патрабаваць; спаганяць.
**exacto** 1. патрабаваць; збіраць, спаганяць (падаткі).
**exactor**, oris *m* (exigo) збіральнік падаткаў: ~ **publicus** збіральнік падаткаў, экзактар.
**exaequum** *adv.* [**по тому ж** *стб.*] таксама; гэтулькі.
**exagium**, ii *n* (exigo 1) вага, цяжар; 2) Божы суд.
**exambico** 1. *гл.* **excambio**.
**examinatus**, a, um [**пытаный** *стб.*] апытаны.
**exannuntio** 1. абвяшчаць судовы працэс.
**exartarius**, i *m* працаўнік, які займаецца ачысткай лесу.
**exartes** *гл.* **exartum**.
**exarto** 1. прачышчаць, прарэджваць лес, рабіць у ім просекі, чысціць яго ад цярноўніка.
**exartum**, i *n* 1) карчовішча / раскарчаванае месца; 2) гай, у якім высечана шмат дрэваў.
**exartus** *гл.* **exartum**.
**exauctoritas**, atis *f* пазбаўленне сану.
**exauctorizatus**, a, um пазбаўлены свайго сану.
**Exaudi (dominica)** пачуй — 19-я нядзеля па Вялікадні ці тыдзень Святых Айцоў.
**Exaudi Domine (dominica)** Пачуй, Пане — 5-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.
**exaudio** 4. [**выслухати** *стб.*] выслухоўваць; слухаць.
**exblado** 1. 1) збіраць збожжа; 2) атрымліваць прыбыткі з вінаграднікаў ці з маёнтка.
**exblato** 1. *гл.* **exblado**.
**exbrigo** 1. вызваляць ад спрэчкі, сваркі ці цяжбы.
**excambico** 1. *гл.* **excambio**.
**excambio** 1. мяняць адну рэч на іншую; замяняць.
**excambitus**, us *m* абмен.

**excambium**, ii *n* 1) абмен, замена (*асаб.* зямельнай маёмасці); 2) абмен грошай; 3) кампенсаванне.
**excapium**, ii *n* уцёкі.
**excapulo** 1. разбураць.
**excasura**, ae *f* спадчына.
**excedo**, cessi, cessum, ere *intr.* 1) выступаць, выходзіць; 2) [**сходити со света** *стб.*] сыходзіць са свету, пакідаць свет, паміраць; 3) [**переносити, переходити** *стб.*] перавышаць.
**excenso** 1. 1) адмаўляцца; адкідаць, адхіляць; 2) ачышчаць сябе ад злачынства; 3) вызваляць вінаватага.
**exceptio**, onis *f* (excipio) [**excepcya** *пл.*] выключэнне. Так у судовым працэсе называліся сродкі абароны, узятыя не з сутнасці справы, але з пабочных акалічнасцей, напр. неадпаведны суд — **iudicium non competens**, калі асоба пазваная / выкліканая не ў той суд, у які належала яе пазваць; незахаванне фармальнасці пры напісанні пазову і да т. п.
**excerptum**, i *n* [**excerpto** *пл.*] выцяг; выпіс.
**excessio**, onis *f* 1) адыход; 2) ухіленне ад чагосьці; 3) [**exces** *пл.*] празмернасць, выхад за межы, прызначаныя законам.
**excessor**, oris *m* 1) неўмеркаваны; непаслухмяны; 2) злачынец.
**excessus**, us *m* (excedo) [**выступ** *стб.*] праступак, правіна; шкода; злачынства, злачыннае дзеянне: ~ **malus** [**злый выступ** *стб.*] кепскі праступак, злачынства.
**excido**, cidi, cisum, ere 1) [**посечи, порубати | порубити | рубати** *стб.*] секчы, высякаць, ссякаць; 2) [**теребити** *стб.*] церабіць, высякаць; выдзіраць.
**excludo**, clusi, clusum, ere выключаць; вымаць: **excluso** [**мимо** *стб.*] насуперак, нягледзячы на, апрача.
**exclusor**, oris *m* (excludo) 1) той, хто выключае; 2) гравёр; 3) рамеснік, які вырабляе прадметы са срэбра; 4) слесар.
**excogito** 1. [**выложити** *стб.*] выкладаць.
**excommunicatio**, onis *f* (excommunico) [**exkommunikacya** *пл.*] экскамуніка — адлучэнне ад Касцёла; анатэма / касцёльны праклён.
**excommunicatus**, i *m* адлучаны ад Касцёла.
**excommuniter** *adv.* супольна, разам.
**excomparatio**, onis *f* купля; набыццё.
**excomposito** *adv.* змовіўшыся; з папярэдняй згоды.
**excomputo** 1. зводзіць рахункі; вылічаць.
**excondico**, dixi, dictum, ere 1) выбачаць; задавальняць; 2) сцвярджаць; 3) ачышчаць праз сакрамэнты / таемствы.
**excremo** 1. [**выжечи** *стб.*] выпальваць.
**excubiae**, arum *f* (excubo) 1) [**сторожа** *стб.*] старожа / дазор, варта; 2) падатак, устаноўлены на ўтрыманне варты. Vol. Leg. II, f. 838; 3) вігіліі — вечары на-

пярэдадні свят; 4) азначала краіну, але пазней пад гэтым словам разумеліся ўсе цяжары, ускладаныя панамі на сялян.
**excubiarius**, ii *m* 1) вартавы; 2) стражнік.
**excubico** 1. *гл.* **excubito**.
**excubito** 1. 1) адступаць; адыходзіць; 2) дбаць / клапаціцца пра чыёсьці дабро.
**excubitor**, oris *m* (excubo) 1) вартавы; 2) стражнік.
**excussor**, oris *m* 1) малацьбіт; 2) бацьказабойца; чалавеказабойца; разбойнік.
**excutio**, cussi, cussum, ere 1) выбіваць; 2) адбіваць, вырываць з чыіхсьці рук.
**excuto**, ere 3. 1) малаціць; 2) адразаць; 3) красці; 4) вызваляць чужога зняволенага.
**exdico** *гл.* **excondico**.
**exdignus**, a, um *гл.* **indignus**.
**exdivisio**, onis *f* [**exdywisya** *пл.*] падзел уладання на часткі паміж давернікамі.
**exdomarius**, ii *m* бяздомны, які жыве па-за домам.
**executio**, onis *f* [**exekucya** *пл.*] 1) выкананне; 2) выкананне судовага выраку: ~ **fortis ac irremissibilis** строгае і няўхільнае выкананне судовага выраку, для якога патрабавалася ваенная дапамога, *гл.* **brachium militare**; 3) пакаранне смерцю злачынца; 4) збіранне падаткаў.
**executo** 1. выконваць, здзяйсняць: ~ **bona debitoris** прымушаць даўжніка выплаціць доўг шляхам продажу яго ўладання.
**executor**, oris *m* [**екзекутор** *стб.*] экзекутар / выканальнік (напр. волі памерлага).
**exemplar**, aris *n* (exemplum) 1) першаўзор, арыгінал; 2) аўтэнтык / сапраўдны ліст, дакумент і інш.; 3) прыклад, узор; 4) спіс, копія; 5) асобнік.
**exemplatio**, onis *f* 1) апісанне; 2) ачыстка поля ад цярноўніка.
**exemplo** 1. (exemplum) 1) апісваць; паказваць; маляваць; 2) ачышчаць; 3) прачышчаць, працярэбліваць (лясы); 4) ураўноўваць.
**exemptibilis**, e які падлягае выключэнню, вынятку. Земскія маёнткі, якія былі ў валоданні духавенства і згодна з законам падлягалі вынятку з гэтага валодання — **pro exemptibilibus**.
**exemptio**, onis *f* (eximo) 1) [**ekzempcya** *пл.*] выключэнне, вынятак; звальненне. Таму і самі асобы, вызваленыя ад якіх-небудзь агульных абавязкаў, называліся экзэмптамі, напр. усе служылыя ў войску ў Польшчы і Літве-Беларусі былі вызвалены ад грамадзянскіх судоў і называліся экзэмптамі. Vol. Leg. II, f. 1681; 2) [**выкупенье | выкупенье; выправленье** *стб.*] выкуп, выкупленне; вызваленне.
**exenium**, ii *n* *гл.* **xenium**.
**exeo**, ii (ivi), itum, ire 1) [**выйти | выходити** *стб.*] выходзіць; пазбягаць; 2) [**ехати** *стб.*] ехаць, выязджаць, з’язджаць; прыязджаць; з’яўляцца.
**exequio** 1. адпраўляць паніхіду.
**exequitatio**, onis *f* 1) ад’езд; 2) службовы аб’езд нейкай тэрыторыі для вызначэння межаў валодання.

**exerceo**, cui, citum, ere прыводзіць у рух, пабуджаць; рабіць, чыніць; выконваць: ~ **piscaturam** [**поволочити** *стб.*] вылоўліваць, лавіць рыбу.
**exercitalis**, e 1) датычны ваеннай выправы; 2) шляхецкі.
**exercitalis**, is *m* жаўнер: **exercitales homines** жаўнеры, што апрацоўваюць надзелы зямлі, якія ім раздавалі замест платы за службу.
**exercitatio**, onis *f* (exercito) [**навченье** *стб.*] навучанне; практыкаванне.
**exercito** 1. *intens.* весці вайну; паступаць на ваенную службу.
**exercituo** 1. 1) ісці за абозам / лагерам; 2) залучаць / вербаваць каго-небудзь у жаўнеры.
**exercitus**, us *m* (exerceo) [**войско** *стб.*] войска.
**exfamiliatus**, a, um які атрымаў свае правы, выйшаўшы з-пад апекі; які ажаніўся.
**exfestucatio**, onis *f* кіданне кія на знак адмовы ад уласнасці.
**exfestuco** 1. пакідаць якую-небудзь рэч ці адмаўляцца ад чаго-небудзь.
**exforto** 1. 1) ужываць сілу супраць кагосьці; 2) умацоўваць.
**exfreto** 1. пераплываць рэчку.
**exheredito** 1. *intens. гл.* **exheredo**.
**exheredo** (exeredo) 1. (exheres) 1) выдзядзічваць / пазбаўляць спадчыны, маёмасці; *pass.* выходзіць з сям'і, якой належыць спадчына; 2) [**отдалити** | **отдаляти** *стб.*] аддаляць; адхіляць, ухіляць.
**exhibeo**, bui, bitum, ere 1) паказваць, прадстаўляць; 2) выдаваць (напр. дэкрэт); 3) абвяшчаць; 4) дастаўляць (харчовыя прыпасы); 5) [**давати ся** | **дат ся** | **дати ся** *стб.*] давацца / даваць згоду, згаджацца; 6) мінаць.
**exhiberno** 1. праводзіць зіму, зімаваць.
**exidoneo** 1. апраўдваць / ачышчаць сябе ад абвінавачвання прысягай.
**exigentia**, ae *f* (exigo) [**exigencya** *пл.*] 1) патрабаванне; вымагальніцтва; 2) падатак.
**exigo**, egi, actum, ere 1) [**справити** | **справляти** | **справовати** *стб.*] спраўляць, выконваць; дзейнічаць; вырашаць; судзіць; 2) [**взяти** | **озяти** | **узяти** | **брати, справити** | **справляти** | **справовати** *стб.*] браць, забіраць, адбіраць; спаганяць; 3) [**потребовати** *стб.*] патрабаваць: **exigit necessitas** [**надобе** *стб.*] трэба, неабходна; 4) [**вказати** | **вказывати** *стб.*] указваць; паказваць, прадстаўляць, прад'яўляць.
**exiguus**, a, um (exigo) невялікі: **exiguae quantitatis** [**малый** *стб.*] малы, невялікі.
**exilium**, ii *n* 1) выгнанне, ссылка; 2) ганебнае выгнанне з горада; 3) зняволенне; 4) знішчэнне, разбурэнне.
**eximo**, emi, emptum, ere 1) [**выняти** *стб.*] вымаць; адбіраць (крадзеную рэч); спаганяць; 2) [**скупати** *стб.*] выкупляць; 3) [**вызволити** *стб.*] вызваляць.
**exintegro** *adv.* спаўна, цалкам.
**existo** *гл.* **exsisto**.

**exitus**, us *m* (exeo) 1) выйсце, выхад; заканчэнне: **exitum facere** пазбаўляць чаго-небудзь; ~ **mensis** ці **mensis exiens** зыход месяца — апошнія 15 дзён месяца, якія з X да XV стагоддзя лічылі ў зваротным парадку, пачынаючы ад 15-га да 1-га, які адпавядаў 30-му ці 31-му дню месяца; 2) вынік; 3) гадавы прыбытак з чаго-небудзь; 4) саступка; 5) выдаткі на рацыёны; 6) мыта за вываз тавараў.

**exlex**, legis *adi.* пазбаўлены спрыяння закону.

**exnunc** *adv.* [**от сих мест** *стб.*] з гэтага часу, адгэтуль.

**exoccupo** 1. 1) адцягваць кагосьці ад занялкаў; 2) вызваляць ад валодання; 3) праганяць уладальніка.

**exonium**, ii *n* адтэрміноўка судовага працэсу па прычыне абгрунтаванай перашкоды.

**exorbitantia**, ae *f* 1) выхад за кола; перасягненне, перавышэнне: ~ **motuum** самы хуткі рух; 2) перакрочванне права, праступак.

**exorbitatio**, onis *f* (exorbito) [**exorbytancya** *пл.*] парушэнне закону, грамадскага парадку ці спакою; празмернасць; сваволя.

**exorbitor** 1. [**exorbitować** *пл.*] ухіляцца ад закону ці ад грамадскага парадку; дазваляць сабе якія-небудзь празмернасці.

**exorcizo** 1. прамаўляць заклёны; выганяць злога духа малітвамі.

**expactio**, onis *f* 1) заключэнне дамовы, кантракт; 2) замірэнне, перамір'е.

**expatriatus**, us *m* выгнанне.

**expatrio** 1. 1) выгнаць з айчыны; 2) выйсці, выехаць з айчыны.

**Expectationis festum** свята чакання, 18 снежня.

**Expectationis hebdomada** тыдзень чакання — тыдзень па Унебаўшэсці Пана.

**expectativa**, ae *f* [**expectatywa** *пл.*] чаканне вакансій ці пасад тымі, хто атрымаў на іх права пры жыцці асоб, якія займалі гэтыя пасады. Такі звычай ці хутчэй злоўжыванне забаронена законам у 1699 годзе. Vol. Leg. VI, f. 61.

**expedio** 4. 1) [**выправити | выправливати | выправляти | выправовати** *стб.*] вызваляць; рыхтаваць; забяспечваць; 2) [**выдати замуж** *стб.*] выдаваць замуж; 3) пакідаць свайго пана, адмаўляцца ад падпарадкавання яму; 4) пасылаць; 5) даручаць выкананне чаго-небудзь.

**expeditio**, onis *f* (expedio) 1) здзяйсненне, выкананне; 2) [**выправа | выправенье, отправа** *стб.*], [**wyprawa** *пл.*] выправа / высланне / выдача замуж (з пасагам): ~ **muliebris** выправа — усё, што давалі нявесце, якая выходзіла замуж, адзеннем, золатам, срэбрам і іншымі каштоўнымі рэчамі; **expeditionem praestare** [**выправити | выправливати | выправляти | выправовати** *стб.*] вызваляць; рыхтаваць; забяспечваць; 3) спагнанне; 4) [**война; служба** *стб.*] вайна; служба (на вайне), вайсковая служба; вайсковая выправа *тс.* ~ **bellica**; 5) ~ **generalis** [**pospolite ruszenie** *пл.*] паспалітае рушэнне — усеагульнае ці пагалоўнае апалчэнне ці ўсеагульная выправа. Яно збіралася толькі ў выпадку крайняй і непазбежнай небяспекі для Бацькаўшчыны, калі, напр., непрыяцель парушыў мірныя дамовы і да т. п. (Vol. Leg. I, f. 586). Кароль за-

гадзя паведамляў пра гэтае рушэнне шляхце адмысловымі позвамі, якія называліся **wici** ці **litterae restium**, і пасля трэцяй позвы ці абвесткі прызначаліся сойміі па ваяводствах (Vol. Leg. V, f. 658). Аднак сам кароль асабіста, без згоды ўсіх урадавых станаў — **sine consensu omnium ordinum** і ўсёй шляхты не меў права прызначаць паспалітага рушэння. Згода гэтая выказвалася спачатку на павятовых сойміках, а затым на галоўных соймах (Vol. Leg. II, f. 841; V, f. 270, 524, 658). Пасля гэтага абывацеляў / грамадзян, якія паводле закону павінны былі ўдзельнічаць у гэтай выправе, перад выступленнем са сваіх ваяводстваў і паветаў ваяводы і каштэляны запісвалі ў адмысловыя рэестры па паветах і самі ж каштэляны і харужыя вялі ў вызначанае месца і сачылі за парадкам і паводзінамі гэтага войска. Яно перадавалася імі пад каманду караля ці ў яго адсутнасці вялікім гетманам (Vol. Leg. III, f. 447; Konstytucya 1621 r. pospolitego ruszenia). На зборным пункце войска не магло заставацца больш за два тыдні (Vol. Leg. II, f. 898). Больш падрабязныя звесткі на гэты конт можна знайсці ў вышэйпрыведзенай пастанове 1621 года пра паспалітае рушэнне; 6) абавязак паступлення на вайсковую службу; 7) хуткасць і імпэт у дзеянні; 8) выкананне судовых спраў; 9) аб'яўленне выніку справы паводле распараджэння суда; 10) **expeditiones** [**wypłata według etatu** *пл.*] выплата ўтрымання асобам па каштарысе. Гэтую выплату павінен быў здзяйсняць вялікі падскарбій. Vol. Leg., a. 1504, I, f. 297; 11) [**отправа** *стб.*] спагнанне.

**expeditorius**, a, um датычны выправы: **expeditoriae res** неабходнае для вайны; зброя.

**expello**, puli, pulsum, ere [**выгоняти**; **выбити** *стб.*] выганяць, праганяць.

**expendium**, ii *n* 1) страта; 2) выдаткі.

**expensa**, ae *f* (expendo) [**страва** *стб.*] страва, ежа; сілкаванне, правіянт, харч.

**expensum**, i *n* 1) грашовы выдатак: **expensa litis** судовыя выдаткі; 2) наклад; кошт.

**experimentum**, i *n* (experior) [**experyment** *пл.*] 1) досвед; спроба; 2) судовае прадпісанне яўкі ў суд.

**experio** 4. 1) спрабаваць; выпрабоўваць; 2) даследаваць; 3) [**спирати** *стб.*] даказваць; дамагацца; адцясняць.

**expers**, pertis *adi.* [**прожный** *стб.*] вызвалены; вольны; пазбаўлены.

**expignoro** 1. вызваляць штосьці з-пад закладу.

**expilo** 1. 1) [**подрати** *стб.*] выдзіраць; драць; 2) [**выкрадати** | **выкрасти** | **покрасти** *стб.*] выкрадаць, красці, абкрадаць.

**expiscor** 1. [**волочити** | **зволочити озеро, сажовку, став** *стб.*] лавіць рыбу (у возеры, ставе, сажалцы).

**explanto** 1. выкараняць.

**explaratio**, onis *f* канец; выкананне.

**expletum**, i *n* 1) гадавы прыбытак з уладання; 2) сельскагаспадарчае ўладанне.

**expono**, posui, positum, ere 1) [**положити** *стб.*] выкладаць, класці; прадстаўляць; здаваць; 2) [**поведати | поведети** *стб.*] засведчваць; заяўляць, паведамляць; казаць; распавядаць; 3) [**наложити** *стб.*] аплачваць выдаткі; выдаткоўвацца.

**exporto** 1. 1) выносіць; 2) [**вывезти** *стб.*] вывозіць.

**expresso** 1. выражаць; выказваць; прадстаўляць; выкладаць.

**exprimo**, pressi, pressum, ere 1) [**выюбразити | выразити** *стб.*] выражаць; выказваць, казаць; выкладаць; 2) [**написати | описати** *стб.*] упісваць, запісваць, пісаць; апісваць; указваць; 3) [**менити | меновати** *стб.*] менаваць / называць; казаць; паказваць: **expressus** [**мененый | менованый** *стб.*] менаваны / названы, паказаны, згаданы, памянёны; 4) [**писаный** *стб.*] запісаны; названы, указаны.

**exprobro** 1. 1) рабіць закіды, папракаць, дакараць; звінавачваць; 2) лаяць, сварыць кагосьці; 3) абвінавачваць у нешляхецтве.

**exproprio** 1. 1) пазбаўляць уласнасці; 2) рабаваць; выкрадаць.

**expurgo** 1. 1) [**справовати ся** *стб.*] прававаццца / весці судовую справу, судзіцца; 2) ~ **se, innocentiam** ~ [**выправити; очистити, очищати невинность; очистити ся, отвести ся | отводити ся, вывести ся | выводити ся** *стб.*] даводзіць невінаватасць, апраўдвацца, адводзіць (ад сябе абвінавачванне); 3) [**высветчити ся** *стб.*] апраўдвацца (пры дапамозе сведак); 4) [**отприсягнути ся** *стб.*] адпрысягацца / адводзіць абвінавачванне прысягай.

**exquisitio**, onis *f* (exquiro) 1) выкуп; 2) [**хитрость** *стб.*] хітрасць.

**exscribo**, scripsi, scriptum, ere 1) выпісваць; перапісваць; запісваць; пісаць; 2) выкрэсліваць занатоўку ў судовай кнізе.

**exscriptum**, i *n* [**выпис** *стб.*] выпіс.

**exseco** (exsico, execo, exico), secui, sectum, are [**вырубати** *стб.*] высякаць.

**exsequiae** (exequiae), arum *f* (exsequor) набажэнства па нябожчыку, паніхіда.

**exsequor**, (exequor), secutus sum, sequi [**заступати | заступити** *стб.*] несці (службу).

**exsisto** (existo), stiti, —, ere [**быти** *стб.*] быць; апынацца; прыбываць; прыходзіць, пераходзіць; удзельнічаць: **existens in vita** [**живой | живый** *стб.*] жывы.

**exsolutio**, onis *f* (exsolvo) выплата.

**exsolvo**, solvi, solutum, ere 1) [**выплатити | доплатити** *стб.*] выплачваць; даплачваць; 2) [**звести ся** *стб.*] зводзіцца, пераставаць, спыняцца.

**exspectabilis**, e (exspecto) выдатны, знакаміты.

**exspectatus** (expectatus), a, um *part.* 1) чаканы, спадзяваны; 2) выдатны, знакаміты.

**exspecto** (expecto) 1. 1) [**ждати** *стб.*] чакаць; 2) [**дождати ся** *стб.*] дачакацца.

**exspiratio**, onis *f* (exspiro) заканчэнне: ~ **termini** заканчэнне тэрміну; **usque ad exspirationem praefatae arendae** да заканчэння тэрміну вышэйзгаданай арэнды. Vol. Leg. I, f. 422.

**exspiro** 1. [**померети** *стб.*] паміраць.

**exstinguo** (extinguo), stinxi, stinctum, ere 1) [**гасити** *стб.*] гасіць, тушыць; 2) [**померети** *стб.*] паміраць.

**exstirpatio**, onis *f* (exstirpo) [**проробок** *стб.*] просека.

**exstirpo** 1. 1) [**проробити** *стб.*] прасякаць; 2) [**теребити** *стб.*] церабіць, высякаць; выдзіраць; 3) [**ростеребити; розробливати** *стб.*] расцярэбліваць; раскарчоўваць; расчышчаць.

**exstorsio**, onis *f* залішняе вымагальніцтва.

**exsumtuo** 1. аслабляць выдаткамі, збядняць, даводзіць да галечы.

**extantia**, ae *f* ці **exstantia** наяўная маёмасць.

**extendo**, tendi, tensum, ere [**сягнути** *стб.*] пасягаць / квапіцца; ударацъ.

**exterminatio**, onis *f* (extermino) мяжа, граніца.

**extermino** 1. 1) [**выпискати** *стб.*] выцясняць, адцясняць: ~ **terminos** раскопваць, знішчаць межы / граніцы; 2) [**спирати** *стб.*] дамагацца; даказваць.

**externus**, a, um (exter) [**чужии | чужой** *стб.*] чужы, іншы.

**extexo**, —, —, ere 1) ткаць; 2) аббіраць; 3) *перан.*: падманваць у грашовых справах.

**extinctor**, oris *m* той, хто тушыць: ~ **candelae** тушыльнік свечкі. Калі хто-небудзь падчас распачатай сваркі тушыў свечку і калі ў гэты ж самы час каму-небудзь наносіўся ўдар ці рана, тушыльнік свечкі павінен быў плаціць штраф. Vol. Leg. I, f. 30.

**extollo**, extuli (рэдка exsustuli), —, ere [**повышати** *стб.*] павышаць, узвышаць.

**extracadentia**, ae *f* прамежак часу паміж адным тэрмінам пасяджэння суда і іншым, наступным. Прамежак гэты быў не менш чым два тыдні.

**extractum**, i *n* [**выпис** *стб.*] выпіс.

**extraditio**, onis *f* [**extradycya** *пл.*] выдача, вяртанне якога-небудзь прадмета ці асобы таму, каму яны належаць як уласніку: ~ **subditorum** выдача сялян пану, ад якога яны збеглі і перайшлі да іншага пана.

**extrado, didi, ditum**, ere [**выдавати | выдати** *стб.*] выдаваць, аддаваць; [**выдати з статки, в суме** *стб.*] выдаваць, аддаваць даўжніка з маёмасцю.

**extraho**, traxi, tractum, ere [**выдрати** *стб.*] выдзіраць.

**extraneo** 1. (extraneus) 1) адхіляць; выганяць; 2) адчужаць.

**extraneus**, a, um (extra) [**обчыи** *стб.*] чужаземец, чужынец, чужак.

**extremitas**, atis *f* (extremus) [**верховье** *стб.*] вершаліна, вярхоўе, крона.

**extrudo**, trusi, trusum, ere [**выпискати** *стб.*] выцясняць.

**exul**, is *m* [**exulant, wygnanec** *пл.*] выгнаннік. Пад назвай выгнаннікаў ці эксулянтаў часцей разумелі паноў з ВКЛ, якія былі ў Смаленскай і Кіеўскай губернях. Ім з цягам часу былі дадзены некаторыя правы адносна іх маёнткаў. Vol. Leg. IV, f. 538, 675.

**exultio**, onis *f* канец ці спыненне варажнечы і адкрытай помсты.

**exundo** 1. *intr.* 1) выліваць, заліваць; выцякаць; 2) вынырваць; [**спускати | спустити** *стб.*] спускаць.

**Exurge (dominica)** паўстань — нядзеля перад Вялікім Постам.

**Exurge, Domine** паўстань, Пане — чацвёрты тыдзень каляднага посту, *гл.* **Adventus**.

**exuro**, ussi, ustum, ere [**жечи** *стб.*] паліць; пячы.

**exustio**, onis *f* (exuro) [**паленье** *стб.*] абпал, абпальванне.

**exuviae**, arum *f* (exuo) 1) знятая са звера скура; 2) *перан.*: ваенная здабыча: ~ **nauticae** насы заваяваных непрыяцельскіх караблёў; 3) адтэрміноўкі; 4) рэліквіі святых; 5) ~ **animae** цела; 6) **ius exuviarum** *s.* **ius spolii** права караля на спадчыну, якая засталася пасля біскупаў і абатаў.

**exvacuo** 1. даць распіску, паводле судовага вызначэння, пра адсутнасць прэтэнзіі да спрэчнага прадмета, які павінен застацца ў валоданні супрацiўнага боку.

**exvisceratio**, onis *f* спустошэнне, збядненне, зубожанне.

**F**

**faber**, bri *m* 1) рамеснік: ~ **aerarius** [**odlewacz** *пл.*] ліцейнік, гутнік; 2) творца.

**Fabiani et Sebastiani (dies)** 20 студзеня.

**fabrefactura**, ae *f* праца па метале.

**fabrica**, ae *f* (faber) 1) уменне; майстэрства; рамяство; 2) рамесная майстэрня: ~ **cussionis monetae** манетны двор; ~ **lapidea** майстэрня каменяра; ~ **sutoria** шавецкая майстэрня; ~ **vitrea** шкляная гута; 3) жалезны выраб; 4) грамадская збройня / зброевы завод; 5) стварэнне: ~ **mundi** уладкаванне свету; 6) будоўля; 7) збудаванне муроў горада ці крэпасці; 8) будынак: ~ **ecclesiae**: a) касцёльны будынак, b) *перан.*: касцёльная маёмасць; 9) касцёльныя прыбыткі, прызначаныя на рамонт касцёла і на яго ўнутранае добраўпарадкаванне; 10) падатак на будаўніцтва касцёла; 11) усялякая крама; 12) падман; подступ.

**fabricatio**, onis *f* (fabrico) 1) стварэнне; выраб; выкананне; 2) будоўля; 3) падробка запісу ў судовую кнігу.

**fabricator**, oris *m* (fabrico) 1) выканаўца; стваральнік, творца; майстар; 2) аўтар; 3) здзяйсняльнік; 4) ~ **ecclesiae** касцёльны стараста, *гл. тс.* **fabricerius**.

**fabricatura**, ae *f* 1) выраб, выкананне чагосьці; 2) ювелірная справа; 3) кавальскае рамяство, кавальская справа; 4) біццё манеты.

**fabricerius**, ii *m* касцёльны стараста.

**fabula**, ae *f* 1) аповед; 2) мова; 3) казка; байка; 4) фікцыя; 5) чутка; плётка; балбатня; 6) фальшывы папрок; хлусня; 7) неабгрунтаваная скарга; 8) насмешкі; 9) сцэнічны твор; 10) слоўная дамова; 11) шлюбная дамова.

**facienda**, ae *f* 1) апрацоўка раллі; 2) сельская гаспадарка.

**facies**, ei *f* 1) [**твар** *стб.*] твар; 2) [**лицо** *стб.*] ліцо / уліка, палічнае; 3) крадзенае, выкрадзеная рэч.

**facilio** 1. пацвярджаць увачавідкі наяўнасць у падазронага скрадзенай рэчы.

**facio**, feci, factum, ere 1) [**вчинити | учинити | чинити** *стб.*] чыніць, рабіць; выконваць, здзяйсняць; наносіць, прычыняць; паступаць: **factus esse** [**зоста-**

**ти, зостати ся** *стб.*] быць зробленым; быць прызнаным; ~ **nihil** быць вольным ад усякай павіннасці; ~ **verbonem** [**вдарити** | **ударити** *стб.*] удараць; 2) [**справити** | **справляти** | **справовати** *стб.*] спраўляць / рабіць; дзейнічаць; вырашаць; судзіць; 3) апрацоўваць зямлю; 4) даваць; прадстаўляць; абвяшчаць; дастаўляць; 5) размяшчаць; складаць; 6) [**казати** *стб.*] казаць, сцвярджаць; наказваць, загадваць.

**facionatus**, a, um [**лицованый** | **приличный** *стб.*] ліцаваны / прылічны — абвінавачаны (злоўлены з ліцом / палічным).

**facticius**, ii *m* чалавек, які добраахвотна падпарадкаваўся феадальнаму пану.

**factio**, onis *f* (facio) 1) дзеянне; выкананне; 2) подступ; засада; 3) бунт; 4) злосць; 5) паншчына; 6) злачынства; 7) партыя; грамада; таварыства; 8) фабрыка.

**factiosus**, i *m* чалавек, уцягнуты ў прыватную / міжусобную вайну.

**factor**, oris *m* (facio) 1) выканаўца; вытворца; 2) стваральнік; 3) здзяйсняльнік; вінаваты; 4) упаўнаважаны; прадстаўнік; пасрэднік: **per medium factorum** пры ўдзеле пасрэднікаў; 5) кіраўнік.

**factum**, i *n* 1) [**вчинок** *стб.*] учынак; дзеянне; здзяйсненне; навык; 2) эдыкт ці наказ; 3) ліст, які пацвярджае дароўны запіс (наданне, саступку ці дамову); 4) выклад справы ці цяжбы; 5) маёмасць; 6) стан якой-небудзь справы.

**Factus est Dominus protector meus (dominica)** Бог стаўся маім заступнікам — 2-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.

**factus**, i *m* (facio) адзінка зямельнай плошчы, параўнальная з ланам.

**facultas**, atis *f* 1) [**можность** *стб.*] магчымасць, магчымасць; 2) [**моц** *стб.*] улада; паўнамоцтва; моц; права: **habens facultatem** [**моцный** *стб.*] які мае права, можа.

**facundia**, ae *f* (facundus) 1) здольнасць; 2) лёгкасць прамаўлення, дар слова; красамоўнасць; 3) балбатлівасць; 4) выхаванне.

**fadiatus**, a, um які не захаваў прызначанага паводле ўмовы дня.

**fager**, i *m* надзел.

**fagus**, i *f* 1) бук; букавае дрэва / драўніна; 2) права збірання галля ў лесе.

**faida**, ae *f* 1) спрэчка; варожасць; варожнеча; 2) права помсты; 3) прыватная вайна паміж феадаламі; 4) забеспячэнне, запэўненне.

**faidio** 4. *s.* **faidio** 1. 1) бунтаваць; 2) ~ **aliquem** прызнаць бунтаром; выгнаць, прагнаць.

**faidosus**, a, um варожы.

**faidosus**, i *m* той, хто вядзе прыватную / міжусобную вайну.

**faisantia**, ae *f* праца на карысць пана, паншчына.

**falanga**, ae *f* 1) палка, шост, да якога што-небудзь прывязваюць; 2) бярвенні ці жэрдкі, якія падкладвалі пад судны пры падцягванні іх да берага.

**falangaticum**, i *n* род падатку ад тавараў, выгружаных з дапамогай бярвенняў.

**falangus**, i *m* *гл.* **falanga**.

**falcastratio**, onis *f* скошванне лугу.

**falcastro** 1. касіць.

**falcatio**, onis *f* [**кошенье** *стб.*] кашэнне, касьба.

**falco** 1. [**косити** | **покосити, подкосити** | **подкошивати** *стб.*] касіць, падкошваць.

**falco**, onis *m* [**сокол** *стб.*] сокал: **falconis** [**сокольи** *стб.*] сакаліны; [**рарог** *стб.*] рарог (від сокала); [**болобан** *стб.*] балабан (від вялікага сокала, якога выкарыстоўвалі на ловах зайцоў); [**чеглиг** *стб.*] чэглік (птушка з сямейства сакаліных).

**falconagium**, ii *n* падатак, якім замянілі першапачатковы абавязак давання сокалаў.

**falconarius**, a, um сакаліны, ужываны для палявання з сокаламі.

**falconarius**, i *m* 1) [**сокольник** *стб.*] сакольнік, сакальнічы — слуга ці прыдворная асоба, якая займалася ці апекавалася сокаламі; 2) распарадчык сакалінымі ловамі / паляваннем.

**falconista**, ae *f* сакольнік — слуга, які апекаваўся сокаламі.

**falsaria**, ae *f* падробка, фальшаванне.

**falsatio**, onis *f* (falso) 1) падробка; 2) ~ **iudicii** узяцце пад сумнеў прысуду.

**falsificarius**, ii *m* фальшар / фальсіфікатар, падробнік.

**falsificator**, oris *m* [**фалшер** *стб.*] фальшар / падробнік.

**falsifico** 1. [**фалшовати** *стб.*] фальшаваць / падрабляць.

**falsitas**, atis *f* (falsus) [**фалшивство** *стб.*] фальшыўства / фальшаванне, падробка.

**falx**, falcis *f* [**коса** *стб.*] каса.

**fama**, ae *f* (dor.) [**слава** *стб.*] слава, добрае імя, гонар: ~ **bona** [**добрая слава** *стб.*] добрая слава, добрае імя, добрая рэпутацыя.

**famatus**, a, um (fama) 1) хвалебны; 2) услаўлены; 3) слаўны, славетны (сталы эпітэт на азначэнне мяшчан), *гл. тс.* **famosus**.

**fames**, is *f* [**голод** *стб.*] голад.

**famidus**, a, um галодны, які церпіць голад.

**famigatus** *гл.* **famosus**.

**familia**, ae *f* 1) сям'я; 2) [**челедь** | **челядь** *стб.*] чэлядзь; 3) слугі, каланісты / асаднікі, якія жывуць у маёнтку і выконваюць службовую павіннасць; 4) частка зямлі, дастатковая на пражытак адной сям'і.

**familiaris**, is *m* (familia) 1) сямейнік, член сям'і; 2) нявольнік; слуга, прыслужнік; 3) дваранін: **familiares curiae** адмысловыя дарадцы караля, прыдворныя.

**familiaritas**, atis *f* (familiaris) 1) сяброўскія адносіны; фамільярнасць; 2) хатняя служба; 3) кола сяброў; 4) *перан.*: падабенства; 5) сувязь, саюз; 6) звычай; 7) каралеўская апека над кляштарам; 8) *гл.* **familia**.

**famosus**, a, um, *adi.* 1) славетны, слаўны (сталы эпітэт на азначэнне мешчаніна). Так звычайна тытулавалі заможных мяшчан і чальцоў магістрата, *гл. тс.* **famatus**; 2) знеслаўлены, які мае благую славу: ~ **libellus** ці **carmen famosum** пасквіль; **famosi latrones** непапраўныя злачынцы, праследаваныя афі-

цыйна; **actiones famosae** скаргі, на падставе якіх прысуд вёў да пазбаўлення гонару; 3) славуты, вядомы; 4) **digitus famosus** трэці палец рукі.

**famulatus**, us *m* (famulor) нявольніцтва, няволя, рабства.

**famulus**, i *m* 1) нявольнік; 2) нявольны чаляднік; 3) [**слуга** *стб.*] слуга: **famuli impreciati** хатнія слугі; **famuli civitatis** гарадскія слугі; **famulus curiae regiae** дваранін; 4) прыдворны; 5) божы слуга, манах; 6) чаляднік.

**fanaticus**, a, um (fanum) 1) заўзяты; натхнёны; 2) шалёны; вар'яцкі; 3) фанатычны; 4) паганскі.

**fano**, onis *m* (ад ням. **Fahne**) сцяг.

**farinagium**, ii *n* плата мукой за размол у млынах.

**farinale**, is *n* млын.

**farinarium**, ii *n* 1) склад на муку; 2) млын.

**farrago**, inis *f* (far) мяшанка са збожжа, корм для коней, фураж, подсцілка.

**fatalia**, ium *n pl.* 1) лёс; прызначэнне; 2) паразы; 3) тэрмін, вызначаны законам, у які дазвалялася судовым парадкам дамагацца свайго права. Vol. Leg., a. 1570, f. 924; 4) вызначаныя дні: ~ **appelatoria** час, вызначаны на апеляцыю; ~ **iuris** абвінавачванне ў тым, што спрэчка не падтрымлівалася пазоўнікам / істцом на працягу года і шасці тыдняў; ~ **legis** рок завіты / канчатковы тэрмін; 5) тэрмін заканчэння ваеннай службы.

**fatalis**, e (fatum) 1) залежны ад лёсу; вызначаны лёсам; 2) няшчасны, неспрыяльны, злавесны, згубны: ~ **sors** смерць; 3) **dies** ~ канчатковы тэрмін правядзення нейкага прававога дзеяння, пасля завяршэння якога касавалася нейкае права альбо вынікалі іншыя невыгодныя наступствы; 4) **fatalia tempora** час працэсуальнай даўнасці, г. зн. устаноўлены правам тэрмін унясення апеляцыі перад судом вышэйшай інстанцыі; 5) **damnum fatale** шкода, якую нельга было прадухіліць.

**fatigatio**, onis *f* (fatigo) 1) змучанасць, стома; 2) непрыемнасць; 3) рэпрэсіі.

**fatigiae**, arum *f pl. s.* **fatigium**, ii *n* 1) праца; стома; 2) турбота; 3) павіннасць княжацкага права.

**fatum**, i *n* (for, far) 1) лёс; 2) у множ. ліку ўжываецца замест слова **mors** смерць, напр. гаворыцца: **post fata Sigismundi Augusti** па смерці Жыгімонта Аўгуста; **fatis cessit** памёр; 3) даўнасць.

**Fausta V. et Evilasius MM.** 20 верасня.

**Faustinus et Iovita MM.** 15 лютага.

**faveo**, favi, fautum, ere 1) [**фалкговати** *стб.*] падтрымліваць; спрыяць; 2) [**взычити | узычати** *стб.*] узычаць / даваць; падаваць; дараваць; рачыць / прызваляць / рабіць ласку, жадаць.

**fax**, facis *f* 1) паходня; 2) полымя, жар: **faces libidinis** полымя пажадлівасці; 3) запал; натхненне; 4) штуршок, стымул; 5) *перан.*: падбухторшчык; 6) **dolorum faces** пакутлівыя болі; 7) **facibus educere** з ганьбай выганяць кагосьці з горада (пры запаленых паходнях).

**feida** *гл.* **faida**.

**felcarius**, ii *m* залежны чалавек у супрацьлегласць да вольнага.

**Felicitas** 23 лістапада.

**Felix et Adauctus** 14 жніўня.

**Felix M. in Pincis** 14 студзеня.

**Felix Presb**. 14 студзеня.

**Felix P**. 30 траўня.

**felix**, icis 1) [**щастный** *стб.*] шчасны; шчаслівы; 2) [**славный** *стб.*] слаўны: ~ **recordatio** [**славная память** *стб.*] слаўная, светлая памяць.

**felonia**, ae *f* 1) здрада; 2) няўдзячнасць; 3) вераломства васала альбо невыкананне ім абавязкаў ленніка, якое каралася стратай лена.

**femina**, ae *f* 1) [**жонка** *стб.*] жанчына; 2) [**невеста** *стб.*] замужняя жанчына; кабета; 3) сялянка; чаляднiца; 4) ~ **iuvenis** [**девка** *стб.*] дзеўка, дзяўчына; дачка.

**fenerator** (faenerator), oris *m* (fenero) ліхвяр.

**fenestra**, ae *f* [**окно** *стб.*] акно.

**fenigus**, i *m* нямецкая назва дынара.

**fenum**, i *n* [**сено** *стб.*] сена.

**feodale**, is *n* лен.

**feodalis**, e феадальны; ленны: ~ **vir** шляхціц; **ius feodale** леннае права.

**feodalis**, is *m* васал.

**feodatarius**, ii *m гл.* **feodalis**, is *m*.

**feodatio**, onis *f* адданне ў лен.

**feodator**, oris *m* феадальны пан, сеньёр.

**feodatus**, us *m* уладальнік лена.

**feodum**, i *n* 1) лен; 2) феадальны падатак; 3) грашовы эквівалент, які замяняе розныя феадальныя павіннасці; 4) валоданне.

**feoffamentum**, i *n* наданне лена.

**feoffator**, oris *m гл.* **feodator**.

**fera**, ae *f* [**звер** *стб.*] звер: **ferarum** [**звериный** *стб.*] звярыны; ~ **saucia** [**застрел** *стб.*] застрэл / падранак.

**ferale**, is *n* віці — каралеўскія лісты пра скліканне рушэння; позва на паспалітае рушэнне.

**ferendarius**, ii *m* 1) упаўнаважаны, паўнамочнік (судовага боку); 2) абаронца; 3) прамоўца, які прамаўляе за каго-небудзь у судзе; 4) падрадчык.

**ferentarius**, ii *m* (fero) 1) лёгка ўзброены воін; 2) кап'ёўнік; лёгкаўзброены стралец; 3) харужы; 4) памочнік.

**Ferialis hebdomada** тыдзень Мукі Пана.

**fericida**, ae *f* браканьер.

**ferio** 4. [**бити, збити | сбити** *стб.*] біць, збіваць: **feriendo tangere** [**вдарити | ударити** *стб.*] ударыць.

**fero**, tuli, latum, ferre 1) несці; 2) уносіць; запісваць; 3) [**ferować** *пл.*] прамаўляць; 4) здзяйсняць.

**ferrago**, inis *f* частка поля, прызначаная не для засявання збожжам на хлеб, але для травы і збожжа на корм скаціне.

**ferrati**, orum *m pl.* войска ў даспехах.

**ferrifex**, icis *m* [**kowal** *пл.*] каваль.

**ferrum**, i *n* 1) жалеза: **ferro igniqne** агнём і мячом; **iudicium** *s.* **examen ferri candentis** Божы суд, пры якім абвінавачаны мусіў дакранацца да распаленага жалеза; ~ **candens** *s.* **ardens** выпрабаванне распаленым жалезам; ~ **manuale** выпрабаванне жалезам, пры якім абвінавачаны мусіў несці распаленае жалеза; 2) кайданы; 3) жалезная прылада (таксама і для катаванняў); 4) зброя: **damnari ad ferrum** быць асуджаным на бой з гладыятарам; 5) прадметы з жалеза; 6) падкова; 7) *перан.*: цвёрдасць, жорсткасць, нячуласць.

**ferto**, onis *m* (ад ням. **Vierdung, Varding**) [**wiardunek** *пл.*] 1) фертон, вярдунак — старажытная манета, якая складала чацвёртую частку маркі ці грыўні, ці 60 дынараў. Як манета фертон у розны час меў розную вартасць: **fertonum solutio, fertones** [**podatek wiardunkowy** *пл.*] вярдунковы падатак, які ў старажытнасці плаціла каралю шляхта. У 1455 годзе кароль Казімер адмяніў яго, і замест гэтага наказаў уносіць штогод ад лана па два грошы. Vol. Leg. I, f. 186; 2) грошы; 3) аплата, падатак, род дзесяціны, якую плацілі каталіцкаму духавенству з пяці моргаў зямлі: a) ~ **decimalis** грашовая дзесяціна, b) г. зв. ваенны падатак, даваны кметамі пану, калі ён вырушаў на вайну, c) **fertonum exactio** г. зв. ланавае — від падатку; 4) 1/4 частка чагосьці, чвэрць.

**fertona**, ae *f гл.* **ferto**.

**fertonalis decima** грашовая дзесяціна.

**fertonus**, i *m гл.* **ferto**.

**fervens**, entis 1) распалены; 2) гарачы: ~ **vestigium** г. зв. гарачы, г. зн. свежы след; ~ **iudicium** неадкладны суд; 3) кіпячы; 4) востры; гвалтоўны, раптоўны; 5) старанны; заўзяты, гарачы, палкі.

**festivitas**, atis *f* (festivus) 1) урачыстасць; свята; 2) відовішча; 3) падатак феадальнаму пану з выпадку ўрачыстага свята; 4) весялосць; жарт; 5) прываблівасць; ветласць.

**Festorum omnium metropolis** сталіца ўсіх святаў, Нараджэнне Божае.

**festuca**, ae *f* 1) кій; 2) розга; 3) знак ці сімвал перадачы валодання якой-небудзь рэччу, які прадавец даваў пакупніку: **festucam tradere** пакідаць якую-небудзь рэч ці адмаўляцца ад чаго-небудзь.

**festuco** 1. пакідаць якую-небудзь рэч ці адмаўляцца ад чаго-небудзь.

**feudalitas**, atis *f* леннае права.

**feudaliter** *adv.* на падставе леннага права, на ленным праве.

**feudarius**, a, um атрыманы ў форме лена.

**feudarius**, ii *m* леннік, васал.

**feudatalis**, is *m гл.* **feudarius**, ii *m*.

**feudataria**, orum *n pl.* ленныя павіннасці.

**feudatarius**, a, um ленны.

**feudatarius**, ii *m гл.* **feudarius**, ii *m*.

**feudatio**, onis *f* перадача чагосьці ў лен.

**feuditas**, atis *f* зямельная маёмасць, атрыманая на ленным праве.

**feudo** 1. 1) аддаваць у лен; 2) рабіцца леннікам.

**feudolium**, ii *n* чынш, які выплачваўся феадальнаму пану.

**feudum**, i *n* [**lennosć** *пл.*] лен — нерухомая маёмасць, якую ўладальнік аддае каму-небудзь, каб той карыстаўся прыбыткамі з яе, а маёмасць належала б уладальніку. Карыстанне гэтае пашыралася на патомства карыстальніка, каб ён і яго нашчадкі верна служылі пану ці будзе гэтая служба вызначаная пэўным чынам ці не: ~ **apertum** вакантны, нікім не заняты прыход; вакантны маёнтак.

**fidedatio**, onis *f* урачыстае абяцанне; слова гонару.

**fidedico**, dixi, dictum, ere ручацца.

**fidedictio**, onis *f* ручальніцтва; зарука.

**fidefactum**, i *n* урачыстае абяцанне.

**fidefragus**, i *m* вераломны, вераломец; здраднік.

**fideicommissio**, onis *f* [**fideikomis** *пл.*] даверанасць; паўнамоцтва.

**fideiubeo**, iussi, iussum, ere (fides) 1) [**поручити** *стб.*] даручаць; 2) [**ручити** *стб.*] ручацца, паручацца.

**fideiuramentum**, i *n* прысяга, якая пацвярджала праўдзівасць прызнанняў.

**fideiussaliter promittere** ручацца.

**fideiussio**, onis *f* (fideiubeo) [**рукоемство, парука | порука** *стб.*] рукаемства / ручальніцтва, зарука, парука.

**fideiussor**, oris *m* (fideiubeo) 1) [**паручник** *стб.*], [**rękoymia** *пл.*] парука / паручальнік — асоба, якая забяспечвае дадзенае кімсьці абяцанне і прымае на сябе абавязак выканаць яго самому, у выпадку калі таго не можа зрабіць асоба, якая дала абяцанне: **fideiussores tollere** прымусіць вінаватага ці абвінавачанага прадставіць да вядомага тэрміну паручальнікаў; 2) [**рукоемец** *стб.*] рукаемец — асоба, за якую хтосьці паручыўся.

**fideiussorialis**, e 1) датычны парукі; 2) даручаны.

**Fidelis a Sigmaringa** 24 красавіка.

**fidelis**, e (fides) 1) верны: ~ **manus** парука; 2) верны (сталы эпітэт на азначэнне шляхціца-васала).

**fidelis**, is *m* 1) падданы; васал, які прысягнуў на вернасць свайму пану; леннік; 2) хрысціянін.

**fidelitas**, atis *f* (fidelis) 1) вернасць; давер; 2) упэўненасць; пэўнасць; бяспека; 3) лаяльнасць да ўлады; 4) абавязак вернасці; 5) прысяга вернасці; 6) ~ **vestra** ваша вернасць (тытул, якім называў кароль сваіх васалаў, звяртаючыся да іх); 7) васальныя адносіны.

**fideliter** *adv.* [**верне** *стб.*] верна / слушна; дакладна; добрасумленна.

**fidellator**, oris *m* 1) душапрыказчык, выканаўца тастамента / завяшчання; 2) лютніст.

**Fides V. M.** 6 кастрычніка.

**fides**, ei *f* (fido) [**вера** *стб.*] вера; давер.

**fidesponsor**, oris *m* які перадае ў карыстанне каму-небудзь уладанне паводле даверанасці.

**fidicen**, cinis *m* (fides, ium) музыка, выканаўца музычных твораў.

**fiducarius**, ii *m* рукадайны слуга.

**fiduciarius**, i *m* [**wierny, wiereń** *пл.*] просты шляхціц, які служыў у іншага шляхціца; гермак / пахолак — слуга рыцара ці шляхціца.

**figulus**, i *m* (fingo) [**gancarz** *пл.*] ганчар і наогул рамеснік, які робіць з гліны гаршкі, кафлі і іншыя вырабы.

**figura**, ae *f* (fingo) 1) выгляд; форма: ~ **nominis** манаграма (*гл.* **monogramma**); 2) постаць; 3) фігура; 4) уласцівасць; 5) спосаб; 6) будова, канфігурацыя.

**figuratio**, onis *f* (figuro) 1) стварэнне; фармаванне; 2) уяўленне; 3) форма, выгляд; 4) ~ **iudicii** судовая формула.

**filia**, ae *f* (filius) 1) [**дочка** *стб.*] дачка; 2) касцёл, сумежны і падпарадкаваны галоўнаму касцёлу, капліца; касцёл ці другарадны кляштар, які залежыць ад іншага касцёла ці кляштара.

**filiaster**, tri *m* (filius) 1) пасынак; 2) зяць; 3) унук, народжаны ад дачкі; 4) байструк, бенкарт, бастард.

**filiolus**, i *m demin.* 1) сынок; 2) хросны сын.

**filius**, ii *m* [**сын** *стб.*] сын: ~ **legitimus** [**чистого ложа сын** *стб.*] чыстага ложа сын / сын, народжаны ў шлюбе, законны; ~ **mali tori** [**злого ложа сын** *стб.*] злога ложа сын / пазашлюбны сын, байструк; **filii** [**дети** *стб.*] дзеці.

**filtrinus**, a, um лямцавы.

**filtrum**, i *n* 1) лямцавы капялюш; 2) гунька на каня.

**financia**, ae *f* падатак.

**finantia**, ae *f* фінансавая ўгода / здзелка.

**finatio**, onis *f* кампраміс.

**fincus**, i *m* паморскі дынар.

**finis**, is *m* [**конец, кончанье** *стб.*] канец, заканчэнне: **ad finem vitae** [**до живота** *стб.*] да канца жыцця, пажыццёва.

**finitime** *adv.* [**суграничь** *стб.*] суграничь / памежна, сумежна.

**finitimus** (finitumus), a, um (finis) [**граничник | сумежник** *стб.*] гранічнік / сумежнік, сусед (па ўладанні, па маёнтку).

**finitio**, onis *f* (finio) 1) абмежаванне; 2) перыяд; 3) мяжа; сфера; 4) дэфініцыя, апісанне паняцця; 5) канчатковы вырак.

**fino** 1. выдаваць канчатковы вырак; вырашаць.

**fio**, factus sum, fieri [**здати ся** *стб.*] ставацца, здарацца.

**firma**, ae *f* 1) прысяга: **datio ad firmam** пісьмовая дамова; кантракт; 2) гадавы чынш.

**firmarius**, ii *m* 1) дзяржаўца / арандатар; 2) атрымальнік чыншу; 3) вікарый, які атрымлівае сталую плату.

**firmatio**, onis *f* 1) пацвярджэнне, падмацаванне; 2) даказванне; 3) трыванне; 4) зацвярджэнне выдаўцам дакумента, напісанага натарыем.
**Firminus Ep. M.** 25 верасня.
**firmitas**, atis *f* (firmus) 1) правамоцнасць; 2) трываласць; нязменнасць; 3) вытрываласць; 4) праўда; сапраўднасць; пэўнасць; 5) моц; 6) ~ **iudicialis** пацвярджэнне дамовы праз запіс у судовых кнігах; 7) сапраўднасць, аўтэнтычнасць; непарушнасць; 8) дадзенае камусьці забеспячэнне; запэўніванне; гарантыя; 9) дамова; 10) пацвярджэнне правоў; прывілей; 11) адданне ў прэкарый; 12) абяцанне; 13) дарэнне; 14) дакумент; 15) агароджа; умацаванне, крэпасць; 16) абарончы вал.
**firmiter** *adv.* (firmus) [**моцне | моцно** *стб.*] у моцы, моцна.
**firmo** 1. (firmus) 1) сцвярджаць; умацоўваць, замацоўваць; 2) забяспечваць; 3) сцвярджаць; абвяшчаць; 4) выконваць; ствараць; 5) зачыняць; 6) падмацоўваць; 7) устанаўліваць; пастанаўляць; 8) даказваць; 9) пацвярджаць пад прысягай; 10) даравать; 11) укладаць дамову; 12) будаваць.
**fiscalinus**, a, um 1) дзяржаўны; 2) скарбовы; 3) каралеўскі.
**fiscalinus**, i *m* 1) каралеўскі ці скарбовы селянін; 2) нявольны чалавек, прыналежны да караля, служыцель (нявольны) ва ўладанні, якое належыць каралю.
**fiscalis**, e (fiscus) 1) датычны публічнага скарбу, фіскальны: **quaderni fiscales** зямельныя кадастры; 2) **iudex** ~ a) кіраўнік каралеўскага дому, які выконвае звязаную з гэтай сферай юрысдыкцыю, b) граф.
**fiscalis**, is *m* (fiscus) [**fiskal** *пл.*] 1) скарбовы ўраднік, службовец дзяржаўнага скарбу ці банку; 2) разводнік; фіскал; 3) служыцель (нявольны) ва ўладанні, якое належыць каралю.
**fiscaria**, ae *f* каса ўніверсітэцкага калегіума.
**fiscarius**, ii *m* скарбнік універсітэцкага калегіума.
**fiscatio**, onis *f* канфіскацыя, адчужэнне на карысць скарбу.
**fisco** 1. (fiscus) 1) канфіскоўваць; 2) патрабаваць чагосьці судова.
**fiscus**, i *m* [**скарб** *стб.*], [**fisk** *пл.*] скарб — каралеўскі кашалёк ці мяшок, у які клалі грамадскія падаткі ці ўнёскі; дзяржаўны скарб: ~ **regius** уладанне караля; каралеўская маёмасць.
**fistuca** *гл.* **festuca**.
**fistula**, ae *f* 1) труба; канал; 2) жалейка; флейта; 3) чароціна; 4) калям — пяро з чароціны; 5) ~ **sutoria** шавецкі нож.
**flagellum**, i *n demin.* [**пуга** *стб.*] пуга.
**flaminga**, ae *f* (*sc.* **virga**) фламандскі прут — мера зямельнай плошчы; морг — адзінка зямельнай плошчы.
**flebilis**, e (fleo) годны шкадавання; жаласны; кранальны: **flebile beneficium emigrationis** аплата ў Нямеччыне за згоду на эміграцыю падданага, які пажадаў прыняць іншую рэлігію, чым яго пан.
**Florentius Ep. Argent.** 7 лістапада.

**florenus**, i *m* 1) залатая фларэнцкая манета, фларэн; 2) злоты: ~ **polonicus / polonicalis** [**złoty polski** *пл.*] польскі злоты — срэбная польская манета. Злоты ўвайшоў у абарачэнне з 1505 года і вартасць яго ўвесь час памяншалася.

**Florianus** 4 траўня.

**floridus**, a, um (flos) 1) квітнеючы; 2) жывы, малады, бадзёры; 3) бліскучы; аздобны; 4) **sub datione floridi rami** адмаўленне ад права ўласнасці праз сімвалічную перадачу зялёнай галінкі ў рукі новага ўладальніка; 5) квяцісты; красамоўны.

**Florus Ep.** 3 лістапада.

**flos**, floris *m* 1) кветка; 2) росквіт; маладосць: ~ **aetatis** росквіт юнацтва, маладосць; 3) бляск; 4) аздоба; 5) прывабнасць; 6) **cum flore resignare aliquid** адмовіцца ад права ўласнасці праз сімвалічную перадачу зялёнай галінкі ў рукі новага ўладальніка; 7) **dominica florum** Пальмовая Нядзеля, вербніца; 8) ~ **aeris** зялёная паціна / налёт на медзі; 9) ~ **plumbi** алавяная бель; 10) ~ **tritici** найлепшы гатунак пшанічнай мукі; 11) **flores dicendi** рытарычныя аздобы.

**flumen**, inis *n* (fluo) [**река** *стб.*] рака.

**fluvius**, ii *m* (fluo) [**река** *стб.*] рака.

**foagium**, ii *n гл.* **focarium**.

**Foca Ep. M.** 14 ліпеня.

**focalis**, e датычны агменю / вогнішча: **focalem residentiam habere** мець жытло.

**focaria**, ae *f* 1) прыслужніца, якая клапоціцца пра агмень / вогнішча; 2) запас дроў.

**focarium**, ii *n* 1) агмень / вогнішча; 2) падатак, патрабаваны феадальным уладальнікам ад кожнага агменю / хатняга вогнішча, пасля ён называўся падымным — **fumalia**.

**focata**, ae *f гл.* **focaria**.

**foderagium**, ii *n* 1) права атрымання фуражу для коней; 2) фураж.

**fodero** 1. патрабаваць правіянту; фуражаваць.

**foderum**, i *n* 1) фураж для коней; 2) авёс; 3) правіянт; фураж, які збіралі для каралеўскага двара; 4) рэквізіцыя для войска; 5) феадальная павіннасць дастаўкі ежы і фуражу.

**fodio**, fodi, fossum, ere 1) капаць; выкопваць: **ius fodiendi metalla** права здабывання руды металаў; 2) хаваць (нябожчыка); закопваць; 3) прабіваць, пракольваць; 4) дратаваць; дакучаць; 5) падахвочваць, пабуджаць; 6) насыпаць памежныя капцы.

**fodrium** *гл.* **foderum**.

**fodrum** *гл.* **foderum**.

**f(o)enagium**, ii *n* плата за сена.

**f(o)enale**, is *n гл.* **f(o)enagium**.

**follia**, ae *f* знявага.

**fomentatio**, onis *f* (fomento) [**fomentacya** *пл.*] 1) прыпарка; прымочка; 2) падбіванне, падбухторванне, пад'юджванне.

**fomento** 1. (fomentum) [**fomentować** *пл.*] 1) рабіць прыпарку, прымочку; 2) падбухторваць, падбіваць, пад'юджваць; 3) бунтаваць.

**fontalis**, e (fons) 1) крынічны; 2) першапачатковы; 3) датычны хросту; 4) **fontalia** аплата за карыстанне гарадской студняй.

**foragium** *гл.* **farrago**.

**foralia**, ium [**targowe** *пл.*] тарговае — род падатку, спаганянага ад гандлюючых на кірмашах, скасаваны законам у 1764 годзе. Vol. Leg. VII, f. 333.

**foraneitas**, atis *f* адсутнасць.

**forbannio** 4. выгнаць.

**forbannitio**, onis *f* выгнанне.

**forcale**, is *n* каўнер.

**forcata**, ae *f* мера зямельнай плошчы.

**forefactum**, i *n* злачынства, ліхадзейства.

**foremundus**, i *m* абаронца.

**forensaria**, ium *n pl. гл.* **forensia**.

**forensia**, ium *n pl.* г. зв. тарговае — аплата ад тавараў, якія прадаюцца на рынку.

**forensis**, is *m* 1) юрыст; 2) ляік — свецкі чалавек у супрацьлегласць да духоўнага — клерыка; 3) купец.

**foresta**, ae *f* 1) [**obora** *пл.*] загарадзь для скаціны, абора: ~ **regia** *s.* **regalis** каралеўскі жывёльны двор, на які належала даставіць усялякую скаціну, занятую на сваім полі ці сенажаці на працягу трох дзён. Той, хто яе не даставіў на працягу гэтага тэрміну, паддаваўся судовай адказнасці. Калі ж гаспадар скаціны не з'явіўся, каб выпатрабаваць яе, то палова яе аддавалася таму, хто яе даставіў, а палова ішла на каралеўскі стол; 2) аплата ўладальніку грунту, на якім жывёла ўчыніла шкоду; 3) лес, гай; пушча; зараснік.

**forestagium**, ii *n* права карыстацца лесам ці плата за такое права. Хто меў гэтае права, мог не толькі секчы лес на свае патрэбы, але і пасвіць у ім скаціну.

**forestarius**, ii *m* ляснічы.

**forestensis**, e 1) датычны лясоў; 2) чужы.

**foresteria**, ae *f* пакой у каталіцкіх кляштарах для прымання падарожных / вандроўнікаў — **xenodochium**.

**forestis**, is *f* 1) лес, бор; 2) лес, прызначаны для выключнага карыстання караля як тэрыторыя паляванняў, каралеўскі лес; 3) каралеўскія месцы для лоўлі рыбы; 4) лес феадальнага пана.

**foresto** 1. лес ператвараць у гай.

**forestum**, i *n* лес, бор.

**forifragium**, ii *n* замяшанне, забурэнне, учыненае ў судзе.

**forisatio**, onis *f* 1) купля-продаж; 2) торг, які адбываецца рэгулярна ў вызначаны час.

**forisfamilio** 1. эманцыпаваць / рабіць самастойным сына.
**foriso** 1. гандляваца; уваходзіць у грашовыя дачыненні, гандляваць; закупляць.
**foritaneus**, i *m* жыхар вёскі.
**formicaria**, ae *f* 1) прастытутка; 2) чужаложніца.
**formosa (puella)** фрэйліна.
**fornator**, oris *m* пячнік у саляных жупах, на якога таксама ўскладаўся абавязак пошукаў солі.
**forragium** *гл.* **farrago**.
**forro** 1. патрабаваць правіянту; фуражаваць.
**fortalitium** *гл.* **fortitudo**.
**forticia**, ae *f* фартыфікацыя.
**fortitium**, ii *n гл.* **fortitudo**.
**fortitudo**, inis *f* (fortis) умацаванне, крэпасць; замак.
**forto** 1. умацоўваць, узмацняць.
**fortuna**, ae *f* [**щастье** *стб.*] шчасце; доля.
**Fortunatus M.** 12 лютага.
**forum**, i *n* 1) пляц; гандлёвае месца, рынак: ~ **piscatorium** рыбны рынак; 2) [**торг** *стб.*] торг, кірмаш; 3) месца судовых працэсаў; 4) судовае месца; суд: ~ **competens** адпаведны суд, суд, да якога можна было прыцягваць асобу з пэўнага стану. Так **iudicium competens** — суд, адпаведны для шляхціца, быў земскі і гродскі, для мешчаніна — магдэбургскі суд, для каралеўскага селяніна — рэферэндарскі суд; жыд падлягаў гродскаму суду; ~ **proprium** [**sąd właściwy** *пл.*] уласцівы суд — суд таго ваяводства ці павета, да якога належаў пазоўнік / існец ці пазваны / выклічаны ў суд. Але шляхце дазволена было мець справу ў судах іншага ваяводства ці іншага павета. І таму вельмі часта сустракаецца ў актах, што пэўны **nobilis a foro proprio recedens et iudicio praesenti se sublatens, recognovit** ..., г. зн. шляхціц, адступаючы ад свайго суда альбо суда свайго павета ці ваяводства і падпарадкоўваючыся вось гэтаму суду, заявіў ці прызнаў ...; ~ **seculare** свецкі, не духоўны суд; ~ **ubiquinarium** [**forum ubique locorum będące** *пл.*] суд, дзе б ён ні знаходзіўся. У выпадку няўстойкі аднаго з двух бакоў, якія дамаўляюцца, пазоўнік / існец з прычыны дамовы мог пазваць / выклікаць у суд парушальніка дамовы ці ўгоды ў суд, дзе б гэты суд ні знаходзіўся.
**forus**, i *m* (ferio) 1) дошка для гульні ў косткі; 2) гульня ў косткі; 3) шахматная дошка; 4) вольнае месца, напр. паміж лаўкамі весляроў; 5) месца, на якім вядзецца спрэчка; 6) месца, на якім засядае суддзя.
**fossa**, ae *f* (fodio) 1) канава, роў; катлаван; 2) ствол шахты; 3) магіла; 4) вал; насып; 5) шанец (умацаванне); 6) г. зв. карыта — мера накапанай солі.
**fossatoria**, ae *f* падатак, звязаны з вайсковым абавязкам.
**fossio**, onis *f* (fodio) 1) перакопванне; 2) яма; дол; 3) магіла; 4) насыпанне памежных капцоў.

**fossorium**, ii *n* матыка. Падкаморый, які размежаваў некалькі ўладанняў ці толькі адно, але на працягу некалькіх дзён атрымліваў законную ўзнагароду — **salarium:** тры грыўні, дзве сякеры і дзве матыкі — **fossoria**. Vol. Leg. I, f. 50.

**fovealis**, e датычны ямы, капальні: ~ **census** чынш, выплачваны з капальні солі.

**foveo**, fovi, fotum, ere 1) спрыяць; 2) [**ховати, переховати | переховывати** *стб.*] захоўваць, хаваць; утрымліваць.

**framea**, ae *f* 1) дзіда, кап'ё; 2) абасечны меч; 3) [**kosa** *пл.*] каса; шабля — старажытная зброя рыцараў, якая пасля была заменена мячом і шчытом. **Sine scutifero, armati securibus et gladiis** піша біёграф Атона (Pertz. XIV, 78, 788), г. зн. без шчытаносца, узброеныя алябардамі і мячамі. У 1578 годзе адзін з пісьменнікаў Рэчы Паспалітай (Бэкеш) піша: **optima nostra framea, cum et ea nos defendere et inimicum caedere possumus**. Відавочна, што тым часам пад словам **framea** разумелі шаблю.

**franchisia**, ae *f* вольнасць; прывілей.

**Francisca V.** 9 сакавіка.

**franciscanus**, i *m* [**Franciszkanin** *пл.*] францішканец — законнік / манах каталіцкага закону / ордэна, заснаванага каталіцкім святым Францішкам.

**Francisci Seraph**. (**dies**) 4 кастрычніка.

**Franciscus de Paula conf.** 2 красавіка.

**francitas**, atis *f* уласнасць, вольная ад некаторых грамадскіх падаткаў.

**francus**, i *m* 1) вольны; 2) статус вольнага чалавека; 3) васал, вольны ад абавязкаў на карысць сеньёра; 4) бясшлюбны; 5) франк (манета); 6) махор.

**frango**, fregi, fractum, ere 1) ламаць; 2) [**зрубати** *стб.*] сячы, ссякаць.

**frater**, tris *m* [**брат** *стб.*] 1) брат: **fratris / fratrum** [**братный | братский** *стб.*] братні, братавы, братэрскі; ~ **fratri moritur, et soror sorori moritur** брат памірае для брата, а сястра для сястры, г. зн. спадчыннік братняй маёмасці брат, бо спадчына сястры належыць сястры. Але гэтае правіла, запазычанае з рымскага права, было скасавана пазнейшымі пастановамі Польшчы і Літвы-Беларусі; 2) сябар, прыяцель; 3) брат законны, манах: **boni fratres** (**boni fratelli**) [**Bonifratry** *пл.*] Боніфратры, каталіцкі манаскі ордэн, устаноўлены святым Янам Божым. Абавязак гэтага ордэна палягае на апякунстве над хворымі — вар'ятамі. І таму выраз — «аддаваць кагосьці да боніфратраў» значыць «садзіць каго-небудзь у вар'ятню».

**fraternitas**, atis *f* (fraternus) [**bractwo** *пл.*] 1) брацтва, грамада манахаў; 2) грамада каталіцкіх манахаў розных кляштараў; 3) наогул цесная суполка асоб, якія імкнуцца да адной мэты. У Рыме было заснавана брацтва святароў і біскупаў, каб па смерці якойсьці адной асобы, што належыць да брацтва, усе іншыя складалі бяскроўныя ахвяры за адпушчэнне яе грахоў; 4) брацтва рамеснікаў ці цэх — **contubernium**. Падобныя брацтвы былі забаронены законам спачатку ў 1420 годзе, потым у 1538 пры Жыгімонту I. Vol. Leg. I, f. 8, 535; 5) ганаровы тытул, які ўжывалі ў сваіх лістах каралі ў адносінах да ін-

шых каралёў, а таксама папы ў сваіх лістах да біскупаў. У лісце папы Баніфацыя з 1266 года пішацца: **ideoque fraternitati tuae per apostolica scripta mandamus**. І таму апостальскім лістом наказваем тваймy брацтву (= табе, сваймy брату).

**fraternus**, a, um [**братный** | **братский** *стб.*] братні, братавы, братэрскі.

**frea**, ae *f* незамужняя жанчына.

**freda**, ae *f гл.* **fredus**.

**fredum** *гл.* **fredus**.

**fredus**, i *m* 1) грыўня / штраф за парушэнне грамадскага спакою; 2) цялеснае пакаранне.

**fremitus**, us *m* (fremo) 1) шум, грукат; гоман, галас; вокліч; 2) гнеў; 3) чутка; плётка; 4) спрэчка перад судом.

**frequentatus**, a, um *part.* замест **frequens** часты.

**frequenter** *adv.* (frequens) [**частокроть** *стб.*] частакроць, шматкроць, часта.

**frequento** 1. 1) часта наведваць, учашчаць; 2) збірацца ў вялікай колькасці; 3) паўтараць; 4) спраўляць свята; 5) часта катаваць; 6) выпрабоўваць.

**frescengagium**, ii *n* падатак маладымі авечкамі.

**fridus** *гл.* **fredus**.

**friscinga**, ae *f* (верагодна, ад ням. **frisch**) [**friskinga** *пл.*] аднагадовая авечка.

**friscum**, i *n* неўзаранае поле.

**friscus**, a, um (ад ням. **frisch**) свежы; новы.

**frisengagium**, ii *n гл.* **frescengagium**.

**fructuagium**, ii *n* ураджайнасць; карыснасць.

**fructuarium**, ii *n* сад; месца, засаджанае фруктовымі дрэвамі.

**fructuo** 1. карыстацца; атрымліваць карысць; прыносіць карысць.

**fruges**, um *f* [**жито** *стб.*] жыта; збожжа; азімае.

**fruitio**, onis *f* (fruor) 1) ужыванне, карыстанне; выкарыстанне; 2) раскашаванне; асалода.

**frumentalis**, e збожжавы: ~ **exactio** падатак, даваны збожжам.

**Frumentius** 23 сакавіка.

**frumentum**, i *n* (fruor) збожжа, зерне: ~ **anserinum** «гусіны хлеб» — падатак.

**frustum**, i *n* 1) кавалак; крошка; драбніца: ~ **terrae** кавалак зямлі; 2) мера вагі, чацвёртая частка фунта; 3) манета вартасцю 1/2 брандэнбургскага таленту.

**fugacia**, ae *f* частка поля без усялякай агароджы, прызначаная для кармлення аленяў і іншых лясных жывёл.

**fugatio**, onis *f* 1) уцёкі (сялян); 2) паляванне; 3) права палявання.

**fugax**, acis *m* (fugio) 1) збеглы (селянін); 2) дэзертыр.

**fugio**, fugi, fugiturus, ere 1) [**бежати** | **втечи** *стб.*] збягаць, уцякаць; хавацца; 2) [**войти** | **уйти** *стб.*] сыходзіць.

**fugitivus**, a, um (fugio), *adi.* 1) які ўцякае; схільны да ўцёкаў; збеглы: **fugitivi subditi** збеглыя падданыя; 2) кароткачасовы; мінучы.

**fugo** 1. (fuga) 1) прымушаць да ўцёкаў; праганяць; 2) разгромліваць; рассяваць; 3) выганяць, ссылаць у выгнанне; 4) гнаццa; праследаваць; 5) даганяць, наганяць; 6) паляваць; 7) адпужваць; 8) *аб рэчах*: адсоўваць; аддаляць.

**fullo**, onis *m* [**folusznik, barwierz, walkarz, pracz** *пл.*] валюшнік.

**fulmino** 1. (fulmen) *intr.* 1) бліскаць (пра маланку); кідаць перуны: **fulminat** б'е пярун; 2) біць, граміць ворага; 3) ~ **accusationem** звінавачваць; 4) ~ **processum** пачынаць судовы працэс; 5) выдаваць вырак / прысуд: ~ **excomnunicationem** кінуць ці абнародаваць на каго-небудзь экскамуніку / клятву ці адлучэнне ад Касцёла; ~ **sententiam** выдаваць вырак.

**fumagium**, ii *n гл.* **fumalia**.

**fumalia**, ium [**podymne** *пл.*] падымнае / падымны падатак, які плаціўся пану ад дыму, г. зн. двара, інакш гэты падатак называўся параднае і складаў два грошы з лана. Vol. Leg. I, f. 269.

**fumalis**, e 1) дымны; 2) ~ **contributio** г. зв. падымнае — падатак, які плаціўся пану ад дыму, г. зн. двара.

**fumanteria** *гл.* **fumalia**.

**fumaticum** *гл.* **fumalia**.

**fumigale**, is *n* 1) комін; 2) падымнае — падатак, які плаціўся пану ад дыму, г. зн. двара.

**fumigatio**, onis *f* (fumigo) 1) каджэнне; 2) пара, выпарэнні; 3) г. зв. падымнае — падатак, які плаціўся пану ад дыму, г. зн. двара.

**fuminalia**, ium *n pl. гл.* **fumalia**.

**functio**, onis *f* (fungor) выплата падаткаў.

**funda**, ae *f гл.* **fundicus**.

**fundacus** *гл.* **fundicus**.

**fundamentale**, is *n* прынцып: ~ **divisionis** прынцып падзелу.

**fundamentalis**, e (fundamentum) 1) датычны падмурку, які ляжыць у падмурку; фундаментальны; 2) грунтоўны; 3) канчатковы; 4) асноўны: **leges fundamentales** асноўныя правы.

**fundatio**, onis *f* (fundo) [**fundacya, zapis funduszowy** *пл.*] 1) закладанне, заснаванне; 2) фундацыя — запіс на пабудову ці ўладкаванне касцёлаў і цэркваў альбо надзяленне іх ворнай зямлёй, сенажацямі і да т. п.: ~ **de nova radice** фундацыя наноў пабудаванага касцёла ці царквы, пабудова ці закладанне новага касцёла з надзелам яго зямлёй. Фундацыі гэтыя патрабавалі дазволу вышэйшых улад — станаў. Vol. Leg. VI, f. 488; VII, f. 819; 3) адданне; раздача.

**fundator**, oris *m* заснавальнік, фундатар; творца.

**fundico** 1. уносіць плату за тавары.

**fundicus**, i *m* 1) гандлёвая пляцоўка; біржа; 2) плата за тавары, якая ўносілася ў біржу.

**fundo** 1. (fundus) 1) закладаць, засноўваць; 2) умацоўваць; 3) упасажваць / надзяляць; надаваць; 4) уласным коштам будаваць касцёл ці засноўваць кляштар.

**fundus**, i *m* [**grunt** *пл.*] 1) [**земля** *стб.*] зямля (як уладанне), зямельная ўласнасць; ворная зямля; грунт; 2) дно; глыбіня: **in fundo turris** на дне вежы (турмы), у зняволенні.

**funis**, is *m* вяроўка; ліна, канат: **funes** [**лезиво** *стб.*] лезіва — драбінкі з лыка (для працы з ляснымі вуллямі).

**funticus** *гл.* **fundicus**.

**fur**, furis *m* [**злодей** *стб.*] злодзей; зльдзень: **ut** ~ [**злодейским обычаем** *стб.*] зладзейскім чынам, зладзейскім спосабам, як злодзей.

**furca**, ae *f* 1) двухзубыя вілы; 2) шыбеніца: **ad furcam condemnare** асуджаць на шыбеніцу; 3) развілаваны крыж, які накладалі на шыю нявольнікам і асуджаным; 4) страла з задзірамі; 5) ярмо; 6) падпора; 7) *перан.*: гвалт, насілле.

**furierus**, i *m* інтэндант.

**furitas**, atis *f* шаленства; шал,ярасць.

**furor** 1. (fur) [**красти** *стб.*] красці.

**furtialis**, e зладзейскі: **poena** ~ *s.* **furticinalis** г. зв. зладзейская кара ў выглядзе платы трох грыўняў і запісу ў гарадскую кнігу.

**furticinalis**, e зладзейскі.

**furticinium**, ii *n* 1) [**злодейство** *стб.*] крадзеж, зладзейства: **allegare futricinio** украсці; ~ **fractionis** крадзеж з узломам; ~ **puellae** выкраданне дзяўчыны; 2) украдзеная рэч; 3) штраф за крадзеж.

**furtim** *adv.* (fur) 1) [**украдом** *стб.*] крадком, употай, пакрыёма, таемна; 2) [**злодейским обычаем** *стб.*] зладзейскім чынам, зладзейскім спосабам, як злодзей.

**furtivus**, a, um (furtum) [**злодейский** | **краденый** *стб.*] зладзейскі; крадзены.

**furtum**, i *n* (fur) [**злодейство** *стб.*] крадзеж, зладзейства: ~ **capitale, capitis** ~ крадзеж жывёлы; канакрадства; **furto ablatus** [**краденый** *стб.*] крадзены; **sufferre furto** [**вкрасти** | **украсти** *стб.*] красці.

**fusor**, oris *m* (fundo) [**odlewacz** *пл.*] ліцейнік, гутнік.

**fusum**, i *n s.* **fusus** 1) аснова печы; 2) верацяно; кудзеля: **cognati post fusum** крэўныя па кудзелі.

**fusura**, ae *f* (fundo) 1) адліўка; 2) выпапліванне; выплаўленне; 3) манетны сплаў; 4) падзенне.

## G

**gabalum**, i *n гл.* **gabella**.

**gabella**, ae *f* від падатку, *асаб.* ад прывозу альбо вывазу тавараў; прыбытак.

**gabellarius**, ii *m* збіральнік падаткаў.

**gabello** 1. 1) збіраць падатак *наз.* **gabella**; 2) плаціць падатак *наз.* **gabella**.

**gablagium**, i *n гл.* **gabella**.

**gablum**, i *n гл.* **gabella**.
**gades**, um *pl.* 1) граніцы; 2) межы, сумежнасць ці межы палёў.
**gaius**, i *m s.* **gaium**, i *n* 1) гай, пералесак; 2) права карыстання з вызначаных лясных пладоў.
**galea**, ae *f* [**прилбьща** *стб.*] прылбіца / шалом, шышак.
**galeta**, ae *f* 1) збанок; 2) мера аб'ёму вадкасцей.
**gallicae**, arum *f pl.* сабо — драўляныя альбо на драўлянай падэшве чаравікі.
**gallicula**, ae *f* 1) маленькі чаравік; хадак, апорак; 2) сабо — драўляны чаравік.
**gallina**, ae *f* (gallus) [**курица** *стб.*] курыца.
**gallinagium**, ii *n* падатак, які плаціцца курамі.
**gallinium** *гл.* **gallinagium**.
**Gallus Abb.** 16 кастрычніка.
**galo**, onis *m* мера аб'ёму вадкасцей, галон.
**galunagium**, ii *n* падатак віном.
**gano** 1. набываць.
**gansero**, onis *m* г. зв. гусак — від падатку.
**garandia**, ae *f гл.* **garantia**.
**garandisator**, oris *m гл.* **garantus**.
**garandus** *гл.* **garantus**.
**garantia**, ae *f* забеспячэнне; абарона; улада.
**garantus**, i *m* паручальнік, парука.
**garbagium**, ii *n* феадальны абавязак аддавання часткі ўраджаю.
**garbaria**, ae *f гл.* **garbagium**.
**garcia**, ae *f* 1) публічны дом; 2) прастытутка.
**garcio**, onis *m* 1) слуга; 2) гультай; 3) наёмны жаўнер.
**gardiator**, oris *m* абаронца, заступнік; адвакат.
**gardinarius**, ii *m* садоўнік.
**gardingus**, i *m* службовец каралеўскага дому.
**garillum**, i *n* 1) бар'ер; 2) палісад.
**garita**, ae *f* вартавая вежа.
**gasacio**, onis *m* супрацiўны бок (на судзе).
**gasindus**, i *m* васал, абавязаны несці збройную службу на карысць пана.
**gastald(i)us**, (i)i *m* гастальд: a) зверхнік пэўнай мясцовасці, маёнтка, вёскі; аканом, юрысдыкцыя якога пашыралася толькі на просты народ, b) скарбнік, пасольскі стражнік, c) прыстаў, саноўнік пры княжацкім двары, d) распарадчык касцёльных добраў, e) касцёльны ці кляштарны адвакат.
**gastaldatum**, i *n* юрысдыкцыя гастальда — зверхніка пэўнай мясцовасці.
**gastaldio**, onis *m гл.* **gastald(i)us**.
**gastitua** *гл.* **statio**.
**gastum** *гл.* **vastum**.
**gauco**, onis *m* селянін; *зняважл.* смерд.
**gaudentia**, ae *f* карыстанне; валоданне.

**gaudeo**, gavisus sum, ere 1) радавацца; цешыцца; 2) карыстацца; валодаць.
**gaudimentum**, i *n гл.* **gaudentia**.
**gausape**, is *n s.* **gausapum**, i *n* 1) ваўняная тканіна з начосам з аднаго боку; 2) абрус; 3) алтарны абрус.
**Gavius P.** 22 красавіка.
**gaza**, ae *f* 1) скарбонка; 2) газ, г. зн. лёгкая, няшчыльная, празрыстая тканіна з шоўку ці лёну; таксама від галуна з залатога ці срэбнага прадзіва з шоўкам. Назву атрымала ад сірыйскага горада Газа, дзе ўпершыню пачалі яе вырабляць; адрозніваецца ад іншых тканін такога тыпу тым, што паміж ніткамі ўтоку і асновы пакідаецца некаторая адлегласць, як напр. **gaze Iris**; **Donna Maria**, і потым **gaze de Paris**; ужывалася на сукенкі, чэпчыкі, хусткі і інш.
**geldus**, i *m* 1) кошт; 2) чынш; 3) падатак.
**gemma**, ae *f* [**перл** *стб.*] пэрл / пярліна: **gemmarum intextor, gemmarum intextrix** [**гахвтар, гахвтарка** *стб.*] гафтар, гафтарка (той, хто вышывае золатам ці перламі).
**gemmarius**, i *m* (gemma) ювелір.
**gemotum**, i *n* збор, сход.
**genealogialis**, e 1) родны; 2) пароднены з кімсьці ў прамой лініі.
**gener**, eri *m* 1) [**зять** *стб.*] зяць; муж сястры; 2) сваяк; блізкі.
**generalis**, e (genus) 1) датычны роду, родавы; 2) агульны, усеагульны: **generale iudicium** вечавы суд; **studium generale** універсітэт; ~ **via** гасцінец; **in generali** увогуле, агульна; **mandatum generale** агульнае даручэнне, г. зн. на вядзенне ўсіх спраў; **lex** ~ агульнае правіла; 3) прыроджаны; 4) вальны.
**generalitas**, atis *f* (generalis) 1) агульны закон; 2) агульнасць, сукупнасць, цэлае: **pro generalitate** для дабра грамадства; 3) усеагульная ваенная выправа.
**generaliter** *adv.* (generalis) [**посполите** *стб.*] паспаліта / увогуле, наогул.
**generatim** *adv.* (genus) 1) паводле роду, паводле гатунку; 2) наогул, агулам, не ўдаючыся ў падрабязнасці; 3) на генеральным сойміку.
**generatio**, onis *f* (genero) 1) род; пакаленне: **a generatione in generationem** з роду ў род; 2) нараджэнне, пачатак; 3) плоднасць; 4) узнікненне, стварэнне; 5) крэўнасць; 6) духоўнае адраджэнне.
**generice** *adv.* наогул, паўсюдна.
**generosus**, a, um (genus) 1) шляхетны (сталы эпітэт на азначэнне радавітай шляхты і земскіх службоўцаў); 2) шляхетны, высакародны; велікадушны; сумленны; 3) шляхецкага паходжання; 4) сапраўдны, чыстакроўны.
**geniculum**, i *n demin.* пакаленне; роднасць, ступень роднасці.
**genitor**, oris *m* (geno = gigno) [**отец** *стб.*] бацька.
**genologia**, ae *f* род.
**Genovefa V.** 3 студзеня.
**gentilitas**, atis *f* (gentilis) 1) роднасць; сувязь паміж прадстаўнікамі роду; 2) радзіма; народ; 3) супольнасць паганцаў; 4) паганская вера; паганства; 5) урачыстасць; 6) забава.

**gentilium**, ii *n* (*sc.* **signum**) сямейны герб; гербавы шчыт.
**genu**, us *n* 1) калена; 2) *гл.* **geniculum**.
**genuculum** *гл.* **geniculum**.
**genus**, eris *n* (geno = gigno) [**род** *стб.*] род; паходжанне.
**geometra**, ae *m* мернік — землямер, межавік.
**Georgii MM. (dies)** 23 і 24 красавіка.
**Gerardus Ep. M.** 24 верасня.
**Germanus Ep. Conf.** 31 ліпеня.
**gero**, gessi, gestum, ere 1) насіць; 2) [**справовати ся** *стб.*] дзейнічаць; выконваць; паступаць.
**Gertrudis Virg.** 15 лістапада.
**gerulphus**, i *m* ваўкалак.
**gerulus**, i *m* (gero) веснік; нунцый.
**gesta**, orum *n* 1) актавыя кнігі; 2) гісторыя; 3) дароўны запіс.
**gestor**, oris *m* (gero) ганец.
**gestus**, us *m* (gero) 1) стаўленне; паводзіны; звычаі; 2) міміка; рухі цела; жэст; 3) прыняцце чужых спраў, выкананне нейкіх дзеянняў у чужой справе, напр. у справе выхаванца; 4) дзеянне; учынак; 5) спрэчная справа; судовы працэс; 6) акт, дакумент; пратакол.
**gignitor**, oris *m* бацька.
**gigno**, genui, genitum, ere (geno) [**родити** *стб.*] раджаць, нараджаць.
**gilda**, ae *f* 1) таварыства; грамадства; брацтва; 2) купецкая гільдыя: **gild(i)a mercatoria** таварыства купцоў у некаторых гарадах; таварыства рамеснікаў; таварыства штукароў.
**gildia**, ae *f гл.* **gilda**.
**gipsa**, ae *f* 1) змяя; 2) цмок.
**gistum**, i *n* 1) прыняцце гасцей; 2) права феадальных уладальнікаў гасцяваць у сваіх васалаў.
**gladialiter** *adv.* па мячы, г. зн. з боку бацькі.
**gladiarius**, i *m гл.* **gladifer**.
**gladiator**, oris *m гл.* **gladifer**.
**gladiatorius**, i *m гл.* **gladifer**.
**gladifer**, feri *m* [**miecznik** *пл.*] 1) мечнік — асоба, якая насіла меч перад уладаром ці каралём; 2) пасада пры двары караля.
**gladiferatus**, us *m* годнасць мечніка.
**gladifex**, icis *m* майстар, які вырабляе мячы, вырабляльнік мячоў.
**gladiger**, eri *m* мечнік (земскі).
**gladio** 1. *s.* **gladior** 1. 1) біцца мячом; 2) сцінаць галаў.
**gladius**, ii *m* ( [**меч** *стб.*] меч.
**glandaticum**, i *n* плата за права пускаць свіней у лес для кармлення іх жалудамі.

**gleba**, ae *f* [**gleba** *пл.*] кавалак зямлі, груда; зямля, грунт; глеба: **servi glebae** ойчычы ці отчычы — прыгонныя, чэлядзь нявольная, паселеная на надзелах зямлі, *гл.* **subditus**.

**globa**, ae *f* 1) правінцыйны саноўнік; 2) грашовы штраф з абвінавачанага судом. Паводле слоўніка Дзю-Канжа велічыня гэтага штрафу вызначалася коштам валоў і коней.

**globiso** 1. гуляць у кеглі ці ў більярд.

**glutinator**, oris *m* (glutino) пераплётчык.

**gogravius**, ii *m* суддзя ніжэйшай катэгорыі.

**golota**, ae *f* галота, валацуга — чалавек вольны, але неаселы.

**gomorhita**, ae *f* садаміт — той, хто ўчыніў садомскі грэх, садомію.

**Gordianus et Epimachus MM.** 10 траўня.

**Gorgonius M.** 9 верасня.

**gradus**, us *m* (gradior) 1) крок; 2) бег; ход; 3) ступень: ~ **consanguineitatis** [**stopnie pokrowieństwa** *пл.*] ступені роднасці.

**Graecus**, a, um [**греческий** *стб.*] грэцкі; праваслаўны.

**grafio**, onis *m* граф.

**grana**, ae *f s.* **granus**, i *n* 1) гран — дробная адзінка вагі золата і срэбра; 2) ~ **tinctaria, vermis granae** чарвец, барвоўка — кузурка, якая ўжывалася для фарбавання тканін у чырвоны колер.

**granaria**, orum *n pl.* 1) свіран; 2) пасада распарадчыка ў кляштары.

**granarium**, ii *n* (granum) жытніца.

**granarius**, ii *m* дворны альбо кляштарны распарадчык.

**granarorus**, i *m* гандляр збожжам.

**grangium**, ii *n* цыстэрцыянскі філіяльны кляштар.

**grania** *гл.* **granarium**.

**graniciarius**, ii *m* сусед, які мае сумежнае ўладанне.

**granicies**, ei [**obwodnica** *пл.*] 1) граніца, мяжа; 2) гранічны / межавы запіс, у якім звычайна пазначалі межы якога-небудзь маёнтка, ворнага поля, лесу і інш. Яго ўносілі ў падкаморскія кнігі ці прад'яўлялі ў земскіх судах.

**granicio** 1. 1) устанаўліваць межы; 2) размяжоўваць; 3) ставіць памежныя знакі; 4) *pass.*: межаваць, суседнічаць.

**granitialis**, e [**граничный** *стб.*] гранічны, памежны.

**granities**, ei *f* [**граница** | **грань** *стб.*] граніца, мяжа.

**granum**, i *n* 1) зерне; збожжа: **cum grano salis** з драбком солі, г. зн. з недаверам, асцярожна; 2) гран — дробная адзінка вагі высакародных металаў, 1/72 частка драхмы, *гл.* **drachma**; 3) ядро.

**graphio**, onis *m* *гл.* **grafio**.

**grassator**, oris *m* (grassor) 1) разбойнік; 2) парашкода; 3) галота; валацуга; 4) буян.

**gratia**, ae *f* (gratus) 1) [**ласка** *стб.*] ласка; зычлівасць, прыхільнасць; 2) [**милость** *стб.*] міласць; 3) ветлівасць; 4) прывілей; вызваленне ад падаткаў; 5) згода: **bona gratia** па ўзаемнай згодзе.

**gratis** *adv.* [**дармо | даром** *стб.*] дарма.

**gratum**, i *n* забеспячэнне пры якой-небудзь угодзе / здзелцы.

**gratus**, i *m гл.* **gratum**.

**grava**, ae *f* пясчаны пляж.

**gravamen**, inis *n* (gravo) 1) абцяжаранне; уціск, прыгнёт; 2) цяжкасць; 3) цяжкасці, якія прадстаўляе скаржнік на вызначэнні ніжэйшай інстанцыі суда.

**gravatim** *adv.* з абцяжараннем; з цяжкасцю.

**gravator**, oris *m* прыгнятальнік.

**gravio**, onis *m* 1) суддзя; 2) абаронца касцёла; 3) заступнік, адвакат; 4) граф.

**gravitas**, atis *f* (gravis) [**тяжкость** *стб.*] цяжар; цяжкасць.

**Gregorius Naz.** 9 траўня.

**Gregorius P.** 12 сакавіка.

**grenicia**, ae *f гл.* **granicies**.

**grensa**, ae *f* адзінка меры драўніны.

**griseus**, a, um [**серый** *стб.*] шэры.

**grossillus**, i *m* паўгрош.

**grosso** 1. высвятляць што-небудзь; пісаць пра што-небудзь падрабязней і ясней.

**grossus**, i *m* 1) [**грош** *стб.*] грош (грашовая адзінка), старажытная манета ў Польшчы і ВКЛ. Грош быў розных відаў: a) грош шырокі, залаты, b) грош шырокі срэбны, c) ~ **Pragensis** грош пражскі, d) грош літоўскі, які да панавання Жыгімонта Аўгуста змяшчаў у сабе 10 пенязяў ці дэнарыяў. Ён быў увесь час на адну чвэрць большы за сучасныя яму польскія грошы. Літоўскія грошы часам насілі таксама назву польскіх грошаў. Вартасць грошаў у розныя часы была розная: **grossorum** [**грошовый** *стб.*] грашовы; ~ **medius** паўгрош; ~ **triplex** трацяк, **medians** ~ г. зв. паўгрошак, 1/96 грыўні; 2) належная сума, плачаная ў грошах; 3) *перан.*: кошт; выдатак.

**gruarius**, ii *m* вартаўнік лесу.

**grunda**, ae *f* жолаб.

**grundalis**, is *f гл.* **grunda**.

**grus**, gruis *m* [**жорав** *стб.*] жораў, журавель.

**guarandia** *гл.* **garantia**.

**guarendatio**, onis *f* паручальніцтва.

**guastum** *гл.* **vastum**.

**gubernatoria**, ae *f* функцыя кіраўніка, кіраванне.

**gubernatrix**, tricis *f* 1) кіраўніца; 2) рэгентка; 3) няня.

**guberno** 1. 1) стырнаваць; 2) накіроўваць; кіраваць, адміністраваць; 3) здзяйсняць, выконваць; 4) пільнаваць, даглядаць; 5) здзяйсняць апеку, апекавацца; 6) клапаціцца пра добры стан чагосьці; 7) запэўніваць утрыманне.

**guerpio** 4. саступаць каму-небудзь сваё валоданне.

**guerra**, ae *f* 1) вайна; 2) спрэчка; сварка; звада; 3) марадзёрства, рабаванне. Vol. Leg. I, f. 153.

**guerricus**, a, um ваенны.

**guidagium**, ii *n* плата замест асабістага ўдзелу ў канвоі.

**Guiliemus Ep.** 8 красавіка.

**Gumbertus Ep. Golon. Conf.** 20 сакавіка.

**gunnatus**, a, um які носіць футра.

**gussa**, ae *f* ваенная прылада / машына.

**gynaeceum**, i *n* 1) месца, дзе жанчыны павінны былі ткаць адзенне для імператрыцы; 2) жанчыны, якія належалі да жаночай світы каралевы; 3) жаночы пакой; 4) сэраль (султанскі); 5) публічны дом.

**gyratio**, onis *f* 1) кручэнне; 2) выточванне, тачэнне; 3) мяжа, афіцыйна праведзеная вакол нейкай тэрыторыі.

## H

**habeo**, ui, itum, ere 1) [**мети** *стб.*] мець; валодаць, трымаць; магчы; 2) быць павінным, быць абавязаным; 3) атрымліваць; захоўваць; 4) лічыць; жадаць.

**habilis**, e (habeo) 1) зручны; прыдатны; надзейны; 2) здольны; дзейны; вынаходлівы; 3) вядомы; 4) сталы.

**habilitas**, atis *f* (habilis) 1) спрыт; 2) дарэчнасць; прыдатнасць; здольнасць; 3) уменне; 4) рамесныя правы.

**habilito** 1. 1) рабіць прыдатным; здольным; прыстасоўваць; 2) утвараць; устанаўліваць; размяшчаць; 3) рыхтаваць; 4) прызнаваць упаўнаважаным, упаўнаважваць; 5) аднаўляць у правах, рэабілітаваць.

**habitantia**, ae *f* знаходжанне; пражыванне.

**habitatus**, us *m* гл. **habitantia**.

**haeredissa**, ae *f* спадчыынніца гл. **heredissa**.

**haereditas**, atis *f* гл. **hereditas**.

**haereo**, haesi, haesurus, ere тырчаць, засядаць, сядзець; трымацца: **haerens** [**уросший** *стб.*] урослы.

**haeres**, edis *m* гл. **heres**.

**haereticus**, i *m* [**кацер** *стб.*] катар / ерэтык.

**haga**, ae *f* 1) агароджа; палісад; 2) зарослая тэрыторыя, якая з'яўляецца абароннай зонай.

**haiduco**, onis *m* гайдук.

**haiducus**, i *m* слуга, вартаўнік.

**haimfara**, ae *f* наезд, напад на дом.

**halabarta**, ae *f* алябарда.

**halla**, ae *f* гандлёвая зала.

**hallensis**, is *m* гл. **hallerus**.

**hallerus**, i *m* галер — дробная срэбная манета.

**hallimotum**, i *n* суд, які вёўся феадальным панам.
**hallus**, i *m* дробная срэбная манета.
**halsberga**, ae *f*, *m* 1) кальчуга; 2) рыцар, апрануты ў кальчугу.
**halsbergio**, onis *f* кальчуга.
**hanapa**, ae *f* ваза.
**hansa**, ae *f* 1) Ганза — саюз прыбалтыйскіх гарадоў; 2) членства ў Ганзе; 3) аплаты, збіраныя за членства ў Ганзе; 4) прыбытак, які атрымлівае публічная ўлада з права гандлю.
**hansagium**, ii *n* аплаты, якія ўносіліся на карысць Ганзы.
**hanseaticae urbes** саюз ганзейскіх гарадоў.
**hansgravius**, ii *m* ураднік Ганзы.
**harcer**, eri *m* адборны рыцар з асабістай аховы караля.
**harengaria**, ae *f* сезон лоўлі селядцоў.
**harengus**, i *m* селядзец.
**hariotus**, i *m* валацуга.
**harnascha**, ae *f* 1) рыштунак жаўнера; 2) конская збруя; 3) прылады.
**harnaschio** 1. 1) экіпіраваць; 2) узбройваць; 3) упрыгожваць.
**harpator**, oris *m* арфіст.
**harpia**, ae *f* 1) гак; 2) крывапівец; хцівы / прагны чалавек.
**hasta**, ae *f* [**древце** *стб.*] 1) дзіда, кап'ё; 2) знак уласнасці, знак гандлю, аўкцыёну: ~ **publica** продаж з публічнага торгу; ~ **censoria** адданне на водкуп.
**hastarius**, i *m* (hasta) кап'ёўнік, рыцар, узброены кап'ём.
**hastata**, ae *f* прут — мера даўжыні.
**hastator**, oris *m* рамеснік, які вырабляе дзіды.
**hastiger**, eri *m* кап'ёўнік, рыцар, узброены дзідай / кап'ём.
**hastiludialis**, e турнірны.
**hastiludium**, ii *n* турнір на дзідах / коп'ях: **hastiludii arma** кальчуга.
**hastiludo**, lusi, lusum, ere праводзіць двубой / дуэль на дзідах / коп'ях.
**hastiludor**, oris *m* рыцар, які бярэ ўдзел у турніры на дзідах / коп'ях.
**havianus**, i *m* саф'яннік — вырабляльнік скуры на саф'ян.
**havotus**, i *m* мера аб'ёму.
**hawaria**, ae *f* (фр.) страхаванне караблёў і выдаткі мараходства.
**hebdomas**, adis *f* [**неделя** *стб.*] тыдзень.
**Hebdomationis dominica** 1-я нядзеля па свяце св. Міхала (пасля 29 верасня).
**heczlo**, onis *m* памагаты ката; кат.
**Hedvigis (dies)** 17 кастрычніка.
**hekcium**, ii *n* [**chomąt** *пл.*] хамут.
**Helena V.** 15 красавіка.
**Helias** 20 ліпеня.
**helmus**, i *m* шалом, шышак.
**hemicadium**, ii *n* алейная лямпа.

**herbagium**, ii *n* гадавы падатак ад пашаў за права касіць траву ці пасвіць жывёлу.

**herbarium**, ii *n* 1) гербарый; 2) праца ў галіне батанікі; 3) месца, парослае травой; 4) права касьбы лугу.

**herbarius**, ii *m* 1) атрутнік; 2) зельнік.

**Herbarum (festum)**, свята Унебаўзяцця Найсвяцейшай Багародзіцы.

**herbaticum** *гл.* **herbagium**.

**herbaticus**, i *m* (herba) 1) аплата за права выпасу; 2) права выпасу.

**herbus**, i *m* герб.

**hercio** 1. скародзіць.

**Herculanus Ep. M.** 7 лістапада.

**hereda**, ae *f* *гл.* **heredissa**.

**heredatus**, a, um аселы.

**heredissa**, ae *f* спадчынніца.

**hereditabilis**, e прыдатны да спадкаемства / узяцця ў спадчыну лена.

**hereditalis**, e спадчынны, які падлягае ўспадкаванню / спадкаемству: **dominus** ~ дзедзічны пан, г. зн. вотчынны ўладальнік і зверхнік тэрыторыі.

**hereditarius**, a, um (hereditas) [**дедизный** | **дедичный**, **отчизный** *стб.*] дзедзічны / спадчынны, вотчынны, радавы.

**hereditas**, atis *f* (heres) 1) спадчына, спадак: ~ **luctuosa** жалобная спадчына — спадчына, якая паступала па ўзыходнай лініі роднасці, калі напр. бацька па смерці сына атрымліваў яго маёмасць, *гл. тс.* **successio tristis**; 2) спадчынная залежная ўласнасць феадальнага селяніна; 3) [**дедизна** | **дедина** | **дедицство** *стб.*] дзедзіна / спадчыннае ўладанне, радавая маёмасць; 4) аладыяльная ўласнасць.

**hereditatio**, onis *f* спадчыннае валоданне.

**hereditatorius**, a, um спадчынны, які належыць па праву спадкаемства.

**heres**, edis *m* 1) [**дедич**, **отчич** *стб.*] дзедзіч / спадчыннік, вотчыннік, дзедзічны / спадчынны ўласнік; 2) селянін.

**herescindium**, ii *n* падзел спадчыны.

**herilis**, e 1) панскі; 2) сеньёральны.

**herilitas**, atis *f* 1) шляхецтва; 2) годнасць.

**Hermes M.** 28 жніўня.

**Hermogenus, Donatus MM.** 12 снежня.

**herodius** *гл.* **erodius**.

**Hesychius conf.** 3 кастрычніка.

**hetmanus**, i *m* 1) галоўнакамандуючы; гетман; 2) зверхнік.

**Hiacinthus M.** 11 верасня.

**hiberna**, orum *n pl.* [**hyberna** *пл.*] 1) зіма; 2) зімовыя кватэры для войска; 3) гібэрна — падатак, устаноўлены на ўтрыманне войска, які першапачаткова плацілі з лана зямлі (*гл.* **laneus**) усе ўладальнікі, якія абавязаны былі даваць пастой і зімовыя кватэры войску. Ад гэтага падатку былі вызвалены шляхец-

кія і выбранецкія ўладанні, *гл.* **delectus** (Vol. Leg. IV, f. 281). У Вялікім Княстве Літоўскім пастаноўлена было ўносіць гэты падатак з каралеўскіх і духоўных уладанняў. Але духоўныя ўладанні шляхецкай фундацыі былі ад яго вызвалены (Vol. Leg. V, f. 767). У Літве-Беларусі гібэрну збіралі старасты і дзяржаўцы / арандатары, але ў Польшчы для яе збірання прызначаліся адмысловыя камісары. Яна збіралася толькі ў надзвычайных выпадках, аднак даволі часта, як гэта даказваюць гібэрнавыя рэестры Скарбовай камісіі ВКЛ.

**hibernagium**, ii *n* азімае збожжа, азіміна.

**hic**, haec, hoc *pron.* гэты, гэтая, гэтае.

**hida**, ae *f* лан, адзінка плошчы поля.

**hidagium**, ii *n* аплата за апрацоўку лана.

**hiemalis**, e (hiems) 1) зімовы; 2) бурны; 3) паўночны: **oriens** ~ *s.* **ortus** ~ паўночны ўсход; 4) азімы: ~ **decima** дзесяціна, складаная азімінай.

**hiems** (hiemps), hiemis *f* [**зима** *стб.*] зіма.

**hierarchicus**, a, um іерархічны: **actus hierarchicos exercere** выконваць абавязкі, звязаныя з касцёльнай пасадай.

**hierarchius**, ii *m* швагер, брат жонкі.

**hierodulus**, i *m* 1) слуга святыні; 2) алтарыст — духоўная асоба, якая выконвае абавязкі пры пэўным алтары і атрымлівае звязаныя з гэтым прыбыткі.

**Hieronimus Presb.** 30 верасня.

**Hilarion M.** 21 кастрычніка.

**Hilarius Ep.** (**dies**) 13 студзеня.

**hiltiscalcus**, i *m* слуга нявольны.

**Hippolitus, Concordia MM.** 13 жніўня.

**hoba**, ae *f* 1) лан — адзінка вымярэння плошчы поля: ~ **casata** ворная зямля з хатай.

**hodus**, i *m* адзінка аб'ёму сыпкіх рэчываў.

**hofmagister**, tri *m* маршалак двара; гувернёр.

**holda**, ae *f гл.* ленная павіннасць.

**holdius**, ii *m гл.* **holda**.

**holota**, ae *m* галота — беззямельны шляхціц.

**homagialis**, e залежны; абавязаны выконваць ленныя павіннасці.

**homagialis**, is *m* васал, абавязаны падпарадкоўвацца сеньёру і выконваць павіннасці на яго карысць.

**homagiarius**, ii *m* залежны; васал.

**homagicus**, a, um васальны, ленны.

**homagio** 1. 1) абцяжарваць павіннасцямі; 2) турбаваць, дакучаць.

**homagiono** 1. ушаноўваць.

**homagium**, ii *n* 1) ленная прысяга; прысяга вернасці; 2) феадальная павіннасць ленніка; служэнне ці падпарадкаванне, якім абавязаны слуга свайму пану.

**homicida**, ae *m, f* (homo+caedo) [**мужобойца, забойца** *стб.*] мужабойца / забойца.

**homicidium**, ii *n* (homicida) 1) [**головщина** *стб.*] галаўшчына — плата, кампенсаванне за забойства, разбой; 2) забойства.

**hominalicus**, i *m* 1) ленная прысяга; 2) статус васала; 3) права атрымання лена; 4) прысяга міру; 5) прысяга, якая пацвярджае дамову.

**hominatio**, onis *f гл.* **hominicium**.

**hominatus**, us *m гл.* **hominicium**.

**hominicatus**, i *m гл.* **hominicium**.

**hominicium**, ii *n* ленная прысяга, *гл. тс.* **hominium**.

**hominiscum**, i *n гл.* **hominicium**.

**hominium**, ii *n* 1) ленная прысяга, прысяга вернасці падданага; ушанаванне; 2) статус васала; 3) права атрымання лена; 4) прысяга, якая пацвярджае згоду.

**homo**, inis *m* 1) чалавек: ~ **probus / bonus** [**добрый человек** *стб.*] добры / высакародны / годны / прыстойны чалавек; 2) чалавек, селянін, слуга: ~ **se ipsum impignerans** [**закуп** *стб.*] закуп; ~ **servilis dictus puthni** [**путный человек** *стб.*] путны чалавек; ~ **adveniens** неаселы селянін, гультай; ~ **calanny** слуга каланны, каланнік; ~ **illiber / obnoxius** нявольнік; раб; ~ **regius** служка; баярын-слуга; ~ **sothny** слуга сотны, сотнік; ~ **vagabundus** лёзны (чалавек), валацуга; **homines** [**люди** *стб.*] людзі; слугі; васалы: **homines adhibiti, homines extranei** [**люди сторонние** *стб.*] людзі староннія / панятыя; **homines adventitii** [**люди похожие** *стб.*] людзі пахожыя; **homines ecclesiastici** людзі, прыпісаныя на службу якога-небудзь касцёла; **homines hereditarii** [**люди отчизные** *стб.*] людзі вотчынныя; **homines militares** [**люди земские** *стб.*] людзі земскія; **homines probi** [**люди добрые** *стб.*] добрыя / годныя / паважаныя людзі; **homines regii** каралеўскія ці скарбовыя сяляне; **homines serviles dicti puthnii** [**люди путные** *стб.*] людзі путныя — сяляне, якія выконвалі дарожныя службы; 2) жаўнер; 3) нявольнік; 4) феадальны селянін; 5) слуга.

**honestatio**, onis *f* 1) пашана, павага; 2) прынагодны падарунак феадальнаму пану.

**honestus**, a, um (honor), a, um чэсны (сталы эпітэт на азначэнне асобы нешляхецкага стану).

**honor**, oris *m* 1) [**почтивость | честь** *стб.*] пачцівасць / гонар, годнасць: **in honore conservatus** [**захованый во чсти** *стб.*] шанаваны, паважаны; 2) [**честь** *стб.*] тытул; сан.

**honorabilis**, e (honoro) правялебны (сталы эпітэт на азначэнне вышэйшага духавенства).

**honorator**, oris *m* феадальны пан, сеньёр.

**honoratus**, a, um *padi.* 1) паважны; 2) пачэсны, ганаровы; 3) шаноўны (сталы эпітэт на азначэнне шляхціца); 4) абдараваны інвестытурай.

**honorifer**, era, erum дастойны, шаноўны (сталы эпітэт на азначэнне шляхціца).

**honorosus**, a, um (honor) 1) поўны гонару; 2) сумленны, паважаны; 3) славетны (сталы эпітэт на азначэнне мешчаніна).

**honorus**, a, um (honor) 1) шаноўны; 2) ганаровы; 3) пахвальны; 4) цудоўны, прыгожы; 5) сумленны; 6) шляхетны (азначэнне мешчаніна ў дакументах).
**horatim** *adv.* па гадзінах, пагадзінна.
**hordeum** (ordeum), i *n* ячмень.
**horodnicius**, ii *m* гараднічы — кіраўнік горада ў Літве-Беларусі; бургграф.
**horoscopium**, ii *n* 1) астралябія; 2) гараскоп; 3) гадзіннік.
**horreum**, ei *n* [**гумно** *стб.*] гумно, свіран, клецъ; склад: ~ **vinarium** [**podruna** *пл.*] вінны склеп.
**hortoferale**, is *n* 1) загарода для быдла; 2) абора; 3) ~ **regale** г. зв. каралеўская абора, у якой трымалі жывы інвентар — жывёлу, занятую ў час судовага працэсу альбо тую, якая была прадметам спрэчкі.
**hortulanaria**, ae *f* сядзіба; двор.
**hortulania**, ae *f* 1) сядзіба; двор; 2) мера зямлі (некалі адпавядала аднаму лану).
**hortulanium**, ii *n* загарода, абыход.
**hortulanus**, i *m* (hortus) [**zagrodnik** *пл.*] загароднік — селянін, які не мае ворнай зямлі, а харчуецца пладамі свайго гарода. Такім сялянам дазвалялася пакідаць сваю сялібу, выплаціўшы пану г. зв. гасціннае.
**hortus**, i *m* 1) сад; парк; 2) уладанне з садам; 3) звярынец; 4) двор; 5) загарода для звяроў; 6) луг; 7) арэнда грунту.
**hospes**, itis *m* 1) [**господар** *стб.*] гаспадар; 2) [**гость** *стб.*] госць.
**hospitagium** *гл.* **hospitium**.
**hospitalaria**, ae *f* 1) лякарня; 2) карчма.
**hospitalaris**, is *m* вялікі шпітальнік (пасада ў Нямецкім ордэне).
**hospitalarius**, ii *m* 1) шпітальнік, які займаецца прытулкам для бедных і хворых; 2) кіраўнік шпіталя; 3) законнік / манах, які апякуецца ўбогімі пілігрымамі; 4) гасцінны чалавек; 5) карчмар.
**hospitale**, is *n* 1) дом для хворых, шпіталь; 2) прыманне падарожных людзей; 3) месца ці будынак у кляштарах для прыёму падарожных; 4) аплата пану ад селяніна, які пакідае вёску.
**hospitalitas**, atis *f* (hospitalis) 1) гасціннасць; 2) права феадальных уладцаў гасцяваць у дамах сваіх васалаў ці плата замест пачастунку.
**hospitamentum**, i *n* 1) памяшканне; 2) найм памяшкання.
**hospitatio**, onis *f* права феадальных уладальнікаў гасцяваць у дамах сваіх васалаў ці плата замест пачастунку.
**hospiticium**, ii *n* 1) пражыванне; 2) найм жытла.
**hospitium**, ii *n* (hospes) 1) карчма; гаспода; дом; 2) гасціннасць; пачастунак; 3) тое ж, што і **gistum**.
**hospito** 1. 1) гасцяваць у кагосьці; наведваць; 2) займаць месца; 3) каланізаваць; 4) пражываць.
**hostarium**, ii *n* 1) гадавы падатак за жытло; 2) паручальніцтва; зарука.
**hostenditium**, ii *n* 1) падатак на ваенныя выдаткі; 2) грашовая дапамога для вайсковай выправы.

**hostia**, ae *f* (hostio) 1) дзверы; вароты; брама; 2) двухстворкавыя дзверы.

**hosticum**, i *n* 1) непрыяцельскі бок; 2) краіна ці месца, занятае непрыяцелем; 3) ваенная выправа.

**hostilia**, orum *n pl.* абавязкі, звязаныя з ваеннай выправай.

**hostilis**, e (hostis) [**неприятельский** *стб.*] непрыяцельскі, варожы.

**hostiliter** *adv.* (hostilis) 1) варожа; непрыязна; 2) жорстка, акрутна; 3) шляхам ваеннай выправы.

**hostis**, is *m* [**неприятель** *стб.*] непрыяцель, вораг: **hostium** [**неприятельский** *стб.*] непрыяцельскі, варожы.

**houba**, ae *f* мера зямельнай плошчы, лан, *гл. тс.* **huba**.

**hrocus**, i *m* 1) туніка; 2) манаскі габіт / манаская шата.

**huba**, ae *f* (ад ням. **die Hube**) губа, валока. Валока гэтая складалася з 24 хелмінскіх моргаў. Нямецкія асаднікі, пакліканыя ў Рэч Паспалітую пры Аўгусту III, якія пад назвай галендраў сяліліся па ўсёй дзяржаве, атрымлівалі па валоцы, якая называлася губой, *гл.* **laneus**. У старажытнасці пад імем губы разумелі абшар зямлі, якую селянін мог узараць на працягу аднаго дня адной сахой. Пасля губа была прынята за зямельную меру, так, напр., чытаем у старажытных актах: **quatuor hubas in silvis, in pratis, in pascuis, in aquis, in aquarum decursibus** чатыры губы ў лясах, лугах, палях, водах і вадапоях і інш. Губу першапачаткова дзялілі на 30 югераў, *гл.* **iugerum**.

**Hubertus Ep.** 3 лістапада.

**Huginus P. M.** 11 студзеня.

**Hugo Ep.** 9 красавіка, 17 лістапада.

**humeletum**, i *n* вёсачка.

**humiliatio**, onis *f* (humilio) 1) прыніжэнне, зневажанне; 2) публічнае прыніжэнне вінаватага (найчасцей забойцы) і просьба аб прабачэнні; 3) ушанаванне.

**humuletum**, i *n* [**хмелище** *стб.*] хмелішча.

**humulus**, i *m* [**хмель** *стб.*] хмель.

**husbandria**, ae *f* апрацоўка зямлі, земляробства.

**hussarnicus**, a, um гусарскі.

**hussaro**, oris *m гл.* **hussarus**.

**hussarus**, i *m* гусар.

**hutmanus**, i *m* наглядчык у салянай жупе.

**hutta**, ae *f* 1) гута — прадпрыемства для ачышчэння руды і выплаўкі металаў; 2) гута шкла; 3) камянярская майстэрня; 4) сціплы дамок, хаціна, будан.

**hybrida**, ae *f* 1) метыс; 2) гібрыд; 3) пазашлюбнае дзіця, байстрык.

**hyoscyamus (-os)**, i *m* 1) *бат.* блёкат; 2) (у актах) тытунь.

**Hypapanti, Hypante (festum)** свята Аб'яўлення Пана, 2 лютага.

**hypocauston**, i *n гл.* **hypocaustum**.

**hypocaustum**, i *n* 1) пакой са скляпеннем, падаграваны знізу; 2) лазня.

**hypotheca**, ae *f* [**zastawa** *пл.*] іпатэка, заклад нерухомай маёмасці, у адрозненне ад **pignus** заклад рухомай маёмасці.

**hypothecarius**, ii *m* іпатэчны даўжнік.
**hypothecatio**, onis *f* абцяжаранне нерухомасці іпатэкай.
**hypothecatus**, i *m* закладнік.
**hypotheco** 1. закласці нерухомую маёмасць.

# I

**iacentia**, ae *f* 1) месца знаходжання; сядзіба; двор; 2) сумежныя тэрыторыі, якія належаць да нейкага ўладання.
**iaceo**, cui, citurus, ere *intr.* [**лежати** *стб.*] ляжаць.
**iacio**, ieci, iactum, ere 1) кідаць; 2) [**докинути** *стб.*] дакідаць.
**Iacobus Maior Apost**. 25 ліпеня.
**iactitatio**, onis *f* (iactito) 1) выхваляннe; 2) скарга, унесеная перад судом; судовы працэс.
**iaculum**, i *n* [**стрельба** *стб.*] стрэльба; агнястрэльная зброя: **iaculo infigere** [**застрелити** *стб.*] падстрэліць.
**iam** *adv.* [**вже | вжо** *стб.*] ужо.
**ianitor**, oris *m* (ianua) варотны, брамнік; адзвернік.
**Ianuarius Ep. Benevet. Desiderius, Sosius, Proculus, Eutyches et Acatius MM.** 19 верасня.
**ibi** *adv.* [**там** *стб.*] там; туды.
**idem**, eadem, idem [**тот же** *стб.*] той жа.
**identitas**, atis *f* (idem) 1) усялякае паўторанае дзеянне; 2) тоеснасць.
**identura**, ae *f* рукапіс, хірограф.
**idoleum**, ei *n* 1) месца культу боства; 2) паганства.
**idoneitas**, atis *f* (idoneus) здольнасць, прыдатнасць; зручнасць: ~ **locorum** зручнасць мясцовасці, мясцовая зручнасць.
**idoneo** 1. 1) правяраць; 2) прызнаваць правамоцнасць; 3) ачышчаць / апраўдваць сябе ад абвінавачвання прысягай; 4) апраўдваць кагосьці ад абвінавачванняў.
**idoneus**, a, um 1) [**годный** *стб.*] годны / прыдатны, здольны; 2) годны веры; 3) нявінны; заўсёды гатовы стаць перад судом: **idoneum se facere** ачышчаць / апраўдваць сябе ад абвінавачвання прысягай.
**Idus**, uum *f pl.* Іды. Так называўся у рымлян 15-ы дзень месяцаў сакавіка, траўня, ліпеня і кастрычніка, а ў іншых месяцах 13-ы дзень. Каб вызначыць дзень нашага месяца паводле сучаснай храналогіі, які адпавядае Ідам, лік 15 для месяцаў сакавіка, траўня, ліпеня і кастрычніка, а лік 13 для іншых месяцаў трэба павялічыць на адзінку і адняць ад яго рымскі лік Ідаў, рэшта будзе днём нашага месяца. Напр. **V Idibus Martii**: Іды ў сакавіку азначаюць 15-ы дзень. Павялічыўшы лік 15 на адзінку, пасля адымання ад 16 ліку **V** — пяці рэшта 11 будзе азначаць 11 сакавіка. **V Idibus Iunii**: у чэрвені Іды азначаюць 13-ы дзень. Павялічыўшы гэты лік на адзінку, пасля адымання ад сумы —

14 рымскага ліку **VI** — шасці рэшта 8 будзе азначаць 8 чэрвеня паводле сучаснага календара.

**Ierusalem (dominica)** 4-я нядзеля Вялікага Посту.

**Ignatius Ep. Ant. M.** 1 лютага.

**ignis**, is *m* [**огонь** *стб.*] 1) агонь; 2) хатні агмень / хатняе вогнішча; дом.

**ignitegium**, ii *n* пажарны звон.

**ignobilitas**, atis *f* (ignobilis) [**нешляхетство** *стб.*] нешляхецтва (непрыналежнасць да шляхецкага стану).

**ignobilito** 1. (ignobilis) 1) нясславіць, знеслаўляць, пазбаўляць славы; 2) наганіць шляхецтва, абвясціць не шляхціцам; 3) не шанаваць.

**ignominia**, ae *f* [**соромота** *стб.*] сарамата / сорам, ганьба.

**illatio**, onis *f* (infero) [Шасуа *пл.*] унясенне — слоўная просьба ў судзе па справе, якая нават не датычыць просьбіта. Яна выкладалася з дазволу суддзі як мага карацей і адносілася не да самой сутнасці судовага рашэння, а да акалічнасцей, выпушчаных з-пад увагі пры прыняцці рашэння. Тэрмін для ўнясення прызначаўся тры дні. Калі ўнясенне было такога кшталту, што належала змяніць рашэнне справы ў істотных яе пунктах, то ў такім разе адвакат су праціўнага боку і сам бок паддаваліся чатырохтыднёваму турэмнаму зняволенню і штрафу 1000 грыўняў. Vol. Leg. VII, f. 694.

**illibatus**, a, um 1) нязменшаны; непарушаны; 2) непашкоджаны; 3) цэлы; нескрануты: **illibata fides** нічым не заплямленая / не парушаная вернасць.

**illiber**, era, erum [**невольный** *стб.*] нявольны.

**illiber**, eri *m* 1) [**невольник** *стб.*] нявольнік; 2) [**паробок** *стб.*] парабак; чаляднік: **illiberorum** [**паробоцкий** *стб.*] парабкавы, парабацкі, чалядніцкі; 3) [**челядин** *стб.*] чалядзін / дваровы / прыслужнік.

**illibertas**, atis *f* [**неволя** *стб.*] пазбаўленне волі; няволя, рабства.

**illicite** *adv.* (illicitus) [**неслушне, неслушно** *стб.*] няслушна; неабгрунтавана; незаконна.

**illicitus**, a, um [**неслушный** *стб.*] няслушны; неналежны; недазволены; незаконны.

**illico** [**скоро** *стб.*] неўзабаве; зараз жа, адразу.

**illinc** *adv.* (illim-ce) [**оттоле | отголь** *стб.*] адтуль.

**illuminator**, oris *m* (illumino) 1) той, хто асвятляе, робіць больш светлым; 2) той, хто распаўсюджвае; 3) ілюмінатар — асоба, якая займалася аздабленнем рукапісаў.

**illumino** 1. 1) асвятляць, рабіць больш светлым; 2) *pass.*: станавіцца ясным; 3) аднаўляць зрок; 4) услаўляць; 5) упрыгожваць, аздабляць рукапісы малюнкамі; 6) ~ **aliquem extra civitatem** высвятляць кагосьці з горада, г. зн. выганяць пры запаленых свечках; 7) тлумачыць, асвятляць.

**illuster**, tra, trum *гл.* **illustris**.

**illustris**, e 1) светлы; 2) славуты, знакаміты; 3) найяснейшы (сталы эпітэт на азначэнне князя).

**ilustritas**, atis *f* 1) шляхецтва, шляхецкае паходжанне; 2) ~ **vestra** ваша вяльможнасць.
**imbannio** 4. 1) вымаць / выключаць з права; 2) праследаваць, рэпрэсіраваць, праскрыбаваць; 3) канфіскоўваць; 4) надзяляць судовай уладай.
**imbanno** 1. 1) вяртаць у скарб, канфіскоўваць; 2) адлучаць; паддаваць забароне.
**imbeneficio** 1. ператвараць касцёльныя ўладанні ў ленныя.
**imblodo** 1. засяваць поле збожжам.
**imboscamentum**, i *n гл.* **imboscata**.
**imboscata**, ae *f* засада.
**imbraciaria**, ae *f* подкуп суддзяў.
**imbreviatura**, ae *f* 1) выпіска з дакументаў; 2) рэестр, у якім натарый падаваў змест складзенага ім дакумента.
**imbrevio** 1. уносіць у інвентар.
**imburso** 1. класці ў капалёк.
**imitatio**, onis *f* (imitor) 1) наследаванне, удаванне; прытворства; 2) замест **immutatio** замена.
**Immaculata Conceptio B. V. M.** Беззаганнае Зачацце Найсвяцейшай Панны Марыі, 8 снежня.
**immaioro** 1. павялічваць; памнажаць, прымнажаць.
**immediate** *adv.* 1) блізка, тут жа побач, у непасрэдным суседстве; 2) толькі што, зараз, непасрэдна перад; 3) непасрэдна, прама, без пасрэдніцтва; 4) па праву блізкасці.
**immelioro** 1. паляпшаць.
**imminuo**, ui, utum, ere 1) [**вменшати | вменшити; понижати** *стб.*] змяншаць, памяншаць, прымяншаць; прыніжаць: **non** ~ [**розмножати** *стб.*] размнажаць; пашыраць; 2) [**уменшати ся** *стб.*] памяншацца.
**immunimentum**, i *n* 1) звальненне ад цяжараў; 2) дакумент, які пацвярджае такое звальненне.
**immunio** 4. 1) забяспечваць; умацоўваць; 2) рабіць бяскарным праз наданне адпаведнага прывілею.
**immunis**, e [**прожный** *стб.*] вызвалены, вольны.
**immunitarius**, a, um які мае прывілей беспакаранасці.
**immunitarius**, ii *m* дзяржаўца / арандатар касцёльнай маёмасці.
**immunitas**, atis *f* (immunis) 1) [**слобода** *стб.*] свабода, воля; вольнасць; 2) звальненне ад грамадскіх цяжараў духоўных ці шляхецкіх уладанняў.
**immunitatio**, onis *f* свабода ад падаткаў, службаў і інш., *гл. тс.* **immunitas**.
**impedimentum**, i *n* (impedio) [**перенагабанье** *стб.*] крыўда; знявага; прыніжэнне.
**impedio** 4. (pes) [**перекازити** *стб.*] казіць / псаваць; перашкаджаць.
**impendo**, pendi, pensum, ere 1) выдаткоўваць, растрачваць; 2) ужываць, прыкладаць; прысвячаць; 3) не выплачваць доўгу.

**impensa**, ae *f* (impensus) [**наклад** *стб.*] выдаткі; сродкі; рахунак.
**imperatio**, onis *f* (impero) 1) загад; даручэнне; 2) свабода распараджэння.
**imperatura**, ae *f* годнасць імператара.
**imperialis**, is *m* імперыял — залатая манета.
**imperialitas**, atis *f* імператарская ўлада.
**imperium**, ii *n* (impero) 1) улада: ~ **mixtum** сярэдняя інстанцыя суда; 2) вярхоўная ўлада; вышэйшае права.
**imperpetuus**, a, um 1) нетрывалы; непастаянны; 2) вечны.
**impetens**, ntis *m* пазоўнік / існец (як працэсуальны бок).
**impetentia**, ae *f* юрыдычнае дамаганне.
**impetitia**, ae *f гл.* **impetitio**.
**impetitio**, onis *f* 1) дамаганне, патрабаванне; 2) атака; напад; замах: ~ **iurisdica** судовае праследаванне.
**impetitor**, oris *m* нападнік, які гвалтам чаго-небудзь дамагаецца.
**impetro** 1. 1) [**просити** *стб.*] прасіць; патрабаваць; 2) [**впросити | выпросити | упросити; выпрохати | упрохати** *стб.*] упрошваць, выпрошваць.
**impignerantia**, ae *f* незаконнае заняцце нерухомасці.
**impignero** 1. 1) [**запродати, заставити** *стб.*] запрадаваць / закладаць: **impigneratus** [**заставным обычаем** *стб.*] у якасці закладу; 2) [**закупати | закупити** *стб.*] закупляць / браць у заклад: **se ipsum impignerans** [**закупленый | закупный** *стб.*] закуплены / закладзены.
**impignoro** 1. *гл.* **oppignoro**.
**implodo**, —, —, ere 3. (*sc.* **culpam**) прыпісваць віну, звінавачваць.
**impono**, posui, positum, ere 1) [**вчинити | учинити | чинити** *стб.*] чыніць, рабіць; выконваць, здзяйсняць; прычыняць, наносіць; паступаць; 2) абвяшчаць; прадстаўляць; 3) складаць; 4) адпраўляць.
**impos**, otis *adj.* 1) які не валодае; 2) неапанаваны.
**imposita**, ae *f* падатак.
**impossessionatio**, onis *f* уводзіны ў валоданне.
**impostus**, us *m* 1) падман; 2) падробка.
**impraemeditate** *adv.* без папярэдняга абмеркавання, неразважна, неабдумана.
**impraestatum**, i *n* пазыка камусьці.
**impraetermisse** *adv.* без прамаруджання і адкладання.
**impraevaricabilis**, e 1) недатыкальны, непарушальны; 2) непарушны; трывалы; заўсёдны.
**impraevaricandus**, a, um *гл.* **impraevaricabilis**.
**impressio**, onis *f* (imprimo) 1) націсканне; 2) водціск, адбітак; 3) [**impressa** *пл.*] націск; 4) уражанне.
**impretiatio**, onis *f* найманне; арэнда.
**improcuratus**, a, um пакінуты; пазбаўлены; забыты.
**impropero** 1. выкрываць; дакараць; ганіць.
**improprietarius**, ii *m* не ўласнік, які не мае ўласнасці.

**improprio** 1. вызначаць; акрэсліваць.

**improvide** *adv.* (improvidus) [**неопатрне** *стб.*] неабачліва; нядбайна.

**improvidentia**, ae *f* [**неопатрность** *стб.*] неабачлівасць; нядбайнасць, халатнасць.

**imprudenter** *adv.* [**неумысльне** *стб.*] ненаўмысна.

**impublico** 1. канфіскоўваць, аддаваць у скарб.

**impulso** 1. 1) папіхаць; падштурхоўваць; 2) пабуджаць; 3) узбуджаць.

**In albis (dominica)** у белых, 2-я нядзеля па Вялікадні.

**in** *praep.* [**во | вов** *стб.*] у, ва, на, па:~ **antecessum** [**z góry** *пл.*] наперад, загадзя, не да заканчэння тэрміну; ~ **bannum mittere** канфіскоўваць; ~ **condicto** змовіўшыся, з агульнай згоды; у намеры, у змове; ~ **continenti** [**скоро** *стб.*] неўзабаве; зараз жа, адразу; у гэты час, цяпер; ~ **mora** [**w zwłoce** *пл.*] у прамаруджанні; паставіць кагосьці **in mora,** г. зн. запатрабаваць ад кагосьці даставіць, напр., якія-небудзь ужо прададзеныя тавары і даставіць іх у прызначаны тэрмін, у адваротным выпадку ён павінен быў аплаціць страты.

**In capite quadragesimae (dominica)** на чале (у галаве) саракадзённага (посту), апошняя нядзеля перад пачаткам Вялікага Посту.

**In excelso (dominica)** на вышынях, 1-я нядзеля па Аб'яўленні Пана.

**In media quadragesimae (dominica)** у палове саракадзённага (посту), 4-я нядзеля Вялікага Посту.

**inactito** 1. уносіць у публічныя акты.

**inadvertens**, entis *adi.* [**небачный** *стб.*] няўважлівы; нядбайны; пагардлівы.

**inante** *adv.* 1) перад; 2) перад тым, раней; 3) напрыканцы; на будучы час.

**inantea** *гл.* **inante**.

**inantesto** 1. гарантаваць; засцерагаць.

**inappellabilitas**, atis *f* вынятак ад апеляцыі, непадлегласць апеляцыі. Судовыя вызначэнні гродскіх і земскіх судоў не падлягалі апеляцыі па справах, якія абазначаліся наступнымі тэхнічнымі тэрмінамі: a) **simplicis debiti** справы аб простым доўгу, *гл.* **obligatio**, b) **expulsionis** пра выгнанне з уладання, c) **tenutae** пра часовае валоданне каралеўскім маёнткам, d) **extraditionis subditorum** пра выдачу збеглых сялян, e) **decimarum** пра дзесяціны, f) **recentis criminis** пра свежае крымінальнае злачынства, калі, напр., забойца быў злоўлены на ўчынку, g) **iuris, quod supra 1000 florena non extenditur** справа аб суме, якая не перавышае 1000 злотых. Constit. an. 1784, f. 19. Decreta.

**inaurator**, oris *m* (inauro) [**pozłotnik** *пл.*] пазалотнік, які пакрывае золатам металы, дрэва.

**inavisatus**, a, um (верагодна, ад фр. **aviser**) неразважны; непрадбачлівы.

**inbannio** 4. 1) вяртаць у скарб, канфіскоўваць; 2) адлучаць; паддаваць забароне.

**inbeneficiatus**, i *m* леннік.

**inbeneficio** 1. надаць бэнэфіцый альбо лен.

**inbladamentum**, i *n* сяўба.

**inbladatura**, ae *f* 1) сяўба; 2) засеянае поле.
**inblado** 1. сеяць.
**inbreviatio**, onis *f* спіс; рэестр.
**inbullo** 1. апячатваць.
**inburso** 1. 1) выплачваць; 2) набываць ва ўласнасць безгаспадарчую маёмасць.
**incapso** 1. складаць у рэліквіяр.
**incarceratio**, onis *f* [**нятство** *стб.*] арышт; зняволенне.
**incarcero** 1. 1) кідаць у вязніцу; трымаць у зняволенні; 2) абкладаць секвестрам; 3) зачыняць.
**Incarnationis festum** свята Звеставання Найсвяцейшай Багародзіцы.
**incastello** 1. 1) умацоўваць; агароджваць валам, надаваць чаму-небудзь выгляд крэпасці; 2) ~ **aliquem** трымаць кагосьці ў зняволенні ў замку.
**incathedro** 1. 1) узводзіць на катэдру / на пасад як біскупа; 2) ставіць на ўніверсітэцкую катэдру.
**incautiono** 1. 1) даваць у заклад, у забеспячэнне; 2) ручацца за чужы доўг.
**incendium**, ii *n* (incendo) [**пожар | пожога** *стб.*] пажога / пажар; агонь.
**incendo**, cendi, censum, ere [**спалити** *стб.*] паліць, спальваць.
**incenseo**, sui, sum, ere пускаць у гадавы прыбытак, у арэнду, на працэнты.
**incessio**, onis *f* здольнасць хаджэння; хада; ход: ~ **popularis** абыход ці агляд уладання з дасведчанымі і сумленнымі людзьмі.
**inchartatio**, onis *f* перанясенне ўласнасці на добры / уладанні праз уручэнне дакумента.
**inchartulatio**, onis *f* пісьмовы дакумент.
**inchoo** 1. [**почати** *стб.*] пачынаць.
**incido**, cidi, ere 1) [**впадывати | впасти | упадывати (в вину)** *стб.*] упадаць: ~ **infirmitatem** [**рознемочися** *стб.*] расхварэцца; 2) рабіць праступак; наклікаць пакаранне, падлягаць (штрафу).
**incippatio**, onis *f* закоўванне ў калодкі.
**incippo** 1. 1) атачаць палісадам; 2) закоўваць у калодкі.
**incisio**, onis *f* (incido) 1) насечка, засечка; 2) адцінак; 3) патрабаванне; пабор; 4) права высякаць дрэвы ў лесе; 5) [**poręb** *пл.*] павіннасць селяніна секчы дрэвы ў лесе для пана.
**incisor**, oris *m* (incido) [**krajczy** *пл.*] крайчы — асоба пры двары караля, абавязкам якой было кроіць / рэзаць і сартаваць мяса пры каралеўскім стале. Крайчыя былі: вялікі каронны і літоўскі.
**incisura**, ae *f* (incido) *гл.* **incisio**.
**incisus**, us *m* 1) падразанне, адсяканне; 2) права высечкі ў лесе.
**incitatio**, onis *f* (incito) [**пощеванье** *стб.*] нацкоўванне.
**Inclina, Domine (dominica)** схілі, Пане — 15-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.
**inclusa**, ae *f* пустэльня — будынак, у якім жывуць пустэльнікі.
**inclusagium**, ii *n* *гл.* **inclusa**.

**inclusoria** *гл.* **inclusa**.

**inclusoriae**, arum *f pl.* аплата за выкуп быдла, занятага ў шкодзе.

**inclusus**, i *m* пустэльнік — манах, які паддаў сябе больш строгай рэгуле, замкнуўшыся ад свету.

**incola**, ae *m* (incolo) [**тубылец** *стб.*] тубылец / тутэйшы, карэнны жыхар.

**incompatibilia**, ium *n pl.* несумяшчальнае, несумяшчальнасць — закон, паводле якога: a) ніякі каштэлян і аніякі ваявода не мог займаць пасады старасты там, дзе праводзіліся суды, b) пасаду старасты можа атрымаць толькі тубылец, але не замежнік. Vol. Leg. I, f. 527.

**incompos**, e які не валодае; які не ўдзельнічае, тое ж, што і **impos**.

**incondignus**, a, um няправільны; несправядлівы.

**inconvenio** 4. пазываць / выклікаць у суд; абвінавачваць.

**inconvulse** *adv.* нязменна; пастаянна, стала; бесперапынна.

**increpatio**, onis *f* (increpo) 1) пакаранне; 2) перасцярога; пагроза; 3) пакаранне; 4) (аб)лаянне даўжніка; 5) ~ **nobilitatis** нагана шляхецтва / абвінавачванне ў нешляхецтве; 6) знявага, абраза.

**increpo** 1. выкрываць; абвяргаць: ~ **sententiam** абвяргаць меркаванне.

**incriminatio**, onis *f* 1) недахоп віны, нявіннасць; 2) санкцыя, пакаранне; 3) фальшывае абвінавачванне.

**incroco** 1. вісець.

**incubator**, oris *m* (incubo, are) 1) руплівец; 2) несправядлівы ўладальнік; 3) тыран.

**inculpatus**, a, um [**inkulpat** *пл.*] абвінавачаны; абскарджаны.

**inculpo** 1. [**винити | обвиняти, вину дати, помовити** *стб.*] вінаваціць, звінавачваць, абвінавачваць; абмаўляць, абгаворваць; караць: **inculpatus** [**обвиненый | обвинный** *стб.*] абвінавачаны.

**incuratus**, i *m* асоба, якой даручана апека над касцёлам; прыходскі святар; пробашч.

**incuria**, ae *f* [**недбалость, сплошенство** *стб.*] нядбаласць / нядбайнасць.

**incuro** 1. рабіць прыходскім святаром.

**incurrimentum**, i *n* 1) канфіскацыя; 2) *гл.* **incursio**.

**incurro**, curri, incursum, ere 1) убягаць; набягаць; 2) нападаць; 3) прападаць; 4) [**впадывати | упадывати | впасти (в вину)** *стб.*] упадаць у віну / рабіць праступак; падлягаць (штрафу); наклікаць пакаранне: **incursa terra** зямля, падлеглая канфіскацыі.

**incursio**, onis *f* (incurro) 1) нашэсце, напад, набег; 2) штраф.

**incursus** *гл.* **incursio**.

**incurtis**, is *f* 1) двор; маёнтак; сельскае жытло; калонія, асада; 2) тое ж, што і **curtis**.

**indago**, inis *f* 1) месца ці абшар зямлі, агароджаны плотам; 2) абгароджаны лясок; 3) оступ / аблава.

**indebitatio**, onis *f* запазычанасць.

**indelatus**, a, um неадкладны.

**indentatus**, a, um зубчасты — звычайна ў дачыненні да дакумента, *гл. тс.* **charta**.

**indentura** рукапіс ці рукапісны зубчасты дакумент, *гл. тс.* **charta**.

**indicator**, oris *m* [**сок** *стб.*] сок — шпег, даносчык.

**indico** 1. *intens.* [**положити** *стб.*] прызначаць; вызначаць, устанаўліваць.

**indictio**, onis *f* (indico) 1) наказ; 2) абвяшчэнне; 3) накладанне падатку; падатак; плата; 4) індыкт — пятнаццацігадовы цыкл, злічэнне па пятнаццацігоддзям, устаноўленае ў 313 годзе пры Канстанціну Вялікім. Індыктаў адрозніваюць два віды: канстанцінопальскі, які пачынаецца з 1 верасня, і рымскі — **indictio Romana**, што пачынаецца з 1 студзеня. Паводле грэцкага летазлічэння рахунак індыктам пачынаецца ад Стварэння Свету. Таму, каб вызначыць індыкт, які адпавядае дадзенаму году, дадаюць да яго 5508 гадоў, што мінулі да Нараджэння Хрыста, і суму дзеляць на 15: астача будзе індыктам дадзенага года, а дзель пакажа лік мінулых індыктаў. Так (1872 + 5508)/15 = 7380/15 = 492; астача нуль паказвае, што індыкт 1872 года = 15. Гэткім жа чынам знаходзім індыкт 1875 года: (1875 + 5508)/15 = 7383/15 = 492; астача тры паказвае, што індыкт 1875 года = 3. Таго ж самага дасягнём, дадаўшы да дадзенага года пасля Н. Хр. 3 і падзяліўшы суму на 15, паколькі першы год індыкта быў за 3 гады перад Н. Хр. Так звычайна вызначаецца рымскі індыкт. Паколькі канстанцінопальскі індыкт пачынаецца з 1 верасня, то знойдзены індыкт, які адпавядае дадзенаму году, мае сваё значэнне з 1 студзеня да 1 верасня дадзенага года; з 1 верасня, якім пачынаецца новы вераснёўскі год да 1 студзеня наступнага года, індыкт большы за знойдзены на адзінку; 5) гадавы ўраджай, харчовыя прыпасы; 6) [**indykcya** *пл.*] умяшанне трэцяй асобы паміж двума бакамі, якія маюць справу ў судзе, *гл. тс.* **interventio**.

**indicto** 1. абвінавачваць, вінаваціць.

**indictum**, i *n* 1) наказ; эдыкт; 2) індыкт, *гл. тс.* **indictio**; 3) прызначаныя таргі; 4) пракламацыя.

**indictus**, a, um *part.* [**положоный** *стб.*] прызначаны, устаноўлены.

**indiculum**, i *n гл.* **indiculus**.

**indiculus**, i *m* 1) кароткая адозва; 2) кароткі ліст; 3) нататка, запіска, якой штонебудзь прадпісваецца.

**indigena**, ae *m* 1) [**тубылец** *стб.*] тубылец / тутэйшы, карэнны жыхар; 2) нованабілітант; шляхціц-іншаземец.

**indigenatus**, us *m* [**indygenat** *пл.*] права на тубыльства ці грамадзянства, а ў Рэчы Паспалітай права на дваранства ці шляхецтва. Яно пацвярджалася на соймах.

**indignibilitas**, atis *f* подласць.

**indignus**, a, um няварты; непрыдатны.

**indispensabiliter** *adv.* няўхільна, непазбежна; неабходна.

**indivisio**, onis *f* 1) непадзельнае; непадзельнасць; 2) адсутнасць спадчыннай долі, спадчыннага надзелу.

**indivisionalis**, е які застаецца з сям'ёй у маёмаснай супольнасці.

**indivisus**, a, um [**недельный | нерозделеный | нероздельный** *стб.*] непадзельны; непадзелены.

**indoles**, is *f* 1) здольнасць; прыроджаная асаблівасць; схільнасць; 2) *перан.*: спадчыннасць; 3) малады чалавек; 4) ганаровае права маладога князя.

**indominicatio**, onis *f* маёмасць феадала, якая застаецца пад яго непасрэдным кіраваннем.

**indominicatus**, i *m* непасрэдны васал.

**indominico** 1. адымаць ад каго-небудзь часовае валоданне маёнткам і вяртаць яго вотчынніку: **indominicata possessio** вольнае, не абцяжаранае ніякімі падаткамі ўладанне, дадзенае кляштару ці заслужаным вайсковым асобам, *гл.* **terra salica**.

**indoto** 1. забяспечваць.

**inducendus**, a, um [**положоный** *стб.*] прызначаны; устаноўлены.

**inducta**, ae *f* 1) тавары, увезеныя з-за мяжы; 2) увознае, мыта ад увазных тавараў, устаноўленае ў 1643 годзе. Vol. Leg. IV, f. 65.

**inductio**, onis *f* (induco) 1) увядзенне, увод; 2) агляд якога-небудзь месца прысяжнымі; 3) увод у валоданне: ~ **negotii**. Так называўся судовы вырак, паводле якога бакам, якія спрачаюцца, прадпісвалася скончыць справу самім без далейшых унясенняў. Так напр., калі была спрэчка паміж суцяжнымі бакамі і суд не мог канчаткова вырашыць яе, то ён прызначаў следства ці загадваў скласці карту спрэчнай зямлі, і калі пасля ўсяго гэтага бакі не пагаджаліся, тады пісар суда падчас пасяджэння зноў выкладваў гэтую справу і суд вырашаў яе наступнай формулай: **iudicium partibus negotium inducere mandat** суд прадпісвае бакам, каб яны самі паміж сабой разабраліся. Гэты вырак у пісьмовым выглядзе перасылаўся бакам.

**inductor**, oris *m* (induco) возны, *гл. тс.* **ministerialis generalis**.

**inductrix**, tricis *f* 1) спакусніца; 2) тая, якая ўводзіць у валоданне рэччу.

**inductum**, i *n гл.* **inductus**.

**inductus**, us *m* [**indukt**, **rozprawa** *пл.*] распачынанне справы ў судзе, паведамленне суду ці прадстаўленне ў судзе дакументаў і ўказанняў на ўрадавыя пастановы, на якіх спрачальныя бакі грунтуюць свой працэс.

**Indulgentiae dies** Таемная Вячэра.

**Indulgentiae hebdomada** тыдзень ласкі ці прабачэння, Гарачы тыдзень.

**indulgeo**, dulsi, dultum, ere *intr.* 1) [**взычити | узычати** *стб.*] узычаць / даваць; падаваць; 2) рачыць / прызваляць / рабіць ласку, жадаць.

**indusium**, ii *n* (induo) кашуля (жаночая). У актах гэты тэрмін часта ўжываецца замест назвы мужчынскай кашулі — **subucula**.

**indutiae**, arum *f* [**inducie** *пл.*] перамір'е.

**inefficax**, cacis 1) нядзейсны; беспаспяховы, марны; недастатковы; 2) бездапаможны; слабы; 3) неправамоцны, які не мае законнай сілы.

**inequitatio**, onis *f* [**inekwitacya** *пл.*] інэквітацыя — завалоданне чыімсьці маёнткам паводле вызначэння суда ці ў выніку дамовы, называнай абліґацыйным ці інэквітацыйным запісам, *гл.* **obligatio**.

**infactibilitas**, atis *f* недзеяздольнасць; няўмеласць.

**infaidio** 1. выступаць супраць феадала.

**infamatus**, a, um [**заганеный | зганеный | наганеный | приганеный** *стб.*] зганены / зганьбаваны.

**infamia**, ae *f* (infamis) [**bezecność** *пл.*] знеслаўленне, пазбаўленне гонару — так называлася ў старажытных польскіх законах пакаранне за крымінальныя злачынствы. Гэтаму пакаранню паддаваліся адсутныя злачынцы. Але калі б злачынец стаў ці быў пастаўлены перад судом, то суд паддаў бы яго смяротнаму пакаранню ці працягламу турэмнаму зняволенню. Ранейшыя польскія законы прадпісвалі судовым і выканаўчым уладам лавіць гэткіх людзей і паводле вызначэння суда паддаваць іх пакаранням (Vol. Leg. II, f. 1218). А Статут ВКЛ не толькі не паддае адказнасці таго, хто б забіў інфаміса / пазбаўленага гонару ці выволанца / выгнанца, але і вызваляе яго ад платы галаўшчыны: Трафит ли ся кому кольвек его забити, за такого выволанца забитье нихто головщизны платити не будет повинен (Разд. XI, арт. 4). Мяркуючы па гэтым, адрозненне паміж баніцыяй ці выволаннем і інфаміяй палягала на тым, што баніцыі паддаваліся злачынцы, якія былі прысутнымі, а інфаміі — тыя, месца знаходжання якіх было невядомае. Тым часам для тых і іншых існаваў адзін і той жа закон: **infames proscripti et banniti, legitime condemnati** як палякі ў Літве-Беларусі, так і ліцвіны-беларусы ў Польшчы не могуць мець месца для жыхарства; наадварот, кожны законным парадкам павінен выконваць над імі судовы прысуд. Vol. Leg. II, f. 1285.

**infectus**, a, um не зроблены; не выкананы: **infectis rebus** не зрабіўшы справы; **facta et infecta** бы́лі і небыліцы.

**infedia**, ae *f* хлусня; падман.

**infeo** 1. ператвараць у феадальнае валоданне.

**infeodatio**, onis *f* адданне ў лен.

**infeodatus**, i *m* васал.

**infeodo** 1. ператвараць у феадальнае валоданне.

**inferenda**, ae *f* 1) аплата натурай альбо грашамі на карысць караля; 2) гадавы падатак на карысць касцёла альбо кляштара.

**inferior**, ius [**нижний** *стб.*] ніжэйшы.

**infero**, intuli, illatum, inferre 1) уносіць; прыносіць; 2) [**починити, вделати** *стб.*] чыніць, прычыняць; вырабляць; 3) [**деети ся | делати ся | деяти ся** *стб.*] рабіцца, дзеяцца.

**infesto** 1. (infestus) абражаць; нападаць.

**infeudo** 1. аддаваць у леннае валоданне.

**infidelis**, e няверны (сталы эпітэт на азначэнне нехрысціяніна).
**infiducio** 1. закласці.
**infimus**, a, um [**нижший** *стб.*] найніжэйшы.
**infirmitas**, atis *f* [**немоц, хороба** *стб.*] немач, хвароба.
**infirmus**, a, um [**немоцный, хорый** *стб.*] немачны / нямоглы, хворы.
**infisco** 1. 1) канфіскоўваць, забіраць на карысць скарбу; 2) прымаць; 3) аддаваць у валоданне; 4) выплачваць.
**inforesto** 1. 1) заганяць у кароўнік чужое быдла, занятае ў шкодзе; 2) выкараняць лес.
**informatio**, onis *f* (informo) 1) уяўленне, паняцце; 2) тлумачэнне; 3) паведамленне, абвяшчэнне; 4) [**наука** *стб.*] указанне.
**infortiamentum**, i *n* умацаванне; фартыфікацыя.
**infortio** 1. 1) умацоўваць; 2) павялічваць каштоўнасць манеты; 3) гвалціць жанчыну.
**infosso** 1. аточваць ровам.
**infra** *adv.* [**нижей** *стб.*] ніжэй.
**infrascriptus**, a, um [**писаный** *стб.*] (ніжэй) названы, указаны, памянёны, згаданы.
**ingannum**, i *n* падман.
**ingenuus**, a, um 1) народжаны ад вольных бацькоў; вольны; 2) высакародны *гл.* **capillatus**; 3) вольнаадпушчаны; 4) далікатны; 5) адукаваны; 6) шчыры, сумленны; 7) які паходзіць з шляхецкага роду; 8) тытул адукаваных людзей.
**ingenuus**, i *m* галота, беззямельны ці занепалы шляхціц.
**ingero**, gessi, gestum, ere [**уступати, вступати ся | вступовати ся | уступати ся** *стб.*] уступаць, уваходзіць; урывацца; перакрочваць, перасягаць; авалодваць.
**ingratitudo**, dinis *f* (ingratus) 1) няўдзячнасць; 2) незадаволенасць; 3) страта прыхільнасці, няласка; 4) гнеў, абурэнне.
**ingredior**, gressus sum, gredi [**войти** *стб.*] уваходзіць.
**ingressio**, onis *f* (ingredior) 1) уваход; 2) уводзіны; 3) **turris** ~ зачыненне / увязненне ў вежы; 4) хада; крок; 5) напад.
**ingrossator**, oris *m* натарый.
**ingrosso** 1. 1) патаўшчаць; павялічваць; 2) гусцець; 3) пісаць што-небудзь ясней; 4) уносіць якую-небудзь пісьмовую ўгоду ў актавыя кнігі; 5) прыпісваць; спісваць, капіяваць (і ўключаць у кнігі).
**inh(a)eredito** 1. 1) атрымліваць у спадчыну; 2) перадаваць як спадчыну; 3) уводзіць кагосьці ў валоданне.
**inhabilitas**, atis *f* 1) няздольнасць; непрыдатнасць; 2) пазбаўленне кагосьці правоў.
**inhabilito** 1. 1) рабіць няздольным; 2) пазбаўляць свабоды дзеяння; 3) пазбаўляць права на нешта: **leges inhabilitantes** права, якое пазбаўляе здольнасці рабіць нейкія дзеянні.

**inhabitator**, oris *m* (inhabito) насельнік, жыхар.

**inheredo** 1. аддаваць у валоданне, а менавіта ў спадчыннае валоданне.

**inhibeo**, bui, bitum, ere 1) [**боронити | заповедати** *стб.*] заказваць / забараняць; запавядаць / абвяшчаць; 2) [**приказати | приказывати** *стб.*] наказваць, загадваць.

**inhibitio**, onis *f* (inhibeo) [**заповедь** *стб.*], [**inhibicya** *пл.*] 1) запаведзь / абвяшчэнне; забарона; 2) інгібіцыя — прыпыненне справы, забарона ці адтэрміноўка судаводства паводле распараджэння вышэйшай улады. Такія інгібіцыі забаронены законам у 1496 годзе. Vol. Leg., a. 1496, I, f. 249; 3) заява, аб'ява.

**inhonestus**, a, um [**неучтивый** *стб.*] непачцівы; які не мае гонару, годнасці.

**inhonoro** 1. (inhonorus) няславіць, знеслаўляць; ганіць, ганьбіць.

**inimicor** 1. (inimicus) рабіцца ворагам; варагаваць.

**initiale**, is *n* ініцыял, першапачатковя літара ў сярэднявечных ілюмінаваных кнігах.

**initio** 1. (initium) 1) пачынаць; 2) вучыць пачаткам; 3) прысвячаць.

**Initium quadragesimae (dominica)** пачатак саракадзённага посту, 1-я нядзеля Вялікага Посту.

**initium**, ii *n* (ineo) [**початок** *стб.*] пачатак.

**iniungo**, iunxi, iunctum, ere 1) злучаць; з'ядноўваць; 2) далучацца; удзельнічаць; 3) [**поставити** *стб.*] прызначаць, устанаўліваць; ставіць; 4) [**обослати** *стб.*] апавяшчаць, абвяшчаць.

**iniuria**, ae *f* (iniurius) 1) [**кривда** *стб.*] крыўда, несправядлівасць; шкода: **iniuria affectus** [**скривжоный** *стб.*] скрыўджаны / пацярпелы; 2) [**вина | винность** *стб.*] віна, доўг; правіна, правіннасць, праступак; злачынства.

**iniurio** 1. (iniuria) крыўдзіць, чыніць крыўду.

**iniuste** *adv.* (iniustus) [**несправедливе** *стб.*] несправядліва; незаконна; няслушна.

**iniustus**, a, um [**несправедливый** *стб.*] несправядлівы; незаконны; няслушны.

**inlatero** 1. межаваць.

**inluster** *гл.* **illustris**.

**inmaioro** 1. павялічваць; пашыраць.

**inmelioro** 1. 1) паляпшаць; 2) павялічваць каштоўнасць.

**inmuro** 1. 1) замуроўваць; 2) атачаць мурам.

**inmutuatus**, a, um пазычаны.

**innatus**, a, um прыродны; уласцівы; сапраўдны.

**Innocentes MM.** 28 снежня.

**innocentia**, ae *f* (innocens) [**невинность** *стб.*] нявіннасць, невінаватасць.

**Innocentius** P. 28 ліпеня.

**innormo** 1. падпарадкоўваць правілу, унармоўваць.

**innotescentia**, ae *f* [**innotescencya** *пл.*] пазоў / выклік у суд; апавяшчэнне; позва.

**innotescentialis**, e датычны пазову / выкліку ў суд.

**innotesco**, notui, —, ere абазначаць; рабіць вядомым.

**innoxio** 1. вызваляць ад віны; даводзіць невінаватасць.

**inoboediens**, entis (inoboedio) [**непослушный** *стб.*] непаслухмяны; нядбайны.

**inoboedientia**, ae *f* (inoboediens) [**непослушенство** *стб.*] непаслушэнства, непаслухмянасць.

**inobservatio**, onis *f* [**inobserwancya** *пл.*] незахаванне прадпісанняў, правіл.

**inofficiosus**, a, um 1) які не выконвае сваіх абавязкаў; 2) нядбайны; 3) самавольны; незаконны.

**inpagino** 1. запісаць.

**inpeioro** 1. пагаршацца.

**inplacito** 1. 1) выклікаць; 2) клікаць.

**inpostmodum** нарэшце; напрыканцы.

**inpraescriptibilis**, e не падлеглы праву даўнасці.

**inprisonamentum**, i *n гл.* **inprisonisatio**.

**inprisonisatio**, onis *f* зняволенне.

**inprisono** 1. трымаць у зняволенні.

**inprivilegiatus**, a, um пазбаўлены прывілеяў.

**inpublico** 1. публікаваць; абвяшчаць.

**inquanto** 1. прадаць на аўкцыёне.

**inquestio**, onis *f* судовыя допыты; следства.

**inquesto** 1. расследаваць судова.

**inquilinus**, i *m* 1) жыхар; 2) лёкатар / наймальнік; 3) колан / асаднік; 4) чалавек неаселы, які жыве па розных гарадах. Vol. Leg. I, f. 367; 5) чужаземец.

**inquirens**, entis *m* [**inkwirent** *пл.*] судовы следчы.

**inquiro**, quisivi, quisitum, ere [**искати** *стб.*], [**inkwirować** *пл.*] 1) дамагацца; спаганяць; 2) шукаць, расшукваць, адшукваць; расследаваць; прад'яўляць іск.

**inquisitio**, onis *f* (inquiro) расследаванне, следства. Напр.: «**Nos, iudices castrenses necessariam inquisitionem, mutuo partium sumptu, sub poenis irremissibilibus contraventionis, expediendam decernimus**». «Мы гродскія суддзі прызначаныя правесці неабходнае следства на ўласны кошт бакоў пад пагрозай немінучых спагнанняў з непаслухмяных».

**inquisitor**, oris *m* (inquiro) судовы следчы.

**inscissio**, onis *f* памежны знак уладання, выразаны на дрэве.

**inscribo**, scripsi, scriptum, ere [**записати | записывати | отписати | отписывати | пописати | пописывати** *стб.*] запісваць.

**inscriptio**, onis *f* (inscribo) 1) надпіс; 2) упісанне; 3) [**запис** *стб.*] запіс; 4) [**лист** *стб.*] ліст, грамата, пісьмовы дакумент; пісьмовае абавязацельства: ~ **certi debiti** [**zapis obowiązku długu** *пл.*] пісьмовае пазыковае абавязацельства, калі той, хто пазычае грошы ці якую-небудзь іншую рухомую рэч, абавязваецца: у першым выпадку да выплаты пазычанай сумы, а ў другім да вяртання пазычанай рэчы ва ўмоўлены тэрмін, *гл.* **obligatio**; 5) дакумент, дароўны запіс; 6) абвінавачанне.

**inscriptuale**, is *n* аплата за ўнясенне справы ў судовую кнігу.

**inscriptum**, i *n* 1) надпіс; 2) знак, пазнака; 3) назва кнігі; 4) запіс у судовую кнігу.

**insecutor**, oris *m* (insequor) 1) той, хто ідзе следам; 2) той, хто кагосьці праследуе, праследнік; 3) той, хто абражае; 4) абвінаваўца.

**insequor**, secutus sum, sequi 1) ісці следам; 2) [**идти | ити** *стб.*] ісці; датычыцца; паступаць.

**insero**, serui, sertum, ere [**вписати | уписати | выписати** *стб.*] упісваць, уносіць, устаўляць; выкладаць.

**insertio** 4. уключаць у тэкст дакумента, устаўляць.

**inservio** 4. зноў зняволькваць, вяртаць у няволю.

**insideo**, sedi, sessum, ere (sedeo) [**седети | сести** *стб.*] сядзець (*тс.* у зняволенні, у турме).

**insigne**, is *n* 1) знак; герб; адрозненне: **hospitium ad** ~ заезны двор пад знакам; 2) упрыгожванне; 3) пазначэнне; вылучэнне; 4) адрозненне ўстановы альбо вартасці; 5) радзімка на целе; 6) ~ **nobilitatis** шляхецкі герб; 7) пячаць; 8) сцяг; 9) флюгер; 10) доказ, сведчанне; 11) г. зв. цёсна — памежны знак, выразаны на дрэве; 12) сігнал; 13) лозунг; 14) узор.

**insignis**, e [**знакомитый** *стб.*] знакаміты, славуты, выбітны.

**insilium**, ii *n* 1) неразважнасць; 2) недахоп розуму, неразумнасць.

**insimulator**, oris *m* (insimulo) [**жалобник** *стб.*] жалабнік / скаржнік, пазоўнік / ісцец.

**insimulo** 1. звінавачваць: **in tergum insimulatus** [**заочный** *стб.*] завочны, завочна абвінавачаны.

**insinuator**, oris *m* (insinuo) 1) той, хто ўмаўляе, пераконвае; 2) паручальнік; 3) [**торпоста** *стб.*] пасрэднік.

**insinuo** 1. 1) [**ведати дати, оповедати | оповедити | оповедати ся | обьявити** *стб.*] даваць ведаць, даваць знаць, паведамляць; заяўляць; абвяшчаць, апавяшчаць; 2) [**оказати | оказати ся** *стб.*] паказаць; паказацца; 3) [**заповедати** *стб.*] заказваць / забараняць.

**insisto**, stiti, —, ere 1) ставаць на нечым; затрымлівацца, спыняцца; 2) стаяць на нечым: ~ **legi publicae** грунтавацца на грамадскім праве ці законе; 3) прытрымлівацца.

**insolidum**, i *n* кругавая парука, калі адзін ручаецца за ўсіх і ўсе за аднаго.

**insolvens**, ntis *m* [**insolwent** *пл.*] асоба, якая не ў стане аплаціць сваіх даўгоў, банкрут.

**inspicio**, spexi, spectum, ere [**оглядети** *стб.*] аглядаць.

**installatio**, onis *f* [**installacya** *пл.*] урадавы акт, якім хто-небудзь узводзіцца ў сан ці ставіцца на пасаду.

**installo** 1. [**instalować** *пл.*] прызначаць каго-небудзь на пасаду ці ставіць на яе.

**instantia**, ae *f* (insto) [**instancya** *пл.*] 1) прысутнасць; 2) настойлівасць; 3) хадайніцтва за каго-небудзь; 4) інстанцыя — вышэйшая ці ніжэйшая ступень су-

довых устаноў; 5) пазоў / выклік у суд; скарга: **cruda** ~ свежы — неразглежаны данос ці скарга; вусны данос ці скарга.

**instauramentum**, i *n* 1) рамонт; 2) выраўноўванне; 3) прылады; інвентар.

**instauro** 1. 1) аднаўляць, вяртаць; паўтараць; 2) адбудоўваць; 3) наладжваць; рыхтаваць; 4) узмацняць, падмацоўваць: ~ **iudicium** забяспечваць суд каралеўскай уладай ці юрысдыкцыяй.

**instaurum**, i *n* 1) паляпшэнне; 2) прылады; інвентар.

**instigatio**, onis *f* (instigo) [**instygacya** *пл.*] 1) пабуджэнне, намаўленне, падбухторванне; 2) настойванне; 3) унясенне скаргі; абскарджванне; 4) судовы праслед.

**instigator**, oris *m* (instigo) [**instygator** *пл.*] 1) інстыгатар — саноўнік ці ўрадавая асоба ў Рэчы Паспалітай, на якой ляжаў абавязак назіраць за правасуддзем у дзяржаве і ў выпадку парушэння грамадскага парадку і дабрабыту пазываць / выклікаць парушальнікаў у суд. І таму: а) інстыгатар павінен быў праследаваць захопнікаў уладанняў (Vol. Leg. II, f. 1013), b) пазываць / выклікаць у суд абражальнікаў каралеўскай вялікасці (Vol. Leg. II, f. 1208) і здраднікаў айчыны, нават калі не было даносчыка (Vol. Leg. II, f. 1208), с) ён таксама без даносчыка меў права прыцягваць да суда любога ў справах пра каралеўскія ўладанні (Vol. Leg. II, f. 1461), d) мог прыцягваць да соймавага суда нядбайных дастойнікаў / саноўнікаў і службоўцаў (Vol. Leg. II, f. 676). Галоўнымі інстыгатарамі былі Каронны і Літоўскі. Апрача гэтых галоўных інстыгатараў, пры некаторых судах былі таксама асобныя інстыгатары. Інстыгатар часам называўся каралеўскім пракуратарам; 2) пракуратар.

**instita**, ae *f* купецкая крама.

**institor**, oris *m* (insto) 1) разносчык; 2) прадавец, крамар.

**instituo**, tui, tutum, ere [**вставити | вставляти | уставити | уставляти | установити, положити; вхвалити | уфалити** *стб.*] устанаўляць, пастанаўляць, вырашаць; ухваляць, зацвярджаць; прызначаць: **institutus** [**положоный** *стб.*] устаноўлены; прызначаны.

**instructio**, onis *f* (instruo) 1) збудаванне; 2) уладкаванне, упарадкаванне: **instructioni exercituali se praebere** [**шиховати ся** *стб.*] шыхавацца / праходзіць агляд, быць агляданым.

**instrumento** 1. надаваць лісту юрыдычную сілу.

**instrumentum**, i *n* (instruo) [**instrument** *пл.*] 1) прылада, інструмент: ~ **ad cavandum alvearia** [**пешня** *стб.*] пешня; 2) ліст, пасведчанне, усялякая ўрадавая папера, дакумент, напр. інструкцыя, якую шляхта давала сваім дэпутатам, якія выпраўляліся на галоўны сойм: ~ **publicum** ліст, выдадзены ўрадавым парадкам; 3) дыплом ці патэнт на якую-небудзь пасаду; 4) пісьмовае распараджэнне, прадпісанне.

**intabulatio**, onis *f* [**intabulacya** *пл.*] інвентар якога-небудзь нерухомага ўладання, унесены ў актавыя кнігі.

**intarta**, ae *f* мяцеж.

**integre** *adv.* (integer) [**зуполне** *стб.*] цалкам.

**integritas**, atis *f* (integer) [**целость** *стб.*] цэласць; непарушнасць; недатыкальнасць.

**intellego**, lexi (legi), lectum, ere [**розумети** *стб.*] разумець.

**intelligo** *гл.* **intellego**.

**intendimentum**, i *n* 1) інтэрпрэтацыя; 2) зласлівасць.

**intendo**, tendi, tentum, ere 1) нацягваць, напінаць; 2) напружваць; 3) услухоўвацца, слухаць; 4) імкнуцца; хацець; 5) разумець; тлумачыць; 6) шанаваць; 7) імкнуцца; кіравацца; выпраўляцца, ісці; 8) весці цяжбу.

**intentator**, oris *m* 1) абвінавайўца; 2) пазоўнік / ісцец; 3) той, хто не спакушае.

**intentiono** 1. патрабаваць чагосьці.

**intento** 1. *intens.* рыхтаваць; задумваць; пагражаць: **nihil intentatum est** нічога не прадпрынята; **mortem** ~ пагражаць смерцю; ~ **quaestionem** узбуджаць пытанне, пачаць справу.

**inter** [**промеж | промежи | промежку** *стб.*] (па)між, сярод.

**interaffinis**, is *m* памежны камень.

**intercipio**, cepi, ceptum, ere (inter + capio) 1) схопліваць; лавіць; 2) красці; 3) [**помкнути** *стб.*] успуджваць; адганяць.

**intercisa**, ae *f* [**intercyza**, **zapis intercyzyiny** *пл.*] 1) умова, дамова, *асаб.* датычная маёмасных спраў, кантракт у пісьмовым выглядзе, *асаб.* адрэзаная палова дакумента: **intercisae citationum** інтэрцызы — пункты пазоваў / выклікаў у суд. Калі гэтыя інтэрцызы / пункты не супярэчылі адзін аднаму, пазоў меў законную сілу, у адваротным выпадку пазоўнік / ісцец губляў сваю справу. Vol. Leg. I, f. 332; 2) перадшлюбны запіс, які змяшчаў у сабе ўмовы пасагу; 3) выключэнне ці абмежаванне, *асаб.* у дароўных і падзельных запісах.

**interdictum**, i *n* (interdico) [**interdykt** *пл.*] інтэрдыкт — касцёльнае пакаранне, якое палягае на адлучэнні ад сакрамэнтаў і абрадаў: ~ **triduanum** трохдзённае зачыненне касцёла з прычыны прыбыцця ў горад ці паселішча якой-небудзь асобы, адлучанай ад Касцёла. Звычай гэты скасаваны законам у 1433 годзе. Vol. Leg. I, f. 98.

**interemptor**, oris *m* (interimo) 1) забойца; знішчальнік; разбуральнік; 2) гандлёвы пасрэднік.

**interim** *adv.* 1) тым часам; 2) часам; 3) [**дотоль, дотоль-таки** *стб.*] датуль, датуль-такі.

**interlineo** 1. пісаць паміж радкамі.

**interlocutorie** *adv.* у выглядзе гутаркі ці размовы. У старажытнасці быў звычай, паводле якога пазваны / выкліканы ў суд мог два разы абараняцца, а пазоўнік / ісцец мог прамаўляць тры разы; але гэты звычай пасля быў адменены. Было дазволена толькі, і то са згоды суддзяў, гаварыць пасля пярэчання ці рэплікі пазванага толькі ў выглядзе размовы — **interlocutorie**.

**interloquium**, ii *n* (interloquor) 1) перамовы; дамова; 2) атрыманне юрыдычнага тлумачэння ў вышэйшым судзе магдэбургскага права.

**interminatio**, onis *f* (interminor) 1) пагроза (пакарання); 2) мяжа.
**intermitto**, misi, missum, ere 1) упускаць у сярэдзіну; устаўляць; умешваць; 2) перапыняць.
**internuntius**, i *m* um [**internuncyusz** *пл.*] часовы папскі нунцый.
**interpellatio**, onis *f* (interpello) [**interpellacya** *пл.*] 1) перапынак; перашкода; 2) пазоў / выклік у суд; скарга; 3) выклік для тлумачэння; патрабаванне тлумачэння.
**interpello** 1. [**interpellować** *пл.*] 1) перапыняць; 2) пазываць / выклікаць у суд; 3) выклікаць для тлумачэння.
**interpolate** *adv.* з перапынкамі; нястала, непастаянна.
**interpolatim** *adv. гл.* **interpolate**.
**interpono**, posui, positum, ere [**interponować** *пл.*] 1) патрабаваць, прапаноўваць; 2) [**давати | даивати | дати** *стб.*] даваць, выдаваць; дараваць; падаваць, прадстаўляць.
**interpresura**, ae *f* рэпрэсія.
**interprisio**, onis *f гл.* **interpresura**.
**interscribo**, scribo, scripsi, scriptum, ere 1) дапісваць; упісваць; 2) упісваць у судовыя кнігі.
**intersignum**, i *n* 1) знак; 2) памежны знак; 3) *pl.* ініцыялы; 4) палка, убітая ў зямлю для пазначэння забароны выпасу быдла.
**intertio** 1. пускаць у трэція рукі; аддаваць пад секвестр.
**intertius**, i *m* секвестр.
**intervenio**, veni, ventum, ire [**заступати | заступити** *стб.*] замяшчаць (на судзе).
**interventio**, onis *f* (intervenio) [**interwencya** *пл.*] 1) умяшанне; пасрэдніцтва; 2) [**заступенье** *стб.*] замяшчэнне.
**intestatio**, onis *f* атрыманне ў спадчыну без тастамента / завяшчання.
**intestatus**, a, um памерлы, які не пакінуў тастамента / завяшчання.
**intestinarius**, ii *m* (intestinus) [**stolarz** *пл.*] сталяр.
**inthroniso** 1. 1) садзіць на трон; 2) урачыста ўзводзіць на пасаду; 3) афіцыйна ўводзіць у валоданне чымсьці; 4) **se** ~ авалодваць.
**intimatio**, onis *f* (intimo) [**intymacya** *пл.*] 1) прыпыненне выканання судовага выраку ніжэйшай інстанцыі суда з прычыны пададзенага пазову / выкліку ў вышэйшую інстанцыю суда; 2) позва; пісьмовае апавяшчэнне.
**introcedo**, cessi, cessum, ere 1) уступаць; 2) засцерагаць ад прэтэнзіі трэціх асоб.
**Introduxit nos Dominus (dies)** Увёў нас Бог, панядзелак па Вялікадні.
**introeo**, ivi (ii), itum, ire 1) уваходзіць; 2) [**вступати ся | вступовати ся | уступати ся** *стб.*] уступаць; урывацца; авалодваць; карыстацца.
**introitus**, us *m* (introeo) [**вход | уход** *стб.*] уваход; праход.
**introligator**, oris *m* пераплётчык.
**intromissatio**, onis *f* увядзенне ў валоданне добрамі / маёмасцю.

**intromissio**, onis *f* [**intromissya** *пл.*], [**увязанье | увязыванье** *стб.*] увязанне — увод у валоданне (нерухомай маёмасцю); акт пра гэты ўвод, занесены ў актавую кнігу: **porrigere intromissionem** даць увод у нерухомую маёмасць; **intromissionem concedi** [**увезати | увязати | увязывати** *стб.*] уводзіць (у валоданне); браць увод (у валоданне).
**intromissor**, oris *m* [**увяжчий** *стб.*] увяжчы — асоба, якая ўводзіць (у валоданне).
**intromitto**, misi, missum, ere 1) упускаць; дапускаць; 2) [**увезати | увязати | увязывати** *стб.*] уводзіць (у валоданне): ~ **se** [**вступати ся | вступовати ся | уступати ся** *стб.*] уступаць, уваходзіць; урывацца; авалодваць; карыстацца.
**introscribo**, psi, ptum, ere упісваць у судовыя кнігі.
**introscriptio**, onis *f* запіс у судовыя кнігі.
**introscriptus**, a, um упісаны ў дакуменце.
**intrudo**, —, —, ere [**укинути** *стб.*] укідваць.
**intrunco** 1. 1) закоўваць у калодкі; 2) садзіць у турму.
**intrusor**, oris *m* той, хто незаконна ўмешваецца ў якую-небудзь справу.
**intrusus**, i *m* інтруз / умяшальнік — той, хто незаконна заняў нейкую касцёльную пасаду.
**intumbo** 1. хаваць памерлага.
**inturro** 1. замыкаць у вежы, садзіць у турму.
**inundo** 1. *tr.* [**затопити | потопити** *стб.*] затапляць, тапіць: **inundatus** [**затопленный** *стб.*] затоплены.
**inunga**, ae *f* цэхавая аплата.
**invadiamen**, inis *n гл.* **invadiatio**.
**invadiatio**, onis *f* забеспячэнне абавязацельства закладам.
**invadiatorio** *adv.* як заклад.
**invadio** 1. [**заставити** *стб.*] закладаць, аддаваць у заклад: ~ **se** аддаваць сябе ў служэнне каму-небудзь; **fide nostra invadiata** паручыўшыся сваёй верай.
**invado**, vasi, vasum, ere *intr.* [**знайти | найдти | найти, наеждчати | наехати** *стб.*] урывацца; нападаць, наязджаць.
**invasio**, onis *f* (invado) 1) [**наезд | наездка** *стб.*], [**inwasya** *пл.*] наезд, узброены набег, напад; нашэсце: ~ **domum violenta** гвалтоўны наезд на шляхецкі дом; 2) атака; 3) сіла; гвалт; 4) гвалтоўны захоп; 5) юрыдычныя прэтэнзіі.
**invasito** 1. [**наеждчати | наехати** *стб.*] наязджаць, нападаць.
**invecta**, ae *f* [**inwekta** *пл.*] прывоз тавараў, якія падлягаюць мытнаму падатку.
**invectiva**, ae *f* 1) слоўны напад; лаянка; абраза; 2) абвінавачая прамова.
**invenio**, veni, ventum, ire 1) [**отыйскати | отыйскивати, знайти | найдти | найти** *стб.*] адшукваць, знаходзіць: ~ **sententiam** выказваць меркаванне; выносіць вырак; судзіць; 2) набываць, купляць.
**inventiculum**, i *n* 1) адкрыццё; вынаходства; 2) юрыдычны выкрут.
**Inventio Sanctae Crucis** адшуканне святога Крыжа, 3 траўня.

**inventio**, onis *f* (invenio) адшуканне; знаходка: **pro inventione** [**налезное** *стб.*] налезнае — узнагарода за знаходку страчанай рэчы.
**inventor**, oris *m* (invenio) 1) знаходнік, той, хто нешта знайшоў: ~ **thesauri** той, хто знайшоў скарб; 2) адкрывальнік; вынаходца; 3) вінаваты; 4) арбітр.
**inventum**, i *n* (invenio) 1) вынаходства; 2) знаходка, адкрыццё; 3) выказванне меркавання (арбітражных суддзяў); 4) думка; выдумка.
**investigo** 1. [**гонити** *стб.*] гнацца.
**investio** 4. пускаць у валоданне.
**investitor**, oris *m* чалавек, які ўводзіць у валоданне нерухомасцю.
**investitorius**, a, um датычны надання леннага валодання.
**investitura**, ae *f* [**inwestytura** *пл.*] інвестытура — наданне ці права надзяляць ленным валоданнем, ці атрымліваць яго. Гаворыцца, напр., атрымаць інвестытуру на біскупства.
**Invocavit (dominica)** паклікаў — 1-я нядзеля Вялікага Посту, 1-я нядзеля саракадзённага посту.
**involator**, oris *m* злодзей.
**Ioannes Abb.** 19 сакавіка.
**Ioannes Albus** 24 ліпеня.
**Ioannes ante portam Gatinam** 6 траўня.
**Ioannes Baptist. (festum)** 24 чэрвеня.
**Ioannes de Matha conf.** 8 лютага.
**Ioannes et Paulus MM.** 26 чэрвеня.
**Ioannes Parvus** 6 траўня.
**Ioannes Ap. et Evang.** 27 снежня.
**Ioannis decollatio** адсячэнне галавы Яну Хрысціцелю, 29 жніўня.
**iobagio**, onis *m* 1) дзяржаўны дастойнік / саноўнік: **iobagiones, proceres castri** [**szlachta grodzka** *пл.*] гродская шляхта, якая называлася таксама **servientes regis** — каралеўскія слугі, якія, будучы пры двары, неслі таксама ваенную службу; 2) селянін; падданы; 3) парабак; слуга; 4) чаляднік; пахолак.
**ioculator**, oris *m* (ioculor) [**grajk** *пл.*] (прыдворны) блазен.
**iornale**, is *n* 1) дзённая праца ці праца на працягу аднаго дня; 2) праца ў полі, якую можа зрабіць пара валоў за адзін дзень; 3) від паншчыны.
**Iosephus, Nutritor Christi, Gonf.** 15 сакавіка.
**iotum**, i *n* мера зямельнай плошчы.
**Iovis Sancta (dies)** Таемная Вячэра.
**ipse**, a, um [**истый** *стб.*] сам; свой, уласны.
**ir** *indecl.* рука, далонь.
**ironia**, ae *f* 1) іронія; насмешка; 2) *перан.*: правіна.
**ironice**, *adv.* 1) іранічна, кпліва; 2) *перан.*: амаральна.
**ironicus**, a, um 1) іранічны; 2) *перан.*: заганны.
**irrationabiliter** *adv.* (irrationabilis) 1) неразумна, неразважна; 2) беспрычынна, беспадстаўна.

**irrectitudo**, inis *f* несправядлівасць.

**irrefragabiliter** *adv.* непарушна, цвёрда.

**irremissibiliter** *adv.* 1) невыбачальна; 2) неадменна, абавязкова; 3) [**моцне** | **моцно** *стб.*] у прымусовым парадку, прымусова; сілай.

**irretortus**, a, um неадвернуты: **irretorta palpebra** узмоцненая, сталая ўвага, пільнасць.

**irretractabiliter** *adv.* нязменна; беззваротна.

**irrito** 1. рабіць несапраўдным, неправамоцным (гаворыцца пра запіс).

**irrogo** (in-rogo) 1. 1) праводзіць на народным сходзе пастанову супраць каго-сьці; 2) ~ **poenam** прызначаць пакаранне, спагнанне, штраф: **sub poenis per tribunal irrogandis** пад пагрозай спагнанняў, якія павінен будзе прызначыць трыбунал.

**irruo** (in-ruo), rui, ruiturus, ere [**кинути ся** *стб.*] кідацца.

**irruptio**, onis *f* (irrumpo) [**utarczka** *пл.*] уварванне; умяшанне.

**is**, ea, id [**он, она, оно, они** *стб.*] ён, яна, яно; *pl.* яны.

**Isidorus M.** 15 траўня, 14 снежня.

**Isti sunt dies (dominica)** гэтыя ёсць дні, 5-я нядзеля посту.

**ita** *adv.* [**так** *стб.*] так, нагэтулькі.

**italica**, ae *f* гуманістычны курсіў — тып пісьма ў Заходняй і Цэнтральнай Еўропе, які ў XV ст. прыйшоў на змену ранейшаму гатычнаму курсіву.

**item** *adv.* [**теж** | **тэж** *стб.*] таксама.

**iter**, itineris *n* [**дорога** *стб.*] дарога, шлях.

**itero** 1. 1) паўтараць, аднаўляць: ~ **iudicium** аднаўляць суд шляхам апеляцыі; 2) успамінаць; 3) вандраваць, падарожнічаць.

**iterum** *adv.* [**засе** | **зася, опять** *стб.*] затым, потым; зноў.

**itineratio**, onis *f* 1) падарожжа; паездка; 2) здзяйсненне паездкі як феадальны абавязак.

**itineror** 1. [**ездити** *стб.*] ездзіць; праязджаць.

**iubagio**, onis *m гл.* **iobagio**.

**Iubilate (dominica)** радуйцеся, 4-я нядзеля па Вялікадні.

**Iubilate omnis terra (dominica)** хай радуецца ўся зямля, 3-я нядзеля па Вялікадні.

**iuccata**, ae *f* мера зямельнай плошчы.

**Iucundus Quitinus et Saturninus MM.** 9 студзеня.

**iudaeus**, i *m* [**жид** *стб.*] жыд.

**iudex**, icis *m* 1) [**судья** *стб.*] суддзя: **iudex castrensis** гродскі суддзя; **iudex terrestris** земскі суддзя; **stipendium iudici** [**пересуд** | **присуд** *стб.*] перасуд / прысуд (судовы падатак); [**ездок** *стб.*] яздок — межавы суддзя; 2)ураднік, які чыніць справядлівасць; 3) высокі дзяржаўны ўраднік; вяльможа; прыдворны; сенатар.

**Iudica** *s.* **passionis (dominica)** судзі, ці нядзеля Мукі — 5-я нядзеля Вялікага Посту.

**iudicaria**, ae *f* судовая акруга.

**iudicatum**, i *n* (iudico) 1) меркаванне суддзі; 2) пісьмовае судовае вызначэнне; 3) годнасць суддзі.

**iudicatura**, ae *f* судовае месца.

**iudicatus**, us *m гл.* **iudicatum**.

**iudicialis**, e (iudicium) [**судовьий** *стб.*] судовы: **iudiciale pressud** [**пересуд** | **присуд** *стб.*] перасуд / прысуд (судовы падатак).

**iudicialiter** *adv.* [**судовне** *стб.*] судова / праз суд, судовым парадкам.

**iudiciaria**, ium *n pl. гл.* **iudicaria**.

**iudicio** 1. 1) лічыць; 2) прысуджаць; асуджаць; 3) ~ **ius** звяртацца за тлумачэннем у вышэйшы суд.

**Iudicium extremum** (**dies**) страшны суд; панядзелак 1-га тыдня Вялікага Посту.

**iudicium**, ii *n* (iudex, iudico) 1) [**суд** *стб.*] суд; судовая справа; судовы разгляд, судовы працэс; судаводства; 2) суд, судовая ўстанова: **iudicium Advocatiale-Scabinale** [**sąd Woytowsko-ławniczy** *пл.*] войтаўска-лаўніцкі ці магдэбургскі суд. Асабовы склад гэтага суда: войт — **advocatus** і 12 лаўнікаў — **scabini**. Разгляду гэтага суда падлягалі ўсялякія справы, але пераважна крымінальныя. Паколькі магдэбургскае права польскія каралі і князі ВКЛ давалі мястэчкам і гарадам менавіта для мяшчан, то і магдэбургскія суды называліся таксама мяшчанскімі. Там, дзе мяшчанам самім было дадзена права абіраць войта, ён абіраўся з мяшчан, а дзе абіраў яго сам кароль, ён быў са шляхты. У першым выпадку апеляцыі паступалі ў магістрат, у апошнім — да самога караля ці ў задворны асэсарскі суд. У магдэбургскім судзе разглядаліся справы як грамадзянскія, так і крымінальныя. Кодэкс, якім кіраваўся гэты суд, называецца **SpeculumSaxonicum**, а іншыя называлі яго **Spectrum Saxonicum** — Саксонскае люстэрка ці Саксонскі вобраз; ~ **bannitum maius** [**sąd gaiowy** *пл.*] суд гаёны — таемны суд, суд склікань, пачаты ці наогул суд, асобна прызначаны ўрадам; ~ **capturale** [**sąd kapturowy** *пл.*] каптуровы суд. У Польшчы і Літве-Беларусі па смерці караля, падчас міжкаралеўя, усе суды зачыняліся і на перадканвакацыйных сойміках абіраліся новыя суддзі ва ўсіх ваяводствах і паветах, лікам да 15, якія вырашалі ўсе справы грамадзянскія і крымінальныя (Vol. Leg. VIII, f. 69, 185). Суду гэтаму прадстаўлялася права лавіць і судзіць кожнага парушальніка парадку і грамадскага спакою; права гэтае называлася **libera captura** дазволенае затрыманне. Таму і сам суд атрымаў назву каптуровага. Гэты парадак ці хутчэй звычай, атрымаўшы сілу закону, існаваў да 1768 года, у якім ён быў скасаваны соймавай пастановай; ~ **castrense**, **capitaneale** [**sąd grodzki**, **starościński** *пл.*] суд гродскі, старастаўскі. Гэты суд атрымаў назву ад **castrum**, якому адпавядае старажытнае беларускае слова — грод, якое азначае крэпасць, замак, двор — **curia regia**. Але паколькі ў гродскіх судах у паветах судзілі толькі старасты — **capitanei**, месца якіх заступалі пераважна падстарасты — **vicecapitanei**, то і суды гэтыя на-

зываліся таксама старасцінскімі — **iudicia capitanealia**. У ваяводствах гэтыя суды вяліся падваяводамі, а ў паветах падстарастамі з трыма суддзямі і пісарам, якія ў ваяводствах абіраліся ваяводамі, а ў паветах — старастамі (Стат. Літ., разд. IV, арт. 37). У гродскіх судах судзіліся толькі крымінальныя справы. Яўкі ўгодаў / здзелак паміж прыватнымі асобамі хоць і дапускаліся, але з умовай перанясення іх у земскія акты. Тэрміны пасяджэнняў гэтых судоў у розных паветах былі розныя як паводле пачатку, так і працягласці. Але звычайна яны пачыналіся з першых месяцаў года, са студзеня ці лютага, і доўжыліся тры ці чатыры месяцы. Гэтыя тэрміны называліся рочкамі, г. зн. невялікімі тэрмінамі, у адрозненне ад рокаў / (доўгіх) тэрмінаў земскіх; ~ **civile** [**sąd cywilny** *пл.*] цывільны / грамадзянскі суд, якому супрацьстаўляецца ~ **criminale** [**sąd kryminalny** *пл.*] крымінальны суд. Першаму падлягаюць цывільныя / грамадзянскія справы, якія адносяцца да парушэння правоў уласнасці ці маёмасці, якія выражаюцца тэхнічным тэрмінам **causae iuris**, другому пераважна справы, якія тычацца асобы — **causae facti**; ~ **colli et manus** суд шыі і рукі, г. зн. вышэйшая і ніжэйшая юрысдыкцыя; ~ **colloquiorum generalium** [**wieca** *пл.*] веча — вечавы суд, які называўся таксама ваяводскім судом. Апрача суддзі, падсудка і пісара, у ім засядалі сенатары таго ваяводства, у якім ён вёўся. У ім разбіраліся справы вотчыннікаў і іншыя больш важныя. Акты гэтага суда захоўваліся пад трыма ключамі, з якіх адзін быў у суддзі, другі ў падсудка, а трэці ў пісара. Суд гэты павінен быў весціся тры разы ў год у кожным ваяводстве. У адсутнасці караля ён разбіраў усе адхіленні суддзяў (*гл.* **motio**), усе апеляцыі на вызначэнні гродскіх і земскіх судоў, хоць некаторыя з іх паступалі на рашэнні сойма. Vol. Leg. I, f. 76, 250 і 563; ~ **comitiale** *s.* **iudicia conventus generalis** [**sąd seymowy** *пл.*] соймавы суд. Спярша гэтыя суды праводзіліся толькі падчас саміх соймаў. Але з 1776 года яны зрабіліся перыядычнымі. Для іх было прызначана месца ў рэзідэнцыі караля. Асабовы склад іх: міністры, сенатары і чальцы пастаяннай рады; суддзі з сената выбіраліся каралём, а з дваранства — соймавым маршалкам. Поўны іх камплект складаўся з 28 асоб. Шасцітыднёвыя тэрміны пасяджэння для іх прызначаліся: 1 кастрычніка, 1 лютага і 1 чэрвеня. Справы, якія разглядаліся гэтым судом, былі наступныя: a) абраза каралеўскай вялікасці — **crimina laesae maiestatis**, b) здрада айчыне — **crimina perduellionis**, c) справы пра прыгнёт вольных грамадзян — **oppressi civis liberi**, d) справы пра подкуп суддзяў вышэйшых інстанцый, e) справы супраць міністраў і сенатараў. У выпадку роўнасці галасоў для двух процілеглых меркаванняў права канчатковага рашэння прадстаўлялася каралю. Vol. Leg. VIII, f. 970; ~ **commissariale** [**sąd kommissarski czyli kommisyjny** *пл.*] камісарскі суд. Суд гэты не быў сталы і самастойны, яго прызначалі іншыя сталыя суды ці сам кароль. У першым выпадку рашэнне камісарскага суда магло падлягаць апеляцыі, у апошнім, у выпадку нязгоды бакоў, яно паступала на рашэнне самога караля. Лік камісараў не быў вызначаны; выконвалася толькі правіла, каб іх

лік з абодвух спрачальных бакоў быў роўны. Камісарскія суды пераважна прызначаліся з нагоды спрэчак паміж каралеўскімі і шляхецкімі сялянамі пра зямельную ўласнасць і пра правы на ўваходы ў пушчы; ~ **compositum** *s.* **mixtum [kolo duchownego trybunała** *пл.*] духоўны трыбунал. Ён заснаваны быў для рашэння апеляцыйных спраў паміж духоўнымі і свецкімі асобамі пра нявыплату дзесяціны, ануаты (гадавога чыншу) і працэнтаў, спрэчных спраў пра ўладанні паміж свецкімі асобамі і кляштарамі, для разгляду **causae facti et iuris**. Гэтаму суду падлягаў таксама разгляд спраў пра адрачэнцаў ад веры і арыянаў — прадстаўнікоў рэлігійнай секты. Трыбунал гэты меў свае пасяджэнні толькі ў Вільні пасля заканчэння Віленскай кадэнцыі. Суддзі духоўнага звання абіраліся з чальцоў капітулаў Віленскага, Жамойцкага і Смаленскага, якіх было 6, гэтулькі ж было і свецкіх суддзяў. Vol. Leg. VI, f. 486—487; ~ **compromissoriale [sąd kompromissarski** *пл.*] кампрамісарскі суд, інакш званы — палюбоўны ці прыяцельскі, трацейскі. Ён мог складацца з некалькіх асоб усялякага звання і стану. Судом гэтым маглі разглядацца ўсе справы, за выключэннем спрэчных спраў паміж уладальнікамі каралеўскіх маёнткаў, спраў крымінальных і спалучаных з інтарэсам скарбу. Апеляцыі на рашэнні гэтага суда паступалі ў Галоўны Літоўскі ці Каронны трыбунал толькі ў выпадку нязгоды абраных камісараў, ва ўсіх іншых выпадках яны не падлягалі ніякай апеляцыі; ~ **condescensoriale [sąd kondescensoryalny** *пл.*] кандэсцэнсарыяльны, з'езны суд. Ён прызначаўся іншымі судамі, такімі, як земскія, гродскія і суды Галоўнага Літоўскага ці Кароннага трыбунала. Вызначэнні гэтага суда мелі сілу вызначэнняў тых судоў, якія прызначалі з'езд. Лік асоб для з'езда не быў вызначаны. З'езны суд прызначаўся толькі тады, калі справа не магла быць вырашана на месцы з прычыны недахопу падрабязных звестак пра справу, асабліва ў спрэчных выпадках пра землеўладанне. Vol. Leg. VII, f. 704; VI, f. 418; ~ **fiscale [sąd fiskalny** *пл.*] фіскальны суд. Фіскальныя суды былі ўстаноўлены ў 1690 годзе для большай выгоды дзеянняў скарбовага трыбунала. Разгляду фіскальных судоў падлягалі справы пра крыўды і гвалты, учыненыя войскамі падчас пераходаў і начлегаў. Але паколькі гэтыя суды аказаліся непрымальнымі для войска і для шляхты, то ў 1717 годзе яны былі зачынены. Vol. Leg. VI, f. 279; ~ **graniciale [sąd pograniczny** *пл.*] межавы суд. Ён быў заснаваны ў 1676 годзе для разгляду памежных справаў паміж падданымі былога Вялікага Княства Літоўскага і расійскімі падданымі. На рэляцыйных сойміках абіраліся два суддзі з памежных ваяводстваў і паветаў, якія пасля перамоў з расійскімі суддзямі наконт прызначэння месца і часу з'езда, судзілі канчаткова і прыводзілі ў выкананне праз гродскія суды ўсе свае вызначэнні без усялякай апеляцыі і адтэрміноўкі. З'езд суддзяў прызначаўся два разы ў год. Гэты суд меў сілу і значэнне маршалкоўскага суда. Vol. Leg. V, f. 440, 534; ~ **postcuriale** *гл.* **iudicium regium;** ~ **provinciale** вышэйшы суд, ўлада якога пашыралася на грамадзянскія і крымінальныя справы ўсёй правінцыі; ~ **regium [sąd zadworny assesorski**

*пл.*] задворны асэсарскі ці каралеўскі суд першапачаткова быў створаны ў Польшчы ў 1860 годзе (Vol. Leg. V, f. 660). Спярша ў ім засядалі самі каралі, а пасля, перадаўшы сваю ўладу канцлерам, яны пакінулі сабе толькі права пацвярджэння ці выпраўлення іх вызначэнняў. Поўнай сваёй арганізацыяй гэты суд абавязаны каралю Станіславу Аўгусту (Vol. Leg. VII, f. 423, 424, 426). Пад старшынствам канцлераў і віцэ-канцлераў ён прадстаўляў асобу караля і складаўся з вялікіх сакратароў, рэферэндарыяў, пісараў і інстыгатараў, з віцэ-інстыгатараў, рэгентаў, дэкрэтавага пісара, двух асэсараў, прызначаных з сената, і чатырох са шляхты, абіраных на сойме. Тэрміны пасяджэнняў гэтага суда былі: першы на працягу траўня, чэрвеня, ліпеня і жніўня; а другі — на працягу лістапада, снежня, студзеня і лютага. У першыя тры месяцы кожнага тэрміну пасяджэння судзіліся справы гарадскіх абшчын, разглядаліся прывілеі, спрэчкі ў межавых справах паміж каралеўскімі і земскімі ці духоўнымі ўладаннямі, а чацвёрты месяц прызначаўся для разгляду спраў асаднікаў. Вызначэнні гэтага суда мелі сілу соймавых пастаноў і не дапускалі ніякіх апеляцый; ~ **super terris** [**копа** *стб.*] капа / копны суд; ~ **terrestre** [**sąd ziemski** *пл.*] земскі суд. Асабовы склад гэтага суда: суддзя, падсудак і пісар, якія абіраліся каралём з 12 кандыдатаў, якія прадстаўляліся з кожнага павета. Земскі суд судзіў толькі справы грамадзянскія, зусім не кранаючы крымінальныя. Для земскіх судоў былі прызначаны тры шасцітыднёвыя тэрміны пасяджэнняў, а менавіта: Багаяўленскі / Трох Каралёў — **trium regum**, Траецкі — **SS. Trinitatis**, ад нядзелі Усіх Святых і Міхайлаўскі — з 29 верасня. Гэтыя тэрміны ў беларускіх актах называюцца судовымі земскімі рокамі, а ў лацінскіх — **termini iudiciales terrestres**; ~ **succamerarium** [**sąd podkomorski** *пл.*] падкаморскі суд. Суд гэты складаўся з адной асобы, якая называлася падкаморыем — **succamerarius**. Яго абіраў сам кароль з чатырох кандыдатаў, прадстаўленых ваяводствам ці паветам. Падкаморый даваў пазовы / выклікі ў суд спрачальным бакам пра зямельную ўласнасць, прызначаў ім тэрмін яўкі на спрэчную зямлю, разглядаў лісты, прывілеі і межавыя знакі, дапытваў і прыводзіў да прысягі сведак і вызначаў межы капцамі, насыпанымі з зямлі, і іншымі межавымі знакамі і тут жа выдаваў свой вырак / прысуд ці межавы ліст, які за яго пячаццю і подпісам падаваўся земскаму ці гродскаму суду, гледзячы на тое, ад якога з іх справа была даслана на яго рашэнне (Стат. Літ., 1588, разд. IX, арт. 2, п. 334). Падкаморый прызначаў таксама ад сябе каморнікаў; ~ **ultimae instantiae** суд апошняй інстанцыі. Такія суды былі ўстаноўлены ў 1563 годзе для рашэння спраў, якія доўга заставаліся без выканання. Суды гэтыя знаходзіліся ў ваяводствах і вяліся ваяводамі і саноўнікамі гродскімі і земскімі. Вызначэнні іх выключалі ўсякую апеляцыю і прыпазовы / дадатковыя выклікі ў суд, наадварот, старастам было прадпісана выконваць іх з усёй строгасцю, пад пагрозай штрафу 300 грыўняў на карысць пазоўніка / істца. Vol. Leg. II, f. 625, 650; 3) [**права** *стб.*] права; правасуддзе.

**iudico** 1. (ius dico) 1) [**судити** *стб.*] судзіць, праводзіць суд; рассуджваць; вырашаць праз суд: **res iudicata** [**суд** *стб.*] суд / судовая справа; 2) завяшчаць, адпісваць; саступаць; размяшчаць.

**iugatum**, i *n* мера зямельнай плошчы.

**iuger**, i *m гл.* **iugerum**.

**iugerum**, eri *n* першапачаткова абшар зямлі, які можна ўзараць за адзін дзень парай валоў, зямельная мера, тое ж, што і морг — 2520,6 кв. м, 30-я частка **hubae** ці **hobae**, якая азначала амаль тое самае, што і валока.

**iugia**, ae *f гл.* **iugerum**.

**iugis**, is *f гл.* **iugerum**.

**iugum**, i *n* 1) ~ **terrae** абшар зямлі, які можна ўзараць за адзін дзень парай валоў; 2) акруга суддзі; 3) тастамент / завяшчанне; дароўны запіс.

**Iulia** 10 снежня.

**Iuliana V. M.** 16 лютага.

**Iulianus, Vasilissa, Antonius, Anastasius, Celsus, Marcionilla** 9 студзеня.

**Iulius M.** 27 траўня.

**iumentum**, i *n* (= iugmentum) 1) цяглая жывёліна: ~ **errabundum** [**блудяга** *стб.*] блудзяга / (пры)блудная жывёла; 2) [**кляча** *стб.*] кляча / працоўны конь.

**iunctum**, i *n* прыпіска ў акце.

**iunctura**, ae *f* (iungo) 1) злучэнне; змацаванне; 2) сваяцтва; 3) сустаў (у чалавека); 4) шво; 5) упрыгожанне; цацка; 6) працоўнае быдла; ярмо; 7) вузел; 8) *перан.*: саюз; сувязь; 9) ~ **canapi** сноп канопляў, які змяшчае 12 жмень.

**iunioratus**, us *m* прэбэнда / прыбыткі духоўнай асобы, якая залежная непасрэдна ад біскупа.

**iuramentum**, i *n* (iuro) [**присега** | **присяга** — *стб.*] прысяга. Яна была двух відаў: для простага народа: ~ **corporale** [**телесная** *стб.*], [**przysięga cielesna** *пл.*] асабістая прысяга, цялесная прысяга ці прысяга з кленчаннем — **flectis genibus**, і прысяга для шляхты ~ **pectorale** — з прыкладаннем рукі да грудзей. Vol. Leg. VI, f. 462. De inquisitione; **iuramento convincere** [**поприсягнути** *стб.*] прысягнуць.

**iurati**, orum *m pl.* лаўнікі.

**iuricus**, i *m* [**grajk** *пл.*] (прыдворны) блазен.

**iuridicium**, ii *n* 1) правамоцны судовы прысуд; 2) юрыдычнае рашэнне.

**iuridicus**, a, um 1) [**врадовный** *стб.*] урадоўны / юрыдычны, датычны права; 2) судовы: **dies iuridici**: a) судовыя дні, b) дні рокаў / судовых тэрмінаў; **compositio iuridica** судовая дамова; 3) устаноўлены законам; 4) правамоцны.

**iurisdictio**, onis *f* [**jurisdykcya** *пл.*] 1) улада, судовая ўлада, юрысдыкцыя: **alta et bassa** ~ вышэйшая ці рэгіянальная судзейская ўлада; 2) суд, у якім судзяцца асобы адмысловых станаў; так, напр., духоўныя асобы не падлягалі свецкай юрысдыкцыі, а свецкія асобы — духоўнай; жыды падлягалі не магдэбургскай, а гродскай юрысдыкцыі.

**iurisfactio**, onis *f* 1) судовае дзеянне; 2) права.

**iurispatronatus**, us *m* права патранату, г. зн. права прызначэння на пасады, установы і касцёльныя бэнэфіцыі.

**iurista**, ae *f* праўнік / юрыст: **universitas iuristarum** універсітэцкая карпарацыя праўнікаў / юрыстаў.

**iuro** 1. (ius) 1) [**присегати** | **присягати** | **присягнути, вчинити присягу** *стб.*] прысягаць, чыніць / прыносіць прысягу: **iuratus** [**присяглый** | **присяжный** *стб.*] прысяглы / які прысягнуў, прысяжны; 2) [**право поднести** *стб.*] прадстаўляць доказ.

**ius**, iuris *n* 1) [**право** *стб.*] права; правапарадак, закон; правасуддзе; 2) збор прававых прадпісанняў, праўная / юрыдычная сістэма, правадаўства: ~ **caducum** [**kaduk** *пл.*] права кадука, кадук. Калі па смерці вотчынніка не заставалася родзічаў да 8-й ступені ўключна, то маёмасць паступала ў каралеўскі скарб. Закон гэты называўся кадук — **ius caducum** (Vol. Leg., a. 1588, II, f. 1209). Пастановай сойма 1726 года ўсе кадукі былі прысуджаны шляхце; ~ **cambiale** вэксальнае права; ~ **civile** [**prawo cywilne** *пл.*] цывільнае / грамадзянскае права — частка ці аддзел юрыспрудэнцыі ці навукі пра правы, у якой выкладаюцца прыватныя адносіны грамадзян якога-небудзь народа, як напр. права пра спадчыну, кантракты, злачынствы, пакаранні, суды і інш.; ~ **collationis** *гл.* **ius patronatus**. Vol. Leg. VI, f. 407; ~ **communicativum** адмысловае права ці адмысловы прывілей, які давалі каралі Рэчы Паспалітай, на моцы якога жонка пажыццёва валодала нерухомай маёмасцю мужа пасля яго смерці. Vol. Leg. IV, f. 839; ~ **factale** правінцыйнае права, яго юрысдыкцыя і абсяг; ~ **falcidiae** права зрэзкі (ад **falx** — каса і **scindo** — рэжу). Яно запазычана з рымскага права і ўжывалася толькі да маёмасці мяшчан ці гараджан. У Рэчы Паспалітай у адносінах да шляхецкіх уладанняў яно пачало дзейнічаць толькі ў 1715 годзе (Vol. Leg. VIII, f. 166). Сутнасць гэтага права палягала на тым, што ў выпадку неплацежаздольнасці даўжніка, крэдытары яго гублялі пэўную, прапарцыйную сваім капіталам суму. Так, напр., калі пададзенае на конкурс уладанне ацэнена на 100 000 злотых, а доўгу на ім 200 000 злотых, то кожны з крэдытораў губляе палову сваёй сумы: хто даў у пазыку 50 000, атрымлівае 25 000, а хто даў 100, атрымлівае 50 злотых; ~ **gladii** [**prawo miecza** *пл.*] права мяча — права смяротнага пакарання, якое было прадстаўлена ўсім магдэбургіям ці магдэбургскім судам. Але ў 1776 годзе яно было скасавана ў Літве-Беларусі, за выключэннем галоўных гарадоў, а менавіта яно было пакінута толькі ў Вільні, Коўні, Лідзе, Троках, Навагрудку, Ваўкавыску, Пінску, Менску, Мазыры, Берасці і Гародні. Vol. Leg. VIII, f. 928; ~ **municipale** [**prawo municypalne** *пл.*] муніцыпальнае права — права некаторых правінцый, станаў, гарадоў і кампаній, якія, апрача агульных грамадзянскіх правоў, маглі мець свае асабістыя ці прыватныя правы; ~ **naturae** [**природжоное право** *стб.*] радавое права, права роднасці; ~ **patronatus** [**kolatorstwo** *пл.*] права, паводле якога каралі і вотчыннікі аддава-

лі касцёльныя прыходы ў сваіх уладаннях асобам паводле ўласнага выбару. Вотчыннікі гэтыя называліся **collatores [kolatorowie** *пл.*] — калятары, а правa іх на гэтую раздачу прыходаў — **collatio [kolatorstwo** *пл.*] — калятарства. У актах вельмі часта сустракаюцца прыклады, што гэтым правам карысталіся некаторыя каталіцкія манаскія ордэны, а асабліва езуіты і дамініканцы. Уладзіслаў Ягайла, заснаваўшы ў 1391 годзе касцёл у Медніках, у Ашмянскім павеце, і надзяліўшы яго фундушам, саступіў калятарства на яго Ордэну аўгусцініянаў (Аўтэнтычны прывілей захоўваўся ў Цэнтральным архіве ў Вільні). Што да каралеўскіх уладанняў, то ў іх права калятарства належала самому каралю; ~ **retractus** права выкупу. У старажытныя часы нерухомая маёмасць лічылася не ўласнасцю асобы, але ўласнасцю сям'і. Уладанне маглі прадаваць толькі тыя, якія не мелі нашчадкаў і толькі родзічам. Права гэта называлася **ius retractus**. Яно скасавана законам у 1768 годзе; ~ **retractatum** умова ў продажным запісе, пастаўленая прадаўцом пакупніку, што калі апошні захацеў бы прадаць набытую рэч, то першым пакупніком яе павінен быць той жа прадавец; ~ **stapulae [droit d'etape** *фр.*], **[Stappelrecht** *ням.*] закон, паводле якога ніхто не мог сам прадаваць сваіх прадуктаў на моры, але толькі праз купцоў-перакупнікаў. Такім правам карысталіся Каралявец, Торунь і некаторыя іншыя гарады; пачатак яго адносяць да 1351 года; ~ **subsidionarium** дапаможнае права, якое адносіцца да вэксальных спраў і служыць дапамогай вэксальнаму праву — **ius cambiale**; 3) **[право** *стб.*] суд, судовая справа, судовы разгляд; судаводства; 4) закон.

**iussorium**, ii *n* даручэнне; наказ.

**iuste** *adv.* (iustus) **[добре; справедливе** *стб.*] справядліва; слушна, правільна: **minus** ~ **[несправедливе** *стб.*] несправядліва, незаконна; няправільна.

**iustifico** 1. (iustificus) 1) апраўдваць; ~ **se** вызваляцца ад абвінавачванняў; даказваць сваю нявіннасць; 2) ~ **aliquid** прызнаваць сапраўднасць, правамоцнасць; 3) *pass.*: вырашаць спрэчку палюбоўна; 4) судзіць; 5) прызнаваць слушным; 6) паважаць.

**Iustina V. M.** 7 кастрычніка, 17 чэрвеня.

**Iustinus Philos**. 13 красавіка.

**Iustinus Presb**. 4 жніўня.

**iustitia**, ae *f* (iustus) 1) **[справедливость** *стб.*] справядлівасць; правасуддзе: **iustitiam administrare [вчинити | учинити | чинити справедливость]** чыніць справядлівасць / правасуддзе, здзяйсняць правасуддзе, рассуджваць; **iustitia distributiva** падзяляльная справядлівасць, г. зн. справядлівасць у раздачы ўшанаванняў, годнасцей і пасад — права караля, паводле якога ён раздаваў пасады па сваёй волі, гэтак жа як і ўладанні, што належаць памерламу. Vol. Leg., a. 1699, IV, f. 19; 2) юрысдыкцыя; улада: **alta** ~ поўная ці вышэйшая ўлада; **maior** вышэйшая карная ўлада; ~ **simplex** ніжэйшая ўлада; 3) права, якое належыць каму-небудзь; 4) плата ці падатак; 5) судовы штраф.

**iustitiatio**, onis *f* судовая ўлада.

**iustitio** 1. 1) чыніць справядлівасць; судзіць судом; 2) падахвочваць; прымушаць.

**iustitionarius**, ii *m* пракурор — асоба, якая назірала за справядлівасцю і правільнасцю рознага кшталту каралеўскіх прывілеяў. Гэтая пасада была адменена законам у 1433 годзе. Vol. Leg. I, f. 92. Item spondemus.

**iustum**, i *n* 1) справядлівасць; 2) права; 3) асуджэнне; асуджальны вырак, прысуд; 4) прывілеі; 5) *pl.* тое, што камусьці належыць; 6) *pl.* пахаванне; 7) прынятыя звычаі.

**Iustus Ep. Tergest.** 2 лістапада.

**Iustus es Domine (dominica)** Ты справядлівы, Пане, 17-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.

**iustus**, a, um (ius) [**справедливый** *стб.*] справядлівы; абгрунтаваны; паважны: **non habens iustam causam** [**не маючи справедливости** *стб.*] несправядлівы; неабгрунтаваны, беспадстаўны.

**Iuvenalis Ep. Gonf.** 3 траўня.

**Iuvenalis M.** 7 траўня.

**iuvenis**, is *m*, *f* 1) юнак; дзяўчына: ~ **masculus** [**младенец** *стб.*] юнак, маладзён; 2) чаляднік; пахолак; парабак.

**iuxta** [**водле | водлуг | подле | подлуг** *стб.*] паводле, згодна з, адпаведна, у адпаведнасці, у залежнасці ад, па.

**ivagio**, onis *m* 1) парабак, слуга; 2) селянін, прыгонны (Vol. Leg., a. 1374, I, f. 58), *гл. тс.* **iobagio**.

## K

**kalendae**, arum *f pl.* (*скар.* **kal.**) (магчыма ад гр. **kaleo** клічу, склікаю) 1) календы. У рымлян так называўся першы дзень кожнага месяца. Для вызначэння паводле сучаснага календара дня месяца, які адпавядае дню календаў, дадаюць да дня папярэдняга месяца 2, і ад сумы адымаюць лік календаў, напр. **X kalendis Augusti**: папярэдні жніўню месяц ліпень мае 31 дзень; дадаўшы да гэтага ліку 2, атрымаем суму 33; пасля адымання ад яе рымскага ліку X ці 10, рэшта 23 будзе азначаць 23 ліпеня: **ad kalendas graecas** на грэцкія календы, г. зн. ніколі; 2) месячны перыяд; 3) штомесячная сустрэча духоўных асоб.

**kamaldulus**, i *m* (ад гр. **kamelos** вярблюд і **dulos** раб, слуга) камэдул — законнік / манах каталіцкага закону / Ордэна камэдулаў, які быў заснаваны ў Італіі ў 1030 годзе каталіцкім святым Рамуальдам.

**kamedulus** *гл.* **kamaldulus**.

**khiazo**, onis *m гл.* **kniazio**.

**killagium**, ii *n* права кідання котвы / якара.

**kmetho** *гл.* **cmetho i subditus**.

**kniazio**, onis *m* князь (у паселішчах на italійскім праве).

**kuna**, ae *f* куніца — слуп з прымацаваным да яго жалезным абручом, у які замыкалі шыю злачынца, калі толькі ён не заслугоўваў смяротнага пакарання. Пакаранне куніцай было больш духоўнае, чым свецкае; а таму куны ставілі пераважна пры касцёлах па сёлах.

## L

**labellum**, i *n demin.* 1) ахвярная чарка; 2) таз; маленькая ванна; 3) саркафаг.

**labor**, lapsus sum, labi 1) падаць; 2) [**отпадати | отпадывати** *стб.*] адпадаць; пазбаўляцца.

**labor**, oris *m* 1) [**праца, робота** *стб.*] праца; работа; 2) усё, набытае працай; 3) апрацоўка поля.

**laboragium**, ii *n* паншчынная праца на карысць феадальнага пана.

**laborarium**, ii *n* (laboro) 1) набытае, набытак; 2) апрацаванае поле.

**laboratio**, onis *f гл.* **laborarium**.

**laborator**, oris *m* 1) працаўнік, працоўны; 2) паншчынны селянін.

**laboratum**, i *n* што-небудзь набытае, набытак.

**laboriosus**, a, um (labor), a, um працавіты (сталы эпітэт на азначэнне селяніна).

**laboro** 1. 1) [**робити | робливати** *стб.*] рабіць; працаваць; адпрацоўваць; 2) апрацоўваць поле; 3) даваць каму-небудзь клопатаў; 4) набываць.

**labrum**, i *n* губа, *pl.* [**губы** *стб.*] губы, вусны.

**lacha** *гл.* **lachus**.

**lachus**, i *m* (ад ням. **Lache**) насечка, знак на стаячым дрэве для пазначэння межаў.

**lacticinium**, ii *n* 1) вырабы з малака; 2) права на малако ад чужых кароў; 3) найманне кароў.

**lacuna**, ae *f* 1) заглыбленне, яма; 2) стаў, сажалка; 3) багна; 4) цыстэрна; 5) дзірка; 6) прагал; 7) недахоп, нястача.

**lacus**, us *m* [**озеро** *стб.*] возера.

**Ladislaus Rex Hung**. 27 студзеня.

**ladunga**, ae *f* род аплаты.

**laedo**, laesi, laesum, ere 1) [**казити | показити | сказити** *стб.*] казіць / псаваць; шкодзіць, наносіць шкоду; 2) [**образити** *стб.*] абражаць.

**laesio**, onis *f* (laedo) [**жаль** *стб.*] крыўда.

**laesus**, a, um [**ображеный** *стб.*] абражаны, пакрыўджаны; пацярпелы.

**Laetare (dominica)** радуйся, 4-я нядзеля Вялікага Посту.

**lagemannus**, i *m* асэсар у трыбунале.

**laicellus**, i *m* 1) абозны; 2) хлопчык; 3) вучань у цаху; 4) памагаты капальніка ў салянай жупе.

**laico**, onis *m гл.* **laicus**, i *m*.

**laicus**, a, um 1) свецкі: **communio laica** свецкі стан; **in statu laico** як свецкі брат у манаскім ордэне; **scholasticus laicus** клерык, які яшчэ не мае пасвячэння;

2) звычайны: **lingua laica** a) народная, простая мова, b) нацыянальная мова ў супрацьпастаўленні да лаціны; 3) не пасвячаны.

**laicus**, i *m* ляік — свецкая асоба; манастырскі служка.

**Lambertus Ep. M.** 17 верасня.

**lamen**, inis *n* бляха, металічны ліст; пліта: ~ **pectorale** бляха панцыра.

**lamentatio**, onis *f* (lamentor) 1) нараканне; скарга; 2) жаласны спеў; 3) галашэнне; 4) пазоў / выклік у суд; 5) скарга; 6) паклёп.

**Lamentationum dies** дні жальбы, чацвер, пятніца і субота тыдня Мукі Пана.

**laminarius**, ii *m гл.* **laminator**.

**laminator**, oris *m* бляхар — рамеснік, які робіць прадметы з бляхі.

**laminifex**, icis *m гл.* **laminator**.

**lanagium**, ii *n* аўчына.

**lanarorus**, i *m* прадавец воўны.

**lancea**, ae *f* 1) дзіда, кап'ё; 2) [**рагатина** | **рогатина** *стб.*] рагаціна.

**landgravia**, ae *f* жонка ляндграфа.

**landgraviatus**, us *m* прастора, падданая ўладзе ляндграфа.

**landgravius**, ii *m* ляндграф — тытул некаторых удзельных князёў у Нямеччыне.

**landmareschalcus**, i *m* маршалак Ордэна Рыцараў Хрыстовых (мечаносцаў) у Лівоніі.

**laneale**, is *n* ланавае — падатак плачаны з лана.

**lanealis**, e ланавы, датычны лану.

**laneator**, oris *m* селянін, які мае лан.

**laneus**, i *m* [**łan** *пл.*] лан — адна з найстаражытнейшых зямельных мер, якая была ва ўжытку яшчэ ў XIII стагоддзі. У лане звычайна лічылі 3 валокі, у валоцы 30 моргаў. Ланы былі чатырох відаў: франконскі ці французскі, тэўтонскі ці нямецкі, сялянскі і рэвізорскі. Некаторыя з іх падзяляліся далей на вялікія і меншыя.

**languor**, oris *m* (langueo) 1) стомленасць; 2) слабасць, недахоп сіл; 3) хвароба; 4) лянота; 5) абыякавасць; 6) засмучанасць; меланхолія; 7) нуда; 8) цішыня; спакой; 9) шал; апантанасць.

**lanio**, onis *m* [**zarembacz** *пл.*] мяснік, рэзнік.

**lansknechtus**, i *m* наёмны жаўнер; дзіданосец.

**lapidarium**, ii *n* 1) каменяломня; 2) кніга аб каштоўных камянях.

**lapidarius**, ii *m* 1) камяняр; 2) кніга аб каштоўных камянях.

**lapidea**, ae *f* [**kamienica** *пл.*] камяніца, каменны дом.

**lapis**, idis *m* камень: **lapides** [**каменье** (мн. л.) *стб.*] каменне; **omnem lapidem movere** прыкласці ўсе магчымыя высілкі.

**lapsitudo**, inis *f* падзенне; заняпад.

**lapsura**, ae *f* 1) спатыканне; 2) памылка (*асаб.* у словах прысягі).

**largientia**, ae *f* дарунак.

**largiforum**, i *n* вольны рынак.

**largitio**, onis *f* (largior) [**largicya** *пл.*] 1) шчодрасць; 2) шчодрая раздача, ахвяраванне; 3) марнатраўства.

**lasca**, ae *f* судзейскае жазло.

**lasta**, ae *f гл.* **lasto**.

**lasto**, onis *m* лашт — мера аб'ёму каля 3800 літраў.

**later**, eris *m* [**плита** *стб.*] цагліна.

**lateranea**, ae *f* каралева.

**laterarius**, ii *m* [**strycharz** *пл.*] цагельнік.

**lateratio**, onis *f* канец — мяжа, якой адно поле мяжуе з іншым.

**latero** 1. (latus) класці штосьці побач з чым-небудзь; далучаць.

**Latinus**, a, um [**латинский** *стб.*] 1) лацінскі; 2) каталіцкі.

**latrator**, oris *m* (latro, are) [**кобель** *стб.*] кабель, сабака.

**latus**, eris *n* вынік ці г. зв. транспарт — перанясенне выніку ці сумы на наступную старонку.

**laubia**, ae *f* (ад ням. **Laub** ліст) порцік, крыты лісцем; ход для шпацыру.

**laudabilis**, e (laudo) *adi.* ухвалявльны, пахвальны; ухвалены.

**laudabiliter**, *adv.* (laudabilis) 1) хвалебна, пахвальна; ганарова; 2) належна; беззаганна, бездакорна, без папроку; 3) ~ **appellare** ухваляць, зацвярджаць.

**laudamen**, inis *n* згода.

**laudamentum**, i *n* 1) ухвала; 2) згода бацькоў на адчужэнне нерухомасці; 3) згода сеньёра на замену лена; 4) дарэнне; 5) дакумент дарэння; 6) (ленная) прысяга; 7) угода; дамова; 8) дакумент дамовы; 9) ацэнка; 10) багацце; здольнасць.

**laudatio**, onis *f* (laudo) 1) пахвала; 2) ухвала, прызнанне, пацвярджэнне; 3) наказ; 4) згода; 5) дамова.

**laudator**, oris *m* (laudo) 1) ухвальнік, прыхільнік; 2) сведка, які дае паказанні на карысць абвінавачанага; 3) пасрэднік; 4) прамоўца на пахаванні.

**laudemium**, ii *n* грошы, якія плаціцца ўладальніку маёнтка за прызнанне васальнай залежнасці новага пасяленца.

**laudo** 1. (laus) 1) хваліць; 2) ухваляць, згаджацца; 3) саступаць; 4) быць пасрэднікам; 5) даваць параду.

**Laurentii Martyris** 10 жніўня.

**laus**, laudis *f* 1) пахвала, хвала; 2) ухвала, згода.

**Lavationis (dies)** чацвер.

**Lazarus Christi disc. Ep. Massil.** 17 снежня.

**lector**, oris *m* 1) чытач; 2) дэкламатар; 3) сакратар; пісец, пісар.

**ledus** *гл.* **litus**.

**lega**, ae *f* проба металу, *асаб.* у манеце.

**legalisatio**, onis *f* [**legalizacya** *пл.*] засведчанне подпісу чыноўніка, што падпісаў акт, які павінен паступіць у іншую юрысдыкцыю.

**legalitas**, atis *f* 1) сумленнасць; 2) вернасць; вера; 3) законнасць: **legalitas infirmitatis** законнасць у выпадку хваробы падсуднага.

**legatio**, onis *f* (lego, are) 1) [**посельство** *стб.*] пасольства; 2) [**legata** *пл.*] запіс, паводле якога той, хто здзяйсняе яго, робіць іншую асобу ўладальнікам усёй сваёй маёмасці ці толькі яе часткі.

**legator**, oris *m* (lego, are) 1) паслядоўнік; 2) пасол.

**legatorius**, i *m* (legatus) купецкі агент.

**legatum**, i *n* (lego, are) рухомая маёмасць, запісаная каму-небудзь тастаментам / завяшчаннем.

**legatus**, i *m* (lego, are) [**legat** *пл.*] пасол (ад урада); папскі пасол, легат; нунцый: ~ **natus** нязменны нунцый у якой-небудзь дзяржаве.

**legionarius**, i *m* (legio) палкоўнік.

**legitima**, ae *f* частка, якая паводле закону належыць дзецям, законным спадкаемцам.

**legitime** *adv.* (legitimus) 1) [**врадне** | **врадовне** *стб.*] юрыдычна / урадна / законна, паводле закону; 2) [**слушне** *стб.*] слушна; належным чынам; абгрунтавана; 3) [**остатне** *стб.*] канчаткова.

**legitimo** 1. [**legitymować** *пл.*] 1) даказваць чыесьці правы, напр. шляхецтва, спадчыны: ~ **se** апраўдваць сябе судовым парадкам, даказваць свае правы; 2) прызнаць афіцыйна сваё дзіця.

**legitimus**, a, um 1) [**слушный** *стб.*] слушны; належны, адпаведны; законны; абгрунтаваны, паважлівы; 2) [**врадовый** *стб.*] урадавы / законны, судовы.

**lego** 1. [**отказати** | **отказывати** *стб.*] адказваць / завяшчаць, адпісваць.

**lego**, legi, lectum, ere [**читати** *стб.*] чытаць.

**legro**, onis *m* купецкі прыказчык, фактар.

**Leo I P.** 11 красавіка, 14 сакавіка.

**Leo II P.** 28 чэрвеня.

**Leo IX P.** 19 красавіка.

**Leonardus** 6 лістапада.

**Leopoldus** 15 лістапада.

**lepca, ae** *f s.* **lapca**, ae *f* род круглага шалома.

**leudis**, is *m* 1) чалавек, які належыць да ніжэйшай катэгорыі вольных людзей: гэта клас людзей, якія хоць і мелі свайго пана, але не былі яму цалкам падпарадкаваны; такія людзі маглі мець таксама ўласную зямлю. Яны складалі нібы сярэдзіну паміж вольнымі людзьмі і нявольнікамі, *гл. тс.* **litus**, i *m*; 2) каралеўскі давераны; 3) дзяржаўца / арандатар; 4) васал.

**leudum**, i *n* галаўшчына — пакрыццё шкоды за забойства.

**leuteratio**, onis *f* просьба аб тлумачэнні прысуду (у Нямеччыне).

**leva**, ae *f* 1) бунт; 2) аплата.

**levagium**, ii *n* падатак ад абарачэння.

**levipendium**, ii *n* 1) пагардлівасць; 2) абраза, знявага.

**levipendo**, pendi, pensum, ere 1) грэбаваць; 2) абражаць, зневажаць; 3) luганіць, г. зн. аспрэчыць сапраўднасць дакумента.

**levitas**, atis *f* (levis) 1) [**легкость** *стб.*] лёгкасць; нязначнасць; 2) непавага; зняВага; абраза.

**lex**, legis *f* 1) [**право** *стб.*] права; закон: ~ **sumptuaria** закон, які забараняе залішнія выдаткі: простаму народу і мяшчанам забаронена было насіць шаўковыя матэрыі, дарагія футры пад штрафам 14 марак ці грыўняў (Vol. Leg., a. 1613, III, f. 183), а шляхце забаронена было ўжываць на вопратку замежнае сукно. Vol. Leg. VIII, f. 893; 2) ухвала, пастанова народнага сходу; 3) прадпісанне права.

**libella**, ae *f demin.* 1) дробная манета — 1/10 дынара, *гл.* **sestertius**; 2) грунтвага, ватэрпас.

**libellarium**, ii *n* 1) дамова вечнай арэнды; 2) зямля, аддадзеная ў вечную арэнду.

**libellarius**, a, um (libellus) 1) заснаваны на кантракце, кантрактны; 2) вызвалены з няволі праз выдачу адпаведнага дакумента.

**libellus**, i *m demin.* 1) кніжка, кніжачка; твор: ~ **famosus** пасквіль. Законам, выдадзеным у 1570 годзе, за складанне пасквіляў было прызначана смяротнае пакаранне. Vol. Leg., a. 1570, II, f. 838; 2) ліст; 3) запіс, паводле якога маёмасць аддаецца ў леннае валоданне.

**liber**, bri *m* [**книга** *стб.*] кніга: **libri beneficiorum et retaxationum** кнігі касцёльных прыходаў і ацэнак. Арыгіналы гэтых кніг знаходзіліся ў Кракаўскім катэдральным касцёле. На іх падставе вырашаліся ўсе спрэчкі пра дзесяціны, пакуль у 1635 годзе не было забаронена законам засноўвацца на іх у справах шляхецкіх маёнткаў. Vol. Leg. III, f. 859. De libris beneficiorum.

**liber**, era, erum [**волен** | **волный** | **вольный** *стб.*] вольны, свабодны; дазволены; які мае права; публічны: **liberum** [**волно** | **вольно** *стб.*] вольна, свабодна; можна, дазволена; **liberum esse** [**вольную моц мети** *стб.*] мець поўнае права, мець поўную волю / свабоду.

**liberalis**, e (liber) 1) які тычыцца стану вольнага чалавека; 2) уласцівы вольным людзям; 3) шляхетны, высакародны: ~ **homo** высакародны муж.

**liberalitas**, atis *f* (liberalis) 1) паводзіны, вартыя вольнага чалавека, шляхетнасць, сумленнасць; 2) [**щедрость** | **щедротливость** *стб.*] шчодрасць; 3) ветласць; добразычлівасць; 4) паблажлівасць; 5) вольнасць, свабода; 6) заможнасць; 7) часовае вызваленне ад платы чыншу.

**libere** *adv.* (liber) [**доброволькна** *стб.*] вольна; бесперашкодна.

**liberi**, erorum *m* (liber) [**дети** *стб.*] дзеці.

**libero** 1. (liber) [**вызволити** *стб.*] вызваляць.

**libertas**, atis *f* (liber) 1) [**слобода** *стб.*] свабода, воля; вольнасць: **libertates** [**вольности** (мн. л.) *стб.*] вольнасці; 2) акруга, жыхары якой карыстаюцца вольнасцямі; 3) дакумент на звальненне ці вызваленне ад няволі; 4) дазвол; згода.

**libertatio**, onis *f* [**libertacya** *пл.*] звальненне ад усялякіх падаткаў.

**liberto** 1. 1) [**вызволити** *стб.*] вызваляць, рабіць вольным; 2) даваць свабоду якому-небудзь месцу, звальняючы яго ад падаткаў.

**libertus**, i *m* адпушчанік — адпушчаны на волю нявольнік, якому дадзена воля, з умовай падпарадкавання і выканання некаторых прац.

**libra**, ae *f* [**funt** *пл.*] фунт — адзінка вагі каля 327,54 г. Паводле закону (Vol. Leg. VII, f. 520) літоўскі фунт павінен быць меншы на адну пятую за прускі фунт і змяшчаць у сабе трыццаць два лоты. Польскі фунт паводле закону (Vol. Leg. VII, f. 331) павінен змяшчаць у сабе 32 вроцлаўскія лоты. Польскі фунт утрымліваў у сабе 16 унцый (*гл.* **uncia**), унцыя — два лоты (*гл.* **lotus**), лот — 4 драхмы (*гл.* **drachma**), драхма — 3 скрупулы (*гл.* **scrupulus**), скрупул — 24 граны (*гл.* **granum**).

**librarius**, ii *m* 1) перапісчык, капіст; пісар; 2) сакратар; 3) пісьменнік; 4) рахункавод; 5) кнігапрадавец; 6) універсітэцкі службовец, які прадаваў з дазволу ўніверсітэта старыя кнігі; 7) настаўнік пісьма ў пачатковай школе.

**librata**, ae *f* фунт.

**libratorium**, ii *n* установа, у якой кантралявалі вагу тавараў.

**libripensa**, ae *f* будынак установы, у якой кантралявалі вагу тавараў.

**licentiandus**, i *m* той, хто прыступае да іспыту на ступень ліцэнцыята.

**licentiatio**, onis *f* 1) наданне права, дазвол; 2) звальненне са службы; 3) прамоцыя на ліцэнцыята.

**licentiatus**, a, um [**licencyat** *пл.*] свавольны.

**licentio** 1. дазваляць рабіць якую-небудзь справу.

**licet**, uit, (licitum est), ere 2. [**волно | вольно** *стб.*] вольна, свабодна; можна, дазволена.

**licitatio**, onis *f* (licitor) 1) падвышэнне кошту; 2) гандаль; аўкцыён; 3) хцівасць; прага прыбытку; 4) арэнда.

**licitor** 1. *intens.* 1) выстаўляць на продаж; 2) прадаваць з аўкцыёну; 3) устанаўліваць кошт; 4) купляць; 5) прадаваць; 6) змагацца; 7) часта адзначаць; вылучаць.

**lidimonium** *гл.* **litimonium**.

**lidus** *гл.* **litus**.

**liga**, ae *f* 1) звяз, ліга; саюз; уклад; 2) абавязацельства; 3) рамень; шнурок; повязь.

**ligamen**, inis *n* (ligo) 1) перавязка; апаяска; 2) сувязь, лучнасць; 3) прысяга на вернасць; 4) арышт, утрыманне пад вартай; 5) мяшок, у якім была соль.

**ligamentum**, i *n* (ligo) 1) сувязь; 2) звяз, хаўрус; умова; дамова: **ligamenta iuris** [**ligamenta prawne** *пл.*] законныя ці юрыдычныя ўмовы, а таксама законныя адносіны адной справы да іншай.

**ligantia**, ae *f* *гл.* **ligietas**.

**ligatio**, onis *f* *гл.* **ligamentum**.

**ligatus**, i *m* род манеты.

**ligentia**, ae *f* *гл.* **ligietas**.

**ligietas**, atis *f* 1) права пана ці ўладальніка адносна васала; 2) прысяга васала свайму пану.
**ligium**, ii *n гл.* **ligietas**.
**ligius**, a, um ленны.
**ligius**, ii *m* 1) слуга, верны свайму пану ці які прысягнуў на вернасць свайму пану: ~ **terrae** тубылец; падданы; 2) леннік.
**lignagium**, ii *n* 1) права секчы дровы ў лесе ці плата за гэтае права; 2) роднасць; паходжанне.
**lignarium**, ii *n* 1) месца для дроў, дроўня; касцёр, клад дроў; 2) абавязак вазіць дровы для пана; 3) *гл.* **lignagium**.
**lignarius**, a, um (lignum) датычны дрэва ці драўніны, дрэўны: **artifex** ~ разьбяр; ~ **faber** сталяр; цясляр; ~ **census** г. зв. дрэўнае — аплата, уведзеная замест дастаўкі сялянамі драўніны.
**lignarius**, ii *m* (lignum) [**cieśla** *пл.*] цесля, цясляр.
**lignero** 1. *гл.* **ligno**.
**lignetum**, i *n* гай; невялікі лясок.
**lignio** 1. *гл.* **ligno**.
**lignisectura**, ae *f* права высечкі дрэва.
**ligno** 1. секчы, ссякаць дровы.
**lignum**, i *n* [**дерево** *стб.*] дрэва; драўніна: **ligna** [**дрова** *стб.*] дровы.
**ligoniso** 1. капаць матыкай, апрацоўваць зямлю матыкай: **in hortis si quis ligonisando plantaverit, decima ab eo nullatenus recipiatur** калі хто пасадзіць што-небудзь у садзе, апрацоўваючы яго матыкай, то зусім не варта браць ад яго дзесяціны. Vol. Leg. I, f. 97.
**limbolarius**, ii *m* [**szmuklerz** *пл.*] пазументнік.
**limes**, itis *m* (limus) [**граница | грань, межа** *стб.*] граніца / мяжа.
**liminius**, ii *m* чалавек, які вяртаецца з выгнання.
**limitale**, is *n* г. зв. парогавае — від падатку.
**limitaneus**, i *m* (limes) 1) намеснік памежнай правінцыі; 2) маркграф.
**limitatio**, onis *f* (limito) [**limita, limitacya** *пл.*] 1) адтэрміноўка, напр. сойма, пасяджэння трыбунала; 2) [**граниченье** *стб.*] гранічанне / размежаванне, усталяванне мяжы.
**limito** 1. (limes) [**limitować** *пл.*] 1) адкладаць, адтэрміноўваць; 2) [**граничити** *стб.*] гранічыць / адмяжоўваць, размяжоўваць, усталёўваць межы.
**linalia**, ium *n pl.* дзесяціна лёнам.
**linealis**, is *m* (linea) крэўны ў прамой лініі.
**lineatio**, onis *f* (lineo) 1) прамая лінія; 2) *перан.*: абрысы, форма; 3) разліноўка; 4) касаванне вольнага месца ў судовай кнізе.
**Linus P. M.** 26 лістапада.
**liquidatio**, onis *f* [**likwidacya** *пл.*] 1) ліквідацыя; разлік, ачыстка ці звядзенне рахункаў; 2) рахунак, прадстаўлены ў суд з патрабаваннем кампенсацыі пане-

сеных страт з прычыны заведзенай справы. Рахунак гэты прадстаўляўся ў канцы пазову / выклiку ў суд, але пераважна асобна.

**lis**, litis (*gen. pl.* ium) *f* 1) спрэчка; судовая справа, працэс, цяжба, суд: **decisio litis** [**росправа** *стб.*] разбор справы, судовы разгляд; **litis expensae** судовыя выдаткi; **litis contestatio**: a) канстатаванне спрэчкi, b) уступленне ў спрэчку; 2) прадмет спрэчкi; 3) спрэчка; сварка; звада.

**lisida**, ae *f* 1) гандлёвая аплата; 2) абавязак правозу.

**litera** *гл.* **littera**.

**lithcupo**, onis *m* лiткуп / магарыч — выпiванне напою для зацвярджэння дамовы куплi-продажу.

**liticium iuramentum** прысяга, якая давалася ў час працэсу.

**liticus**, a, um спрэчны.

**litigans**, ntis *m* [**litygant** *пл.*] той, хто спрачаецца ў судзе, хто мае справу ў судзе.

**litigatio**, onis *f* (litigo) [**litygacya** *пл.*] спрэчка перад судом.

**litimonium**, ii *n* абавязак цi служба, якую неслi лiты — **liti** прыпiсныя людзi ў адносiнах да сваiх паноў.

**litio**, onis *m гл.* **litus**.

**litispendentia**, ae *f* [**lityspendencya** *пл.*] прамежак часу ад пачатку працэсу ў судзе да яго заканчэння цi да канчатковага вырашэння справы.

**litisquaestionor** 1. весцi судовую спрэчку.

**litonicus**, a, um датычны лiтаў: **litonica bona** землi, на якiх жылi прыпiсныя людзi — лiты **liti**.

**litra**, ae *f* 1) адзiнка вагi, фунт; 2) мера вадкасцей.

**litrum**, i *n* выкуп ваеннапалоннага.

**littera**, ae *f* (lino) 1) лiтара: ~ **dominicalis** нядзельная лiтара, уруцэлета; так называецца адна з 7 лiтар, прынятых у пасхалii, якая на працягу года адпавядае лiкам нядзельных дзён. Лiтары гэтыя: **а з s е д г у** Праваслаўнай царкве, **f g A b c d e** ў Касцёле азначаюць 1-ы, 2-, 3-, 4-, 5-, 6- i 7-ы днi верасня. Яны размешчаны тут у велiкодным парадку. Паколькi ў старажытнай праваслаўнай пасхалii гады лiчылiся ад стварэння свету i з 1-га дня верасня, то першы год у сонечным крузе пачынаўся заўсёды з 1 верасня, якому адпавядала заўсёды нядзеля. З часу перапрацоўкi праваслаўнай пасхалii Касiядорам гады пачалi лiчыць з 1 сакавiка. Нядзельныя лiтары ў каталiцкай пасхалii новага стылю падпарадкоўваюцца iншым прынцыпам. Наогул нядзельныя лiтары цi ўруцэлеты неабходны для вызначэння дня святкавання Вялiкадня i дзён тыдня; 2) пiсьмо; 3) [**лист** *стб.*] *pl.*: лiст, пiсьмовае сведчанне, дакумент: **literae apertae** [**лист отвороный** *стб.*] адкрыты лiст; **literae consensuariae** [**лист дозволений** *стб.*] дазвольны лiст; **literae de interrupta praescriptione** [**лист впоминальный** *стб.*] упамiнальны (напамiнальны) лiст; **literae in dilationem iudicii, literae inhibitoriae** [**лист заповедный** *стб.*] запаведны лiст (дазвол на адтэрмiноўку яўкi ў суд); **literae iudiciariae** [**лист судовый** *стб.*] судовы лiст, судовае рашэнне; **litterae moratoriae** [**list moratoryjny** *пл.*] лiст за-

маруджвальны. Кароль, дазнаўшыся з боку, што пазоўнік / ісцец быў значна мацнейшы за пазванага ў суд, які быў ці непаўналетнім, ці знаходзіўся ў далёкіх краях, выдаваў гэтаму апошняму маратарыйны ліст, на моцы якога ніводзін суд не мог вырашаць яго справы да вызначанага тэрміну; **litterae publicae fidei [żelazne listy** *пл.*] жалезны ліст — ахоўны ліст, які выдаецца каралём на пэўны тэрмін асобам, асуджаным на баніцыю / выгнанне. Яны не маглі выдавацца на абарону сялян супраць іх паноў. Vol. Leg. I, f. 567; **litterae reformatoriae [zapis reformacyiny** *пл.*] *гл.* **reformatio; litterae restium [wici** *пл.*] віцы — абвесткі, позвы, пасыланыя каралём шляхце для выкліку яе да паспалітага рушэння на абарону айчыны. Яны былі трохразовыя — **trinae literae restium**: першыя два, каб шляхта падрыхтоўвалася, а пасля трэцяга прызначаўся дзень на прыватныя соймы па паветах, дзе вырашалася, калі і куды належала з'явіцца. Vol. Leg. I, f. 392; **litterae reversales** распіска, пісьмовае абавязацельства; **litterae salvi conductus [gleit, list żelazny** *пл.*] глейт, ліст жалезны, тое ж, што і **literae publicae fidei** ахоўны ліст. У Польшчы лісты гэтыя выдаваліся каралямі асуджаным на баніцыю / выгнанне і прысуджаным да інфаміі / пазбаўлення гонару для прыпынення судовага прысуду, які адбыўся над імі. Тэрмін, на працягу якога гэтыя лісты мелі сваю моц, быў трохмесячны; аднак абвінавачанаму дазвалялася тры разы на працягу года прасіць гэтай міласці. У 1764 годзе пастаноўлена было, каб лісты гэтыя не выдаваліся супраць судовых вызначэнняў, але давалі толькі права вінаватаму абараняцца ў судзе (Pacta conventa, a. 1764, f. 204). У Літве-Беларусі не толькі каралі, але і канцлеры мелі права выдаваць глейты, якія маглі служыць толькі год і шэсць тыдняў. Стат. Літ., разд. I, арт. 12; 4) [**запис** *стб.*] запіс.

**litteralis**, e (littera) 1) датычны пісьма; 2) перапісаны; дадзены на пісьме: ~ **procurator** намеснік, устаноўлены пісьмовым дакументам; 3) пісьмовы; літарны; 4) ~ **sensus** даслоўны, літаральны (сэнс); 5) адукаваны.

**litteralis**, is *m* (littera) пісьмовы пазоў / выклік у суд.

**litterarie** *adv.* 1) пісьмова, у пісьмовым выглядзе; 2) шляхам пісьмовага пазову / выкліку ў суд.

**litteratoria**, ae *f* пісьмовы дакумент, пісьмовае сведчанне.

**litteratorie** *adv.* 1) пісьмова, у пісьмовым выглядзе; 2) у лісце; 3) з лістамі; 4) па лаціне.

**litterula**, ae *f demin.* 1) літарка; 2) *pl.* кароткі ліст; 3) дакумент; 4) граматычныя веды.

**littorarius**, ii *m* пабярэжнік.

**liturgia**, ae *f* літургія, Божая Служба: **praesanctificatorum liturgia** літургія раней асвячаных дароў.

**litus**, i *m* 1) чалавек прыпісны, слуга, нявольнік; 2) пасяленец, які хадзіў на вайну з каралём і які карыстаўся за гэта некаторымі перавагамі.

**livido** 1. (lividus) 1) рабіць сінім; ставіць сінякі; 2) пэцкаць; 3) крытыкаваць; ганіць.

**lixa**, ae *m* сварка, бойка.

**lobeum**, i *n* месца правядзення судоў; трыбунал.

**lobia** *гл.* **laubia**.

**lobium**, i *n гл.* **laubia**.

**locarium**, ii *n* 1) арэндная плата за гандлёвую краму; 2) плата васала свайму пану, якая замяняе абавязак суправаджаць яго ў дарозе і даваць яму памяшканне.

**locatio**, onis *f* (loco) [**lokacya** *пл.*] 1) змяшчэнне рухомай маёмасці. Так, напр., паводле закону, муж, які атрымліваў пасаг за жонкай, павінен быў адзначыць яго змяшчэнне; 2) дзяржанне / арэнда — добраахвотная дамова дзвюх ці некалькіх асоб, датычная карыстання маёнткам і платы за гэтае карыстанне; 3) прывілей караля, дадзены прыватнай асобе на заснаванне мястэчка ці горада на нямецкім ці магдэбургскім праве.

**locator**, oris *m* (loco) 1) дзяржаўца / арандатар, наймальнік; 2) асаднік; асадчы; 3) асоба, якая аддае ў найм, наймадаўца.

**locatura**, ae *f* 1) змяшчэнне; 2) функцыя намесніка настаўніка.

**locatus**, i *m* 1) памочнік парафіяльнага ксяндза, вікарый; 2) намеснік настаўніка.

**locellum**, i *n* 1) невялікі маёнтак; леціпіча / дача; 2) поле.

**loco** 1. (locus) 1) [**осадити | осаживати | посадити** *стб.*] асаджваць (на зямлі, зямельным уладанні), садзіць (на зямлі); 2) прызначаць; 3) выпраўляць; 4) суправаджаць.

**locrium** *гл.* **locarium**.

**locumtenens**, ntis *m* 1) намеснік; заступнік: **locumtenentes regis** намеснікі, якія ставіліся каралём на час яго адсутнасці; 2) распарадчык / намеснік правінцыі.

**locumtenentia**, ae *f* рэгіён распарадчыка правінцыі.

**locus**, i *m* [**место | местце | местцо** *стб.*] месца: **loco** [**вместо | место | местце | местцо** *стб.*] замест; ~ **datiarum** мытня; ~ **standi** права ставаць / з'яўляцца на прызначаны суд, якое ў пэўных выпадках прадстаўлялася банітам — асобам, асуджаным на выгнанне з краю. Vol. Leg. II, f. 1220.

**locutio**, onis *f* (loquor) 1) маўленне; вымаўленне; стыль; 2) мова; 3) звяртанне да кагосьці; размова; 4) прамова; 5) выказванне: ~ **pluralis** выказванне, накіраванае да вялікай колькасці людзей; 6) (моўны) зварот, выраз; 7) сведчанне, зробленае перад судом; 8) абвяшчэнне юрыдычных прэтэнзій; 9) дамова.

**locutor**, oris *m* (loquor) 1) прамоўца; 2) юрыдычны намеснік; 3) пустаслоў; 4) сведчанне, зробленае перад судом; 5) абвяшчэнне юрыдычных прэтэнзій; 6) дамова;

**logerium** *гл.* **locarium**.

**longaevus**, a, um (longus) 1) даўгавечны; вельмі стары; пракаветны; 2) шматгадовы; 3) працяглы: ~ **usus** даўні звычай; 4) ~ **dies** шасцітыднёвы тэрмін, *асаб.* апошні дзень гэтага тэрміну.

**longe** *adv.* (longus) [**далеко** *стб.*] далёка.

**Longinus M.** 25 сакавіка.

**longum**, i *n* 1) доўгі час: **a longo** здалёку; **ad ~ et ad latum:** a) уздоўж і ўпоперак, b) доўга і шырока; **in** ~ надоўга; **ex longo** здавён; **per** ~ уздоўж; 2) доўг.

**longus**, a, um 1) доўгі; высокі; глыбокі: ~ **tempus** *s.* **opus** чатыры шыхты ў капальні; 2) далёкі; 3) доўгі, працяглы:

**lonher**, i *m* скарбовы ўраднік.

**loquentia**, ae *f* (loquor) 1) балбатлівасць, шматслоўнасць; 2) выказванне меркавання арбітра.

**loquor**, locutus sum, loqui 1) гаварыць, казаць; 2) [**мовити** *стб.*] прамаўляць; выступаць (на судзе).

**lorica**, ae *f* (lorum) 1) [**панцэр** *стб.*] панцыр; браня, даспехі: **feudum loricae** лен, з якім звязаны абавязак коннай ваеннай службы; **libros loricis mutare** змяняць кнігі на даспехі; 2) вал, насып; 3) плот; 4) *перан.*: парэнчы ў лесвіцы.

**loricatus**, i *m* рыцар у даспехах.

**loto**, onis *m гл.* **lotus**.

**lotonus**, i *m* вагава-грашовая адзінка.

**lotum**, i *n* мера вадкасцей.

**lotus**, i *m* 1) адзінка вагі роўная 1/32 фунта (*гл.* **libra**); 2) вагава-грашовая адзінка; 3) адзінка пазначэння пробы срэбра ў сплаве; 4) г. зв. лот, гадавая аплата за права карыстання маёмасцю малалетняга, узятага ў апеку.

**lovia** *гл.* **laubia**.

**Lucas Evang.** 18 кастрычніка.

**Lucia Virg. M.** 13 снежня.

**Lucianus M.** 7 студзеня.

**Lucius P.** 4 сакавіка.

**lucrabilis**, e 1) прыбытковы; 2) узараны: **lucrabiles terrae** узараныя, апрацаваныя палі.

**lucratio**, onis *f* (lucror) 1) карысць; прыбытак; 2) перамога справы ў судзе.

**lucratura**, ae *f* прыбытак ад зямлі.

**Lucretia** 7 красавіка.

**lucrifractus**, us *m* набыццё; атрыманне.

**lucror** 1. (lucrum) 1) [**зыскати** *стб.*] спаганяць (праз суд); 2) аддаваць грошы ў ліхву: ~ **animam suam** аддаваць свае ўладанні касцёлам; 3) араць.

**lucrum**, i *n* 1) карысць; прыбытак, зыск: ~ **camerae** адмысловы падатак, які плаціўся ў старажытнасці каралю, каб пасля кожных трох гадоў не адмянялася звонкая манета; 2) прэзыск / выйгрыш, усё, што набыта бокам, які выйграў працэс у судзе. Прэзыскі гэтыя ці **lucra** падзяляліся на некалькі відаў: a) ~ **simplex sub poena banitionis** просты прэзыск пад пагрозай баніцыі ці

выгнання, b) ~ **ulterioris executionis** прэзыск далейшай экзекуцыі, c) ~ **ultimariae executionis** прэзыск канчатковай экзекуцыі ці канчатковага выканання прысуду, d) ~ **iteratum ultimarie** прэзыск паўтораны канчаткова, e) ~ **poenarum legum, videlicet, infamiae, captivationis** прэзыск ад законных спагнанняў ці пакаранняў, г. зн. пазбаўлення гонару — **infamiae** і турэмнага зняволення — **captivationis**. Ад кожнага з гэтых прэзыскаў плацілася пэўная колькасць земскаму пісару і ў судовую касу. Vol. Leg. VI, f. 441.

**Ludovicus Rex Gall.** 25 жніўня.

**lumbus**, i *m* паясніца; сцёгны: **de lumbis successores** спадчыннікі па мячы / па бацьку; **de lumbis alicuius egredi** *s.* **descendere** паходзіць ад кагосьці; ~ **aprinus** палядвічная выразка з кабана.

**lumen**, inis *n* [**свеча** *стб.*] свечка.

**luminositas**, atis *f* яснасць, бляск.

**Luminum (festum)** свята Аб'яўлення Пана.

**luo**, lui, luiturus, ere [**платити** *стб.*] плаціць, выплачваць; аплачваць.

**luprum**, i *n* г. зв. выяўленне справы, аб'ява пра ўнясенне скаргі ў судзе нямецкага права.

**lupularius**, ii *m* [**chmielnik** *пл.*] 1) хмельнік; 2) прадавец хмелю.

**lupulus**, i *m* хмель.

**lustratio**, onis *f* (lustro) 1) агляд, рэвізія; 2) попіс, яўка і агляд усіх станаў, духоўных і свецкіх, гарадскіх і сельскіх, прызначаліся звычайна на пэўны час і ў вызначаным месцы. Першы раз такі агляд прызначаўся пры Жыгімонце I у 1545 годзе (Vol. Leg. I, f. 585). На гэты агляд шляхта павінна была з'яўляцца са зброяй і з коньмі.

**lustrator**, oris *m* рэвізор.

**lustrum**, i *n* [**веремя** *стб.*] зерамя / бабровае гнездзішча, бабровае логава.

**luterium**, ii *n* апанча.

**lutina**, ae *f* 1) гліняны прадмет; 2) лютня.

**lutrarius**, ii *m* сабака для палявання на выдраў.

**lyahawy** [**ласявый, лектавый** *стб.*] лягавы, выжал (паляўнічы сабака).

## M

**Macarius A. Octava S. Stephani** 2 студзеня.

**Macedonius presb.** 13 сакавіка, 12 верасня.

**Macellus P. M.** 16 студзеня.

**maceratio**, onis *f* (macero) 1) змякчэнне, размякчэнне; 2) турбота; 3) *пераН.*: псаванне; 4) катаванне; 5) забойства.

**macero** 1. 1) мачыць; 2) змякчаць; 3) турбаваць; дратаваць; 4) аслабляць; марыць: **fame** ~ марыць голадам; 5) катаваць; 6) умярцвяць, забіваць.

**machaerophorus**, i *m s.* **macherophorus**. 1) чалавек, узброены мячом; 2) мечнік, прыдворны службовец, які носіць меч перад уладцам.

**macharonicus**, a, um макаранічны; на благой лаціне; варварскі.

**machinatio**, onis *f* (machinor) 1) будоўля; канструкцыя; 2) *перан.*: машына; 3) [**machinacya** *пл.*] зламыснасць, падступства; фартэль, падман, інтрыга; 4) [**похвалка** *стб.*] пахвалка / пагроза; выхвалянне, пахвальба; 5) запіс, тастамент / завяшчанне.

**machinator**, oris *m* (machinor) [**похвалца** *стб.*] пахвальца / пагрознік; хвалько.

**machinor** 1. (machina) [**machinować** *пл.*] 1) прыдумляць захады на шкоду камусьці; задумваць злачынства; 2) [**пофалити, фалити ся | похвалити ся, вчинити похвалку** *стб.*] выхваляцца, хваліцца; пагражаць.

**Macrobius et Iulianus** 13 верасня.

**macula**, ae *f* 1) пляма; знак, адбітак; вада, недахоп; 2) рана; удар.

**maculo** 1. (macula) 1) пляміць, брудзіць; 2) знеслаўляць, ганіць; 3) раніць ці, наносячы раны, знявечваць.

**madidus**, a, um (madeo) 1) вільготны, мокры: **cum (omni iure et dominio) sicco et madido** з правам карыстання зямлёй і водамі; 2) размоклы; 3) вадкі; 4) які нечым сплывае; 5) п'яны.

**magarita**, ae *f* адступнік ад веры, які перайшоў у іслам.

**Magdalena** 22 ліпеня.

**magia**, ae *f* 1) навука персідскіх жрацоў; 2) вядзьмарства, магія: ~ **alba** белая магія, дзеючая яўна; ~ **nigra** чорная магія, якая прыбягае да дапамогі д'ябла, асуджаная Касцёлам.

**magirus**, i *m* 1) кухар; 2) пекар.

**magis** *adv.* (magnus) [**болшей** *стб.*] больш; мацней.

**magister**, tri *m* 1) зверхнік, кіраўнік, начальнік; наглядчык; майстра: ~ **agazonum** канюшы; ~ **artis** рамеснік; цэхавы майстар; ~ **carraginis** [**obozny** *пл.*] абозны — вышэйшая службовая асоба, абавязкам якой было ўладкаванне ваеннага абозу на месцы, прызначаным правадыром войска. Галоўных абозных было два: абозны вялікі каронны і абозны вялікі літоўскі; ~ **coquinae** [**kuchmistrz** *пл.*] кухмайстар — саноўнік пры двары караля, які загадваў каралеўскай кухняй; ~ **custodiae, excubitor** [**strażnik** *пл.*] стражнік. У Рэчы Паспалітай годнасць стражніка была даволі высокая. Абавязак яго палягаў на ахове дзяржавы ад татарскіх нападаў. Стражнікі як у Польшчы, так і ў Літве-Беларусі былі вялікія і польныя. Іх спачатку абіралі гетманы, але з 1776 года іх пачаў абіраць сам кароль і ў гэты ж час вялікаму стражніку было прызначана штогадовае ўтрыманне 14 000, стражніку польнаму кароннаму 8000, а літоўскіму 6000 злотых. З гэтага часу ўрадавая функцыя іх палягала ў прысутнасці на пасяджэннях ваенных судоў; ~ **ianitorum** зверхнік адзвернікаў / брамнікаў — пасада пры двары караля; **iunior** ~ **artis** падмайстар; ~ **montium** зверхнік саляных капальняў; ~ **officiorum** канцлер; ~ **pontium** [**mostowniczy** *пл.*] мастаўнічы — саноўнік у былым Вялікім Княстве Літоўскім, на якім ляжаў абавязак нагляду над публічнымі дарогамі, мастамі і плацінамі; ~ **scholae** настаўнік; бакалаўр; 2) настаўнік; вучоны; 3) спецыяліст; майстра.

**magisterianus**, i *m* пасол Візантыі.

**magisterium**, ii *n* (magister) 1) вярхоўная ўлада, кіраўніцтва; нагляд; 2) пасада г. зв. **magister officiorum**; 3) навука; навучанне; 4) навык, уменне; 5) узор, прыклад; 6) годнасць капітульнага схаластыка і звязаны з ёю бэнэфіцый; 7) годнасць кіраўніка кляштара; 8) годнасць вялікага майстра Нямецкага ордэна; 9) ~ **montium** установа бахмістра (ням. **bachmister**); 10) пасада бурмістра; 11) годнасць цэхавага майстра; 12) ~ **primum** пасада ваяводы; 13) ~ **ecclesiae** настаўніцкая ўлада касцёла: **infallibilitas in magisterio** беспамылковасць у навучанні; 14) акадэмічная ступень; 15) кіраванне будаўніцтвам.

**magistratium**, ii *n* гарадская рада, магістрат.

**magistratus**, us *m* (magister) [**magistrat** *пл.*] 1) магістрат; мяшчанскі гарадавы суд, *гл. тс.* **officium consulare**; 2) урадавая і судовая ўлада.

**magistro** 1. *s.* **magistero** 1) накіроўваць; кіраваць, быць начальнікам; 2) вучыць; 3) *pass.*: атрымліваць ступень магістра; 4) *pass.*: станавіцца вялікім майстрам Нямецкага ордэна; 5) *pass.*: станавіцца цэхавым майстрам; 6) канструяваць; будаваць.

**Magna (hebdomada)** тыдзень Мукі Пана.

**Magnae festivitatis (dies)** Таемная Вячэра.

**magnas**, atis *adi.* 1) годны; цудоўны; 2) магнацкі.

**magnas**, atis *m* 1) саноўнік; 2) магнат; 3) васал.

**magnatus**, i *m* (magnus) саноўнік; магнат, *гл. тс.* **magnas**, atis *m*.

**Magni scrutinii (feria)** серада 4-га тыдня Вялікага Посту.

**Magnificat, (feria)** чацвер 1-га тыдня Вялікага Посту.

**magnifico** 1. (magnificus) памнажаць, распаўсюджваць.

**magnificus**, a, um *compar.* **magnificentior**, *superl.* **magnificentissimus** (magnus) 1) выдатны, выбітны; узнёслы; цудоўны; 2) тытул найвышэйшых службоўцаў у часы імперыі; 3) яснавяльможны (сталы эпітэт на азначэнне магната ці сенатара); 4) велікадушны; высакародны; 5) асаблівы; адмысловы; годны; 6) багаты; 7) выхвальны; саманадзейны; нахабны; 8) багаты; 9) марнатраўны.

**magnipendissimus**, a, um шаноўны; найдастойнейшы.

**magnitudo**, inis *f* (magnus) 1) велічыня; вялікасць; 2) прывілей; перавага.

**magnus**, a, um [**великий** *стб.*] вялікі: ~ **exercituum dux** вялікі гетман, *гл. тс.* **capitaneus generalis**.

**Magnus Conf.** 6 верасня.

**Magorum (festum)** [**trzy królowie** *пл.*] свята Аб'яўлення Пана ці інакш свята Трох Каралёў.

**mahamium**, ii *n* мутуляцыя — скалечанне, нявечанне.

**maiestas**, atis *f* 1) [**маестат** | **майстат** *стб.*] маэстат / вялікасць, веліч; магутнасць; годнасць, дастойнасць; важнасць: **Maiestas Regia** Каралеўская Вялікасць, Каралеўскі Маэстат (сталыя эпітэты на азначэнне каранаванай асобы); **iura maiestatis** права, якое належыць каралю; **sigillum maiestatis** маестатычная пячаць; **maiestatis sedes** пасад / трон; **in maiestate regni succedere** —

сесці на пасад / трон; 2) недатыкальнасць дзяржаўных пасад; годнасць народа: **deformatio maiestatis** абраза велічы; **maiestatis crimen** злачынства супраць рымскага народа альбо яго бяспекі; **crimen laesae maiestatis** *s.* **crimen imminutae maiestatis** злачынства абразы велічы; 3) тытул рымскіх імператараў; 4) годнасць рымскай магістратуры; 5) выдатнасць; выбітнасць; 6) гонар, слава; шанаванне, пакланенне; 7) вобраз Бога.

**maior, maius** *v.* **magnus** [**больший** *стб.*] большы; галоўны, старэйшы.

**maior**, oris *m* 1) чалавек, большы годнасцю, дастойнік / саноўнік: **maiores villarum** вясковыя старшыны, якія называліся таксама **villici**; 2) начальнік ці кіраўнік якой-небудзь справы: ~ **domus** кіраўнік дому і яго прыслугі, мажардом.

**maioratus**, us *m* [**majorat** *пл.*] 1) маярат — спосаб атрымання спадчыны, паводле якога нерухомая маёмасць дастаецца старэйшаму сыну ці старэйшаму ў родзе; 2) сама нерухомая маёмасць, якая перадаецца такім чынам.

**maiordomatus**, us *m* 1) пасада мажардома — распарадчыка дому і яго прыслугі; 2) годнасць намесніка біскупа.

**maiordomus**, i *m* 1) мажардом — распарадчык дому і яго прыслугі; саноўнік на каралеўскім двары ў дзяржаве франкаў; 2) кіраўнік двара.

**maiorennis**, e старэйшы гадамі, які выйшаў з-пад апекі.

**maioritas**, atis *f* 1) нарашчэнне, прырашчэнне; перавага; карысць; 2) улада, вярхоўная ўлада; 3) першынство.

**maioro** 1. 1) паляпшаць; памнажаць; 2) выпраўляць, папраўляць.

**maius** 1) больш: **ad** ~ найвышэй; **ad** ~ **et minus** больш-менш; **ad** ~ **iurare** складаць прысягу ў справе вялікай сумы грошай.

**mal(l)um**, i *n гл.* **mallus**.

**malbergium** *гл.* **mallobergium**.

**malcontentus**, a, um незадаволены.

**malder**, dri *m* адзінка аб'ёму, якая адпавядала тром карцам, мальдрат.

**maldra**, ae *f* 1) мальдрат — мера для сыпкіх рэчываў, а менавіта хлебная мера, якая адпавядала тром карцам; 2) мера скірды дроў.

**maldrinus**, i *m* мера аб'ёму збожжа.

**maldro**, onis *m* мальдрат — адзінка аб'ёму, якая адпавядае тром карцам, *гл. тс.* **maldra**.

**maldrum**, i *n гл.* **maldra**.

**maldrus** *гл.* **maldra**.

**malecredo**, didi, ditum, ere не верыць.

**malefactibilis**, is *m* злачынец; зламыснік.

**malefactio**, onis *f* злачынства.

**malefactor**, oris *m* (malefacio) 1) [**злодей** *стб.*] злодзей; 2) [**злочинца** *стб.*] злачынец, злыдзень, ліхадзей.

**mallatio**, onis *f* 1) напамінак; 2) пазоў / выклік у суд.

**mallator**, oris *m* пазоўнік / ісцец.

**mallatura**, ae *f* узнагарода ці плата за судаводства.

**mallebergium** *гл.* **mallobergium**.

**malleus**, i *m* 1) молат: ~ **maleficarum** «молат на вядзьмараю»; 2) сякера; кірка, кайлю; 3) кузня; 4) *перан.*: пераможца; разбуральнік; 5) удар: ~ **monetae** біццё / чаканка манеты.

**mallo** 1. пазываць / выклікаць у грамадскі суд.

**mallobergium**, ii *n* месца народнага сходу, на якім абмяркоўваліся грамадскія і прыватныя справы.

**mallus**, i *m* 1) судовае веча ў германцаў; судовае месца; суд: **ad mallum mannire** пазываць / выклікаць у грамадскі суд; **mallum tollere** патрабаваць аплаты за судаводства; 2) грамадскі сход, на якім абмяркоўваліся больш важныя справы вяльможамі і гарадскімі суддзямі.

**maltra** *гл.* **maldra**.

**maltrum** *гл.* **maldra**.

**malus**, a, um 1) кепскі, благі; 2) [**злый** *стб.*] злы; злосны; злачынны.

**malversatio**, onis *f* [**malwersacya** *пл.*] падробка ліста, акта ці подпісу.

**malversor** 1. [**malversować** *пл.*] 1) падрабляць ліст, акт ці подпіс; 2) губляць давер.

**mamburgus** *гл.* **mamburnus**.

**mamburino** 1. *гл.* **mamburnio** 4.

**mamburnio** 4. мець апеку над кімсьці.

**mamburnus**, i *m* апякун; кіраўнік.

**mamca**, ae *f* блізкая крэўная альбо сваячка.

**Mamertus** 11 траўня, 17 жніўня.

**manareta**, ae *f* сякера.

**mancaldata**, ae *f* мера зямельнай плошчы.

**mancatio**, onis *f* мутыляцыя — калечанне, нявечанне.

**mancipatio**, onis *f* 1) вызваленне сына з-пад бацькавай апекі; адпушчэнне на волю; 2) перадача чаго-небудзь ва ўладу іншай асобе; 3) абавязацельства; 4) няволя, рабства.

**mancipia**, ae *f* нявольніца.

**mancipiolum**, i *n* 1) нявольнічак; кепскаваты, благенькі нявольнік; 2) слуга, служка.

**mancipium**, ii *n* 1) надзел; вёска; 2) дом; сям'я; 3) [**челядин** *стб.*] чалядзін: **mancipia** [**челедь | челядь** *стб.*] чэлядзь; 4) паручальнік; 5) прысуджаны на вечную няволю.

**mancipius**, a, um 1) нявольны; 2) падданы: **mancipius cmetho** падданы селянін.

**mancipius**, ii *m* 1) нявольнік; 2) падданы.

**mancipo** 1. прымаць што-небудзь на сябе; ручацца за каго-небудзь.

**mandamen**, inis *n* 1) місія, дэпутацыя; 2) *гл.* **mandatum**.

**mandamentum**, i *n* 1) прадпісанне; наказ, загад; 2) дамова; 3) акруга, рэгіён; юрысдыкцыя; 4) адміністрацыйная ўлада.
**mandata**, ae *f* даручэнне.
**mandataria**, ae *f* даручэнне выканаць штосьці.
**mandatarius**, ii *m* паверaны, выканаўца чыйгосьці загаду.
**mandatio**, onis *f* 1) даручэнне, паручэнне; 2) пратэктарат, апека; 3) сеньёрат; 4) *гл. тс.* **mandamentum**.
**mandator**, oris *m* (mando, are) 1) пракуратар; дастаўшчык; 2) упаўнаважаны; 3) паручальнік.
**mandatorius**, a, um (mando, are), ii упаўнаважаны.
**mandatum**, i *n* (mando) [**mandat** *пл.*] 1) даручэнне; паўнамоцтва; 2) пісьмовае паўнамоцтва ці даверанасць; 3) дакумент, які змяшчае ў сабе даручэнне ці паўнамоцтва; 4) [**росказанье | приказанье** *стб.*] загад; наказ; распараджэнне; 5) [**призволенье** *стб.*] прызваленне / згода, ухвала
**mandellus**, i *m* 1) мэндаль — мера колькасці, якая змяшчае 15 штук; 2) капа збожжа, якая налічвае 15 снапоў.
**mando** 1. 1) даручаць; 2) [**приказати | приказывати** *стб.*] загадваць; наказваць; 3) выдаляць; адхіляць; 4) пазываць / выклікаць у суд; 5) пасылаць; 6) уручаць.
**manens**, ntis *m* пасяленец.
**maneo**, mansi, mansum, ere 1) заставацца; 2) [**мешкати** *стб.*] жыць, пражываць.
**maneria**, ae *f* частка зямлі, якую можна ўзараць парай валоў на працягу аднаго дня.
**manerium**, ii *n* 1) зямельнае валоданне, вольнае ад шматлікіх павіннасцей; 2) жытло з прыналежным да яго полем; 3) сельскі дом; 4) вёска.
**maniburnus**, i *m* апякун; кіраўнік.
**manifestatio**, onis *f* 1) выяўленне, адкрыццё; паказ; 2) (manifesto) [**manifest** *пл.*] публічная заява асобы перад судом супраць парушальніка яго правоў; скарга.
**manifeste** *adv.* (manifestus) [**явно** *стб.*] яўна, адкрыта.
**manifesto** 1. 1) выяўляць, адкрываць; паказваць; 2) [**оповедати | оповедити, оповедати ся | оповедити ся** *стб.*] апавяшчаць, абвяшчаць, паведамляць; заяўляць; 3) *pass.*: з'яўляцца; выяўляцца; 4) заяўляць; пратэставаць, скардзіцца; не прызнаваць чаго-небудзь.
**manifestum**, i *n* 1) заява; 2) паведамленне.
**maniloquium**, ii *n* ранішняе пасяджэнне райцаў альбо рамеснікаў.
**manipulatio**, onis *f* [**manipulacya** *пл.*] 1) парадак выканання працы; справаводства; 2) кіраванне чым-небудзь; вядзенне справы.
**mannio** 4. угаворваць; нагадваць.
**manopera** *гл.* **manuopera**.
**mansa**, ae *f гл.* **mansus**.

**mansarius**, ii *m* селянін, аселы на лане — зямельным надзеле.

**mansellum** *гл.* **manseolum**.

**manseolum**, i *n* невялікі надзел зямлі.

**manser**, eris *m* пазашлюбнае дзіця.

**mansio**, onis *f* (maneo) [**mansya** *пл.*] 1) прабыванне, знаходжанне ў пэўным месцы: **mansiones legatorum** знаходжанне ў нейкім месцы паслоў і саноўнікаў, выпраўленых для выканання якой-небудзь справы; 2) месца стаянкі, стаянка: **mansiones militum** стаянкі жаўнераў падчас паходаў; 3) начлег; 4) карыстанне сталом і жытлом у кляштары. У каталіцкіх кляштарах існаваў звычай прымаць да сябе на жыхарства і на харчаванне самотных і састарэлых людзей з тым, каб яны ўнеслі пэўную суму грошай.

**mansionale** *гл.* **mansionile**.

**mansionarius**, i *m* [**mansionarz** *пл.*] 1) пасяленец; 2) ксёндз, вольны ад усялякіх іншых абавязкаў, апрача богаслужэння, які атрымлівае пэўную плату і жыве пры касцёле; 3) ахоўнік ці захавальнік святыні; 4) той, хто плаціць штогадовы чынш за карыстанне надзелам.

**mansionaticum**, i *n* месца, якое падрыхтоўвалася за грамадскі кошт для жыхарства высокапастаўленай асобы.

**mansionator**, oris *m* 1) замкавы вартавы; 2) *гл.* **mansionarius**.

**mansionile**, is 1) невялікая частка поля з жытлом; 2) дом, жытло; 3) гаспадарка; 4) вёска; 5) гарадскі надзел.

**mansiono** 1. будаваць дом.

**mansorium**, ii *n* 1) заезны двор; 2) начлег; 3) вясковая гаспадарка; 4) *гл. тс.* **mansionile**.

**mansuagium**, ii *n* 1) месца знаходжання; 2) дом з часткай поля; 3) дзяржанне / арэнда; 4) дзяржаўца / арандатар зямлі.

**mansum**, i *n гл.* **mansus**.

**mansura**, ae *f* 1) дом, будынак ці месца, дзе ён быў; 2) замест **mensura** — мера.

**mansus**, i *m* 1) уладанне; 2) надзел зямлі; частка поля: ~ **dominicatus / indominicatus / dominicus** надзел зямлі, які апрацоўваўся самім вотчыннікам; **mansi ingenuiles / ingenuales** надзелы, якія апрацоўвалі вольныя людзі; **mansi lidiales seu letales** надзелы, якія апрацоўваліся нявольнікамі; **mansi serviles** надзелы, якія апрацоўваліся нявольнікамі і пасяленцамі за чынш; 3) лан, валока — адзінка зямельнай плошчы.

**manteletum** *гл.* **mantum**.

**mantelium** *гл.* **mantum**.

**mantum**, i *n* плашч, плашчык; накідка.

**manuale**, is *n* 1) нататнік, які заўсёды можна мець пад рукой; 2) першы спіс з арыгінала; 3) прыходна-расходная кніга.

**manualis**, e (manus) ручны, рахманы; хатні: **manualia** рахманыя, ручныя жывёлы.

**manualis**, is *m* 1) даверaны слуга; 2) працаўнік, які абрабляе зямлю ўручную.
**manubia**, ae *f* заручыны.
**manubrium**, ii *n* (manus) дзяржальна, тронак; вушка пасудзіны.
**manucaptio**, onis *f* абарона; гарантыя.
**manucaptus**, i *m* вязень; палонны.
**manufidelis**, is *m* выканаўца тастамента / завяшчання.
**manuliber**, eri *m* вольнаадпушчанік.
**manumissio**, onis *f* (manumitto) [**manumissya** *пл.*] вызваленне з няволі; падараванне волі нявольніку.
**manumissoria**, ae *f* выкананне тастамента / завяшчання.
**manuopera**, ae *f* ручная служба, якую абавязаліся выконваць пасяленцы для сваіх паноў.
**manuoperatio**, onis *f* рамяство.
**manuopus, eris** *n* прадмет крадзяжу.
**manus**, us *f* 1) [**рука** *стб.*] рука: **manum extendere** [**рукою сягнути** *стб.*] сягаць рукой / пасягаць, падымаць руку на кагосці; 2) улада; 3) сіла, моц; 4) уладанне, уласнасць: **manu capta** рухомая маёмасць, атрыманая з рук уладальніка пры яго жыцці; ~ **mortua** мёртвая рука: a) маёмасць па смерці нявольніка, што не пакінуў спадчыннікаў, якая паводле права належала пану, b) вечнае валоданне: **in manum mortuam dare** аддаць што-небудзь касцёлу ці кляштару; 5) **stipulata** ~ умова, абавязацельства; дамова.
**manusfirmata**, ae *f* 1) адданне ў прэкарый — пажыццёвае валоданне; 2) грунт, які з'яўляецца прадметам прэкарыя.
**manustipulatio**, onis *f* урачыстае абяцанне, злучанае з сімвалічным падаваннем рукі другому чалавеку.
**manustipulo** 1. урачыста абяцаць, укладаючы руку ў далонь другога чалавека.
**manutenens, ntis** *f* паўнамоцтва.
**manutenens**, ntis *m* заступнік, абаронца; чалавек высакародны і моцны.
**manutenentia**, ae *f* [**manutenencya** *пл.*] 1) утрыманне крамаў; 2) выкананне якой-небудзь справы; поспех у справе; 3) заступніцтва, абарона.
**manuteneo**, tenui, tentum, ere 1) трымаць, мець; 2) трымаць пад аховай; трымаць у зняволенні; 3) утрымліваць; 4) берагчы; падтрымліваць; 5) пацвярджаць; абараняць чый-небудзь бок; 6) захоўваць; 7) выконваць; 8) ~ **ad aliquid gerendum** кіраваць кімсьці; заахвочваць; звяртаць да чагосьці; 9) дбаць пра штосьці; 10) перасцерагаць.
**manutertius**, ii *m* выканаўца тастамента / завяшчання.
**manutraditio**, onis *f* перанясенне на кагосьці.
**manutrado**, didi, ditum, ere пераносіць на кагосьці.
**mapparius**, ii *m* слуга, які ажыццяўляе нагляд над сталовай бялізнай.
**Mapparum albarum (dominica)** нядзеля белых шатаў, 2-я нядзеля па Вялікадні.
**marabetinus**, i *m* залатыя грошы.

**marca**, ae *f* [**grzywna** *пл.*] марка, грыўня. Польская манетная сістэма, запазычаная ад немцаў. З 1215 года яны рабілі маркі ці грыўні са срэбра на 8 унцый, з якіх чаканілі 60 солідаў / шэлягаў, а дэнарыяў / пенязяў 720 штук, і таму 1 солід / шэляг (**solidus**) змяшчаў у сабе 12 дэнарыяў. Але як у немцаў, так і ў палякаў марка ці грыўня мела двраякае значэнне, як вага і як манета. Грыўня падзялялася на 4 фэртоны / вярдункі і на 24 скойцы — **scotus**. Грыўні былі розныя: простыя, срэбныя, вітыя і пікі ці дзідападобныя (Акт. кніга Кобрынскай магдэбургіі за 1775 год, арк. 970, акт 1549 года). Грыўня змяшчала ў сабе 60 шырокіх грошаў, з якіх кожны змяшчаў у сабе 12 меншых грошаў, якія называліся галерамі. Пасля пачалі біць / чаканіць манету з грыўні ці маркі на 100 грошаў і з гэтай прычыны замест копаў пачалі лічыць паўкопамі (*гл.* Naruszewicz, Hist. narod. Polskiego, t. V). Вартасць маркі ці грыўні ў розныя часы была розная.

**marca**, ae *f* 1) бераг, край; граніца, мяжа, а часам рака, якая прымаецца за мяжу; 2) марка — тэрытарыяльная прымежная адзінка; 3) прымежная тэрыторыя.

**marcanus**, a, um памежны.

**marcanus**, i *m* жыхар памежнай паласы.

**marcata**, ae *f* прыбытак, які ацэньваецца на адну залатую ці срэбную марку.

**marcatum**, i *n* гандлёвае месца, рынак.

**marcella**, ae *f* марка, грыўня (нізкай каштоўнасці).

**Marcellinus Presb. et Petrus exorcista MM.** 1 ліпеня.

**marcha**, ae *f* 1) прымежны абшар, *асаб.* акруга маркі: ~ **ciuitatis** межы горада, *гл. тс.* **marca**; 2) улада, валадарства.

**marchata** *гл.* **marcata**.

**marchesta**, ae *f* трохмесячнае збожжа, якое засяваецца ў сакавіку.

**marcheta**, ae *f* плата за дазвол узяць шлюб.

**marchia** *гл.* **marca**.

**marchicomes**, itis *m* маркграф, *гл. тс.* **marchio**.

**marchicomitissa**, ae *f* маркграфіня, *гл. тс.* **marchionissa**.

**marchicus**, a, um які дзейнічае, які правамоцны ў марцы — тэрытарыяльнай адзінцы.

**marchio**, onis *m* 1) маркграф, суддзя памежнай вобласці Германскай імперыі; 2) маршалак двара; 3) *pl.* памежная варта; 4) ганаровае права некаторых магнатаў; 5) жыхар памежнай паласы.

**marchionissa**, ae *f* *гл.* **marchicomitissa**.

**marchionista**, ae *f* жаўнер маркграфа.

**marchisus**, i *m* 1) маркграф; 2) ганаровае права некаторых магнатаў; 3) памежны вартавы.

**Marci Evang. (dies)** 25 красавіка.

**Marcianus, Niconor et Apollonius MM.** 5 красавіка.

**Marcus et Marcellianus** 18 чэрвеня.

**mardur, uris** *m* 1) куніца; скурка куніцы; 2) род падатку, плачанага першапачаткова ў скурках куніцы.

**mardurinae**, arum *f* pl. аплаты, які ўносіліся першапачаткова скуркамі куніцы.

**mardurinalis**, e кунічны, выраблены са скурак куніцы: ~ **proventus** бягучы прыбытак з аплатаў, якія ўносяцца скуркамі куніцы.

**mardurus**, i *m гл.* **mardur**.

**marepahis**, is *m* маршалак.

**marepahissatus**, us *m* пасада маршалка.

**maresalcus** *гл.* **marsalcus**.

**marescallus** *гл.* **marsalcus**.

**mareschalcus** *гл.* **marsalcus**.

**mareschallus** *гл.* **marsalcus**.

**Margerethae virg. et Martyris** 12 ліпеня.

**margrabius**, i *m* маркграф.

**margravia**, ae *f* маркграфіня.

**Maria ad nives. P.** 5 жніўня.

**Maria Aegypt**. 2 красавіка.

**Maria Magdalena** 22 ліпеня.

**Mariae annorum** Нараджэнне Найсвяцейшай Панны Марыі, 8 верасня.

**Mariae cerealis (festum)** свята Ахвяравання Пана — Грамніцы.

**marianeus**, a, um 1) марыйны, прысвячаны Найсвяцейшай Панне Марыі; 2) крыжацкі.

**Marina et Philiastri** 18 ліпеня.

**Marina V. M.** 17 ліпеня.

**mariscalcatus**, us *m* пасада маршалка.

**mariscalco**, onis *m* 1) канюшы, машталер; 2) маршалак двара.

**mariscalcus**, i *m* 1) канюшы, стайнік, машталер; 2) маршалак двара; 3) ~ **scacalis** тура ў шахматах.

**marita**, ae *f* 1) сужонка, жонка; 2) замужняя.

**maritagium**, ii *n* 1) падарунак, які атрымлівала ад бацькоў дачка перад шлюбам; 2) дазвол узяць шлюб; 3) падатак, які плацілі васалы, аддаючы замуж першародную дачку; 4) аплата за дазвол на шлюб селяніна з чужой падданай, плачаная абодвум панам; 5) шлюб; 6) замужжа.

**maritata**, ae *f* 1) жонка; 2) замужняя.

**maritaticus**, i *m* 1) пасаг; 2) дажывоцце / пажыццёвае забеспячэнне ўдавы; 3) пасрэдніцтва феадальнага пана ў шлюбе васальнай жанчыны; 4) плата за такое пасрэдніцтва.

**maritatio** *гл.* **maritagium**.

**maritatio**, onis *f* 1) замужжа, жаніцьба; 2) дажывоцце / пажыццёвае забеспячэнне ўдавы; 3) пасрэдніцтва феадальнага пана ў шлюбе васальнай жанчыны; 4) плата за такое пасрэдніцтва.

**maritatus**, us *m* сужэнства / жыццё ў шлюбе.

**maritus**, i *m* [**муж** *стб.*] муж: **mariti** [**мужний** *стб.*] мужаў.
**maritus**, a, um (mas) *adi.* сужэнскі / шлюбны.
**marsalcatus**, us *m* [**маршалство** *стб.*] маршальства (пасада маршалка).
**marsalco**, onis *m гл.* **marsalcus**.
**marsalcus**, i *m* [**маршалок** *стб.*] [**marszałek** *пл.*] маршалак — старшыня ў радзе саноўнікаў, старэйшы на грамадскім сходзе, у войску. Былі такія маршалкоўскія пасады: маршалак каронны і надворны; маршалак двара, тое ж, што і міністр двара; вялікі маршалак — першы міністр у дзяржаве; соймавы маршалак — начальнік сойма; маршалак трыбунала — старшыня Галоўнага Літоўскага трыбунала; губернскі ці павятовы маршалак — губернскі правадыр дваранства, павятовы правадыр дваранства; ~ **curiae** маршалак двара, надворны маршалак; ~ **ordinis equestris** маршалак рыцарскага кола; ~ **regni Poloniae** каронны маршалак; ~ **terrestris** земскі маршалак.
**marscaliensis**, is *m гл.* **marsalcus**.
**marschalcus** *гл.* **marsalcus**.
**marstalla**, ae *m* канюшы, стайнік, машталер.
**Martha, hospita Christi** 29 ліпеня.
**Martialis Ep.** 30 чэрвеня.
**Martini aestivalis translatio** *s.* **Martini (festum)** 4 ліпеня.
**Martinianus et Processus** 2 ліпеня.
**Martinus Epis.** 11 лістапада.
**martyrisatio**, onis *f* умярцвенне, жорсткае забойства.
**martyriso** 1. 1) умярцвяць, акрутна забіваць; 2) мучыць кагосьці; 3) паддаваць законным катаванням.
**masculus**, i, *m demin.* [**мужик** *стб.*] мужык, селянін, кмет.
**masnadarius**, ii *m* жаўнер.
**Masovia**, ae *f* [**Мазовше** *стб.*] Мазовія, Мазоўша: **Masoviae** [**мазовецкий** *стб.*] мазавецкі.
**massa**, ae *f гл.* **mansus**.
**massaria**, ae *f* 1) сума зямельных уладанняў; 2) абавязак масарыя — захавальніка грамадскага скарбу.
**massarius**, ii *m* 1) селянін; асаднік; вартаўнік; 2) захавальнік грамадскага скарбу; распарадчык.
**masticomium**, ii *n* прытулак для пракажоных.
**masurpiarius**, ii *m* [**rymarz** *пл.*] рымар.
**matapanus**, i *m* срэбная венецыянская манета.
**mater**, tris *f* [**матка** *стб.*] маці: **matris** [**матчин | матчиный** *стб.*] матчын, які належыць маці.
**maternalia**, ium *n pl. гл.* **maternalitas**.
**maternalitas**, atis *f* спадчына пасля маці.
**maternalium**, ii *n гл.* **maternalitas**.
**maternalius**, a, um мацярынскі; атрыманы ў спадчыну пасля маці.

**maternitas**, atis *f* 1) мацярынства: **linea maternitatis** мацярынская лінія; 2) спадчына пасля маці.

**maternum**, i *n гл.* **maternalitas**.

**maternus**, a, um (mater) [**материстый** *стб.*] мацярысты / матчын (атрыманы ў спадчыну па лініі маці).

**matertera**, ae *f* 1) цётка, сястра маці; 2) цётка, сястра бацькі; 3) бабка; 4) мачаха; 5) пляменніца; 6) стрыечная сястра; ~ **magna** сястра маці; ~ **maior** сястра прабабкі (**promatertera**); ~ **maxima** сястра прапрабабкі (**abmatertera**).

**Matheus Apost. et Evang.** 21 верасня.

**Mathias** 24 лютага, у высакосным годзе 25 лютага.

**Mathildis** 22 снежня.

**matria**, ae *f* 1) сямейная зямля маці; 2) спадчына пасля маці.

**matrica** *гл.* **metrica**.

**maturus**, a, um 1) спелы; 2) разважлівы; 3) учасны, своечасовы; 4) [**старый** *стб.*] былы, стары.

**matutinale**, is *n* 1) морг — мера зямельнай плошчы; 2) кніга малітваў, малітоўнік.

**Mauris Abb.** 15 студзеня.

**Maurithius, Exuperius, Candidus Victor, Innocentius et socii legionis Thebaeorum MM.** 22 верасня.

**mausoleo** 1. хаваць; класці ў магільню, у пахавальны склеп.

**Maxentius Presb. Conf.** 26 студзеня.

**maximates**, um *m pl.* вяльможы.

**Maximianus conf** 15 снежня.

**Maximilianus Ep.** 12 кастрычніка.

**Maximinus Ep. conf.** 2 траўня.

**mechanicus**, i *m* 1) механік, рамеснік; 2) вядзьмак.

**Medardus et Bidardus** 8 чэрвеня.

**Media quadragesimae (feria)** чацвер 3-га тыдня Вялікага Посту.

**Mediana (dominica)** 4-я нядзеля Вялікага Посту.

**Mediana hebdomada** тыдзень пасля 4-й нядзелі Вялікага Посту.

**Mediana octava** 5-я нядзеля Вялікага Посту.

**mediasterium**, ii *n* ганебны слуп.

**mediastinum** *гл.* **mediasterium**.

**mediastinus**, a, um (medius) змешчаны ў сярэдзіне, сярэдні.

**mediastrum** *гл.* **mediasterium**.

**mediateria** *гл.* **mediatoria**.

**mediatio**, onis *f* (medio) [**mediacya** *пл.*] 1) пасрэдніцтва; 2) заступніцтва; 3) палюбоўнае вырашэнне спрэчкі пры пасрэдніцтве арбітраў; 4) прамежак; адлегласць.

**mediator**, oris *m* (medio) 1) пасрэднік; пагадняльнік, прымірыцель: ~ **consanguineus** крэўны, крэўнік; 2) паручальнік.

**mediatoria**, ae *f* дзяржанне / арэнда, пры якой выплачваецца чынш у памеры паловы ад прыбытку.

**mediatura** *гл.* **mediatoria**.

**medietaria** *гл.* **mediatoria**.

**medietarie** *adv.* у роўных частках.

**medietarius**, a, um аддадзены ў арэнду за чынш у памеры паловы прыбытку.

**medietas**, atis *f* (medius) 1) [**пол | половина** *стб.*] палова; сярэдзіна; 2) надзел зямлі; 3) паўкапы грошай.

**medio** 1. (medius), *tr.* 1) разглядаць, весці справу не ў якасці суддзі, а ў якасці пасрэдніка; 2) дзяліць папалам, палавініць.

**mediocris**, e (medius) 1) сярэдні; сярэдняга памеру; 2) умеркаваны, памяркоўны; сціплы; 3) ніжэйшай ступені, ніжэйшага значэння.

**mediocritas**, atis *f* (mediocris) 1) сярэдзіна; 2) умеркаванасць, сціпласць; 3) пасрэднасць; 4) нястача, беднасць.

**Mediolansensis**, e [**меделянский** *стб.*] мэдыялянскі / медзялянскі / мілянскі (сабака).

**medionarius**, a, um аддадзены ў арэнду за чынш у выглядзе паловы прыбытку.

**meditaria** *гл.* **mediatoria**.

**meditator**, oris *m* 1) той, хто разважае; 2) той, хто нешта задумвае; 3) кіраўнік.

**medius**, i *m* пасрэднік, арбітр.

**medulliter** *adv.* зусім, спаўна, дарэшты, да драбніц.

**megistanes**, um *m pl. s.* **megistani**, orum *m pl.* каралеўскія прыдворныя.

**meiteria** *гл.* **mediatoria**.

**mel**, mellis *n* мёд: **mellis** [**медовый** *стб.*] мядовы.

**melagium**, ii *n* род падатку, які складаўся з мёду.

**melaium** *гл.* **melagium**.

**melampus**, i *m* паляўнічы сабака.

**melior**, ius *adi. compar.* (bonus) [**лепший** *стб.*] лепшы, *гл.* **bonus**.

**melioramentum**, i *n* дадатак да пасагу.

**melioratio**, onis *f* (melioro) паляпшэнне; выпраўленне, папраўка: **salva melioratione huius protestationis** захоўваючы для сябе права выпраўлення гэтай скаргі.

**meliores**, um *m pl.* саноўнікі славянскіх князёў.

**melioro** 1. (melior) паляпшаць; выпраўляць.

**melleia**, ae *f гл.* **melagium**.

**mellificatura**, ae *f* права збірання мёду.

**mellificiarius**, ii *m* [**бортник** *стб.*] бортнік.

**mellificium**, ii *n* [**борть** *стб.*] борць: **circa mellificia** [**бортницкий** *стб.*] бортніцкі, борцевы (які адносіцца да бортніцтва).

**membrana**, ae *f* (membrum) [**ręczny zapis** *пл.*] 1) пергамін; 2) уласнаручны запіс на пергаміне. Такія запісы адменены ў 1620 годзе законам у Валынскім і Брацлаўскім ваяводствах, а прадпісана было ўсе запісы за ўласнаручным

подпісам і подпісам сведак, з прыкладаннем пячатак, з'яўляць у гродскіх ці земскіх судах. Vol. Leg. III, f. 378.

**Memento (dominica)** Памятай, 4-я нядзеля Каляднага посту — **Adventus**.

**memoratorium**, ii *n* прыватны дакумент, які сведчыць пра завяршэнне юрыдычнага дзеяння.

**memoriale**, is [**czesne, pamiętne** *пл.*] памятнае — плата суддзі, якая паводле закона, выдадзенага Казімерам Вялікім, прызначалася ў памеры 4 грошы — ад спраў важнейшых, а ад спраў меншай важнасці — 2 грошы (Vol. Leg. I, f. 22). Пасля ў Літве-Беларусі памятнае было заменена перасудамі — **adiudicata** (Стат. Літ., разд. VI, арт. 5: перасуд), а ў 1726 г. былі адменены перасуды і ўстаноўлены так званыя **salaria**, якія азначаюць таксама плату за судаводства; для гэтай платы складзена адмысловая табліца. Vol. Leg. VI, f. 441, 478. Dochod in subselliis.

**memorista**, ae *f* адмысловец / спецыяліст у г. зв. **ars memorativa** — мастацтва запамінання; настаўнік мастацтва запамінання.

**memoror** 1. (memor) [**вспоминати, вспоминати ся** *стб.*] напамінаць, нагадваць; заяўляць.

**mena**, ae *f* дамова; паразуменне.

**menamentum**, i *n* дамова.

**mendicus**, i *m* [**ubogij** *пл.*] жабрак. На моцы пастановы польскага караля Яна Альбрэхта жабракі павінны былі мець пасведчанні ці адмысловыя знакі на права прасіць міласціну. Vol. Leg. I, f. 267. De mendicis.

**mendositas**, atis *f* (mendosus) падман, хлусня.

**Mennas M.** 11 лістапада.

**mensarius**, i *m* (mensa) 1) ліхвяр; банкір; 2) ураднік, які загадваў дзяржаўнай касай; 3) [**столяр** *стб.*] сталяр; 4) [**stolnik** *пл.*] асоба, якой кароль даваў права карыстацца прыбыткамі з яго саляных капальняў; гарняк, які меў спадчыннае права на становішча працоўнага ў саляной капальні.

**mensifex**, icis [**stolarz** *пл.*] сталяр.

**mensis**, is *m* месяц: ~ **foenalis** месяц ліпень; ~ **intrans** месяц надыходзячы, г. зн. першыя 15 дзён месяца, калі ён утрымлівае ў сабе 30 дзён ці першыя 16 дзён, калі ён мае 31 дзень, гэтыя 15 ці 16 дзён называюцца паводле сярэднявечнага злічэння **dies intrantis, ineuntis mensis** — дні надыходзячага месяца, а астатнія 15 дзён называюцца **dies exeuntis, restantis mensis** — дні сыходзячага ці астатняга месяца; ~ **lunaris synodicus** месяцовы сінадычны месяц, які змяшчае ў сабе 29 дзён, 12 гадзін, 44 хвіліны, 2,89 секунды і звычайна лічыцца ад аднаго маладзіка да другога; ~ **solaris** сонечны месяц — 1/12 частка трапічнага года= 30 дням, 10 гадзінам, 29 мінутам і 4 секундам. Але прынята некаторыя месяцы лічыць па 30 дзён, а некаторыя па 31 дню. Грамадзянскі месяц звычайна прымаецца па 30 дзён; ~ **magnus** месяц чэрвень; ~ **messionum** месяц жніва, жнівень; ~ **novarum** месяц абнаўлення, красавік; ~ **paschalis (dominica)**, 1-я нядзеля па Вялікадні; ~ **purgatorius** ачышчальны ме-

сяц; ён названы ачышчальным таму, што 2-і дзень гэтага месяца ў каталікаў свята — **Purificatio B. V. Mariae**.

**menstruum**, i *n* 1) месячнае ўтрыманне, месячны заробак; 2) месячны падатак.

**mensurabilis**, e (mensuro) 1) які можна змераць, вымерны: ~ **ius** аплата за вымярэнне грунту; 2) адмераны; 3) сувымерны; 4) абмежаваны.

**mensurator**, oris *m* 1) мернік, мернічы; 2) гарадскі ўраднік, які клапоціцца пра захаванне правільных мер.

**mercatio**, onis *f* (mercor) 1) гандаль; гандлёвая ўгода; 2) рынак; 3) тавары; 4) права вядзення гандлю.

**mercator**, oris *m* (mercor) купец.

**mercatum**, i *n* 1) гандаль; 2) торг, кірмаш; рынак; 3) гандлёвы дзень; 4) права прызначаць таргі; 5) запас харчовых прыпасаў для войска.

**mercatus**, us *m* (mercor) [**торг** *стб.*] торг, кірмаш.

**mercenarius**, ii *m* 1) наёмны працаўнік; 2) найманец / наёмнік, ляндскнэхт.

**mercennaria**, ae *f* рынак.

**mercennarius** (mercenarius), i *m* 1) пакупнік; 2) дзяржаўца / арандатар; 3) наёмны працаўнік.

**merces**, edis *f* 1) узнагарода; плата; заробак: ~ **deservita** заслужаная ўзнагарода; 2) цана; 3) тавар; 4) ~ **animae** Божая міласэрнасць.

**mercimonium**, ii *n* (merx) 1) тавар; 2) гандаль; 3) узнагарода; 4) купецкая крама.

**mercipotale**, is *n гл.* **mercipotarium**.

**mercipotarium**, ii *n* магарыч.

**mercipotatorium**, ii *n гл.* **mercipotarium**.

**mercipotor**, oris *m* [**баришник** | **барышник** | **борышник** *стб.*] барышнік / пасрэднік, сведка (пры розных угодах); магарычнік.

**mercor** 1. (merx) *intr.* 1) [**торговати** *стб.*] таргавацца / гандляваць; прыцэньвацца; купляць; 2) *перан.* набываць, здабываць; дасягаць.

**merentum** *гл.* **meritum**.

**merica**, ae *f* 1) гай, лес, які адрозніваецца ад **sylva**, **borrum** тым, што пад ім разумеецца пераважна лісцёвы лес, а **sylva** і **borrum** азначаюць хвойныя лясы; 2) землі, прылеглыя да лесу.

**meritum**, i *n* (mereo) 1) [**заслуга** *стб.*] заслуга: ~ **suum alieni tradere** плаціць / адплачваць каму-небудзь па заслугах; паддаваць каго-небудзь заслужанаму пакаранню; 2) узнагарода; 3) прыбытак; 4) цана, кошт; 5) надбаўка звыш умоўленай цаны; 6) злачынства; 7) ва́да, хіба; 8) прычына; 9) доказ.

**merro**, onis *m* род алебарды.

**messio**, onis *f* (meto, ere) 1) жніво; 2) *гл.* **messionagium**.

**messionagium**, ii *n* 1) плата ад жніва, якая ўносілася феадальнаму ўладальніку; 2) дзень Страшнага Суда.

**messis**, is *f* (meto, ere) 1) жніво; 2) плата за дазвол выпасу быдла на чужых пашах, якая плацілася пладамі з поля падчас жніва; 3) *гл.* **messionagium**;

4) служба, якую сяляне павінны былі выконваць для свайго пана падчас жніва.

**messuagium** *гл.* **mansuagium**.

**mestio**, onis *f* помста.

**mestiva**, ae *f* звычаёвы падатак збожжам.

**mesuagium** *гл.* **mansuagium**.

**meta**, ae *f* 1) мэта; 2) мяжа, граніца.

**metatio**, onis *f* (metor) 1) уласны дом; будынак; жытло; 2) гасцінная; пачастунак.

**metator**, oris *m* (metor) абозны.

**metatum**, i *n* 1) месца для жаўнераў на абоз; абоз / лагер; 2) гасцінны пакой для дастойнікаў / саноўнікаў; 3) дом; гаспода; памяшканне.

**metatus**, us *m* дом; гаспода; памяшканне.

**Methodius Ep. Turii M.** 18 верасня.

**meto** 1. 1) мерацъ; 2) вызначаць межы; размерваць; 3) жыць; перабываць; 4) бавіць; забаўляць, цешыць; частаваць.

**meto**, messui, messum, ere [**пожати** *стб.*] жаць, зжынаць (збожжа).

**metochia**, ae *f* (ад гр. **metecho** удзельнічаю) 1) удзел; 2) касцёльныя і кляштарныя прыбыткі, у якіх удзельнічалі ўсе манахі.

**metretarius**, ii *m* службовец, які наглядаў за адмерваннем вадкасцей і сыпкіх рэчываў.

**metretum**, i *n* мера збожжа, якую давалі млынарам ад бочкі ці шанка збожжа за размол.

**metrica, ae** *f s.* **matrica**, ae *f* 1) метрыка; кніга запісаў; 2) капіяр; інвентар.

**metsecundus**, a, um [**samodrugi** *пл.*] сам другі / сам удвух з іншым, сам з некім другім. Так звычайна выказваліся, пазначаючы лік саўдзельнікаў галоўнай дзеючай асобы ці сведак, якія павінны былі прысягаць з ім.

**metseptimus**, a, um [**сам-семь** | **сам-семый** *стб.*] сам-сёмы / усямёх, сам і шасцёра іншых.

**metta** *гл.* **meta**.

**mettertius**, a, um [**самотреть** | **сам-третей** *стб.*] [**samotrzeci** *пл.*] сам-трэці / утрох, сам з двума іншымі, *пар.* **metsecundus**.

**metuo**, ui, utum, ere (metus) *intr.* [**боятися ся** *стб.*] баяцца.

**Michaelis Archang**. 29 верасня.

**Michelina Virg**. 19 чэрвеня.

**migma**, atis *n гл.* **smigma**.

**miles**, itis *m* 1) жаўнер; ваяр: ~ **caligatus** шараговы жаўнер, шараговец, інакш ~ **gregarius**. Так пра абранне Уладзіслава Ласканогага гаворыцца: **consensu omnium, a caligato milite usque ad supremum**. Kadłub. II, s. 144; 2) [**рыцер** *стб.*] рыцар, шляхціц: ~ **curiae** [**komonstwo** *пл.*] каралеўская дружына, якая складалася з рыцараў ці ваенных людзей; ~ **famosus** рыцар; шляхціц; **miles**

**pauper** убогі шляхціц; ~ **impossessionatus** галота — беззямельны шляхціц; 3) васал.

**miliare**, is *n* [**миля** *стб.*] міля.

**miliarensis**, is *m* срэбная манета.

**militaris**, e (miles) 1) [**военный** *стб.*] ваенны, вайсковы; 2) [**рыцэрский** *стб.*] рыцарскі.

**militaris**, is *m* (miles) 1) жаўнер; 2) рыцар; шляхціц: **militares** [**рыцэрство** *стб.*] рыцарства; 3) уладыка; 4) васал.

**militatio**, onis *f* павіннасці і абавязкі васала.

**militator**, oris *m* рыцар.

**militellus**, i *m* 1) рыцарык; малады шляхціц, шляхцюк; 2) **militelli** ніжэйшы разрад воіноў ці шляхты, якая плаціла падатак; наадварот, **milites** — шляхта была вольная ад усялякага падатку.

**militia**, ae *f* (miles) 1) вайсковая служба, войска: ~ **equestris** кавалерыя, конніца; ~ **pedestris** пяхота; 2) рыцарства; шляхта; 3) ваенная выправа; вайна; бітва.

**milities, ei** *f* войска.

**militissa**, ae *f* жонка рыцара; жанчына рыцарскага стану.

**mille** *num. adi.* [**тисяча** *стб.*] тысяча.

**milliare** *гл.* **miliare**.

**mina**, ae *f* 1) рудня, капальня руды, рудакопня; 2) таемная нарада; змова.

**minagium**, ii *n* прымусовая праца ў капальні, шахце.

**minaria**, ae *f* рудня, капальня руды, рудакопня.

**minimus**, i *m* чалавек нізкага стану.

**ministerialis**, is *m* 1) імператарскі служыцель; 2) ніжэйшы імператарскі ўраднік; 3) прыдворны слуга; 4) возны: ~ **regni generalis** [**woźny, jenerał iego królewskiey mości** *пл.*] каралеўскі возны — выканаўчая судовая асоба. Яго абіралі земскі суд і шляхта таго павета, да якога ён належаў і выдавалі яму сведчанне пра яго добранадзейнасць і бездакорныя паводзіны. Пасля гэтага ваявода зацвярджаў яго на гэтай пасадзе і, як сказана ў Статуце ВКЛ, падстрыгаў яго. Пасля складання возным прысягі імя яго запісвалася перш у гродскім судзе, а потым у земскім, і тады ўжо ён меў права выконваць свой абавязак. Абавязак гэты бачны з прысягі, якую ён даваў і якая была наступная: «Я, N, присегаю Пану Богу, в Тройцы единому на том, иж я будучи возным в том повете, маю верне, цнотливе, побожне и справедливе, на том вряде заховатися, позвы и всякие листы его милости господарские и врядовые справедливе и пильне относити и отдавати и на именьях покладать, теж правдиве то, на что буду от стороны взят и что справедливе видеть и слышеть буду: кгвалты, бой, раны и шкоды огледавши, правдиве, до книг врядовых заразом, без проволоки сознавать, и все иншое справовать, что належит врядови моему, не за посулами, не за подарками, а ни для обетниц, а ни за приязнею, а ни за неприязнею, а ни с боязни, а ни боячися жадных погрозок, одно водлуг Бога и светое справедливости поступуючи, и каждому потребуючему,

без жадных змышленых вымов и проволоки, на потребы правные ездити; так ми Боже поможи, а если несправедливе, Боже ме убий». Колькасць возных у павеце не была вызначана; яна залежала ад абсягу павета, аднак два ці тры возныя ўвесь час павінны былі знаходзіцца пры гродскім судзе «для вшеляких припалых потреб». Вознаму звычайна давалі на дапамогу двух шляхціцаў «верыгодных для подпирянья вызнанья и сведецтва свайго». Але калі справа не перавышала 20 копаў грошаў, возны адзін мог рабіць агляд і данясенне. За абразу вознага падчас выканання яго абавязку (а гэтыя абразы, як відаць са Статута, былі даволі частымі) устаноўлена было строгае спагнанне: апрача падвойнага штрафу, абражальнік павінен быў 20 тыдняў сядзець у турме. «Естли бы кто возного, будучи ему на справах, вряду его належачих, сам альбо чрез слуг, поданных своих, збил, албо листы, от него отнявши, содрал, албо возного люб сторону позвы, листы ести примусил, албо поличковал, волосы альбо бороду рвал и тым вряду не учстил, тогды и проч.» (Стат. Літ., разд. IV, арт. 8, 9 і 11). Хоць у Статуце ўжо падрабязна рэгламентавана прызначэнне возных і іх абавязкі, але інстытут возных з'явіўся і існаваў значна раней, бо яны згадваюцца яшчэ пры Казімеру Вялікім у 1347 годзе. Vol. Leg. I, f. 9; ~ **terrestris** земскі возны.

**ministerium**, ii *n* (minister) 1) служба; служэнне; паслуга; 2) праца; 3) абавязак; павіннасць; 4) урад; пасада, годнасць: **ministeria pacis et belli** грамадзянскія і ваенныя ўрады, улады.

**ministrans**, ntis *m* службовец.

**ministro** 1. (minister) 1) служыць, прыслугоўваць; 2) дапамагаць; 3) дастаўляць; забяспечваць; 4) [**давати | даивати | дати** *стб.*] даваць, падаваць, выдаваць; дараваць; прадстаўляць; 5) садзіць у турму.

**mino** 1. 1) пагражаць; 2) складаць змову супраць каго-небудзь, змаўляцца; 3) выкопваць; выдабываць; 4) адкрываць рудню; 5) весці з месца на месца.

**minor**, minus compar. *v.* **parvus** [**менший** *стб.*] меншы.

**minorennis**, e [**недоросльй** *стб.*] недарослы / непаўналетні.

**minorennitas**, atis *f* [**лета молодые | молодость** *стб.*] непаўналецце; маладосць, юнацтва.

**minoritas**, atis *f* 1) падлеткавы ўзрост; 2) недахоп; страта.

**minoro** 1. (minor) памяншаць.

**minuta**, ae *f* чарнавік: **simplici minuta nihil probari potest** простым чарнавым дакументам нічога нельга даказваць. Vol. Leg., a. 1505, I, f. 329.

**minutia**, ae *f* (minutus) [**minucya, minucik** *пл.*] 1) каляндар з нататкамі; 2) дробязь, малаважная рэч.

**miria** *гл.* **minaria**.

**Misereri mei, Domine (dominica)** змілуйся нада мною, Пане, 16-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.

**Misericordia (dominica)** міласэрнасць, 3-я нядзеля па Вялікадні.

**misericordia**, ae *f* (misericors) 1) міласэрнасць; 2 ) штылет, кінжал.

**missaticum**, i *n* 1) дар, дарунак; 2) пасада і служба пасланага.
**missum**, i *n* 1) наладжванне гасціны, банкета; 2) даручэнне.
**mittito** 1. *intens.* [**всылати** *стб.*] пасылаць.
**mitto**, misi, missum, ere 1) [**послати | посылати | прислати | наслати** *стб.*] пасылаць, прысылаць, дасылаць; насылаць; 2) [**обослати** *стб.*] апавяшчаць, абвяшчаць; 3) дазваляць; 4) меркаваць; 5) уручаць; аддаваць у валоданне, уводзіць (у валоданне); 6) прыдаваць; прылічаць.
**moderamen**, inis *n* (moderor) 1) кіраванне; 2) умова; засцярога; абмежаванне; 3) умеркаванне, умеркаванасць, памяркоўнасць: **sine moderamine** без усякай літасці, з усёй строгасцю закону; 4) розум; 5) сціпласць.
**Modestus M.** 15 чэрвеня.
**modiaticum**, i *n гл.* **modiatio**.
**modiatio**, onis *f* (modius) 1) мера карцамі; 2) плата за меру віна; 3) плата за карэц збожжа.
**modificatio**, onis *f* (modifico) 1) змена; 2) абмежаванне; 3) умеркаванне; 4) меранне, абмер; 5) уладкаванне; змяненне.
**modiolum**, i *n гл.* **modiolus**.
**modiolus**, i *m demin.* 1) мера; мерка; 2) пасудзіна для піцця; кубак; 3) [**korczyk** *пл.*] корчык — гданьская мера, роўная 16 польскім гарнцам альбо польскаму паўкарцу; 4) від поля.
**modius**, ii *m* [**korzec** *пл.*] карэц — мера для сыпкіх рэчываў у Літве-Беларусі і Польшчы. Гельмольд у сваёй Славянскай хроніцы піша: **quam curitz Slavi vocant** — якую славяне завуць карцом. Мера гэта была вызначана законам у 1764 годзе. Паводле закону карэц павінен змяшчаць у сабе 32 варшаўскія гарнцы. Скарбовая камісія вызначае карэц у 6080 кубічных парыжскіх цаляў. Паводле Статута ВКЛ літоўскі карэц павінен быць роўны 1/4 бочкі. «Якобы бочка была в чотыре корцы, а полбочки в два корцы, а четверть бочки в один корец». Стат. Літ., разд. III, арк. 36, п. 107.
**modulus**, i *m demin.* 1) грамада, маса; 2) род поля; 3) мера дроўні, кладу дроў.
**modus**, i *m* 1) [**мера** *стб.*] мера; велічыня; 2) чын, спосаб, метад, лад: **omnes inire modos** ужываць усе сродкі, увайсці ва ўсе зносіны; 3) [**обычай** *стб.*] спосаб (дзеяння); парадак; падстава: ~ **probandi** [**звод шляхетства** *стб.*] звод / выводзіны шляхецтва; **modo antiquo** [**по старому** *стб.*] па-старому.
**mol(i)nagium**, ii *n* плата, якую плацілі сяляне панам за размол у іх млынах.
**molendarius**, i *m* (molo) [**młynarz** *пл.*] млынар.
**molendinarium**, ii *n* 1) месца для пабудовы млына; 2) невялікі млын.
**molendinarius**, ii *m* (molo) [**мельник** *стб.*] млынар.
**molendinator**, oris *m* 1) млынар; 2) мірошнік — працаўнік на млыне.
**molendinum**, i *n* (molo) [**млын** *стб.*] млын.
**molestator**, oris *m* 1) прыгнятальнік; кат; 2) ~ **decimae** той, які прысвойвае дзесяціны.
**moliarium** *гл.* **molendinarium**.

**molina**, ae *f гл.* **molendinum**.
**molinarium** *гл.* **molendinum**.
**molinum** *гл.* **molendinum**.
**molo** 1. *гл.* **molo**, ere.
**molo**, ui, itum, ere (mola) малоць.
**molta** *гл.* **mol(i)nagium**.
**moneta**, ae *f* манета: **monetam cudere** біць / чаканіць манету.
**monetarius**, i *m* (moneta) [**myncarz** *пл.*] начальнік манетнага двара, дакладней, гаспадар ці дзяржаўца / арандатар манетнага двара.
**monialis**, is *f* законніца / манашка.
**monimen**, inis *n гл.* **monimentum**.
**monimentum**, i *n* напамін.
**monocularitas**, atis *f* валоданне толькі адным бэнэфіцыем.
**monogramma**, atis *n* фігура, якая выяўляе чыёсьці імя і прозвішча з размяшчэннем усіх літар у выглядзе чатырохкутніка, трохкутніка і да т. п. Яе называлі таксама **character nominis**, **nominis figura**, **signaculum**.
**monopola**, ae *m* той, хто толькі адзін мае права купляць штосьці ў якім-небудзь месцы.
**monopolium**, ii *n* 1) права выключнага продажу, манаполія; 2) [**monopolium kupieckie** *пл.*] падатак ад купцоў.
**mons**, montis *m* гара: ~ **pietatis**: a) гара пабожнасці. Так называліся ўстановы, якія былі ў XVI стагоддзі ў Кракаве, Варшаве і Вільні. У гэтых установах давалі бедным у пазыку грошы толькі пад заклад, але без усялякага працэнта, b) айчынны банк, з якога можна было атрымліваць грашовыя сумы, якія належала забяспечваць на маёнтках, плацячы ў год 4% ці 5%.
**monstratio**, onis *f* (monstro) 1) паказванне: ~ **generis** звод / вывядзенне шляхецтва, радавод; 2) прад'яўленне чагосьці перад судом альбо судовым возным.
**monstro** 1. 1) [**вказати | вказывати** *стб.*] паказваць, указваць; прадстаўляць, прад'яўляць; прысуджаць; 2) высвятляць, тлумачыць; вучыць; 3) выяўляць; даказваць; 4) прызначаць; 5) даваць распараджэнне; даручаць; 6) даносіць; абвінавачваць; 7) рабіць агляд войска.
**montaneus**, a, um 1) горны; гарысты; 2) шахтавы, прыналежны да капальні: **montaneum iudicium** горны суд.
**montanus**, i *m* 1) горац; 2) пустэльнік.
**monticulum**, i *n* узгорак, узвышша, узняцце: ~ **cum fossata et aqua** замак.
**mora**, ae *f* вадзяністае, багністае месца.
**moratorium**, ii *n* права, дазволенае ўрадам, якое калісьці было ў Рэчы Паспалітай, на адтэрміноўку скарбовых даўгоў, з умовай выплаты працэнтаў у крытычных акалічнасцях.
**mordeo**, momordi, morsum, mordere [**зъести | уести** *стб.*] уядаць / кусаць.
**mordido** 1. мардаваць; забіваць.
**mordidum**, i *n* 1) забойства; 2) юрысдыкцыя ў справах аб забойствах.

**mordio** 4. замардоўваць; забіваць.
**mordita**, ae *f гл.* **morditor**.
**morditor**, oris *m* забойца.
**mordrum**, i *n* 1) замардаванне, умярцвенне, забойства; 2) юрысдыкцыя ў справах аб забойствах; 3) цела забітага, труп.
**morganatica**, ae *f* 1) жанчына, якая атрымала маёмасць у пажыццёвае валоданне; 2) шлюбны дар жаніха нявесце ў дзень вяселля.
**morganaticum**, i *n* шлюбны дар жаніха нявесце ў дзень вяселля.
**morganus**, i *m* морг — мера зямельнай плошчы.
**morgo**, onis *m гл.* **morgus**.
**morgus**, i *m* 1) морг — мера зямельнай плошчы; 2) сялянская павіннасць, якая палягала на абавязку апрацоўкі панскага поля.
**morhua**, ae *f* [**dorsz** *пл.*] дорш / траска — касцістая рыба, якая належыць да пароды крылатых рыб. Яна прывозілася ў Літву-Беларусь да 1626 года. Мыта за правоз яе плацілі ад бочкі па 2 грошы. Vol. Leg., a. 1626, III, f. 513.
**morior**, mortuus sum, mori [**вмерти** | **умерети** | **умирати** | **умрети** *стб.*] паміраць.
**mors**, mortis *f* [**смерть** *стб.*] смерць: **ad mortem** [**до живота** *стб.*] да канца жыцця, пажыццёва.
**morsaicum** *гл.* **mordrum**.
**mortalagium**, ii *n* аплата за пахаванне, прыбытак святыняў ад пахаванняў.
**mortalicinium**, ii *n* пажыццёвы прыбытак.
**mortalitas**, atis *f* (mortalis) *гл.* **mortalagium**.
**mortarium** *гл.* **mortalagium**.
**morticinium** *гл.* **mortuarium**.
**mortificatio**, onis *f* (mortifico) 1) дазвол трымаць маёмасць па чыёйсьці смерці; 2) утаймаванне; забарона.
**mortifico** 1. (mortificus) [**mortyfikować** *пл.*] 1) [**вморити** | **уморити** *стб.*] марыць; умярцвяць; 2) скасоўваць які-небудзь запіс, скаргу, прэтэнзію ці пратэст.
**mortuagium** *гл.* **mortalagium**.
**mortuarium**, ii *n* 1) маёмасць, якая пераходзіць ва ўласнасць уладальніка па смерці васала; 2) права, якое належыць касцёлу ці яго плябану па чыёйсьці смерці; 3) падатак, які патрабаваўся ад пана, калі паміраў яго васал; 4) *гл.* **mortalagium**.
**mos**, moris *m* 1) [**звычай** *стб.*] звычай; 2) [**врад** | **урад** *стб.*] урад; закон, устанаўленне, правапарадак; парадак.
**Moses servus Dei** 4 верасня.
**mota**, ae *f* 1) фартыфікацыя; 2) замак.
**motio**, onis *f* (moveo) 1) рух; 2) ваенная выправа, рушэнне: ~ **generalis belli** [**pospolite ruszenie** *пл.*] паспалітае рушэнне, усеагульнае апалчэнне ці ўзбраенне; 3) адхіленне: ~ **iudicis** [**ruszenie** *пл.*] адхіленне суддзі самім падсудным

ці, дакладней, пазоў / выклік, які абвяшчаецца падсудным самому суддзі. Гэты пазоў паводле закону належыла выказаць наступнай формулай: «пане суддзя, гэтае тваё вызначэнне ці меркаванне, як няправільнае і несправядлівае, я, на падставе закона, не прымаю, але пазываю / выклікаю цябе — **te moveo [ruszam cię** *пл.*] на суд найбліжэйшага наступнага сойма». Vol. Leg. I, f. 533.

**motus**, us *m* (moveo) 1) рух; 2) бег, ход; 3) змена; 4) дзеянне, чын; 5) **motus proprii** папскія пісьмовыя распараджэнні без удзелу кардыналаў. З паловы XV стагоддзя іх пачалі лічыць падробленымі, калі яны былі змацаваны пячаццю. Адсутнасць пячаці — адзіная прыкмета іх аўтэнтычнасці ці непадробнасці.

**moveo**, movi, motum, ere 1) [**рушати** *стб.*] рухаць, зрушваць, прыводзіць у рух; выцясняць; чапаць; 2) вырушаць; адыходзіць; 3) адхіляць, здымаць, праганяць; 4) пабуджаць да чагосьці, заахвочваць: ~ **nobilitatem** зрушваць ці склікаць узброеную шляхту якога-небудзь павета ці зямлі для прывядзення ў выкананне вызначэння вышэйшай інстанцыі суда, што называлася **executio fortis**.

**movitio**, onis *f* нагана суддзі.

**mucro**, onis *m* 1) вастрыё; 2) клінок; кінжал; меч: ~ **spiritualis** *s.* **ecclesiasticus** меч праклёну, праклён; 3) забойства; разня; 4) канец; мяжа.

**mulcta**, ae *f* [**каранье** | **вина** *стб.*] кара, пакаранне (за злачынства); штраф.

**mulcto** 1. [**винити, карати** | **скарати** *стб.*] караць, паддаваць пакаранню: ~ **poena sanguinaria [винити кривавою виною** *стб.*] караць смерцю.

**mulier**, eris *f* 1) [**жонка** *стб.*] жанчына; 2) [**невеста** *стб.*] замужняя жанчына; 3) сялянка; чаляднічка.

**mulinarius**, ii *m* млынар.

**mulindinum** *гл.* **molendinum**.

**mulinum** *гл.* **molendinum**.

**mulsa**, ae *f гл.* **mulsum**.

**mulsor**, oris *m* прыгатавальнік напою з мёду і віна.

**mulsum**, i *n* мульс, напой з мёду і віна.

**multo** *гл.* **muto**.

**multonagium**, ii *n* падатак, які плаціцца баранамі.

**multrarius**, ii *m* забойца.

**multrum**, i *n* аплата ў збожжы за размол.

**multura**, ae *f* 1) вызначаная мера змолатага збожжа; 2) ~ **libera** права на размол збожжа.

**multus**, a, um *compar*. **plus**, pluris [**много** *стб.*] шматлікі; шмат, многа.

**munburdus** *гл.* **mundiburdus**.

**munda**, ae *f* вусце ракі.

**mundeburda**, ae *m гл.* **mundiburdus**.

**mundeburdum**, i *n гл.* **mundiburdis**.

**mundiata**, ae *f* жанчына, якая знаходзіцца пад апекай.
**mundiator**, oris *m* апякун.
**mundiburdis**, is *m* 1) апека, заступніцтва, абарона; 2) пратэкцыя з боку караля альбо феадала; 3) сеньёральная ўлада.
**mundiburditio**, onis *f* пратэкцыя.
**mundiburdium**, ii *n s.* **mundibordium**, ii *n* апека над малалетнім.
**mundiburdius**, ii *m s.* **mundiborius**, ii *m гл.* **mundiburdus**.
**mundiburdus**, i *m* 1) апякун, заступнік, абаронца; 2) упаўнаважаны боку ў судзе.
**mundiburgis**, is *f* прыналежнасці маёнтка, фермы.
**mundiburgium**, ii *n гл.* **mundiburdis**.
**mundiculus**, i *m* кліент, чалавек, які мае заступніка ці абаронцу.
**mundilingus**, i *m* 1) той, хто знаходзіцца пад апекай і пратэкцыяй феадала; 2) малалетні выхаванец.
**mundilio**, onis *m гл.* **mundiculus**.
**mundium**, ii *n* 1) заступніцтва, абарона; 2) апякунская ўлада (бацькі, брата і г. д.) у раннім феадалізме; 3) пратэкцыя сеньёра; 4) аплата за пратэкцыю.
**mundius**, ii *m* апякун.
**mundo** 1. (mundus, a, um) 1) чысціць; прыводзіць у парадак; 2) апраўдваць касьці ад абвінавачанняў; вызваляць ад падазрэнняў; 3) апекавацца.
**mundualda**, ae *f гл.* **mundiata**.
**mundualdus**, i *m* апякун.
**mundum**, i *n* начыста перапісаны які-небудзь акт, рашэнне ці рэзалюцыя.
**muniamen**, inis *n* дапаможнік.
**municeps**, cipis *m* 1) начальнік крэпасці; 2) гараднічы.
**municipalis**, is *m* начальнік крэпасці.
**municipium**, ii *n* (municeps) 1) вольны горад; 2) замак, акружаны мурамі.
**municulor** 1. даравацы нешта.
**municulum**, i *n* 1) маленькая крэпасць, умацаванне; 2) падтрымка; апека.
**munimen**, inis *n* (munio) 1) ахова, абарона; 2) агароджа; умацаванне; 3) наданне юрыдычнай моцы: ~ **sigilli** змацаванне пячаццю, прыкладанне пячаці; 4) ліст ці прывілей караля, дадзены на карысць касцёла.
**munimentum**, i *n* 1) крэпасць, умацаванне; вал; роў; 2) забеспячэнне; ахова; 3) абарона; апора; 4) апека; 5) сутнасць; 6) дакумент: ~ **vitiatum** дэфектны дакумент; **dilatio ad munimenta** адтэрміноўка для падання дакументаў; ~ **literarum** [**лист** *стб.*] ліст, грамата, пісьмовы дакумент; 7) зацвярджэнне, пацвярджэнне, наданне юрыдычнай моцы; 8) запэўніванне; гарантыя; 9) доказы, прадстаўленыя працэсуальным бокам: **munimenta** [**munimenta prawne** *пл.*] юрыдычныя довады для пацвярджэння справы ў судзе. Яны павінны былі паводле закону прадстаўляцца працэсуальнымі бакамі да рашэння справы (Vol. Leg. I, f. 408). Хто патрабаваў адтэрміноўкі судовага выраку па сваёй справе для адшукання довадаў — **ad munimenta**, павінен быў заявіць,

якога кшталту гэтыя довады, адкуль яны будуць узяты, з якіх актаў; і толькі ў такім выпадку ён мог атрымаць патрабаваную адтэрміноўку. Але калі б аказалася зусім іншае, то ён губляў справу і павінен быў плаціць судовыя выдаткі. Vol. Leg. I, f. 578.

**munio**, onis *m* 1) каштэлян; 2) член залогі / гарнізона замка.

**munitas**, atis *f* ліст на звальненне ад падаткаў і якіх-небудзь іншых павіннасцей.

**munitio**, onis *f* (munio) 1) умацаванне, крэпасць; замак, акружаны мурамі; 2) мураванне; будаванне; 3) узмацненне; 4) харчовыя прыпасы; 5) абарона; 6) зацвярджэнне, наданне юрыдычнай моцы; 7) дакумент, *тс.* ліст ці прывілей караля, дадзены на карысць касцёла; 8) прывілей; дыплом; 9) ~ **sigilli** зацвярджэнне пячаццю.

**murarius**, ii *m* [**mularz** *пл.*] мураль / муляр.

**murator**, oris *m* [**мураль** *стб.*] мураль / муляр.

**murcus**, a, um урэзаны; адцяты.

**murdrum** *гл.* **mordrum**.

**mursa, ae** *f s.* **mursus**, i *m* татарскае княжацкае права.

**muscus**, i *m* 1) мох; 2) мускус; 3) віно; мускат.

**musico** 1. (musicus) іграць, музыкаваць.

**Muta (hebdomada)** нямы тыдзень, тыдзень Мукі Пана. У Каталіцкім касцёле падчас гэтага тыдня з чацвярга да вечара суботы забараняецца біць у званы, а таму і сам тыдзень называецца нямым.

**muta**, ae *f* (mutus) 1) мыта; 2) мытня — жытло і ўрад мытніка ці збіральніка мытнага падатку.

**mutatio**, onis *f* (muto) 1) змена, перамена; 2) замена; 3) *гл.* **muta**.

**mutilatio**, onis *f* (mutilo) [**охроменье** *стб.*], [**mutylacya** *пл.*] пашкоджанне якой-небудзь часткі цела, нявечанне, калечанне; адсяканне.

**mutilo** 1. (mutilus) [**охромити** *стб.*] знявечваць, калечыць: **mutilatus** [**охромленый** *стб.*] знявечаны, скалечаны.

**muto** 1. [**отменити** *стб.*] змяняць; адмяняць.

**muto**, onis *m* валух — злягчаны баран.

**mutonagium** *гл.* **multonagium**.

**mutuarius**, i *m* 1) мяняла; 2) мытнік; мытны начальнік.

**mutuatio**, onis *f* (mutuor) 1) пазыка; 2) замена; 3) змена: ~ **iudicis** змена суддзі; 4) узаемнасць.

**mutuator**, oris *m* давальнік пазыкі, пазыкадаўца.

**mutuatorius**, ii *m* даўжнік, *асаб.* адказчык аб вяртанні пазыкі.

**mutue** *adv.* (mutuus) 1) узаемна; 2) у якасці пазыкі.

**mutuor** 1. (mutuum) [**позычити** *стб.*] пазычаць, даваць (у пазыку).

**mutus**, a, um 1) нямы; маўклівы; 2) ціхі; спакойны; 3) неправамоцны, несапраўдны.

**mutuum**, i *n* пазыка, умова, паводле якой дазвалялася іншаму карыстацца якой-небудзь рэччу з абавязацельствам вярнуць яе ва ўмоўлены час. Рэч, пакуль яна не вернута ўладальніку, называецца **debitum** — доўг.

**myropola** (muropola), ae *m* прадавец парфумаў / духмянасцей.

**mysterium**, ii *n* 1) таемная навука; 2) *pl.* містэрыі — рэлігійныя абрады для ўтаямнічаных; таемны культ багоў; 3) таямніца, таемства: ~ **ecclesiae** таямніца касцёла; ~ **consilii** таемная нарада; 4) урад; пасада; 5) пасрэдніцтва; дапамога; 6) набажэнства.

## N

**nam** coni. [**бо** *стб.*] бо, інакш.

**namium**, ii *n* 1) рабаванне, здабыча: ~ **excutere** адбіраць тое, што дадзена ці выкрадзена; 2) заклад.

**nappa**, ae *f* 1) кубак; 2) мера аб'ёму.

**Narcissus Ep. Hieros**. 23 кастрычніка.

**narrata**, orum *n pl.* 1) аповед; падрабязнасці аповеду; 2) сазнанне / прызнанне; прадстаўленне; высновы: **ad male** ~ паводле лжывага прадстаўлення, ілжыва, фальшыва; **negare** ~ пярэчыць зместу сведчання, дадзенага пазоўнікам / істцом; 3) прывілей, дадзены каралём: **ad male** ~ падроблены прывілей.

**narrator**, oris *m* (narro) 1) той, хто распавядае, апавядальнік; 2) дакладчык; 3) адвакат.

**nascentia**, ae *f* (nascor) 1) момант нараджэння; роды; 2) з'яўленне; 3) гараскоп; 4) ураджай.

**nascor** (gnascor), natus sum, nasci 1) [**родити ся** *стб.*] радзіцца, нараджацца; 2) [**родити** *стб.*] ражаць, нараджаць.

**nasus**, i *m* [**нос** *стб.*] нос.

**natalis**, is *m* (natus) 1) дзень нараджэння; 2) дзень святога, шанаванага Касцёлам; 3) Божае Нараджэнне; 4) з'яўленне, паўстанне, пачатак; 5) дзень смерці мучаніка.

**natio**, onis *f* (nascor) 1) нараджэнне; паходжанне; 2) род; племя;народ; 3) *перан.*: грамадскі стан; 4) *pl.* паганцы; 5) род; гатунак; 6) пакаленне: **ex natione paterna** у спадчыну пасля бацькі; 7) група школяроў, звязаных мовай і краем паходжання, арганізаваная для аховы інтарэсаў сваіх прадстаўнікоў: **consiliarii nationis** прадстаўнікі ўніверсітэцкай нацыі.

**Nativitas Domini** [**Божье нароженье** *стб.*] Божае Нараджэнне.

**nativitas**, atis *f* (nativus) 1) нараджэнне; паходжанне; 2) свята дня нараджэння; 3) прыроджаныя асаблівасці, прырода; 4) паходжанне; 5) ураджай, плён зямлі; 6) род; пакаленне, генерацыя; 7) гараскоп.

**nativus**, a, um (natus) [**прирожоный** *стб.*] прыроджаны — мясцовы (ураджэнец), тутэйшы.

**naturalis**, e (natura) 1) [**рожоный** *стб.*] родны; 2) [**прирожоный** *стб.*] спадчынны паводле права крэўнай роднасці; 3) уласны; хатні; падданы; 4) законны.

**naufragium**, ii *n* (navifragium) 1) караблекрушэнне: **tabula in naufragio** дошка паратунку, ратунак; 2) знішчэнне; страта: **in ~ ponere / naufragare** марнатравіць, растрачваць штосьці; 3) затапленне, утапленне; 4) абломкі судна; рэшткі затанулага карабля; 5) паводка; 6) згуба; параза; разбурэнне; 7) права на тавары, выкінутыя морам, ці, дакладней, прыбытак уладара краіны, які належыць яму ад караблёў, што пацярпелі крушэнне.

**naulum**, i *n* 1) плата за перавоз; маставое (мыта); 2) усялякі новы падатак.

**navagium**, ii *n* падатак, мыта ад праплываючых караблёў ці рачных суднаў.

**navale**, is *n* водаправодная труба.

**navaticum**, i *n* 1) мытня для караблёў; 2) карабельнае мыта.

**navigatio**, onis *f* (navigo) 1) мараплаўства, паездка суднам; 2) г. зв. перавоз, г. зн. перавозка паромам праз раку і аплата за гэта.

**Nazarius et Celsus MM.** 28 ліпеня.

**nec** [**ни** | **ани** *стб.*] і не, ні, ані, і ні.

**necessarius**, a, um (necesse) абавязковы: **necessario** [**конечно** *стб.*] абавязкова.

**necessitas**, atis *f* (necesse) [**потреба** *стб.*] патрэба, неабходнасць; запатрабаванасць; карысць.

**neco** 1. 1) забіваць; 2) занурваць у ваду, патапляць.

**negativum**, i *n* [**negatywa** *пл.*] адмоўны голас, чорны шар пры балатаванні.

**neglego** lexi, lectum, ere 1) не зважаць; не дбаць; грэбаваць; 2) [**омешкати** | **замешкати** *стб.*] марудзіць, спазняцца; прапускаць (тэрмін).

**negligentia**, ae *f* [**омешканье** *стб.*] марудлівасць; прамаруджанне.

**negligo** *гл.* **neglego**.

**nego** *гл.* **neco**.

**nego** 1. 1) пярэчыць, запярэчваць; адмаўляць; 2) [**прети ся** | **запрети** *стб.*] адмаўляцца.

**negotiatio**, onis *f* (negotior) 1) купецтва, гандаль; 2) купецкія тавары.

**negotiator**, oris *m* (negotior) [**negocyant** *пл.*] купец: **negotiator advena** (тарговы, гандлёвы) госць.

**negotium**, ii *n* 1) [**справа, дело, реч** *стб.*] справа, занятак; служба; парадак; рашэнне; паказанне: **arduum ~** [**трудность** *стб.*] цяжкасць; 2) [**жалоба** *стб.*] пазоў / скарга, абвінавачванне: **peragere ~** [**росправити ся** *стб.*] апраўдвацца, адказваць перад судом; 3) *гл.* **negotiatio**.

**nemanceps**, ipis *adi.* вызвалены, звольнены.

**Nemesius M.** 19 снежня.

**nemo**, neminis 1) ніхто: **nemine contradicente** калі ніхто не супярэчыць; **nemine dissentiente** калі ніхто не працівіцца; **neminem captivabimus** «нікога не будзем трымаць у зняволенні» — прывілей асабістай недатыкальнасці асе-

лай шляхты; 2) [**жадный** *стб.*] ніякі; ніхто, ніводзін: **non** ~ некаторы, нейкі, не адзін: ~ **non** кожны, усякі.

**nemorarius**, ii *m* 1) асочнік — наглядчык за звярамі ў лясах; аблаўнік; 2) начальнік над ляснічымі ці над асочнікамі.

**neophytus**, i *m* [**neofit** *пл.*] неафіт, навапасаджаны, нованавернуты. Неафітамі звычайна называлі ў Польшчы і Літве-Беларусі жыдоў, якія прынялі хрост і якія гэтым спосабам маглі набываць шляхецкую годнасць (Стат. Літ., разд. I, арт. 7). Але пастановай 1764 года гэты закон быў скасаваны як у Польшчы, так і ў Літве-Беларусі; пастаноўлена было, каб усе неафіты прадалі свае ўладанні і заняліся гарадскімі і сельскімі працамі. Vol. Leg. VII, f. 74.

**neptis**, is *f* 1) унучка; 2) пляменніца, братанка; 3) цётка.

**Nereia**, ae *f* Нерэя — старажытная назва ракі Віліі. Акт. кніга Віленскай магдэбургіі за 1491—1668 гады.

**Nereus et Archilleus MM.** 12 траўня.

**nero**, onis *m* кат, праследавальнік.

**neronizo** 1. здзекавацца; катаваць; праследаваць.

**nestanus**, a, um выкліканы нястаннем / нез'яўленнем боку ў суд.

**Nestor et Nestorius Ep.** 26 лютага.

**nexus**, i *m* (necto) неплацежаздольны даўжнік, які паводле рымскага права рабіўся нявольнікам свайго крэдытора.

**Nicander et Martianus MM.** 4 чэрвеня.

**Nicanor Diaconus de septem primis M.** 10 лютага.

**Niceta M.** 15 верасня.

**Nicetius Ep. Conf.** 2 красавіка.

**Nicodemus M.** 1 чэрвеня, 3 жніўня.

**Nicolaus aestivalis** 9 ліпеня.

**Nicolaus Ep.** 6 снежня.

**Nicolaus hyemalis (festum)** 6 снежня.

**Nicostratus M.** 7 ліпеня.

**niderlogum**, i *n* г. зв. складское — аплата за захоўванне тавараў.

**nidificatio**, onis *f* гняздо; гнездаванне.

**nidus**, i *m* [**гнездо** *стб.*] гняздо, гняздоўе.

**niger**, gra, grum [**чорный** *стб.*] чорны.

**nihil** [**ничто | ништо** *стб.*] нішто: **in nihilum converto** [**обернути | оборочати ни во што** *стб.*] ператвараць у нішто, абяртаць у нівеч.

**nihilominus** [**однак | однако, однакже | однакож; предся** *стб.*] усё ж, усё роўна; але, аднак; апрача таго; пры гэтым.

**nihilominusmen** [**ведже | веджо, вшакже | вшакжо | вшенже** *стб.*] бо, усё ж; толькі, калі; але, аднак; таксама.

**nobellus**, i *m гл.* **nobilus**.

**nobilis**, e 1) вядомы; 2) славуты, знакаміты; 3) высакародны, шляхетна народжаны (прыметнік, якім азначалі ў сярэднявечных дакументах шляхту);

4) [**шляхетский** *стб.*] шляхецкі, уласцівы шляхціцу: **homo ~ minor** бедны шляхціц, уладыка; **vulnus nobile** рана, нанесеная шляхціцу; **verbum nobile** слова шляхціца, слова гонару; 5) [**земянский** *стб.*] зямянскі (землеўладальніцкі); 6) вяльможны (сталы эпітэт на азначэнне саноўнага шляхціца); 7) шляхетны, сумленны; 8) прыгожы; 9) дасканалы; 10) асвечаны; 11) цудоўны; 12) далікатны; 13) значны.

**nobilis**, is *m* 1) [**шляхтич** *стб.*] шляхціц; 2) [**боярин** *стб.*] баярын (прадстаўнік ніжэйшай шляхты ВКЛ): **nobiles** [**шляхта, бояре-шляхта** *стб.*] шляхта, баяры-шляхта; 3) [**земенин** | **земянин** *стб.*] зямянін (землеўладальнік).

**nobilissa**, ae *f* шляхцянка.

**nobilitaris**, e [**шляхетский** *стб.*] шляхецкі.

**nobilitas**, atis *f* (nobilis) 1) [**шляхетство** *стб.*] шляхецтва; 2) [**шляхта** *стб.*] шляхта.

**nobilitatio**, onis *f* [**nobilitacya** *пл.*] узвядзенне ў шляхецтва, наданне шляхецтва.

**nobilito** 1. (nobilis) 1) абвяшчаць; рабіць вядомым; 2) рабіць кагосьці славутым, знакамітым; 3) набілітаваць, надаваць шляхецтва; 4) паводзіць сябе як шляхціц; 5) ушаноўваць; 6) удасканальваць; ушляхотніваць; 7) надаваць бляску; узвышаць; 8) даваць пасаг; забяспечваць.

**nobilus**, i *m* нобель — залаты англійскі дукат.

**noceo**, cui, citum, ere [**шкодити** *стб.*] шкодзіць; перашкаджаць.

**nocivitas**, atis *f* 1) шкода; 2) перашкода, якая робіць немагчымым з'яўленне ў суд.

**noctivagium**, ii *n* пакаранне за бадзяжніцтва.

**nocturna**, ae *f* права лоўлі рыбы ўначы.

**nocumentum**, i *n* (noceo) шкода; страта.

**nola**, ae *f* званочак.

**nolarium**, ii *n* званіца.

**nolus**, i *m гл.* **nola**.

**nominatio**, onis *f* (nomino) 1) называнне; [**nominacya** *пл.*] 2) менаванне / намінацыя — прызначэнне каго-небудзь на пасаду; 3) наданне; прывілей; 4) права менаваць — г. зн. прызначаць кагосьці на касцёльны прыход.

**nominative** *adv.* пайменна.

**nominativus** гл **nominosus**.

**nominatus**, i *m* [**nominat** *пл.*] асоба, прызначаная, намінаваная на якую-небудзь пасаду, напр. біскуп-намінат — біскуп прызначаны / намінаваны, але яшчэ не пасвячаны.

**Nominis Iesu festum** 13 студзеня.

**nomino** 1. (nomen) [**менити** | **меновати** *стб.*] менаваць / называць; казаць; паказваць.

**nominosus**, a, um знакаміты, славуты.

**non** *adv.* [**не** *стб.*] не.

**nona**, ae *f* (nonus); 1) частка г. зв. малітвы гадзін, прынятай у Касцёле: нона правіцца штодня а дзявятай гадзіне паводле рымскага календара, г. зн. ад 14—15 да 16—17 гадзін нашага часу; 2) дзявятая частка прыбытку.

**Nonae**, arum *f* (nonus) Ноны. Так называўся ў рымлян сёмы дзень у месяцах сакавіку, траўні, ліпені і кастрычніку, а ў іншых месяцах — пяты дзень. Каб вызначыць дзень месяца паводле сучаснага календара, адпаведнага Нонам, трэба лік 7 у месяцах — сакавіку, траўні, ліпені і кастрычніку, а ў іншых месяцах — лік 5 павялічыць на адзінку і адняць ад яго рымскі лік Нонаў; рэшта будзе адпавядаць патрэбнаму дню месяца. Так, напр., **VI Nonis Octobris**: у кастрычніку Ноны гэта 7-ы дзень; павялічваем лік 7 на адзінку, ад 8 адымаем **VI** — шэсць, рэшта 2 азначае 2-і дзень кастрычніка паводле сучаснага календара.

**Nonnosus Abb.** 2 верасня.

**nonus**, a um (= novenus) [**девятый** *стб.*] дзявяты.

**northus**, i *m* поўнач.

**nos** [**мы** *стб.*] мы; нас.

**noster**, nostra, nostrum (nos) 1) [**наш** *стб.*] наш; 2) [**господарский** *стб.*] гаспадарскі, вялікакняжацкі.

**nostrum**, i *n* наша зямля.

**notabilis**, e (noto) 1) варты ўвагі; 2) вядомы; 3) пазначаны; 4) [**знакомитый** *стб.*] значны, важны.

**notabilitas**, atis *f* 1) рэч, вартая ўвагі; 2) саноўнікі; вядомыя грамадзяне.

**notarius**, i *m* (nota) [**писарь** *стб.*] [**pisarz** *пл.*] пісар, натарый; справавод. Пісары былі земскія і гродскія, г. зн. у земскіх і гродскіх судах. Яны абіраліся нароўні з чальцамі суда шляхтай і зацвярджаліся каралём. Абавязак іх палягаў на запісванні выракаў суда ў актавыя кнігі, таксама явак і сазнанняў розных угодаў / здзелак і данясенняў возных. Хоць уласна пісары не мелі голасу, які прама ўплываў на вырашэнне справы — **votum decisivum**, аднак іх меркаванне — **votum consultativum** было вельмі шанаванае. У пастанове Уладзіслава Ягайлы сказана: «**Notarii terrestris qui redargueret sententiam, pelliceam vulpinam dare teneatur**». «Хто б ганіў меркаванне земскага пісара, павінен даць яму лісінае футра» (Vol. Leg. I, f. 56). Апрача гэтага, падчас так званага адкрыцця кніг — **positio actorum**, у адсутнасці суддзі і падсудка пісар вырашаў справы, якія тычыліся выкупу маёнткаў і збеглых сялян (Vol. Leg. I, f. 259). З пазнейшых актаў відаць, што яўкі прыватных угодаў прымаліся ў акты адным толькі пісарам. Гродскія пісары карысталіся тымі ж правамі і выконвалі тыя ж абавязкі, што і земскія; **notarii** *s.* **scribae cancellariae regiae** [**pisarze kancellaryi królewskiey** *пл.*] натарыі ці пісары каралеўскай канцылярыі. Яны былі прысяжныя і знаходзіліся пад кіраваннем канцлераў і віцэканцлераў. Натарыяў было два. Абавязак іх палягаў на ўпісванні ў метрыкі прывілеяў, вызначэнняў, рэскрыптаў і рознага кшталту сазнанняў. Vol. Leg. I, f. 529; ~ **advocatialis** войтаўскі пісар; ~ **campestris** [**pisarz polny** *пл.*] пісар

польны / палявы ці ваенны. Абавязак яго палягаў на тым, каб кожную чвэрць года спісваць і ўносіць у рэестр усё войска, і адзін асобнік гэтага рэестра ці спісу, за подпісам, прадстаўляць у скарб Вялікага Княства Літоўскага, другі ж — вялікаму гетману літоўскіму, а ў Кароне — пасольскаму маршалку на пачатку кожнага сойма. Без гэтага спісу не мог выдавацца заробак войску. Vol. Leg. VI, f. 446, 469; V, f. 107; ~ **castrensis** гродскі пісар; ~ **civitatis** гарадскі пісар; ~ **scabinorum** лаўнічы пісар; ~ **terrestris** земскі пісар; ~ **teloneаrum** мытны пісар.

**notatio**, onis *f* (noto) 1) пазначэнне: ~ **litteralis** дакумент; 2) узяцце пад увагу; звяртанне ўвагі; заўважанне; 3) даследаванне; 4) цэнзарская заўвага; 5) выпальванне адбітка, таўраванне;6) характарыстыка.

**notator**, oris *m* 1) натарый — пісар, які складае дакументы; 2) ~ **librorum** пісец, які ўпісвае ноты ў літургічныя кнігі.

**notifico** 1. (notus) 1) абвяшчаць, рабіць вядомым; падаваць вядомасць; 2) даносіць; паведамляць; 3) прадстаўляць; заяўляць перад судом; 4) з'яўляцца перад судом; 5) выказваць перад судом.

**noto** 1. [**написати** *стб.*] упісваць, пісаць; пазначаць, указваць.

**notorius**, a, um (noto) [**явный** *стб.*] яўны, заўважны; адкрыты, вядомы; сапраўдны.

**notula**, ae *f demin.* 1) нататка, запіс; пісьмо; 2) запіс у судовую кнігу; 3) водпіс, спіс, копія; 4) радзімка; 5) рыса; знак; адбітак; 6) прадпісанне; правіла.

**novacula**, ae *f* (novus) [**brzytwa** *пл.*] брытва.

**novale**, is *n* поле, якое нанава пачынаюць апрацоўваць.

**novatio**, onis *f* (novo) [**nowacya** *пл.*] замена ранейшай умовы на іншую, новую.

**novator**, oris *m* (novo) 1) аднаўляльнік; 2) рэлігійны наватар, ерэтык.

**novello** 1. (novellus) 1) нанава апрацоўваць; саджаць; 2) з просекі рабіць ворнае поле, апрацоўваць поле, якое ніколі раней не апрацоўвалася; 3) аднаўляць; 4) пісаць і абвяшчаць што-небудзь новае; 5) *перан.*: паведамляць, інфармаваць.

**noverca**, ae *f* (novus) [**мачоха** *стб.*] мачаха.

**novigeldus**, i *m* аплата ў дзевяцікратным памеры.

**noviter** *adv.* (novus) 1) [**недавно** *стб.*] нядаўна; 2) зноў, знову.

**novus**, a, um *compar.* **novior, novius**, *superl.* **novissimus** [**новший, новый** *стб.*] новы.

**noxa**, ae *f* (noceo) [**вина** | **винность**; **выступ** *стб.*] віна, правіна, правіннасць; доўг; шкода; праступак, злачынства, злачыннае дзеянне.

**noxius**, a, um (noceo) [**винный** *стб.*] вінны, вінаваты; шкодны.

**nubo**, nupsi, nuptum, ere [**пойти, засести замуж** *стб.*] выходзіць / ісці замуж.

**nucleales**, ium *m pl.* аплата, прызначаная на куплю арэхаў, якую атрымлівалі настаўнікі ад вучняў.

**nullatenens**, ntis *adi.* які не займае ніякай пасады.

**nullitas**, atis *f* 1) нікчэмнасць; 2) знішчэнне; скасаванне; закрыццё.

**nullumquam** *гл.* **nunquam**.
**nullus**, a, um [**жадный** *стб.*] ніякі; ніхто, ніводзін.
**numerus**, i *m* лік: ~ **aureus** залаты лік (*гл.* **cyclus lunae**).
**nummata**, ae *f* 1) грашовая вартасць; 2) сума грошай.
**nummus**, i *m* манета: ~ **bracteatus** брактэат — дробная манета ў выглядзе бляшкі, на адным баку якой выбіта выява ці надпіс.
**nunc** *adv.* (з num-ce) [**тепер** *стб.*] цяпер.
**nunciales**, ium *m pl.* задатак.
**nuncius**, ii *m гл.* **nuntius**.
**nuncupamen**, inis *n* назва; імя.
**nundinae, arum** *f* [**targ** *пл.*] 1) гандлёвы дзень, *гл. тс.* **nundinum**; 2) [**ярморок** *стб.*] ярмарак / кірмаш, торг; гандаль, купля-продаж; 3) час гандлю ці час ад аднаго гандлёвага дня да іншага. Vol. Leg., a. 1538, I, f. 524.
**nundinum**, i *n* 1) гандлёвы дзень: **inter** ~ у час паміж двума таргамі / кірмашамі, г. зн. кожныя восем дзён; 2) час працягласці консульства пры Позняй Імперыі (3, 4 альбо 6 месяцаў); 3) дзевяцідзённы торг.
**nunquam** ніколі.
**nuntialis**, e вястунскі: ~ **panis** вястунскі хлеб — калач, які даваўся вестунам за добрую навіну.
**nuntius**, ii *m* 1) [**посланец** *стб.*] пасланец; пасол; нунцый: ~ **camerae** каралеўскі пасол; ~ **terrestris** земскі пасол; 2) вестка.
**nuptialia**, ium *n pl.* 1) вяселле; 2) г. зв. вясельнае — аплата на карысць феадальнага пана, якую даваў бацька дзяўчыны, што выходзіла замуж.
**nuptus**, us *m* (nubo) сужэнства / шлюб; замужжа: **nuptui tradere** [**выдати замуж** *стб.*] выдаваць замуж.
**nurna**, ae *f* ятроўка, сынава (жонка).
**nutrio** 4. 1) [**живити | кормити** *стб.*] жывіць, карміць: ~ **se** [**перекормити ся** *стб.*] пракарміцца; 2) гадаваць, выхоўваць: **nutriti** хлопчыкі, аддадзеныя на выхаванне ў кляштар; 3) [**переховати | переховывати** *стб.*] захоўваць; хаваць; утрымліваць.

## O

**ob** *praep.* 1) [**для** *стб.*] дзеля, з-за, з прычыны; 2) [**за** *стб.*] замест, за; пры, пры наяўнасці.
**obdestinatio**, onis *f* г. зв. абасланне — г. зн. паведамленне праз пасланца альбо вознага аб тэрміне і месцы судовага разгляду.
**obdestino** 1. 1) рассылаць, абсылаць — г. зн. паведамляць праз пасланца альбо вознага аб тэрміне і месцы судовага разгляду; 2) вызначаць, устанаўліваць.
**obductio**, onis *f* (obduco) 1) закрыванне, захінанне; 2) [**obdukcya** *пл.*] агляд, асведчанне, якое рабілася возным, напр. збіцця, нанесеных ран, спусташэнняў, пажараў, рабаванняў, захопаў і да т. п.
**obeissantia**, ae *f* васальныя павіннасці; феадальная залежнасць.

**obequitatio**, onis *f* афіцыйны аб'езд нейкай тэрыторыі дзеля ўсталявання межаў.

**obequito** 1. 1) прыязджаць конна, пад'язджаць; аб'язджаць: ~ **usque ad portam** пад'язджаць аж пад браму; 2) здзяйсняць афіцыйны аб'езд нейкай тэрыторыі дзеля ўсталявання межаў; 3) ~ **viam** заязджаць / загароджваць дарогу.

**obermanus**, i *m* вышэйшы палюбоўны суддзя.

**obicio**, ieci, iectum, ere 1) [**примовити** *стб.*] папракаць; [**задати нешляхетство** *стб.*] звінавачваць, упікаць у нешляхецтве; 2) [**назвати** *стб.*] называць.

**obitus**, us *m* (obeo) 1) падзенне; гібель; 2) [**смерть** *стб.*] смерць: **circa obitum** [**при животе** *стб.*] пры жыцці; **post obitum** [**по животе** *стб.*] пасля смерці.

**oblagia** *гл.* **oblata**.

**oblata**, ae *f* 1) аблатка — не асвячаная гостыя; 2) падатак, які прыносіўся пану васаламі і падданымі, што складалася з белага хлеба; пасля яна была заменена на невялікі грашовы падатак; 3) даслоўная копія ў актах гарадской канцылярыі ліста, прадстаўленага працэсуальным бокам.

**oblatuatio**, onis *f* унясенне даслоўнай копіі ліста, прадстаўленага бокам, у акты гарадской канцылярыі.

**oblia** *гл.* **oblata**.

**obligamentum**, i *n гл.* **ligamentum**.

**obligatio**, onis *f* (obligo) [**obligacya, zapis obligacyjny** *пл.*] 1) абавязацельства; закладная ўгода / здзелка; запіс закладной угоды. У зборы законаў Польшчы і ВКЛ гэты запіс называецца **inscriptio certi debiti, ad tempus certum obligati**, г. зн. запіс пэўнага доўгу з абавязацельствам яго выплаты ў вызначаны час, калі адна асоба пазычала ў іншай суму грошай і абавязвалася ў выпадку няўплаты яе ў вызначаны тэрмін аддаць у валоданне свайму крэдытору якуюнебудзь частку сваёй нерухомай маёмасці да выплаты доўгу; 2) [**застава | заведенье** *стб.*] застава / заклад.

**obligator**, oris *m* 1) крэдытор, які бярэ ў заклад маёмасць даўжніка, застаўнік; 2) даўжнік, які забяспечвае закладам вяртанне доўгу.

**obligatorialis**, e 1) датычны закладу; 2) датычны продажу з правам выкупу.

**obligatorius**, a, um (obligo) [**закупленый | закупный** *стб.*] закуплены / узяты ў заклад, закладзены.

**obligatus**, a, um *part.* 1) абавязаны: **obligati** асобы, на якіх ляжыць пэўная службовая павіннасць; 2) закладзены; 3) абавязковы.

**obligo** 1. 1) быць вінным / павінным: **obligatus** [**повинный** *стб.*] павінны, абавязаны; абавязковы; 2) [**задолжити** *стб.*] абцяжарваць даўгамі; 3) [**закупатя | закупити** *стб.*] закупляць / браць у заклад; 4) [**завести, заставити, запродати** *стб.*] запрадаваць / закладаць: **obligatus** [**закупленый | закупный, заставлены | заставный** *стб.*] закуплены / узяты ў заклад, закладзены; 5) прызначаць; прысуджаць.

**oblocutor**, oris *m* (obloquor) 1) працiўнік, апанент; 2) паклёпнік.

**oblogium**, ii *n* род аплаты.

**oblongum**, i *n* правіна.

**obloquentia**, ae *f* абмоўка; вызначэнне; выраз; сэнс: **iuxta obloquentiam legum** згодна з сэнсам законаў; **in tota eius obloquentia** у поўным сэнсе гэтага (слова); **ad mentem et obloquentiam konstytucyi coronationis** паводле сэнсу і вызначэння каранацыйнай соймавай пастановы.

**obloquor**, cutus sum, loqui [**обмовляти** *стб.*] абгаворваць, абмаўляць.

**obmunio** 4. зацвярджаць, надаваць юрыдычную моц.

**obnoxiatio**, onis *f* 1) прыняцце статусу залежнага чалавека; 2) стан нявольны.

**obnoxii, orum** *m pl.* усе катэгорыі залежнага насельніцтва, пазбаўленага права пакідаць зямлю і свабоды перамяшчэння.

**obnoxio** 1. 1) звінавачваць, рабіць вінаватым; абскарджваць; 2) браць віну на сябе; 3) прымаць статус залежнага чалавека.

**obnoxius**, a, um [**повинный** *стб.*] павінны, абавязаны; абавязковы.

**oboedientia**, ae *f* 1) паслухмянасць; паслушэнства; падпарадкаванне; 2) падданства; 3) рэгіён ці краіна, падпарадкаваная каму-небудзь.

**oboedio** 4. (ob + audio) [**быти послушным** *стб.*] быць паслухмяным; падпарадкоўвацца.

**obolus**, i *m* пенязь — дробная манета, якая была ва ўжытку ў Польшчы ў XI—XIII стагоддзях, *гл.* **denarius**.

**obsequialis**, is *m* (obsequium) 1) падданы; 2) слуга; 3) прыхільнік.

**obsequialiter** *adv.* паслухмяна; як васал; у доказ падпарадкавання.

**observatio**, onis *f* (observo) 1) назіранне; агляданне; 2) захаванне; 3) ахова; варта.

**observio** 4. 1) выконваць службы, якія вынікаюць з падданства; 2) быць карысным.

**observo** 1. 1) [**ховати** | **заховати** | **заховывати** *стб.*] захоўваць, выконваць; абараняць; 2) [**заховати ся** *стб.*] прытрымлівацца.

**obses**, sidis *m* 1) закладнік; 2) гарант; 3) паручальнік; 4) заклад; 5) паручальніцтва, парука.

**obsideo**, sedi, sessum, ere 1) аблягаць, браць у аблогу; 2) [**заступати** | **заступити** *стб.*] заступаць (дарогу): ~ **viam** [**заседати** | **засести** *стб.*] засядаць / рабіць засаду.

**obsidio**, onis *f* (obsideo) 1) атачэнне, акружэнне; 2) аблога; блакада: **obsidione cingere** [**обогнати** *стб.*] атачаць (аблогай), браць у аблогу, аблягаць; 3) уціск; бяда; 4) адданне ў заклад; адданне на парукі.

**obsidium**, ii *n* (obsideo) 1) аблога; акружэнне; блакада: ~ **viae** засада на дарозе; 2) небяспека; 3) закладнік; 4) заклад; 5) адданне ў заклад; адданне на парукі; 6) наезд (экзекуцыйны).

**obsipo** 1. 1) вызначаць межы валодання праз насыпанне капцоў; 2) пырскаць.

**obsistentia**, ae *f* 1) дамаганне; 2) супраціў; 3) супрацьлегласць.

**obstaculum**, i *n* (obsto) 1) перашкода; 2) [**ез** *стб.*] яз / гаць, плаціна, грэбля: ~ **pro piscibus** яз / загарода ў рацэ для лоўлі рыбы; 3) загарода; барыкада; 4) супраціў: **se alicui ~ praebere** выступаць супраць; пярэчыць.

**obstagio** 1. 1) быць паручальнікам ці закладнікам і знаходзіцца ў пэўным месцы да выканання абяцання ці дамовы; 2) даваць паручальніка ці закладніка.

**obstagium**, ii *n* 1) падатак ці прынашэнне ўладальніку ад дзяржаўцаў / арандатараў і васалаў на ваенныя выдаткі; 2) парука: ~ **tenere, in obstagio esse** быць паручальнікам ці закладнікам і знаходзіцца ў пэўным месцы да выканання абяцання ці дамовы.

**obstinentia**, ae *f* юрыдычная перашкода.

**obstrictio**, onis *f* (obstringo) абавязацельства, якім звязаны ніжэйшы ў адносінах да вышэйшага.

**obstringo**, strinxi, strictum, ere 1) моцна звязваць; спутваць; 2) абмяжоўваць; арыштоўваць: **furti obstringi** падлягаць пакаранню штрафам за крадзеж; 3) агпятаць; 4) абавязваць: ~ **fidem alicui** прысягаць у вернасці; ~ **fidem suam** абяцаць вернасць; ~ **rem** даваць у заклад; 5) занурваць / пагружаць; 6) ублытваць у нешта; 7) атачаць; зачыняць.

**obstrudo**, trusi, trusum, ere 1) упіхваць; укідваць; накідваць: ~ **aliquid alicui** нешта камусьці накідваць; ~ **ferulas** уносіць скаргі; 2) затыкаць; зачыняць; 3) зацягваць вузел; 4) паглынаць.

**obsum**, fui, esse [**шкодити** *стб.*] шкодзіць; перашкаджаць.

**obtentio**, onis *f* (obtendo) 1) атрыманне; набытак; 2) прызнанне дамагання.

**obtentum**, i *n* перамога справы.

**obtestatio**, onis *f* (obtestor) 1) заклён; прысяга: **sub obtestationem alicuius rei** прысягаючы нечым; пад прысягай; 2) узмоцненая просьба, умольванне, благанне; 3) заява, складзеная ў судзе.

**obtestifico** 1. *s.* **obtestificor** 1. 1) сведчыць, выступаць як сведка; 2) абводзіць — г. зн. з дапамогай судовага возная пацвярджаць панесеныя шкоды.

**obthocznij** [**обточный, осочный** *стб.*] абточны, асочны (сабака).

**obticeo**, —, —, ere 1) маўчаць; 2) [**замолчати** *стб.*] замоўчваць; замаўкаць: ~ **aliquem** прымушаць кагосьці маўчаць; ~ **iuramentum** не складаць прысягі.

**obtinentia iuris** прызнанне дамагання.

**obtineo** (optineo), tinui, tentum, ere 1) [**взяти** | **озяти** | **узяти**; **одержати** *стб.*] браць, забіраць; атрымліваць; утрымліваць; займаць; авалодваць; 2) перамагаць, здабываць перамогу; 3) [**реч одержати** *стб.*] выйграваць справу; завалодваць рэччу; 4) довадамі схіляць каго-небудзь на свой бок; 5) [**мети** *стб.*] мець, валодаць, трымаць; захоўваць; магчы; быць павінным, быць абавязаным.

**obtracto** 1. *гл.* **obtrecto**.

**obtrecto** 1. 1) абмаўляць, ачарняць; 2) зайздросціць; 3) дзейнічаць супраць; 4) прыцягваць.

**obtusio** (obtunsio), onis *f* (obtundo) 1) удар; 2) пакаранне; 3) дурасць.

**obventio**, onis *f* (obvenio) 1) выпадковы, нясталы прыбытак: ~ **iudiciorum** прыбытак з судовых аплатаў; 2) карысць, выгада; 3) падатак; 4) г. зв. пошта — род падарунку, які рабілі сяляне феадальнаму пану альбо ўрадніку князя з выпадку ўрачыстага свята альбо прыезду ў вёску; 5) здарэнне; 6) пярэчанне; супрацьў.

**obviatio**, onis *f* 1) сустрэча; 2) дыспут; 3) барацьба.

**obvio** 1. 1) выходзіць насустрач, сустракаць; 2) [**сотнути ся** *стб.*] сыходзіцца; сутыкацца.

**obvolutae**, arum *f pl.* сшыткі, ужываныя ў гарадскіх канцылярыях для перапісвання пратаколаў.

**occasionatus**, us *m* аргументы для вызвалення ад абвінавачванняў перад судом.

**occido**, cidi, cisum, ere [**вбити | убити | забити | побити** *стб.*] забіваць: **occisus** [**вбитый | убитый | забитый** *стб.*] забіты.

**occipio**, cepi (coepi), ceptum, ere [**брати** *стб.*] рабаваць, грабіць; захопліваць.

**occisio**, onis *f* (occido) [**забитье** *стб.*] забойства.

**occisor**, oris *m* (occĭdo) [**убийца** *стб.*] забойца.

**occlamo** 1. падымаць крык.

**occlusum**, i *n* аплата на карысць уладальніка зямлі, на якой незаконна пасвілася чужое быдла, занятае ў шкодзе.

**occultus**, a, um [**таемный** *стб.*] таемны.

**occupator**, oris *m* 1) той, хто завалодаў чыёйсьці рэччу; 2) той, хто прысвоіў, прыўлашчыў: ~ **regni** захопнік.

**occupo** 1. 1) [**заняти** *стб.*] займаць; затрымліваць, пераймаць; 2) [**взяти | озяти | узяти, побрати** *стб.*] браць, забіраць, адбіраць: **occupatum** [**розобрано** *стб.*] адабранае, забранае; [**забранье** *стб.*] захопленая (маёмасць); 3) [**брати** *стб.*] рабаваць, грабіць; захопліваць; 4) [**осадити | осаживати** *стб.*] замяшчаць.

**Occursus (festum)** свята Ахвяравання Пана — Грамніцы, 2 лютага.

**occursus**, us *m* (occurro) падатак; спагнанне, тое ж, што і **exactio**.

**ocqueror**, questus sum, queri скардзіцца на нешта ў судзе.

**Octava S. Innocentium** 4 студзеня.

**Octavius** 20 лістапада.

**octavus**, a, um (octo) [**осмый** *стб.*] восьмы.

**octo** [**осм** *стб.*] восем.

**Octo neophytorum** восем неафітаў; 1-я нядзеля Вялікага Посту.

**octolium**, ii *n* мера колькасці збожжа.

**octuale**, is *n* 1) ахтэль — мера напояў, *асаб.* піва, роўная 1/8 частцы бочкі; 2) бочачка ёмістасцю ў ахтэль; 3) 1/8 частка прыбытку.

**octualis**, e які мае аб'ём аднаго ахтэля.

**ocularis**, e (oculus) 1) вочны; 2) навочны, відавочны: ~ **testis** навочны сведка, відавочца; 3) г. зв. ачывісты (рок) — г. зн. судовы (тэрмін), папярэджаны

вусным пазовам / выклікам у суд, часта ў сувязі з адшуканнем яўнага доказу віны, г. зн. ліца / палічнага.

**oculatim** *adv.* (oculus) 1) уласнымі вачамі, увачавідкі; 2) з г. зв. ліцом / палічным, г. зн. з яўным доказам віны ў працэсе аб крадзяжы.

**oculatus**, a, um (oculus) 1) бачны, які кідаецца ў вочы, яўны; 2) які бачыць; 3) навочны, відавочны: ~ **testis** навочны сведка, відавочца; **dies oculata** дзень, афіцыйна вызначаны для здзяйснення выплат; ~ **terminus** г. зв. ачывісты (рок) — г. зн. судовы (тэрмін), папярэджаны вусным пазовам / выклікам у суд, часта ў сувязі з адшуканнем яўнага доказу віны, г. зн. ліца / палічнага, *гл. тс.* **ocularis**.

**Oculi (dominica)** 3-я нядзеля Вялікага Посту.

**oculus**, i *m demin.* [**око** *стб.*] вока.

**odardi, orum** *m pl.* неаселая шляхта, галота — беззямельны шляхціц.

**odardia**, ae *f* убоства, беднасць.

**odartus**, a, um немаёмны, бедны, убогі.

**odartus**, i *m* галота — беззямельны шляхціц.

**odium**, ii *n* 1) нянавісць; варожасць; непрыязнасць: **odio** з нянавісці; **in** ~ **populi irruere** патрапляць на гнеў народа; **in** ~ **alicuius probare** сведчыць супраць кагосьці; **habere** ~ **in hominem** мець нянавісць; **sine odio** без нянавісці; ~ **iuratum** прысяжная нянавісць; 2) прадмет нянавісці; 3) прыкры характар; 4) агіда.

**odorisecus** *гл.* **odorisequus**.

**odorisequus**, a, um які нюхае сляды, ідзе па слядах.

**odorisequus**, i *m* [**выжель** *стб.*] выжал (сабака).

**oeconomia**, ae *f* [**ekonomia** *пл.*] эканомія — сталовыя каралеўскія добры / уладанні (*тс.* **bona mensae regiae**). Такімі добрамі / уладаннямі былі: розныя саляныя жупы ці капальні — Кракаўскія, Олькускія, рускія; мытныя падаткі — каронныя, рускія, таксама староствы — Сандамірскае, Самборскае; эканоміі — Мальборская, Велькажонды, Разозьна, Чэчаў; мытныя падаткі — Гданьскія (Данцыгскія), Эльбінскія, Рыжскія; прыбыткі манетных двароў і падводныя, падатак Плоцкі (Vol. Leg. II, f. 1334). У Літве-Беларусі: Гародня, Шаўлі, Берасце з Кобрынам, Магілёў, Аліта і старыя мыты (там жа, f. 1285), у Лівоніі: Дорпат. Каралеўскія сталовыя ўладанні аддаваліся ў арэнду, але толькі шляхце, якая мела ўласныя маёнткі і якая павінна была атрымліваць дзясяты грош ад чыншу з гэтых маёнткаў і дзясяты сноп ад ураджая з іх. Vol. Leg. VI, f. 1.

**offendo**, fendi, fensum, ere 1) ударыць, біць; 2) шкодзіць; 3) крыўдзіць; абражаць; 4) нападаць; заваёўваць; 5) [**заставати | застати** *стб.*] заставаць, заспяваць; знаходзіць, выяўляць.

**offensa**, ae *f* (offendo) 1) крыўда; абраза: **in offensam** [**образливый** *стб.*] на абразу / крыўду; 2) [**безчестье** *стб.*] ганьба; штраф (за абразу).

**offerenda**, ae *f* 1) сталы прыбытак, які атрымліваў парафіяльны ксёндз са складаных ахвяраванняў; 2) ахвяраванне хлеба і віна падчас св. Імшы.

**offerentia**, ae *f* (offero) 1) [**offerencya** *пл.*] аказанне; ахвяраванне: **per plus offerentiam** з аўкцыёну; 2) ахвяра; 3) [**datek** *пл.*] падарунак, зроблены суддзі, хабар.

**offero**, obtuli, oblatum, offerre [**давати | даивати | дати** *стб.*] даваць, выдаваць; дараваць; ахвяраваць; падаваць, прадстаўляць.

**offerro** 1. 1) акоўваць; 2) закоўваць у кайданы.

**offertorialia**, ium *n pl.* 1) даніна; падатак; 2) грашовая ахвяра, складаная вернікамі падчас св. Імшы.

**officialis**, e (officium) [**врадниковый** *стб.*] урадніцкавы, уласцівы ўрадніку.

**officialis**, is *m* (officium) 1) слуга; распарадчык; 2) [**врадник | урядник** *стб.*] ураднік; службовая асоба, службовец; 3) афіцыял — асоба, якая замяшчае біскупа.

**officiator**, oris *m* начальнік, кіраўнік.

**officiatus**, i *m* 1) вышэйшы ўраднік, упаўнаважаны ўладара альбо касцёльнага саноўніка: ~ **ecclesiae** духоўная асоба, якая адпраўляе літургію ў вызначаным касцёле; 2) ураднік, які здзяйсняе юрысдыкцыю ад імя ўладара; 3) ураднік альбо прыдворны слуга; 4) гарадскі ўраднік; 5) асоба, на якую ўскладзена кіраванне зямельнай маёмасцю.

**officina**, ae *f* (= opificina) 1) майстэрня; фабрыка; 2) установа; 3) крама: ~ **laniaria** [**jatka** *пл.*] ятка — мясная крамка.

**officinalis**, e ужываны як гаспадарчае памяшканне.

**officio** 1. служыць касцёлу; выконваць свой абавязак.

**officium**, ii *n* 1) абавязак; павіннасць; 2) [**врад | урад** *стб.*] абавязак; урад (пасада і адміністрацыйны орган); улада; суд: ~ **superintendendi** [**приставництво** *стб.*] прыстаўніцтва / пасада прыстава; ~ **tutoris** [**опекунство** *стб.*] апякунства; ~ **villicandi** [**тивунство** *стб.*] цівунства; 3) дзеянне; выкананне; 4) занятак; справа; 5) асабовы склад суда; суд: ~ **condescensoriale** суд, які з'язджаўся на спрэчную зямлю якога-небудзь уладання, пераважна гэта камісарскі суд; ~ **consulare** [**sąd burmistrzowski-radziecki** *пл.*] суд бурмістраўска-радны, інакш **magistratus** [**magistrat** *пл.*] магістрат, мяшчанскі гарадавы суд. У старажытнасці ён складаўся з бурмістраў — **proconsules** і радцаў / ратманаў — **consules**, пад старшынствам бурграбія (*гл.* **burgrabius**) (Vol. Leg. I, f. 459). У магістратах звычайна два разы ў год старшынстваваў бурграбій, і тады яны называліся вялікімі бурграбскімі судамі (Vol. Leg. IV, f. 334). Пазней гэты суд складаўся з аднаго ці двух бурмістраў — **proconsules** і адзінаццаці райцаў / ратманаў — **consules** і судзіў грамадзянскія і крымінальныя справы — **causas iuris et facti**.

**offideiubeo**, iussi, iussum, ere ручацца за кагосьці.

**offirmo** 1. 1) узмацняць, падмацоўваць; падтрымліваць: ~ **animum** рашуча нешта пастанаўляць; 2) рабіць упартым; 3) дадаваць моцы; 4) супраціўляцца;

упіраца; зацінаца; 5) замыкаць; трымаць у зняволенні; 6) прызнаваць; зацвярджаць; гарантаваць.

**ohar** [**огар** *стб.*] огар — гончы сабака.

**olearius**, i *m* (oleum) [**oleynik** *пл.*] алейнік — прадавец алею.

**olim**, *adv.* 1) [**некoли** *стб.*] некалі, калісьці, раней, даўней; 2) калі-небудзь; 3) звычайна, неаднаразова; 4) аб людзях: памерлы, святой памяці; 5) некалі, потым, у будучыні.

**Olimpiades** 15 красавіка, 1 снежня.

**Olimpias Vid.** 17 снежня.

**Olimpius** 15 красавіка.

**olitanus**, a, um старажытны, старадаўні.

**olla**, ae *f* 1) гаршчок; 2) чыгун; кацёл; 3) кафля; 4) гарнец як мера аб'ёму.

**ollaris**, e (olla) які мае аб'ём аднаго гарнца.

**ollinus**, a, um *гл.* **ollaris**.

**omissa**, ae *f* занядбананне (нейкага юрыдычнага дзеяння).

**Omnes gentes (dominica)** 7-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.

**Omnia, quae fecisti (dominica)** 20-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.

**omnimodus**, a, um (omnis) 1) усялякі; 2) [**конечный** *стб.*] канчатковы; поўны.

**omnipotens**, entis (omnis) 1) усемагутны; 2) упаўнаважаны на нешта.

**Omnis terra (dominica)** 2-я нядзеля па Аб'яўленні Пана.

**omnis**, e [**весь** *стб.*] увесь: **omnes** [**вси** *стб.*] усе, усялякія.

**onager**, gri *m* [**лось** *стб.*] лось.

**onomastica**, ae *f* дзень нараджэння.

**Onuphrius Anoch**. 10 чэрвеня.

**onus**, eris *n* [**беремя** *стб.*] бярэмя / цяжар, ноша; павіннасць.

**onustas**, atis *f* 1) цяжкасць, абцяжаранне; 2) абавязацельства; 3) абавязак.

**onustatio**, onis *f* 1) пагрузка; 2) права на трыманне вазоў, прызначаных для перавозу бочак піва ці віна і атрыманне аплаты ад іх пазычання.

**opera**, ae *f* (opus, eris) 1) высілак; старанне; праца: **operae / operaria** працы, якія выконваліся вольнаадпушчанымі для сваіх апекуноў; **opera terrae** від поля вызначанай велічыні; 2) прыбытак на рамонт касцёльных дахаў.

**operagium**, ii *n* праца; высілак.

**operarium**, ii *n* праца: **operaria** працы, якія выконваліся вольнаадпушчанымі для сваіх апекуноў.

**operata**, ae *f* праца, якую можна выканаць за адзін дзень у садзе ці вінаградніку.

**operatio**, onis *f* (operor) 1) праца; дзеянне; занятак; учынак: **facere operationem** займацца нейкай справай; ~ **bona** добры ўчынак; **operatione alicuius** з дапамогай некага; ~ **medici** хірургічная аперацыя; 2) дзейнасць, занятак; 3) вынік; завяршэнне; 4) паводзіны; 5) службовыя працы на пана; 6) г. зв. аправа — зроблены мужам запіс на карысць жонкі; 7) дабрачыннасць.

**operatura**, ae *f* мера плошчы вінаградніка, якую можна апрацаваць за адзін дзень.

**operor** 1. (opus) *intr.* 1) працаваць; 2) займацца чымсьці; дзейнічаць: ~ **alicui** дапамагаць; **aliquo operante** з дапамогай кагосьці; ~ **ad aliquid** служыць для чагосьці; ~ **sacris** спраўляць рэлігійныя абрады; 3) выконваць нейкую працу; 4) абслугоўваць; 5) выконваць службу; 6) служыць камусьці; 7) даваць вынік; 8) рабіць; 9) прычыняць; выклікаць; 10) будаваць; 11) закладваць; 12) уладкоўваць; 13) рабіць запіс на карысць жонкі; 14) абрабляць зямлю; 15) прасці воўну; 16) выплаўляць руду; 17) складаць ахвяру.

**opifex**, ficis *m* (opus) рамеснік.

**opinatus**, a, um *part.* сумленны; вядомы з добрага боку; славуты.

**opitularium**, ii *n* дапамога.

**oportet**, tuit, ere *verb. impers.* [**мусити** *стб.*] мусіць; трэба, неабходна.

**oppello**, puli, pulsum, ere займаць нечае быдла ў шкодзе.

**oppidalis comes** незакупны войт.

**oppidana**, ae *f* гараджанка, мяшчанка.

**oppidanus**, i *m* (oppidum) 1) мешчанін, месціч, гараджанін; 2) жыхар маленькага горада; 3) жыхар маленькага замка; 4) *pl.:* залога / гарнізон замка; 5) кашталян.

**oppidum**, i *n* 1) горад; 2) умацаванае месца, крэпасць: ~ **forense** мясцовасць, у якой адбываліся таргі; 3) умацаваны горад; 4) замак; 5) у XI—XII стагоддзях гарадское паселішча разам з замкам.

**oppignoro** 1. аддаваць у заклад.

**oppignus**, oris *n* заклад.

**oppositio**, onis *f* (oppono) 1) супрацьлегласць; 2) пярэчанне; супраціў; проціпастаўленне: **in oppositione ponere** змяшчаць насупраць; 3) адмаўленне; 4) судовая спрэчка; 5) звядзенне; супастаўленне, параўнанне.

**oppressio**, onis *f* (opprimo) 1) уціск; гвалт, насілле; абмежаванне: ~ **civis liberi** абмежаванне асабістай свабоды; ~ **feminae** згвалтаванне жанчыны; ~ **legum et libertatis** парушэнне правоў і свабодаў; ~ **liberae vocis** абмежаванне свабоды голасу; ~ **virginis** згвалтаванне дзяўчыны; 2) напад; 3) прыгнёт; 4) задушэнне; 5) адбітак пячаткі; 6) абцяжаранне; 7) цяжар феадальнага права; 8) незаконнае дамаганне; 9) нямогласць, абцяжаранасць, цяжкасць; 10) страта; шкода; крыўда.

**opprobriosus**, a, um (opprobrium) [**соромный** *стб.*] саромны / ганебны, абразлівы.

**opprobrium** (obprobrium), ii *n* 1) знявага, абраза: **percellere aliquem opprobriis** асыпаць кагосьці абразамі; 2) папрок; 3) ганьба; сорам: **alicui oprobrio esse** прыносіць камусьці ганьбу; ~ **aeternum** вечнае асуджэнне; **opprobrio afficere** [**зсоромотити | соромотити** *стб.*] сарамаціць; ганьбіць, абражаць.

**optio**, onis *f* 1) выбар, свабода выбару; права на штосьці; магчымасць; 2) жаданне; 3) сваволя, самаўпраўнасць.

**opto** 1. *frequ.* 1) жадаць, прагнуць; патрабаваць: ~ **iustitiam** патрабаваць здзяйснення справядлівасці; ~ **aliquem** прасіць кагосьці, патрабаваць; ~ **ad convocam** склікаць; 2) выбіраць: **ius optandi** права выбару адной з некалькіх рэчаў.

**opus**, eris *n* 1) справа; 2) [**потреба** *стб.*] патрэба, запатрабаванасць; карысць: ~ **est** [**надобе** *стб.*] трэба, неабходна.

**opusculum**, i *n demin.* 1) невялікая справа; літаратурны твор; 2) рэестр; 3) дакумент.

**orator**, oris *m* (oro) 1) прамоўца; 2) майстра красамоўства; 3) паручальнік; заступнік; 4) [**посол** *стб.*] амбасадар / пасол.

**oratorium**, ii *n* 1) будынак, прызначаны для малітвы; 2) касцёльны хор; 3) каралеўскі палац; 4) вясковы касцёл без парафіян; капліца.

**orbis**, is *m* 1) кола, круг; 2) дзяржава; улада; 3) сяло; 4) правінцыя.

**orbita**, ae *f* (orbis) 1) каляіна, след ад колаў: **recentibus orbitis** гарачым следам, адразу пасля здзяйснення злачынства; 2) *перан.*: прыклад для наследавання; 3) бег па колу; арбіта; 4) абяртанне нябесных цел; 5) усталяваны парадак; чарговасць.

**orbus**, a, um асіранелы; аўдавелы: **post orbum et sterilem** [**по пустой руце** *стб.*] (маёмасць) па пустой / мёртвай руцэ, як вымарачнае (уладанне).

**ordalicium**, ii *n гл.* **ordalium**.

**ordalium**, ii *n* Божы суд.

**ordeum** *гл.* **hordeum**.

**ordinamentum**, i *n* 1) уладкаванне, упарадкаванне; 2) наказ; пастанова.

**ordinaria**, ae *f* 1) (*sc.* **lectio**) рэгулярны ўніверсітэцкі выклад, лекцыя; 2) бэнэфіцый, дадзены выкладчыку; 3) рацыён харчавання.

**ordinarius**, i *m* (ordo) 1) звычайны прафесар ва ўніверсітэце; 2) ардынарый — кіраўнік касцёльнай юрысдыкцыйнай акругай: ~ **ecclesiae** пробашч; 3) кніга, якая змяшчае парадак адпраўлення набажэнстваў.

**ordinatio**, onis *f* (ordino) [**ordynacya** *пл.*] 1) распараджэнне; рашэнне; 2) уладкаванне, упарадкаванне, арганізацыя: ~ **exercitum** [**ших** | **шихованье** *стб.*] шых / шыхаванне / пастраенне (войска), агляд; 3) упарадкаванасць, парадак; 4) статут; 5) пастанова пра ўспадкаванне ўладання, паводле якой яно не можа падлягаць падзелу, але заўсёды дастаецца адной асобе; 6) маярат; 7) абрад пасвячэння ў святары і на іншыя іерархічныя ступені; 8) пастанова ці меркаванне суддзі; 9) дакумент, у якім выкладаюцца справы, што падлягаюць разгляду.

**ordinatus**, i *m* нашчадак, пераемнік, прамы спадкаемца.

**ordinium**, ii *n* 1) патомства, нашчадкі; 2) тастамент / завяшчанне.

**ordino** 1. (ordo) 1) упарадкоўваць; 2) ставіць у шыхт: **praestare se ad ordinandum** [**шиховати ся** *стб.*] шыхавацца / праходзіць агляд, быць аглядным; **praebere se ordinandum** [**датся шиховати** *стб.*] давацца шыхавацца / падпарадкоўвацца загаду на шыхаванне / пастраенне; 3) [**справити** | **справляти** | **справовати** *стб.*] спраўляць / дзейнічаць; вырашаць; судзіць; 4) паста-

наўляць; распараджацца; 5) загадваць; 6) прызначаць на духоўныя і касцёльныя пасады.

**ordo**, inis *m* (ordior) 1) шэраг, рад; 2) лад; парадак; 3) прынцып, правіла, рэгула; 4) [**рад** *стб.*] становішча, стан; грамадскі стан: ~ **equestris** [**rycerstwo** *пл.*] рыцарскі стан, рыцарства, шляхта, якая брала ўдзел у нарадах пра справы дзяржавы, пастановах і заканадаўстве; **ordines regni** дзяржаўныя і ўрадавыя ўлады; 5) [**врад | урад** *стб.*] урад, адміністрацыйны орган; улада; суд; 6) [**закон** *стб.*] каталіцкі манаскі закон / ордэн: ~ **carmelitarum discalceatorum** закон / Ордэн босых кармелітаў; ~ **praedicatorum de poenitentia** закон / Ордэн аўгустынцаў; ~ **s. Pauli, primi eremitae** паўліны — закон / Ордэн св. Паўла, першага пустэльніка; ~ **SS. Trinitatis de redemptione captivorum** [**trinitarze** *пл.*] трынітарыі — каталіцкі манаскі закон / ордэн, створаны з мэтай выкупу палонных.

**oretenus** *adv.* на словах, слоўна, вусна: **testimonium** ~ **prolatum** слоўнае, вуснае сведчанне.

**organista**, ae *f* [**органиста** *стб.*] арганіст.

**organum**, i *n* 1) орган цела; 2) прылада: **in organo spiritus sancti laborare** дзейнічаць як прылада Духа Святога; 3) музычны інструмент, флейта; арганы: ~ **hydraulicum** водныя арганы; **organorum magister** арганіст.

**orichalcarius**, ii *m* [**mosiężnik** *пл.*] латуннік.

**originalis**, is *m* (origo) асоба, якая паводле свайго нараджэння належала да якога-небудзь стану.

**originaliter** *adv.* (originalis) 1) першапачаткова; спачатку; 2) ад пачатку судовага разгляду; 3) у арыгінале.

**originarius**, a, um (origo) 1) арыгінальны; тутэйшы; радавіты; 2) першапачатковы: **acquisitio originaria** першапачатковае набыццё; 3) пачатковы; 4) прыпісаны да зямлі; 5) звязаны паходжаннем з нейкай мясцовасцю альбо нейкім станам; 6) сялянскі.

**originarius**, i *m* (origo) 1) тубылец, тутэйшы; 2) колан / асаднік; 3) асоба, якая паводле свайго нараджэння належала да якога-небудзь стану; 4) чалавек сялянскага паходжання, селянін.

**orphanus** (orfanus), i *m* [**сирота** *стб.*] сірата.

**orta**, ae *f* орта — манета Польшчы і ВКЛ, якую пачалі біць / чаканіць у 1658 годзе. Яна мела вартасць перш 16, а потым (з другой паловы XIX ст.) 18 грошаў. У Літве-Беларусі орты білі да 1664 года.

**ortelum**, i *n* ортыль — юрыдычнае тлумачэнне вышэйшага суда нямецкага права.

**ortilegaliter** *adv.* у форме ортылю, праз ортыль.

**ortilegium**, ii *n гл.* **ortelum**.

**ortilegius**, a, um які мае права давання ортылю.

**orto**, onis *m* дробная манета.

**ortuga**, ae *f* дацкая манета.

**ortus** *гл.* **hortus**.

**osada**, ae *f* прадстаўнікі сялянства, што жылі на тэрыторыі вёскі, якія бралі ўдзел у вызначэнні межаў зямельных уладанняў.

**Osanna (dominica)** Пальмовая нядзеля.

**osmina**, ae *f* асьміна — мера для сыпкіх рэчываў у Літве-Беларусі, восьмая частка бочкі. Яна змяшчала ў сабе 18 літоўскіх шынковых гарнцаў.

**ostagium** *гл.* **obstagium**.

**ostendo**, tendi, tentum 1) [**вказати | вказывати | оказати, оказати ся** *стб.*] паказваць, указваць; прадстаўляць, прад'яўляць; прысуджаць; 2) [**обвести** *стб.*] абводзіць / паказваць; аглядаць; 3) [**обьявити** *стб.*] заяўляць; аб'яўляць, абвяшчаць, паведамляць.

**ostensio**, onis *f* (ostendo) 1) [**оказ** *стб.*] паказ; прад'яўленне: ~ **terminalis** вызначэнне межаў; 2) [**вказанье** *стб.*] доказ; выказ: ~ **nobilitatis** вывад шляхецтва; 3) з'яўленне; 4) імкненне паказаць сябе; 5) выстава; 6) агляд, прагляд; парад; 7) агляд месца здарэння; 8) напамін пра штосьці; 9) указанне; тлумачэнне; 10) з'яўленне; 11) бачанне.

**ostiarius**, i *m* (ostium) 1) адзвернік, брамнік; вартаўнік (*тс.* і ў саляварні каля варотаў шахты); 2) астыярый — клерык пасля першага ніжэйшага пасвячэння.

**Othilia V.** 13 снежня.

**Otho Ep. Lamb.** 2 ліпеня.

**otokowi** [**обточный, осочный** *стб.*] абточны, асочны (сабака).

**otrio** 1. 1) перадаваць правa; 2) перадаваць уласнасць.

**ovagium**, ii *n* падатак яйкамі.

**ovatio**, onis *f* (ovo) атрыманне платы за асвячэнне велікодных яек.

**ovis**, is *f* 1) [**овца** *стб.*] авечка: ~ **divisoria** г. зв. авечка дзельная, якая даецца на знак пацвярджэння падзелу сялянскай маёмасці; **oves Christi** авечкі Хрыстовыя — вернікі (Каталіцкага касцёла); 2) баран (*тс.* і як абраза); 3) падатак у выглядзе авечкі.

**ovo** 1. атрымліваць плату за асвячэнне велікодных яек.

## P

**p. c.** — **patres conscripti** *гл.* **pater**.

**pabulaticum**, i *n* 1) права пашы; 2) падатак за права пасвіць быдла на пашах пана.

**pabulator**, oris *m* (pabulor) фуражыр.

**pacatio**, onis *f* (paco) 1) заспакаенне, замірэнне; мірная дамова; 2) дамова; 3) аплата.

**pacator**, oris *m* (paco) 1) той, хто наладжвае мір, міратворац; той, хто супакойвае боль; суцяшальнік; 2) той, хто ручаецца за чужы доўг, паручальнік.

**pacatus**, a, um *part.* (paco) супакоены, уціхаміраны; утаймаваны.

**paciarius**, ii *m* палюбоўны суддзя.

**pacificatio**, onis *f* (pacifico) [**pacifikacya** *пл.*] 1) супакаенне, уціхаміранне; утаймаванне; 2) заспакаенне — акт вышэйшай улады, якім заспакойваецца ўсхваляваны народ; 3) замірэнне, пацыфікацыя; 4) заключэнне міру, прымірэнне; 5) забеспячэнне; 6) заключэнне дамовы, 7) забеспячэнне ад прэтэнзіі трэціх асоб.

**pacifice** *adv.* (pacificus) [**впокои** *стб.*] у супакоі, спакойна; мірна.

**pacifico** 1. 1) захоўваць мір; 2) пагаджаць; 3) супакойваць; 4) утаймоўваць; 5) забяспечваць ад прэтэнзіі трэціх асоб; 6) плаціць камусьці; 7) пацвярджаць атрыманне грошай; 8) устрымлівацца ад абвінавачванняў.

**pacificus**, a, um 1) які жыве ў міры; прымірэнчы; 2) спакойны: **possessio pacifica** некранутае валоданне; 3) мірны; 4) бяспечны, надзейны; 5) вольны ад дамаганняў: **aliquem pacificum facere** забяспечваць ад дамаганняў; 6) добраахвотны, нязмушаны.

**pacifragus**, i *m* той,які парушае мір; падбухторшчык.

**paco** 1. (pax) 1) дазваляць; 2) плаціць: ~ **aliquid** плаціць, выплачваць штосьці; ~ **aliquem** выплачваць камусьці; адплачваць; 3) пацвярджаць атрыманне грошай.

**pacta**, ae *f* (paciscor) 1) нарачоная; 2) чынш; падатак.

**pacto** 1. 1) дамаўляцца, укладаць дамову: ~ **aliquid** дамаўляцца пра што; узгадняць; ~ **aliquem** вызначаць выкуп за палоннага; 2) пацвярджаць атрыманне грошай.

**pactualis**, is *m* 1) плацельшчык падатку; 2) наёмны жаўнер.

**pactuatio**, onis *f* дамова.

**pactum**, i *n* (paciscor) 1) дамова, пагадненне: **pacta conventa** узаемныя дамовы, г. зн. дамовы пры ўступленні каралёў Рэчы Паспалітай на пасад паміж усімі грамадскімі станамі дзяржавы і каралём. Vol. Leg., a. 1699, VI, f. 16—19; 2) аплата, падатак з зямлі; 3) чынш за памяшканне, кватэрная плата.

**pactus**, us *m* 1) дамова; 2) чынш; 3) даніна; падатак; 4) адсоткі.

**paedagogus**, i *m* 1) выхавальнік; 2) нявольнік, які апякуецца дзецьмі; 3) дарэктар; 4) наглядчык над пахолкамі / пажамі на імператарскім двары; 5) выхавальнік маладога князя; 6) педагог; 7) *перан.*: праваднік.

**paelex**, **icis** *f, m* 1) наложніца, сужыцелька; 2) хахаль, залётнік; 3) чужаложнік.

**paga**, ae *f* 1) плата, аплата; 2) падатак; чынш; 3) рашэнне.

**pagamentum**, i *n гл.* **paga**.

**paganensis**, is *m* селянін.

**pagellus**, i *m* меншая акруга.

**pagensis**, e 1) вясковы; 2) датычны **pagus**.

**pagensis**, is *m* 1) жыхар вёскі, вясковец, селянін; 2) жыхар касцёльнай акругі (дыяцэзіі, парафіі); 3) жыхар **pagus**; 4) падданы; 5) чалавек, які належыць да ваяводства ці акругі.

**pagesia**, ae *f* чынш, плачаны селянінам.

**pagina**, ae *f* (pago, pango) 1) старонка; картка / аркуш (паперы): ~ **accepti** старонка прыбыткаў; ~ **expensi** старонка выдаткаў; ~ **fracta** у дзве калонкі на старонцы; ~ **latinorum** лацінскі абрад; ~ **Sacra** Святое Пісьмо; 2) таблічка для пісьма; 3) дакумент; 4) тэкст; 5) *перан.*: створка дзвярэй; 6) гандлёвы пляц; 7) акруга.

**pagus**, i *m* (pango) 1) вёска; 2) вясковае насельніцтва; 3) зямельнае валоданне; 4) акруга: ~ **villae** пэўны абшар палёў і сенажацяў, якія належаць гораду ці сялу; **principes pagorum** правадыры акруг; 5) гміна; 6) парафія; 7) акруга якой-небудзь краіны, якая змяшчала ў сабе шматлікія вёскі і сёлы.

**pala**, ae *f* вэлюм для накрывання келіха ці чары.

**palaestra**, ae *f* 1) у старажытных — месца для гімнастыкі; 2) месца сходу праўнікаў / юрыстаў, а часам азначае тое ж, што і канцылярыя.

**palancatum**, i *n* палісад.

**palantia**, ae *f* *гл.* **palatinatus**.

**palatia**, ae *f* 1) палац: ~ **regia** адмысловы палац у правінцыі для рэзідэнцыі караля, у якой ён правіў суд; 2) гаспадарчы будынак.

**palatinalis**, e [**воеводиный** *стб.*] ваяводскі.

**palatinatus**, us *m* 1) [**воеводство** *стб.*] ваяводства — рэгіён, якім кіруе ваявода; каштэлянія; 2) пасада ваяводы.

**palatinensis**, is *m* сын ваяводы, ваяводзіч.

**palatinissa**, ae *f* ваяводзіна / жонка ваяводы.

**palatinus**, i *m* (palatium) 1) палятын — імператарскі службовец, а таксама кожны іншы чалавек, які выконвае цывільныя альбо вайсковыя абавязкі ў імператарскім палацы; 2) [**воевода** *стб.*], [**wojewoda** *пл.*] ваявода — у старажытнасці правадыр войска, у пазнейшы час — грамадзянскі саноўнік, старэйшы за каштэляна, які належаў да ліку сенатараў; начальнік акругі ці правінцыі, што называлася ваяводствам; галоўны правадыр шляхты падчас паспалітага рушэння. Пасада гэта адпавядала княжацкай; 3) каштэлян; падскарбнік; гетман; 4) *pl.*: прыдворныя пасады; 5) папскі ўраднік.

**palea**, ae *f* [**mierzwa** *пл.*] тоўчаная салома — від падатку ў бытнасці ці падчас праезду караля (для яго коней).

**palifico** 1. абвяшчаць.

**palladium**, i *n* 1) святыня, якая абараняе ад напасцей, ахоўвае ад зла; 2) зарука бяспекі.

**pallantia**, ae *f* *гл.* **palatinatus**.

**pallium**, ii *n* (palla) 1) плашч: ~ **in iudicio deponere** пакінуць ці пакласці ў судзе плашч, г. зн. цалкам прайграць у судзе справу; у выпадку нявыплаты прызначанага судом штрафу каморнік — **camerarius** здымаў з вінаватага адзенне. І таму, тым, хто ставаў на суд звычайна раілі апранацца як мага прасцей і бядней (Helcel. Zapiski sądowe z roku 1380, s. 127, 130 i 238); 2) заслона; прыкрыццё: ~ **praetextuosum** зманлівы плашч, зманлівае прыкрыццё, падстава, выгляд, прэтэкст; 3) манаскі габіт / манаская шата, манаская вопратка.

**pallus**, a, um [**карый** *стб.*] кары (масць каня).
**palma**, ae *f* 1) пальма, пальмавае дрэва; пальмавая галінка: ~ **victoriae** пальма (як знак) перамогі; ~ **martyrii** пальма мучаніцтва; 2) *перан.*: узнагарода: ~ **lemniscata** самая высокая ўзнагарода; 3) перамога; 4) галінка як знак завяршэння юрыдычнага дзеяння; 5) фінік.
**palmarius**, ii *m* 1) пальмавае дрэва; 2) пальмавы гай; 3) пілігрым, які наведвае Ерузалем.
**Palmarum (dominica)** Пальмовая нядзеля.
**palmata**, ae *f* 1) тога трыумфатара альбо туніка, упрыгожаная пальмамі на знак перамогі; 2) ударэнне па руках як спосаб зацвярджэння дамовы.
**palmitatio**, onis *f* падаванне рукі на знак згоды.
**palmus**, i *m* (palma) пядзя, корх.
**pambo**, onis *f* маці мужа, свякроўка.
**panagium**, ii *n* феадальная павіннасць дастаўкі хлеба.
**pancharta**, ae *f* 1) дакумент, які пацвярджае права ўласнасці; 2) пацвярджальны прывілей караля ці папы, якім яны пацвярджалі валоданне маёнткам кляштара ці касцёла, калі першапачатковы прывілей быў страчаны.
**Pancratius, Nereus et Archilleus** 12 траўня.
**pando** 1. (pandus) закладаць, аддаваць у заклад.
**pando**, pandi, pansum, ere 1) расцягваць; распасціраць, пашыраць: **manibus passis** з распасцёртымі рукамі; 2) адчыняць, адкрываць; рабіць даступным, *pass.*: стаяць адкрытым; 3) *перан.*: тлумачыць; 4) аб'яўляць; выяўляць; 5) браць альбо аддаваць у заклад.
**pandox**, ocis *m* 1) п'яніца; 2) карчмар.
**pandoxator**, oris *m* карчмар.
**pandoxo** 1. трымаць карчму.
**panetarius**, ii *m* хлебнік, хлебапёк.
**paneteria**, ae *f* 1) пякарня; 2) пекарка.
**paneterius**, ii *m* пекар.
**pango**, panxi, panctum, ere 1) ўбіваць (колік, цвік), умацоўваць; 2) замацаваць у памяці; 3) **pangere bona sua** аддаваць у заклад сваю маёмасць.
**panifex**, ficis *m* (panis) хлебнік, хлебапёк.
**panis**, is *m* [**хлеб** *стб.*] хлеб: ~ **profusus** хлеб, прыгатаваны з лепшай мукі.
**pannicida**, ae *f* 1) суконшчык; ткач; 2) прадавец сукна: **ulna pannicidarum** суконны локаць; 3) суконная крама.
**Panteleon M.** 28 ліпеня.
**panther**, eris *m* [**рысь** *стб.*] рысь.
**Paphnutius** 24 сакавіка.
**papo** 1. атрымліваць сан папы.
**papyrus**, i *m s.* **papyrum**, i *n* 1) папірус (расліна); 2) лыка папіруса; 3) папера; 4) лясны чарот; 5) кнот у лямпе альбо ў свечцы.
**par**, paris [**однаковый** *стб.*] аднолькавы.

**par**, paris *m, f* 1) сужэнец / муж ці жонка; 2) саюзнік, хаўруснік; спадарожнік; 3) роўня: **pares** людзі аднаго стану ці адной годнасці.

**parabola**, ae *f* 1) пераноснае значэнне; метафара; параўнанне; 2) прыпавесць; паданне; 3) прыказка; 4) вестка, інфармацыя; 5) судовы пазоў, накіраваны зноў да людзей, зацікаўленых у дадзенай справе; 6) дазвол.

**parasanga**, ae *m* г. зв. шнур — мера даўжыні, якая змяшчае ў сабе 10 г. зв. прутоў.

**Parasceve (dies)** Вялікая Пятніца.

**parasitus**, i *m* 1) паразіт; дармаед; 2) бяседнік; 3) *pl.* чэлядзь, якая суправаджае пана ў вайсковых выправах; 4) паразітычная расліна.

**paratus**, a, um (paro) [**готовый** *стб.*] гатовы.

**paraveredarius**, ii *m* падданы, абавязаны да конных кур'ерскіх альбо транспартных паслуг.

**parens**, entis *m, f* 1) найбліжэйшы родзіч; 2) [**отец** *стб.*] бацька; 3) бацька ці маці; *pl.* [**родичи** *стб.*] бацькі.

**parens**, entis *adi.* роднасны; падобны.

**parentatio**, onis *f* (parento) пахаванне.

**parentella**, ae *f* [**parentela** *пл.*] роднасць; племя; род; родзічы; сям'я, фамілія; пакаленне.

**pareo**, ui, itum, ere 1) [**стати** *стб.*] ставаць (перад), з'яўляцца; 2) [**выехати** *стб.*] выязджаць, з'язджаць; пакідаць.

**paria**, ae *f* даніна; падатак.

**pariatura**, ae *f* плата.

**parientia**, ae *f* падпарадкаванне, паслушэнства.

**paries**, etis *m* 1) сцяна; 2) [**dukt, ściana** *пл.*] сцяна — межавая лінія, якую падкаморыя пазначалі капцамі ці насыпамі з зямлі і іншымі межавымі знакамі.

**parlamento** 1. засядаць; раіцца пра штосьці.

**parlamentum**, i *n* 1) размова; 2) збор, сход; сойм: ~ **generale** *s.* **magnum** вальны сойм; 3) пакой для размоў; прыёмная, *гл.* **parlatorium**; 4) сход каралеўскай рады.

**parlatorium**, ii *n* месца ў кляштары, прызначанае для размоў.

**parochia**, ae *f* (ад гр. **paroikia**) парафія, прыход — пэўная колькасць вёсак, якія належаць да якога-небудзь касцёла ці царквы. **Parochia** падзялялася на пробаства і плябанію. Пробаства азначала больш важны прыход і больш за плябанію, так што плябаніі часта далучаліся да пробастваў (Vol. Leg. V, f. 483). Пробашчы часта мелі годнасць насіць мітры ці інфулы (род касцёльных галаўных убораў) і называліся інфулятамі, але плябаны не карысталіся такім гонарам.

**parochianus**, i *m* 1) парафіяльны ксёндз; прыходскі святар; 2) парафіянін; 3) член г. зв. асады — г. зн. прадстаўнік сялянскага насельніцтва, які жыве на тэрыторыі паселішча і бярэ ўдзел пры размежаванні зямельных уладанняў.

**parochus**, i *m* [**paroch** *пл.*] парох — агульная назва каталіцкіх парафіяльных святароў, *гл.* **parochia**. Яны падзяляліся на пробашчаў і плябанаў. У пазнейшых актах парохамі называлі толькі ўніяцкіх святароў, а каталіцкіх — пробашчамі ці плябанамі; іншая назва, якая была прысвоена ўніяцкім святарам — **praesbiter**.

**pars**, partis *f* 1) частка; 2) [**часть, дельница** | **дел** *стб.*] частка; дзель / дзельніца / надзел; доля; 3) [**сторона** *стб.*] працэсуальны бок: **~actorea;** ~ **conquerentium** [**жалобная** | **жалуючая сторона** *стб.*], [**strona powodowa** *пл.*] powaдавы / абвінавальны бок, повад / істец, бок, які запатрабаваў суда, які пазываў / выклікаў у суд другі бок, пазоўнік / істец. Яму супрацьстаўляецца ~ **citata**, г. зн. адна ці некалькі асоб, пазваных у суд, пазваны бок [**strona pozwana** *пл.*]; ~ **adversa** [**сутяжний** *стб.*] суцяжны бок, суцяжнік, які вядзе цяжбу; ~ **lucrans** бок, які выйграў працэс у судзе і які ў выніку атрымліваў адсуджаныя грошы ці маёмасць; ~ **probans** [**сторона** *стб.*] [**доводячая** *стб.*] даводзячы, абвінавальны бок.

**partagium**, ii *n* спадчынны ўдзел.

**partialis**, e (pars) 1) частковы; няпоўны; 2) датычны часткі, не ўсеагульны: **partiales termini** звычайнае пасяджэнне земскіх судоў; 3) асобны; 4) небесстаронні, зацікаўлены.

**partialitas**, atis *f* 1) асаблівыя рысы; 2) спрэчка; усобіца; 3) прыхільнасць.

**particeps**, cipis *m* 1) супольнік, удзельнік; таварыш; 2) суспадчыннік уладання.

**participatio**, onis *f* (participo) 1) удзел: **participatione** праз удзел; 2) супольнасць; хаўрус, звяз, саюз; 3) сувязь; сумеснасць; 4) права карыстання.

**particularis**, e (particula) 1) частковы; асобны; асаблівы; падрабязны: **conventio** ~ соймік; **ius particulare** партыкулярнае права; **lex** ~ асаблівае права; **particulares termini** звычайнае пасяджэнне земскага суда; **studium particulare** вышэйшая школа, якая не з'яўляецца ўніверсітэтам; 2) адзінкавы; індывідуальны: **in particulari** у прыватнасці; у дачыненні да асобы; **particulare certamen** сутычка; нязначная схватка невялікіх аддзелаў; 3) незвычайны; выключны.

**particularius**, a, um прыватны; індывідуальны: **particularium proelium** сутычка маленькіх аддзелаў альбо асобных ваяроў; **particularii termini** звычайнае пасяджэнне земскага суда.

**partionarius**, ii *m* саўладальнік.

**partitor**, oris *m* 1) той, хто падзяляе; 2) арбітр пры падзеле маёмасці.

**parvus**, a, um 1) малы; дробны; нязначны; нізкі: **parva componere magnis** параўноўваць вялікае з малым; **parvae sergentariae** лены, уладальнікі якіх мелі абавязак дастаўкі штылетаў, стрэл і г. д.; **parvo emere** танна купляць; **parvi aestimare** нізка цаніць; **parvum iudicium** г. зв. малыя рокі / тэрміны, г. зн. звычайнае пасяджэнне суда; ~ **locus** ніжэйшы клас у школе; ~ **status** ніжэйшае святарскае пасвячэнне; 2) малады; малалетні; 3) слабы; 4) сярэдні; 5) кепскі, благі; 6) пакорлівы; падатлівы; 7) сціплы; 8) *гл.* *тс.* **minor**, **minimus**.

**pasc(u)agium**, ii *n* плата за пашы.
**pascale**, is *n гл.* **pascuarium**.
**pascarium**, ii *n* права пасвіць свіней у лесе пана.
**Pascha clausum (dominica)** 2-я нядзеля па Вялікадні.
**Pascha competentium (dominica)** Пальмовая нядзеля.
**Pascha de madio** свята Спаслання Духа Святога.
**Pascha floridum (dominica)** Пальмовая нядзеля.
**Pascha medium** серада па Вялікадні.
**Pascha novum (feria)** Вялікая субота.
**Pascha petitum (dominica)** Пальмовая нядзеля.
**Pascha primum** самы ранні Вялікдзень, 22 сакавіка.
**Pascha rosarum** Вялікдзень ружаў, свята Спаслання Духа Святога.
**Pascha ultimum** самы позні Вялікдзень, 25 красавіка.
**paschagium** *гл.* **pasc(u)agium**.
**Paschalis (dominica)** нядзеля Пасхі.
**pascua**, orum *n* 1) паша; 2) выпас: ~ **libera** права выпасу.
**pascuarium**, ii *n* 1) паша; 2) права выпасу; 3) феадальная павіннасць выпасу быдла.
**pascuarius**, a, um пашавы, датычны пашы: **libera pascuaria** права выпасу.
**pascuaticum** *гл.* **pascarium**.
**pascuatio**, onis *f* права выпасу.
**pascuum**, i *n* 1) паша: **pascui seruitus** павіннасць выпасу быдла; ~ **liberum** права карыстання пашай; ~ **laudiferum** лес, у якім пасвілі свіней на жалудах; 2) корм.
**pasquillus**, i *m* пасквіль.
**passagium**, ii *n* 1) пераход; пасаж; 2) паломніцтва; 3) крыжовы паход; 4) перавозка; пераправа; правоз; 5) падатак ці плата за праход; 6) г. зв. перавознае — аплата за перавоз праз раку.
**passago**, inis *f* разліковая адзінка сплаўнога дрэва.
**passamentarius**, ii *m* пазументнік.
**passaticus**, i *m* 1) маставая аплата; 2) права транзіту; 3) дом для начлегаў, карчма, заезд; 4) заморская выправа / экспедыцыя; 5) аплата за адкупленне ад вайсковага абавязку ўдзелу ў заморскай выправе.
**Passionis (dominica)** нядзеля Мукі Пана, 5-я нядзеля Вялікага Посту.
**passiva**, orum *n* сукупнасць сум, якія хтосьці вінен.
**passuagium** *гл.* **pasti(o)naticum**.
**pasti(o)naticum**, i *n* 1) падатак за права збірання жалудоў і выпасу свіней у лесе пана; 2) час выгану свіней у лес для кармлення іх жалудамі.
**pastino** 1. (pastinum) пасвіць.
**pastio**, onis *f* (pasco) 1) паша; выпас быдла; луг; 2) права на выпас; 3) падатак за права збірання жалудоў і выпасу свіней у лесе пана; 4) час выгану свіней у лес для кармлення іх жалудамі.

**Pastor bonus (dominica)** добры пастыр, 2-я нядзеля па Вялікадні.
**pastoria**, ae *f* парафія, прыход; касцёл з усімі яго прыбыткамі.
**pastura**, ae *f* (pasco) 1) выпас быдла; 2) *перан.*: душпастырства; 3) паша; 4) права выпасу.
**pasturatio**, onis *f* паша; луг.
**pasturo** 1. пасвіць.
**pastus**, us *m* (pasco) 1) баляванне; 2) харчовыя прыпасы; 3) права распараджацца і гасцяваць у доме васала.
**patella**,ae *f demin.* [**petelnia** *пл.*] патэльня.
**patens**, entis *padi.* 1) даступны; адкрыты; вольны; 2) яўны, адкрыты: **litterae patentes:** a) адкрыты ліст, дакумент не змацаваны пячаццю, b) пацвярджэнне дадзеных касцёльных паўнамоцтваў; 3) разлеглы, шырокі; 4) выразны: **patenti luce** ясна, выразна.
**pater**, tris *m* ( [**отец** *стб.*] бацька: **patris** [**отцовский | отцовый** *стб.*] бацькаў; **patres conscripti** (*скар.* **p. c.**): a) рымскія сенатары, b) саборавыя айцы.
**paterna**, ae *f* 1) сястра бацькі; 2) жонка стрыя / дзядзькі (па бацьку).
**paternalis**, is *m* айчым.
**paternaliter** 1) па праву спадчыны пасля бацькі; 2) па-бацькоўску.
**paternicum**, i *n* бацькоўская спадчына.
**paternitas**, atis *f* (paternus) 1) бацькоўства: ~ **vestra** тытул абатаў; 2) адносіны бацькі да дзяцей; 3) вотчына — маёмасць, успадкаваная пасля бацькі.
**paternum**, i *n* спадчына пасля бацькі.
**paternus**, a, um (pater) [**отчизный** *стб.*] вотчынны.
**patibulum**, i *n* (pateo) 1) папярэчына крыжа; 2) крыж; 3) [**шибеница** *стб.*] шыбеніца; 4) зняволенне; 5) катаванні; 6) *перан.*: цярпенне.
**patiens**, entis *m* 1) пацыент; 2) пазваны / выкліканы ў суд бок: **pars iurisdictionem** ~ пазваны ў суд бок.
**patillum**, i *n гл.* **patella**.
**patior**, passus sum, pati [**терпети** *стб.*] цярпець; пакутаваць.
**patrator**, oris *m* (patro) 1) выканаўца, здзяйсняльнік; 2) [**винный** *стб.*] вінны / вінаваты: ~ **iniuriae** [**винный | виноватый** *стб.*] вінны / вінаваты, абвінавачаны; даўжнік.
**patricius**, i *m* 1) асоба шляхетнага паходжання, патрыцый; 2) войт.
**patrimonialis**, e (patrimonium) 1) [**patrymonialny** *пл.*] які дастаўся ад бацькі (пра маёнткі); 2) сужэнскі / шлюбны.
**patrimonium**, ii *n* (pater) 1) [**отчизна | отчина** *стб.*] дзедзічнае / спадчыннае ўладанне; спадчына па бацьку, вотчына: ~ **S. Petri** спадчына св. Пятра, касцёльная акруга ў Італіі; 2) маёмасць, уладанне; уласнасць.
**patrocinium**, ii *n* 1) абарона; апека; патранат: ~ ці **ius patronatus** права, паводле якога каралі і вотчыннікі абіралі сабе прыходскога святара на вакантны касцёльны прыход, размешчаны ў іх уладаннях; 2) заступніцтва.

**patronatus**, us *m* (patronus) заступніцтва; патранат: **ius** ~ права патранату, *гл.* **patrocinium**.
**patronisans**, ntis *m* судовы абаронца.
**patronus**, i *m* (pater) [**patron** *пл.*] 1) апякун; абаронца; адвакат. У Галоўным Літоўскім трыбунале адвакаты звычайна называліся патронамі; 2) касцёльны стараста; 3) фундатар касцёла.
**patruelia**, ium *n pl.* спадчына пасля стрыя / дзядзькі (па бацьку).
**patruelis**, is *m* (patruus) [**брат стрыечный** *стб.*] стрыечны брат.
**patruus**, i *m* (pater) 1) [**дядко, стрый** *стб.*] дзядзька, стрый / дзядзька (па бацьку), брат бацькі; 2) вуй / дзядзька (па маці), брат маці; 3) ~ **magnus** брат дзеда; 4) ~ **maior** брат прадзеда; 5) ~ **maximus** брат прапрадзеда; 6) суворы суддзя (звычаяў).
**paucus**, a, um малы, невялікі: **paucum** [**мало** *стб.*] мала.
**Paula** 17 чэрвеня.
**Paulinus Ep. Nolanus conf.** 22 чэрвеня.
**paulinus**, i *m* паўлін — законнік / манах закону / Ордэна св. Паўла: **paulini, ordo s. Pauli, primi Eremitae** паўліны — каталіцкі манаскі Ордэн св. Паўла, першага пустэльніка.
**Paulus Apostolus** 25 студзеня, 29 чэрвеня.
**pauper**, eris *adi.* [**вбогий** *стб.*] убогі, бедны.
**pauperies**, ei *f* (pauper) 1) [**шкода** *стб.*] шкода; страта; 2) нястача.
**paupero** 1. (pauper) рабіць бедным, збядняць.
**Pausatio B. V. Mariae** Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі.
**pavo**, onis *m* [**пава** *стб.*] пава / паўлін.
**pax**, pacis *f* 1) мір, спакой: ~ **ecclesiae** прывілеі, дадзеныя якому-небудзь касцёлу, парушэнне якіх з'яўляецца парушэннем яго спакою; 2) прымірэнне, замірэнне; пагадненне; 3) міласць; ласка; дапамога: ~ **regis** каралеўскае заступніцтва, каралеўская зычлівасць.
**paxo** 1. дазваляць.
**pecia**, ae *f* 1) кавалак, частка; 2) *pl.* колькасць дробнай манеты, якая змяшчаецца ў якой-небудзь адной буйной манеце.
**pecorarius**, ii *m* 1) пастух быдла; 2) *pl.* службовы княжацкі люд, які займаўся выпасам быдла.
**pectorale**, is *n* [**pektoral** *пл.*] пэктарал — нагрудны крыж, які носяць вышэйшыя асобы каталіцкага духавенства.
**pectoralis**, e (pectus) грудны, нагрудны: **crux** ~ нагрудны крыж, які носяць біскупы і абаты, пэктарал; ~ **imago** выява галавы і верхняй часткі тулава на пячаці.
**pectum**, i *n* абавязак.
**pecuarius**, i *m* (pecu) даглядчык жывёлы.

**peculare**, is *n* 1) прыватная ўласнасць нявольніка; 2) прыватная ўласнасць манаха альбо ксяндза; 3) прадмет уласнасці; 4) быдла; 5) добры / маёмасць, сродкі, прызначаныя на ўтрыманне манаскай абшчыны.

**peculatus**, us *m* (peculor) крадзеж скарбу, скарбакрадства.

**peculiaritas**, atis *f* уласнасць, права ўласнасці.

**peculium**, ii *n* скаціна (у зборным сэнсе).

**pecunia**, ae *f* [**пенези | пенязи** *стб.*] пенязі / грошы.

**pecunialia**, ium *n pl.* грашовае пакаранне.

**pecunialis**, e (pecunia) грашовы, які выплачваецца ў грашах: ~ **villa** вёска, якая плаціць падатак у грашах; ~ **emendatio** грашовая пакаранне за злачынства, учыненае першы раз.

**pecuniarius**, a, um (pecunia) *adi.* [**пенежный** *стб.*] грашовы.

**pecus**, udis *f* (pecu, pecus, oris) [**быдло | быдля, скот, животина** *стб.*] быдла, жывёла, скаціна, жывоціна / жывёліна: ~ **errabundum** [**блудяга** *стб.*] блудзяга / (пры)блудная жывёла.

**peda**, ae *f* 1) след ступні; 2) *гл.* **pedatura**.

**pedagium**, ii *n* дарожнае — мыта, спаганянае з пешых.

**pedaneus**, a, um другасны; дапаможны: **iudex** ~ сельскі ці вясковы суддзя.

**pedaticum** *гл.* **pedagium**.

**pedatura**, ae *f* (pedo, are) 1) прастора, вызначаная лікам крокаў; 2) невялікі маёнтак.

**pedetura** *гл.* **pedatura**.

**pedica**, ae *f* (pes) 1) кайданы, аковы; калодкі; 2) аркан; 3) сіло; 4) павуціна; 5) палец нагі: ~ **maior** вялікі палец нагі; 6) ступня як адзінка размеркавання прац пры фартыфікацыі; 7) *гл.* **pedatura**.

**pedo**, onis *m* жаўнер, які служыць у пяхоце, пехацінец.

**Pelagia V.** 19 кастрычніка.

**Pelagius M.** 28 жніўня.

**pellio**, onis *m гл.* **pellionarius**.

**pellionarius**, ii *m* (pellis) [**kusznierz** *пл.*] кушнер.

**pello**, pepuli, pulsum, ere [**отогнати** *стб.*] адганяць, праганяць.

**penale**, is *n* пенал.

**penaticus** *гл.* **penesticus**.

**pendeo**, pependi, —, ere *intens.* [**висети | висяти** *стб.*] вісець, (быць) павешаным.

**penesticus**, i *m* 1) перакупнік; крамар; 2) прадавец харчовых прадуктаў.

**penna**, ae *f* 1) пяро; 2) *pl.* крылы: **pennarum structor** той, хто робіць арлінья крылы для гусараў і ўпрыгожванні з пер'я; 3) пяро ў стралы; страла; 4) *перан.*: абарона; 5) пер'е; 6) пяро для пісьма; 7) пяро як аздоба шапкі: **pennarum concinnator** рамеснік, які ўпрыгожвае галаўны ўбор пёрамі; 8) падсвечнік.

**pensa**, ae *f гл.* **pensum**.

**pensator**, oris *m* (penso) 1) той, хто важыць, важнік; 2) наглядальнік за грамадскімі вагамі.

**pensatorium**, ii *n* будынак, у якім кантралявалі вагу тавараў.

**pensionarius**, ii *m* 1)ураднік, які адслужыў; пенсіянер; 2) той, які жыве за пенсію; 3) падданы альбо васал, абавязаны плаціць грашовы падатак.

**penso** 1. *intens.* 1) думаць; 2) распараджацца; размяшчаць; 3) дазваляць; 4) узважваць.

**pensum**, i *n* (pendo) 1) вага; 2) фунт; 3) гадавы падатак; 4) зададзены ўрок.

**penum**, i *n* 1) харч; 2) камора; 3) вінны склеп для захоўвання напояў, таксама месца продажу на разліў; 4) калідор, які вядзе да віннага склепа; 5) святыня.

**pepulatio**, onis *f* шкода, выкліканая недапушчэннем да выканання нейкай працы.

**per** праз, па, на: ~ **obitum** на выпадак смерці; ~ **plus offerentiam** з аўкцыёну (прадаваць што-небудзь ці аддаваць у дзяржанне / арэнду); ~ **turnum** у парадку надыходу / паступлення.

**perallaqueo** 1. зводзіць, ашукваць, уводзіць у аблуду.

**perarenga**, ae *f* павіннасць феадальнага права.

**peraro** 1. 1) пераворваць; заворваць: ~ **agrum** прысвойваць сабе чужую ўласнасць шляхам прыворвання; ~ **granicies** заворваць межы валодання; 2) раніць; 3) ~ **ceram** выпісваць па воску, пісаць на васковай таблічцы; 4) *перан.*: перапісваць.

**percepta**, ae *f* атрыманне; прыбытак; прыход, паступленне.

**perceptatio**, onis *f* атрыманне аплатаў.

**perceptor**, oris *m* (percipio) 1) атрымальнік; той, хто прымае; 2) атрымальнік чыншу; 3) збіральнік публічных прыбыткаў.

**percipio**, cepi, ceptum, ere [**percepować** *пл.*] 1) разумець; 2) атрымліваць прыбытак.

**percurribilis**, e 1) бягучы; 2) які знаходзіцца ў абарачэнні.

**percussio**, onis *f* (percutio) [**битье** | **бой** *стб.*] біццё, збіццё, збіванне.

**percussionalia**, ae *f* грашовае пакаранне за збіццё.

**percutio**, cussi, cussum, ere [**бити** | **побити** | **збити** | **сбити** *стб.*] біць, збіваць.

**perdearatio**, onis *f* парушэнне альбо знішчэнне мяжы заворваннем.

**perdesiderandus**, a, um чаканы; жаданы.

**perditia**, ae *f* згуба; знішчэнне.

**perditio**, onis *f* (perdo) [**страченье** *стб.*] страта; згуба; пазбаўленне.

**perditor**, oris *m* (perdo) 1) той, хто прыводзіць да згубы; 2) разбуральнік; 3) той, хто прайграў працэс.

**perditum**, i *n* 1) страта; 2) страчаная рэч; 3) пройгрыш працэсу.

**perdo**, didi, ditum, ere [**тратити** | **втратити** | **утратити** | **утрачати** *стб.*] траціць, страчваць; губляць; пазбаўляцца; растрачваць.

**perdoceo**, docui, doctum, ere 1) навучаць; 2) выразна паказваць; 3) ясна выкладаць; 4) даказваць.

**perdomito** 1. быць пры ўладзе; кіраваць.

**perdonatio**, onis *f* 1) уміласціўленне; 2) перадача; аддаванне; саступанне; 3) дарэнне.

**perdono** 1. 1) надаваць прывілей; 2) мілаваць; літаваць; вызваляць ад пакарання; 3) перадаваць права; 4) даруваць.

**perdoto** 1. запісваць жонцы нейкую суму як пасаг.

**perduco**, duxi, ductum, ere 1) [**привести | перевести** *стб.*] даводзіць, прыводзіць; вяртаць; 2) прыцягваць (да суда); 3) адсуджваць; 4) вырашаць.

**perductio**, onis *f* (perduco) давядзенне, прывядзенне; вяртанне: ~ **iuridica** атрыманне праз суд.

**perductus**, us *m* пераправа; перавоз.

**perduellis**, is *m* рэйтар.

**Peregrinus Ep.** 16 траўня.

**pereligo**, legi, lectum, ere выбіраць кагосьці, *асаб.* на пасаду.

**perella**, ae *f* пярліна.

**perempte** *adv.* канчаткова; неадменна.

**perempter** *adv.* канчаткова.

**peremptio**, onis *f* (perimo) 1) знішчэнне; 2) забойства: ~ **vitae** смяротная кара; 3) перапыненне; 4) спыненне (*напр.* працэсу).

**peremptivus**, a, um які выклікае знішчэнне, знішчальны, згубны.

**peremptor**, oris *m* (perimo) 1) забойца; 2) марнатравец.

**peremptorius**, a, um (peremptor) (**terminus**) [**завитый** *стб.*] завіты (рок) / вырашальны, вызначальны, канчатковы (тэрмін).

**peremptus**, us *m* забойства.

**peremtio**, onis *f* [**peremcya** *пл.*] страта справы ці працэсу з прычыны спынення пазову / выкліку ў суд на працягу трох гадоў.

**perendinatio**, onis *f* адкладванне чагосьці на паслязаўтра.

**perendino** 1. адкладаць на паслязаўтра.

**perennalis**, e вечны, які доўжыцца вечна.

**perennatio**, onis *f* даўгавечнасць; трываласць.

**perennio** 4. увекавечваць, удаўгавечваць; замацоўваць.

**perennitus** *adv.* назаўжды.

**perenno** 1. (perennis) 1) доўга трываць; 2) перажываць; 3) замацоўваць.

**pereo**, ii (ivi), itum, ire [**згинути** *стб.*] гінуць, прападаць.

**peresus**, a, um знішчаны.

**perexactiono** 1. абкладаць падаткам.

**perexcipio**, cepi, ceptum, ere 1) рабіць выключэнне; 2) вызваляць ад абавязацельства.

**perexcogito** 1. прадумваць.

**perexeo**, ivi, —, ire 1) мінаць; 2) праступаць; пераходзіць, перакрочваць; 3) высвятляць; тлумачыць; 4) ~ **de iudicio** выходзіць з суда перад вырашэннем справы.

**pereximius**, a, um цудоўны.
**perexpressus**, a, um неадкладны; вельмі хуткі.
**perfalcastro** 1. скошваць.
**perfecte** *adv.* (perfectus) 1) цалкам, поўнасцю; 2) выдатна; 3) адпаведным праву чынам.
**perfectifico** 1. удасканальваць.
**perfica**, ae *f* (perficio) тая, якая выконвае.
**perficienter** *adv.* сапраўды.
**perficio**, feci, fectum, ere [**довести | доводити** *стб.*] выконваць.
**perfiditorie** *adv.* вераломна.
**perfidium**, ii *n* 1) падступства; здрада; вераломства; 2) фальш; 3) вераадступніцтва, апастазія.
**perfindo**, ere 3. расколваць; разразаць.
**perfluctuo** 1. 1) праплываць; 2) быць неспакойным.
**perfluxus**, a, um 1) непамерны; 2) мінулы.
**perfruitio**, onis *f* (perfruor) ужыванне, карыстанне.
**perfuga**, ae *m* (perfugio) 1) уцякач; 2) той, хто шукае аховы, абароны; 3) адшчапенец; 4) здраднік.
**perfuror** 1. 1) выкрадаць; 2) абкрадваць.
**pergama**, orum *n pl.* замак; крэпасць.
**pergamenea**, ae *f* (*sc.* **littera**) пергамінавы дакумент.
**pergamenicus**, a, um *гл.* **pergamineus**.
**pergamenifex**, icis *m* вытворца пергаміну.
**pergamenista**, ae *f гл.* **pergamenifex**.
**pergamentum**, i *n гл.* **pergamenum**.
**pergamenum**, i *n* пергамін.
**pergamenus**, a, um *гл.* **pergamineus**.
**pergameus**, a, um *гл.* **pergamineus**.
**pergamineus**, a, um пергамінавы.
**pergustatio**, onis *f* выпрабаванне; спроба; досвед.
**pergusto** 1. каштаваць; спрабаваць.
**pergyro** 1. 1) атачаць, акружаць; 2) наведваць; 3) *перан.*: **anulo pergyrari** надзяваць абручальны пярсцёнак.
**perhibitio**, onis *f* прапанова чагосьці.
**perhonesto** 1. упрыгожваць; надаваць бляску.
**perhorrescentia**, ae *f* 1) асцярога; страх; 2) пагроза; 3) нежаданне; нехаць; агіда.
**perhumiliter** *adv.* пакорліва; прыніжана.
**periculositas**, atis *f* небяспека; пагроза.
**periculum**, i *n* (perior) небяспека: ~ **in mora** небяспека ў прамаруджанні, адтэрміноўка небяспечная.
**perifactor**, oris *m* гарбар.
**perifex**, icis *m* 1) разьбяр; 2) гарбар.

**perimmanis**, e 1) вельмі вялікі, вялізны, велізарны; 2) вельмі жорсткі.

**perimpendo**, pendi, pensum, ere 1) шкодзіць; 2) парушаць нечае права.

**perimprobo** 1. добра правяраць.

**perinfra**, ae *f* усярэдзіне.

**perinstanter** *adv.* настойліва.

**perintendo**, tendi, tentum, ere вельмі старацца аб чымсьці.

**periola**, ae *f* знак прыпынку; кропка.

**perissologia**, ae *f* балбатлівасць.

**peritia**, ae *f* (peritus) 1) веданне, досвед, дасведчанасць; уменне; здольнасць; 2) спрыт; 3) інфармацыя.

**perities**, ei *f* досвед; уменне.

**periudiciales litterae** г. зв. ліст прысудны — г. зн. пісьмовы судовы вырак / прысуд.

**periuro** 1. 1) даваць ілжывую клятву; 2) зацвярджаць прысягай; клясціся.

**perla**, ae *f* пярліна.

**perlavo** 1. 1) абмываць; 2) змываць крывёй.

**perlector**, oris *m* чытач.

**perleus**, a, um упрыгожаны пярлінамі.

**perlocutor**, oris *m* юрыдычны намеснік.

**perloquor**, locutus (loquutus) sum, loqui 1) сказаць; 2) заяўляць юрыдычныя прэтэнзіі.

**perlucra**, orum *n. pl.* [**przezyski** *пл.*] прэзыскі — усё тое, што прысуджана судом вінаватаму з прычыны невыканання ім судовага вызначэння. «**Dum aliquis tactus recedet a iure, debet condemnari in perlucro, pro quo tactus est, sed si pro poena tactus fuerit et recedet non satisfaciendo pro poena, extunc aliam poenam succumbet, videlicet marcas tres iudicio et parti, pro qua statim debet condemnari in perlucro**». «Калі хто-небудзь, быўшы пазваны ў суд, адступіць ад суда, павінен быць асуджаны на прэзыск, з нагоды якога ён пазваны; але калі ён пазваны з нагоды штрафу і адступіць ад суда, не выплаціўшы яго, то на яго накладаецца іншы штраф, гэта значыць ён павінен будзе выплаціць тры грыўні суду і боку, адносна якога тут жа павінен быць прысуджаны да прэзыску» (Vol. Leg. I, f. 328). У Статуце Літоўскім пад словам прэзыск разумелася ўсё, што набыта адной асобай ад іншай судовым парадкам. «Хто бы маючи именье заставное, альбо с права в презыску поданое, в суседстве кому кгвалт, албо шкоду учинил» (Стат. Літ., разд. IV, арт. 50). «Кто бы на ком что правом презыскал, то есть именье, люди альбо земли и який же кольвек кгрунт лежачий» і інш.

**perlucratio**, onis *f* 1) перамога справы ў судзе; 2) прысуджаны аднаму з бакоў прадмет судовай спрэчкі.

**perlucrator**, oris *m* юрыдычны намеснік.

**perlucror** 1. 1) выйграваць справу ў судзе; 2) атрымліваць нешта на падставе судовага выраку.

**perlucrum**, i *n* перамога справы ў судзе.
**perludo**, lusi, lusum, ere прайграваць у нейкую гульню.
**perluo**, lui, lutum, ere 1) абмываць; купаць; 2) ~ **pecuniam** плаціць, аплачваць.
**perlusio**, onis *f* падман; подступ.
**perlustratio**, onis *f* 1) агляд; інспекцыя; 2) асвятленне.
**permalus**, a, um (вельмі) кепскі, дрэнны; убогі, бедны.
**permansuetus**, a, um вельмі лагодны; рахманы, прыручаны.
**permedium**, ii *n* палова.
**permereor**, itus sum, eri дасягаць; здабываць.
**permiror** 1. вельмі здзіўляцца.
**permisere** вельмі бедна, жаласліва.
**permissibilis**, e дазволены.
**permissivitas**, atis *f* памяркоўнасць.
**permissus**, a, um 1) распусны; 2) адпушчаны, доўгі (аб барадзе).
**permitto**, misi, missum, ere 1) [**допускати | допустити | допущати, припустити** *стб.*] дапускаць, дазваляць, даваць доступ, саступаць: ~ **ut domi remaneat** [**осадити | осаживати** *стб.*] пакідаць (дома); 2) [**казати** *стб.*] наказваць, загадваць.
**permixte**, *adv.* (permixtus 1) у замяшанні, бязладна; 2) без розніцы; 3) разам.
**permixtim** *adv.* (permixtus) 1) бязладна; 2) разам.
**permollio** 4. 1) змякчаць; 2) хваляваць; 3) угаворваць.
**permonitio**, onis *f* заўвага.
**permoror** 1. 1) спыняцца; знаходзіцца; прабываць; 2) доўжыцца.
**permultiplico** 1. памнажаць.
**permutative** *adv.* як замена.
**permutator**, oris *m* той, хто змяняе, замянае.
**perna**, ae *f* 1) кумпяк; 2) [**szynka** *пл.*] шынка: ~ **lardi** [**połeć** *пл.*] кавалак сала з паловы вепрука ці свінні.
**pernicia**, ae *f* страта; шкода.
**pernicio**, onis *f* 1) згуба; 2) знішчэнне; 3) ерась.
**perniciositas**, atis *f* 1) зло; 2) зараза.
**pernoceo**, cui, citum, ere 1) шкодзіць; 2) чыніць несправядлівасць.
**pernotorie** *adv.* яўна; выразна.
**pernuntiarius**, ii *m* упаўнаважаны, пасланы для выканання нейкай справы.
**pernuntiatio**, onis *f* 1) заява; 2) сцвярджэнне.
**pernuntio** 1. абвяшчаць; заяўляць.
**peroptanter** *adv.* *перан.* горача.
**perorata**, orum *n pl.* выказванне; выступ.
**perorator**, oris *m* прамоўца.
**perpago** 1. выплачваць.
**perparco**, pepercі, —, ere даравць, прабачаць.
**perpedio** 4. (pes) перашкаджаць у чымсьці, *гл. тс.* **impedio**.

**perpendo**, pendi, pensum, ere 1) дакладна важыць; 2) [**досмотрети** *стб.*] несці (вайсковую варту, дазор).

**perpenetro** 1. прайграваць працэс.

**perpeto**, ivi (ii), itum, ere 1) патрабаваць; 2) заяўляць юрыдычныя прэтэнзіі.

**perpetratus**, us *m* 1) выкананне; дасягненне; 2) правіна.

**perpetro** 1. 1) здзяйсняць, выконваць; заканчваць; 2) чыніць (*напр.* злачынства); 3) прычыняць; 4) выконваць юрыдычныя фармальнасці; 5) ~ **poenam** быць асуджаным на выплату грашовай сумы (апрача галоўнага доўгу).

**Perpetua et Felicitas MM.** 7 сакавіка.

**perpetualis**, e (perpetuus) 1) усеагульны; агульны; 2) бесперапынны; 3) вечны; 4) спадчынны.

**perpetuo** *adv.* [**вечне** | **вечно** *стб.*] вечна.

**perpetuo** 1. (perpetuus) 1) рабіць нешта сталым, трывалым, увекавечваць; 2) бесперапынна доўжыцца; 3) бесперапынна нешта рабіць; надаваць бесперапыннасць; 4) надаваць юрыдычную сілу.

**perpetuus**, a, um (peto) [**вечный** *стб.*] вечны: **in perpetuum** [**на вечность** *стб.*] навекі, навечна, на вечнасць; назаўжды.

**perplecto**, plexi (plexui), plexum, ere 1) сплятаць; 2) атачаць; ахопліваць.

**perplexus**, us *m* 1) заблытанасць; 2) бязладдзе; змяшанне.

**perpluries** *adv.* шматкроць / шматразова.

**perpondero** 1. узважваць; ацэньваць.

**perproperus**, a, um вельмі хуткі.

**perquiro**, sivi, situm, ere [**доведати ся** | **доведывати ся** *стб.*] даведвацца.

**perrespondeo**, spondi, sponsum, ere адказваць.

**perrimo** 1. спасцігаць; даследаваць.

**perrobustus**, a, um вельмі моцны.

**perrogativa**, ae *f* 1) першынство; 2) перавага.

**persagitto** 1. прабіваць стралой; прастрэльваць.

**persalto** 1. пераскокваць.

**persalubriter** *adv.* з карысцю.

**perscio** 4. спазнаваць; даведвацца.

**perscoto** 1. плаціць падатак.

**perscriptamentum**, i *n* нататка; дакумент.

**persevandus**, i *m* герольд; вястун з трубой.

**persevere** *adv.* вельмі строга; сур'ёзна.

**persevero** 1. *intr.* 1) заставацца; трываць, доўжыцца; 2) [**мешкати** *стб.*] жыць, пражываць.

**persileo**, lui, —, ere замаўкаць.

**persincere** *adv.* вельмі шчыра.

**persino**, sivi (sii), situm, ere дазваляць.

**persisto**, stiti, —, ere 1) [**зостати, зостати ся** *стб.*] заставацца; 2) [**право достояти** *стб.*] даводзіць; чакаць канца судовай справы; адказваць у судзе да канца.

**persollemnis**, e *s.* **persolennis**, e вельмі ўрачысты.

**persolvo**, solvi, solutum, ere [**заплатити** *стб.*] выплачваць, плаціць.

**persona**, ae *f* 1) маска, лічына; 2) [**парсуна | персуна** *стб.*] персона / асоба: ~ **extranea** чужынец; **personae maioris consilii** [**wielkorządy** *пл.*] вышэйшыя ўрадавыя асобы ці суд, які складаецца з вышэйшых урадавых асоб. Vol. Leg. I, f. 142; ~ **plebea** прасталюдзін, просты; ~ **spiritualis** духоўная асоба, святар; **submissa** ~ a) падасланая асоба, b) асоба падпарадкаваная.

**personalitas**, atis *f* 1) асоба; 2) індывідуальнасць; 3) асабістая прысутнасць.

**personaliter** *adv.* (personalis) асабіста; [**очивисте | очивисто** *стб.*] на свае вочы, сам, асабіста.

**perspicuitas**, atis *f* (perspicuus) 1) празрыстасць; відавочнасць; зразумеласць; 2) знакамітасць, славутасць.

**perstudeo**, ui, —, ere горача прагнуць.

**persuasa**, orum *n pl.* перакананні; погляды.

**persuasivus**, a, um пераканаўчы.

**persuasus**, a, um (persuadeo) 1) упэўнены (аб людзях); 2) надзейны, несумнеўны (аб рэчах).

**persuspicio**, onis *f* 1) падозра; 2) здагадка; домысел.

**pertener**, a, um мілы, любы; прыемны.

**pertentatio**, onis *f* 1) даследаванне; 2) абдумванне, разважанне; 3) пранікненне; 4) спакуса.

**pertica**, ae *f* [**pertyka** *пл.*] землямерны прут — квадратная зямельная мера, 15 локцяў у даўжыню і гэтулькі ж у шырыню, *гл.* **virga mensoria**.

**perticarius**, i *m* (pertica) [**wytycznik** *пл.*] вытычнік: a) той, хто адмервае пэўную частку поля і пазначае яе каморніцкімі колікамі, b) той, хто аддзяляе дзесяціну для касцёла.

**pertinaciter** *adv.* (pertinax) 1) моцна; трывала; упарта; 2) [**предся** *стб.*] усё ж, аднак.

**pertinens, ntis** 1) сумежны; суседні; 2) прыналежны; 3) прызначаны для нейкай мэты; 4) адпаведны, дарэчны.

**pertinens**, ntis *m* 1) нявольнік; 2) залежны чалавек; падданы.

**pertinentia**, ae *f* 1) прыналежнасць; 2) адпаведнасць, дарэчнасць; 3) павіннасць; 4) дамаганні; 5) *pl.* прыбыткі.

**pertingo**, —, —, ere 1) расцягвацца; распасцірацца; сягаць; 2) датычыць; 3) даходзіць, дабірацца (да мэты); 4) дасягаць; здабываць.

**pertractatio**, onis *f* (pertracto) [**pertraktacya** *пл.*] 1) выкананне абавязкаў на ўрадавай пасадзе і сама пасада; 2) разбіральніцтва.

**pertracto** 1. [**pertraktować** *пл.*] разглядаць, разбіраць.

**pertractus**, us *m* (pertraho) 1) працяг; 2) г. зв. транспарт — перанос даных (*напр.* вынікаў падліку) на другую старонку.
**pertransmitto**, misi, missum, ere 1) пераходзіць; 2) пераскокваць; 3) пасылаць, дэлегаваць.
**pertrudo**, trusi, trusum, ere штурхаць, піхаць.
**perturbium**, ii *n* турбота; пакута.
**perustio**, onis *f* (peruro) выпальванне адбітка на твары.
**perutilitas**, atis *f* выгода; карысць.
**perutor**, usus sum, uti 1) злоўжываць; 2) карыстацца, ужываць.
**pervado**, vasi, vasum, ere пераходзіць; перапраўляцца.
**pervaleo**, valui, —, ere 1) доўжыцца далей; 2) перамагаць, адольваць, браць верх.
**pervehementissime** *adv.* найболей.
**pervendo**, didi, ditum, ere прадаваць.
**pervenio**, veni, ventum, ire 1) прыходзіць, даходзіць; 2) дасягаць; здабываць; 3) [**прийти (к именьем)** *стб.*] даходзіць, атрымліваць доступ (да маёнткаў).
**pervigilo** 1. 1) не спаць усю ноч; чуваць; 2) клапаціцца аб чымсьці.
**pes(s)ula**, ae *f* адзінка зямельнай плошчы, трэцяя частка морга ці дзесяць прутоў — **decem virgulta**.
**pes**, pedis *m* ( [**нога** *стб.*] ступня, нага.
**pesco**, ere 3. утаймоўваць.
**pestilenticus**, a, um заразлівы; заразны.
**pestilenticus**, i *m* чалавек, закрануты заразай, заражаны.
**pestis**, is *f* [**мор** *стб.*] мор, пошасць, паветра.
**petacitas**, atis *f* настойлівасць; надакучлівасць, назойлівасць.
**petenda**, orum *n pl.* патрабаванні.
**petitorium**, ii *n* скарга па справе аб праве ўласнасці, аб праве валодання.
**peto**, ivi (ii), itum, ere [**просити** *стб.*] прасіць; патрабаваць.
**Petri Cathedra Antiochiae** 22 лютага.
**Petri epularum (feria)** 22 лютага.
**Petri vincula** 1 жніўня.
**Petronilla** 31 траўня.
**Petrus et Paulus Ap.** 29 чэрвеня.
**phalanga**, ae *f гл.* **falanga**.
**phalanx**, gis *f* 1) рота; аддзяленне; 2) баявы парадак, шыхт; шэраг; 3) будаўнічы лес.
**phantasia**, ae *f* 1) утрапёнасць; дурасць; 2) прыхамаць; 3) уяўленне; 4) творчая фантазія.
**phantasiatio**, onis *f* уяўленне; фантазія.
**phantasivus**, a, um ілжывы; несапраўдны.
**phantasma**, atis *n* 1) ува, прывід; 2) уяўленне.
**phantasmaticus**, a, um (phantasma) несапраўдны; уяўны, *гл. тс.* **phantasticus**.

**phantasticus**, a, um 1) уяўны; несапраўдны; 2) дзіўны; 3) недарэчны.
**phantasticus**, i *m* шалёны, шаленец, вар'ят.
**phantlosunga**, ae *f* вызваленне ад закладу.
**Philimon et Domninus MM.** 21 сакавіка.
**Philippus et Iacobus Apost.** 1 траўня.
**philistinus**, i *m* цыган.
**physicus**, i *m* 1) фізік, натурфілосаф; 2) лекар.
**picarium**, ii *n* 1) посуд на напоі; кубак; 2) скарбонка, скарбніца.
**picotus**, i *m* мера вадкасцей.
**pictio**, onis *f* малюнак.
**pictoro** 1. 1) паказваць; 2) прадстаўляць.
**Pigmenius presb.** 24 сакавіка.
**pignerabiliter** *adv. гл.* **pigneratorie.**
**pigneraliter** *adv. гл.* **pigneratorie.**
**pignerantia**, ae *f* заклад.
**pigneraticus**, a, um заняты ў шкодзе (пра жывёлу).
**pigneratio**, onis *f* [**ciąża** *пл.*] адабранне якой-небудзь рэчы ці грабеж яе за доўг. Такія дзеянні без суддзі ці падсудка былі забаронены законам караля Казіме-ра Вялікага. Vol. Leg., a. 1347, I, f. 24.
**pigneratorie** *adv. s.* **pignoratorie** як заклад.
**pigneratura**, ae *f s.* **pignoratura**, ae *f* заклад.
**pignum**, i *n* паручальніцтва.
**pignus**, oris *n* [**застава** *стб.*] застава / заклад.
**pigrefio**, factus sum, fieri 1) марудзіць; 2) быць гультаяватым, ленавацца.
**pila**, ae *f* 1) слуп; калона; 2) жэрдка; 3) паля / кол, на які насаджвалі злачынцаў; 4) песцік для ступы; 5) ступа; 6) млын.
**pilaticus**, i *m* жалезная булава.
**pilearius** *гл.* **pileator**.
**pileator**, oris [**kapelusznik** *пл.*] шапачнік, капялюшнік — вырабляльнік капе-люшоў, пераважна ваўняных.
**piletum**, i *n* род ваўнянай тканіны.
**pincerna**, ae *m* [**czesznik** *пл.*] 1) чашнік, падчашы — земскі саноўнік, які падчас прыезду караля павінен быў клапаціцца пра віны і распараджацца імі; 2) шынкар.
**pincernatus**, us *m* пасада падчашага альбо чашніка.
**pincerno** 1. (pincerna) трымаць карчму.
**pincernor** 1. выконваць абавязкі падчашага.
**pincernus**, i *m* падчашы.
**pinta**, ae *f* 1) мера вадкасцей роўная палове кварты; 2) збанок.
**pinus**, us *mc.* i *f* [**сосна** *стб.*] сасна, хвоя.
**piperarius**, ii *m* гандляр прыправамі.
**piperata**, ae *f* пернік.

**Pirminus Ab. Hubertus et Theophilus** 3 лістапада.
**piscaria**, ae *f* 1) права лоўлі рыбы; 2) месца лоўлі.
**piscatio**, onis *f* (piscor) 1) рыбалоўства, лоўля рыбы; 2) права лоўлі рыбы; 3) месца лоўлі.
**piscator**, oris *m* (piscor) рыбак.
**piscatoria**, ae *f* 1) рыбалоўства; 2) права лоўлі; 3) абавязак дастаўкі рыбы.
**piscina**, ae *f* (piscis) [**сажовка** *стб.*] сажалка.
**piscis**, is *m* [**рыба** *стб.*] рыба.
**piscor** 1. (piscis) 1) лавіць рыбу: **piscandum** [**ловенье** *стб.*] лоўля; 2) [**волочити | зволочити озеро, сажовку, став** *стб.*] лавіць рыбу сеццю (у возеры, ставе, сажалцы).
**pistator**, oris *m* пекар.
**pistatorium**, ii *n гл.* **pistrina**.
**pisterna**, ae *f* 1) склеп; 2) пякарня.
**pisto** 1. *frequ.* 1) таўчы; мясіць; 2) гатаваць.
**pistor**, oris *m* (pinso) [**пекар** *стб.*], [**piekarz** *пл.*] хлебнік; пекар: ~ **siliginarius** булачнік; **pistorum receptio** [**piekarne** *пл.*] пякарнае — былая старажытная павіннасць сялян прымаць да сябе пекараў / хлебнікаў і піўвараў і прадаваць выпечаны імі хлеб і зваранае піва.
**pistoralis**, e пекарскі.
**pistoria**, ae *f* пякарня альбо хлебная крама.
**pistorinus**, a, um *гл.* **pistorius**, a, um.
**pistorium**, ii *n гл.* **pistoria**.
**pistorius**, a, um (pistor) пекарскі, датычны пекара.
**pistorius**, i *m гл.* **pistor**.
**pistrina**, ae *f* (pinso) 1) пякарня; 2) *pl.* жорны.
**pistrinalis**, e *гл.* **pistorius**, a, um.
**pistrinarius**, ii *m* (pistrinum) 1) млынар; 2) пекар.
**pistrinia**, ae *f гл.* **pistrina**.
**Pius I P.** 11 ліпеня.
**Pius V** 5 траўня.
**pixidarius**, ii *m* 1) збройнік; 2) пушкар, гарматнік.
**pixis, idis** *f* стрэльба: ~ **brevis** [**rusznica** *пл.*] рушніца — кароткая стрэльба, руля ў якой была шырэйшая, чым у звычайных. Насіць такога тыпу зброю даўней было забаронена законам; выключэнне рабілася толькі для ўсходніх зямель Рэчы Паспалітай, якім прадпісана было заўсёды быць гатовымі да адбівання непрыяцельскіх нападаў. Vol. Leg. I, f. 390; ~ **brevior** пісталет; ~ **uncata** гакаўніца.
**placens**, entis *n* [**godno** *пл.*] годнае — любы падатак каралю. У старажытнасці часам плацілі падаткі альбо прадуктамі, альбо грашыма, зважаючы на тое, як лепей было для караля, і такі падатак называўся **placens**.
**placibilitas**, atis *f* 1) лагоднасць; 2) паблажлівасць.

**Placidus** 5 кастрычніка.
**placitamentum**, i *n* згода.
**placitans**, ntis *m* бок у судзе.
**placito** 1. *frequ.* 1) падабацца; 2) весці перамовы; 3) весці працэс; 4) выдаваць прысуд.
**placitus**, a, um *padi.* 1) прыемны, мілы; які падабаецца; 2) зычлівы; 3) ласкавы: **tempus placitum** час ласкі; 4) дарэчны; 5) дамоўлены.
**planaratorium**, ii *n гл.* **planaratum**.
**planaratum**, i *n* [**plug** *пл.*] плуг.
**planca**, ae *f* 1) дошка; пліта; планка: ~ **salutis** дошка паратунку; 2) мера зямельнай плошчы.
**plantator**, oris *m* (planto) 1) той, хто саджае расліны; 2) прапаведнік; прапагандыст.
**planto** 1. (planta) раўняць з зямлёй, разбураць.
**plantum**, i *n* поле, дадзенае на пэўных умовах для вырошчвання вінаграднікаў.
**plantus, i** *m гл.* **plantum**.
**plasco** 1. біць па твары.
**plasma**, atis *n* 1) стварэнне; 2) *pl.* справы; учынкі.
**plata**, ae *f* 1) браня; 2) срэбра; 3) прадмет са срэбра; 4) манета; 5) лысіна; 6) тонзура.
**platea**,ae *f* 1) вуліца; 2) вялікая дарога; 3) пляц; 4) поле з жытлом ці домам; 5) дзядзінец; двор.
**plateaticum**, i *n* гандлёвая аплата.
**plaustrata**, ae *f гл.* **plaustratum**.
**plaustratum**, i *n* воз (як мера аб'ёму).
**plaustrum** (plostrum), i *n* воз з чатырма коламі.
**plebanus**, i *m* [**плебан** *стб.*] плябан / святар, прэзбітэр, *гл. тс.* **parochus**.
**plebeicus**, a, um плебейскі, нешляхецкага роду.
**plebeium**, i *n* вуліца.
**plebeius**, i *m* 1) плебей; 2) [**чоловек, хлоп, мужик** *стб.*], [**poddany, kmieć, chłop** *пл.*] нешляхціц, г. зн. мешчанін альбо селянін; просты (чалавек), прасталюдзін; мужык, кмет; ~ **civitatensis** мешчанін. Сяляне, гэтак жа як і мяшчане ў Польшчы і Літве-Беларусі былі пазбаўлены наступных правоў: a) іх нельга было прымаць у лік духавенства пры галоўных касцёлах (Vol. Leg. II, f. 926, 1605), b) яны не маглі трымаць шляхецкіх маёнткаў ні паводле спадчыннага права, ні нават у закладзе (Vol. Leg. I, f. 271), c) ім не дазвалялася таксама набываць ленных уладанняў і ўладанняў, вядомых наогул пад назвай каралеўшчынаў (Vol. Leg. VI, f. 629), d) нягледзячы на тое, што пры каралю Аляксандру сялянам дазволена было дасягаць звання прэлята і біскупа, навуковай ступені доктара багаслоўя і медыцыны, пазней было пастаноўлена, каб сялян, якія атрымалі духоўны сан, выганяць з айчыны разам з

бацькамі, а маёмасць іх канфіскоўваць (Vol. Leg. I, f. 302). Галаўшчына за прасталюдзіна складала 30 грыўняў (Vol. Leg. I, f. 1012). Пасля такса гэтая была падвышана да 100 грыўняў (Vol. Leg. III, f. 681). Нарэшце, яна была зраўняна з галаўшчынай, вызначанай Літоўскім Статутам. Vol. Leg. III, f. 962; 3) цывільная асоба; 4) свецкі чалавек.

**plebicinium** *гл.* **plebiscitum**.

**plebicium** *гл.* **plebiscitum**.

**plebiscitum**, i *n* 1) падаткі і іншыя грамадзянскія павіннасці, прызначаныя аднагалосна ўсімі грамадзянамі; 2) народны сход; 3) пастанова (народнага сходу).

**plebs**, plebis *f* (plere) 1) плебс; плебейскі стан; 2) [**мужики** *стб.*] мужыкі, сяляне, кметы; 3) грамада; люд; 4) парафія, прыход; 5) парафіяльны касцёл; 6) дыяцэзія; 7) касцёльныя дзесяціны.

**plecta**, ae *f* (plecto) 1) пляцёнка, вяроўка; 2) разліковая адзінка сплаўлянага дрэва.

**plegiagium**, ii *n* забеспячэнне запазычанасці, заклад.

**plegiatio**, onis *f гл.* **plegiagium**.

**plegiatura**, ae *f гл.* **plegiagium**.

**plegius**, ii *m* паручальнік.

**plenariae**, arum *f pl.* прыбытак з касцёльных аплатаў.

**plenarius**, a, um (plenus) 1) [**зуполный** | **суполный** *стб.*] супольны, агульны; 2) увесь; поўны.

**plenifer**, a, um поўны дзікасці.

**plenipotens**, entis *m* (plenus) упаўнаважаны.

**plenipotentia**, ae *f* паўнамоцтва: ~ **generalis** агульнае паўнамоцтва; ~ **specialis** асаблівае паўнамоцтва; **libri** *s.* **protocolla plenipotentiarum** судовыя рэестры паўнамоцтваў.

**plenipotentialis**, e датычны паўнамоцтваў.

**plenipotentiarius**, ii *m* упаўнаважаны; дэпутат.

**plenitudo**, inis *f* (plenus) 1) поўнасць; цэласць; 2) багацце.

**pleo**, —, —, ere 2. 1) напаўняць; 2) аплачваць.

**plevium**, ii *n* 1) адказнасць; 2) абавязацельства; 3) забеспячэнне запазычанасці; 4) парука.

**plica**, ae *f* (plico) 1) фалда; 2) драпіна; пашкоджанне; загана; 3) частка драўлянага кола ў возе; 3) пліка, загін (у дакуменце).

**plugo**, onis *m* 1) плуг; 2) мера зямельнай плошчы: столькі, колькі за адзін дзень можна ўзараць адным плугам.

**plumbator**, oris *m* асоба, якая прывешвала алавяную пячаць — булу да папскіх дакументаў.

**plurificatio**, onis *f* множанне.

**plurifico** 1. 1) прымнажаць, памнажаць; 2) часцей што-небудзь рабіць; 3) падаўжаць што-небудзь, рабіць даўжэйшым.

**plus**, pluris *n compar.* [**болей** | **болшей** *стб.*] больш, болей; мацней.

**pocale**, is *n* кубак; келіх.

**pocillator**, oris *m* (pocillum) 1) [**podczaszy** *пл.*] падчашы — пасада пры двары караля. Падчашы падчас урачыстых абедаў ці баляванняў пры двары абавязаны быў наліваць напоі ў куфлі ці чары. Пазней ад гэтай пасады застаўся адзін толькі тытул; 2) чашнік на двары ўладара.

**podiolum**, i *n* балкон.

**podismus**, i *m* мера даўжыні.

**podstrelczi** [**подстрелий** *стб.*] падстрэльны (сабака).

**podwoda**, ae *f* [**подвода** *стб.*] падвода, падводная павіннасць.

**poena**, ae *f* 1) [**каранье** *стб.*] кара, пакаранне: ~ **alienatoria** [**отнятье** *стб.*] адыманне; аднятце; ~ **captivitatis et colli** турэмнае зняволенне і пакаранне горлам / смяротнае пакаранне; ~ **carceraria / carcerum** [**нятство, выседенье** *стб.*] адседка (у вязніцы); пакаранне ўвязненнем, арышт, зняволенне; ~ **colli**; ~ **collinealis** горла / смяротнае пакаранне; ~ **furis** [**вина злодейская** *стб.*] штраф за крадзеж; ~ **peculatus, seu** ~ **pecularitatis** пакаранне за крадзеж дзяржаўнага скарбу; ~ **revocationis** пакаранне ці штраф, які палягаў на выплаце; ~ **talionis** адплата, пакаранне, якому паддаваўся пазоўнік / ісцец, што не даказаў абвінавачванаму таго злачынства, у якім вінаваціў яго ці які падаў ілжывы, надуманы пазоў / выклік у суд. Пакараннем за гэта было 12-тыднёвае зняволенне ў ніжнім памяшканні вежы (турмы), выплата штрафу ста грыўняў і судовых выдаткаў (Vol. Leg. II, f. 693). Пасля штраф гэты быў павялічаны да 200 грыўняў. Vol. Leg. II, f. 1217; 2) грашовае пакаранне, штраф.

**poenale**, is *n гл.* **poenositas**.

**poenatio**, onis *f* пакаранне.

**poenositas**, atis *f* цярпенне, пакута.

**poetria**, ae *f* паэтычнае мастацтва, паэзія.

**poetrida**, ae *f* паэтка, паэтэса.

**pogesa**, ae *f* манета.

**polcinus**, i *m* мера колькасці збожжа.

**poledrus**, i *m* жарабец, жарабок.

**polentarius**, i *m* [**słodownik** *пл.*] саладоўнік (гатаваў солад і брагу для піва і іншых напояў).

**politor**, oris *m* (polio, ire) [**szlifiarz** *пл.*] шліфавальнік; гранільнік.

**polliceor**, citus sum, eri 1) абяцаць; 2) [**прирекати** *стб.*] прыракаць / прысягаць, клясціся; заракацца.

**Polonia**, ae *f* [**Польша** *стб.*] Польшча: **Poloniae** [**польский** *стб.*] польскі.

**polyandrium**, i *n* 1) могілкі; 2) асобная магільня, асобны магільны склеп.

**Polycarpus Ep. M.** 26 студзеня.

**Polychronius Ep. M.** 17 лютага.

**pomarium**, ii *n* 1) сад; 2) цяністае месца, прызначанае для народных сходаў і судоў.

**pompisatio**, onis *f* раскоша, пышнасць.

**Pomposa V. M.** 19 верасня.

**pondera**, ae *f* вага.

**ponderata**, ae *f* цяжарная жанчына.

**pondo**, inis фунт.

**pondus**, eris *n* (pendo) вага; цяжар: ~ **ferreum** жалезная гіра; але ў актах ужываецца часам у значэнні бязмена — **statera**: ~ **ferreum, vulgo bezmian**. Акт. кніга Віленскай магдэбургіі за 1491—1668 гады.

**pono**, posui, positum, ere 1) ставіць; устанаўліваць; класці; 2) надаваць чаму-небудзь законнае права; 3) змяшчаць; 4) [**положити** *стб.*] прызначаць, устанаўліваць: ~ **super animam alicuius** аддаваць справу на чыюсьці волю; ~ **in casu** паддаваць небяспецы; ~ **in facto** прапаноўваць.

**pons**, pontis *m* [**мост** *стб.*] мост.

**pontagium** *гл.* **pontenagium**.

**pontalium**, ii *n гл.* **pontenagium**.

**pontanarius** *гл.* **pontonarius**.

**pontaria**, orum *n pl.* прыбытак з аплаты за карыстанне мостам.

**pontarius**, ii *m* збіральнік аплаты, *наз.* маставое.

**pontaticum** *гл.* **pontenagium**.

**pontenagium**, ii *n* маставое (мыта) — аплата за пераход, пераезд і правоз тавараў праз мост.

**pontenerius** *гл.* **pontonarius**.

**Pontianus P. et Hippolitus MM.** 7 лістапада.

**pontifex**, ficis *m* біскуп: ~ **maximus** папа.

**pontificatus**, us *m* [**pontyfikat** *пл.*] папская годнасць; папская ўлада.

**pontificio**, onis *f* абавязкі, звязаныя з утрыманнем моста.

**pontificium**, ii *n* 1) біскупства, біскупская годнасць; 2) улада; права.

**pontinegium** *гл.* **pontenagium**.

**pontionale**, is *n гл.* **pontenagium**.

**Pontius Diac.** 8 сакавіка.

**ponto** 1. будаваць мост.

**pontonarius**, i *m* збіральнік маставога (мыта) ці ўладальнік моста, якому належыць гэтая аплата.

**pontonaticus**, i *m* аплата за перавоз паромам.

**popo**, onis *m* поп.

**populare**, is *n гл.* **populatum**.

**populatum**, i *n* ворная зямля.

**Populus Sion (dominica)** 2-я нядзеля Каляднага посту — **Adventus**.

**porcalia**, ium *n pl.* падатак, даваны ў выглядзе вепрука, пазней — грашовай сумы.

**porcellus**, i *m demin.* [**порось** *стб.*] парсюк, парася.

**porcus**, i *m* [**вепр | вепрь** *стб.*] вепр, дзік; парсюк, кабан: ~ **non castratus** [**кнороз** *стб.*] кнораз — не злягчаны вяпрук.

**Porosa (hebdomada)** тыдзень Мукі Пана.

**porrectura**, ae *f* адданасць.

**porrigo**, rexi, rectum, ere 1) працягваць; выцягваць; 2) [**давати | даивати | дати, подати** *стб.*] даваць, падаваць; выдаваць, перадаваць, аддаваць; прадстаўляць; 3) садзіць (у турму).

**porta**, ae *f* вароты: брама: **Porta acialis** [**Ostro-brama** *пл.*] Вострая Брама (у Вільні).

**portagium**, ii *n* транспарт, перавозка.

**portale**, is *n* гарадскія вароты.

**portaticum**, i *n* 1) партовае мыта; 2) мыта, якое плацілася ля брамы горада за праезд праз браму.

**portaticus**, i *m* партовая аплата.

**portatile**, is *n* [**portatyl** *пл.*] невялікі ахвярнік з абразом, які каталікі нясуць падчас крыжовага ходу ці працэсіі.

**portatus**, us *m* доўг.

**portella**, ae *f demin.* 1) веснічкі; 2) аканіца.

**porterius**, ii *m* ганец; пасланец.

**portio**, onis *f* (pars) 1) [**часть, дельница | дел** *стб.*] частка; дзельніца, надзел; доля; 2) гадавая плата, гадавое ўтрыманне; ~ **canonica** гадавое ўтрыманне, прызначанае каноніку; ~ **congrua** дастатковая частка прыбытку, прызначаная пастаяннаму вікарыю.

**portionarius**, ii *m* асаднік / каланіст, які апрацоўваў поле за палову прыбытку, якое яно прыносіць.

**portiono** 1. прызначаць гадавую плату.

**porto** 1. 1) насіць; 2) выносіць; 3) накіроўваць; 4) дзейнічаць; 5) выпрымліваць; 6) меркаваць; 7) мець права прымусу; 8) караць.

**portor**, oris *m* 1) ганец; пасланец; 2) насільшчык.

**portorium**, ii *n* (porto) [**mostowe** *пл.*] маставое (мыта).

**portuarius**, ii *m* варотны, брамнік.

**portulanus**, i *m гл.* **portuarius**.

**portura**, ae *f* 1) дастаўка; 2) транспарт.

**portus**, us *m* (porta) 1) порт; прыстань; 2) прытулак, прыстанішча; схоў; 3) *гл.* **portaticum**.

**positio**, onis *f* (pono) 1) пастаўленне; складанне, выкладанне: ~ **actorum terrestrium** [**leżenie xiąg** *пл.*] ляжанне / выкладанне кніг. Па заканчэнні тэрміну ці кадэнцыі судаводства земскага суда рабіўся толькі прыём запісаў ці ўнясенняў у актавыя кнігі і выдача з іх выпісаў. Тады ў судзе засядаў толькі пісар з падсудкам ці асобы, абраныя суддзёй, альбо толькі адзін пісар з каморнікамі — **cum camerariis**. Гэты прамежак часу называўся ~ **actorum** ляжанне ці выкладанне кніг (Vol. Leg. I, f. 259). У гэты ж прамежак часу ў некаторых ва-

яводствах у земскіх судах вырашаліся справы пра выкуп маёнткаў і пра збеглых сялян; 2) становішча.

**positus**, a, um (pono) 1) пакладзены; размешчаны; 2) які знаходзіцца дзесьці; 3) які пражывае; 4) усталяваны.

**positus**, us *m* (pono) [**положенье** *стб.*] уручэнне (позвы ў суд).

**possada**, ae *f* прадмесце.

**posse** *indecl.* улада; магчымасць, здольнасць, *гл. тс.* **potestas**.

**possessio**,onis *f* (possideo) 1) валоданне; 2) [**держанье** *стб.*] дзяржанне / фізічнае валоданне: **corporalis** ~ поўнае валоданне; **in corporalem possessionem aliquem mittere** абвяшчаць каго-небудзь уладальнікам маёмасці з выкананнем неабходных для гэтага фармальнасцей; 3) нерухомая ўласнасць; маёнтак.

**possessionati, orum** *m* аселая шляхта.

**possessionatus**, a, um [**оселый** *стб.*], [**possessyonat** *пл.*] аселы, той, хто валодае спадчынным маёнткам, землеўладальнік: **in propriis** ~ [**на властности оселый** *стб.*] аселы на ўласнасці / які мае ўласнасць.

**possessor**, oris *m* (possideo) 1) уладальнік, уласнік; 2) дзяржаўца / арандатар маёнтка; уласнік; уладальнік; часовы распарадчык, які дзяржыць / валодае (нечым часова, *напр.* маёнткам), *гл.* **tenutarius**: ~ **hereditarius** дзедзічны ўласнік; ~ **litterarius** ленны ўласнік.

**possessorium**, i *m* 1) *гл.* **possessio**; 2) [**possessoryum** *пл.*] скарга аб праве часовага валодання.

**possideo**, sedi, sessum, ere 1) [**поседати | посести** *стб.*] валодаць; авалодваць; 2) [**держати, в держаньи быти** *стб.*] дзяржаць / валодаць (часова альбо стала), трымаць.

**possum**, potui, posse магчы: **potest** [**моцный**; **волно | вольно** *стб.*] які мае права, можа; можна, дазволена.

**post** *adv., praep. cum acc.* 1) [**после | опосле, по** *стб.*] пасля, па; 2) [**потом** *стб.*] потым, затым; надалей, у будучыні.

**Post alba, in albis (dominica)** 2-я нядзеля па Вялікадні.

**Post focos, post ignes (dominica)** 2-я нядзеля Вялікага Посту.

**Post ostensionem reliquiarum (dominica)** 2-я нядзеля па Вялікадні.

**Post strenas** першы дзень года.

**postea** *adv.* 1) пасля гэтага; 2) [**потом** *стб.*] потым, затым; у будучыні.

**postergo** 1. пагарджаць, грэбаваць: ~ **diem** адкладаць; падаўжаць.

**posterior**, ius [**последний** *стб.*] апошні.

**posterus**, era, erum *compar.* **posterior**, *superl.* **postremus** наступны: **posterum** [**потом** *стб.*] потым, затым; надалей, у будучыні.

**posterus**, i *m* [**щадок** *стб.*] нашчадак.

**post(h)umus**, a, um 1) апошні; 2) які нарадзіўся апошнім; 3) пасмяротны: **editio posthuma** выданне, якое выйшла ў свет па смерці аўтара.

**post(h)umus**, i *m* нашчадак, які нарадзіўся па смерці бацькі.

**postiudex**, icis *m* дэлегат суддзі.

**postliminium**, ii *n* перадаванне абываццеля з адной краіны ў іншую.

**postridie** *adv.* [**назавтрее** *стб.*] назаўтра.

**postulo** 1. (posco) [**впросити | упросити, выпросити** *стб.*] упрошваць, выпрошваць.

**potabilis**, e (poto) прыдатны да піцця: ~ **pecunia** грошы, якія асаднік плаціў вотчыннiку за ўчыненую яму палёгку.

**potagium**, ii *n* 1) усялякае пітво; 2) булён з гароднiны; 3) плата за продаж напояў.

**Potentiana V.** 19 траўня.

**potestas**, atis *f* (possum) улада.

**potestas**, atis *f* (possum) 1) [**моц** *стб.*] магутнасць; моц; паўнамоцтва; права; 2) улада; 3) вышэйшая ўрадавая ўлада; 4) пан; 5) кароль; 6) акруга, падуладная суддзі ці пану.

**potestativus**, a, um (potestas) надзелены ўладай: **potestativam manum adiicere** ужываць сілу; **potestativa manu assistere** аказваць каму-небудзь моцнае, магутнае садзеянне; **potestativa manu concedere, contradere** саступаць каму-небудзь рэч, на якую ўладальнік мае поўнае права; **potestativam manum imponere** прысвойваць сабе рэч як уласнасць.

**potestivus** *гл.* **potestativus**.

**potioritas**, atis *f* 1) першасць, першынство; 2) [**lepszość prawa** *пл.*] першынство на моцы права, закон, паводле якога тым, хто меў першае права ці запіс на якія-небудзь уладанні, надавалася перавага перад іншымі; 3) ~ **hastae** [**konkurs** *пл.*] конкурс. Маёмасць, абцяжараная даўгамі ці сапраўдным яе ўладальнікам, ці яго папярэднікамі, падлягала конкурсу. Уладальнік такой маёмасці ці афіцыйна адступаў ад яе, ці абяцаў адступіцца ад яе пасля звядзення рахунку даўгоў і ацэнкі самой маёмасці; у такім разе **potioritas** называлася **recessuata** [**recessowa** *пл.*]. Але калі ўладальнік, апрача афіцыйнай адступкі ад свайго ўладання, пацвярджаў гэтую адступку прысягай, у такім разе **potioritas** называлася **abiurata** [**odprzysiężona** *пл.*].

**practica**, ae *f* [**praktyka** *пл.*] 1) здзяйсненне; 2) спосаб дзеяння; 3) абазнанасць у судовых справах; 4) змова.

**practico** 1. [**praktykować** *пл.*] 1) дзейнічаць; 2) размаўляць; 3) трактаваць; 4) прапаноўваць; 5) наведваць суд; весці судовую справу; 6) хадайнічаць.

**prada**, ae *f* абшар / шэраг лугоў.

**pradale**, is *n* *гл.* **prada**.

**prae** *adv.* [**мимо** *стб.*] насуперак; нягледзячы на; апрача.

**praeambula**, ae *f* усё папярэдняе, ранейшае.

**praeambulum**, i *n* папярэдняе паведамленне; перасцярога.

**praeambulus**, i *m* (praeambulo) папярэднік; веснік.

**praeangariae**, arum *f pl.* 1) працоўная сіла; 2) падводы.

**praeantea** *adv.* перш, спярша.

**praebenda**, ae *f* (praebeo) 1) [**prebenda** *пл.*] прэбэнда; 2) правізія; утрыманне; 3) прыбытак духоўных асоб капітула; частка маёмасці катэдральнага касцёла, дадзеная для карыстання духоўнай асобе за яе служэнне пры касцёле; 4) пажыццёвая рэнта, выплачваная дзяржавай прыватнай асобе; 5) штодзённая порцыя правіянту для рэлігійных абшчын; манаская дзённая порцыя; 6) парафія / прыход каноніка.

**praebendarius**, ii *m* датычны прэбэнды.

**praebeo**, ui, itum, ere (= praehibeo) даваць, удзяляць; прадстаўляць: ~ **se** [**давати ся** | **дат ся** | **дати ся** *стб.*] даваць згоду; паддавацца.

**praecaveo**, cavi, cautum, ere 2. 1) быць абачлівым, асцерагацца: **praecauto hoc** з той засцярогай, з тым выключэннем; 2) запабягаць; 3) забяспечваць; засцерагаць.

**praecedentia**, ae *f* (praecedo) [**precedencya** *пл.*] першае месца; першынство.

**praeceptor**, oris *m* (praecipio) 1) начальнік, зверхнік; пан; вярхоўны суддзя; 2) у тампліераў — распарадчык дамоў у правінцыі — **commendator**; 3) прыдворны вяльможа.

**praeceptum**, i *n* (praecipio) 1) прадпісанне; 2) распараджэнне; наказ; загад; 3) указанне; перасцярога; парада; 4) (каралеўскі) ліст, дыплом ці прывілей.

**praecinctum**, i *n* абсяг і межы, у якіх змяшчаецца якая-небудзь мясцовасць.

**praecipio**, cepi, ceptum, ere (prae [**приказати** | **приказывати** *стб.*] наказваць; загадваць.

**praecipuus**, a, um (prae+capio) [**головный** *стб.*] галоўны; асноўны.

**praecisio**, onis *f* (praecido) [**precyzya** *пл.*] дакладнасць.

**praeclusio**, onis *f* (praecludo) [**prekluzya** *пл.*] 1) завяршэнне; 2) апошняя мяжа, да якой суд можа згаджацца і пасля якой самыя абгрунтаваныя жаданні і патрабаванні застаюцца без наступстваў.

**praeco**, onis *m* 1) герольд; 2) гарадскі прэтар ці вясковы суддзя; 3) прыстаў; 4) у пазнейшы час — возны, *гл. тс.* **ministerialis generalis;** ~ **iuratus** прысяжны абвяшчальнік, возны; 5) выклікальнік на аўкцыёне; 6) прыхільнік.

**praeconisatio**, onis *f* прадстаўленне кардынала папе пра зацвярджэнне намінатa — біскупа на сапраўднага біскупа і пра прызначэнне яго на вакантную дыяцэзію.

**praeconium**, ii *n* 1) функцыя герольда; 2) урад featureвознага: ~ **facere** выконваць абавязкі вознага; 3) публічная аб'ява; 4) публічная пахвала.

**praecono** 1. (praeco) абвяшчаць; прапаведаваць.

**praeconsul**, is *m* бурмістр.

**praecustodiatio**, onis *f* [**prekustodyacya** *пл.*] абачлівасць; засцярога, перасцярога.

**praedecessor**, oris, *m* 1) папярэднік; 2) [**предок** | **продок** *стб.*] продак.

**praedicator**, oris *m* (praedico) прапаведнік, казаннік.

**praedictus**, a, um [**перечоный** | **приречоный**, **мененый** | **менованый; писаный** *стб.*] (раней) названы, памянёны, згаданы; указаны; пералічаны.

**praedo**, onis *m* (praeda) [**розбойник** *стб.*] разбойнік.

**praeemptio**, onis *f* моц і сапраўднасць першай куплі.

**praefectio**, onis *f* (praeficio) прэфектура; зверхнасць; начальства; улада.

**praefectorius**, i *m* (praefectus) вяльможа; прыдворны.

**praefectura**, ae *f* (praefectus) стараства.

**praefectus**, i *m* (praeficio) 1) [**старший** *стб.*] старэйшы, зверхнік, начальнік: ~ **castelli** гараднічы; ~ **cellarii** піўнічы; ~ **culinae** кухмайстар; ~ **curiae** надворны маршалак; ~ **curruum** падводнічы; ~ **excubiarii** стражнік; ~ **generalis exercituum** вялікі гетман; ~ **metricis regni** каронны метрыкант; ~ **pontium** мастаўнічы; ~ **praetorii** начальнік гвардыі (папскай); ~ **provinciae** ваявода; ~ **signaturae gratiae** кардынал папскага двара, які ў адсутнасці папы старшынствуе ў кангрэгацыі, якая складаецца з 12 прэлятаў; ~ **signaturae iustitiae** кардынал пры папскім двары, які зацвярджае папскія мемарыялы, надпісваючы на іх **visa** — былі разгледжаны; ~ **stabuli** канюшы, стайнік, тое ж, што і **agazo;** ~ **sylvarum regalium** каралеўскі ляснічы; ~ **teloneorum et vectigalium** мытнік; ~ **zupparum** жупнік; 2) правадыр; 3) [**наместник** *стб.*] намеснік.

**praefero**, tuli, latum, ferre 1) несці штосьці перад кімсьці; 2) аддаваць перавагу; 3) [**повышати** *стб.*] павышаць, узвышаць.

**praefigo**, fixi, fixum, ere [**положити** *стб.*] прызначаць; устанаўліваць.

**praeiudicatum**, i *n* [**prejudykat** *пл.*] ранейшае судовае рашэнне, якім кіраваліся ў наступных падобных рашэннях, на падставе закона караля Яна Альбрэхта (1496): «**Et dum super aliquo articulo in iudicio sententiatum quid, illa sententia in librum actorum inscribatur, ut postea super eodem articulo, vel simili, similis sententia proferatur**». «Калі паводле якога-небудзь артыкула ў судзе было прынята рашэнне, яго неабходна запісаць у актавую кнігу, каб пасля паводле такога ж артыкула ці падобнага да яго было прынята падобнае ж рашэнне». Vol. Leg. I, f. 250. De libro iudiciorum.

**praeiudiciabilis** *гл.* **praeiudicialis**.

**praeiudicialis**, e (praeiudicium) 1) вырашаны наперад; прадвызначаны; 2) шкодны; супрацiўны.

**praeiudicium**, ii *n* [**prejudycyum** *пл.*] 1) папярэдні, падрыхтоўчы вырак; 2) заўчаснае меркаванне, прадузятасць; 3) [**кривда** *стб.*] крыўда, несправядлівасць; шкода; страта; 4) апавяшчэнне пра будучы вырак суда; 5) забабон.

**praeiudico** 1. 1) шкодзіць, прычыняць шкоду; 2) шкодзіць чыёйсьці добрай славе, няславіць, знеслаўляць.

**praelatus**, a, um [**prałat** *пл.*] пераважны; вышэйшы.

**praelatus**, i *m* [**прелат** *стб.*] прэлят — назва вышэйшых саноўнікаў у каталіцкай іерархіі, якая прысвойвалася біскупам, арцыбіскупам і катэдральным канонікам.

**praelibatus**, a, um вышэйсказаны, вышэйменаваны.

**praelocutor**, oris *m* адвакат, абаронца чыёй-небудзь справы ў судзе.

**praemeditas**, atis *f* наўмыснасць.

**praemissus**, a, um [**писаный** *стб.*] (раней) названы, памянёны, згаданы; указаны.

**praeoccupatio**, onis *f* (praeoccupo) 1) апярэджанне каго-небудзь у завалоданні якім-небудзь прадметам; 2) разумовы занятак.

**praeoccupo** 1. загадзя завалодваць чым-небудзь; завалодаць без усялякага права.

**praeopinans**, antis [**preopinant** *пл.*] які першым падае сваё меркаванне.

**praeparo** 1. 1) рыхтаваць; 2) [**зготовати ся** *стб.*] рыхтавацца.

**praepeditas**, atis *f* [**prepedicya** *пл.*] перашкода.

**praepeditio**, onis *f* 1) адклад, адтэрміноўка; 2) перашкода.

**praepedium**, ii *n гл.* **praepeditas**.

**praepositus**, i *m* 1) зверхнік, начальнік; кіраўнік: ~ **cursorum** галоўны кіраўнік поштамі; 2) правадыр, камандзір; 3) распарадчык, загадчык; наглядчык: ~ **argenti potorii et auri vescarii** наглядчык за начыннем / посудам; ~ **barbaricariorum** наглядчык за зброяй і рыштункам; ~ **bastagae** наглядчык за адзеннем, асабліва ў дарозе; ~ **camerae regalis** камергер — чалавек, які апекаваўся каралеўскай спальняй. Пры двары польскага караля пасада гэтая называлася **cubicularius** пасцельнічы; ~ **fibulae** загадчык каралеўскімі каштоўнасцямі; ~ **labari** захавальнік каралеўскага сцяга; ~ **lactorum** наглядчык сталовых каралеўскіх уладанняў; ~ **largitionum** скарбнік касы, прызначанай для ахвяраванняў; ~ **sacri cubiculi** тое ж, што і **maiordomus**, які меў нагляд за каралеўскімі палатамі і быў неадлучным спадарожнікам самога караля; ~ **tyrii texstrini** наглядчык фабрык, на якіх вырабляліся пурпуровыя тканіны.

**praerogativum**, i *n* [**prerogatywa** *пл.*] перавага, вылучнае права на паслабленне ці міласць, якая звальняе ад падпарадкаванасці агульным законам; прывілей.

**praesbiter** *гл.* **presbyter**.

**praescribo**, scripsi, scriptum, ere [**положити** *стб.*] прызначаць, устанаўліваць; прадпісваць: **praescriptus** [**положоный** *стб.*] прызначаны, устаноўлены.

**praescriptio**, onis *f* (praescribo) [**preskrypcya** *пл.*] 1) прадпісанне; 2) [**давность** *стб.*] юрыдычная ці законная даўнасць, званая таксама земскай / зямельнай даўнасцю, г. зн. вызначаны тэрмін, які абмяжоўвае права валодання пераходнай уласнасцю. Даўнасць гэтая была двух відаў: трохгадовая і дзесяцігадовая. Абедзве былі ўстаноўлены ўжо пры Казіміру Вялікім у 1347 г. (Vol. Leg. I, f. 20). Аб трохгадовай даўнасці ў Статуце ВКЛ гаворыцца так: «Коли бы хто купил якое дедицтво и держал спокойно, заплативши, а на том же бы именью хто инный долг мел, первей врадовне записаный, пока еще было не продано, а молчал бы по продажи о тот долг три лета, и правом его не доходил; таковый, хотя бы и листы упоминальные мел,—тот не мает на том именью того долгу смотрети» (Стат. Літ., разд. VII, арт. 10). Што да дзесяцігадовай даўнасці, то яна вызначана Статутам ВКЛ наступным чынам: «Если бы што кому дано альбо продано, хотя бы записом слушным, будь теж и перед нами господарем, альбо перед судом земским объявлено, а оный бы што

ему дано, продано, альбо записано в держаньи и поживанью через десять лет не был и о то се врадовне не упоминал; таковый по выйстью лет десети вжо того доходити не может, але державчий то вечне мает мети» (Стат. Літ., разд. III, арт. 45). Рашэнні кампрамісарскія і рашэнні вышэйшай інстанцыі — **ultimae instantiae** даўнасці не падлягалі; Vol. Leg., a. 1576, II, f. 941: ~ **terrestris** [**давность земская** *стб.*] земская / зямельная даўнасць.

**praescriptum**, i *n* (praescribo) [**preskrypt** *пл.*] прадпісанне; загад.

**praesens**, entis цяперашні; прысутны; **praesentibus** [**при** *стб.*] у прысутнасці, пры наяўнасці, пры; падчас.

**Praesentatio Domini (festum)** свята Ахвяравання Пана — Грамніцы, 2 лютага.

**praesentatio**, onis *f* [**praesenta** *пл.*] 1) прынашэнне — падарунак, які сяляне ў сярэднія вякі звычайна рабілі свайму пану па святах Божага Нараджэння, Вялікадня і Спаслання Святога Духа; 2) прэзэнтамі называліся таксама пісьмовыя заявы вотчынніка пра абранне той ці іншай асобы ў прыходскія святары касцёла, які знаходзіцца ў яго ўладаннях. Прэзэнты гэтыя звычайна пісаліся на імя біскупаў. Гэтае права вотчыннікаў абіраць святароў на вакантныя прыходы называлася калятарствам — **ius patronatus**.

**praesentia**, ae *f* (praesens) прысутнасць: **ad praesentiam** [**обличне** *стб.*] у прысутнасці; асабіста.

**praesento** 1. (praesens) 1) даваць адзін аднаму; пазычаць; 2) дарыць; 3) адразу ж мець.

**praesertim** *adv.* [**наболей | набольшей** *стб.*] найбольш, тым больш; асабліва.

**praesidium**, ii *n* (praeses) 1) абарона; 2) ахова:~ **regium** прывілей, каралеўскі ліст; 3) [**застава** *стб.*] (ваенная) застава, ваенная варта ў гарадах і крэпасцях, залога / гарнізон; дапамога; 4) уладанне, маёмасць; грошы.

**praesta**, ae *f* 1) пазыка; 2) *гл.* **praestitum**.

**praestaria**, ae *f гл.* **praestarium**.

**praestarium**, ii *n* кантракт на дзяржанне / арэнду нерухомай касцёльнай маёмасці.

**praestimonia**, orum *n pl.* уладанні, якія прызначаліся прадстаўнікам катэдральнага капітула, але зрэшты так, што старэйшыя з іх атрымлівалі заўсёды лепшыя, а менш прыбытковыя аддаваліся малодшым.

**praestitum**, i *n* 1) усё ўзаемнае / сумеснае; 2) патрабаванне на падставе ўзаемнага валодання.

**praesto**, stiti, stitum 1) [**вделати** *стб.*] рабіць; прычыняць, прыносіць; 2) [**чинити помочь** *стб.*] аказваць дапамогу, дапамагаць; 3) даваць; падаваць, прадстаўляць: ~ **se** a) [**подати ся** *стб.*] паддавацца, b) [**дбати** *стб.*] дбаць; зважаць, лічыцца (з чым-небудзь).

**praestor**, oris *m* дзяржаўца / арандатар касцёльнай нерухомай маёмасці.

**praestus** *гл.* **praestitum**.

**praesumo**, sumpsi, sumptum, ere 1) браць раней ці загадзя; атрымліваць наперад; 2) браць больш, чым належыць; 3) падазраваць; рабіць здагадкі, здагадвацца; 4) [**смети** *стб.*] смець, асмельвацца.

**praesumptio**, onis *f* (praesumo) [**presumpcya** *пл.*] 1) здагадка; спадзеў; 2) летуценне; забабон: **praesumptioni hominum dare** саступаць людскім забабонам; 3) прадузятасць; 4) адвага; зухвалась; 5) несправядлівае дзеянне; напад; гвалтоўнае авалоданне.

**praetendo**, tendi, tentum, ere 1) расцягваць; распасціраць; пашыраць; 2) [**поведати | поведети** *стб.*] сведчыць; заяўляць; казаць; распавядаць; паведамляць.

**praeter** *adv., praep. cum acc.* 1) [**кром | кроме | окром | окроме** *стб.*] акрамя, апрача, за выключэннем; 2) [**прото** *стб.*] таму, пры гэтым.

**praetermitto**, misi, missum, ere саступаць каму-небудзь сваё валоданне якой-небудзь рэччу.

**praeterquam** *adv.* 1) [**кром | кроме | окром | окроме** *стб.*] акрамя, апрача таго, за выключэннем; 2) [**олиж | алиж** *стб.*] датуль пакуль; толькі; але; перш чым.

**praetor**, oris *m* бурмістр.

**praetorium**, ii *n* 1) галоўная сядзіба, намёт правадыра; 2) палац, палацавы двор; 3) магістрат; ратуша; рада; 4) суд.

**praevaricatio**, onis *f* (praevaricor) [**prewarykacya** *пл.*] 1) растрата, марнаванне; 2) парушэнне абавязку; подступ; вераломства, здрада; злачынства.

**praevenio**, veni, ventum, ire 1) апярэджваць, выпярэджваць; 2) [**зайти | заходити** *стб.*] заходзіць.

**praeventio**, onis *f* [**prewencya** *пл.*] прадузятасць.

**praevideo**, vidi, visum, ere захоўваць; берагчы.

**praevilegio** 1. саступаць каму-небудзь што-небудзь са свайго прывілею.

**pragma**, atis *n* меркаванне; пастанова.

**pragmaticum**, i *n s.* **pragmaticum rescriptum, sanctio pragmatica** меркаванне ці пастанова караля, заснаваная на належным расследаванні справы і на згодзе вяльможаў.

**pratagium**, ii *n* павіннасць сялян касіць лугі сваім панам ці грашовы ўнёсак за вызваленне ад гэтай працы.

**pratum**, i *n* [**сеножать** *стб.*] сенажаць; луг.

**precaria** *гл.* **precarium**.

**precario** 1. аддаваць у дзяржанне / арэнду.

**precarium**, ii *n* кантракт, паводле якога бралі ў пажыццёвае валоданне касцёльную маёмасць з абавязкам уносіць штогадовую арэндную плату.

**precarius**, a, um (precor) [**prekaryiny** *пл.*] залежны ад чыёйсьці міласці, напр. **possessio precaria** валоданне чым-небудзь з ласкі сапраўднага ўладальніка; **precaria petitio** [**bede** *пл.* (ад ням. **Bitte**)] просьба караля да народа пра дапа-

могу ў экстраардынарных выпадках; па гэтай просьбе збіраўся адмысловы падатак (Eichorn. § 297, 306), які называўся **berna** [**pomocne pobora** *пл.*].

**precatio**, onis *f* (precor) 1) *гл.* **precarium**; 2) павіннасць, якую абавязваюцца выконваць дзяржаўцы / арандатары адносна вотчынніка ў апрацоўцы палёў.

**precatum**, i *n* просьба.

**preces** *гл.* **precatio**.

**preconius**, ii *m* судовы возны.

**presbyter**, eri *m* 1) [**каплан, плебан** *стб.*] святар, прэзбітэр, плябан; 2) [**поп** *стб.*] поп.

**pretium**, ii *n* [**цена** *стб.*] цана, кошт.

**Prima, quae est caput ieiuniorum (dominica)** 1-я нядзеля, якая з'яўляецца галавой пастоў, нядзеля загавення, пачатку посту.

**primaria**, ae *f* першая, ранняя Імша ў католікаў.

**primatus**, us *m* (primas) 1) першынство, прымат; 2) дамінаванне; 3) права старшынства; 4) годнасць г. зв. прымаса — у касцёльнай іерархіі сан на ступень ніжэйшы за патрыярха; 5) касцёльная юрысдыкцыя; 6) улада феадала; 7) імунітэт; 8) збор саноўнікаў каралеўства.

**Primianus et Lucina MM.** 6 красавіка.

**primicerius**, a, um запісаны першым; першы.

**primitas**, atis *f* першынство.

**primitia**, ae *f* [**prymicya** *пл.*] прыміцыйная (першая) Імша, якая адпраўляецца новапасвячаным каталіцкім святаром.

**primo** *adv.* (primus) [**напервей** *стб.*] найперш, па-першае, першым чынам.

**primogenitus**, a, um (primus+genitus) [**первородный** *стб.*] першародны.

**primordium**, ii *n* (primus) 1) пачатак; паходжанне: ~ **litis** уступная частка працэсу ад пачатку судовага разгляду да **litis contestatio** у судовым працэсе; 2) элементы / начаткі якога-небудзь вучэння.

**Primus et Felicianus** 9 чэрвеня.

**Primus mundi dies** 18 сакавіка.

**primus**, a, um [**первший | первый | перший** *стб.*] першы; ранейшы.

**princeps**, cipis *m* (primus) 1) [**господар** *стб.*] гаспадар, валадар, Вялікі князь літоўскі; **principis** [**господарский** *стб.*] гаспадарскі, велікакняжацкі; 2) [**пан, панове** *мн. стб.*] пан; гаспадар.

**principalis**, is *m* [**pryncypał** *пл.*] 1) прынцыпал — асоба, справа якой вядзецца ў судзе праз адваката ці пракуратара; 2) галоўны зачыншчык якой-небудзь крымінальнай справы. Калі іх некалькі, то яны называюцца конпрынцыпаламі.

**principatus**, us *m* (princeps) [**панованье** *стб.*] княжанне; панаванне; кіраванне.

**principissa**, ae *f* княгіня.

**prior**, prioris *m* [**przeor** *пл.*] прыёр — кіраўнік кляштара некаторых каталіцкіх ордэнаў, як напр. дамініканцаў, францішканцаў і інш.; у бэрнардынаў кіраўнік кляштара называецца гвардыянам.

**prior**, prius *adi. compar.* [**первший | первый | перший** *стб.*] першы; ранейшы.
**priores**, um 1) папярэднікі; продкі; 2) вяльможы; 3) каралі.
**Prisca V. M.** 18 студзеня.
**Priscilla** 8 ліпеня.
**Priscus Disc. Christi M.** 1 верасня.
**prisum**, i *n* вязніца.
**prius** *adv.* (prior) [**напервей, первей нижли бы, наперед** *стб.*] перш, перш чым; перад тым, раней; спачатку.
**privatio**, onis *f* (privo) у каталіцкім кананічным праве — пазбаўленне вінаватага пасады ці прысвоеных ім прыбыткаў.
**Privatus Ep.** 21 жніўня.
**privignus**, i *m* 1) пасынак; 2) цесць.
**Privilegiata (dominica)** 1-я нядзеля посту, 1-я нядзеля Вялікага Посту.
**privilegiatus**, a, um 1) адораны прывілеямі, прывілеяваны; 2) адораны дакументам, г. зн. такі, для якога выдадзены дакумент.
**privilegium**, ii *n* (privus) [**привилье** *стб.*] прывілей.
**privitas**, atis *f* прызначаная порцыя ежы.
**pro** *praep. cum abl.* 1) перад, спераду; за; у адносінах да: ~ **tunc** у той час, тады; 2) [**об** *стб.*] аб, пра.
**probabilis**, e (probo) 1) просты; добры; 2) выдатны; знакаміты.
**probata**, ae *f гл.* **probatio**.
**probatio**, onis *f* (probo) [**довод** *стб.*] довад / доказ.
**probatus**, a, um *padi.* 1) выпрабаваны; дасведчаны; 2) добры; сумленны; 3) мілы; жаданы; 4) адважны; 5) пэўны.
**probo** 1. (probus) 1) спрабаваць; выпрабоўваць; даследаваць; 2) прызнаваць, ухваляць; 3) [**допирати, довести | доводити, перевести; вчинити | учинити | чинити довод** *стб.*] даказваць, даводзіць, прыводзіць довад, прыводзіць / прадставіць доказы; вырашаць; весці следства; 4) [**вести** *стб.*] абвінавачваць; 5) [**зыскати** *стб.*] спаганяць (праз суд).
**Probus Ep.** 10 лістапада.
**probus**, a, um [**добрый** *стб.*] добры; варты, годны; дастатковы, поўны.
**procambiatio**, onis *f* дамова абмену.
**procambio** 1. рабіць абмен.
**procambium**, ii *n* абмен.
**procedentia**, ae *f* [**procedencya** *пл.*] паходжанне; род.
**procedo**, cessi, cessum, ere 1) выходзіць; выступаць; 2) прыступаць; даходзіць; 3) працягваць весці справу ў судзе: **iudicium ulterius procedere partibus iniunxit** суд загадаў далей працягваць справу бакам, якія спрачаюцца.
**procer**, eris *m звыч. pl.*: **proceres** магнаты; радавітыя баяры.
**proceritas**, atis *f* (procerus) 1) даўжыня; працяглаcць; вышыня; 2) добрасць / добрая якасць; 3) ураддівасць, плоднасць.
**Processus et Martianus** 2 ліпеня.

**processus**, us *m* (procedo) [**proces** *пл.*] 1) працэс, ход справы, якая разглядаецца ў судзе з пэўнымі фармальнасцямі і паводле пэўных законаў; 2) спосаб адстойваць сваю ўласнасць судовым парадкам; 3) заведзеная справа.

**procinctus**, us *m* (procingo) 1) апяразванне; аперазанне; 2) гатовасць: **in procinctu** у гатовасці, напагатове; **in procinctu itineris** збіраючыся ў дарогу; 3) абсяг ці межы якога-небудзь месца, вольнага ад падаткаў.

**proclamator**, oris *m* (proclamo) 1) той, хто выклікае, герольд; 2) крыкун; 3) пазоўнік / ісцец (як працэсуальны бок).

**proclamo** 1. 1) клікаць, заклікаць, зваць: ~ **proclamare** [**валати** | **волати кгвалту** *стб.*] клікаць на дапамогу, крычаць гвалт; 2) [**закликати** *стб.*] заяўляць; 3) [**повалати** | **поволати** *стб.*] абвінавачваць; паказваць.

**proconsul**, ulis *m* [**burmistrz** *пл.*] бурмістр.

**Procopius** 4 ліпеня.

**procrastinatio**, onis *f* (procrastino) адкладанне, прамаруджанне, запавoленне.

**procreo** 1. [**родити** *стб.*] ражаць, нараджаць.

**procuratio**, onis *f* (procuro) 1) апекаванне; клопат; 2) права на пачастунак, *гл.* **alberga**; 3) падахвочванне; парада; 4) усё, што спрыяе выкананню якой-небудзь справы.

**procurator**, oris *m* (procuro) 1) пракуратарамі у рымлян называліся асобы, якія загадвалі ў правінцыях дзяржаўнымі прыбыткамі. У Рэчы Паспалітай пракуратарамі былі ўрадавыя асобы, падпарадкаваныя іншым, вышэйшым. Вядома з гісторыі Польшчы, што па смерці Лешкі Чорнага (1289) Серадскім княствам валодалі пракуратары з 1195 да 1509 г. пад началам старастаў; 2) [**прокуратор** *стб.*] пракуратар — адвакат, абаронца, амаль тое ж, што і пленіпатэнт — паўнамочнік ці адвакат, які абараняе чыю-небудзь справу ў судзе. Пракуратары ў Галоўны Літоўскі трыбунал абіраліся на дэпутацкай элекцыі / выбарах; але яны не мелі права судзіць (Vol. Leg., a. 1511, I, f. 377; a. 1601, II, f. 1526). Пракуратар у адсутнасці свайго прынцыпала — асобы, справу якой ён вёў, мог з'яўляцца ў судах і браць удзел ва ўсім, што тычылася самога прынцыпала: мог пазываць супраціўны бок слоўным пазовам / выклікам, адхіляць суддзю (*гл.* **motio**) і выкарыстоўваць усё, што служыла абароне яго прынцыпала. Але ён не мог рабіць новых запісаў і даваць квітанцый на ранейшыя, ні касаваць грашовыя ўгоды / здзелкі ў адсутнасці свайго прынцыпала. Vol. Leg. I, f. 377; ~ **causarum civitatis** сіндык — гарадскі юрыст; ~ **ecclesiae** касцёльны пракуратар — так называўся кіраўнік касцёльнымі справамі; 3) пракуратарамі называліся таксама тыя, хто рыхтаваў гасціны і балі.

**procuro** 1. 1) уладкоўваць штосьці; рабіць штосьці па даручэнні кагосьці; 2) дзейнічаць ад імя іншай асобы; 3) выконваць абавязкі пракуратара; 4) дбаць, клапаціцца; 5) рабіць камусьці пачастунак; даваць камусьці вячэру ці банкет; 6) дастаўляць усё неабходнае для пражытку, у тым ліку і адзенне.

**prodeo**, ii, itum, ire [**выймети ся** *стб.*] вымацца / выпадаць (пра лёсы / жэрабя).

**prodo**, didi, ditum, ere 1) выдаваць; 2) прадаваць, здраджваць; 3) паведамляць, даносіць; 4) [**повалати | поволати** *стб.*] абвінавачваць; паказваць.

**produco**, duxi, ductum, ere [**produkować** *пл.*] 1) вырабляць, вытвараць; 2) выводзіць; ставіць перад судом: ~ **testes in iudicium** [**выдати светков** *стб.*] выстаўляць сведак; 3) праводзіць справу, г. зн. прадстаўляць яе суду, выкладаць і тлумачыць яе ход.

**productio**, onis *f* (produco) [**produkcya** *пл.*] 1) прадукцыйнасць; 2) перадача маёмасці паверанаму разам з дакументамі для здзяйснення прапарцыйнага падзелу ці закладу.

**proferenda**, ae *f гл.* **proferentia**.

**proferentia**, ae *f* сталыя прыбыткі парафіяльнага ксяндза з ахвяраванняў.

**professio**, onis *f* (profiteor) [**professya** *пл.*] 1) складанне манаскіх шлюбаў / абетаў; 2) публічнае спавяданне веры; 3) род заняткаў; рамяство.

**profiteor**, fessus sum, eri 1) прызнаваць, прызнавацца; 2) вызнаваць; 3) [**приняти** *стб.*] прымаць.

**profugio**, fugi, fugitum, ere *intr.* [**втечи** *стб.*] уцякаць, збягаць; хавацца.

**prohibeo**, ui, itum, ere [**заповедати** *стб.*] заказваць / забараняць.

**prohibitio**, onis *f* (prohibeo) [**заповедь** *стб.*] запаведзь / забарона.

**proiicio**, ieci, iectum, ere [**покинути** *стб.*] выкідаць.

**prolatio**, onis *f* (profero) 1) прывядзенне, узгадванне, згадка; апавяданне; 2) павелічэнне; 3) адтэрміноўка; прамаруджанне: ~ **rerum** прыпыненне ўвогуле на нейкі час усіх публічных спраў і ў прыватнасці судаводства.

**prolocutor**, oris *m* (proloquor) тое ж, што і **advocatus** ці **procurator** адвакат, абаронца справы ў судзе.

**prolongatio**, onis *f* працяг, прадаўжэнне.

**promissarius**, ii *m* святар, які знаходзіцца на ўтрыманні.

**promitto**, misi, missum, ere [**обецати, слюбити | шлюбити** *стб.*] шлюбіць / абяцаць; абавязвацца.

**promotor**, oris *m* (promoveo) спрыяльнік; заступнік.

**promptuarium**, i *n* [**свирен** *стб.*] свіран.

**promus**, i *m* (promo) ключнік.

**pronixe** *adv.* рупліва; горача.

**propalo** 1. (propalam) рабіць відавочным; абнародаваць, публікаваць.

**propians, ntis** блізкі.

**propina**, ae *f* 1) права на пашу; 2) гасціна; баляванне; 3) пасада ці які-небудзь занятак; 4) гадавы прыбытак біскупа ці каноніка, што ўступіў на пасаду, які належала аддаваць Папе Рымскаму.

**propinatio**, onis *f* (propino) 1) [**propinacya** *пл.*] продаж напояў; 2) прыбытак ад продажу напояў, асабліва гарэлкі.

**propinator**, oris *m* (propino), oris карчэмнік.

**propino** 1. 1) піць за каго-небудзь; 2) даваць піць; 3) гандляваць напоямі; 4) дастаўляць; даваць.

**propinquitas**, atis *f* (propinquus) [**близкость** *стб.*] права роднасці; блізкасць: ~ **naturalis** [**близкость прирожоная** *стб.*] крэўная роднасць; **propinquitatem habere** [**близкость мети** *стб.*] мець спадчыну.

**propinquo** 1. (propinquus) *intr.* 1) набліжацца; надыходзіць; 2) прыспешваць; 3) даводзіць да выніку; 4) межаваць.

**propinquus**, a, um (prope) [**ближний** *стб.*] блізкі, бліжэйшы; бліжні: **in propinquo** [**близко** *стб.*] блізка, паблізу; недалёка.

**propinquus**, i *m* (prope) блізкі, родзіч, але не ў прамой лініі, а напр. дзядзька, пляменнік, стрыечны брат і да т. п., *гл.* **consanguineus**.

**propior**, propius *adi. compar.* [**ближний** *стб.*] бліжэйшы; бліжні; [**ближший** | **близкий** *стб.*] які мае пераважнае права.

**proplacito** 1. абараняць каго-небудзь у судзе.

**propola**, ae *m* 1) гандляр; купец; 2) перапрадавец; перакупнік; 3) крамар.

**propositio**, onis *f* (propono) 1) прапанова; 2) [**жалоба** *стб.*] скарга; пазоў / іск; абвінавачванне.

**propositor**, oris *m* 1) той, хто пытае; 2) той, хто прапаноўвае; 3) віначэрп; 4) падчашы.

**propositum**, i *n* (propono) 1) падстава; рашэнне: **in proposito** у дадзеным разе; 2) задума, намер; 3) спосаб жыцця; 4) тэма; прапанова; 5) меркаванне; сцвярджэнне; 6) прэтэнзія, заяўленая пісьмова адным з суцяжных бакоў, пасля таго, калі суд зрабіў ужо неабходныя расследаванні па справе, пасля так званых калькуляцыі і верыфікацыі (падліку і спраўджвання). Адказ на гэтую прэтэнзію, таксама пісьмовы, называўся **repositum**. Гэта звычайна выказвалі тэрмінамі: **pretensya in proposito, pretensya in reposito**; 7) прыклад для наследавання; 8) прэтэнзія да кагосьці; 9) манастырская абшчына.

**proprietarius**, ii *m* (proprietas) уласнік; законны ўладальнік.

**proprietas**, atis *f* (proprius) 1) [**властность** *стб.*] уласнасць: **ius proprietatis** права ўласнасці; ~ **nuda** голае права ўласнасці без атрымання карысці ад ужываннай маёмасці; ~ **ad tempus** часовая ўласнасць; 2) уласнасць; уладанне, маёмасць; 3) спадчынная і саманабытая маёмасць; 4) багацце; 5) асаблівасць; 6) уласцівы сэнс: **ad proprietatem accipere** прымаць нешта літаральна; 7) статус палоннага; 8) асаблівыя малітвы ў дні дадзенага святога.

**proprius**, a, um [**власный** | **властный** | **влостный**; **свой** *стб.*] уласны; свой.

**proprius**, i *m* 1) кліент; 2) васал; 3) падданы; 4) слуга; служыцель.

**propter** *adv., praep. cum acc.* [**для** *стб.*] дзеля, з-за, з прычыны.

**propterea** *adv.* [**ведже** | **веджо**; **вшакже** | **вшакжо** | **вшенже** *стб.*] таму, з той прычыны; бо, усё ж; але, аднак.

**prorata**, ae *f* роўнасць; прапорцыя.

**prorector**, oris *m* прарэктар — высокі ўніверсітэцкі службовец ніжэйшы рангам за рэктара.

**prorogatio**, onis *f* (prorogo) працяг ці падаўжэнне якога-небудзь права, дадзенага на вызначаны тэрмін, *гл. тс.* **prolongatio**.
**prorogo** 1. 1) [**откладывати | отложити** *стб.*] адкладаць, падаўжаць, пераносіць; чакаць; 2) [**розложити** *стб.*] раздзяляць; размяркоўваць.
**prorsus**, a, um *adi.* просты, прамы.
**proscribo**, scripsi, scriptum, ere 1) пісаць, пісьмова выкладаць; 2) пастанаўляць; 3) публічна абвяшчаць; 4) пісьмова абвяшчаць пра публічны продаж чыёйсьці маёмасці (*напр.* за даўгі); 5) канфіскоўваць; 6) [**выволати** *стб.*] высылаць, выганяць.
**proscriptio**, onis *f* (proscribo) 1) пісьмовае абвяшчэнне, аб'ява; 2) публічны продаж; 3) [**proskrypcya** *пл.*] выгнанне з айчыны.
**prosecutio**, onis *f* (prosequor) 1) канвой, экскорт; 2) суправаджэнне кагосьці; 3) настаўленне; напамін; 4) праслед; 5) праходжанне следам.
**prosecutor**, oris *m* (prosequor) 1) канваір; 2) суправаджальнік; 3) тое ж, што і пракуратар — асоба, упаўнаважаная іншым, якая вядзе яго справу.
**prosecutorialis**, e 1) суправаджальны; 2) які ідзе разам; наступны.
**prosequor**, secutus sum, sequi 1) суправаджаць кагосьці, праводзіць; ісці следам; 2) праследаваць; 3) [**prosekwować** *пл.*] весці чыю-небудзь справу; дбаць аб чыімсьці інтарэсе; 4) пацвярджаць што-небудзь судовым парадкам; 5) [**искати** *стб.*] шукаць, расшукваць; дамагацца; пазываць / прад'яўляць іск; спаганяць.
**proservio** 4. апрацоўваць для сябе чыюсьці зямлю і плаціць за яе аброк.
**prospector**, oris *m* (prospicio) 1) той, хто прадбачыць; 2) той, хто клапоціцца пра нешта; 3) член камісіі, якая наглядае за грэблямі і каналамі.
**prostitutio**, onis *f* (prostituo) 1) распуста; прастытуцыя; 2) прыніжэнне; зневажэнне; грэбаванне.
**prostratio**,onis *f* (prosterno) [**prostracya** *пл.*] 1) самае пакорлівае ўшанаванне; упаданне да зямлі ці зямны паклон. У касцёльных каталіцкіх абрадах гэтая праява глыбокай пашаны ўжывалася вельмі часта; 2) аслабленне, заняпад сіл; непрытомнасць.
**Protasius M.** 19 чэрвеня.
**protelatio**, onis *f* (protelo) адклад, адтэрміноўка.
**protelo** 1. 1) адкладаць, адтэрміноўваць; падаўжаць; 2) прыцягваць; наклікаць; 3) павялічваць; памнажаць.
**proterrarium**, ii *n* лен.
**protervia**, ae *f* (protervus) 1) зухваласць; нахабства; 2) мяцеж, бунт.
**protestatio**, onis *f* (protestor) [**protestacya** *пл.*] пратэстацыя, заява супраць чагонебудзь, скарга на подступ, гвалт ці крыўду.
**protestor** 1. 1) публічна заяўляць, абвяшчаць; 2) сведчыць аб чымсьці; 3) пратэставаць.
**prothoconsul**, is *m* бурмістр.

**protocollum**, i *n* (ад гр. **protos** першы і **kolla** клей, злучэнне) [**protokół** *пл.*] 1) першы, далучаны да кнігі ліст, у якім выкладаецца змест усяго наступнага; 2) напісанае што-небудзь сціслa, на скорую руку і якое патрабуе больш падрабязнай і дакладнай апрацоўкі; 3) кніга для запісу публічных актаў; 4) пратакол, пратакольны запіс: ~ **decretorum** [**protokół dekretowy** *пл.*] пратакол рашэнняў, якія былі прыняты ў судзе. У пратакол гэты ўносіўся кароткі змест рашэнняў суда; ~ **inscriptionum perpetuarum** [**protokół przyznań i aktykacyi** *пл.*] актавы пратакол, у які ўносіліся ўсе яўкі і асабістыя сазнанні да занясення іх у актавыя кнігі. Ён устаноўлены Статутам ВКЛ у 1588 годзе, разд. IV, арт. 103; ~ **manifestationum** [**protokół potoczny** *пл.*] пратакол скаргаў і заяў, якія заносіліся ў суд; ~ **relationum** [**protokół potoczny** *пл.*] пратакол данясенняў возных пра ўводы ва ўладанні, пра асведчанне параненых і забітых, пра зробленае спусташэнне ці рабаванне і да т. п.

**protodomesticus**, i *m* прыдворны саноўнік.

**protonotarius**, ii *m* [**protonotaryusz** *пл.*] протанатарый. Протанатарыі былі ўстаноўлены папай Клімэнтам для складання жыццяў св. мучанікаў. Пазней протанатарыяў у папскай канцылярыі стала 12, і яны называліся ўжо — **participantes** удзельнікі — гэта прэляты, што здзяйснялі акты самых важных спраў.

**prototabellio**, onis *m* урадавы пісар.

**Protus et Hiacinthus** 11 верасня.

**prout** *conj.* [**яко** *стб.*] як, як быццам, так… як.

**provassalus**, i *m* васал, які ўносіць падатак ад імя іншых васалаў.

**provenio**, veni, ventum, ire 1) выходзіць; выступаць; 2) [**прийти | приходити** *стб.*] пераходзіць; 3) наступаць.

**proventus**, us *m* (provenio) 1) ураджай; 2) [**доход** *стб.*], [**prowent** *пл.*] прыбытак; прыход, паступленне; 3) шчаслівы вынік; 4) прырост; 5) падатак; грашовая даніна.

**proverbia**, orum *n pl.* умовы, дапушчальныя ці прынятыя пры складанні дамовы.

**provideo**, vidi, visum, ere [**prowidować** *пл.*] 1) [**осмотрети** *стб.*] аглядаць; прасочваць; 2) забяспечваць (правіянтам); мець апеку над кімсьці; 3) кіраваць; 4) набываць, здабываць; авалодваць.

**providus**, a, um (provideo) абачлівы (сталы эпітэт на азначэнне вознага).

**provincia**, ae *f* [**земля** *стб.*] зямля (вобласць ВКЛ); край, краіна; правінцыя; дзяржава.

**provisa**, ae *f* запас харчовых прадуктаў і іншых неабходных рэчаў.

**provisio**, onis *f* (provideo) [**prowisya** *пл.*] 1) запас харчовых прадуктаў; 2) працэнт, ліхва; 3) плата за заканчэнне якой-небудзь справы ці інтарэсу; 4) гасціна; баль; 5) дыплом на якую-небудзь пасаду.

**provisionatus**, a, um 1) прызначаны на якую-небудзь пасаду; 2) які жыве на чужы кошт.

**provisor**, oris *m* (provideo) 1) распарадчык, наглядчык, правізар: ~ **castrorum** замкавы правізар; ~ **praedii** фальварачны правізар; ~ **silvarum** асочнік — наглядчык за звярамі ў лясах; аблаўнік; 2) апякун шпіталя; аптэкарскі памочнік; 3) каталіцкі саноўнік, які кіраваў духоўнымі ўладаннямі; 4) кіраўнік вучэльні ці брацтва; 5) загадчык якой-небудзь установы ці гандлёвага дома. Правізарамі называліся таксама саноўнікі, прызначаныя соймам накшталт інтэндантаў для збірання грошай, неабходных для прадбачанай вайны. Так, у 1590 годзе прызначаліся правізары ад сойма для збору грошай на блізкую вайну з туркамі, з кароны ці Польшчы да мільёна, а з Вялікага Княства Літоўскага да пяцісот тысяч злотых. Vol. Leg. II, f. 1321.

**provisorialis**, e [**prowisoryalny** *пл.*] часовы, прызначаны на час.

**provoco** 1. 1) выклікаць; 2) заклікаць; заахвочваць; пабуджаць; 3) [**отзывати, отзывати ся | отозвати ся** *стб.*] адзывацца / апеляваць; звяртацца.

**proximo** *adv.* [**наближей** *стб.*] найбліжэй.

**proximus (proxumus)**, a, um *superl. v.* **propior** [**ближший | близкий | близший** *стб.*] найбліжэйшы; блізкі, недалёкі.

**prudens**, entis *adi.* 1) абазнаны, дасведчаны; 2) адважны; ваяўнічы.

**Publicani et pharisaei (dominica)** 1-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.

**publicatio**, onis *f* (publico) 1) публічнае абвяшчэнне, аб'ява; заява; 2) канфіскацыя маёмасці выгнанца на карысць дзяржавы; 3) [**заповедь** *стб.*] запаведзь / забарона.

**publico** 1. (publicus) 1) [**оповедати, оповедати ся | оповедити | оповедити ся** *стб.*] абвяшчаць, паведамляць; заяўляць; 2) [**выволати** *стб.*] абвяшчаць выгнанцам; 3) канфіскоўваць, аддаваць у скарб; 4) [**заповедати** *стб.*] заказваць / забараняць.

**publicum**, i *n* 1) падатак, мыта; 2) грамадскі скарб.

**publicus**, a, um 1) [**посполитый** *стб.*] паспаліты / публічны, грамадскі; дзяржаўны: **publico ore declarare aliquid** заяўляць што-небудзь публічна, урачыста; ~ **publicanus** публічны суддзя; 2) [**явный** *стб.*] яўны, адкрыты, відавочны; сапраўдны; 3) [**певный** *стб.*] пэўны; 4) [**волный | вольный** *стб.*] вольны / дазволены; свабодны; публічны.

**publicus**, i *m* 1) публічны нявольнік; 2) пахолак; 3) дзяржаўны ўраднік; 4) падданы каралеўскага скарбу.

**Pudentiana V.** 19 траўня.

**puella**, ae *f* (puellus) 1) [**девка** *стб.*] дзеўка, дзяўчына; дачка; 2) *гл.* **formosa**.

**puer**, eri *m* 1) хлопец; дзіця: **pueri** [**дети** *стб.*] дзеці; 2) чалавек (залежны); слуга; падданы; 3) сын; 4) малодшы клерык; 5) нявольнік.

**puerilis**, e (puer) [**детиный** *стб.*] дзяцінны, дзіцячы.

**pugillus**, i *m demin.* 1) кулак; жменя; 2) мера аб'ёму.

**pugio**, onis *m* (pungo) кінжал ці штылет, кароткая шпада / шпага.

**pugna**, ae *f* (pugno) 1) бітва; 2) двубой / дуэль: **pugnarum expurgatio** штраф за двубой / дуэль.
**pugneria**, ae *f* мера колькасці збожжа.
**pulla**, ae *f* 1) [**stawnia** *пл.*] стаўня / калода (у т. л. і на пчол); 2) выдзеўбаная калода, у якую складалі на зіму гародніну (буракі, капусту). Яна служыла таксама пэўнай мерай. Уладзіслаў Ягайла ў 1391 годзе прызначыў Медніцкаму касцёлу **mediam pullam** [**półstawnie** *пл.*] **mellis**, г. зн. паўстаўні / паўкалоды мёду.
**pullus**, a, um [**молодый** *стб.*] малады, юны; малы.
**pullus**, i *m* маладая жывёліна: ~ **equae**; ~ **iumenti** [**жеребец** *стб.*] жарабец / жарабок.
**pulsans**, ntis *m* 1) абвінаваўца; 2) пазоўнік / ісцец.
**pulsator**, oris *m* (pulso) пазоўнік / ісцец.
**pulsatus**, i *m* (pulso) 1) абвінавачаны; 2) пазваны / выкліканы ў суд.
**pulsatus**, us *m* 1) просьба; 2) малітва.
**pulso** 1. *intens.* пазываць / выклікаць у суд, *гл.* **cito**.
**punctum**, i *n* (pungo) 1) кропка; пункт; 2) пункт, артыкул: **puncta extremae voluntatis** пункты апошняй волі, *гл.* **testamentum**.
**punga**, ae *f* мяшок; торба.
**punio** (poenio), ivi [**карати | скарати** *стб.*] караць, паддаваць пакаранню: ~ **capite** [**карати | скарати горлом** *стб.*] караць горлам, вешаць; ~ **igne** [**карати огнем** *стб.*] караць агнём, спальваць.
**pupillus**, i *m demin.* 1) дзіця: ~ **esse** [**лет не дорости, не мети** *стб.*] не дасягнуць паўналецця; **pupilli** [**дети** *стб.*] дзеці; непаўналетнія; выхаванцы; **pupillorum** [**детиный** *стб.*] дзяціны, дзіцячы; 2) [**сирота** *стб.*] сірата.
**purgrabius** *гл.* **burg(g)rabius**.
**Purificatio B. V. M.** 2 лютага.
**putredo**, inis *f* (putreo) гніль: **putredine viciatus** сапсаваны гніллю, падгнілы.

## Q

**Quadragesima** 1) чатырыдзясятніца — Вялікі Пост; 2) 1-я нядзеля Вялікага Посту.
**Quadraginta Martyres** 10 сакавіка.
**quadrale**, is *n* чацвёртая частка.
**quadrupes** (quadripes), pedis *m*, *f* [**быдло | быдля** *стб.*] быдла, жывёла, скаціна.
**quadrus**, i *m* (quattuor) 1) чацвёртая частка спадчыны; 2) мера плошчы.
**quaero**, quaesivi, quaesitum, ere 1) шукаць; 2) [**трести** *стб.*] трэсці / рабіцьператрус, абшукваць.
**quaesitus**, a, um [**набытый** *стб.*] набыты.
**quaeso**, —, —, ere 3. прасіць.
**quaesta**, ae *f* 1) падатак, які вымагаецца, патрабуецца; 2) збіранне; выпрошванне міласціны.

**quaestio**, onis *f* (quaero) 1) пытанне; 2) даследаванне; 3) судовае расследаванне; 4) задача; праблема; 5) спрэчка; 6) *гл.* **quaesta**.

**quaestionarius**, ii *m* (quaestio) 1) суддзя; 2) мяснік; 3) збіральнік міласціны для сябе ці для іншых.

**quaestiono** 1. (quaestio) 1) распытваць; 2) расследаваць; 3) мучыць.

**quaestor**, oris *m* 1) квэстар — судовы ці скарбовы ўраднік; 2) скарбнік: ~ **templi**; ~ **aerarii sacri [wytrykus, wytrykusz** *пл.*] наглядчык касцёла і захавальнік касцёльных рэчаў і касцёльнай касы, выбіраны з асоб, не прыналежных да духавенства; касцёльны стараста. Аднак ён меў права публічна, з катэдры, аб'яўляць народу ўрадавыя распараджэнні па даручэнні зверхнікаў; 3) дастаўшчык харчовых прыпасаў і іншых патрэбных для жыцця рэчаў; 4) абаронца справы, адвакат; 5) крэдытор, які патрабуе ад даўжніка сваёй уласнасці; 6) *гл.* **capitaneus**.

**qualificatus**, a, um высакародны, вядомы сваімі якасцямі ці паходжаннем.

**qualitercunque** *adv.* якім бы ні было чынам, як бы ні.

**quamvis** *adv.* [**ач-кольве** *стб.*] 1) нягледзячы на тое што; 2) хоць.

**quantifico** 1. рабіць вялікім.

**quantum**, i *n* [**иле** *стб.*] колькі.

**quapropter [прото** *стб.*] таму; дзеля таго; пры гэтым.

**Quarantena (dominica)** 1-я нядзеля Вялікага Посту.

**quarta**, ae *f* [**kwarta** *пл.*] 1) чацвёртая частка, чвэрць; 2) чацвёртая частка прыбытку з каралеўскіх сталовых уладанняў, са старастваў і дзяржанняў / часовых валоданняў на абарону Рэчы Паспалітай. Яна збіралася наступным чынам: з усіх прыбыткаў ад згаданых уладанняў вылучалася частка на ўтрыманне старасты ці дзяржаўцы / арандатара; астатнія прыбыткі падзяляліся на чатыры часткі, з якіх чацвёртая прызначалася на абарону айчыны. Vol. Leg., a. 1562, II, f. 616; 3) **quadrupla ~ [kwarta kwadrupla** *пл.*] чацвёртая кварта — падатак з каралеўскіх уладанняў, які плацілі новыя данатарыі — атрымальнікі з аддаваных у іх валоданне старастваў і дзяржанняў / часовых валоданняў за першы год. Vol. Leg. IV, f. 529; 4) чацвёртая частка літоўскага шынковага гарнца. Польская кварта была роўнай чацвёртай частцы польскага гарнца.

**quartagium** *гл.* **quartarium**.

**quartalata**, ae *f* мера плошчы.

**quartale**, is *n* 1) [**чверть** *стб.*] чвэрць; 2) 1/4 посуду, ёмістасцю ў адзін карэц; 3) квартал (3 месяцы).

**quartalitia, quartalitia puellaris [czwarty grosz** *пл.*] — т. зв. чацвёрты грош. У Польшчы быў звычай, паводле якога дочкі атрымлівалі з бацькоўскай маёмасці чацвёртую частку. У Літве-Беларусі гэты звычай з 1529 года атрымаў моц закону.

**quartarium**, ii *n* чацвёртая частка нейкай рэчы.

**quartualis**, e трохмесячны, квартальны: ~ **terminus** трохмесячны тэрмін.

**quartus**, a, um [**четвертый** *стб.*] чацвёрты.

**Quasimodo geniti (dominica)** 2-я нядзеля па Вялікадні.

**quatuor** [**чотыри** *стб.*] чатыры; [**четверакий** *стб.*] чатыры (разы), чатырохразова.

**Quatuor tempora** [**suchedni** *пл.*] сціслы пост у сераду, пятніцу і суботу, які захоўваўся: a) пасля 3-й нядзелі Каляднага посту (**Adventus**), b) пасля першай нядзелі Вялікага Посту, c) пасля свята Устанаўлення Святога Крыжа.

**quemadmodum** [**яко** *стб.*] як, як быццам, так... як.

**quercus**, us *f* [**дуб** *стб.*] дуб.

**querela**, ae *f* [**kwerela** *пл.*] 1) [**жалоба** *стб.*] скарга; пазоў / іск; абвінавачванне; 2) скарга, разгляд. Так называліся справы меншай важнасці ў старажытных гродскіх судах. Справы гэтыя разбіраліся і вырашаліся гродскім пісарам, аднак з правам апеляцыі да старасты. Для такога разгляду вызначаліся адмысловыя тэрміны, якія называліся **termini querelarum.** Яны пачыналіся за два тыдні перад гродскімі тэрмінамі судаводства.

**querelans**, ntis *m* пазоўнік / існец як працэсуальны бок.

**querelo** 1. скардзіцца на што-небудзь.

**queror**, questus sum, queri [**обжаловати** *стб.*] 1) скардзіцца на каго-небудзь перад судом, пазываць / выклікаць у суд; вінаваціць; 2) абскарджваць.

**querulans**, antis *m* скаржнік / пазоўнік / існец.

**querulatia**, ae *f* [**kwerulacya** *пл.*] скарга.

**querulator**, oris *m* [**жалобник** *стб.*] скаржнік / пазоўнік / існец.

**querulatus**, a, um абскарджаны.

**questionalis**, e абвінавачы.

**questus**, us *m* (queror) 1) заробак; прыбытак: ~ **vulgariter dictus pozyem** [**позем** *стб.*] позем — узнагарода (за злоўленую беглую чэлядзь); 2) карысць; 3) скарга; 4) нараканне; лямант; 5) саманабытая маёмасць; 6) суполка купцоў, якія жывуць са сваіх прыбыткаў; 7) *гл.* **quaesta**.

**quia** coni. [**бо; же | жо** *стб.*] бо; жа; што.

**quicumque**, quaecumque, quodcumque [**который-кольве | который-кольвек; всякий** *стб.*] які-колечы, які-небудзь; хто-колечы, хто-небудзь; усялякі, кожны, любы.

**quid** [**что | што** *стб.*] што; як; колькі.

**quidem** *coni.* [**ж | же | жо** *стб.*] жа; і; бо.

**quies**, etis *f* 1) спакой; 2) адпачынак; спачын; 3) сон; 4) [**kwitacya** *пл.*] задаволенне, запіс пра задаволенне, тое ж, што і **quietatio**, з той толькі розніцай, што **quies** часцей азначае запіс пра задаволенне за нанесеныя крыўды, пра выплату штрафу, галаўшчыны і да т. п.

**quietantia**, ae *f* 1) квіт; квітанцыя; 2) саступка; звальненне ад доўгу.

**quietatio**, onis *f* (quieto) 1) адпачынак; супакаенне; 2) *гл.* **quietantia;** 3) [**zapis kwitacyjny** *пл.*] заява крэдытора ў судзе пра выплату даўжніком пэўнай су-

мы; з прычыны гэтай выплаты маёмасць даўжніка вызваляецца з-пад закладу.

**quietator**, oris *m* асоба, якая саступае ці звальняе.

**quieto** 1. 1) адплачываць, спачываць; спаць; 2) супакойваць; утаймоўваць; 3) даваць квітанцыю; 4) звальняць ад даўгоў.

**quietus**, a, um (quies) 1) супакоены; 2) вольны.

**quilibet**, quaelibet, quodlibet [**всякий** *стб.*] усялякі, кожны, любы.

**quindecim** *num.* (quinque) [**пятнадцать** *стб.*] пятнаццаць.

**quindena**, ae *f* 1) пятнаццаць; 2) два тыдні.

**quindeniatio**, onis *f* паручальніцтва.

**quindeniator**, oris *m* паручальнік.

**quindennium**, ii *n* 1) тэрмін унясення падатку пры папскім двары; 2) пэўная частка гадавой выплаты.

**Quinetinus M.** 13 кастрычніка.

**quingentenarius**, i *m* камандзір аддзела з 500 жаўнераў.

**Quinquagesima (dominica)** нядзеля пачатку Вялікага Посту.

**quinquaginta** *num.* [**пятьдесят** *стб.*] пяцьдзесят: ~ **grossi** [**полтина** *стб.*] палціна — пяцьдзесят грошаў.

**quinque** *num.* [**пять** *стб.*] пяць.

**Quinque panum (dominica)** нядзеля пяці хлябоў, 4-я нядзеля Вялікага Посту.

**Quintana (dominica)** 1-я нядзеля Вялікага Посту.

**quintus**, a, um (quinque) [**пятый** *стб.*] пяты.

**Quirinus tribunus M.** 30 сакавіка.

**quis**, quid *pron.* хто; хтосьці: **ne quis** [**жадный** *стб.*] ніякі; ніхто, ніводзін.

**quispiam**, quaepiam, quodpiam *pron.* [**хто бы кольве** *стб.*] хто-небудзь, хто-колечы.

**quisquam**, quaequam, quidquam *pron.* [**хто бы кольве** *стб.*] хто-небудзь, хто-колечы: **ne quisquam** [**жадный** *стб.*] ніякі; ніхто, ніводзін.

**quitantia** *гл.* **quietantia**.

**Quiuracus M.** 5 сакавіка.

**quo** *adv.* [**куды** *стб.*] куды.

**quod** [**же | жо, жебы | жем; ижбы, штобы** *стб.*] што, каб; жа, бо: **quod absit** [**Боже уховай** *стб.*] Божа, ухавай / Божа, барані.

**quoniam** *coni.* [**бо** *стб.*] бо; таму.

**quota**, ae *f* колькасць падатку, якая ўносілася пану ці ўладальніку.

**quotannis** *adv.* штогод.

**quotcumque** [**колько-кольвек** *стб.*] колькі-небудзь.

**quotdiebus** *adv.* штодня.

**quotidianus**, i *m* нявольнік, які ніколі не быў вольны ад служэння, які служыў штодзённа.

**quotmensibus** *adv.* штомесяц.

**quotquot** *num. indecl.* [**колько** *стб.*] некалькі; колькі.

**quousque** *adv.* [**поки | поколь | покуль** *стб.*] датуль; пакуль.

**qwarandia**, ae *f* 1) улада; 2) абарона; каўцыя / забеспячэнне; гарантыя.

## R

**Radegundis V.** 11 жніўня.

**radio** 1. 1) выпраменьваць, прамяніцца; блішчэць; 2) рабіцца славутым; 3) вынішчаць; скасоўваць.

**raedarium**, ii *n* дарожная плата ад воза.

**ragacius**, ii *m* прыдворны, слуга.

**Ramis palmarum (dominica)** Пальмовая нядзеля.

**rancor**, oris *m* (ranceo) 1) гнеў, злосць; таемная альбо старая нянавісць; зацятасць; 2) скарга; пазоў / выклік у суд.

**rancoro** 1. выступаць са скаргай.

**raphalis**, is *m* фальварак.

**rapina**, ae *f* (rapio) [**грабеж** *стб.*] грабеж, рабаванне, абрабаванне; захоп; захопленая (за даўгі) маёмасць: **rapinam facere (committere)** [**грабити** *стб.*] адбіраць (маёмасць за даўгі), здзяйсняць захоп у адказ за захоп.

**rapio**, rapui, raptum, ere 1) [**побрати** *стб.*] браць; забіраць; 2) [**пограбити** *стб.*] грабіць / рабаваць; 3) [**пограбити | грабити** *стб.*] захопліваць самасудам; захопліваць (быдла на патраве), адбіраць сілай (доўг альбо ўкрадзенае); рабаваць; захопліваць (чужую маёмасць).

**raptio**, onis *f* (rapio) 1) [**бранье** *стб.*] рабаванне; адбіранне; 2) [**грабеж** *стб.*] грабеж / захоп (за патраву).

**raptito** 1. *intens.* [**грабити | пограбити** *стб.*] грабіць, рабаваць; захопліваць (чужую маёмасць).

**rasaria**, ae *f* 1) мера колькасці збожжа; 2) мера зямельнай плошчы.

**rasta**, ae *f* геаграфічная ці нямецкая міля.

**rata**, ae *f* частка, якая дасталася каму-небудзь.

**ratificatio**, onis *f* [**ratyfikacya** *пл.*] пацвярджэнне, ухвала; прызнанне.

**ratifico** 1. 1) [**потвердити | потвержати** *стб.*] пацвярджаць, зацвярджаць, ухваляць (які-небудзь акт); 2) сцвярджаць.

**ratihabeo**, ui, itum, ere пагаджацца з чым-небудзь, даваць згоду на штосьці; пацвярджаць.

**ratihabitio**, onis *f* (ratum) ухвала, згода; прыняцце; пацвярджэнне: **pro ratihabitione cavere** засведчваць ці ручацца каму-небудзь у згодзе іншай асобы.

**ratio**, onis *f* (reor, ratus) 1) [**розум** *стб.*] розум; 2) [**память** *стб.*] памяць, прытомнасць, свядомасць; 3) права; справа; суд: **rationes [spory o należytości skarbowey** *пл.*] спрэчкі пра скарбовую ўласнасць, якія абавязаны быў вырашаць вялікі падскарбій. Vol. Leg., a. 1504, I. f. 297; 4) рэч; 5) рэгіён; абсяг; 6) уладанне; 7) рацыён, які выдаецца жаўнерам.

**rationabilis**, e (ratio) 1) разумны; 2) [**слушный** *стб.*] слушны; належны, адпаведны; законны; абгрунтаваны; паважлівы; 3) які не выходзіць за межы; які трымаецца сярэдзіны; 4) прыдатны, здольны; 5) праўдзівы; справядлівы.
**rationale**, is *n* пэктарал — нагрудны крыж у вышэйшага духавенства.
**rationalis**, is *m* (ratio) 1) рахункавы ўраднік; 2) імператарскі падскарбнік; 3) эканом; 4) бурмістр; 5) здольнасць разумення; 6) розум.
**rationalitas**, atis *f* (rationalis) 1) розум, разважлівасць; 2) здольнасць разумення.
**rationatio**, onis *f* аргумент.
**ratus**, a, um *part.* 1) палічаны; пазначаны; 2) пэўны; вызначаны; 3) пацверджаны; прызнаны; правамоцны: **pro rato et grato habere** пагаджацца на што-небудзь, пацвярджаць.
**rauba**, ae *f* 1) здабыча; трафей; 2) вопратка, здзёртая з ворага; 3) каштоўныя прадметы; 4) прылады; 5) адзенне; 6) бялізна.
**raubaria**, ae *f* 1) абіранне; рабаванне; 2) здабыча; 3) права на захоп рухомасці памерлага біскупа.
**reaforesto** 1. прыводзіць да ранейшага стану знішчаны лес.
**reassumo**, sumpsi, sumptum, ere [**reassumować** *пл.*] аднаўляць; зноў пацвярджаць.
**reassumtio**, onis *f* [**reassumacya** *пл.*] аднаўленне ці наданне ранейшай моцы якой-небудзь пастанове, закону ці судоваму вызначэнню.
**reatus**, us *m* (reus) 1) вінаватасць; 2) абвінавачванне; 3) стан падсуднага; падсуднасць; знаходжанне пад судом. Слова гэтае супастаўляецца са словам **actoratus** — пазоў / выклік у суд, так напр. гаворыцца: што каралеўскія сяляне асуджаліся ў задворным асэсарскім судзе **tam ex actoratu, quam ex reatu**, *гл.* **actoratus**.
**rebellio**, onis *f* (rebellis) 1) паўстанне; бунт, мяцеж: **rebellionem facere** узнімаць бунт; 2) непадпарадкаванне суду; 3) аднаўленне вайны.
**recado**, cidi, casum, ere занепадаць.
**recapitulatio**, onis *f* (recapitulo) паўтор галоўных раздзелаў ці артыкулаў.
**recedo**, cessi, cessum, ere 1) [**отийти | отходити** *стб.*] сыходзіць, адыходзіць; адступаць, адхіляцца; губляць: ~ **a foro proprio** адступаць ад свайго суда, мець справу ў судзе не свайго павета ці ваяводства, а ў судзе іншага павета, да якога пазоўнік / ісцец не належыць, *гл.* **iudicium proprium**; 2) [**отъеждчати | отъехати** *стб.*] ад'язджаць, з'язджаць; 3) саступаць.
**recens**, entis [**свежий** *стб.*] свежы.
**recepta**, ae *f* 1) спагнанне падаткаў; 2) збіранне грошай; 3) рэцэпт; 4) скупка крадзенага; 5) захоўванне выкрадзеных рэчаў.
**receptamentum**, i *n* хаванне злачынцаў.
**receptoria**, ae *f* спагнанне падаткаў.
**recessus**, us *m* (recedo) [**reces** *пл.*] 1) адступленне; 2) падзельная ўгода / здзелка і ўзаемная дамова спадкаемцаў; 3) адтэрміноўка якой-небудзь пастановы, датычнай гарадоў і прыватных асоб ад аднаго сойма да другога; 4) кніга / жур-

нал соймавых нарад; 5) запіс, паводле якога пазоўнік / ісцец, што падаў скаргу ў суд на каго-небудзь і заявіў да яго пэўныя прэтэнзіі, адступаецца ад сваёй скаргі і ад сваіх прэтэнзій.

**rechimburgius**, ii *m* суддзя, прызначаны для рашэння спрэчкі, камісар.

**recidiva**, ae *f* 1) аднаўленне; 2) рэцыдыў.

**recidivo** 1. здзяйсняць зноў тое ж злачынства.

**recipio**, cepi, ceptum, ere 1) браць назад, вяртаць; 2) браць, атрымліваць; здабываць; 3) [**переховати | переховывати** *стб.*] утрымліваць; захоўваць, хаваць: **recipiendum** [**бранье** *стб.*] спагнанне; адабранне; узяцце.

**recisus**, a, um *padi.* вылік; адлік.

**recito** 1. 1) чытаць услых; 2) [**отказати | отказывати** *стб.*] адказваць, трымаць адказ.

**reclamatio**, onis *f* (reclamo) [**reklamacya** *пл.*] 1) супраціў; пратэст; 2) нязгода; пярэчанне; 3) дамаганне, жаданне (вярнуць назад); 4) водзыў / апеляцыя да вышэйшай інстанцыі.

**reclamo** 1. 1) пратэставаць крыкам; гучна пярэчыць; 2) гучаць у адказ, адбівацца рэхам; 3) апеляваць: **ad regem** ~ апеляваць да караля; 4) патрабаваць чаго-небудзь назад судовым парадкам; 5) патрабаваць; дабівацца права; скардзіцца; 6) прасіць, упрошваць.

**reclusa**, ae *f* манашка, якая замкнулася ў келлі, пустэльніца.

**reclusio**, onis *f* (recludo) [**reklusya** *пл.*] 1) пустэльніцтва; 2) адзінота, самота; 3) арышт; увязненне / турэмнае зняволенне.

**reclusus**, i *m* пустэльнік, манах, які паддаў сябе больш строгай рэгуле, замкнуўшыся ад свету.

**recogitatio**, onis *f* (recogito) [**recogitacya** *пл.*] непазнаванне; непамятанне, забыццё.

**recognitio**,onis *f* (recognosco) [**rekognicya** *пл.*] 1) пісьмовае засведчанне, якім хто-небудзь прызнае штосьці; 2) удзячнасць; 3) сазнанне markdown вознага ў судзе пра тое, што ён уручыў пазоў каму належала ці выказваючыся звычайным у Літве-Беларусі юрыдычным тэрмінам, паклаў пазоў на пэўным маёнтку.

**recognosco**, novi, nitum, ere [**сознати** *стб.*] сазнаць / прызнаваць, прызнавацца, заяўляць.

**recompensa**, ae *f* кампенсацыя, задаволенне; ~ **quae vocatur nawyazka** [**везка | навезка | навязка** *стб.*] навязка / пакрыццё, кампенсаванне (за знявагу, збіццё, катаванні, раны, шкоду).

**Reconciliationis (dies)** Таемная Вячэра.

**reconcilio** 1. [**reconcyliować** *пл.*] 1) зноў асвячаць касцёл, спрафанаваны чымсьці ці кімсьці; 2) вяртаць ерэтыка ва ўлонне Касцёла; 3) прымусіць таго, хто каецца, зноў выспавядацца перад прыняццем Камуніі / Прычасця ва ўтоеных ці зноў учыненых грахах.

**reconductio**, onis *f* [**rekondukcya** *пл.*] карыстанне арэндай пасля заканчэння тэрміну, вызначанага ў кантракце, без аднаўлення гэтага кантракта.

**reconfinnatio**, onis *f* паўторнае пацвярджэнне.
**reconfirmo** 1. зноў пацвярджаць.
**reconstitutio**, onis *f* [**rekonstitucya** *пл.*] устанаўленне прыбытку, з умовай ужывання поўнай яго часткі на выплату доўгу.
**reconventio**, onis *f* [**rekonwencya** *пл.*] узаемная скарга, узаемны пазоў / выклік у суд, калі бок, пазваны ў суд, спадзяецца апраўдаць сябе і даказаць прычыненыя яму ўзаемныя крыўды; у такім разе ён прызначае тэрмін для свайго апраўдання, каб у той жа тэрмін пасяджэння суда ён мог атрымаць задавоаленне **pro indebita vexa**, г. зн. за прычыненыя яму несправядлівыя турботы. Такога тыпу скарга ці пазоў называўся **reconventionalis**.
**reconventionaliter** *adv.* згодна, адпаведна; узаемна.
**recordatio**, onis *f* (recordor) 1) успамін; 2) [**память** *стб.*] памяць; прытомнасць, свядомасць: **felicis recordationis** (*скар.* **f. r.**) святой памяці; 3) сведчанне.
**recte** *adv.* (rectus) [**добре** *стб.*] слушна, правільна.
**rectifico** 1. 1) аднаўляць, прыводзіць у ранейшы ці лепшы стан; 2) ухваляць; прызнаваць сапраўдным.
**rectitudo**, inis *f* (rectus) 1) прамое кіраванне; 2) адпаведны спосаб мыслення; 3) слушнасць, правільнасць; справядлівасць; 4) юрысдыкцыя; 5) артадоксія — праваслаўе.
**rector**, oris *m* (rego) кіраўнік, зверхнік: ~ **scholae** настаўнік; бакалаўр.
**rectum**, i *m* права (на якую-небудзь рэч): **ad** ~ **stare** ставаць перад судом.
**rectus**, a, um *part.* (rego) 1) просты, непасрэдны, прамы: **recto folio** на першай (ліцавой) старонцы аркуша; 2) слушны, правільны.
**recula**, ae *f* 1) маленькая рэч, дробязь; 2) дробная маёмасць.
**recupero** (recipero) 1. 1) вяртаць; спаганяць; 2) [**привернути** *стб.*] прывяртаць / дадаваць, далучаць.
**recursus**, us *m* (recurro) [**rekurs** *пл.*] апеляцыя на рашэнне суда.
**redditarius**, i *m* даннік.
**redditio**, onis *f* (reddo) 1) вяртанне; адданне; 2) падатак; мыта.
**redditus** *гл.* **reditus**.
**reddo**, didi, ditum, ere 1) [**отдавати | отдати, подати; ворочати | поворочати | вернути** *стб.*] аддаваць, перадаваць; вяртаць; 2) [**давати | даивати | дати** *стб.*] даваць, выдаваць; падаваць, прадстаўляць.
**redecima**, ae *f* дзясятая частка дзясятай часткі, сотая частка.
**redeo**, ii (ivi), itum, ire 1) ісці назад, вяртацца; 2) [**прийти | приходити; приехати** *стб.*] прыходзіць; прыязджаць; ставаць перад, з'яўляцца.
**redhibentia**, ae *f* прыбытак.
**redhibeo** (rethibeo), ui, itum, ere аддаваць, вяртаць.
**redhibitio** (rethibitio), onis *f* (redhibeo) [**redhibicya** *пл.*] вяртанне купленай рэчы.
**redimo**, emi, emptum (emtum), ere [**викупати | выкупити, окупати | окупити | откупити** *стб.*] выкупляць, адкупляць.
**redituarius**, ii *m* 1) леннік; 2) той, каму належыць аддаваць падатак.

**reditus** us *m* [**плат | платеж | поплата** *стб.*] плата, плацеж; адплата.

**redotalitium**, ii *n* вена — унёсак з боку жаніха як адказ узаемнасцю за пасаг нявесты.

**reduco**, duxi, ductum, ere 1) прыводзіць да пэўнага альбо ранейшага выгляду ці велічыні: ~ **aliquid ad antiquam praxim** прыводзіць што-небудзь да ранейшага ладу / стану, аднаўляць ранейшую практыку; 2) пераводзіць вартасць адной манеты на вартасць іншай, адну меру на іншую; 3) сціскаць, сцясняць; абмяжоўваць.

**reductio**, onis *f* (reduco) [**redukcya** *пл.*] 1) прывядзенне, вяртанне да ранейшага стану; 2) паніжэнне грашовага курса ці курса грашовых папер; 3) рэдукцыйная табліца — параўнальная табліца манет, мер, вагаў.

**redundo** 1. 1) разлівацца; 2) быць перапоўненым; 3) перавышаць; 4) [**зостати, зостати ся** *стб.*] заставацца; даставацца.

**reemptio**, onis *f* 1) выкуп; 2) [**wyderkaff** *пл.*] (ад ням. **wiederkaufen**) відэркаф — продаж чыншу з нерухомай маёмасці, з правам выкупу яе вотчыннікам; тое самае трэба разумець і пра сумы, якія называюцца **reemptionales** адкупнымі. Той, хто аддаў сваю суму на водкуп — відэркаф, не можа яе адбіраць; бо той, хто набыў прыбытак ад яе, не мае права адмовіцца ад яго, а права водкупу належыць толькі ўласніку ці прадаўцу. Больш падрабязна сказана пра выдэркафы ў Vol. Leg. I, f. 510; III, f. 956.

**referendarius**, ii *m* [**referendarz** *пл.*] рэферэндарый — саноўнік, абіраны самім каралём. Рэферэндарыі былі: два каронныя і два літоўскія; з іх два былі свецкія, а два духоўныя. Рэферэндарыі займалі другое месца пасля вялікіх сакратароў. Пасада рэферэндарыяў была заснавана ў 1507 годзе Жыгімонтам I. Яна першапачаткова палягала на тым, каб ад ранішняй Імшы да абеду, а ад абеду да вечара выслухоўваць скаргі прыватных асоб і паведамляць іх канцлерам для прадстаўлення каралю. У пазнейшы час рэферэндарыі паведамлялі толькі рашэнні на пададзеныя просьбы. Таксама на іх быў ускладзены абавязак сачыць толькі за скаргамі, а не за судамі, асабліва свецкімі, знаходзіцца пры каралю і даваць яму свае парады (Vol. Leg. I, f. 530). Пазней былі заснаваны рэферэндарскія суды: ~ **regni** каронны рэферэндарый.

**refero**, rettuli, relatum, ferre 1) [**поведати | поведети** *стб.*] казаць, распавядаць, паведамляць; сведчыць, заяўляць; даносіць; 2) [**подати** *стб.*] вяртаць, аддаваць; перадаваць.

**reformati ordinis s. Francisci** [**reformaci reguły ś. Franciszka** *пл.*] пераўтвораны / рэфармаваны каталіцкі манаскі Ордэн св. Францішка.

**reformatio**, onis *f* (reformo) 1) пераўтварэнне; перамена; 2) [**направованье** *стб.*] направа / выпраўленне, рэфармаванне; 3) аднаўленне; 4) адкупленне; адплата: ~ **dotis** [**reforma** *пл.*] аправа. Запіс за ўнесены жонкай пасаг роўнай яму сумы, забяспечанай на палове, а паводле Статута ВКЛ на трэцяй частцы ўсёй мужавай маёмасці (Vol. Leg., a. 1420, I, f. 73), а ў пазнейшы час на ўсёй маёмасці мужа, рухомай і нерухомай, і на ўсіх яго грашовых сумах.

**reformo** 1. 1) ператвараць, надаваць іншы выгляд; 2) [**поправити | поправляти** *стб.*] папраўляць, выпраўляць; 3) [**направити** *стб.*] аднаўляць: ~ **pacem** аднаўляць мір; 4) [**оправити | оправовати, отправити | отправовати** *стб.*] пакрываць (страты, шкоду); 5) [**записати | записывати, отписати | отписывати, пописати | пописывати** *стб.*] запісваць: **reformatus** [**оправеный, записаный** *стб.*] запісаны; 6) [**оправити | оправовати, отправити | отправовати** *стб.*] запісваць вена, надзяляць венам; 7) вяртаць; 8) лячыць.

**refragarius**, a, um які працівіцца грамадскім пастановам; непаслухмяны.

**refugium**, ii *n* (refugio) 1) прыстанішча, прытулак; 2) касцёльная свабода.

**refundo**, fudi, fusum, ere папраўляць; рамантаваць; аднаўляць: ~ **summam** уносіць, плаціць пэўную суму.

**refusio**, onis *f* (refundo) 1) паўторнае ўліванне чагосьці; 2) кампенсацыя; вяртанне страты: ~ **litis expensarum** кампенсацыя судовых выдаткаў.

**refuto** 1. 1) аспрэчваць, адкідаць; пагарджаць; 2) пакідаць якую-небудзь рэч і даваць на яе права іншаму.

**regalia**, ium 1) каралеўскае права ці прывілеі, якімі карысталіся каралі ў каталіцкіх краінах. Так згадвалася напр. права французскіх каралёў — карыстаць ца гадавым прыбыткам ад вакантных біскупстваў. Права гэтае было ўстаноўлена канкардатам паміж папай Львом X і першым французскім каралём; 2) каралеўскі скарб; 3) касцёльныя ўладанні, нададзеныя каралямі; 4) рэгаліі — знакі каралеўскай улады і годнасці; 5) падаткі, якія належаць каралю; 6) палацы.

**regalis**, e (rex) каралеўскі: ~ **census**, **solutio** ~ **vel ducalis** [**poradne** *пл.*] парадна — падатак, які плаціў нават сам кароль са сваіх уладанняў у выпадку вайны. І таму парадна мела дзве назвы, **solutio** ~ **seu ducalis**, і **solutio communis / civilis** — падатак каралеўскі і ўсеагульны. Długosz B. Rozd. 21; Rzysz. I, 102.

**regalitas**, atis *f* каралеўская веліч.

**regens**, ntis *m* 1) кіраўнік, начальнік, зверхнік: ~ **cancellariae** канцылярскі рэгент, кіраўнік канцылярыі; ~ **exercituum** вайсковы каштэлян; ~ **metricis regni** каронны рэгент; ~ **provinciae** намеснік правінцыі; 2) рэгент — найвышэйшы саноўнік у дзяржаве, які заступае месца караля; 3) рэгент гродскі ці рэгент гродскага суда — тое ж, што і кіраўнік канцылярыі. На ім ляжаў абавязак назіраць за правільнасцю і парадкам вядзення актавых кніг. Старасты мелі права прызначаць па некалькі рэгентаў і сусцэптантаў. Але ўся адказнасць за правільнасць вядзення актаў ляжала на рэгентах. І таму законам было прадпісана абіраць у рэгенты людзей заможных, тых, якія валодаюць нерухомай маёмасцю — **viros capaces et possessionatos** (Vol. Leg. VII, f. 698, 706). Рэгенты ў гродскіх судах былі тое ж, што і пісары ў земскіх; 4) прафесар універсітэта.

**regestrum** *гл.* **registrum**.

**Regiamons**, montis *m* [**Królewiec** *пл.*] Каралявец / Кёнігсберг.

**regimen**, inis *n* (rego) 1) кіраванне, кіраўніцтва: ~ **civitatis** кіраўніцтва горада; ~ **morum** кантроль і нагляд над грамадскай маральнасцю; 2) урад; найвышэйшая ўлада; 3) годнасць караля; 4) годнасць біскупа; 5) годнасць абата; 6) кіраўніцтва касцёла; 7) стырно.

**regimentarius**, ii *m* [**regimentarz** *пл.*] 1) увогуле, камандуючы войскамі, у прыватнасці, той, які заступае вакантнае месца гетмана; 2) камандуючы якой-небудзь часткай войска; 3) камандзір палка, намеснік гетмана.

**Regina V. M.** 7 верасня.

**regina**, ae *f* (rex) каралева.

**reginula**, ae *f* каралеўна.

**regio**, onis *f* (rego) [**земля** *стб.*] зямля (вобласць ВКЛ); край, краіна; дзяржава.

**Regiomontanus**, a, um каралявецкі / кёнігсбергскі.

**Regiomontanus**, i *m* жыхар горада Караляўца / Кёнігсберга.

**regionarii**, orum *m pl.* натарыі; дыяканы, субдыяканы і адвакаты — саноўнікі, якія прызначаюцца папай.

**registrum**, i *n* 1) [**реестр | рейстр** *стб.*], [**regiester**, **rejestr** *пл.*] рэестр; спіс прадметаў; запіс; рэгістр: ~ **scabinorum** вясковая лаўніцкая кніга; 2) рэгістр, рэестр, кніга, у якую ў судах Польшчы і Літвы-Беларусі запісваліся розныя справы, падлеглыя суду. Такіх кніг было некалькі відаў, галоўныя з іх: a) **registra summarii processus** [**regestra summaryine** *пл.*] сумарныя рэестры. У гродскіх судах у гэтыя рэестры сцісла ўпісваліся справы, якія тычыліся пазыковых абавязацельстваў — **obligationes**, выгнанняў з уладанняў — **expulsiones** і справы пра збеглых сялян; у земскіх судах — закладныя ўгоды / здзелкі — **obligationes** і звальненні ад іх — **exemptiones**, b) **registra ordinaria** [**regestra ordinaryine** *пл.*] ардынарыйныя (звычайныя) рэестры. У гродскіх судах у гэтыя рэестры сцісла ўпісваліся крымінальныя справы: гвалты, рабаванні, крадзяжы, падпалы, набегі ці наезды і да т. п. У земскіх судах ардынарыйныя рэестры называліся таксама рэестрамі цывільнымі, у якія запісвалі ўсе іншыя цывільныя / грамадзянскія справы, c) ~ **incarceratorum** рэестр арыштаваных, у які ў гродскіх судах упісваліся злачынцы, захопленыя на ўчынку і прадстаўленыя ў суд, d) ~ **termini tacti** [**regestr taktowy** *пл.*] тактавы рэестр, у які ў гродскіх і ў земскіх судах упісваліся крымінальныя злачынствы, асабліва гвалты, учыненыя на месцы, дзе вёўся суд альбо не далей адной мілі ў наваколлі ад гэтага месца, e) ~ **fisci** рэестр скарбу, у гэты рэестр ў гродскім судзе ўносіліся сцісла справы, датычныя мер і вагаў і іншых прадметаў, якія тычацца карысці ці шкоды скарбу, f) ~ **mixtum** змешаны рэестр, у які ў гродскім судзе ўносіліся справы разнаверцаў ці дысідэнтаў у выніку рэзалюцый пастаяннай вышэйшай каралеўскай рады, а разбіраліся гэтыя справы на судзе па заканчэнні аднаго тыдня пасля першай кадэнцыі, g) ~ **appellationum** [**regestr appellacyjny** *пл.*] рэестр апеляцый, які быў у Галоўным Літоўскім трыбунале; у гэты рэестр сцісла ўпісваліся апеляцыі на рашэнні судоў ніжэйшых інстанцый, h) ~ **contraventionum** [**regestr sprzeciwieństwa** *пл.*] рэ-

естр супрацівaў ці пярэчанняў на вызначэнні Галоўнага Літоўскага трыбунала, якія з'явіліся ў выніку апеляцый, i) ~ **officii** службовы рэестр, у які ўпісваліся сціcла скаргі на прамаруджванні пасяджэнняў судоў ніжэйшых інстанцый, k) ~ **obligationum [regestr obligowy** *пл.*] рэестр закладных угодаў ці пазыковых лістоў, які ўжываўся ў Галоўным Літоўскім трыбунале, l) ~ **casuale [regestr przypadkowy** *пл.*] рэестр выпадковы, усталяваны ў Галоўным Літоўскім трыбунале на неспадзяваныя выпадкі, m) ~ **criminum recentium [regestr cryminałów świeżo popełnionych** *пл.*] рэестр нядаўна ўчыненых крымінальных спраў. Ён быў устаноўлены ў Галоўным Літоўскім трыбунале і адрозніваўся ад тактавага рэестра тым, што не абмяжоўваўся месцам, n) ~ **extracadentiale [regestr extracadencyonny** *пл.*] рэестр экстракадэнцыйны, у які сціcла ўпісваліся справы, пачатыя паміж адным і другім тэрмінам пасяджэнняў суда. Такога тыпу рэестры былі ў Галоўным Літоўскім трыбунале і Літоўскай скарбовай камісіі, o) ~ **remissarum [regestr remissyiny** *пл.*] рэмісійны рэестр, устаноўлены ў Галоўным Літоўскім трыбунале для запісвання адтэрміновак канчатковых рашэнняў і адсылкі спраў на рашэнне ў іншыя суды, p) ~ **retentorum [regestr retentowy** *пл.*] рэтэнтовы рэестр, устаноўлены ў Літоўскай скарбовай камісіі для запісвання нядоімак падаткаў, q) ~ **perceptionum [regestr perceptowy** *пл.*] пэрцэптовы рэестр, устаноўлены ў Літоўскай скарбовай камісіі для запісвання грашовых атрыманняў, r) ~ **iniuriatorum** рэестр крыўдаў, устаноўлены ў Літоўскай скарбовай камісіі для запісвання крыўдаў, прычыненых войскамі, s) ~ **hybernale [regestr hybernowy** *пл.*] гібэрнавы рэестр, які быў у Літоўскай скарбовай камісіі для запісвання падатку, вядомага пад назвай «гібэрны», t) ~ **hyemale degentium** рэестр, які быў ў Літоўскай скарбовай камісіі для запісвання войскаў, якія застаюцца на зімовых кватэрах, u) ~ **querelarum [regestr kwerelowy** *пл.*] рэестр скаргаў ці спраў невялікай важнасці. Рэестры гэтага тыпу існавалі ў гродскіх судах, дзе за два тыдні перад гродскай кадэнцыяй ці тэрмінамі пасяджэння гродскага суда разбіраліся справы менш важныя і судзіліся пісарам гродскім з правам апеляцыі да старасты.

**regius**, a, um (rex) 1) [**королевский | кролевский** *стб.*] каралеўскі; 2) [**господарский** *стб.*] гаспадарскі, вялікакняжацкі.

**regnicola**, ae *m* (regnum+colo) зямянін (землеўладальнік).

**regnum**, i *n* (rex) 1) [**кролевство** *стб.*] каралеўства; 2) [**Коруна польская** *стб.*] Карона (Польскае каралеўства).

**rego**, rexi, rectum, ere [**радити** *стб.*] радзіць / кіраваць.

**regula**, ae *f* (rego) [**reguła** *пл.*] рэгула — статут, якім кіруюцца асобныя каталіцкія манаскія законы / ордэны. Паводле рэгулаў адрозніваюцца розныя групы каталіцкіх законаў / ордэнаў.

**regulamen**, inis *n* [**regulamin** *пл.*] 1) унутранае ўладкаванне; 2) прадпісанне; наказ; 3) азначэнне; 4) уладжанне справы ці інтарэсу, заканчэнне; 5) рахунак; разлік; 6) [**regulament** *пл.*] распараджэнне; урадавая пастанова.

**regularis**, is *m* законнік / манах ці асоба, якая толькі выконвае кляштарныя рэгулы.

**regularisatio**, onis *f* [**regularizacya** *пл.*] пацвярджэнне ці прызнанне выдатку слушным.

**regularissa**, ae *f* законніца / манашка ці асоба, якая толькі выконвае кляштарныя рэгулы.

**regularius**, ii *m гл.* **regularis**.

**Regulus Ep. Conf.** 30 сакавіка.

**rehabilitatio**, onis *f* [**rehabilitacya** *пл.*] 1) вяртанне санюўніку ранейшага яго месца, якога ён пазбавіўся, не быўшы вінаватым; 2) вяртанне валодання маёнткам.

**reicio**, ieci, iectum, ere 1) накідваць на сябе; 2) закідваць за плечы; 3) пакідаць; пазбывацца; 4) аддаляць; адштурхоўваць; 5) адкідаць; адхіляць: ~ **in partem** не браць пад увагу; пакідаць без дзеяння; 6) адсоўваць; падаўжаць.

**reiectio**, onis *f* (reicio) [**rejekta** *пл.*] працяг тэрміну.

**reimpositio**, onis *f* [**reimpozycya** *пл.*] накладанне новых падаткаў, пабораў.

**reinductio**, onis *f* [**reindukcya** *пл.*] 1) запіс, паводле якога той, хто атрымаў у дар якую-небудзь нерухомую маёмасць зноў дорыць яго той жа асобе, ад якой яе атрымаў; 2) увод у адсуджаную і аднятую раней нерухомую ўласнасць ці ўвод урадавым парадкам ва ўладанне, з якога хто-небудзь гвалтоўным чынам быў выгнаны.

**reintegro** 1. [**reintegrować** *пл.*] зноў далучаць адлучаную частку да цэлага.

**reinvestio** 4. зноў аддаваць у валоданне.

**reisa**, ae *f* ваенная выправа.

**relatio**, onis *f* (refero) [**relacya** *пл.*] 1) данясенне; выклад справы; аповед; 2) стаўленне; дачыненне.

**relator**, oris *m* (refero) той, хто падае голас у сенаце ці прадстаўляе штосьці на разгляд.

**relaxamentum**, i *n* [**выпуск** | **выпусканье** *стб.*] адпрацоўка; залічэнне (грошай у лік доўгу).

**relaxatio**, onis *f* (relaxo) [**relaxacya** *пл.*] 1) паслабленне; 2) звальненне, вызваленне ад пакарання, прызначанага выракам суда: ~ **infamiae** здыманне інфаміі — знеслаўлення, да якога была прысуджана якая-небудзь асоба.

**relegatio**, onis *f* (relego) [**relegacya** *пл.*] выгнанне; адхіленне ад месца ці ад пасады.

**relevatio**, onis *f* (relevo) 1) прывядзенне ў лепшы стан; 2) спажыванне ежы; падмацаванне сіл.

**relevo** 1. 1) аблягчаць; 2) звальняць: ~ **feudum** прасіць у новага пана па смерці ранейшага права на леннае валоданне маёнткам.

**relicta**, ae *f* удава.

**relictum**, i *n* рухомая маёмасць, запісаная каму-небудзь у тастаменце / завяшчанні.

**religiosus**, a, um (religio) благачэсны (сталы эпітэт на азначэнне ніжэйшага праваслаўнага духавенства).

**religiosus**, i *m* [**законник** *стб.*] той, хто склаў законныя / манаскія шлюбы / абеты, законнік / манах.

**relinquo**, liqui, lictum, ere 1) [**оставити | зоставити** *стб.*] пакідаць; захоўваць; 2) [**зостати | зостати ся** *стб.*] заставацца; даставацца.

**reliquiae**, arum *f* (reliquus) 1) рэліквіі, мошчы святых; 2) парэшткі; 3) рухомая маёмасць, пакінутая па смерці біскупа ці прэлята.

**Reliquiarum (feria)** серада 2-га тыдня па Вялікадні.

**remanentia**, ae *f* [**remanencya** *пл.*] сума, якая засталася пасля выплаты падаткаў.

**remaneo**, mansi, mansum, ere 1) [**зостати, зостати ся** *стб.*] заставацца; 2) пакідаць.

**Remigius** 1 кастрычніка.

**Reminiscere (dominica)** 2-я нядзеля Вялікага Посту.

**remissa**, ae *f* (remitto) 1) адпушчэнне; звальненне; 2) адпушчэнне грахоў; 3) адтэрміноўка вырашэння якой-небудзь справы ў судзе; рэмісійны дэкрэт — судовае вызначэнне, якое прызначае адтэрміноўку канчатковага судовага рашэння ці якое адсылае справу для рашэння ў іншы суд — **ad iudicium competens**; 4) адсылка якой-небудзь справы на рашэнне ў іншы суд.

**remissoria**, orum *n pl.* выпіскі.

**remonstro** 1. [**remonstrować** *пл.*] выстаўляць на від / агляд; прадстаўляць; засведчваць.

**remora**, ae *f* запаволенне; прамаруджанне; прыпынак; перашкода: **protracta** ~ доўгае прамаруджанне.

**remotior**, ius *adi. compar.* [**дальший** *стб.*] далейшы, больш далёкі.

**removeo**, movi, motum, ere [**отставити | отставляти**; **отдалити** *стб.*] адсоўваць, адстаўляць; адводзіць; аддаляць; адхіляць, ухіляць.

**remuneratio**, onis *f* (remuneror) 1) адплата; аддзяка; вяртанне; узаемнасць: **sacrae remunerationes** імператарскія падарункі; 2) прадажнасць.

**Renata V.** 28 лютага.

**rend(u)a**, ae *f гл.* **renta**.

**renitens**, entis які супрацiўляецца.

**renitentia**, ae *f* [**renitencya** *пл.*] супраціў.

**renovale**, is *n* прыбытак, які чакаецца ад палёў, што распрацоўваюцца ўпершыню.

**renta**, ae *f* 1) падатак; выплата мыта; 2) гадавы прыбытак.

**renunciatoriae literae** выказвальны запіс ці запіс, якім хто-небудзь адмаўляецца ад валодання якой-небудзь рэччу.

**renuncio** 1. адмовіцца ад права карыстання якой-небудзь рэччу.

**renuntium**, ii *n гл.* **renuntiatio**.

**renuntiatio**, onis *f* 1) абвяшчэнне: ~ **legis** абвяшчэнне ўхвалы народнага сходу; 2) уведамленне; данясенне; 3) адрачэнне: ~ **praescriptionis** адмаўленне ад права спасылкі на даўнасць.
**reparitio**, onis *f* [**reparycya** *пл.*] з'яўленне зноў; асабістая яўка ў суд.
**repartitio**, onis *f* раздзел; раскладка; аддзел. Некаторыя суды мелі свае рэпартыцыі ці аддзелы, так напр. Ашмянскі земскі суд праводзіўся адначасова ў Ашмянах, Паставах і Мядзелі; Расенскі — у Расенах, Шаўлях і Цельшах; Вількамірскі земскі суд — у Вількаміры і ў Анікштах.
**repatrio** 1. вяртацца на айчыну.
**repausatio**, onis *f* (repauso) 1) перапынак; 2) адпачынак; 3) супакаенне; 4) перапынак у паездцы; 5) смерць; 6) магіла.
**repello**, reppuli, repulsum, ere [**отбити** *стб.*] адбіваць; збіваць.
**rependium**, ii *n* 1) узаемны падарунак; 2) узнагарода.
**repercussio**, onis *f* (repercutio) 1) адбітак; адлюстраванне; 2) узлом: ~ **stratae** крадзеж з узломам; узлом канюшні / стайні.
**repertura**, ae *f* знаходка скарбу.
**repeto**, petivi (petii), petitum, ere [**искати | поискивати, доискивати ся**; **доходити**; **смотрети** *стб.*] шукаць, расшукваць; дамагацца, прад'яўляць іск, патрабаваць (праз суд); спаганяць.
**replico** 1. пярэчыць.
**repono**, posui, positum, ere [**reponować** *пл.*] 1) [**положити** *стб.*] класці; адкладаць; 2) прадстаўляць; здаваць; 3) [**откладывати | отложити** *стб.*] вяртаць; выплачваць (грошы); 4) здаваць справу ў архіў пасля яе канчатковага вырашэння і выканання.
**repositum**, i *n* адказ аднаго з суцяжных бакоў на прэтэнзію, зробленую другім бокам, пасля таго, як суд ужо зрабіў неабходныя ў іх справе расследаванні, *гл.* **propositum**.
**repraemiator**, oris *m* той, хто ўзнагароджвае.
**reprobatio**, onis *f* (reprobo) [**reprobacya** *пл.*] 1) адкіданне, адхіленне; 2) дакор; ганьбаванне; асуджэнне; 3) зневажэнне, знявага.
**reprobo** 1. [**вчинити | учинити | чинити довод** *стб.*] прыводзіць довад, даводзіць, прыводзіць доказы.
**reproduco**, duxi, ductum, ere [**reprodukować** *пл.*] 1) паўторна прадстаўляць, аднаўляць якую-небудзь справу ў судзе, рашэнне якой было адкладзена; 2) прадстаўляць якія-небудзь пісьмовыя дакументы, так напр. гаворыцца: **generosus** N. N. **reproduxit litteras sacrae regiae maiestatis, literas succamerarias** пэўны шляхціц прадставіў каралеўскі ліст, падкаморскае вызначэнне і інш.
**reproductio**, onis *f* [**reprodukcya** *пл.*] 1) аднаўленне якой-небудзь справы ў судзе, рашэнне якой было адкладзена; 2) прадстаўленне дакументаў.
**repropitio** 1. уласкаўляць, уміласціўляць; улагоджваць.
**Repus, reprus, repositus (dominica)** 5-я нядзеля Вялікага Посту.

**reputamentum**, i *n* абвінавачванне.
**reputo** 1. адлічваць; траціць: **reputatus [поличоный** *стб.*] палічаны; прызнаны.
**Requies B. V. Mariae** Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі.
**requirementum**, i *n* 1) патрабаванне вярнуць штосьці; 2) скарга.
**requirens**, entis *m* [**rekwirent** *пл.*] саноўнік, прызначаны для расследавання чаго-небудзь.
**requiro**, quisivi, quisitum, ere 1) [**отыйскати | отыйскивати** *стб.*] адшукваць; [**искати | поискивати | доискивати ся | смотрети** *стб.*] шукаць, расшукваць; прад'яўляць іск; спаганяць; 2) [**жадати | просити** *стб.*] жадаць, прасіць; патрабаваць, дамагацца.
**requisita**, orum *n pl.* (requiro) [**rekwizyta** *пл.*] прыналежнасці любога тыпу.
**requisitio**, onis *f* (requiro) [**rekwisycya** *пл.*] 1) даследаванне; пошук; 2) следства; 3) рэквізіцыя; 4) скарга аб вяртанні чагосьці; 5) урадавае патрабаванне.
**res**, rei *f* 1) [**реч** *стб.*] рэч, прадмет, дабро, маёмасць; маёнтак; уласнасць: ~ **adiudicata [презысканье** *стб.*] спагнаная (праз суд) сума; ~ **facionata / furtiva / subtracta [лицо** *стб.*] ліцо / уліка, палічнае; крадзенае, выкрадзеная рэч; ~ **illibera [бонда** *стб.*] бонда — (сялянская) маёмасць; ~ **impignorata [заклад** *стб.*] заклад; ~ **mobilis [реч рухомая** *стб.*] рухомая маёмасць; 2) [**статок** *стб.*] маёмасць, рыштунак, абсталяванне; 3) [**господарство** *стб.*] гаспадарка; гаспадарства: ~ **publica [реч посполитая** *стб.*] грамадская справа, паспалітае дабро; рэч паспалітая: **rei publicae [земский** *стб.*] дзяржаўны; земскі; 4) справа: ~ **iudicata** вырашаная справа, самы важны довад у якой-небудзь справе.
**resa**, ae *f* пусткавае і бруднае месца; пакінутая, неапрацаваная зямля.
**resarcio**, sarsi, sartum, ire 1) зноў лапіць, залапліваць; 2) папраўляць; рамантаваць; 3) кампенсаваць: ~ **damnum** кампенсаваць страту ці шкоду.
**rescissio**, onis *f* (rescindo) [**rescyssya** *пл.*] знішчэнне якога-небудзь акта, судовага вызначэння, тастамента / завяшчання і да т. п.
**rescriptum**, i *n* [**reskrypt** *пл.*] 1) рэскрыпт — пісьмовы адказ караля ці імператара на скіраванае да яго пытанне; 2) пісьмовы адказ; 3) адказ Апостальскага пасада ці біскупа з наданнем міласцей альбо адпустаў; 4) спіс, копія.
**reservatum**, i *n* [**rezerwat** *пл.*] умова, пад якой хто-небудзь прымае вэксаль.
**reservo** 1. [**зоставити** *стб.*] пакідаць; захоўваць.
**residens**, ntis *m* сенатар.
**resideo**, sedi, sessum, ere 1) [**осести** *стб.*] асядаць, сяліцца; авалодваць (нерухомай маёмасцю): ~ **in dote [осести на вене** *стб.*] заставацца на вене; 2) [**седети | сести** *стб.*] сядзець, знаходзіцца, жыць; валодаць маёнткам: ~ **in sede viduali [на вдовьем столбцы зостати ся | седети** *стб.*] заставацца, знаходзіцца на ўдовіным стальцы / быць удавой.
**residuum**, i *n* [**остаток** *стб.*] астатак, рэшта.

**resignatio**, onis *f* род продажнага запісу, калі адзін спадчыннік нерухомай маёмасці прадае яе іншаму суспадчынніку з прычыны назапашаных на гэтай маёмасці даўгоў, якіх яе прадавец не ў стане выплаціць.

**resigno** 1. 1) адмаўляцца ад якой-небудзь рэчы; 2) запісваць што-небудзь са сваёй уласнасці каму-небудзь іншаму.

**Respice II (dominica)** 13-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.

**Respice (dominica)** 3-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.

**respicio**, spexi, spectum, ere 1) аглядацца; 2) прыглядацца, узірацца; 3) зважаць; 4) [**искати** *стб.*] шукаць, расшукваць; дамагацца, прад'яўляць іск; спаганяць.

**respondeo**, spondi, sponsum, ere 1) [**отказати** | **отказывати**, **отповедати** *стб.*] адказваць; адпавядаць; 2) ручацца за каго-небудзь; 3) выконваць; дазваляць.

**responsalis**, is *m* (respondeo) 1) нунцый; 2) абвінавачаны; пазваны, выкліканы ў суд / адказнік.

**restaurum**, i *n* пакрыццё шкоды; кампенсацыя страты.

**restio**, onis *m* (restis) [**linnik** *пл.*] ліннік / канатчык: **corpus restionum** цэх ліннікаў / канатчыкаў.

**restipulatio**, onis *f* (restipulor) [**restypulacya** *пл.*] кантракт, узаемнае абавязацельства.

**restis**, is *f* [**lina** *пл.*] 1) ліна / канат; вяроўка; шнур; 2) **litterae restium** віці — каралеўскія лісты з заклікам да паспалітага рушэння, позвы.

**restituo**, ui, utum, ere 1) вяртаць (да ранейшага стану), аднаўляць; 2) [**вернути** *стб.*] аддаваць, вяртаць.

**restitutio**, onis *f* (restituo) 1) вяртанне (да ранейшага стану), аднаўленне; 2) [**restitucya** *пл.*] вяртанне ці другасны водзыў / апеляцыя да таго ж самага суда, дзе водзыў быў дазволены законам: a) калі не было захавана законнай формы працэсу, b) калі прысуд быў вынесены звыш патрабавання пазоўніка / істца, c) калі быў зняты які-небудзь пункт скаргі, d) калі ўзнікла супярэчнасць у рашэннях апошняй інстанцыі, e) калі ў адным і тым жа вызначэнні аказаліся супярэчныя адно аднаму распараджэнні, f) калі пракуратар ці адвакат не падаў свайго меркавання, g) калі справа была вырашана на падставе фальшывых дакументаў, h) калі пасля вырашэння справы былі знойдзены дакументы; ~ **in integrum** просьба аб перавырашэнні справы пасля канчатковага яе вырашэння ў выпадку напр. прадстаўлення дакументаў, якіх не было пры разглядзе справы.

**Restitutus M.** 29 траўня.

**resulto** 1. *intens.* 1) адскокваць, адбівацца; 2) супраціўляцца; пярэчыць; адбіваць; 3) нараджацца; адбывацца, спраўджвацца; 4) выключаць; забараняць.

**retardo** 1. [**повстягати** *стб.*] затрымліваць.

**rete**, is *n* [**сеть** *стб.*] сець: ~ **dictum sather** [**шатер** *стб.*] сетка; сіло (для лоўлі птушак).

**retenta**, ae *f* нядоімка.

**retento** 1. 1) утрымліваць; 2) выбіраць; засноўваць; 3) выключаць; забараняць.
**retentor**, oris *m* (retineo) асоба, за якой лічацца нядоімкі.
**retinementum**, i *n* запас.
**retinentia**, ae *f* (retineo) 1) утрыманне чагосьці ў памяці, 2) утрыманне (наогул); 3) запас.
**retineo**, tinui, tentum, ere 1) [**задержати, заховати | заховывати** *стб.*] затрымліваць; 2) [**держати** *стб.*] дзяржаць / (часова) валодаць; трымаць, утрымліваць; 3) [**ховати** *стб.*] захоўваць; выконваць.
**retondeo**, —, tonsum, ere 1) зрэзваць; касіць; 2) абразаць краі манет.
**retonsor**, oris *m* той, які абразае краі манет.
**retonsura**, ae *f* абразанне краёў манет.
**retorsio**, onis *f* [**retorsya** *пл.*] абвяржэнне саперніка яго ж довадамі ці палажэннямі, тое ж, што **argumentum ad hominem**.
**retractatio**, onis *f* (retracto) адрачэнне ад свайго меркавання, саступка; перагляд: ~ **inscriptionis dotis** знішчэнне запісу на пасаг.
**retractus**, us *m* [**retrakt** *пл.*] права блізкіх родзічаў адкупіць маёмасць, *гл.* **ius retractus**.
**retraditio**, onis *f* [**retradycya** *пл.*] вяртанне прадметаў, канфіскаваных урадам, іх уладальніку.
**retroactio**, onis *f* [**retroakcya** *пл.*] зваротнае дзеянне ці дзеянне, якое пашыраецца на ранейшы час.
**retrocessio**, onis *f* (retrocedo) [**retrocessya** *пл.*] вяртанне якой-небудзь рэчы таму, хто саступіў яе камусьці; зваротная саступка.
**reus**, i *m* 1) [**винен | винный | виноватый** *стб.*] вінны, вінаваты; даўжнік; абвінавачаны; 2) [**отпор** *стб.*] адпор / адказнік (на судзе).
**revelo** 1. адхінаць, расхінаць; адкрываць, раскрываць: **non** ~ [**втаити** *стб.*] утойваць.
**revenditor**, oris *m* перапрадавец, перакупнік: ~ **librorum** кнігапрадавец.
**reverendus**, a, um шаноўны, варты павагі; **reverendissimus** дастойны, найдастойнейшы (сталы эпітэт на азначэнне найвышэйшага духавенства).
**reverenter** *adv.* (reverens) паважліва, з павагай, з пашанай: ~ **tractare** [**вчтити | учстити | учтити** *стб.*] выказаць, выяўляць павагу, паважна ставіцца, шанаваць.
**revificatio**, onis *f* [**revifikacya** *пл.*] узнаўленне якога-небудзь закону ці пастановы.
**revisio**, onis *f* (revideo) 1) паўторны агляд; паўторнае даследаванне; 2) кантроль; рэвізія: ~ **actorum** навядзенне парадку ў актах, перагляд актаў.
**revisor**, oris *m* рэвізор.
**revocatio**, onis *f* (revoco) заява ў судзе аб тым, што сын жадае ўзяць назад нерухомую спадчынную маёмасць, прададзеную яго бацькам, і вярнуць пакупніку выплачаную ім суму.

**revocatorium**, ii *n* загад ці распараджэнне, якое адклікае ад якога-небудзь занятку.
**revoco** 1. [**отволати | отозвати** *стб.*] адзываць / адклікаць (паказанне); касаваць, адмяняць.
**revolvo**, volvi, volutum, ere 1) каціць назад; 2) вяртаць; 3) [**отворити** *стб.*] адкрываць; расчыняць.
**Rex (dominicarum (dominica)** 1-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.
**rex**, regis *m* [**король** *стб.*] кароль.
**rhothus**, i *m* пакінутая пад пар зямля, зямля, якая апрацоўваецца ўпершыню.
**ribaldus**, i *m* настаўнік; бакалаўр.
**Richardus rex Angliae** 7 лютага.
**Richarius Ep. M.** 26 красавіка.
**riesa**, ae *f* пусткавае і бруднае месца; пакінутая, неапрацаваная зямля.
**riga**, ae *f* 1) разора; 2) ворыва; 3) шэраг; 4) радок у тэксце.
**ripa**, ae *f* 1) [**берег** *стб.*] бераг ракі; 2) падатак, які плаціцца за бераг.
**ripaticum**, i *n* падатак, які плаціцца за бераг.
**rite** *adv.* [**слушне** *стб.*] слушна; належным чынам; абгрунтавана.
**ritus**, us *m*. [**закон** *стб.*] абрад, рытуал; веравызнанне, вера.
**roagium** *гл.* **rotagium**.
**robaeria** *гл.* **roboria**.
**robagio**, onis *m* селянін; падданы.
**robator**, oris *m* разбойнік; злодзей.
**roberia** *гл.* **roboria**.
**Robertus I Abb. Gistercii** 29 красавіка.
**roboratio**, onis *f* 1) [**zapis roboracyiny** *пл.*] пацвярджальны запіс, калі прыватныя асобы, учыніўшы паміж сабой якую-небудзь умову, прадстаўляюць яе ў суд для пацвярджэння ці падмацавання; таксама калі дамову, укладзеную бацькам, па яго смерці пацвярджае сын; 2) зацвярджэнне.
**roborator**, oris *m* 1) падмацавальнік; 2) *гл.* **robator**.
**roboria**, ae *f* гвалтоўнае адыманне ў каго-небудзь маёмасці, рабаванне.
**robur**, oris *n* [**моц** *стб.*] моц; паўнамоцтва, права; улада: **in robore [вмоцненый | умоцненный** *стб.*] умоцнены / які мае моц, зацверджаны.
**rocca**, ae *f* замак на скале.
**Rochus conf.** 16 жніўня.
**rodaticum** *гл.* **rotagium**.
**rodum**, i *n* *гл.* **rhothus**.
**Rogate** *s.* **rogationum (dominica)** 6-я нядзеля па Вялікадні.
**Rogerius** 15 верасня.
**rogo**, onis *m* (верагодна ад ням. **Rocken** ці **Roggen)** жыта.
**rogus**, i *m* 1) просьба, маленне; 2) касцёр, клад дроў.
**Romanus miles M.** 9 жніўня, 18 лістапада.

**Romanus**, a, um [**римский** *стб.*] 1) рымскі; 2) каталіцкі.
**Romoaldus Abb.** 7 лютага.
**Roncalia**, ae *f* роўнае ўзвышанае месца паміж Пляцэнцыяй і Крэмонаю, дзе імператары, выпраўляючыся ў Італію, збіралі народныя соймы.
**roncalis** *гл.* **runcale**.
**roncaria**, ae *f гл.* **runcale**.
**ronchus** *гл.* **runcus**.
**Rosa** 26 жніўня.
**Rosalia V.** 4 верасня.
**Rosarum, rosata, de Rosa (dominica)** 4-я нядзеля Вялікага Посту.
**Rosina** 10 кастрычніка.
**rosta**, ae *f* палісад; частакол.
**rota**, ae *f* 1) кола, круг: **rota figularis** кола ганчара; **rota Romana** палац у Рыме, у якім адбываліся публічныя суды; 2) натоўп людзей; 3) форма; узор [**rota przysięgi** *пл.*] форма прысягі, якую ўстанаўлiўвалі вышэйшыя ўлады ці суды.
**rotagium**, ii *n* мыта ці падатак за пашкоджанне дарог коламі, які ўносіўся ўладальніку маёнтка.
**rotalius**, ii *m* стэльмах.
**rotaticum** *гл.* **rotagium**.
**rotatio**, onis *f* (roto) 1) кручэнне; абарачэнне; 2) ламанне на коле (катаванне).
**rothum**, i *n гл.* **rhothus**.
**rotmagister**, tri *m* ротмістр.
**roto** 1. (rota) *tr.* 1) круціць вакол; тачыць; 2) каціцца; круціцца; 3) ламаць на коле (катаванне).
**rubetum**, i *n* (rubus) цярновы куст, цярноўнік; месца, парослае цярноўнікам.
**rubia**, ae *f* фарбавальная чырвань; чырвоная фарба.
**rubrica**, ae *f* (rubricus) [**роздел** *стб.*] раздзел.
**rubus**, i *m* [**лоза** *стб.*] лаза.
**Rudolphus** 17 красавіка.
**Ruffina et Secunda** 10 ліпеня.
**Ruffinus** 14 чэрвеня, 30 ліпеня.
**Ruffus Ep. M.** 27 жніўня.
**rufifusor**, oris *m* ліцейнік.
**rufus**, a, um [**красный** *стб.*] чырвоны.
**ruga**, ae *f* 1) зморшчына; 2) *перан.*: фалда; 3) вуліца; 4) балюстрада, якая замыкае санктуарый у базіліцы.
**rumpo**, rupi, ruptum, ere 1) рваць, разрываць; разбураць; 2) знішчаць; 3) араць зямлю.
**runcale**, is *n* неапрацаванае поле.
**runchus** *гл.* **runcus**.
**runco** 1. ачышчаць поле ад цярноўніка.
**runco**, onis *m* (runco, are) 1) матыка; 2) алебарда.

**runcus**, i *m* цярновы куст, цярноўнік.
**ruo**, rui, rutum,ere 1) падаць, абрынацца: ~ **in causa** губляць справу ці працэс; 2) кідацца, рынуцца.
**Rupertus Ep.** 27 сакавіка.
**rupta**, ae *f* 1) канал; роў; 2) банда марадзёраў.
**ruptarius**, ii *m* марадзёр.
**rupticum**, i *n гл.* **rothus**.
**ruptura**, ae *f гл.* **rothus**.
**rurensis**, is *m* селянін.
**ruricolo** 1. абрабляць зямлю.
**Rusticus et Eleutherius M. M.** 9 кастрычніка.
**rusticus**, a, um (rus) вясковы, сялянскі: **rustica gens** [**chlopi** *пл.*] сяляне, мужыкі, кметы.
**rusticus**, i *m* (rus) [**chlop, kmieć** *пл.*] 1) вясковец, селянін, мужык, кмет; чалавек: **rustici ducis** людзі княжацкія, падпарадкаваныя непасрэдна князю; **rustici vagi** людзі лёзныя, *гл. тс.* **subditus**; 2) прастак.
**Ruth**. 16 чэрвеня.

## S

**sabanum** (savanum), i *n* 1) бялізна; 2) рушнік.
**Sabbas Abb.** 5 снежня.
**Sabina V. M.** 29 жніўня, 27 кастрычніка.
**Sabinus Ep. Spolet. Exuperantius et Marcellus Diac. MM.** 7 снежня.
**saccellus**, i *m demin.* 1) мяшочак; кашалёк, гаманец; 2) скарбніца.
**sacerdos**, otis *m* святар; духоўная асоба: ~ **ruthenicus** поп.
**Sacramenti (feria)** чацвер 1-га тыдня пасля свята Спаслання Духа Святога.
**sacramentum**, i *n* прымнажэнне; прырашчэнне.
**saecularis** (secularis), e (saeculum) [**светский | светцкий** *стб.*] свецкі.
**saepes** (sepes), is *f* (saepio) [**плот** *стб.*] плот, агароджа.
**saeptum**, i *n гл.* **saepes**
**sagena**, ae *f* [**невод** *стб.*] невад.
**saginatio**, onis *f* (sagino) права карміць свіней у чыімсьці лесе.
**sagittarius**, i *m* 1) [**lucznik** *пл.*] лучнік; 2) [**стрелец** *стб.*] стралец; паляўнічы; 3) рамеснік, які рабіў стрэлы і лукі; 4) слуга, які насіў за сваім панам лук; 5) асоба, якая належала да ведамства лоўчага.
**sagum**, i *n* ваенны плашч: **merita N. N. tam in sago, quam in toga** заслугі Н. Н. як ваенныя, так і грамадзянскія.
**saicada** *гл.* **secata**.
**saisimentum**, i *n* 1) заняцце, забранне добраў / маёмасці; 2) рэквізіцыя.
**saisina**, ae *f* 1) заняцце, забранне добраў / маёмасці; 2) права браць дрэвы з лесу.

**saisio** 4. 1) набываць ва ўласнасць безгаспадарчую маёмасць; 2) браць у заклад; 3) канфіскоўваць лен; 4) уводзіць у валоданне.
**saisio**, onis *f* 1) занятце добраў; 2) валоданне.
**saisitio**, onis *f* 1) валоданне; 2) інвестытура.
**saisura**, ae *f* набыццё.
**sala**, ae *f* 1) зала; палата; палац; 2) сенат; 3) дом, прызначаны для судаводства.
**salamannus**, i *m* 1) дэлегат; 2) давераны чалавек.
**salamanus**, i *m* 1) паверэны; 2) прыдворны; 3) адвакат; войт; 4) паручальнік; 5) выканаўца тастамента / завяшчання.
**salarium**, ii *n* 1) утрыманне, заробак: **salaria** плата суддзям і дэпутатам Галоўнага Літоўскага трыбунала ад суцяжных асоб. У 1609 годзе была скасавана ўстаноўленая раней плата, якая называлася перасудам, а замест яе былі прызначаны **salaria**, а менавіта: кожны пазоўнік / ісцец павінен быў запісаць свой пазоў / выклік у рэестр і выплаціць капу літоўскіх грошаў (Vol. Leg. II, f. 1683; VI, f. 454). У 1726 годзе была выдадзена адмысловая табліца для збірання платы за кожную акцыю, якога б тыпу яна ні была. Vol. Leg. VI, f. 475; 2) падатак соллю; 3) мыта ад продажу солі.
**saliburgio**, onis *m гл.* **salamanus**.
**sal(in)agium**, ii *n* мыта ад продажу солі.
**salinarium**, ii *n* капальня солі, жупа: **salinariorum comes** [**żupnik** *пл.*] жупнік — загадчык жупаў ці саляных капальняў.
**salinarius**, ii *m* жупнік.
**Salomon M.** 5 лютага.
**salsamentarius**, i *m* [**solennik** *пл.*] прадавец салёнай рыбы.
**saltarius**, ii *m* памежны вартаўнік, памежнік.
**saltgravius** *гл.* **saltarius**.
**Salus populi (dominica)** 19-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.
**salvatio**, onis *f* (salvo) 1) ацаленне; збаўленне, вечнае жыццё; 2) свабода ад падаткаў і пабораў; 3) уладанне, якое знаходзіцца пад нечай апекай; 4) абвяржэнне супрацiўнага меркавання.
**Salvator de Horta Conf.** 18 сакавіка.
**Salvius Ep.** 10 верасня.
**salvo** 1. (salvus) 1) ратаваць; 2) лячыць; 3) збаўляць; 4) захоўваць, берагчы; 5) аддзяляць; выключаць.
**salvus**, a, um здаровы; цэлы, непашкоджаны, непарушаны: **salvis oneribus civitatis et reipublicae** не парушаючы падатковых абавязацельстваў места / горада і Рэчы Паспалітай; **salva melioratione huius manifestationis** з правам папраўкі гэтай скаргі ці заявы; **salvis abbatiis Pruthenicis** не кранаючы прускіх абацтваў.
**Samson presb.** 27 чэрвеня.
**Samuel proph.** 20 жніўня.

**sancio**, sanxi, sancitum (sanctum), ire (sacer) 1) ухваляць; пастанаўляць; 2) запісваць у тастаменце / завяшчанні; 3) менаваць / прызначаць; 4) пацвярджаць, зацвярджаць.

**sancitum**, i *n* ухвала: **sancita** ухвалы, распараджэнні (канфедэрацыі).

**Sancta (dominica)** нядзеля Мукі Пана.

**Sancti Petri epularum (festum)** 22 лютага.

**Sanctificatio B. V. Mariae (festum)** 8 снежня.

**sanctimonialis**, is *m*, *f* (sanctimonia) 1) законнік / манах; 2) законніца / манашка.

**sanctio**, onis *f* (sancio) [**sankcya** *пл.*] 1) асвячэнне; 2) пастанова; (манаршае) пацвярджэнне: ~ **pragmatica** урадавы акт, які змяшчаў у сабе якое-небудзь распараджэнне, такі акт, напр., выйшаў у 1724 годзе ў Аўстрыі пры імператару Карлу VI і змяшчаў у сабе **pactum familiae** — сямейную дамову, датычную спадчыны.

**sanctuarius**, a, um які належыць святыні, які датычыць святыні, касцёльны.

**sanctus**, a, um [**светий** *стб.*] святы.

**sanguinea**, ae *f* вышэйшая карная ўлада, *гл. тс.* **iustitia maior**.

**sanguinitas**, atis *f* крэўная роднасць.

**sanguino** 1. (sanguis) [**окривавити** *стб.*] крывавіць, акрываўліваць.

**sanguis**, inis 1) кроў; 2) *гл.* **sanguinea**.

**Sapientiae (festum)** 17 снежня.

**saracenatus**, i *m* арабская манета.

**sario** (sarrio) 4. апрацоўваць зямлю, ачышчаючы яе ад цярноўніка.

**sartagia**, ae *f* плата замест ачысткі ад цярноўніка і распрацоўкі зямлі.

**sartago**, inis *f* месца, дзе вырабляюць соль, жупа, саляная капальня.

**sarto** 1. апрацоўваць зямлю, ачышчаючы яе ад цярноўніка, *гл. тс.* **exarto**.

**sartor**, oris *m* [**кравец** *стб.*], [**krawiec** *пл.*] кравец.

**sartum**, i *n* гай, у якім высечана шмат дрэў.

**satago**, egi, actum, ere (satis + ago) 1) задавольваць, кампенсоўваць, пакрываць (доўг); 2) [**хотети** *стб.*] хацець, жадаць; імкнуцца, дабівацца; 3) клапаціцца.

**satellitium** (satellicium), ii *n* (satelles) 1) асабістая ахова; 2) абарона; 3) служэнне; няволя; 4) падданства; 5) васальныя адносіны.

**satisfacio**, feci, factum, ere [**досыть чинити, навезати | навязати | навязывати** *стб.*] досыць чыніць / задавольваць, кампенсаваць, плаціць / даваць кампенсацыю (за раны, шкоду і інш.), даваць адплату, пакрываць (доўг).

**Saturas, Saturius M.** 12 студзеня.

**Saturninus et Grisantius** 29 лістапада.

**sauma**, ae *f* 1) мера для масла і віна; 2) уючная ці абозная жывёла.

**scabinatus**, us *m* гарадская лава.

**scabinium**, ii *n* 1) юрысдыкцыя юрыстаў; 2) акруга, падведамная юрысдыкцыі гарадской лавы.

**scabinius** *гл.* **scabinus**.

**scabinus**, i *m* лаўнік — засядальнік у судзе; суддзя. У пазнейшы час лаўнікі атрымалі значэнне радцаў / ратманаў. Сельскія лаўнікі прызначаліся ў сёлах па два, па тры і больш, у залежнасці ад велічыні сяла. Абавязак іх палягаў на расследаванні шкоды, учыненай на пасевах скацінай, і іншых выпадкаў. За працу яны атрымлівалі адзін грош т. зв. агляднага (платы за агляд учыненай шкоды), але ад цяглых прац і ўсялякіх павіннасцей, якія выконваліся сялянамі за карыстанне валокамі, лаўнікі не вызваляліся (Устава на волоки короля его милости, арт. 8): **liber scabinorum** лаўніцкая кніга.

**scachator**, oris *m* 1) рабаўнік, грабежнік; разбойнік; 2) ліхадзей, злыдзень.

**scachum**, i *n* рабаванне, грабеж.

**scacus**, i *m* гульня ў косткі. Vol. Leg., a. 1347, I, f. 37.

**scala**, ae *f* 1) сходы; лесвіца; 2) лесвіца — род пакарання, якое існавала даўней. Паводле сведчання Дзю-Канжа ў старажытнасці на публічных плошчах і пры судовых месцах ставілі высокія лесвіцы, на якія павінны былі ўзыходзіць злачынцы, каб народ мог іх бачыць. Пасля гэтага пры тых жа лесвіцах іх бічавалі. У Польшчы і Літве-Беларусі гэтае пакаранне здзяйснялася пры ганебным слупе, які называўся прэнгір; 3) прыстань; порт; 4) батальён войска; 5) вага; 6) талерка.

**scalpetum**, i *n* кароткая шабля; корцік.

**scamara**, ae *m* 1) рабаўнік, грабежнік; разбойнік; 2) рабаванне.

**scandalarius**, ii *m* страхар, дахоўнік, які робіць дахі з дранкі ці з гонтаў.

**scapha**, ae *f* мера для сыпкіх рэчываў.

**scapilus**, i *m* мера колькасці збожжа.

**scara**, ae *m гл.* **scartabellus**.

**scara**, ae *f* 1) шнар, рубец; 2) аддзел жаўнераў; 3) ваенная служба; 4) удзел у агульным карыстанні.

**scario**, onis *m* 1) распарадчык маёнтка; 2) паверраны; прадстаўнік; 3) падрадчык; 4) кляштарны слуга.

**scartabellus**, i *m* [**świrczałka** *пл.*] напаўшляхціц, паўродак, асоба, новаўзведзеная ў шляхецкую годнасць, якая займала сярэдзіну паміж сапраўдным шляхціцам і шляхціцам, які паходзіў з солтысаў ці простых сялян.

**scartus**, i *m* поле, прызначанае для распрацоўкі.

**schachus**, i *m* (ад ням. **Schach**, **Schächer**) разбой; забойства.

**scherio** (ад ням. **Scherge**) *гл.* **scario**.

**scholaris** (scolaris), is *m* (schola) шкаляр, жак.

**scholaritas**, atis *f* статус і прывілеі шкаляроў.

**Scholastica** 10 лютага.

**scholasticus**, i *m* схалястык — наглядчык за духоўнымі навучальнымі ўстановамі. Пасада гэтая ў каталікаў была вядома яшчэ з IX стагоддзя.

**schoposa**, ae *f* [**szopa** *пл.*] *гл.* **schoppa**.

**schoppa**, ae *f* [**szopa** *пл.*] адрына, паветка; хаціна, халупа.

**scienter** *adv.* (sciens) [**ведом | ведомо** *стб.*] свядома, наўмысна, ведаючы; загадзя.

**scinda**, ae *f* падзеленае межамі ці ўзаранае поле.

**scinta**, ae *f гл.* **scinda**.

**scio** 4. [**ведати, знати** *стб.*] ведаць, знаць.

**scissio**, onis *f* (scindo) [**scissya** *пл.*] 1) разрыванне, раздзіранне; 2) раздзел; разрыў; 3) падзел; аддзяленне; 4) раскол, схізма.

**scitus**, us *m* веданне, вядомосць; свядомасць: **cum scitu** [**з ведомом | з ведомостью** *стб.*] з ведама(м) / свядома.

**scolpetus**, i *m* солтыс.

**scoltetus**, i *m гл.* **scultetus**.

**scomma**, atis *n* 1) насмешка; сарказм; абразлівы папрок і відавочнае ганьбаванне / знеслаўленне; 2) абраза.

**scommaticus**, a, um [**skomatyczny** *пл.*] ганьбавальны; абразлівы; саркастычны.

**scommatizo** 1. [**skomatyzować** *пл.*] здзекавацца; ганьбаваць, абражаць; бэсціць, лаяць.

**scopulus**, i *m* 1) вяршыня гары; 2) [**копец** *стб.*] капец — межавы знак: ~ **angularis / acialis** вуглавы капец, вуглавы пункт абшару зямлі, ад якога звычайна пачыналася вымярэнне; **sipare / erigere scopulum** насыпаць капец, рабіць узвышэнне з зямлі.

**scorta**, ae *f* канвой.

**scotum**, i *n* грашовы ўнёсак на карысць горада.

**scotus**, i *m* 1) [**skoiec** *пл.*] скоец — польская манета, якая складала 1/24 частку польскай грыўні (**marca**), лічачы грыўню за 3/5 польскай капы, а скоец за 1/24 частку грыўні, *гл. тс.* **sexagena grossorum Polonicalium**; 2) вага, роўная адной траціне польскай унцыі.

**scriba**, ae *m* (scribo) 1) [**писарь** *стб.*] пісар; 2) падпісак, падпісар; 3) сакратар; пісец; 4) публічны натарый.

**scribo**, scripsi, scriptum, ere [**написати** *стб.*] пісаць, упісваць; указваць.

**scriptor**, oris *m* (scribo) 1) пісар; 2) пісьменнік.

**scropha**, ae *f* паросная свіння.

**scrupulus**, i m мера вагі, 1/3 частка драхмы (*гл.* **drachma**).

**sculptor**, oris *m* (sculpo) [**snycerz** *пл.*] разьбяр, скульптар.

**scultetia**, ae *f* [**sołtystwo** *пл.*] 1) пасада сельскага войта альбо солтыса; 2) зямля, якая належыць сельскаму суддзі ці войту; 3) права здзяйснення спадчыннай юрысдыкцыі.

**scultetus**, i *m* [**sołtys, szołtys** *пл.*] солтыс (у паселішчах на магдэбургскім праве), вясковы суддзя, які ставіўся на пасаду панам і абіраўся з сялян (Vol. Leg., a. 1433, I, f. 99): ~ **spiritualium** суддзя ці войт у духоўных справах. Ён быў абавязаны ісці на вайну нароўні з іншымі. Vol. Leg., a. 1538, I, f. 532.

**scuria**, ae *f* сховішча для збожжа, адрына.

**scurra**, ae *m* 1) блазан; жартаўнік; 2) гарадскі няздара; гарадскі франт; 3) распуснік; 4) ліслівец; 5) паразіт; 6) возны; 7) пахолак; 8) жаўнер імператарскай гвардыі, якая кватаруе ў Рыме; 9) наёмны жаўнер.

**scurro**, onis *m* 1) жаўнер з канвою князя; 2) кат.

**scutagium**, ii *n* 1) шчытавое — плата за вызваленне васала ад удзелу ў ваеннай выправе; 2) ваенная служба.

**scutarius**, ii *m гл.* **scutifer**.

**scutatum**, i *n* скуда — даўняя італьянская срэбная манета.

**scutatus**, i *m* (scutum) рыцар.

**scutella**, ae *f demin.* 1) кубак; 2) міска; талерка.

**scutifer**, eri *m* збраяносец; шчытаносец.

**scutum**, i *n* [**павезка** *стб.*] павезка / шчыт.

**Scylla**, ae *f* Сцыла — легендарная падводная скала, небяспечная для мараплаўцаў, падводны камень паміж Італіяй і Сіцыліяй, насупраць бездані, званай Харыбдаю — **Charibdis**, якая таксама не менш небяспечная, як і Сцыла; і таму ў старажытных увайшло ў прыказку: **qui vult evitare Scyllam, incidit Charibdim** хто жадае пазбегнуць Сцылы, трапляе ў Харыбду. Алюзія ці намёк на гэту прыказку часта сустракаецца ў актах.

**sczayka** [**шайка** *стб.*] следнік (сабака).

**se** *pron.* [**себе** *стб.*] сябе.

**Sebastia M.** 4 ліпеня.

**Sebastianus** 20 студзеня.

**sebifusor**, oris *m* салатоп.

**secale**, is *n* жыта.

**secata**, ae *f* частка поля, з якой асаднік абавязваўся сам збіраць збожжа ці жаць для вотчынніка.

**secretarius**, ii *m* 1) сакратар; 2) у канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага — лацінскі пісар.

**sector**, oris *m* (seco) 1) той, хто сячэ; 2) касец; 3) забойца; прырэз, галаварэз; 4) [**solnik** *пл.*] сольнік — працаўнік, які сячэ соль у гарах, у саляных капальнях.

**Secunda quadragesimae** 2-я нядзеля Вялікага Посту.

**Secundinus Ep.** 20 красавіка, 30 красавіка.

**secundo** *adv.* (secundus) [**повторе** *стб.*] паўторна.

**secundum** *adv.* [**водле | водлуг | подле | подлуг** *стб.*] паводле; згодна з, адпаведна, у адпаведнасці з; у залежнасці ад; па.

**secundus**, a, um (sequor) [**другий | другой, вторый** *стб.*] другі, іншы; наступны.

**securis**, is *f* [**сокера, топор** *стб.*] сякера, тапор: **securis lunata** бярдыш.

**securitas**, atis *f* (securus) 1) бяспека; 2) бесклапотнасць; 3) душэўны спакой; 4) залішняя смаўпэўненасць; 5) надзейнасць; трываласць; 6) парука, паручальніцтва; 7) квітанцыя; распіска.

**secus** (sequor) *adv.* (= aliter) 1) [**инак | инако | иначей** *стб.*] інакш, іначай; 2) [**кром | кроме | окром | окроме** *стб.*] акрамя, апрача; за выключэннем.
**secutor**, oris *m* (sequor) 1) пазоўнік / ісцец; 2) наступнік; нашчадак; спадкаемец.
**sed** [**але | леч, а** *стб.*] але, аднак, а.
**sedeo**, sedi, sessum, ere 1) сядзець; 2) засядаць; 3) перабываць; 4) [**седети | сести** *стб.*] сядзець (у зняволенні, у турме).
**sedes**, is *f* (sedeo) 1) сядзенне; зэдлік; лаўка; 2) [**столец** *стб.*] сталец / пасад, трон: ~ **apostolica** Апостальскі пасад, папская катэдра, папа; 3) катэдральны касцёл; 4) месца, прыдатнае для пабудовы; 5) уласнасць; уладанне, маёмасць; 6) сталец (уладанне ўдавы).
**sedile**, is *n* (sedeo) 1) сядзенне; зэдлік; услон, лаўка; 2) адпачынак седзячы; 3) пасад, трон; 4) судзейскае крэсла.
**sedimen**, inis *n* (sedeo) 1) асадак; гушча; муць; 2) вясковая рэзідэнцыя.
**sediolum**, i *n гл.* **sedile**.
**seditio**, onis *f* 1) бунт; 2) паўстанне; 3) [**звада** *стб.*] звада; бойка; сварка.
**selda**, ae *f* невялікі маёнтак; вёсачка.
**selerium** *гл.* **solarium**.
**semel** *adv. num.* [**раз** *стб.*] раз.
**semino** 1. (semen) [**сеяти, посеяти** *стб.*] сеяць; [**присевати** *стб.*] прысяваць.
**semper** *adv.* [**завжды** *стб.*] заўжды, заўсёды.
**senatus**, us *m* (senex) 1) [**senat** *пл.*] сенат. Поўнае фарміраванне сената Рэчы Паспалітай можна аднесці да паловы XVI стагоддзя. Выбар сенатараў залежаў уласна ад караля, але лік іх не заўсёды быў аднолькавы. Пры каралю Аўгусту III (1733—1763) у сенаце засядалі 2 арцыбіскупы, 15 біскупаў, 6 ваявод і 3 роўныя ім годнасцю кашталяны, і адзін стараста, 37 кашталянаў і 10 міністраў, а ўсяго — 146 асоб. Абавязак сенатараў, як відаць з іхняй прысягі, якую яны давалі ў прысутнасці караля, палягаў на падачы справядлівых прысудаў, на захоўванні дзяржаўных таямніц і на вернай службе каралю і Рэчы Паспалітай. Больш падрабязныя звесткі пра сенат падаюцца ў Vol. Leg. II, f. 1597 o mieszkaniu senatorów; ~ **consulta** пастановы ці нарады сената. Гэтыя пастановы без соймавага зацвярджэння не маглі мець ніякай моцы. Vol. Leg. IV. De reddenda ratione senatus consultorum; 2) [**панове-рада | паны-рада** *стб.*] паны-рада, панове-рада.
**senior**, oris *m* 1) старэйшына; старац; 2) пан; 3) ваявода, *гл. тс.* **capitaneus**.
**senior**, ius *adi.* [**старший** *стб.*] старэйшы.
**senioraticum**, i *n* права войтаўства.
**senioraticus**, i *m* адвакат; войт.
**senioro** 1. выконваць публічную ўладу.
**sententi(on)aliter** *adv.* паводле меркавання, рашэння; паводле пастановы суда.
**sententia**, ae *f* (sentio) 1) меркаванне; 2) погляд; 3) [**вырок, сказанье** *стб.*] вырак / прысуд, рашэнне: **sententiam comperire** [**вчинити сказанье** *стб.*] чы-

ніць / выносіць вырак / прысуд; выносіць / прымаць рашэнне; 4) выказванне; 5) выраз; сказ.

**sententio** 1. [**сказати | сказывати | всказати | усказати** *стб.*] выносіць вырак / прысуд, прысуджаць; вырашаць.

**sententionarius**, ii *m* [**sentencyonarz** *пл.*] сэнтэнцыянар — кніга, заведзеная ў судах, у якую падчас пасяджэння суда пісар сцісла запісваў судовыя вызначэнні, якія пасля з усёй падрабязнасцю і паўнатой упісваў у дэкрэтавыя кнігі. Сэнтэнцыянар у земскіх судах існаваў ужо ў 1457 годзе. Бо ў Статуце Казімера Ягелончыка сказана, што вызначэнне суда павінна быць запісана ў кнігу, каб іншым разам на падобную ці такую ж справу было аднолькавае рашэнне. Пасля сэнтэнцыянары былі заменены дэкрэтавымі пратаколамі.

**sentio**, sensi, sensum, ire [**чути** *стб.*] адчуваць.

**separatio**, onis *f* (separo) 1) аддзяленне; разлучэнне; 2) развод: ~ **de thoro et mensa** [**separacya** *пл.*] сэпарацыя / разлучэнне. У католікаў у Польшчы і Літве-Беларусі не было ўласна разводу паміж сужэнцамі / мужам і жонкай — **divortium**, але часам лічылі, што шлюб як быццам не адбыўся з прычыны недакладна выкананага таемства, і сужэнцаў разлучалі ад сужыцця, што і называлася сэпарацыяй. Пасля рашэння аб сэпарацыі, якое рабілі духоўныя асобы, свецкі суд прымаў рашэнні наконт маёмасці сэпаратаў / разлучэнцаў.

**Septem dormientes** 27 чэрвеня, 27 ліпеня.

**Septem fratres MM.** 10 чэрвеня.

**Septem gaudiorum Mariae** сем радасцей Насвяцейшай Панны Марыі, 23 верасня.

**septem** *num.* [**семь** *стб.*] сем.

**septimana**, ae *f* [**неделя** *стб.*] тыдзень: **media septimanae** серада.

**septimanatim** *adv.* па тыднях, патыднёва.

**septimus** (septumus), a, um (septem) [**семый** *стб.*] сёмы.

**Septuagesima (dominica)** нядзеля пра блуднага сына.

**Septuaginta duorum discipulorum (festum)** 15 ліпеня.

**sequax**, acis *m* 1) таварыш, прыхільнік; 2) *pl.* почат / світа, суправаджэнне; 3) вучань; 4) падданы; 5) спадкаемец.

**sequens**, entis [**другий | другой** *стб.*] другі, іншы; наступны.

**sequor, secutus sum, sequi** праследаваць каго-небудзь судова.

**sera**, ae *f* [**замок** *стб.*] замок.

**Seraphia** 5 снежня.

**Serapion Ep. Antioch. et Saturninus** 30 кастрычніка.

**serenitas**, atis *f* (serenus) [**ясность** *стб.*] яснасць.

**Serenus** 23 лютага.

**Sergius et Bachus MM.** 7 кастрычніка.

**serifaber**, bri *m гл.* **serifex**.

**serifex**, icis *m* слесар.

**sermocinium**, ii *n* 1) прамова; 2) гутарка.

**serra**, ae *f* піла: **ductor serrae [piłownik** *пл.*] пільшчык.
**serrator**, oris *m* [**piłownik** *пл.*] пільшчык.
**servagium**, ii *n* 1) праца нявольніка; 2) статус нявольніка.
**servatio**, onis *f* (servo) перасцярога; выключэнне.
**Servatius Ep.** 13 траўня.
**servator**, oris *m* (servo) намеснік; вікарый.
**Serverus Ep. Conf.** 22 кастрычніка.
**serviens**, ntis *m* 1) збраяносец; 2) слуга: **servientes regis** *гл.* **iobagiones**.
**servilis**, is *m* (servus) 1) [**путный** *стб.*] путны (чалавек); 2) служка; баярын-слуга.
**servio** 4. (servus) [**служити** *стб.*] служыць, несці службу; выконваць; [**прислуговати** *стб.*] прыслугоўваць.
**servitium**, ii *n* (servus) служэнне, служба, паслуга: ~ **adimplere** [**заслужити** *стб.*] адслужыць; ~ **habere** [**мети службу** *стб.*] мець службу, служыць; ~ **bellicum** [**служба** *стб.*] вайсковая служба.
**servitor**, oris *m* (servio) [**служебник** *стб.*] служэбнік, слуга: ~ **agazo** машталер; ~ **apiarius** бортнік.
**servitus**, i *m* (servus) 1) нявольніцтва, рабства; 2) нявольнікі, рабы; 3) асабістая залежнасць; 4) ленныя адносіны; 5) падатак; 6) Божая служба.
**servo** 1. 1) [**ховати** *стб.*] хаваць; захоўваць; затрымліваць; 2) замест **servio**.
**servus**, i *m* 1) нявольнік, раб; 2) [**слуга** *стб.*] слуга: ~ **regalis** служка; баярын-слуга; **servi camerae** жыды, якія ў сярэднія вякі сяліліся побач з палацамі, дастаўлялі ў іх розны посуд і падлягалі палацавым судам; **servi globae** *гл.* **subditus**.
**sessorium**, ii *n* (sedeo) 1) *гл.* **sedes**; 2) выкананне пэўных павіннасцей у адносінах да пана за права продажу некаторых рэчаў; 3) права прызначаць цану на гэтыя рэчы.
**seu** [**альбо** | **албо** *стб.*] альбо, ці.
**severe** *adv.* [**грозно** *стб.*] строга; сувора.
**Severinus Abb. Noricorum Apost.** 8 студзеня.
**Severinus, Antoninus, Diodorus** 6 ліпеня.
**Sex dies sanctissimi (hebdomada)** тыдзень Мукі Пана.
**sex** *num.* [**шесть** *стб.*] шэсць.
**sexagena**, ae *f* [**копа** *стб.*] капа (грошаў): ~ **grossorum Polonicalium [kopa groszy polskich** *пл.*] капа польскіх грошаў. Яна была двоякага тыпу: a) капа залатых шырокіх грошаў, b) капа звычайных польскіх грошаў. Першая ў палове XIII стагоддзя раўнялася 4808 срэбным злотым. Што да другога тыпу капы, то яна была ў значна большым ужытку да самага позняга часу. Вартасць яе ў розныя часы была розная; ~ **grossorum monetae currentis in M. D. L.** капа літоўскіх грошаў. Яна заўсёды была роўная 1 1/4 польскай капы ці 2 1/2 польскім злотым, г. зн. 75 польскім ці 60 літоўскім грошам. І таму вартасць літоўскай капы, таксама як і польскай, у розныя часы была розная.

**Sexagesima (dominica)** апошняя нядзеля перад Вялікім Постам.
**Sexta decimi mensis (dies)** Аб'яўленне Пана, 6 студзеня.
**sextus**, a, um (sex) [**шостый** *стб.*] шосты.
**sexus**, us, *m.* ( [**стан** *стб.*] плоць / пол (жаночы, мужчынскі); стан.
**si** *conj.* [**естли / пак ли / скоро** *стб.*] калі, калі ж.
**Si iniquitates (dominica)** 22-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.
**sibi** [**собе** *стб.*] сабе.
**Sibilla** 10 верасня, 18 жніўня.
**sicla**, ae *f* мера для вадкіх рэчываў.
**siclus**, i *m* 1) старагэбрайская манета, срэбнік; 2) [**рубль** *стб.*] рубель; 3) *гл.* **sicla**.
**sigalis** *гл.* **sigalum**.
**sigalum**, i *n* жыта.
**sigelis** *гл.* **sigalum**.
**sigillifer**, eri *m* захавальнік пячаткі, пячатнік.
**sigillum**, i *n demin.* [**печать** *стб.*] пячаць.
**sigilum** *гл.* **sigalum**.
**Sigismundus Rex Burg**. 2 траўня.
**sigla** *гл.* **sicla**.
**signaculum**, i *n гл.* **monogramma**.
**signifer**, feri *m гл.* **vexillifer**.
**significo** 1. (signum+facio) [**дати ведомо, дати знати** *стб.*] даваць ведаць / паведамляць.
**signum**, i *n* 1) [**знак** *стб.*] знак; прыкмета: **signa furti** [**знаки злодейские** *стб.*] зладзейскія прыкметы / прыкметы кражы; **signa metalia** знамёны / гранічныя / межавыя знакі, як напр. капцы — **scopuli**, насечкі на дрэвах і інш.; 2) пячатка: **signorum (sigillorum) sculptor** [**pieczęci rzeźbiarz** *пл.*] разьбяр пячатак.
**silentium**, ii *n* (sileo) [**молчанье** *стб.*] маўчанне.
**sileo**, ui, —, ere [**молчати** *стб.*] маўчаць.
**silicarius**, ii *m* (silex) [**brukarz** *пл.*] брукар — рамеснік, які робіць і папраўляе брук.
**siligo**, inis *f* [**жито** *стб.*] жыта; збожжа; азімае.
**silva**, ae *f* 1) [**лес** *стб.*] лес: ~ **saginacia** лес для гадавання, г. зн. дубовы лес, жалудамі якога кармілі свіней; 2) [**гай** *стб.*] гай; 3) [**пуща** *стб.*] пушча.
**silvaticum**, i *n* права карыстацца лесам ці плата за карыстанне ім.
**silvatura**, ae *f* [**leśnictwo** *пл.*] лясніцтва. Каралеўскія лясы ў старажытнасці падзяляліся на лясніцтвы ці пэўныя лясныя акругі.
**Silverius P. M.** 20 чэрвеня.
**Silvester P.** 31 снежня.
**Silvester P.** 3 снежня.
**silvestris**, tre [**дикий** *стб.*] лясны; дзікі.

**Simeonis Ep. Hieros.** 18 лютага.
**simila**, ae *f* белы хлеб; булка.
**similago**, inis *f* *гл.* **simila**.
**similiter** *adv.* (similis) [**такеж | также | такжо** *стб.*] гэтак жа, падобна; таксама; гэтулькі ж.
**Simonis et Iudae Apost. (dies)** 28 кастрычніка.
**Simphorianus M.** 4 лютага.
**simplex**, plicis [**простый** *стб.*] просты.
**simpliciter** *adv.* (simplex) 1) проста; 2) зусім, цалкам.
**Simplicius P.** 2 сакавіка.
**simul** *adv.* [**весполок | восполок | поспол** *стб.*] супольна, сумесна; разам.
**sindicatus**, us *m* народныя сходы пад старшынствам сіндыкаў, *гл. тс.* **syndicus**.
**sine** [**без | безо** *стб.*] без: **sine culpa** [**безвинне** *стб.*] бязвінна; **sine scitu** [**без ведома** *стб.*] без ведама.
**singillatim** *гл.* **singulatim**.
**singulatim** [**особливе** *стб.*] асобна.
**sinister**, tra, trum 1) левы; 2) [**неслушный** *стб.*] няслушны; несправядлівы; неабгрунтаваны.
**sirnico**, onis *m* [**żyrnik** *пл.*] жырнік — збіральнік корму для княжацкага статка.
**Sisinius, Alexander, et Martyrius MM.** 29 траўня.
**sisto**, stiti (steti), statum, ere (sto) 1) [**поставити** *стб.*] ставіць, выстаўляць; прадстаўляць; дастаўляць; 2) [**право достояти** *стб.*] даводзіць; чакаць канца судовай справы, адказваць у судзе да канца.
**situla**, ae *f* 1) збан; 2) вядро; 3) род урны для лёсавання; 4) мера аб'ёму вадкасцей.
**Sixtus II P.** 6 жніўня.
**Smaragdus** 8 жніўня.
**smerdo**, onis *m* [**smerd** *пл.*] селянін, кмет, смерд, мужык. Слова гэтае некаторыя выводзяць з усходніх моў са значэннем **merd** муж, яно цалкам адпавядае слову мужык, якое азначае малога мужа. Баляслаў Харобры даў два прывілеі Тынецкаму кляштару на дзве вёскі. У адным прывілеі напісана: з падданымі — **cum subditis**, а ў другім **cum smerdonibus**.
**smigma**, atis *n* духмянае мыла: **confectiones saponis vel unguenti ad lavandum apti** склад мыла ці духмянай мазі, прыдатнай для мыцця (Слоўнік Дзю-Канжа).
**smigmator**, oris *m* прадавец духмянага мыла, а часам яго вырабляльнік.
**socia**, ae *f* 1) супольніца; калега; 2) сужонка, жонка.
**socio** 1. (socius) далучаць: ~ **fisco** канфіскоўваць.
**socius**, ii *m* 1) таварыш, супольнік, паплечнік; 2) [**czeladnik** *пл.*] чаляднік; 3) пахолак; 4) парабак: ~ **magistri** падмайстар.
**solare** *гл.* **solarium**.

**solarium**, ii *n* 1. 1) сонечны гадзіннік; 2) месца, адкрытае для сонца; 3) месца, адкрытае з некалькіх бакоў для вольнага прытоку паветра, часам з дахам ці без даху.

**soldanus**, i *m* султан.

**solemnitas**, atis *f* 1) звычай; 2) урачыстасць; 3) фармальнасць: **solemnitates iuris** судовыя ці законныя фармальнасці.

**soleo**, solitus sum, ere 1) маю звычай, маю звычку, звычайна раблю: **fieri / infieri** ~ [**чинити ся, деети ся / деяти ся / делати ся** *стб.*] рабіцца, чыніцца, дзеяцца; здзяйсняцца; 2) [**здати ся** *стб.*] здарацца.

**solida**, orum *n pl.* [**spólne dzierżenia** *пл.*] супольнае дзяржанне / (часовае) валоданне якім-небудзь маёнткам не адной асобай, але сумесна з іншымі. Такога тыпу валоданні, менавіта пажыццёвыя, былі забаронены законам у 1550 годзе. Vol. Leg. II, f. 595.

**solidarius**, a, um 1) наёмны; 2) раздробавы / рознічны: **solidaria contributio** [**szelężne** *пл.*] падатак ад продажу ў раздроб / розніцу напояў — гарэлкі, піва і мёду. Падатак ад аптовага продажу напояў называўся **contributio ducillaris** [**czopowe** *пл.*] чопавае. Той і другі былі злучаны ў адзін падатак, парадак збірання якога вызначаны законам 1768 года. Vol. Leg. VII, f. 628.

**solidarius**, ii *m* 1) сябар; супольнік; 2) спаўуласнік; 3) наёмны жаўнер.

**solidus**, i *m* [**szeląg** *пл.*] шэляг — манета, якую першапачаткова чаканілі з чыстага срэбра. Яна складала 1/60 частку польскай грыўні, *гл.* **marca**. У X—XII стагоддзях гэта была адзіная манета ў Польшчы. У пазнейшыя часы шэляг зрабіўся трэцяй часткай гроша і змяшчаў у сабе 6 дэнарыяў. Да 1650 года шэляг білі / чаканілі са срэбра, але ў 1650 годзе яго пачалі біць з медзі па 4 на грош; а пасля — па 3 на грош. І таму ў розныя часы шэляг меў розную вартасць.

**solitus**, a, um *part.* [**звычайный** *стб.*] звычайны, звыклы; прызвычаены; усталяваны: **solita** *s.* **usitata praxi** звычайным парадкам.

**solus**, a, um 1) [**сам** *стб.*] сам; самотны; 2) адзіны.

**solutio**, onis *f* (solvo) 1) развязанне; 2) вызваленне; 3) [**плат | платеж | поплата | заплата | плаченье** *стб.*] плата, плацеж, аплата, выплата; адплата: ~ **capitis** [**головщина** *стб.*] галаўшчына — плата, кампенсаванне за забойства ці разбой; ~ **decursiva** [**opłata z dołu** *пл.*] плата па заканчэнні ўмоўленага тэрміну; ~ **vaccae et ovis** [**podworowe** *пл.*] падваровае — грашовы падатак замест даўнейшай дастаўкі натурай авечкі і каровы.

**solvo**, solvi, solutum, ere 1) адвязваць; развязваць; 2) касаваць; знішчаць; 3) звальняць, вызваляць; 4) [**платити | заплатити** *стб.*] плаціць, выплачваць, аплачваць; [**заступати | заступити, оправити | оправовати, отправити | отправовати** *стб.*] адказваць; пакрываць (страты, шкоду).

**soma** *гл.* **sauma**.

**sona**, ae *f* (ад ням. **Söhne**) пагадненне, дамова; згода.

**Sophia V.** 15 траўня.

**Sophonias proph.** 3 снежня.
**Sophronius Ep. in Cypro. 8** снежня.
**sorbilitas**, atis *f* чэрствасць.
**soror**, oris *f* [**сестра** *стб.*] сястра.
**sors**, sortis *f* 1) [**жеребей** *стб.*] жэрабя / лёсы; 2) [**жеребей; часть; дельница | дел** *стб.*] жэраб / жэрабей — надзел зямлі; дзель / дзельніца / доля; частка (падзеленай маёмасці).
**sortilegium**, ii *n* 1) мастацтва прадказання; 2) прарочы дар; 3) чары.
**Sosthenes et Victor MM.** 10 верасня.
**Sother et Caius PP. MM.** 22 красавіка.
**sparsim** *adv.* (sparsus) [**розно** *стб.*] розна / паасобку.
**spatarius**, i *m* мечнік.
**specialis**, e (species) [**особный** *стб.*] асобны; адмысловы, спецыяльны.
**specialiter** *adv.* (specialis) [**особливе** *стб.*] асобна; адмыслова.
**specifice** *adv.* [(**на**) **имя** *стб.*] менавіта; пайменна.
**spectabilis**, e (specto) знамяніты (сталы эпітэт на азначэнне высокаасвечанай асобы).
**speculator**, oris *m* (speculor) 1) выведнік; шпег; 2) навочны сведка, відавочца; 3) даследчык; 4) [**strażnik** *пл.*] стражнік, вартаўнік, які ахоўваў замак; 5) клікун.
**spelta**, ae *f* пшаніца.
**spes**, ei *f* [**надея** *стб.*] надзея.
**spiciata**, ae *f* палісад, частакол.
**spiritualis**, e *s.* **spiritalis** [**духовный** *стб.*] духоўны, духовы.
**splendor**, oris *m* (splendeo) 1) бляск; 2) розныя каштоўнасці.
**spolio** 1. (spolium) [**злупити, грабити, пограбити** *стб.*] злупліваць / абрабоўваць, грабіць / рабаваць; захопліваць (чужую маёмасць), здзяйсняць захоп у адказ за захоп; адбіраць (маёмасць за даўгі).
**spolium**, ii *n* 1) [**грабеж, лупеж** *стб.*] лупеж / грабеж, рабаванне; захоп, гвалтоўнае вяртанне; 2) адыманне выкрадзенай маёмасці (самім гаспадаром); 3) нарабаванае, нарабаваная (маёмасць), нарабаваныя рэчы; захопленая (за даўгі) маёмасць; 4) [**розбой** *стб.*] разбой; збіццё.
**spondeo**, spopondi, sponsum, ere [**слюбити | шлюбити** *стб.*], [**spondować** *пл.*] шлюбіць / (урачыста) абяцаць, абавязвацца; ручацца.
**sponsalia**, ium (orum) *n pl.* 1) заручыны; 2) падарункі з нагоды шлюбу.
**sponsalitium**, i *n гл.* **sponsalia**.
**sponsio**, onis *f* (spondeo) 1) урачыстае абяцанне; 2) забеспячэнне; паручальніцтва (пры дамовах).
**spurio**, onis *m гл.* **spurius**.
**spurius**, ii *m* пазашлюбнае дзіця, байструк, бастард, бенкарт.
**stabilia**, ae *f* судовыя допыты.

**stabilitas**, atis *f* (stabilis) 1) нязменнасць; трываласць; 2) зацвярджэнне валодання чым-небудзь.

**stabularius**, ii *m* (stabulum) канюшы.

**stabulum**, i *n* (sto) 1) стайня; 2) месца знаходжання; схоў: ~ **pro ursis [zasieki na niedźwiedzie** *пл.*] права палявання караля на мядзведзяў у вызначаных ім месцах.

**stadium**, ii *n* [**staia (statutowa)** *пл.*] зямельная мера даўжыні, вызначаная Статутам, якая змяшчала ў сабе 84 локці.

**stafetarius**, ii *m* ганец.

**stagnum**, i *n* (sto) 1) [**сажовка, став** *стб.*] сажалка; стаў; 2) гаць; плаціна.

**stalla**, ae *f* купецкая крамка.

**stallum**, i *n* 1) месца знаходжання; 2) месца ў хоры для манаха ці каноніка.

**stamen**, inis *n* 1) галоўная ніць, аснова; 2) тканіна; 3) ~ **panni [postaw sukna** *пл.*] пастаў сукна / цэлая штука сукна, у якой звычайна лічылі 32 локці.

**stamentatio**, onis *f* ацэнка; меркаванне; павага, пашана.

**Stanislaus Ep. Cracov. M.** 11 красавіка.

**stannifusor**, oris *m* ліцейнік цыны.

**statera**, ae *f* бязмен з шалямі і без шаляў. У актах завуць яго **pondus ferreum** — назва недакладная, яе хутчэй можна было б разумець як «гіра».

**statio**, onis *f* (sto) 1) [**стан** *стб.*] стан, абоз / лагер; 2) [**stancya, nocleg** *пл.*] стацыя, начлег, гасціннасць. Кароль, раз'язджаючы па дзяржаве для забавы ці палявання, меў права патрабаваць ад падданых прыёму, начлегу і пачастунку. Права гэтае называлася **gastitua**. Пазней замест гэтага начлегу і пачастунку ўносіўся грашовы падатак, які і называўся **gastitua**.

**stativa**, orum *n pl.* 1) абоз / лагер; стаянка: ~ **hyemalia** зімовы пастой войска; 2) паштовая станцыя.

**statuo**, ui, utum, ere 1) [**поставити** *стб.*] ставіць, выстаўляць; прадстаўляць; дастаўляць; 2) [**положити** *стб.*] прызначаць, устанаўліваць; 3) [**ставити** *стб.*] прадстаўляць (у суд).

**status**, us *m* (sto) 1) пастава; пазіцыя; 2) стан рэчаў, становішча; 3) праўны стан, статус; 4) [**стан | стадло** *стб.*] грамадскі стан, саслоўе: ~ **equestris [stan rycerski** *пл.*] рыцарскі стан, шляхта; ~ **secularis** свецкі стан.

**stemma**, atis *n* 1) стужка; вянок: ~ **cognationum** спіс продкаў, генеалагічнае дрэва, род; 2) герб; сімвал; 3) *перан.*: старажытнасць.

**stentor**, oris *m* возны.

**Stephanus P. M.** 2 жніўня.

**Stephanus Protomart**. 26 снежня **eiusdem Corporis inventio** 3 жніўня, **translatio** 7 траўня.

**Stephanus Rex Hung**. 2 верасня, **eiusdem Elevatio** 20 жніўня.

**stimulus**, i *m* [**осно** *стб.*] кій, палка; пугаўё.

**stipator**, oris *m* (stipo) надворны гвардзеец.

**stipendiarius**, ii *m* (stipendium) 1) наёмны жаўнер, найманец, ляндскнэхт; 2) тое ж, што і **possesor** — асоба, якая валодае якой-небудзь нерухомай уласнасцю.

**stipendium**, ii *n* (= stipipendium) 1) плата: ~ **ministerialis** [**децкованое | децкованье** *стб.*] дзецкаванне — плата дзецкаму; ~ **visori** [**вижовое** *стб.*] віжавае — функцыя, абавязкі віжа; віжовае — плата віжу за выкананне ім сваіх абавязкаў; 2) [**пенези | пенязи** *стб.*] пенязі / грошы; 3) [**переем** *стб.*] пераём — узнагарода (за злоўленую збеглую чэлядзь); перахоп (збеглай чэлядзі).

**stipes**, itis *m* 1) паля; слуп; 2) ствол дрэва; дрэва; 3) дрэва крыжа; 4) генеалагічнае дрэва; паходжанне, пачатак; 5) бервяно; 6) прылада катаванняў; 7) права павешання злачынца; 8) *перан.*: ёлуп, дурань.

**stips**, stipis *f* (stipo) [**stypa** *пл.*] абед, які даецца пасля пахавання нябожчыка; памінанне; хаўтуры.

**stipula** *гл.* **stipulatio**.

**stipulatio**, onis *f* (stipulor) [**stypulacya** *пл.*] 1) умова; дамова; пастанова; 2) урачыстае абяцанне, пацверджанае прысягай; 3) стыпуляцыя — вусны кантракт, урачыстае абяцанне выканаць пэўнае (даўгавое) абавязацельства, ён здзяйсняўся праз запытанне з боку крэдытора і адказ з боку даўжніка.

**stipulator**, oris *m* (stipulor) [**stypulator** *пл.*] 1) той, хто падае ўмовы; 2) той, хто прымае ўрачыстае абяцанне — стыпуляцыю, крэдытор.

**stipulor** 1. (stipulus) [**stypulować** *пл.*] 1) прымаць урачыстае абяцанне выканання пэўнага (даўгавога) абавязацельства; 2) дамаўляцца, вызначаць у дамове адмысловы пункт.

**stirparium**, ii *n* ачышчаны, выцераблены лес.

**stirpaticum** *гл.* **stirparium**.

**stirpetum** *гл.* **stirparium**.

**stirps**, stirpis *f* 1) камель; 2) ствол; 3) атожылак; парастак; 4) [**род** *стб.*] род; радня.

**sto**, steti, statum, are 1) [**стоити | стояти | стати** *стб.*] стаяць; ставаць (перад), з'яўляцца; 2) [**становити ся | ставити ся** *стб.*] станавіцца; станавіцца на суд; прадстаўляцца.

**strat(at)icum**, i *n* [**brukowe** *пл.*] бруковае — падатак на ўладкаванне бруку.

**strata**, ae *f* (sterno) *sc.* **via** 1) брукаванка, брук; 2) бруковае, бруковы падатак.

**strator**, oris *m* (sterno) 1) конюх; утаймавальнік коней; 2) кватар'ер.

**stren(n)a**, ae *f* падарункі на Нараджэнне Божае ці на Новы год.

**strenuus**, a, um мужны (сталы эпітэт на азначэнне шляхціца-воіна).

**strepitus**, us *m* (strepo) 1) шум; 2) галас, гоман: ~ **iuris** цяжба, вядзенне справы ў судзе, судовая спрэчка.

**stricta**, ae *f* цесная дарога, цясніна.

**strictum** *гл.* **stricta**.

**strictura**, ae *f* (stringo) 1) сціскание; уціск; 2) абмежаванне; 3) падатак; 4) цясніна.

**strictus**, i *m* *гл.* **stricta**.

**stringo**, strinxi, strictum, ere 1) [**стискати** *стб.*] сціскаць, уціскаць; выцясняць; 2) караць; штрафаваць.

**strophium**, ii *n* 1) вянок; галаўная павязка; 2) станік; карсет; 3) ліна / канат.

**structor**, oris *m* (struo) будаўнік; будаўнічы; муляр: **structor mensae** кухар; крайчы; *гл. тс.* **dapifer**.

**structuarius**, ii *m* будаўнічы (пасада).

**structuarius**, ii *m* наглядчык за будынкамі.

**strumentum** *гл.* **instrumentum**.

**stuba**, ae *f* 1) [**izba** *пл.*] святліца; палата; 2) установа.

**studiose** *adv.* (studiosus) 1) старанна, руплiва, дбайна; 2) [**умыслне** | **умысльне** *стб.*] свядома, наўмысна.

**studiosus**, a, um (studium) [**похопный** *стб.*] пахопны / старанны, руплівы.

**studium**, ii *n* (studeo) 1) старанне, руплівасць; 2) заўзяцце, жарсць; 3) [**наука** *стб.*] навука; навучанне.

**stylus**, i *m* 1) пісала, штыль; 2) пісьмо, стыль, спосаб пісання; 3) стыль летазлічэння: ~ **novus** новы стыль ці грыгарыянскае летазлічэнне. Вядома, што паводле вызначэння Нікейскага сабора, які адбыўся ў 325 г., Вялікдзень павінен быў святкавацца ў першую нядзелю пасля поўні, якая бывае ці ў сам дзень вясновага раўнадзенства, ці непасрэдна ў наступны за ім. Веснавое раўнадзенства падчас Нікейскага сабора было 21 сакавіка. Але па заканчэнні 1257 гадоў, а менавіта ў 1582 годзе, паводле ўказання тагачасных астраномаў, веснавое раўнадзенства прыпала на 11 сакавіка, г. зн. было на дзесяць дзён раней. Гэтая рознасць адбылася таму, што ў юліянскім годзе, які быў прыняты паўсюль у Еўропе, належала лічыць 365 дзён і 6 гадзін, тым часам як сапраўдны год, на працягу якога Зямля абяртаецца вакол Сонца, складаецца з 365 дзён, 5 гадзін, 48 хвілін і 46,1 секунды. І таму, прыняўшы за звычайную меру часу менавіта гэты год, які называецца трапічным, калі мы станем вымяраць час юліянскімі гадамі, то кожны год мы будзем выпускаць у падліку 11 хвілін і 13,9 секунды, г. зн., калі мы, прымаючы юліянскія гады, кажам, што ад пэўнага перыяду часу прайшоў год, тады насамрэч прайшоў год, 11 хвілін і 13,9 секунды, калі ж мы кажам, што прайшлі два гады, тады насамрэч прайшлі два гады, 22 хвіліны і 27,8 секунды. Лічачы такім чынам час юліянскімі гадамі, па заканчэнні 128 гадоў мы выпусцім амаль цэлыя суткі, а па заканчэнні 400 гадоў мы выпусцім тры дні. Такім чынам, па заканчэнні 1257 гадоў ад Нікейскага сабора, з 325 да 1582 года, было выпушчана ў падліку 10 дзён. Каб вярнуць веснавое раўнадзенства на ранейшае яго месца, г. зн. на 21 сакавіка і каб на будучы час прадухіліць яго перасоўванне, папа Грыгорый XIII, пасля нарады з самымі вядомымі астраномамі свайго часу, у 1582 годзе зрабіў наступныя пераўтварэнні: 1. Пастанавіў дадаць да 1582 года выпушчаныя ў падліку паводле юліянскага летазлічэння 10 дзён да 5-га дня кастрычніка, г. зн. 5 кастрычніка ён загадаў лічыць 15-м днём кастрычніка. 2. Паколькі 400 юліянскіх гадоў складаюць 400 трапічных га-

доў і тры дні ці 400 трапічных гадоў роўныя 400-м юліянскіх без 3 дзён, то каб зраўнаць юліянскія гады з трапічнымі і тым прадухіліць перасоўванне веснавога раўнадзенства, папа Грыгорый XIII пастанавіў: пакінуць высакосныя дні юліянскага летазлічэння як раней, выключыўшы з іх так званыя векавыя высакосы, г. зн. загадаў не лічыць высакоснымі гады, якія пішуцца з двума нулямі, напр. 1500-ы, 1700-ы, якія паводле юліянскага летазлічэння лічацца высакоснымі; але тыя з іх, у якіх пачатковыя лічбы пасля адкідання двух нулёў падзяляюцца без астачы на 4, лічыць як і раней высакоснымі; так што на працягу 400 гадоў выключаюцца з ліку высакосных гадоў юліянскага летазлічэння тры гады; праз гэтае выключэнне высакосаў з 400 юліянскіх гадоў адымаюцца тры дні. Пры чытанні старажытных актаў Рэчы Паспалітай, у якіх з 1583 года амаль паўсюдна прынята было грыгарыянскае летазлічэнне, трэба памятаць, што ў XVI і XVII стагоддзях дні месяцаў новага стылю апярэджвалі дні месяцаў старога стылю на 10 дзён, у XVIII стагоддзі на 11 дзён, у XIX стагоддзі на 12 дзён; а ў XX і XXI стагоддзях на 13 дзён; ~ **vetus** стары стыль ці юліянскае летазлічэнне, паводле якога ў годзе налічваецца 365 дзён і 6 гадзін. Гэтыя 6 гадзін па заканчэнні 4 гадоў складаюць адны суткі. І таму па заканчэнні трох гадоў, на чацвёртым годзе да 365 дзён дадаюць яшчэ адзін дзень ці суткі, і гэты год завуць высакосным — **annus bisextilis**. Дзень гэты дадаюць да 28-га дня месяца лютага, які ў высакосным годзе мае 29 дзён. Рымляне замест дадання да 28-га дня месяца лютага аднаго дня, лічылі двойчы шостыя календы сакавіка, што абазначалі так: **bis sexto kalendas Martii**. Календы гэтыя адпавядаюць 24-му дню месяца лютага. Адгэтуль і паходзіць слова **bisextitis** ці высакос — **bis sexto**. У Рымска-каталіцкім касцёле і дагэтуль дзень св. апостала Мацея, які звычайна прыпадае на 24 лютага, у высакосных гадах святкуецца 25 лютага.

**sub** *praep.* [**под** *стб.*] пад; з-пад.

**subagaso**, onis *m* падканюшы.

**subagazo** *гл.* **subagaso**.

**subaro** 1. [**подорати | подоривати | подорывати** *стб.*] падворваць.

**subasto** 1. *гл.* **subhasto**.

**subcamerarius**, ii *m гл.* **succamerarius**.

**subdapifer**, eri *m* [**podstoli** *пл.*] падстолій — саноўнік, які служыў пры стале караля падчас прыдворных святаў і меў нагляд за стравамі.

**subdelegatus**, i *m* [**subdelegat** *пл.*] субдэлегат ці падсудак — выконваў абавязкі суддзі падчас яго адсутнасці. Абіраць субдэлегата спачатку маглі толькі некаторыя ваяводствы, але затым гэтае права было пашырана на ўсе ваяводствы. І таму падсудак падчас адсутнасці суддзі быў субдэлегатам **ex officio** і называўся **subdelegatus natus**. Vol. Leg. VIII, f. 908.

**subdelego** 1. 1) перадаваць атрыманыя паўнамоцтвы на іншую асобу; 2) [**посадити** *стб.*] садзіць, ставіць; прызначаць.

**subditus**, i *m* [**подданый** *стб.*], [**poddany** *пл.*] падданы; селянін. Сяляне ў Польшчы і Літве-Беларусі мелі розныя назвы, як **cmethones** [**kmiecie** *пл.*], **rustici** [**chłopi** *пл.*], **coloni** [**rolnicy** *пл.*] кметы, сяляне, мужыкі і да т. п. Яны падзяляліся на каралеўскіх, якія мелі сваю аселасць у каралеўскіх уладаннях, і шляхецкіх, якія мелі сваю аселасць у земскіх і духоўных маёнтках. У старажытнасці тых і другіх падзялялі на пяць класаў: a) **servi globae**, якія безумоўна падлягалі падданству, у Літве-Беларусі іх называлі ойчычамі, b) **adscriptitii** прыпісныя ці якія прыпісаліся, якія абавязаліся пісьмова за сябе і за сваіх нашчадкаў выконваць некаторыя павіннасці, атрымаўшы ў сваё карыстанне выдзеленыя ўчасткі зямлі, c) **censiti** чыншавыя, якія плацілі пэўны чынш за зямлю, d) **conditionales** умоўныя, г. зн., якія атрымлівалі ў сваё карыстанне зямлю на пэўны час. У Статуце ВКЛ яны называюцца людзьмі пахожымі, e) **inquilini komornicy** і **hortulani** [**zagrodnicy** *пл.*] каморнікі, загроднікі, якія маюць ад вотчынніка дом ці гарод. У першым выпадку яны называліся **inquilini** ці **komornicy**, у другім **hortulani**. Przyłuski. lib. 1, cap. 17. De cmethonibus.

**subeo**, ii, itum, ire 1) падыходзіць; падбірацца; 2) уваходзіць; уступаць; пранікаць; 3) [**заступати | заступити** *стб.*] заступаць на службу; несці (службу).

**suber**, eris *n* [**луб, лык** *стб.*] луб, лыка; кара.

**subfalconarius**, ii *m* [**подсоколий** *стб.*] падсакольны (сабака).

**subhastatio**, onis *f* (subhasto) [**subhastacya** *пл.*] спагнанне доўгу шляхам продажу нерухомай маёмасці даўжніка з публічнага торгу; аўкцыён.

**subhasto** 1. прадаваць з аўкцыёну, *пар.* **hasta publica**.

**subiacentia**, ae *f* дадатак, прыдатак.

**subiecti**, orum *m pl.* падданыя.

**subitus**, a, um [**наглый** *стб.*] раптоўны.

**subiudex**, icis [**podsędek** *пл.*] падсудак — памочнік ці намеснік суддзі. Ён, як і суддзя, абіраўся шляхтай і ў ліку чатырох кандыдатаў прадстаўляўся на зацвярджэнне каралю. Земскі падсудак меў вырашальны голас у судзе — **votum decisivum**, а у прамежку часу пасля заканчэння тэрміну суда, калі адбывалася адкрыццё актавых кніг, вядомае пад тэхнічным тэрмінам **positio actorum terrestrum** [**leżenie xiag** *пл.*], ён быў галоўнай асобай ў судзе. Vol. Leg. I, f. 25; II, f. 598.

**sublevatio**, onis *f* (sublevo) 1) дапамога; паратунак; 2) палёгка; 3) [**sublewacya** *пл.*] скасаванне законным парадкам якога-небудзь прысуду ці акта. Пераважна сублеваты выдаваліся з каралеўскай канцылярыі на скасаванне баніцыяў / актаў пра выгнанне. Vol. Leg. II, f. 1459.

**submanens**, entis *m гл.* **submansor**.

**submansor**, oris *m* пасяленец.

**submergium**, ii *n* пакаранне смерцю, якое палягала на ўтапленні вінаватага.

**submissio** (summissio), onis *f* (submitto) 1) паніжэнне голасу; 2) падатлівасць; паслухмянасць; 3) [**submissya** *пл.*] падпарадкаванне, падначаленне, згода су-

працўнага боку на ўсё ці на некаторыя толькі пункты патрабаванняў пазоўніка / істца.

**submoneo** (summoneo), monui, itum, ere 1) таемна нагадваць; перасцерагаць, асцерагаць; 2) заклікаць да зброі; 3) склікаць; 4) пазываць / выклікаць у суд, *гл. тс.* **cito**.

**subnotarius**, ii *m* падпісак, падпісар.

**subpalatinus**, i *m* [**podwojewodzi** *пл.*] падваявода, асоба, падпарадкаваная ваяводу і якая была яго намеснікам.

**subpertinentia**, ae *f* даданне, дадатак.

**subpincerna**, ae *m* падчашы.

**subregulus**, i *m* 1) васал; 2) правадыр роду.

**subrepticie** *adv.* употай; хітрым чынам, хітрасцю.

**subrogatio**, onis *f* (subrogo) 1) замяшчэнне; падстаўленне; 2) абранне замест кагосьці; 3) [**subrogacya** *пл.*] атрыманне правоў даверніка трэцяй асобы, якая аплачвае яго паслугі.

**subsanatus**, a, um крыху, часткова загоены (пра раны), залечаны.

**subseco**, secui, sectum, are [**подрубати** *стб.*] падсякаць, падцінаць; высякаць.

**subsellium**, ii *n* ніжэйшая інстанцыя суда.

**subses**, idis 1) нявольнік; 2) дзяржаўца / арандатар; 3) падданы.

**subsidium**, ii *n* (subsideo) 1) рэзерв войска; 2) адбіццё аблогі; 3) абарона; паратунак; 4) дапамога: ~ **charitativum contributionis** падатак ад усіх станаў. Vol. Leg., a. 1673, V, f. 166, 174; ~ **generalis contributionis reipublicae** дапамога агульнаму падатку Рэчы Паспалітай. Падатак устаноўлены ў 1662 годзе на жыдоў, якія павінны былі плаціць ад тавараў 5%, а замежныя купцы 10%. Vol. Leg. IV, f. 881; ~ **generalis contributionis** падатак устаноўлены ў 1662 годзе — дапамога агульнаму падатку. Vol. Leg., a. 1662, IV, f. 881.

**subsignifer**, feri *m* падхаружы.

**substantia**, ae *f* (substo) 1) сутнасць; змест; 2) існаванне; 3) ежа; 4) складанне; злучэнне; 5) матэрыя; маса; 6) багацце; плоднасць; 7) маёмасць.

**substitutio**, onis *f* (substituo) 1) падстаноўка; замяшчэнне; 2) [**substitucya** *пл.*] пункт у тастаменце / завяшчанні, паводле якога атрымальнік спадчыны абавязваецца аддаць што-небудзь з яе іншай асобе.

**subterfirmo** 1. пацвярджаць які-небудзь пісьмовы акт подпісам ці прыкладаннем пячаткі.

**subtitulo** 1. пісаць унізе, прыпісваць што-небудзь ніжэй.

**subtraho**, traxi, tractum, ere [**вкрасти** | **украсти** | **покрасти** *стб.*] красці, выкрадаць, абкрадаць.

**subucula**, ae *f* мужчынская кашуля.

**suburbanum**, i *n* 1) частка зямлі, лесу ці вады, якая належыць гораду; 2) прадмесце.

**suburbanus**, a, um які жыве на гарадской зямлі, у прадмесці.

**suburbanus**, i *m* падмяшчанін, падмесціч.

**suburbarius**, ii *m гл.* **suburbanus, i** *m*.

**suburbium**, ii *n гл.* **suburbanum**.

**subvenator**, oris *m* падлоўчы — намеснік лоўчага.

**succamerarius**, ii *m* падкаморы, які меў такую ж уладу, як і **camerarius** — каморый. Vol. Leg., a. 1582, II, f. 1941, *гл.* **iudicia succameralia**;~ **curiae** каронны падкаморы.

**succedaneus**, i *m* наступнік; пераемнік.

**successio**,onis *f* (succedo) 1) наступнасць; наступства; 2) успадкаванне, спадкаемства; спадчына: ~ **tristis** гаротная спадчына. Спадкаемства паводле законаў Польшчы і ВКЛ ішло заўсёды ў сыходнай, а не ўзыходнай лініі роднасці — ~ **descendere, non ascendere debet**; калі ж здаралася, што за недахопам сваякоў у сыходнай лініі спадчыну атрымлівалі сваякі па ўзыходнай лініі, напр., калі бацька атрымліваў спадчыну па смерці сына, такая спадчына называлася ~ **luctuosa**; ~ **tristis** жалобная, гаротная спадчына.

**successor**, oris *m* (succedo) [**потомок** *стб.*] нашчадак; наступнік; спадчыннік, спадкаемец.

**succidium**, ii *n* 1) разбурэнне; 2) караблекрушэнне.

**succinta**, ae *f* пояс.

**succollector**, oris *m* памочнік збіральніка падаткаў, таксама збіральнік мыта, якое часта арандавалі жыды.

**succubitio**, onis *f* страта якога-небудзь права, якой-небудзь прэтэнзіі, *гл. тс.* **amissio pretensionis**.

**succumbo**, cubui, cubitum, ere; 1) упадаць; 2) падпадаць; 3) паддавацца: ~ **in obiectione** не даказаць свайго пярэчання ці заявы.

**succurentia**, ae *f* [**sukkurencya** *пл.*] дапамога; падтрымка.

**sufferentia**, ae *f* (suffero) 1) цярплівасць; цярплівае чаканне; трыванне; 2) воля; 3) самаўпраўнасць, сваволя; 4) згода; 5) затрымка, адтэрміноўка на адзін дзень.

**suffero**, sustuli, —, ferre (fero) 1) падстаўляць; 2) вытрымліваць; трываць; зносіць, цярпець; 3) [**красти | скрасти** *стб.*] красці, выкрадаць: ~ **furto** [**вкрасти | украсти** *стб.*] украсці.

**suffragium**, ii *n* 1) голас пры галасаванні: ~ **liberum** вольны голас; **suffragia sua addere** далучаць свой голас, сваё меркаванне; 2) падтрымка, дапамога; 3) усялякая выдача; 4) грошы ці ўвогуле якая-небудзь рухомасць, атрыманая паводле рашэння каралёў.

**Sulpitius et Servilanus MM.** 20 красавіка.

**Sulpitius Pius Ep.** 17 студзеня.

**sultanus**, i *m* султан.

**sum**, fui, esse 1) [**бытн** *стб.*] быць; апынацца; удзельнічаць: ~ **in usu** [**поживати** *стб.*] ужываць, выкарыстоўваць, карыстацца; 2) знаходзіцца; перабываць; 3) існаваць.

**sumbrinum**, i *n* (верагодна ад ням. **Simmra**) мера для сыпкіх рэчываў.

**summa**, ae *f* (summus, a, um) [**сума** *стб.*] сума: ~ **dotalis** [**posag** *пл.*] пасаг ці сума, унесеная жонкай; ~ **dotalitia** *s.* **dotalitium** сума, роўная першай, якой муж забяспечваў пасаг, унесены жонкай.

**summarius**, a, um сумарны, абагулены: **summaria cognitio,** ~ **processus** сумарны, спрошчаны працэс.

**summo** 1. (summus) 1) угаворваць; 2) патрабаваць сумы грошай; 3) даваць загаловак; выказваць галоўнае.

**summus**, a, um [**набольшний** *стб.*] найбольшы; найвышэйшы.

**sumptus**, us *m* (sumo) [**наклад** *стб.*] рахунак; выдаткі; сродкі.

**sumptum**, i *n* 1) выдаткі; сродкі; кошт; 2) прыклад; апісанне.

**suna**, ae *f* (ад ням. **Sühne**) пагадненне; дамова; згода.

**supanus**, i *m* жупан.

**super** *adv.* 1) [**над** *стб.*] над; 2) [**вышей** *стб.*] вышэй; звыш; праз; больш; [**звыш** | **надвыш** | **назвыш** *стб.*] звыш (чагосьці), з лішкам.

**superabundanter** *adv.* (superabundo) з лішкам.

**supercessio**, onis *f* [**supercessya** *пл.*] 1) перасаступка, калі ўладальнік саступленага яму прадмета перасаступае яго іншай асобе; 2) перасаступачны запіс; 3) калі маёмасць даўжніка паводле рашэння суда павінна паступіць у валоданне яго даверніка, а тым часам гэтая маёмасць раней паступіла пад заклад ці ў апеку іншага даверніка, у такім разе суд прызначае перасаступку, г. зн. па задаволенні першага даверніка маёмасць павінна паступіць у валоданне другога, новага даверніка.

**superducta**, ae *f* [**мачоха** *стб.*] мачаха.

**superfideiubeo,** jussi, jussum, ere ручацца.

**superimpositio**, onis *f* [**zdzierstwo** *пл.*] перабор у зборы падаткаў, зроблены на сваю карысць іх збіральнікамі.

**superindictio**, onis *f* падатак звыш устаноўленага ці належнага.

**superintendens**, entis *m* [**пристав** *стб.*] прыстаў.

**superior**, oris *m* [**superior** *пл.*] супэрыёр — зверхнік каталіцкага кляштара, *гл.* **prior**.

**superior**, oris *adi. compar.* [**вышший** *стб.*] вышэйшы; верхні.

**superpositio**, onis *f* (superpono) [**superpozycya** *пл.*] падначаленне ніжэйшых асоб вышэйшым, зверхніцтва адной асобы над іншымі.

**superrogatio**, onis *f* усё, што робіцца добраахвотна, не з абавязку.

**supersedentia**, ae *f* адклад, адкладанне.

**supersedeo**, sedi, sessum, ere 1) сядзець на чымсьці; 2) *перан.*: адкладаць, запавольваць сваю ці чужую справу; не дбаць; 3) прапускаць.

**superSenioratus**, us *m* вышэйшая ўлада.

**supersisa** *гл.* **supersedentia**.

**supersum**, fui, esse [**зостати, зостати ся** *стб.*] заставацца; даставацца; пакідаць.

**Suphana et Tiburtius MM.** 11 жніўня.

**supporto** 1. 1) трываць, цярпець, пераносіць; 2) саступаць; дарыць.
**supputatio**, onis *f* (supputo) дата.
**supra** *adv.* [**вышей** *стб.*] вышэй; звыш; больш.
**suprabannum**, i *n* ранейшае ці першапачатковае выгнанне.
**supradictus**, a, um [**мененый** | **менованый** *стб.*] менаваны / названы, згаданы, памянёны.
**supremus**, a, um *v.* **superus** [**вышший** *стб.*] найвышэйшы.
**surgo**, surrexi, rectum, ere 1) падымаць; настаўляць (*напр.* вушы); 2) уставаць, падымацца; 3) усплываць наверх; 4) падымаць угару; зрушваць з месца.
**surreptum**, i *n* [**trzebież** *пл.*] зямля ці поле, ачышчанае ад зараснікаў, выцерабленае, інакш — карчовішча.
**surrogatio**, onis *f* [**surogacya** *пл.*] сурагацтва, *гл.* **surrogator**.
**surrogator**, oris тое ж, што і **subdelegatus** памочнік, які заступае месца, намеснік. Сурагатары былі пераважна пры гродскіх судах памочнікамі старастаў, таму і гродскія суды, у якіх судзіў сурагатар, называліся сурагацкімі. Сурагатараў абіралі самі старасты (Vol. Leg. I, f. 257). У рымска-каталіцкай іерархіі ёсць таксама сурагатары ці сурагаты, памочнікі афіцыялаў — біскупскіх намеснікаў.
**sus**, suis *f* [**свинья** *стб.*] свіння.
**Susanna** 19 лютага.
**Suscepimus Deus (dominica)** 8-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога.
**susceptum**, i *n* [**suscepta** *пл.*] 1) сусцэпт — пачатковая формула акта яўкі ці сазнання кожнага дакумента. Сусцэптам называлі таксама пазнаку, зробленую рэгентам ці пісарам суда на прадстаўленым да яўкі гатовым дакуменце. Пазнака гэтая павінна быць падпісана ўсімі чальцамі суда і рэгентам ці пісарам; 2) нататка на дакуменце аб упісанні яго ў земскія альбо гродскія кнігі.
**susceptus**, i *m* 1) кліент; 2) той, хто аддаецца пад пратэкцыю мацнейшага; 3) васал.
**Suscipe, Domine, fidelium preces (dominica)** 5-я нядзеля па Вялікадні.
**suscipio**, cepi, ceptum, ere [**приймати** | **приймовати** | **приняти** *стб.*] прымаць; уключаць.
**suspectus**, a, um [**подозрений** *стб.*] падазраваны, падазроны: **non** ~ [**неподозреный** *стб.*] не падазраваны.
**suspendo**, pendi, pensum, ere 1) [**обесити** *стб.*] вешаць; 2) [**завесити** *стб.*] прыпыняць; 3) [**висети** | **висяти** *стб.*] вісець, (быць) павешаным.
**suspensio**, onis *f* (suspendo) адтэрміноўка, акт, паводле якога падкаморы з розных прычын, пераважна фізічных, як напр. паводкі, разліву рэк, вялікага снегу, праліўных дажджоў і інш., не змогшы вымераць належным чынам і абмежаваць спрэчнай зямлі, адкладаў сваё рашэнне да іншага, зручнейшага часу і запісваў гэтую адтэрміноўку ў кнігу.
**suspensor**, oris *m* кат.
**suspicio**, onis *f* [**подозренье** *стб.*] падазрэнне.

**sussuro**, onis *m* паклёпнік.
**sustentamen**, inis *n* [**sustentamen** *пл.*] 1) падтрымка; утрыманне; 2) ежа, харчаванне; пражытак.
**sustentamentum** *гл.* **sustentamen**.
**sustento** 1. *intens.* [**подперети | подпирати** *стб.*] падпіраць; падмацоўваць.
**sutor**, oris *m* (suo) [**швец** *стб.*] шавец, чаравічнік.
**sutorius**, a, um шавецкі: **crepida sutoria** шавецкая калодка.
**sutrina**, ae *f* швальня шаўца.
**suuestor**, oris *m* свінабой, гандляр свіннямі.
**suus**, a, um *pron. poss.* [**свой** *стб.*] свой.
**Svidertus Ep.** 1 сакавіка.
**Sybilla** 10 верасня.
**Symphorianus et Timotheus** 22 жніўня.
**Symphorosa cum septem filiis MM.** 18 ліпеня.
**syndicus**, i *m* сіндык — упаўнаважаны якой-небудзь карпарацыяй, адвакат, гарадскі юрыст.
**syngrafa**, ae *f* пазыковы запіс, распіска, вэксаль.
**Syrus Ep.** 9 снежня.

## T

**tabarda**, ae *f* сурдут.
**tabellio**, onis *m* (tabella) 1) пісец, пісар; 2) натарый.
**taberna**, ae *f* 1) [**корчма** *стб.*] карчма; 2) права закладаць карчму ў вёсцы; 3) жупа, саляварня.
**tabernaculum**, i *n* (taberna) 1) хаціна з дошак; 2) намёт; шацёр; 3) намёт варажбіта-аўгура дляназірання за небам; 4) [**лазня** *стб.*] вартоўня ў лесе.
**tabernalis**, e датычны крамы, заезнага дому, яткі: **domus tabernalis** карчма; **tabernalis arendator** дзяржаўца / арандатар карчмы.
**tabernaticus**, i *m* падатак ад рознічнага продажу віна.
**tabernator**, oris *m* карчмар; шынкар.
**taberno** 1. прадаваць віно ў розніцу.
**taceo**, tacui, tacitum, ere ( [**молчати** *стб.*] маўчаць.
**tactus**, a, um 1) (за)крануты; 2) пазваны / выкліканы ў суд.
**tactus**, us *m* (tango) 1) дакрананне, дотык; 2) пачуццё дотыку; 3) уздзеянне, уплыў; 4) [**takt** *пл.*] злачынства, учыненае ў тэрміны правядзення суда ў якой-небудзь мясцовасці, не далей як на паўмілі ў наваколлі ад месца суда, *гл.* **terminus tactus**.
**tala**, ae *f* 1) рабаванне; 2) спусташэнне поля.
**talaga**, ae *f* воз.
**talator**, oris *m* спусташальнік.
**talentum**, i *n* фунт: **ulnis et talentis fiat venditio** продаж павінен быць на локці і на фунты. Vol. Leg., a. 1507, I, f. 365.

**taleo** 1. 1) высякаць дрэвы; 2) рэзаць дакумент на знак яго анулявання.
**talia**, ae *f* мыта і наогул любыя скарбовыя прыбыткі.
**talio**, onis *m* 1) помста; адплата: **ius talionis** права помсты; 2) кампенсаванне, пакрыццё шкоды; 3) абмен.
**taliter** *adv.* (talis) [**так** *стб.*] так; нагэтулькі.
**tallium**, ii *n* раздроб / розніца: **ad ~ vendere** прадаваць у раздроб / розніцу.
**tallus**, i *m* кубак.
**tamen** [**ведже | веджо; вшакже | вшакжо | вшенже, а** *стб.*] аднак, але, а; усё ж, бо.
**tamquam** (tanquam) *adv.* [**яко** *стб.*] як; як быццам; так ... як.
**tandem** *adv.* [**наконец, потом** *стб.*] нарэшце, канчаткова; потым, затым.
**tango**, tetigi, tactum, ere 1) кранаць, чапаць; 2) [**вдарити | ударити** *стб.*] ударацъ, біць.
**tannatoria**, ae *f* гарбарня.
**tantum** *adv.* [**столько** *стб.*] гэтулькі.
**tantundem** [**только, по тому ж, противень** *стб.*] таксама, гэтулькі.
**Tartarus**, i *m* [**татарин** *стб.*] татарын.
**tavega**, ae *f* няволя.
**taxa**, ae *f* 1) [**цена, шацунок** *стб.*] цана; кошт; 2) [**вфала | уфала, устава** *стб.*] ухвала; пастанова, устанаўленне; распараджэнне, указ; закон.
**taxillus**, i *m* костка для гульні: **taxillorom ludus** гульня ў косткі. Vol. Leg., a. 1347, I, f. 31.
**taxo** 1. *frequ.* [**ошацовати** *стб.*] ацэньваць.
**tectum**, i *n* 1) дах; 2) [**хоромина** *стб.*] хароміна / пабудова; жытло.
**tegula**, ae *f* [**dachówka** *пл.*] дахоўка / чарапіца.
**tegulator**, oris *m* [**dachówkarz** *пл.*] дахоўнік, вырабляльнік дахоўкі.
**telenga**, ae *f* воз.
**teleonarius**, i *m* [**mytnik** *пл.*] мытнік, збіральнік мыта.
**Telesphorus M.** 5 студзеня.
**telligraphum**, i *n* пісьмовы акт адчужэння зямель.
**teloneaticus**, i *m гл.* **teloneatus**.
**teloneator**, oris *m* мытнік.
**teloneatus**, us *m* права збору мыта.
**teloneum**, i *n гл.* **theloneum**.
**temere** *adv.* [**свовольне** *стб.*] свавольна / самавольна; неабгрунтавана.
**temeritas**, atis *f* (temere) [**впор | впорство** *стб.*] апор / супраціў; упартасць, зацятасць.
**temporalia**, ium *n pl.* уладанні духоўных асоб — клерыкаў.
**tempus**, oris *n* [**час** *стб.*] час; пара: **tempore** [**за живота** *стб.*] пры жыцці.
**tendo**, tetendi, tensum, ere 1) нацягваць, напінаць; 2) выцягваць, працягваць; 3) накіроўвацца, кіравацца; звяртацца; 4) імкнуцца да чагосьці, мець намер; 5) [**торгнути ся (ку присяге)** *стб.*] памкнуцца / кідацца (да прысягі).

**tenedo**, onis *f* дзяржанне / арэнда.

**tenementarius**, ii *m гл.* **tenentiarius**.

**tenementum**, i *n* 1) дзяржанне / арэнда; 2) зямельнае ўладанне; 3) тэрыторыя ці акруга якога-небудзь уладання.

**tenens**, ntis *m* дзяржаўца / (часовы) уладальнік, трымальнік маёнтка, які знаходзіцца ў валоданні феадальнага ўладальніка, арандатар.

**tenentiarius**, ii *m* дзяржаўца / арандатар, *гл. тс.* **tenutarius**.

**teneo**, tenui, tentum, ere 1) [**держати, в держаньи быти** *стб.*] дзяржаць / (часова) валодаць; трымаць; захоўваць; выконваць; 2) [**мети** *стб.*] мець; магчы; атрымліваць; захоўваць; быць абавязаным, быць павінным *тс. pass.*: **non tenebitur** [**неповинный** *стб.*] не абавязаны, не павінны; **tenebitur se iustificare** [**быти правым** *стб.*] апраўдвацца.

**tenetura**, ae *f* 1) дзяржанне / арэнда; 2) зямельнае ўладанне; 3) статус; пазіцыя.

**tentio**, onis *f* (tendo) 1) юрысдыкцыя; дзялянка; валоданне; 2) скупка крадзенага.

**tenura**, ae *f* валоданне.

**tenuta**, ae *f* [**dzierżawa** *пл.*] 1) дзяржава / дзяржанне / арэнда нерухомай маёмасці, узятай на пэўную колькасць гадоў за ўмоўленую гадавую плату; 2) уласна пад словам дзяржава разумеюць каралеўскія ўладанні ці староствы, аддадзеныя ў арэнду некаторым асобам за ўнесеную імі суму, якая выплачвалася праз некалькі пакаленняў, ці за так званую «кварту», якая плацілася штогод.

**tenutarius**, ii *m* [**державца** *стб.*], [**dzierżawca** *пл.*] 1) дзяўжаўца / арандатар, часовы ўладальнік (маёнтка); 2) дзяржаўца / часовы ўладальнік каралеўскага маёнтка, які ці плаціў у каралеўскі скарб так званую «кварту» і належаў да ліку зямянаў (Просьба да караля, пададзеная на сойме ў 1553 годзе, *гл.* Zbiór Dział.), ці ўнёс у каралеўскі скарб вызначаную значную суму і валодаў каралеўскім маёнткам спадчынным правам праз некалькі пакаленняў да выплаты ўнесенай сумы, і называўся земскім старастам. Але ў старажытнасці дзяржаўцы / арандатары называліся цівунамі: «державцы, которые недавно названы державцами, а первей менованы тивунами». 1-ы Стат. Літ., разд. VI, арт. 33; 3) чалавек, які трымае закладныя добры / уладанні; 4) крэдытор дзяржання / арэнды.

**tergiversatio**, onis *f* (tergiversor) выкрут; адгаворка.

**terminator**, oris *m* (termino) 1) той, хто вызначае межы; 2) той, хто заканчвае; 3) тэрмінатар — ніжэйшы канцылярскі службовец.

**terminus**, i *m* 1) знак; межавы камень; мяжа, граніца; 2) канец, мяжа; 3) акруга; 4) прамежак часу; 5) [**рок** *стб.*] рок / акрэслены, прызначаны час, тэрмін: **termini iudiciarii terrestres** рокі судовыя земскія — тэрміны судаводства земскага суда. Іх было паводле закону тры на працягу года, а менавіта: a) на другі дзень пасля нядзелі Найсвяцейшай Тройцы — **dominica Sanctissimae Trinitatis**, і таму тэрмін гэты называўся Траецкім, b) на другі дзень пасля

свята св. Міхала Арханёла, які ў каталікаў святкуецца 29 верасня, а таму і тэрмін гэты называўся Міхалаўскім, с) і, нарэшце, трэці тэрмін, які пачынаўся непасрэдна пасля свята Аб'яўлення Пана, якое іначай называецца святам Трох Каралёў — **Trium Regum**, і таму тэрмін гэты называўся трохкаралёўскім. Стат. Літ., разд. IV, арт. 46; **termini querelarum [roki kwerelowe** *пл.*] рокі скаргавыя — тэрміны судаводства ў гродскіх судах, у якіх разбіраліся і судзіліся справы менш важныя. Тэрміны гэтыя адпавядаюць тэрмінам земскага суда, званым **positio actorum terrestrium**, *гл.* **positio actorum**. Справы разбіраліся не самім гродскім судом, але гродскім пісарам з правам апеляцыі да старасты. Тэрміны гэтыя звычайна пачыналіся за два тыдні перад гродскай кадэнцыяй ці перад тэрмінамі гродскага судаводства, якія называліся рочкамі; ~ **concitatorius** тэрмін прыпазова / дадатковага выкліку ў суд, *гл.* **concitatio**; ~ **curialis [nadworny rok** *пл.*] надворны рок, вусны пазоў да суда караля. Ён абмежаваны законам у 1519 годзе. Vol. Leg. I, f. 388; ~ **facionatus / facietenus [licowy rok** *пл.*] ліцовы рок — тэрмін яўкі ў суд абвінавачанаму ў крадзяжы. Таму, у каго знойдзена пакража, возны прызначаў яўку на працягу аднаго тыдня. Vol. Leg. I, f. 330; ~ **peremptorius [рок завитой** *стб.*] рок завіты / канчатковы, вырашальны тэрмін яўкі ў суд, менавіта трохдзённы. Пазоў / выклік у суд у кожнай справе належала падаваць за чатыры тыдні да пачатку тэрмінаў судаводства ў земскім ці ў гродскім судах. А тэрміны гэтыя былі вызначаны законамі. Калі ў першы тэрмін судаводства пазваны / выкліканы возным у суд бок па заканчэнні трох дзён не з'явіўся ў суд, ён губляў сваю справу. «А где бы которая сторона через три дни за воланьем возного, без причин правных и в сем статуте замероных, не стала, тогды вжо в той речи, на позве описанной, упадает и вечне то тратит, абовем моц роков завитых у суду земского и гродского такую хочем мети» і інш. Стат. Літ., разд. IV, арт. 42, п. 188.

**ternarius**, i *m* [**trzeciak, denar potrójny** *пл.*] трацяк — патройны дэнарый, старажытная манета, якая мела хаджэнне ў Рэчы Паспалітай. Першы раз была бітая / чаканеная пры Ягайлу, а апошні раз пры Жыгімонту III у 1630 годзе, 6 такіх манет складалі 1 грош.

**terra**, ae *f* 1) зямля; 2) грунт; ралля; 3) Зямля; 4) суша; 5) [**сторона** *стб.*] старана / край, краіна; тэрыторыя; 6) [**земля** *стб.*] зямля (уладанні): ~ **annalis** зямля, якая можа штогод апрацоўвацца; ~ **salica** вольнае ад усялякіх падаткаў і пабораў уладанне, наданае кляштару ці вайскоўцам; **terrarum [земленый** *стб.*] зямельны.

**terragium**, i *n* 1) штогадовая плата за пэўную частку займанай кімсьці зямлі; 2) зямельны падатак у выглядзе вызначанай часткі ўраджаю; 3) падатак з зямлі, аддадзенай каралём у валоданне.

**terrarius**, i *m* (terra) 1) васал; дзяржаўца / арандатар; 2) уладальнік шматлікіх палёў.

**terraticum** *гл.* **terragium**.

**terrestris**, e (terra) 1) [**земский** *стб.*] земскі / зямельны: **ius terrestre** земскае / зямельнае права; **notarius** ~ пісар у земскім судзе; 2) краёвы: **nuntii terrestres** шляхецкія паслы ў Прусіі; 3) дзяржаўны; 4) наземны: **theloneum terrestre** наземнае мыта.

**terrigena**, ae *m* (terra) зямянін (землеўладальнік).

**territorium**, ii *n* (terra) 1) абшар, прыналежны да нейкага горада; 2) ваколіца горада; 3) поле; маёмасць, уладанне; 4) рэгіён.

**terrula**, ae *f demin.* невялікае зямельнае ўладанне; невялікі маёнтак.

**Tertia quadragesimae (dominica)** 3-я нядзеля Вялікага Посту.

**tertio** 1. (tertius) 1) секвеставаць, пускаць у трэція рукі; 2) дадаваць ці адымаць трэцюю частку маёмасці.

**tertiotus**, i *m* манета.

**tertius**, a, um [**третий** *стб.*] трэці.

**Tertulinus M.** 13 ліпеня.

**tesseriso** 1. гуляць у косткі. Vol. Leg., a. 1347, I, f. 37.

**testamentum**, i *n* (testor) [**тестамент | тастамент** *стб.*], [**testament** *пл.*] тастамент / завяшчанне: ~ **condere** [**вчинити | чинити тестамент** *стб.*] чыніць / складаць тастамент; ~ **nuncupativum** вусны тастамент / завяшчанне. Яго пачалі прымаць духоўныя суды, засноўваючыся на рымскім праве, якое дапускала вусныя тастаменты. Тастаменты гэтага тыпу пачалі з'яўляцца пераважна ў канцы XVII стагоддзя; аўтар Historiae Societatis Iesu, M. S. Collegii Vilnensis сцвярджаў, што было шмат прыкладаў слоўных тастаментаў нават напачатку XVII стагоддзя, і не раз былі спрэчкі з прычыны нязгоды пісьмовых, афіцыйных тастаментаў з вуснымі. Але ў 1726 годзе было пастаноўлена законам, каб вусныя тастаменты нідзе не мелі ніякага значэння, ні ў свецкіх, ні ў духоўных судах, але **ubique pro nullis et irritis reputari** — г. зн. павінны быць нічога нявартымі, скасаванымі і незаконнымі. Vol. Leg. VI, f. 487.

**testificatio**, onis *f* (testificor) [**сведецство** *стб.*] сведчанне, паказанні сведак.

**testimonium**, ii *n* (testis) 1) [**сведом, сведомье | сведецство** *стб.*] сведчанне, паказанні сведак; паведамленне: **irreale** ~ ілжывае сведчанне пры выбары дэпутатаў на сойміках, за якое ўстаноўлена было пакаранне — трохмесячнае зняволенне ў гродскай турме; ~ **deponere** [**осветчити | посветчити | светчити** *стб.*] сведчыць, асведчваць, засведчваць.

**testis**, is *m, f* [**сведок | светок** *стб.*] сведка.

**testor** 1. (testis) [**осветчити | посветчити | светчити** *стб.*] сведчыць, асведчваць, засведчваць.

**textor**, oris *m* (texo) [**tkacz** *пл.*] ткач.

**textrix**, tricis *f* [**бралья** *стб.*] бралля / каруначніца, ткалля; **lodicum** ~ [**коверница** *стб.*] дыванщчыца.

**Thecla V. M.** 23 верасня.

**theloneum**, i *n* 1) [**мыто** *стб.*], [**cło** *пл.*] мыта, аплата за правоз. Мытныя падаткі ад тавараў, што прывозіліся наземным шляхам і вадой, устаноўленыя Ягайлам, былі скасаваны каралём Казімерам у 1447 годзе (Vol. Leg. I, f. 152). Потым у 1677 годзе былі ўстаноўлены мытныя падаткі на замежныя тавары (Vol. Leg. V, f. 461). І з гэтага часу яны пачалі з'яўляцца ў вельмі значнай колькасці ў розных сферах і пад рознымі назвамі; 2) падатак: ~ **forense** *s.* **forale** падатак ад абарачэння, плачаны на таргах, тарговае; ~ **pontuale** маставое мыта; ~ **terrestre** наземнае мыта; 3) [**komora celna** *пл.*] мытня.

**Theobaldus M.** 1 ліпеня.

**Theodolus M.** 3 траўня.

**Theodora V.** 1 красавіка, 28 красавіка.

**Theodorus Mil. M.** 9 лістапада.

**Theodorus P.** 14 красавіка.

**Theodosia V. M.** 2 красавіка.

**Theophania** Аб'яўленне Пана, 6 студзеня.

**Theophilus** 5 сакавіка.

**theoretrum**, i *n* дарунак для жонкі ў першы дзень пасля шлюбу.

**thesaurarius** (thensaurarius), a, um (thesaurus) [**скарбный** *стб.*] скарбовы; каштоўны.

**thesaurarius**, ii *m* (thesaurus) 1) скарбнік, распарадчык скарбу, наглядчык за скарбам; 2) падскарбнік, падскарбій: ~ **magnus regni [Podskarbi Wielki Koronny** *пл.*] вялікі каронны падскарбій, адзін з галоўных саноўнікаў дзяржавы, якія належалі да паноў-рады ці дзяржаўнай рады — **dignitate consulari gaudens**, захавальнік каралеўскай кароны і дзяржаўнага скарбу, наглядчык за дзяржаўнай манетай, што меў пад сваёй уладай прабірмайстраў і манетчыкаў (Vol. Leg. I, f. 297). На ім ляжаў абавязак апекі над каралеўскімі ўладаннямі, якія ён па смерці данатарыяў — атрымальнікаў прымаў у сваё распараджэнне і перадаваў іншым асобам; да яго паступалі ўсе прыбыткі з каралеўскіх уладанняў (Vol. Leg. II, f. 1604 і 1609). Ён даваў справаздачу ў сваіх дзеяннях на кожным сойме (Vol. Leg. II, f. 618). Апрача вялікага каероннага падскарбія быў яшчэ падскарбій надворны, які ў адсутнасці вялікага падскарбія кароннага атрымліваў усе прыбыткі з каралеўскіх уладанняў і распараджаўся імі паводле наказу караля (Vol. Leg. I, f. 297). З роўнымі правамі і абавязкамі вялікага кароннага падскарбія быў таксама вялікі літоўскі падскарбій.

**thesaurista**, ae *f* падскарбнік.

**thesaurus**, i *m* [**скарб** *стб.*], скарб; каштоўнасць; маёмасць.

**thezaurarius** *гл.* **thesaurarius**.

**thivon** *гл.* **tivunus**.

**Thomas de Aquino conf.** 7 сакавіка.

**Thomas Ep.** 29 снежня.

**thorus**, i *m* 1) [**ложе** *стб.*] (сужэнскае) ложа, пасцель; 2) шлюб: **in primo thoro** у першым шлюбе; **in secundo thoro** у другім шлюбе.

**thyvunus** *гл.* **tivunus**.

**tibianei, orum** *m pl.* род наёмнага войска.

**Tiburtius et Susanna** 11 жніўня.

**Tiburtius, Valerianus et Maximus MM.** 14 красавіка.

**Timotheus Discip. S. Pauli Ep. M.** 24 студзеня, 7 красавіка.

**titulus**, i *m* 1) надпіс; 2) загаловак, назва; 3) прычына, (праўная / юрыдычная) падстава, права: **titulo hereditario** са спадчынным правам; ~ **dominii** сапраўдная падстава валодання.

**Titus disc. S. Pauli.** 25 жніўня.

**tiunus** *гл.* **tivunus**.

**tiurdus**, i *m гл.* **smerdo**.

**tivunus**, i *m* [**тивун** *стб.*], [**ciwun** *пл.*] цівун.

**toga**, ae *f* (tego) 1) тога — вопратка рымскіх грамадзян, якую яны маглі насіць толькі ў час міру; 2) мір; 3) покрыва; дах.

**toppus**, i *m* звязка; сноп.

**torna**, ae *f* судовая дуэль.

**tornator**, oris *m* (torno) [**tokarz** *пл.*] токар.

**torneamentalis**, e турнірны.

**torneamentum**, i *n* 1) турнір; 2) бой.

**Torquatus, Ctesiphon Ep. Etc.** 15 траўня.

**torqueo**, torsi, tortum, ere [**мучити** *стб.*] катаваць, мучыць.

**torticia**, ae *f* 1) паходня; 2) вялікая, цяжкая васковая свечка.

**torticius**, ii *m гл.* **torticia**.

**tortitudo**, inis *f* 1) зласлівасць; 2) разбэшчанасць, распуста; 3) несправядлівасць; крыўда.

**tortorium**, ii *n* месца катаванняў.

**tortura**, ae *f* (torqueo) [**мука | мученье** *стб.*] мука, мучэнне; катаванне.

**torus**, i *m гл.* **thorus**.

**totalis**, e [**зуполный | суполный** *стб.*] увесь; поўны; цэлы.

**totidem** *num. indecl.* (= tot itidem) [**только, противень** *стб.*] гэтулькі ж.

**totus**, a, um [**весь** *стб.*] увесь.

**trabaticum**, i *n* падатак за правоз бэлек.

**trabea**, ae *f* плашч, які насілі спачатку рымскія імператары, а потым консулы. Ён адрозніваўся пурпуровым колерам, напераменку з белым. Падобнага тыпу плашчы насілі таксама ў Польшчы на пачатку XVI стагоддзя і называлі іх таксама **trabeae**.

**tracta**, ae *f* мыта за вываз тавараў за мяжу.

**tracto** 1. *frequ.* 1) цягнуць; валачы; 2) займацца чымсьці; апрацоўваць, абрабляць; 3) абыходзіцца; 4) раіць; 5) публічна выказваць сваё меркаванне; 6) сварыцца; 7) частаваць; 8) знішчаць; касаваць.

**tractus**, us *m* (traho) 1) цягненне; валачэнне; 2) выцягванне; расцягванне; 3) бег (часу), працяг: **durante tracto** на працягу, у прамежку.

**traditio**, onis *f* (trado) [**tradicya** *пл.*] 1) перадача; 2) паданне наогул; касцёльнае паданне; 3) у юрыдычнай мове — заняцце ўрадавым парадкам чыёйсьці ўласнасці за доўг ці адданне ўрадавым парадкам маёнтка ў валоданне даверніка, пакуль даўжнік не выплаціць доўгу. «Традыцыя не ідзе на традыцыю», г. зн. калі бок, які прайграў працэс, не мае іншай маёмасці, апрача той, якая раней паступіла ў валоданне іншага даверніка за доўг, то паўторна яго нельга аддаваць у карыстанне камусьці, пакуль першы давернік не вызваліць яго.

**traditionalis**, e датычны перадачы, дарэння.

**traditiosus**, a, um злачынны.

**traditor**, oris *m* (trado) 1) той, хто перадае, падавец; 2) дарыльнік; 3) настаўнік; 4) здраднік; 5) хрысціянін-адступнік; 6) забойца; 7) выканаўца наўмыснага забойства.

**trado** (transdo), didi, ditum, ere [**выдавати | выдати | подати** *стб.*] перадаваць, аддаваць, выдаваць; вяртаць: ~ **ad patibulum (torturam)** [**выдати на мученье, на смерть, на шибеницу** *стб.*] выдаваць на катаванне / мучэнне, аддаваць на шыбеніцу.

**traho**, traxi, tractum, ere 1) [**притягнути** *стб.*] прыцягваць; цягнуць; 2) [**торгнути** *стб.*] торгаць / тузаць; пхаць.

**transactio**, onis *f* (transigo) [**transakcya** *пл.*] 1) дакумент, выдадзены ў копіі: ~ **quae non est munita iuris requisitis non potest rem iudicatam debellare** дакумент, які не мае законных адзнак, не можа абвяргаць судовага выраку; 2) пісьмовая дамова паміж прыватнымі асобамі; 3) перадача свайго права іншаму; 4) канчатковая дамова паміж дагаворнымі бакамі.

**transalpino** 1. выпраўляцца ў Рым ці ў Італію.

**transaro** 1. [**переорати** *стб.*] пераворваць.

**transeo**, ii, itum, ire *intr.* 1) [**перейти** *стб.*] пераходзіць (мяжу); 2) [**оминути** *стб.*] абмінаць, мінаць.

**Transfiguratio Domini (festum)** Перамяненне Пана, 6 жніўня.

**transflumino** 1. перайсці раку.

**transfodio**, fodi, fossum, ere [**перекопати** *стб.*] перакопваць; [**роскопати** *стб.*] раскопваць.

**transfretum**, i *n* плата за перавоз, пераправу.

**transfusio**, onis *f* (transfundo) 1) пераліванне ці перасыпанне чагосьці; 2) зліццё; змешванне; 3) перадаванне, перадача; 4) [**zapis transfusyiny** *пл.*] запіс, якім адна асоба перадае свае правы на валоданне чым-небудзь іншай асобе.

**transigo**, egi, actum, ere 1) прабіваць навылёт; 2) пераганяць штосьці ці кагосьці праз штосьці; 3) праводзіць час, пражываць; 4) выконваць; завяршаць; 5) пераходзіць.

**transitura**, ae *f* мыта.

**Transitus B. V. Mariae (festum)** Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі, 15 жніўня.

**Translatio s. Dominici** перанясенне рэліквій / мошчаў св. Дамініка, 24 траўня.

**translato** 1. 1) пераносіць (цела святога); 2) адчужаць; 3) перапісаць; 4) перакладаць.

**translatum**, i *n* копія.

**transmarino** 1. 1) выпраўляцца за мора; 2) падарожнічаць у Ерузалем.

**transmigro** 1. *intr.* 1) [**пойти** *стб.*] сыходзіць; 2) [**зайти за кого** *стб.*] пераходзіць, перабягаць да кагосьці.

**transmissum**, i *n* перасылка.

**transscribo**, scripsi, scriptum, ere пераносіць пісьмовым актам.

**transscriptio**, onis *f* 1) капіяванне; 2) копія.

**transsolvo**, solvi (solui), solutum, ere 1) плаціць; 2) дастаўляць.

**transversa**, ae *f* бок; профіль.

**transversum**, i *n* 1) папярэчнасць; супярэчнасць: **ex transverso** a) папярок: **in transversum** упоперак, b) нечакана, раптам, c) з боку; 2) папярочка, папярочная бэлька; 3) брод; 4) маставая аплата.

**tredecimus**, a, um (tres) *num.* [**третийнадцать** *стб.*] трынаццаты.

**tres**, tria *num.* [**три** *стб.*] тры.

**treua** *гл.* **treuga**.

**treuca** *гл.* **treuga**.

**treuga**, ae *f* (верагодна ад фр. **treve**) перамір'е: **treugae pacis** двухмесячны тэрмін на вольнае пражыванне, які мелі права былі даваць Кракаўскі біскуп ці Сандамірскі ваявода асуджанаму, які ўцёк пад іх заступніцтва. Vol. Leg. I, f. 49.

**tribunatus**, us *m* (tribunus) [**woystwo** *пл.*] войства — уладанне, якім валодалі войскія і якое яны атрымлівалі ад каралёў. У 1550 годзе ўсе войствы былі скасаваны, за выключэннем тых, у якіх знаходзіліся каралеўскія замкі. Vol. Leg. II, f. 295.

**tribunus**, i *m* (tribus) [**woyski** *пл.*] войскі — у старажытнасці тое ж, што і войт, у пазнейшы час — ад'ютант гетмана. Абавязкам яго было: глядзець за бяспекай ваяводства ці зямлі, заступаць месца каштэляна падчас паспалітага рушэння. Войскія былі вялікія і меншыя, вялікія — земскія, а меншыя — гродскія.

**tributalis**, is *m* вольны асаднік / каланіст, які аднак плаціў падатак і выконваў пэўныя павіннасці.

**tributarius**, i *m* (tributum) 1) [**данник** *стб.*] даннік; 2) асоба, якая плаціла аброк; 3) збіральнік чыншу ці аброку; 4) вольны асаднік / каланіст, які, аднак, плаціў падатак і выконваў пэўныя павіннасці.

**tributum**, i *n* (tribuo) 1) [**дань** *стб.*] даніна; падатак; 2) [**czynsz** *пл.*] чынш, аброк, плата за зямлю.

**trica**, ae *f* перашкода; заблытанасць.

**tricaria**, ae *f* азартная гульня.
**trico** 1. 1) марудзіць; адкладаць; 2) ўбльтваць; уціскаць.
**triduanus**, i *m* (triduum) падданы, абавязаны да паншчыны тры дні на тыдзень.
**triga** *гл.* **trica**.
**triginta** *num.* [**тридцать** *стб.*] трыццаць: ~ **(grossi)** [**полкопы** *стб.*] паўкапы (грашовая адзінка).
**trigo** 1. *гл.* **trico**.
**Trinitatis (dominica)** 1-я нядзеля пасля свята Спаслання Духа Святога, нядзеля Найсвяцейшай Тройцы.
**trinus**, a, um (tres) [**трое | троя** *стб.*] патройны; утрая.
**triscamerarius**, ii *m* годнасць ці сан, роўны сану ваяводы, але ніжэйшы ад сану шамбеляна, *гл.* **camerarius**.
**Trium Regum** [**trzy królowie** *пл.*] Тры Каралі, 6 студзеня, свята Аб'яўлення Пана (Трох Каралёў).
**Trium septimanarum, Paschalis (dominica)** 2-я нядзеля па Вялікадні.
**Trocensis**, e [**Троцкий** *стб.*] Троцкі / Трокскі.
**trudo**, trusi, trusum, ere [**пхнути** *стб.*] пхаць; штурхаць.
**trufa**, ae *f* зман; подступ; подласць; жарт.
**trufatorius**, a, um зманлівы; падступны.
**truffa** *гл.* **trufa**.
**trufo** 1. ашукваць; здзекавацца.
**truncus**, a, um 1) абсечаны, абцяты; 2) скалечаны; 3) [**деланый** *стб.*] падрыхтаваны.
**trupha** *гл.* **trufa**.
**trusio**, onis *f* выгнанне.
**trustis**, is *f* 1) давер; 2) дружына; 3) ваенная служба; 4) вайсковы канвой.
**tu** *pron. pers.* [**ты** *стб.*] ты.
**tugurium**, ii *n* 1) [**клеть** *стб.*] клець; 2) [**одрина** *стб.*] адрына; вышкі; 3) [**лазня** *стб.*] вартоўня ў лесе.
**tuitio**, onis *f* (tueor) 1) заступніцтва; абарона; 2) апека над сіротамі.
**tunc** *adv.* ( [**тогды** *стб.*] тады; [**тож** *стб.*] тады, тады ўжо; але: **ex** ~ [**ино** *стб.*] бо, то, тады, то ўжо.
**tunna**, ae [**бочка** *стб.*], [**beczka** *пл.*] 1) бочка — мера для сыпкіх рэчываў. Велічыня і падзел яе вызначаны законам для ўсёй Рэчы Паспалітай толькі ў 1764 годзе, але ў ранейшы час кожнае ваяводства і кожны павет меў сваю адмысловую меру. Паводле закону, якім вызначаліся меры і вагі, агульныя для ўсёй Рэчы Паспалітай і ўзоры якіх былі разасланы па гарадах і мястэчках усіх ваяводстваў, бочка павінна была складаць 72 гарнцы, паўбочка — 36 гарнцаў. Карэц варшаўскі — 32 гарнцы і два гданьскія корчыкі, па 16 гарнцаў кожны. У бочцы — 4 чвэрці, у кожнай чвэрці — па 8 гарнцаў. Гарнец утрымлівае 2 паўгарнцы і чатыры кварты; у кварце — 4 кватэркі. Канеў павінен змяшчаць 5 гарнцаў (Vol. Leg., a. 1764, VII, f. 331). Аб'ём і па-

дзел літоўскай бочкі вызначаны законам у 1766 годзе, а менавіта: бочка павінна змяшчаць у сабе 4 чвэрці, чвэрць — дзве асьміны, асьміна — 2 шаснасткі. У шаснастцы 9 шынковых гарнцаў, якія роўныя 113,05221 літоўскіх кубічных цаляў. У літоўскай бочцы можа змяшчацца прыблізна пшаніцы — 14 пудаў і 24 ½ фунта, жыта — 9 пудаў і 24 фунты, ячменю — 11 пудоў і 6 фунтаў, аўса — 9 пудоў і 9 фунтаў. У старажытнасці літоўская бочка, паводле Статута ВКЛ, мела наступны падзел: «Якобы бочка была в чотыри корцы, а полбочки в два корцы, а четверть бочки в один корец». Стат. Літ., разд. III, арт. 30, п. 107; 2) [**бочка земли** *стб.*] бочка зямлі (зямельная мера).

**turbator**, oris *m* (turbo, are) парушальнік спакою.

**turma**, ae *f* 1) натоўп; 2) група; 3) почат / світа; суправаджэнне; 4) аддзел кавалерыі.

**turmalis**, is *m* (turma) [**pocztowy** *пл.*] початавы, шэраговы, слуга таварыша. Кавалерыя ў Рэчы Паспалітай складалася з таварышаў, іх слуг і людзей г. зв. люзных, *гл. тс.* **vicecommilito**.

**turmarchus**, i *m* візантыйскі службовец.

**turnus**, i *m* чарга: **per turnum** па чарзе, па парадку.

**turris**, is *f* [**wieża** *пл.*] вежа; турма. Пры гродскіх судах звычайна былі вежы ці турмы. Вежа мела два аддзяленні, верхняе і ніжняе. Верхняе было даволі прасторнае, светлае, чыстае, нават без кратаў. Апал, асвятленне і ежу вязень мог мець на свой уласны кошт, а калі ён быў бедны, то ўсе гэтыя патрэбы яму абавязаны быў задавольваць той, хто яго ўвязніў / зняволіў. Ніжняе памяшканне паглыблялася на 12 локцяў у зямлю і не мела ніякай столі да самага даху. У ім не было ні печы, ні акна, таму ў ім было сыра, цёмна і мноства гадаў. У тым і іншым аддзяленні маглі быць увязнены людзі кожнага стану.

**tutela**, ae *f* (tueor) [**опека** *стб.*] апека.

**tutelo** 1. абараняць, аказваць заступніцтва.

**tutor** 1. *intens.* 1) [**опекати ся** *стб.*] апекаваць, апекавацца; 2) [**боронити** *стб.*] бараніць, абараняць: ~ **se** [**закрывати ся** *стб.*] закрывацца.

**tutor**, oris *m* 1) [**оборонец** *стб.*] абаронца; 2) [**опекательник** | **опекун** *стб.*] апякун; 3) адвакат.

**tutoria**, ae *f* запіс, паводле якога адна асоба перадае ўсе правы сваёй апекі іншай асобе.

**tynfo**, onis *m* *гл.* **tynfus**.

**tynfus**, i *m m* [**tynf** *пл.*] тынф — польская манета, якая атрымала назву ад манетчыка Андрэя Тымфа. У актавай кнізе Гарадзенскага земскага суда за 1714 год на арк. 870—871 гаворыцца: «Каб не было цяжкасці ад адрознення курса манеты, полк будзе прымаць тры шостакі за тынф, лічачы тынф па 38 грошаў». Соймавай пастановай 1776 года было вырашана польскі тынф лічыць па 27 грошаў.

**tywunus** *гл.* **tivunus**.

**uberior**, ius [**лепшии** *стб.*] лепшы.
**ubicumque** *adv.* [**где-кольве** *стб.*] дзе-колечы, дзе-небудзь.
**ubique** *adv.* (locorum) [**везде** *стб.*] паўсюль, усюды.
**ubiquinarius**, a, um які знаходзіцца ў любым месцы.
**uccus**, **i** *m* крык.
**ulna**, ae *f* [**łokieć** *пл.*] 1) локаць; перадплечча; 2) локаць — асноўная адзінка лінейных мер Польшчы і Літвы-Беларусі. Локці былі ва ўжытку трох тыпаў: локаць літоўскі, локаць польскі і локаць хэлмінска-прускі. Літоўскі локаць роўны двум парыжскім футам (**pied du roi**). Варта зазначыць, што ў Літве-Беларусі і Польшчы доўга не была вызначанай велічыня локця. Яна штогод устанаўлівалася ваяводамі, як гэта відаць з пастановы 1420 года.
**ulterior**, ius *adi. compar.* [**дальший** *стб.*] далейшы; большы.
**ulterius** *adv. compar.* [**далей** *стб.*] далей.
**ultimarius**, a, um канчатковы; вырашальны.
**ultimus**, a, um [**остаточный** *стб.*] астатні, апошні.
**ultra** *adv.* [**болшей** *стб.*] больш; мацней: ~ **hoc** [**предся** *стб.*] акрамя таго, апрача таго; затым; зноў; таксама.
**ultramontanus**, a, um загорны, які жыве за гарамі, г. зн. за Альпамі.
**ultro** *adv.* 1) на тым баку; на той бок; 2) звыш таго; больш за тое; 3) [**по доброй воле** *стб.*] па добрай волі.
**ululator**, oris *m* [**pasiecznik** *пл.*] пасечнік, пчаляр, які даглядае пчол у лесе, у так званых пчольніках ці пасеках.
**una** *adv.* (unus) разам: ~ **cum** [**весполок** | **восполок** | **поспол** *стб.*] супольна, сумесна; разам.
**unanimus**, a, um (unus+animus) [**одностайный** *стб.*] аднадушны; аднастайны, аднолькавы; адзіны.
**uncia**, ae *f* (unus) унцыя — мера вагі каля 27,288 г, 1/16 частка фунта (*гл.* **libra**).
**unde** *adv.* [**отколь** *стб.*] адкуль.
**undecima**, ae *f* 1) адзінаццатая гадзіна; 2) падатак, які складае 1/12.
**undecimus**, a, um *num. ord.* (undecim) [**первыйнадцать** *стб.*] адзінаццаты.
**ungulor**, oris *m* прут — мера даўжыні.
**unus**, a, um [**один** *стб.*] адзін.
**Urbanus P.** 25 траўня.
**urbanus**, i *m* 1) жыхар горада, мешчанін; 2) жыхар замка; член залогі / гарнізона.
**urbarius**, ii *m* [**urburz, olborz, olbora** *пл.*] скарбовы прыбытак з рудняў / рудакопняў.
**urbicus**, i *m* (urbs) 1) каштэлян; 2) мешчанін.
**urbs**, urbis *f* места, горад: **Urbs aurea** залатое места / горад — Рым.

**urgeo**, ursi, —, ere 1) сціскаць; уціскаць; націскаць; 2) тлуміць; прыгнятаць; 3) змушаць; 4) настойваць; хадайнічаць: ~ **fortissime** вельмі моцна настойваць.
**uro**, ussi, ustum, ere ( [**ожечи** *стб.*] абпальваць; апякаць.
**Ursula et sociae eius MM.** 21 кастрычніка.
**ursus**, i *m* [**медведь** *стб.*] мядзведзь.
**usagium** *гл.* **usancia**.
**usantia**, ae *f* 1) ужыванне, ужытак; звычай; 2) звычаёвы абавязак; 3) падатак; 4) служба, заснаваная на звычаі; 5) права карыстання якой-небудзь рэччу.
**usaticum** *гл.* **usancia**.
**usaticus**, i *m* 1) звычаёвы прынцып; 2) звычай; 3) права ўжывання.
**usicherius**, ii *m* човен, барка, якую цягнуць коні.
**usimentum**, i *n* 1) права ўжывання; 2) карыстанне.
**usina**, ae *f* млын.
**usio**, onis *f* 1) звычай; 2) ужытак; 3) дробная сушаная рыба.
**usque** *adv.* [**аж** *стб.*] аж, ажно; датуль; пакуль: ~ **quo, usquequo** [**поки | поколь | покуль, олиж | алиж** *стб.*] датуль; пакуль.
**usuale**, is *n* 1) звычаёвы прынцып; 2) права ўжывання.
**usuaria**, ae *f* карыстанне ці права ўжывання / карыстання чым-небудзь.
**usuarium** *гл.* **usuaria**.
**usufructuo** 1. карыстацца.
**usurarium** *гл.* **usuaria**.
**usurarius**, i *m* (usura) ліхвяр.
**usurator**, oris *m* дзяржаўца / арандатар.
**usuro** 1. 1) аддаваць грошы ў ліхву; 2) прыносіць працэнт.
**usus**, us *m* (utor) 1) [**вживанье | поживанье** *стб.*] ужыванне, ужытак; спажыванне; карыстанне, выкарыстанне; 2) [**пожиток** *стб.*] пажытак / прыбытак, карысць: **ad / in ~ (beneplacitos) convertere** [**в пожитки (добровольные) привести; оборочати на пожитки** *стб.*] абяртаць на карысць; (вольна) карыстацца, ужываць, выкарыстоўваць.
**ut** *conj.* [**абы, жебы** *стб.*] каб, абы; што; хай нават, хоць і.
**utensile**, is *n* 1) прылада; 2) карысць; 3) прадукт.
**utensilia**, ium *n pl.* 1) гаспадарчы рыштунак; 2) прыстасаванні, прылады; 3) [**szczebrzuch** *пл.*] хатнія прылады; 4) запасы.
**uterque**, utraque, utrumque *pron.* [**оба | обадва** *стб.*] абодва.
**utifruor**, utitructus sum, utifrui паводле права карыстацца якой-небудзь рэччу.
**utilitas**, atis *f* (utilis) [**пожиток** *стб.*] карысць, выгада; дабро.
**utique** *adv.* [**однак | однако, однакже | однакож, предся** *стб.*] усё ж, усё роўна; але, аднак.
**utor**, usus sum, uti 1) [**вживати | поживати** *стб.*] ужываць, выкарыстоўваць, карыстацца; здабываць карысць: **scienter** ~ [**ведомо поживати** *стб.*] на-

ўмысна, свядома карыстацца; 2) [**вступати ся | вступовати ся | уступати ся** *стб.*] урывацца, авалодваць; карыстацца.
**uxor**, oris *f* [**жона** *стб.*] жонка, сужонка; жанчына.
**uxoralis**, e [**женский** *стб.*] жончын; жаночы.

## V

**vacans**, ntis 1) парожні, пусты, не заняты: **vacantes** пустыя, неапрацаваныя палі, землі; 2) нежанаты; 3) вольны, свабодны.
**vacantia**, ae *f* гадавы прыбытак вакантнага прыходу.
**vacca**, ae *f* [**корова** *стб.*] карова.
**vaccabilis**, e прызначаны на пашу для быдла.
**vaccarius**, ii *m* 1) пастух кароў; 2) эканом.
**vaccativus**, i *m* аплата за выпас быдла на зямлі сеньёра.
**vaccinianus**, i *m* 1) пастух кароў; 2) эканом *гл.* **vaccarius**.
**vacheta**, ae *f* шлюпка.
**vacuo** 1. (vacuus) рабіць несапраўдным.
**vacuus**, a, um 1) несапраўдны, незаконны; 2) неапрацаваны.
**vadiamentum** *гл.* **vadium**.
**vadiatio**, onis *f* 1) формула забавязання, якую прамаўляў даўжнік; 2) ~ **maior** найвялікшы грашовы штраф, які належыць выплачваць суддзі.
**vadimonio** 1. 1) аддаваць у заклад, закладаць; 2) абавязацца аплаціць.
**vadimonium** *гл.* **vadium**.
**vadium**, ii [**заклад** *стб.*], [**zakład (prawny)** *пл.*] 1) заклад; зарука, паручальніцтва: **vadia mortua** заклады, якія паводле ўмовы, калі не будуць выплачаны, па заканчэнні тэрміну пастулаюць ва ўласнасць таго, каму яны былі дадзены; **vadia viva** заклады, якія ўвесь час выкупляліся на працягу вызначанага часу; 2) заклад — грошы, складзеныя ў суддзі дагаворнымі бакамі; 3) грошы, якія абяцаюць суцяжныя бакі ў выпадку нязгоды з пасрэднікам; 4) заклад, што забяспечвае ўсялякую суму і які часам вызначаўся пэўным лікам альбо, калі ішло пра якую-небудзь рэч, напр. пры продажы дома, зямлі і да т. п., бакі якія ўступалі ў дамову, запісвалі сабе **alterum tantum vadii** — г. зн. падвойную суму кошту самой рэчы. Просты заклад, званы інакш старасцінскім, складаўся са 120 грыўняў, *гл.* **marca**. Vol. Leg. II, f. 1209.
**vagans**, antis *m* лёзны (чалавек), валацуга.
**vagantes** *замест* **vacantes** *гл.* **vacans**.
**vagus**, a, um 1) вандроўны; бадзяжны; 2) [**покутный** *стб.*] закутны / таемны.
**vaiewoda** *гл.* **voivoda**.
**vaiwoda** *гл.* **voivoda**.
**val(l)atum**, i *n* месца, аточанае валам.
**valens**, entis *part.* 1) моцны; 2) дзейсны, выніковы; 3) велікадушны; адважны; 4) важны; які мае вялікі аўтарытэт.
**Valens Ep. M.** 21 траўня.

**valentia**, ae *f* (valeo) 1) сіла; жывучасць; 2) здароўе; 3) магчымасць; здольнасць; 4) значэнне; вартасць; цана; 5) праўамоцнасць; 6) розум; талент; 7) дапамога.

**Valentinus M.** 14 лютага.

**Valentinus Ep. Passav.** 7 студзеня.

**valeo**, valui, valiturus, ere 1) быць здаровым; 2) дапамагаць, быць каму-небудзь дапамогай; 3) [**стати | стояти** *стб.*] каштаваць, ацэньвацца; раўняцца.

**Valerianus Licinius et Maximianus** 15 снежня, 18 красавіка.

**Valerius disc. S. Petri Ep.** 29 студзеня.

**valetudo**, inis *f* (valeo) 1) [**здоровье** *стб.*] здароўе; 2) здольнасць; улада; 3) сіла; аўтарытэт.

**validitas**, atis *f* (validus) 1) моц, сіла; 2) вартасць; 3) праўамоцнасць: ~ **documenti** законная моц дакумента.

**validus**, a, um (valeo) 1) [**дужий** *стб.*] дужы, моцны; 2) моцны (сталы эпітэт на азначэнне шляхціца-воіна).

**valimentum**, i *n* 1) дапамога; 2) асіставанне; 3) вартасць; цана.

**vallo** 1. (vallus) 1) абносіць валам; 2) ахоўваць; забяспечваць: **iurisdictio omni securitate vallata** юрысдыкцыя, ахаваная ўсялякай бяспекай.

**vallosus** *гл.* **valuus**.

**valor**, oris *m* [**важность** *стб.*] важнасць, значнасць; вартасць; кошт; каштоўнасць.

**valter**, eris *m* [**хорт** *стб.*] хорт (сабака): ~ **dictus kurcz** [**курч** *стб.*] курч (сабака), хорт.

**valuassor** *гл.* **vavassor**.

**valuus**, a, um адважны; мужны.

**valvassor**, oris *m* васал: ~ **valvassores maiores** васалы большыя, якія трымаюць лен ад магнатаў; ~ **minores** васалы меншыя, якія трымаюць лен ад большых васалаў.

**varando** 1. забяспечваць; абараняць.

**varius**, a, um (vario) [**розный** *стб.*] розны; асобны.

**varnetum** *гл.* **vinetum**.

**vas**, vasis *n* судзіна / пасудзіна: **vasa** [**суды** *стб.*] судзіны / пасудзіны, посуд, начынне.

**vasallus**, i *m* *гл.* **vassalus**.

**vassaliticum**, i *n* *гл.* **vassaticum**.

**vassallus** *гл.* **vassalus**.

**vassallus**, a, um 1) сямейны; хатні; 2) з княжацкага роду; 3) падпарадкаваны каму-небудзь у сэнсе заступніцтва ці паводле леннага права; 4) васальны.

**vassalus**, i *m* 1) васал. Першапачаткова васалы былі ні кім іншым, як начальнікамі над слугамі якога-небудзь пана. Пасля, у сярэднія вякі, васаламі называліся ўладальнікі зямельнай уласнасці, якія знаходзіліся ў залежнасці ад сюзерэна, якому належала зямля; 2) каралеўскі слуга; 3) нявольны слуга ў добрах / уладаннях феадала; 4) падданы.

**vassaticum**, i *n* 1) васальнае дачыненне; 2) абавязкі васала; 3) ленная прысяга; 4) вернасць, якую абавязаны хто-небудзь захоўваць у адносінах да свайго пана.
**vassus** *гл.* **vasallus**, a, um; **vassalus**, i *m*.
**vasto** 1. (vastus) [**пустошити** *стб.*] пустошыць, спустошаць.
**vastum**, i *n* (магчыма ад ням. **Wüste**) 1) пустая, неапрацаваная зямля, пустка; 2) папар; 3) выкарчаваны надзел; 4) спустошэнне.
**vasus**, i *m* мост.
**vathamanus**, i *m* (vathaman) атаман (у пасяленцах на рускім праве).
**vavassaria**, ae *f* меншая феадальная ўласнасць.
**vavassor**, oris *m* 1) каралеўскі васал; 2) феадальны васал, адрозны ад высакародных; 3) падданы.
**vavassoratus**, i *m* служба пры двары.
**vectico** 1. транспартаваць.
**vectile**, is *n* падатак, даваны вольнымі людзьмі.
**vectio**, onis *f* (veho) [**воженье** *стб.*] важэнне / возка, перавоз.
**vectura**, ae *f* (veho) 1) перавоз; прывоз; транспарт: **vecturae** [**повозовый** *стб.*] павозавы / рамізніцкі; 2) абавязак даваць падводу, г. зн. калёсы з канём і вознікам, так напр. у продажных запісах гаворыцца, што ўладанне прадаецца **cum censibus, decimis, dationibus, tributis, pensionibus, vecturis, vigiliis diurnis et nocturnis** і інш. — з чыншамі, дзесяцінамі, данінамі, падаткамі, платамі, падводамі, вартай дзённай і начной.
**Vedastus Ep.** 1 кастрычніка.
**veglo**, onis *m* стары.
**vehitura**, ae *f* абавязак транспартавання.
**veho**, vexi, vectum, ere [**везти** | **возити** *стб.*] везці, вазіць: **vehor** ехаць: **facere vehi** [**повезти** *стб.*] павезці.
**vel** *coni.* [**альбо** | **албо**; **тутэж** *стб.*] альбо ці; таксама.
**vellere**, is *n* валлё (у птушак).
**velox**, ocis *m* [**szybkobieg** *пл.*] 1) скараход — бягун, абавязкам якога быў праслед падазроных людзей; 2) ганец.
**velut** *coni.* [**як** *стб.*] (так) як.
**venabulum**, i *n* (venor) 1) паляўнічая дзіда, кап'ё; 2) жалезная пастка, капкан; 3) паляўнічы сабака.
**Venantius M.** 18 траўня.
**venaticus**, i *m* (venatus) аплата за права палявання.
**venatio**, onis *f* (venor) паляванне, ловы: **venationes** [**ловы** *стб.*] ловы (месцы для ловаў / палявання).
**venator**, oris *m* (venor) 1) паляўнічы, лавец: ~ **et caniductor** [**mysliwiec** і **psarz** *пл.*] паляўнічы і псар / сабакар, якія называліся таксама гайнымі; 2) [**łowczy** *пл.*] лоўчы — галоўны распарадчык каралеўскага палявання, галоўны на-

чальнік каралеўскіх лясніцтваў. Былі такія годнасці лоўчых: лоўчы вялікі каронны, лоўчы вялікі літоўскі і лоўчы надворны.
**Venceslaus M.** 5 кастрычніка.
**venda**, ae *f* 1) падатак ад продажу нерухомасці; 2) аплата за дазвол сеньёра на адчужэнне лена.
**vendagium**, ii *n* продаж.
**vendarius**, ii *m* ураднік, які збірае падаткі ад продажу.
**vendicta**, ae *f* продаж.
**vendita**, ae *f* 1) падатак ад продажу нерухомасці; 2) аплата за дазвол сеньёра на адчужэнне лена.
**venditio**, onis *f* (vendo) продаж; продажны запіс.
**venditor**, oris *m* (vendo) 1) прадавец; 2) [**истец** *стб.*] ісцец.
**venditorium**, ii *n* дом купцоў (папярэднік ратушы).
**vendo**, didi, ditum, ere [**продавати | продати** *стб.*] прадаваць: **semet ipsum** ~ [**продати ся** *стб.*] прадавацца.
**venerabilis**, e (veneror) вялебны, шаноблівы (сталы эпітэт на азначэнне вышэйшага духавенства).
**venerandus**, a, um *гл.* **venerabilis**.
**venio**, veni, ventum, ire 1) [**прийти | приходити** *стб.*] прыходзіць; пераходзіць; 2) [**приехати** *стб.*] прыязджаць; з'яўляцца.
**venor** 1. [**половити** *стб.*] лавіць, вылоўліваць; паляваць.
**vepres**, is *m* 1) цёрн, цярніна; 2) цярновы куст.
**vepretum**, i *n* (vepres) месца, парослае цярноўнікам.
**verbero** 1. (verber) [**збити | сбити** *стб.*] біць, збіваць, лупцаваць.
**verbocinium**, ii *n* гутарка.
**verbum**, i *n* 1) [**слово** *стб.*] слова: **monomachale** ~ выклік на дуэль; 2) наказ; загад; 3) бяспека; заступніцтва.
**vere** *adv.* (verus) [**справедливе, правдиве** *стб.*] сапраўды.
**vereda**, ae *f* 1) дарога, ужываная кур'ерамі; 2) абавязак транспартавання; 3) альтанка ці, дакладней, прыкрыццё з галін ад дрэў.
**veredalis**, e сапраўдны, аўтэнтычны: **charta** ~ сапраўдная, аўтэнтычная хартыя, ліст.
**veredarius**, ii *m* кур'ер.
**vergeldum**, i *n* галаўшчына — плата за галаву ў выпадку забойства.
**vergo**, (versi), —, ere [**идти | ити** *стб.*] ісці, датычыцца; паступаць.
**veridictum**, i *n* пастанова прысяжных аб правільнасці доказаў у працэсе.
**verinuptum**, i *n* 1) згода; 2) дамова.
**veritas**, atis *f* (verus) 1) праўда; 2) сапраўднасць; 3) верагоднасць; 4) шчырасць; 5) справядлівасць; 6) права, прывілей, калі гаворка ідзе пра ўладанні.
**vermiculatus**, a, um (vermiculor) барвовы.
**vermiculum**, i *n гл.* **vermiculus**.
**vermiculus**, i *m demin.* 1) барвоўка, чарвячок барвовы; 2) барва, барвовы колер.

**vernaculum**, i *n* звычай.

**vernaculus**, a, um (verna) 1) уласны: **substantia vernacula** уласная маёмасць; 2) хатні; родны; 3) датычны сям'і, сямейны; 4) мясцовы, тутэйшы, краёвы; свойскі: **lingua uernacula** родная мова; 5) уласцівы хатняй чэлядзі; 6) рымскі; 7) аладыяльны: **vernacula terra** нерухомая ўласнасць.

**vero** *adv.* (verus) [**а, але, леч** *стб.*] а, але, аднак.

**Veronica** 4 лютага.

**verpio** 4. саступаць каму-небудзь валоданне якой-небудзь рэччу.

**versatura**, ae *f* першае ўзорванне.

**verseria**, ae *f* ворыва.

**versutia**, ae *f* (versutus) выкрутлівасць; спрытнасць; хітрасць.

**verus**, a, um 1) [**правдивый | правый** *стб.*] сапраўдны; 2) [**слушный** *стб.*] слушны; належны, адпаведны; абгрунтаваны; законны; паважлівы.

**vespertinus**, a, um (vesper) [**вечерний** *стб.*] вечаровы / вячэрні.

**vestigium**, ii *n* [**след** *стб.*] след.

**vestigo** 1. (vestigium) 1) ісці следам; шукаць; 2) даследаваць; 3) выкрываць; 4) расшукваць сваіх сялян, якія перайшлі да іншага пана.

**vestio** 4. 1) [**одевати** *стб.*] адзяваць; апранаць; 2) аддаваць якую-небудзь рэч у валоданне; аддаваць што-небудзь у валоданне юрыдычным парадкам; 3) апрацоўваць поле.

**vestis**, is *f* [**шата** *стб.*] шата; адзенне; убор.

**vestitio**, onis *f* *гл.* **vestitudo**.

**vestitudo**, inis *f* інвестытура, *гл. тс.* **investitura**.

**vestitura**, ae *f* (vestio) 1) усё, што тычыцца адзення; адзенне; вопратка; 2) замест **investitura:** адданне ў валоданне, інвестытура; 3) валоданне; 4) чынш, плачаны ад арандаваных грунтоў; 5) асабістая залежнасць.

**vetus**, veteris *adi. compar.* **veterior** [**старый** *стб.*] стары; былы, даўні.

**vetustus**, a, um (vetus) 1) [**старый** *стб.*] стары; былы, даўні; 2) [**звычайный** *стб.*] звычайны; звыклы; усталяваны.

**vexatio**, onis *f* (vexo) 1) устраска; 2) пакута, мучэнне; 3) цяжкасць: **vexationes** [**panszczyzna** *пл.*] паншчына.

**vexillator**, oris *m* *гл.* **vexillifer**.

**vexillifer**, feri *m* (vexillum) [**хоружий** *стб.*], [**chorąży** *пл.*] харужы, харуганосец. Ён не толькі ахоўваў даручаную яму харугву, але браў чынны ўдзел у бітвах. Харужыя былі: земскія, дворныя і паветовыя. У выпадку вайны кожны харужы павінен быў весці ўзброеную шляхту свайго павета ці зямлі да каштэляна, а каштэлян усе асобныя харугвы вёў да ваяводы, каб такім чынам сабраць войска ў прызначаным пункце. Сабраная такім чынам шляхта знаходзілася пад галоўным правадырствам гетмана. Харугвы для харужых давалі ад скарбу, а ўсё іншае ўзбраенне: збрую, шышак, латы ён павінен быў рабіць на свой кошт. Абавязкам дворных харужых было несці і трымаць харугву падчас каранавання караля. Стат. Літ., разд. II, арт. 5—7.

**vexilliferatus**, us *m* [**хоружство** *стб.*] харужаства (пасада харужага).
**vexilliolum**, i *n* [**прапорец** *стб.*] прапорац / сцяжок.
**vexillum**, i *n demin.* [**хоровь | хоругвь** *стб.*] харугва, вайсковы сцяг.
**via**, ae *f* [**дорога** *стб.*] дарога, шлях: ~ **alta**, ~ **regia** публічная дарога.
**viale**, is *n* 1) дарожны падатак; 2) выган.
**viamen**, inis *n* вольны пераход.
**viaticus**, i *m* (via) мыта.
**vicariatio**, onis *f* 1) абмен; 2) прадстаўнік; дэлегат.
**viceadvocatus**, i *m* намеснік войта.
**vicecampiductor**, oris *m* 1) намеснік гетмана; 2) польны гетман.
**vicecancellarius**, ii *m* 1) намеснік канцлера, падканцлер: ~ **regni (Poloniae)** [**podkanclerzy** *пл.*] (каралеўскі) падканцлер, *гл.* **cancellarius supremus etc.**; ~ **aulae** *s.* **curiae** падканцлер двара; 2) намеснік кіраўніка папскай канцылярыі, дзейнасць якога спыняецца са смерцю чарговага папы.
**vicecapitaneus**, ii *m* падстараста.
**vicecolonellus**, i *m* падпалкоўнік.
**vicecomes**, itis *m* намеснік графа, віконт.
**vicecommilito**, onis *m* [**poczet** *пл.*] початавы; почат, *гл. тс.* **turmalis**.
**vicedominus**, i *m* (vicis) 1) прадстаўнік караля, намеснік; 2) маршалак двара, мажардом; 3) кіраўнік.
**vicenotarius**, ii *m* падпісак, падпісар.
**vicepalatinus**, i *m* падваявода.
**vicepraefectus**, i *m* намеснік начальніка, старэйшага: ~ **stabuli** падканюшы.
**vicesgerens**, entis *m* 1) [**наместник** *стб.*] намеснік, віцэ-герэнт; намеснік старасты ў судовых справах; 2) [**наместничок** *стб.*] намесьнічак.
**vicethesaurarius**, ii *m* падскарбій.
**vicethezaurarius** *гл.* **vicethesaurarius**.
**vicinalis**, e (vicinus) [**суседский** *стб.*] суседскі.
**vicinatus**, us *m* 1) [**суседство** *стб.*] суседства; 2) [**околица** *стб.*] ваколіца; акруга.
**vicinitas**, atis *f* (vicinus) [**суседство** *стб.*] суседства.
**vicino** 1. *гл.* **vicinor**.
**vicinor** 1. быць у суседстве; быць блізкім; быць падобным.
**vicinus**, a, um (vicus) [**сусед** *стб.*] сусед: **vicini** [**суседний** *стб.*] суседні, суседскі.
**vicis** [**раз** *стб.*] раз.
**vicissim** *adv.* (vicis) напераменн, па чарзе, пачаргова.
**Victor et Victorinus MM.** 6 сакавіка.
**Victorinus Ep. M.** 5 верасня.
**victualia**, ium *n* 1) [**живность | стацей** *стб.*] жыўнасць / прыпасы, харч; стацыя: **praestanda** ~ [**подымованье | подыймованье** *стб.*] падаванне / прадстаўленне (падвод); 2) прэбэнда.

**victualis**, e (victus) [**спижный** *стб.*] спіжны / харчовы.
**victualis**, is *m* (victus) слуга; сямейнік; хатні.
**victualitas**, atis *f* сродкі ўтрымання.
**victus**, us *m* (vivo) 1) [**живность** *стб.*] жыўнасць / прыпасы, харч; 2) утрыманне; 3) лад жыцця.
**vicus**, i *m* сяло; вёска: ~ **publicus** сяло, якое належыць да скарбу.
**videlicet** *adv* 1) відавочна; сапраўды, напэўна; 2) а менавіта; 3) [**напервей** *стб.*] найперш, па-першае, першым чынам.
**video**, vidi, visum, ere 1) [**видети** *стб.*] бачыць; 2) [**осмотрети** *стб.*] аглядаць; прасочваць; 3) *pass.* [**видети ся | увидити ся | увидити ца | увидить ся** *стб.*] бачыцца, здавацца, паказвацца, уяўляцца; 4) [**здати ся** *стб.*] здавацца; прычыняцца.
**vidimo** 1. здымаць копію з арыгінала; відымаваць — завяраць копію.
**vidimus** *indecl.* відымус — завераная копія; копія з арыгінала.
**vidua**, ae *f* [**вдова** *стб.*] удава: ~ **sterilis** [**пустая | пустовская** *стб.*] пустая / бяздзетная, бясплодная ўдава.
**vietor**, oris *m s.* **vitor**, oris *m* [**będnarz** *пл.*] бондар.
**Vigesima quinta novi mensis (dies)** 25 снежня.
**vigilia**, ae *f* (vigil) [**wilia** *пл.*] 1) вігілія — дзень напярэдні свята, пераважна перад святам Божага Нараджэння; 2) наогул пярэдадне чагосьці.
**viginti** *num.* [**двадцать** *стб.*] дваццаць.
**vigor**, oris *m* (vigeo) [**моц** *стб.*] моц; паўнамоцтва, права; улада.
**vigrus**, a, um неапрацаваны.
**villa**, ae *f* [**село** *стб.*] сяло; маёнтак.
**villania**, ae *f* вясковая арэнда.
**villanus**, i *m* [**селянин, земенин | земянин** *стб.*] селянін; вясковец; землеўладальнік.
**villare**, is *n* невялікая вёсачка.
**villenagium**, ii *n* 1) маёмасць вясковага жыхара; 2) служба, якую выконвае вясковы жыхар; 3) усё, што трымае вясковы жыхар, за што ён плаціць аброк і выконвае паншчыну.
**villicatio**, onis *f гл.* **villicatura**.
**villicatura**, ae *f* абавязак ці павіннасць вясковага жыхара.
**villicatus**, us *m* 1) ваколіца вёскі; вясковая акруга; 2) *гл.* **villicatura**.
**Vilna**, ae *f* [**Вильня** *стб.*] Вільня.
**Vilnensis**, e [**Виленьский** *стб.*] Віленскі.
**vinagium** *гл.* **vinarium**.
**vinarium**, ii *n* падатак, які палягаў на дастаўцы вызначанай меры віна за вінаграднікі.
**vinarius**, i *m* (vinum) 1) гандляр віном; 2) падчашы; 3) аматар віна, п'яніца.
**vinaticum** *гл.* **vinarium**.
**Vincentia et Margaretha** 10 красавіка.

